# ІВАН МЕЛЕЖ

## ЗБОР ТВОРАЎ У ДЗЕСЯЦІ ТАМАХ



Мінск
«Мастацкая літаратура»
1982

# ІВАН МЕЛЕЖ

ТОМ 6

## ПОДЫХ НАВАЛЬНІЦЫ

Раман з «Палескай хронікі»

РЭДАКТАР ТОМА
М. І. МУШЫНСКІ

ПАДРЫХТОЎКА ТЭКСТУ І КАМЕНТАРЫІ
Т. Р. СТРОЕВАЙ

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1982

# ЧАСТКА ПЕРШАЯ

## РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ

### 1

Было лета. Самы пачатак. Ранкі, дні, вечары.

Ранкамі, яшчэ шэрым часам, у халадку, валокся сярод вуліцы, гукаў пастух з пугаю. Млява рыпелі вароты, заспаныя гаспадыні і гаспадары выпіхвалі на вуліцу рагуль і падласых. Чым далей, больш цадзілася дымоў над стрэхамі, шырэлі, багацелі гукі; усё званчэй уядаўся ў ранішні гоман віск свіней і парасят. У свой, заведзены час выпраўляліся на вуліцу малыя свіныя наглядчыкі: бы п'яныя ад сну, ад слёз пляліся з аблавухімі да выгану...

Дні былі ў будзённым, заўсёдным клопаце. Даараўшы, дасеяўшы, пасвілі коней, палолі поле і грады, рыхтавалі косы, граблі. Пад поўдзень, калі бліскотна пякло з неба, падсохлую вуліцу, затравелыя прыгуменні і двары апаноўвала дрымотная млоснасць. Тады спакой над радамі хат і гумнаў трывожылі найбольш лямант квактух ды задзірыстае, давольнае галёканне якога-небудзь крыкуна з чырвоным грабянём. Іншы раз у цішыню ўбіваўся вясёлы голас ад выгану: падшыванцы — свіныя пастухі, забыўшы пра сваіх свіней, дурэлі ці плёскаліся ў копані, у зацвілай раскаю тухлай вадзе...

Лагоднымі вечарамі спакваля ўціхала ўсё: каровы, коні, свінні. Спакваля ўціхалі людзі — спачатку старэйшыя, жанатыя, потым і моладзь. Маладыя, праўда, доўга яшчэ бадзяліся па вуліцы, галёкалі, рагаталі на прызбах, але цішыня нарэшце брала і іх. Калі не лічыць ціхіх вар'ятаў — закаханых, што, як апоеныя, да світання туліліся дзе-нідзе пры платах ды завуголлях, пасля паўночы на ўсёй вуліцы не было чуваць ні галаска — хаты спалі. Спалі росныя агароды, халоднае балота за агародамі...

Ад самага красавіка надвор'е прыяла людзям. Было багата цяпла, і ў час паілі зямлю спорныя дажджы. І азіміна, і яравое раслі на вачах, і разам з азімінаю, з яравым раслі ў асцярожных, звыклых да ўсяго сэрцах людзей надзеі на лета: малілі бога, каб толькі і далей памог пагодаю.

Усёвышні ці не пачуў ці не паслухаўся маленняў: ужо блізка да сенакосу пачалі нядобра лезці навальніцы. Зранку неба было і чыстае, і яснае, і яснасць стаяла доўга ўдзень, але за полуднем проста ўвачавідкі пачыналі пухнуць белыя, потым сiняватыя хмары. Парыла так, што ў Куранях і ўсё навокал млела ў духаце. Пад вечар хмары зацягвалі ўжо ўсё неба. У вячэрняй цемры без упынку кідаліся чырвоныя выбліскі. Яшчэ да таго як сяло апаноўваў шумны лівень, неба над прыціхлымі хатамі і агародамі нізалі стрэлы маланак і расколвалі ўдары грому. У навальнічнай цемрадзі бляск маланак быў бела-сіні, прагавіты, грымоты падалі і каціліся так магутна і грозна, што, здавалася, на мокрым лапіку зямлі са стрэхамі і ў балотным абшары навакол усё замірала ад страху. У цёмных хатах божкалі, хрысціліся, з неспакоем і надзеяй чакалі, што будзе далей.

Першыя навальніцы былі літасцівыя. Але наступная спраўдзіла гразьбу: зіхала, ляскала — ды і кінула грымучы агонь свой на гумны. У гэтым зіханні і лясканні не адразу ўхапілі, што на гумнах гарыць. Пакуль ухапілі, пакуль аціхла, адышло страхотнае лясканне і дапалі да пажару, агонь узяў ужо тры гумны. Хоць ліў без упынку дождж, хоць, як маглі, стараліся стрымаць агонь, да світання ад трох гумнаў засталіся толькі мокрыя абгаркі... Ранкам ужо адкрылася, што навальніца кінула маланку і на крыж за сялом, на разгалку дарог. Куранёўскія жанкі, калі ўбачылі гэтую неспадзеўку, затрывожыліся: большасць іх меркавала цвёрда, што гэта не на добрае, што чорны крыж — знак божай няміласці. Мужчыны найбольш маўчалі, але было відаць — нямала каму з іх здарэнне з крыжам таксама было не да спадобы. Былі і такія — і не толькі з маладых, якія не толькі не трывожыліся, а нават пасмейваліся: глядзіце, маўляў, і бог сам крыжы паліць. Прызнае, што пара святая прайшла...

Можна сказаць, што здарэнні гэтыя не выбілі Ку-

ранёў з абыдзённасці. І тым, якія баяліся бога, і тым, што пагарэлі, не было калі доўга трывожыцца і бедаваць. Ішлі няспынна дні, няспынна вялі клопаты — не хацелі зважаць ні на што. Да таго ж і чуцця да згрызот было не лішне. Жыццё кожнаму шчодра адсыпала, калі не штомесяц, то ва ўсякім разе штогод, даволі рознай бяды...

Мудрай разважнасці людзей былі разам і іншага парадку прычыны. Блізка былі вялікія хваляванні, якія добра помніліся і якія многа значылі ў людскім разуменні быцця, у самім іх быцці.

Да гэтага лета ў куранёўскія турботы ўвайшло, што далей, то ўсё мацней, яшчэ адно вялікае хваляванне. Пачаўшыся некалькі гадоў таму з усякіх не вельмі пэўных, хоць і трывожлівых чутак і гаворак, яно вярэдзіла цяпер куранёўскія хаты адчуваннем наступу няўхільных, небывалых перамен, якія рабілі ўсё заўтрашняе нетрывалым. Якія гразіліся ўсяму звыкламу, цвёрдаму, выпрабаванаму...

Потым ужо, з гадамі, з мудрай далечы, людзі не раз прыгадвалі гэтае лета. Тады ж нікому не думалася, што дням гэтым суджана запомніцца, надоўга асесці ў людской памяці. У людзей тут не было ні часу, ні звычкі на пустое думанне, ды і запомніліся гэтыя дні не так па сабе, як тымі восенню і зімой, што ішлі за імі. З часам восень і зіма як бы кінулі і на гэтае лета свой водсвет, далі адметнасці.

Праўда: што і ў гэтае лета людзі — няхай не ўсе і найбольш цьмяна — чулі не такі далёкі подых той помнай восені і зімы. Але і тое праўда — калі глядзець збоку: лета ішло, як усе леты. Усё было, здавалася, як заўсёды. Усё было, здавалася, звычайнае, будзённае, наладжанае. Звычайныя былі раніцы і вечары, звычайныя, заўсёдныя — учарнелыя хаты і гумны, заўсёдныя — ззелянелыя, у векавечных струпах моху, стрэхі. Нічым не адметная вуліца з рудым пылам ды каровячымі бебахамі, нязменныя агароды з гурочнікам ды сокіяхамі, нязменныя загуменні з трухою леташняй саломы; звычайныя палі-загоны са звычайнай зелянінай; звычайны лес навокал, звычайныя балоты — і тыя, што за агародам, і тыя, што за лесам.

Звычайнае, здавалася, было лета. Яшчэ адно лета, адно з многіх, якія ўжо зведалі ў спрадвечным клопаце Курані. Яшчэ адно на доўгай, няспыннай дарозе, каляіны якой выразаны вякамі і, здавалася, на вякі.

2

У звычайны час прыйшла пара касавіцы. У адну раніцу, яшчэ халаднаватым поцемкам, Курані ўзварушыліся, захадзіліся адным клопатам — на балота, касіць! У кожным двары выцягвалі косы, граблі, ладавалі ў вазы; налівалі свежай вадой біклагі, зносілі да калёс — у клунках, у торбах, у кошыках — хлеб, сала, гуркі, цыбулю; у кожным двары, ля кожных калёс завіхаліся старыя і маладыя, мужчыны і жанкі, кожны двор поўны быў руху і гоману; нават коні, здавалася, разумелі — прыйшоў зноў вялікі дзень касавіцы!

Глушакі збіраліся ехаць з двара, калі сонца толькі пачало выплішчвацца з-за цёмнага лесу. Усё ўжо было гатова, можна было б выпраўляцца, і Глушак недавольна паглядваў на хату, дзе невядома чаго яшчэ корпалася Ганна, а з ёй і старая.

— Ідзі скажы — жджэм! — як загад працілеў ён Яўхіму.

Той ужо ступіў к хаце, калі Ганна ўслед за старой, што адчыніла дзверы, паявілася на парозе. Ганна туліла да грудзей спавітае дзіця, хіліла да яго чарнявую галаву, на пасме якой паблісквала сонца. Асцярожна, не падымаючы галавы, саступіла з ганка, ля калёс стала: камусьці трэба даць малое, пакуль сядзе сама.

— Падзяржы,— сказала Яўхіму, што быў поруч. Папярэдзіла: — Асцярожно — спіць!..

Уладзіўшыся на сене наперадзе, узяла калыску, якую прынесла раней, паклала на калені сабе, забрала ад Яўхіма малое; пяшчотна паклала ў калыску: так, пэўне, лепей будзе.

— Ну, можа ўжэ можно ехаць? — не стрымаў недавольнасці сваёй стары.

Яна нібы і не пачула; з пяшчотнай усмешкай, што не прападала з вачэй, з губ, неяк няцямна зірнула, упершыню заўважыла: раніца якая вясёлая! Ноччу

быў дождж, доўгі, здавалася, бясконцы, а ранак — аж зіхціць. Толькі і знаку ад начнога дажджу: вясёлыя канаўкі пад стрэхамі ды лужыны сярод вуліцы.

З той жа ціхай пяшчотай, увесь час бачачы і чуючы малую, як бы толькі ад звычкі глядзела на вуліцу, на двары, на людзей: усе збіраліся на балота. Вунь Зайчык, акружаны мітуслівай хеўрай сваіх старэйшых, запрагае небараку сівага; вось Сарока з сынам — хлопец, драбнаваты, але ў сіле ўжо, памочнік, нясе з хаты барылца; вось Андрэй Руды з жонкаю... Двор за дваром ішлі перад вачыма, Ганна ківалася ціха з калёсамі, глядзела як праз туман пяшчоты. Толькі як пад'ехалі пад край сяла, пачула неспакой, адвярнулася, нахілілася над малой. Але і не гледзячы, дзіўна чула, як набліжаецца ён, Васілёў двор, Васіль; не падымаючы вачэй, убачыла, як двор той падышоў, убачыла, што вароты адчыняюць, што адчыняе іх Валодзька; што Васіль сам ідзе па нешта к павеці; што Маня яго нешта ладуе ў возе. Нічога асаблівага не падумала, толькі і прайшло ў думках, што — вось-вось таксама выедуць; але ўсярэдзіне ўсё ж штосьці, чула, як бы замутнела. З гэтым неспакоем глядзела і на колішні свой двор, дзе бацька запрагаў каня, а мачыха карміла парасят, і на палоскі зялёнага жыта і першых парасткаў картоплі.

Каля чорнага крыжа Глушак, а з ім і старая, і ўсе, хто сядзеў у возе, перахрысціліся. Ганна перахрысціла і сябе і малую, якая ўсё хораша, салодка спала ў сваёй пасцельцы. Ганна такая радая была гэтаму сну малой, што толькі і клапацілася, каб не разбудзіў які штуршок; калі дарога станавілася няроўнай, брала калыску на рукі і трымала, пакуль калёсы зноў не пачыналі каціцца мякка...

За вольным прасцягам поля калёсы ўлезлі ў цесны, па-ранішняму хмурны і сыры хвойнік, у якім стала кідацца з усіх бакоў, апаноўваць камарэча. Ганна і тут пашкадавала затульваць малой родны, кволы тварык — увесь час над тварыкам клапатліва махала рукой. Ужо як з хвойніку з'язджалі ў мокрыя, з лужынамі, каляіны між гушчэчы алешніку, пачула, што ззаду хтосьці даганяе. Потым убачыла поблізу Васілёвага каня, самога яго. Выбраўшы зручнае месца, ён, сцебануўшы каня, затульваючы адной рукой галаву

ад галін, хутка абмінуў іх і схаваўся за паваротам дарогі. У той момант ёй раптам успомнілася, што недзе тут ён абганяў калісьці яе з бацькам; недзе тут парвалася тады ў яго супоня, няшчасны, чырвоны, ён звязваў яе нанова. «Цяпер не парвецца,— прайшла ў Ганнінай галаве думка.— Цяпер у яго не такія супоні. Гаспадар!» Чамусьці згадалася, што чула пра яго і жонку: «Кажуць, не вельмі ён давольны Маняю сваёй...» Згадалася без спачування, як бы трохі з нейкай радасцю...

Узрушаная памяць напомніла ўміг амаль, здавалася, забытае: як раскладвалі вогнішча, анямелыя ад першай згоды, ад блізкасці; не толькі ў памяці, а і ў сэрцы ажыло, як лёгка, радасна было глядзець, што ён марудзіць, не наважваецца легчы поблізу. Аж дзіва было, як добра помнілася ўсё, да самых дробных драбніц. Помнілася ўсё; але, загарэўшыся на момант, сэрца зразу ж і патухла: толькі на момант успамін засмуціў душу скрухаю. Праз момант бачыла ўсё нібы не сваё, нібы выдуманае.

«Тры гады... Чацвёрты ўжэ...» — адно адзначыла сама сабе.

За далёкай даллю бачылася Ганне вольная, гарэзная маладосць. Усё радзей і радзей прыгадвала памяць малюнкі-праявы мілай даўнасці. І не было калі асабліва перабіраць згадкі, і не было ахвоты: нашто было вярэдзіць, трывожыць душу попусту. Чаго было чапляцца за тое, што навек адышло, сплыло ў нябыт,— калі трэба было, сваёй воляй гнала прывіды добрай, вольнай litпары. Спачатку нялёгка адганяла, а потым — яны і самі не назалялі вельмі, нібы ўжо баяліся падступацца.

«Тры гады... Чацвёрты ўжэ...» Калі Глушаковы калёсы выкаціліся з цёмнай, залітай вадою дарогі на зялёнае разлеглае балота, Ганна раптам няцямна павяла вачыма: вунь тое месца, дзе яны начавалі ў тую ноч. Глянула — і адразу ж адвярнулася, не глядзела больш туды, адно сачыла за дачушкай...

## 3

Калі Васіль абганяў Глушакоў, у ім з'явілася нешта нецярплівае, дужае і як бы помслівае. Няхай бачаць, няхай усе бачаць, няхай яна глядзіць! — жыло, падганяла яго дужае і помслівае гэта пачуццё. Абагнаўшы, не згінаючыся ўжо беражліва перад галлём, роўна, уздымна седзячы, ён, здавалася, чуў на спіне позіркі ўсіх, хто сядзеў там на возе, і сярод іх асабліва — помсліва і па-юначы радасна — *яе* позірк. І ўвесь час, калі ўжо Глушакі прапалі за адным, за многімі паваротамі звілістай дарогі, чуў ён іх позіркі і асабліва — яе.

Так, увесь час падганяючы каня, порстка выехаў ён на сонечную шыр лугу, давольна адзначыў, што народу яшчэ не багата, луг яшчэ амаль пусты. «Не апазніўся!» — нібы пахваліў ён сваю гаспадарлівую ўпраўнасць. Калёсы ішлі паўз самы лес, паўз надзелы; за некалькімі абыякавымі наблізіўся, паплыў перад вачыма дзіўна неабыякавы, як бы свой, Чарнушкаў. «І етых няма!» — звыкла падумаў ён, не цешачыся і не шкадуючы; тады, як увайшла гэта думка, вочы яго нецярпліва беглі па Чарнушкавым надзеле, неспакойна шукалі штосьці. Калі спыніліся наводдаль, блізка ад падрослага куста, у Васіля ўсярэдзіне зацеплілася салодкае, добрае і нібы зайздрослівае: «Там!.. Там было!..» Адразу, нібы зусім нядаўняе, не пražытае яшчэ, ажыў, захваляваў незвычайны настрой той незабыўнай ночы, з якой пачалося тады самае лепшае ў яго жыцці.

Амаль адразу ж у радасць успаміну ўлез, зашчымеў нядобры жаль, і Васіль спахмурнеў: не так згадаў, як адчуў — між той ноччу і гэтым днём мяжа, якую ўжо не пераступіш. Як бы злавіўшы сябе на ўчынку неразумным, не вартым чалавека сталага, схамянуўся, папракнуў сябе строга: знайшоў глядзець куды, спакушаць сябе чым! Як жарабя, катораму шчэ рана ў аглоблі! Стала, ураўнаважана заявіў сам сабе: «Було — сплыло! Дак значыць: як і не було!..»

З гэтым настроем ён даехаў да свайго надзелу, спыніў каня, саскочыў з воза, цвёрдым гаспадарскім тонам загадаў усім — матцы, Мані, Валодзьку здымаць з воза прывезенае; сам выняў касу, мянташку,

торбу з салам, прасачыў, як маці ставіць на траву калыску для малога. Спадылба паглядзеў на Маню, што стаяла побач з малым на руках, чакала, калі матка падрыхтуе пасцельку. Строга, нават жорстка сказаў сабе: не вольны казак, вунь «аглоблі» — жонка. Не хапаючыся, без адзінага лішняга руху, як чалавек, які звык рабіць сваю справу, распрог каня, уладна пазваў меншага брата, шастаючы босымі нагамі ў высокай мокрай траве, з вераўчаным путам у руцэ павёў каня к узлеску, дзе пасвілі коней. Спутаў, пусціў пасвіцца.

— Штоб глядзеў добра! — вялеў сурова Валодзьку.

Малы, пастрыжаны па-авечы радкамі, у зрэбнай сарочцы і зрэбных да пояса мокрых штанах шчыра паабяцаў:

— Буду глядзець!

Васіль той жа мернай хадою вярнуўся назад, дастаў з-пад сена лапці і рудыя анучы, сеў на росную траву каля воза, абуўся. Тут жа ля воза ўткнуў касцё ў мяккую зямлю, трымаючыся моцна рукой за тупы край касы, стаў мянташыць. Памянташыўшы, надзеў мянташку на кісць рукі, выпрастаўся, як бы ацэньваючы абстаноўку, агледзеўся: на луг выязджалі і выязджалі калёсы з мужчынамі, з жанкамі, з дзецьмі. Луг на вачах усё поўніўся людзьмі, рухам, клопатам. Наводдаль Васіль вылучыў Карчоў: там варушыліся каля воза. На сук дубка прыладжвалі калыску...

«Няма чаго!» — зноў недавольна стрымаў сябе.

Хмурны, сутулаваты, з нерухомым і ўпартым позіркам вачэй пад размочаным дажджамі казырком, важка ўціскаючы лапцямі траву, рушыў ён да ражка надзелу, дзе трэба было пачынаць. Стаўшы ў ражку, ён адпусціў касу ў траву, набраў паветра ў грудзі і дужа, шырока, з нейкай злосцю павёў касою. Мокрая, бліскотная трава пакорліва, амаль нячутна легла.

Дужа і нібы злосна Васіль ішоў і ішоў на яе, упіраючыся расстаўленымі нагамі ў пакошу, пераступаючы лапаць за лапцем, вёў і вёў касою справа налева, прымушаў траву класціся ў радок, адступаць усё далей і далей. Гэта быў ужо не той зялёны хлопец, які вадзіў касою з гонарам, які раўніва сачыў за тым, дзе дзядзька Чарнушка, гадаў, як зіркае за ім, Васілём, *яна*; цяпер ішоў тут мужчына, шырокі ў плячах, з дужай загарэлай шыяю, з дужымі спакойнымі рукамі, з дужымі

ўпэўненымі нагамі; ішоў звыклы ўжо да свайго нялёгкага абавязку касца, звыклы да турботнага становішча гаспадара, галоўнага чалавека ў хаце. Не хапаючыся, не высільваючыся, ашчадна трацячы сілу, мерным, спрактыкаваным рухам вадзіў ён касою, лажыў і лажыў яе ў роўны радок злева.

«Няма чаго! Няма чаго!» — як бы гаварыў ён сабе з кожным махам касы. Але калі спыніўся, распраставшы спіну, узяўся мянташыць, зноў мімаволі павёў вачыма па лузе, знайшоў: Карчы касілі, стары, Сцяпан і гэта пачвара Яўхім. Ганна хілілася каля калыскі, што бялела пад дубком. «Няма чаго!» Ён хмурна адарваў вочы, спасцярожліва паглядзеў на сваіх, перахапіў востры матчын позірк. Сачыла зноў, як усё роўна пільнуе; як чытае ўсё роўна думкі. Маня, тоўстая, санлівая, сядзела на траве, карміла дзіця. «Не выспалася зноў!» — падумаў нядобра.

«І сядзіць, як цеста з дзяжы...» Ён адарваў вочы, стрымліваючы прыкрасць, зірнуў на ўзлесак: конь мірна скуб траву, Валодзька гаманіў пра нешта з Чарнушкавым Хведзькам. «Сторож мне! — падумаў, нібы спаганяючы на Валодзьку прыкрасць.— Такі сторож, што глядзі і за канём, і за ім!..» Ён зноў дужа і ўзлавана павёў касою.

Стала хлюпаць вада: пачалося бліскучае, куп'істае балота. Трава прыкметна горшала, вылазіла з яшчэ не глыбокай вады, купчасцілася весела на купінах. Трава — не трава, асака, і касіць цяжэй, і радасці мала. Ногі ўціскаліся ўсё глыбей, вада падступала да лытак, да калень, абцінала ногі, ляпіла штаніны да скуры. Скура нібы набракала. Васіль не зважаў на гэта: з узлаванасцю, якая дзіўна не адыходзіла і пра прычыну якой ён ужо не помніў,— вёў і вёў касу. Чым далей ён так ступаў, мерна, лапаць за лапцем, тым больш цела яго — рукі, ногі, спіна — налівалася зняможнай стомай, прыемнай, хмельнай, нібы пасля гарэлкі. Ён дужаўся з ёю, з нейкай нават задзірыстасцю. Ён быў захоплены рытмам, наступальнасцю працы. Што ні мах, няхай на даўжыню лапця ён ішоў і ішоў уперад; аддаляўся адтуль, адкуль пачынаў, набліжаўся туды, куды павінен быў прыйсці. Што ні мах, ён рушыў туды, куды павінен быў, кожны мах быў поўны простага, зразумелага сэнсу. Поўны таго абавязковага, сур'ёзнага,

гаспадарскага, чым жылі і жывуць усе мужчыны, гаспадары, і чым трэба жыць яму.

Стома ўсё навальвалася, але ён не наракаў, як і на камароў, што назольна віліся, упіваліся ў твар, у шыю. Як няма балота без камароў, так і праца, ведаў ён, заўсёды са стомаю. Калі робіш, стома — так і трэба; інакш і быць не можа. Калі робіш, у тым і задача ўся — каб не паддавацца стоме, адужваць яе і наперакор ёй ісці і ісці. Звыклы цярпець, захоплены наступальнасцю, рытмам касьбы, ён як бы неахвотна спыняўся, выпростваўся, каб памянташыць касу. Хвіліну стаяў, уткнуўшы кассё ў балота, няўпэўнена, гарачымі, дрыготкімі рукамі шаргаў па касе мянташкай, тады зноў апускаў касу і зноў шырока, мерна, як заведзены, вёў яе — справа налева, справа налева. Трохі нахіліўшыся ўперад, з чырвонай шыяю, на якую лезлі даўно не стрыжаныя рудаватыя пасмы, з якіх цёк пот, з сутулаватымі плячыма, з упартым, цяпер тупаватым позіркам розных вачэй — аднаго празрыстага, як вада, а другога — цёмнага, хмурнага, ён ішоў і ішоў, мах за махам, лапаць за лапцем, роўна, зацята, настойліва. Клаў траву ў свежы, акуратны радок, што ўсё даўжэў, адужваў цяжар у нагах, у спіне, у руках — ішоў і ішоў. Помніў, што да канца няблізка.

Нядобра, што ўсё гарачэй пякло сонца. Ад гэтага, здавалася, найбольш і лезла млоснасць, усё больш аслабляла рукі і ногі. Рукі рабіліся ўсё менш спрытныя, каса ішла няўмела; усё часцей пакідала кусцікі травы, якія трэба было падкошваць другім махам. Ад знямогі рукі квола дрыжалі, ногі падгіналіся так, што хацелася сесці проста ў ваду.

Ён адужваў кволасць, адужваў сябе; касіў, пакуль не знясіліўся да рэшты. Пакуль ужо не змог узняць касу. Тады павярнуўся, грузнучы па калена, распырскваючы гарачую ваду, ледзь цягнучы ногі, усё сваё здранцвелае цела, павалокся назад. Дашаргаў пасталамі да воза, паставіў касу і, не здымаючы з рукі мянташкі, падрэзаным дрэвам зваліўся на траву.

— Пад'еў бы можа,— пачуў, як здалёк, клапатлівае, матчынае: матка глядзела, як і тады, тры гады назад, нібы на малога. Ён не адазваўся. Паляжаць бы, паляжаць бы раней! Чуў — нібы здалёк — матка пад-

гарнула пад галаву світу,— у звонкім, чыстым цяньку адразу ж забыўся дрымотаю.

Драмаў ён нядоўга; абудзіўшыся, размораны ляжаў, заплюшчыўшы вочы, і нічога не думаў. Калі пад'еў, паплёўся да каня: хацелася пабыць на адзіноце. Ляжаў зноў у цяньку, слухаў, як шапоча малады асіннік, і стомлена, раскідана думаў. Думаў пра новую хату, ад якой прыйшлося адарвацца з-за касавіцы; чуў пры гэтым пах свежага, смалістага дрэва, чуў, як трашчаць пад нагамі белыя трэскі. Было шкадаванне: не кончыў; і нецярплівае жаданне: кончыць бы, улезці скарэй. І турботнасць: не так скора ўдасца ўлезці — багата яшчэ рабіць. Страха, столь, вокны, падлога... Прыплыло ў думкі, што непагана бульба ідзе ля цагельні, на палосцы, вытарганай у Манінага бацькі. «Картопля будзе, як надвор'е не падвядзе...» Улезла зноў згадка пра тое, як абганяў Ганну; за ёй — згадка пра далёкія агеньчык і ноч, і ён нахмурыўся. От жа прычапілася! Зноў загадаў сабе жорстка: «Няма чаго!..» Знарок стаў цешыць сябе, што от не дарэмна трапятаўся тры гады — дабіўся, можна сказаць, таго, чаго хацеў. Зямля добрая ёсць, конь надзейны, хата новая. Гаспадарка не горш, як у людзей!.. Але як ні цешыў сябе, з душы не сыходзіла жывая маркота, нездавальненне. Адчуванне якойсьці крыўднай няскладнасці, несправядлівасці жыцця.

## 4

Ускрай Глушаковага надзелу стаяў малады, ужо моцны дубок. Спыніліся каля дубка.

Неўзабаве Яўхім і Сцяпан з косамі цераз плячо чоўгалі лапцямі к ражку, ад якога меліся пачынаць касіць. Глушак адвёў коней, спутаў, вярнуўся і сказаў старой, каб наглядала.

— Ды біклагу ўкапай у зямлю. У цень,— кінуў ён. Зірнуў на Ганну, як бы хацеў і ёй даць работу, але не прамовіў нічога, з касой падаўся да сыноў.

Ганна, якая пачапіла ўжо калыску на сук, гушкала малую. Малая ляжала разгорнутая, радавалася волі — моманту не магла паляжаць ціха, стрыгла ручкамі, ножкамі, мыляла ружовымі губкамі — штосьці сказаць хацела!

— Ну, што? Ну, што?!.— смяялася, нагінала да яе галаву Ганна.— Што? Ну, скажы!.. Ну, скажы, Верачка!.. А!.. Знаю! Хораша, кажаш!.. Хорашанько!.. Цёпленько! Сонейко! Птушачкі цілікаюць! Цілік, цілік!.. Камарыкі толькі нядобрыя! Укусіць хочуць! А мы іх адгонім! Ідзіце, ідзіце адсюль! Не чапайце Верачку!..— Зноў смяялася, цешылася: — Хорашанько! Матылькі лятаюць! Жучкі гудуць! Гу-гу-гу!.. Спяваюць Верачцы! Усе спяваюць Верачцы!..

— Агу-агу! — падышла, тыцнула чорным парэпаным пальцам Глушачыха. Паказытала Верчыну грудку.— Агу-агу!..— прамовіла, як бы хвалячы: — Яўхім!.. Чысты Яўхім! Як дзве кроплі, падобна!

Малая хутка-хутка застрыгла ножкамі.

— Ну, што? — зноў схілілася да малой Ганна.— Рада?! Пабегаць захацелася!.. Ну, ну, пабегай! Пабегай!.. У, як хутка! Як хутка! А я — даганю! А я — даганю! Даганю!!. Не, не магу! Верачка хутка бегае! Хутка!.. Ніхто Верачку не дагоніць.

Хуткая Верачка схапіла ручкай нагу, пацягнула да рота.

— От, і Яўхім усе браў у рот...

— Ну, куды ты! Куды ты! — не слухала старую, смяялася Ганна.— Бе! Ножку нядобра ссаць! Нядобра!.. Ну, куды ты?!.

Забаўлялася б, дурэла б Ганна з малою цэлы дзень, каб скрыпучы голас старога Глушака не пазваў грэбці. Загарнула, стала спавіваць малую. Верачка не давалася, усё катурхала спавіўку — не хацела няволі; але што ты зробіш: не спаўеш — выкаціцца, не дай бог, з калыскі, грымнецца на зямлю. Ганна, шкадуючы малую, адно старалася спавіваць лёгка: няхай усё ж будзе дачушцы вальней!

— Не плач, не сумуй тут адна! Я скоранько вярнуся! Скоранько!..

Акуратна затуліла калыску полагам ад камароў, ухапіла граблі і хутчэй падалася да пракосаў.

Пераварочвала граблямі сена, а думкі, а душа былі ўсё каля дуба, каля дачушкі: ці не захацела есці, ці не мокранькая, ці не кусаюць камары. Пераставала грэбці, пільна услухоўвалася — ці не чуваць плачу.

Плачу не было, шыркалі адно косы наводдаль ды звінела, стрыкала балотная драбната.

Усё ж трывала неспакой нядоўга: уткнуўшы канец грабель у балота, подбегам падалася зноў да дубка.

У калысцы было ціха. Верачка спала. Адно некалькі камароў зашылася пад полаг, адзін — пачырванелы ўжо — сядзеў на шчочцы.

Сагнала, забіла камара, выгнала іншых — супакоеная пабегла да грабель.

Так было ўвесь дзень. То шастала сенам, то бегла к дубку, мяняла, сушыла пялёнку, давала малой грудзей, гушкала, супакойвала, прысынала. Стары Глушак, бачачы гэтае бясконцае беганне, зазлаваў, прасіпеў з папрокам:

— Што ты ето ўсё бегаеш туды! Ляжыць — і няхай ляжыць! Не зробіцца нічого!..

Нарабілася, набегалася за дзень так, што ўвечары, даючы грудзей малой, каб хацела, не магла б стаяць. Сядзела, прытуліўшыся да дубка. Усё ж і ў зморы тлела, жыла пяшчота, радасць. Ціха, санліва, лагодна вяла:

Люлі, люлі, Верачка,
Люлі, люлі, маленькая...

5

Вечарам на балоце то там, то тут пачалі збірацца купкі: дробныя, большыя, мужчынскія, жаночыя, мяшаныя. Ля калёс, каля вогнішчаў, пад якім-небудзь дубком.

Некалькі жанок сышлося да агеньчыка, ля якога корпалася Дзятліха. Пачалося з таго, што па дарозе аднекуль забегла Сарока, яна і прывабіла да Дзятлішынага агеньчыка цікавасць. Не прайшло і некалькі хвілін, як каля Дзятліхі, што варыла картоплю ў казане, растарэквалі з Сарокаю ўжо Нібыта-Ігнаціха, Чарнушкаў мачыха, Дзятлікавых нявестка Маня, яшчэ некалькі суседак. Захопленыя гамонкаю, яны не зважалі на малога Дзятліхі — Валодзьку, тым больш, што гаспадара — Васіля — ля агню не было: ён недзе паіў каня.

Нібыта-Ігнаціха пры спачувальным маўчанні жанок прамовіла, што можа яшчэ нічога такога і не будзе, што можа страхі тыя людскія — пустое, і ўсе, хто быў пры агні, зразумелі, аб чым яна. Дзятліха ахвотна пад-

трымала: добра было б, каб пустое было, каб адумаліся, адступіліся...

Сарока нібы чакала гэтага, рынулася адразу:

— Не адступяцца! Не адступяцца, і не думайце!— Яна ўпэўнена напрарочыла: — От толькі вернемся ў хаты! Пабачыце! Пачуеце, як дома пераначуеце!

— Пэўне, што не адступяцца так,— разважліва згадзілася Васілёва маці.

Куліна, Ганніна мачыха, раптам нецярпліва адрэзала:

— Няма дурных!

— Е ці няма, а толькі так не кончыцца. Не для таго гаворано, штоб кінуць няворано!..

Куліна аж гарэла:

— Ето ж дадумаліся! Аддай свае ўсё, усё, што нажываў век мазалём сваім! Аддай чорту лысаму, а сам — астанься як ні з чым! Як усе адно голы!

— Коніка, кароўку, воз, усё! — падтрымала Нібыта-Ігнаціха.— Землю — аддай, насенне — аддай, усё аддай! Усё, што з дня на дзень набываў, агораў жывучы!..

— Ад бацькі, ад маткі што асталося! — дадала сваю долю Васілёва жонка Маня, што карміла з грудзей малое.

— Дзе ето відано,— кіпела Ганніна мачыха,— кеб усё сяло — як адна сям'я була! Тут і ў сям'і грызешся вечно, брат брата за горло бярэ! А то кеб з чужым — мірно! Смех, дый годзе!

— І ўсё-такі — не адступяцца! Не так завязалі, штоб добра й так сказалі! Ждуць толькі час, штоб павесці ў калгас!

— Не даждуцца!

— А от жа ў Алешніках, тым часам, жывуць неяк! — адгукнуўся дзед Дзяніс, які дасюль нібы і не слухаў нічога: сушыў адно лапці, анучы.

— Жывуць?! Не дай бог жыць каму так!..

Дзед перавярнуў анучу, падблізіў зноў к агню, прамовіў спакойна:

— Жывуць, тым часам. Не паелі адзін аднаго...

— Жняярку прывезлі! — ускочыў у гаворку Валодзька, радуючыся, што ведае такую навіну. Ён здзівіўся: ніхто на яго навіну не абазваўся словам, нібы не чулі; нават дзед.

— Алешнікі — то шчэ віламі па вадзе пісано! Пажывем, пабачым: па-людску ці па-сабачым!

— Алешнікі — не Вадавічы! — дастаючы казан з агню, зазначыла Дзятліха.

— А Вадавічы — што?! Була я там, у тых Вадавічах, к залвіцы хадзіла. Бачыла! — Нібыта-Ігнаціха пакруціла галавою.

Дамеціха, што падышла пазней за іншых, запярэчыла:

— Вадавічы — то Вадавічы! Пра Вадавічы няма чаго казаць!

— Аге! Няма чаго! — Сарока апярэдзіла Ганніну мачыху, гатовую рынуцца ў бой, захапіла гаворку: — Добра ім камуну сваю рабіць було на ўсём гатовенькім! I дом гатовы, і ўсе другія асновы! I хлявы, і свірні: жывіце, коні і свінні. Усё гатовенькае! I сад шчэ етакі! На цэлую вярсту сад!..

— I ўсе адно — толку з таго! — перабіла Сароку Ганніна мачыха.— Радасць з таго каму, як яно ўсё чужое! I хлеў — не твой! I свірань — не твой, і хата — чужая! I конікі, і кароўкі — усё чужое! Не возьмеш сам! I ўсё — па камандзе! Зрабі тое, зрабі другое — хочаш не хочаш! Як пры пане!

— Што па камандзе, то шчэ не страшно! Було б што есці, давалі б што ў рот несці! На ўсём гатовенькім, панскім — то лёгко! Да шчэ й з помаччу ад казны! Мало што пан аставіў здароў, дак шчэ й казна — коней ды кароў!

— Дак і ў калгас еты, казалі, помач даваць будуць! — ціха згадала худая, адны косці, Зайчыха.

— Памогуць! Дадуць калі крыхотку, дак патом забяруць пудам! Налог дзяржаве, скажуць!..

— Кеб сваё пры сабе,— зноў перабіла Сароку Ганніна мачыха,— дак можно було б шчэ падумаць! А то — сам усе дай ды дай ім! Дай ім — а ад іх табе можа дуля!

— А няўжэ ж што другое!..

— Алешніцкім памагаюць непагано, казалі! Коней прыгналі надысь добрых! З якогось заводу!.. Грошай даюць! I налог з іх не вельмі бралі...

— Аге, памагаюць! Пакуль не запрагуць добра!

— У Глінішчах ускочылі, цяпер круцяцца, як ад

заразы! Выпісацца хочуць каторыя, дак іх і слухаць не хочуць!

— Ні коней, ні зямлі не даюць назад! — уламалася мачыха.— Ідзі голы ў свет! Васіль, брат мой, упісаўся — дак каецца не перакаецца! А вярнуцца назад няма як!..

— Ето і я чуў, тым часам, ад глінішчанскіх...— пацвердзіў дзед Дзяніс.

— А алешніцкія і тумаоўскія — дзержацца! Дзержацца — і не бядуюць.

— Хто не бядуе, а хто — і бядуе, пра сваё добрае шкадуе! А толькі, як хто ў пельку ўскочыў — дак канечне і нам? У іх свая, а ў нас свая галава!

— Ето правільно,— кіўнуў дзед Дзяніс, перакідваючы з рукі ў руку бульбіну, што пякла пальцы.

— Я думаю, як сабяруць шчэ на сход, так і рэзаць трэба: не хочам! Не пойдзем! — твар Ганнінай мачыхі быў рашучы, непахісны.— Хоць пяць, хоць дзесяць разоў сабіраць будуць! Усе адно рэзаць трэба: не хочам! Не жалаем!

— Не хочам! Так і сказаць трэба! — загаманілі жанкі.— Няма чаго тут! Не хочам і не хочам! І ўсё!..

Зайчыха і Дамеціха маўчалі, таілі сваё, асобнае. Але іх не заўважалі: іншыя жанкі былі поўныя сваёй рашучасцю, ад якой стала зноў лёгка, ясна на душы. Трывожыцца як бы не было чаго, усё проста было: не хочам! Не пойдзем, і ўсё!.. Сталі гаварыць весела, без запалу, пра розныя дамашнія дробязі.

6

Амаль у той жа час ля другога агню — непадалёк — сышлося некалькі мужчын. І групка была выпадковая, і выпадковы агонь, раскладзены маткай Алёшы Губатага. Вячэра ўжо скончылася, матка пайшла да воза ладавацца на ноч; сабіралася спаць і Алёшава сястра Арына, што дашкрабала чыгун ад прыгарэлага куляша, і сам Алёша, які нешта санліва плямкаў, бы іграючы. Тады прыйшоў Хоня. Звонкі Хонеў голас у момант абудзіў і Алёшу, і яго бацьку, што ўжо ў сне ссаў сваю векавечную люльку. За Хонем вельмі хутка прыбіліся жвавы Зайчык, пануры Міцяляснік, ціхі, сумны Чарнушка. Ужо Зайчык і Хоня па-

меркавалі, чаго гэта паклікалі ў сельсавет Міканара, калі з цемры за агнём вырас Васіль, у белай кужэльнай адзежы, расхрыстаны, з вуздэчкай у руках. У святле ад агню добра акрэслівалася моцная, мужчынская шыя, загрубелы, абветраны твар, хіб неслухмяных, шорсткіх валасоў над заклапочаным ілбом. За гэтыя гады валасы яго прыкметна пацямнелі, але, як і раней, пшанічна жаўцелі на кончыках — над самым ілбом і на скронях, яшчэ выгаралыя на летнім сонцы.

Васіль з хмурнаватым, цвёрдым позіркам, са сталай, паважнай дужасцю ў рухах, пастаяў трохі, акінуў вачыма ўсіх, хто быў каля агню, падышоў бліжэй, стомлена апусціўся на траву. Усе глянулі на яго, прымоўклі на момант, сталі адно смаліць цыгаркі.

Першы заварушыўся Зайчык:

— Робіш, ліха яго матары, а для каго — чорт лысы знае!..

Васіль нібы ўздыхнуў.

— Трава ж дабрэнная, як скажы ты!

— Калі тая вайна пачалася, такое сена добрае було...— успомніў чамусьці Алёшаў бацька, стаў зноў санліва ссаць люльку.

— Сена — годнае! — абазваўся звонка Хоня.— Дзякуй скажуць!

— Скажуць!..— нібы пашкадаваў зноў Васіль.

Зайчык жвава заёрзаў:

— Чаго вы, хлопчыкі! У цябе дабрэннае, дык і ў мяне не паганае. Мой конь тваё з'есць, дак твой — маё! Адзінакая выгада!

— Не будзе ні твайго, ні майго! — прахрыпеў Міця-ляснік.

— Аге! Напужаў! — Зайчык узрадаваўся: — Такую здыхляціну, як у мяне, дзетачкі, я — хоць з кім! Заплюшчыўшы вочы!..— Яшчэ весялей заёрзаў: — Тады ж Карча Халімончыка, братачкі, коні будуць усе адно як мае! Ето — непагано, ей-бо!

Без меры давольны, тоненькім галаском захіхікаў; смяяўся які міг, раптам ускочыў, нецярпліва, гарэзна затупаў:

— А мо б шчэ, хлопчыкі, й жонкі абагульніць?! — Ён весела зіркнуў на Хоню, на Алёшу, фыркнуў смехам: — Штоб, скажам, маю старую — Васілю, а Васілёву Маню — мне! Прымерам — на тыдзень!

— Што б ты рабіў з ёй — пасля Васіля!..— зарагатаў Хоня.

— Аге! Што! Найшоў бы што, з маладой!.. Толькі — штоб ненадоўга! На тыдзень, не болей!..

Мужчыны, не зважаючы на Алёшаву сястру, з радасцю ўхапіліся за смешкі; маўчаў толькі Чарнушка, які за ўвесь вечар слова не выціснуў. Хоня і Міця сталі падбіваць Васіля на спрэчку, але ён толькі хмурыўся: знайшлі час плясці дурную гаворку! Свет, можна сказаць, ламаецца, а яны — хаханькі!

— Не будзе з етаго нічого! — сказаў панура, цвёрда, калі мужчыны сціхлі.

Зайчык пырснуў дурасліва:

— Унь, бач, хлопчыкі, не хоча мяняцца!

Васіль, поўны свайго клопату, зноў перамаўчаў яму.

— Як хто, а я па-свойму! — Голас яго аж дрыжаў — так, чулася, хвалявала тое, што выказваў: — Я — сам па сабе! — Як канчатковае, непахіснае, адрэзаў: — Не пайду! Скажу: не! І ўсё!

У вачах, празрыстым, светлым, і карым, што глядзелі спадылба, з-пад хмурных броў, гарэла адна безбаязная ўпартасць. Быў так усхваляваны, што не адразу заўважыў, як падышоў к агню Нібыта-Ігнат, можна сказаць, прыяцель яго.

— Скажаш! А мо — падумаеш шчэ?! — як бы пакпіў Хоня.— Не трэба зразу так заракацца!

— Аге! Скажу: не! — падхапіў з насмешачкай і Зайчык.— Скажаш! Скажаш, ды толькі, хлопчыкі, паслухаем — што! Як возьмуцца добра! Як стануць прасіць вельмі!

— Запяеш шчэ! — буркліва напрарочыў Васілю Міця.

— Не запяю! — Васіль заўважыў прыязны, падахвотлівы позірк Нібыта-Ігната, дадаў: — Сказаў і скажу!

— Усе скажуць, нібыто! — падтрымаў Ігнат.

Хоня міг маўчаў — не хацелася зноў заядацца з Хадосьчыным бацькам,— але не ўтрываў:

— Вы, дзядзько, за ўсіх не кажыце! У кажнаго свой язык е! Не аджавалі!

Ігнат зіркнуў на яго злосна:

— І ты за другіх — не вельмі, нібыто!

— Я за сябе кажу!
— І я, нібыто!
Усе ведалі, што Хоня заляцаецца да Ігнатавай Хадоські, жаніх, можна сказаць; але нікому і ў галаву не прыйшло падсмяяцца цяпер са спрэчкі абодвух.
Зайчык зноў насеў на Васіля:
— От адбяруць голас ды прыпаяюць, як Халімончыку, цвёрдае заданне!
— Не прыпаяюць! Няма такога закону!
— Знайдуць! — прароча запэўніў Міця.
Васіль не думаў сыходзіць з пазіцыі: гатоў быў на ўсё.
— А і прыпаяюць — усе адно!
— Што — усе адно?
— Усе адно! Як такое — што жыць, што не — усе адно!
— Жыць будзеш! — звонка заявіў Хоня.— Нідзе не дзенешся! І ў калякцію пойдзеш!
— Не пайду!
— Пойдзеш! Усе пойдуць! І ты са ўсімі!
— Пойдзеш! Пойдзеш, дзетачкі! — падтрымалі Хоню Міця і Зайчык.
— Не пайду! — Васіль запыніўся: як даказаць яшчэ сваю рашучасць, непахіснасць сваю.— Калі на тое — не прывязаны тут!
— У свет пойдзеш? Кінеш усё?..
Васіль перамаўчаў. Што тут сказаць: і так ясна.
— І чаго ето страшыць так калякція еты! — падумаў уголас Хоня.— Жывуць жа людзі ў калгасах! Унь алешнікаўцы ці тумаўскія! Багато хто — дак лепей як дасюль!
— Бандарчук з Алешнікаў — дак смяяўся: нічого, весялей шчэ, кажа, у ку́пе! — памог Хоню Алёша.
— Весялей і лягчэй: жнейку з Мазыра унь прыгналі! Насенне адборнае, сартавое выдзелілі. Нарады з воласці прыйшлі ўжэ...
— Ну, от і ідзі ў еты свой рай! А мы, нібыто, так пажывем! Нам і так непагано!
Хоня стрымаў сябе. Міця, не здзіўляючыся, не судзячы, адзначыў проста:
— Хоня гатоў ужэ хоць цяпер...
— Пайду.

Хоня зацягнуўся, прымоўк раздумліва; не тоячыся, пашкадаваў:

— Я-то гатоў, а старая ўсё божкае... Баіцца...

— Дзіва што! — заступілася за Хоневу матку Арына.

Зайчык узрадаваўся, хіхікнуў:

— А мая, родненькія, не! Сама рвецца ў калякцію! І дабра не шкода ёй, што нажылі!..

— Якое там у цябе дабро!

— Аге! Якое! А дзеці! Усіх хоць зараз гатова абагульніць!

— От ето — сазнацельная! — пахваліў Алёша.

Мужыкі пасмяяліся трохі і зноў замоўклі. Маўчалі доўга, адно смакталі цыгаркі. Дзіўны быў настрой: і гаварыць не хацелася, і не хацелася разыходзіцца. Як бы не ўсё было сказана, а гаварыць ніхто не мог.

Васіль і Нібыта-Ігнат, як і ў другія разы, падаліся ад агню ўдваіх. Калі дайшлі да Васілёвага надзелу, сталі, Ігнат сказаў, бы мудрасць:

— Як там яно ні будзе, а трэба рабіць, нібыто. Запасацца на зіму трэба...

— Карова не захоча знаць нічога,— з гаспадарскай сталасцю згадзіўся Васіль.

## РАЗДЗЕЛ ДРУГІ

### 1

Многае з таго, як бачыцца тая ці іншая падзея, мяняецца з гадамі, з тым разуменнем, якое прыходзіць з часам. Ці дзіва, што падзеі, якія хвалявалі Курані, намі бачацца багата ў чым інакш; што падзеі гэтыя маглі падавацца і куранёўцам зусім інакш, як нам.

Час потым прасеяў усё, паставіў усё на сваё месца. За грандыёзнымі падзеямі, якія гісторыя ўвекавечыла для нашчадкаў, прыціхла, а часам і прапала з увагі тое, што было немаштабным, абыдзённым, што хвалявала аднаго чалавека. Як бы само сабой забылася, што людзям у той час — як і ва ўсе часы — даводзілася штодня жыць абыдзённасцю; што тое дробнае, можа нікчэмнае, на нашу думку, было для іх у аснове сваёй і важным, і вялікім,— бо без яго не было як жыць. Свет у куранёўцаў — гэта праўда — найбольш быў не-

шырокі, невялікі: гумно, хата, вуліца, але ў гэтым невялікім свеце было сваё вялікае: урэшце, чалавек мерыць усё мерай свайго розуму і свайго сэрца. Можна сказаць, у малых Куранях было сваё вялікае. Важнымі і вялікімі былі клопаты, важнымі і вялікімі былі няўдачы, загадкі, вузлы, якія завязвала дзень за днём жыццё. Яны былі такімі вялікімі, што за імі часта не быў добра чуцен гул вялікіх перамен у краіне, прыціхала чуццё перамен нават у саміх Куранях. Тым больш, што багата хто і не хацеў чуць іх, не хацеў глядзець далей за свой плот, сваю мяжу...

Для іх усё, што вяла ім доля, малое і вялікае, было жывым жыццём, карэнні якога перапляталіся густа, моцна і блытана. Ім не было відаць тое, што мы бачым за сабой, для іх усё было наперадзе. Ім трэба было ісці няходжаным полем непражытага жыцця...

Ад самага світання, ледзь пачынала шарэць балота, хапаліся хутчэй нанава накруціць анучы, падсілкавацца абы-чым трохі — ды за косы, па вадзе, па мяккай пакошы, да мокрай, з шызым важкім бляскам травы. Жанкам пакуль было вальней; але скора і ім, і падлеткам перадыху не было з граблямі, з насілкамі: хутчэй знесці на сухое, хутчэй паварушыць, каб дасыхала, хутчэй скласці ў копы, у стагі. Да самага вечара, пакуль не напаўзалі густа поцемкі, балота было ў клопаце, у руху, у вялікай, няспыннай гонцы: мужчыны і жанкі, старыя і малыя рупіліся з радамі, з копамі, са стагамі...

## 2

На другі дзень пад поўдзень стала вельмі парыць. Калі сабраліся пад дубком і возам папалуднаваць, стары Глушак прамовіў неспакойна:

— На сон хіліць нешта... Кеб дождж не прыгнало...

Да Ганны голас яго дайшоў як бы здаля. Недачула ўсяго: змора, сон наваліліся на яе адразу — у момант сцерлі ўсе гукі, усе думкі. Але калі стары разбудзіў усіх, клопат зноў падвёў Ганну да калыскі. Невясёлая, нямоцная была сёння Верачка.

Яшчэ доўга да вечара захмарыла ўсё, пацямнела навокал; завуркатаў наводдаль гром. Глушак падганяў усіх — прыбраць хутчэй падсохлае сена, скапіць.

Сярод шалёнага гону Ганна похапкам адбегла ад іншых, кінулася к дубку — грудзі занылі ад трывогі: Вера была гарачанькая. Тварык, цельца пачырванелі. Дыхала часцей, цяжэй, як бы зморaная.

Ганна сказала пра свой неспакой Яўхіму. Той вьцер пачарнелыя, сасмяглыя губы, зморана супакоіў:

— Духата. От і дыхае так... Тут сам як не задыхнешся...

Праўда, душна было вельмі. Аж млосна станавілася ад задухі, у руках, у нагах — ва ўсім чулася слабасць. З вялікім намаганнем падымала насілкі з сенам, цераз сілу цягнулася да капы.

Але дачушцы не стала лягчэй і калі па ўсім балоце, гнучы лозы і гонячы жмуткі сена, пайшоў свежы, шырокі вецер. Стала лепш, здаравей, а Верачка ўсё млела і хапалася дыхаць. Не палягчэла ёй, не астыла малая і ўвечары: лобік зрабіўся яшчэ гарачэйшы, грудка, ножкі гарэлі.

— Прастудзілася, ці што? — У голасе старога Глушака Ганне пачуўся папрок: не ўберагла!

Далі папіць малой чабаровага настою, і неўзабаве ва ўсім Глушаковым табары чуліся сапенне ды храп. Даўжэй другіх не лажыўся, хадзіў каля Ганны, што гнулася пры калысцы, Сцяпан; але змора, нарэшце, узяла і яго. Толькі Ганне не спалася. Хілілася над калыскай, услухоўвалася, як малая дыхае, асцярожна дакраналася да лобіка, усё хацела пачуць, што гарачыня ў Верачцы ападае.

Укрывала, затульвала сабой ад ветру. Вецер быў неспакойны, халодны, як крынічнай вадою абліваў шыю — прыйшлося ўсцягнуць на сябе посцілку. Амаль увесь час нядобра, трывожна шумеў дуб. Пахла навальніцаю.

Чаканне яе таміла душу. Але зіхала і грымела ўсё наводдаль, нібы навальніцы хацелася больш памучыць яшчэ, падыходзячы. Няхутка набліжаліся бліскавіцы, паволі раслі, мацнелі грамы, а ўсё ж падступаліся, гразіліся. Вось ужо сталі заходзіць збоку, як бы акружаць. Вецер таксама нібы цешыўся людскім неспакоем — то ўціхаў на хвіліну, то налятаў з новым шалам, біў вільгаццю і холадам. Старыя даўно не спалі, гнуліся побач з Ганнаю, хрысціліся на кожны бляск, кожную грымоту.

У водбліску маланак Вераччын тварык здаваўся белым-белым, без крывіначкі. Малая таксама не спала, але вочы, ледзь расплюшчаныя, глядзелі неяк безуважна, як бы поўныя сваёй турботы.

— Не бойся... Ето Ілля катаецца... Ілля-прарок...— туліла малую, ласкава і трывожна шаптала ёй Ганна.— Ён добры... Ён малых не чапае... Ён толькі здаецца такі — страшны... А напраўду ён— добры... Добры...

І ў громе чула, як цяжка, часта дыхае Верачка,— хоць словам, хоць чым-небудзь хацела памагчы малой!

Ужо блізка да раніцы прарваўся, загуў вакол дождж — спорны, але нядоўгі. Калі ж ён сціх, бліскала і грымела далёка.

Раніцай усё паравала. Усё балота было як у дыме, прасветленым сонечнай яснасцю. Блішчала зоркамі раса на траве, вада на дубах, на кустах лазы. Усё, здаецца, зіхцела, зычыла радасць.

Дзень ішоў пагодны. У сонечнай весялосці Глушакі хутка як бы забылі пра бяду: косы Сцяпана і Яўхіма ўядаліся ў мокрую траву са смакам, Глушачыха і Халімон, нібы памаладзелыя, разварушвалі і разварушвалі копы, пераварочвалі рады. Стары, сухенькі, мітуслівы, хапаўся сам і падганяў іншых — усё баяўся ўпусціць час, божкаў, каб пратрымалася надвор'е.

У Ганны ж граблі валіліся з рук. Раз-пораз кідала іх і, стомленая, важкая ад бяссоння і трывогі, прастаяла да дубка, да калыскі: усё чакала, што Верачцы палягчэе. А дачушцы было горш і горш. Дыхала часцей і цяжэй, аж задыхалася.

За ёй падышоў, пастаяў са спачуваннем каля Ганны, каля малой Сцяпан. Не сказаў нічога, толькі ўздыхнуў, патупаў да воза, падняў біклагу напіцца. Падбегла, пабедавала старая, але праз хвіліну кінулася да грабель, баючыся трапіць на Халімонаў гнеў. Падышоў быў на момант і Яўхім. Ганна чакала, што падтрымае неяк, параіць што-небудзь — ёй так патрэбны былі цяпер добрае слова, падтрымка,— але Яўхім адно прамовіў:

— Перахварэе — здаравей будзе...

Поўная адзінокасці і непадзеленай трывогі, Ганна раптам кінулася да сваіх. Калі бацька, уткнуўшы касцё ў купіну, у змакрэлай на грудзях і пад пахамі са-

рочцы, стаў побач, яна пачула сябе малою, бездапаможнаю, ледзь утрымалася, каб не заплакаць. Але не заплакала.

З дзіцячай надзеяй і давер'ем павяла мачыху і яго да Верачкі.

— Абы гарлавой не було,— сказала мачыха, прыгледзеўшыся да малой, якая аж роцік раскрыла, хапаючыся дыхаць. Яна як бы пашкадавала Ганну: — Але, здаецца, не павінно...

У гэты момант Ганна чула ў ёй сваю добрую, шчырую маці. У горы яны раптам сталі блізкімі і роднымі...

Бацька параіў Ганне:

— Як не палягчэе, трэба па знахарку...

— У Юравічы трэба,— адгукнуўся Андрэй Руды, спрактыкавана зазіраючы пад полаг. Ніхто не заўважыў, калі ён падышоў, і ніхто не ведаў, як ён мог дачуцца, што тут можа спатрэбіцца яго парада, але ніхто і не здзівіўся таму, што ён тут, што ён раіць. Ці многа было ў Куранях спраў без Андрэевых парад.— У Юравічы,— паўтарыў ён павучальна.— Доктар Янушкевіч там е такі. Та-скаць — свяціло на ўвесь свет. У Мозыры знаюць...

— Можно і к дохтару,— згадзіўся бацька.— Коні ў Яўхіма добрыя, умент занясуць і ў Юравічы...

— Занясуць-то занясуць,— пакруціла з нейкай загадкай мачыха.— А толькі — ці на дабро... Знахарка — дзело пэўнае... Усякі знае...

— Цемната наша! Выдумляем чорт знае што! — Андрэй стаў гарачыцца. Горача сказаў Ганне: — Едзь, не сумнявайся! Ад любой хваробы ўраз вылечыць! Толькі, следавацельно, штоб не позно прыехала!

Стары Глушак, які таксама падышоў, слухаў, адгукнуўся строга:

— Не апознімся, калі трэба будзе!

Было чуваць, стары ледзь хаваў злосць на Рудога: прыпёрся, настаўнік галапузы, уткнуў свой нос! І на Чарнушкавых глядзеў не вельмі каб ветліва, і Ганнай быў недавольны: сама рабіць не робіць ды яшчэ ўсякіх падказчыкаў водзіць!

І Чарнушкі і Руды, чуючы гэту Глушакову непрыхільнасць, хутка пачалі моўчкі, няёмка разыходзіцца. Адна Ганна не паддалася вяленню старога, як бы нават

і не лічыла вяленне гэтае вартым увагі: жыла толькі сваёй трывогаю, якая была вышэй за ўсё, адна меркавала і загадвала, што рабіць.

Паспрабавала накарміць малую, але тая грудзей не ўзяла. Захінуўшы полаг, поўнячыся неспакоем, рашучая, Ганна падалася не да грабель, а да Яўхіма, што зацята вымахваў перад сабой касою. Стала перад ім, колючы сухімі нядобрымі вачыма, выціснула, як бы патрабавала:

— Гарлянка можа ў яе!

Яўхім стомлена павёў плячыма, перагнуўся трохі назад — хацеў разварушыць здзервянелую спіну.

— Шчэ што выдумаеш!..

— Пабачыў бы, якая яна!

— Бачыў ужэ... Няма ў яе ніякай гарлянкі... Застудзілася, потная — от і ўся гарлянка...

— Задыхаецца ж!

— Прастудзілася, от і дыхае так...

Ён правёў рукой па касе, сцёр прыліплыя мокрыя травінкі. Яму, бачыла Ганна, хацелася кончыць гэту гаворку. Але яна як загадала:

— К дохтару ў Юравічы трэба павезці! Там е, кажуць, добры дохтар!

— Трэба — дак трэба,— раптам згадзіўся ён. Тут жа павёў позіркам у бок старога, дадаў: — Падажджэм толькі да вечара...

— Чаго ждаць!

— Падажджэм! — цвёрда сказаў ён.— Пабачым...

Яўхім апусціў касу ў траву, як бы даў знак, што гаворка скончана. Няма калі тут растарэкваць папусту...

Вечарам дачушцы не было лягчэй, і калі пасёрбалі баршчу ўпоцемку, Яўхім сказаў старому, што трэба нешта рабіць. Сцяпан адразу ўхапіўся за Яўхімавы словы — заявіў, што трэба зараз жа ў Юравічы ці ў Загалле.

— «У Юравічы ці ў Загалле!» — Стары з крэктам падняўся, кінуў нелагодна, з папрокам: — Сена унь гніе!..

— Да ранку можно вярнуцца...

— Вернешся! Пусцяць яны!.. Месяц патом дзяржаць будуць! Ды скажуць шчэ: адну малую не можам,

і матку яе трэба. Штоб даглядала! А матцы, скажуць, вазіць трэ есці, кажын дзень!..

— Не скажуць! Абыдуся я, калі на тое...

— Я магу збегаць,— сказаў Сцяпан.— Дарога недалёкая!..

Бацька нават не зірнуў на яго.

— «Абыдзешся!» — У старога ўсё расло раздражненне.— Ето цяпер гаворыш: абыдзешся, а пасядзіш, выгуляешся...

— Дзе ето я выгульвацца буду?! Што вы гаворыце!

— Знаю, што кажу! «Дзе, дзе буду?» Ведамо дзе — там, куды везці просіш! Куды ехаць саветуюць, саветчыкі ўсякія...

— Божа мой, ці вы не бачыце нічога! — Ганну брала роспач. Вішнёвыя вочы сталі вільготныя. Са страхам, з горам выпаліла: — Ці вам — усё адно, што... што будзе!

— Ето табе — усё адно! — ускіпеў Глушак.— От прыдбаў нявестку на сваю галаву. Ето ты не бачыш нічога!

— Задыхаецца ж саўсім! — трацячы рэшткі надзеі, што стары злітуецца, крыкнула Ганна.

— Не задыхнецца! — крыкнуў і стары.

— Вы ўсё як знаеце — загадзя,— запярэчыў Сцяпан.

«От жа дзіцятка: няма таго, каб шанаваць, падтрымліваць бацьку,— таксама на бацьку кінуцца рад!»

— Знаю! — злосна зіркнуў на Сцяпана стары. Ён тут жа стрымаў сябе, з годнасцю і мудрасцю чалавека, які ведае, як усё павінна ісці, прасіпеў разважна: — Бог захоча — дак будзе жыць... А як не ўпадабаецца богу — то ніякі дохтар не паможа...

Халімон стаў мармытаць малітву, хрысціцца. Ганна, слухаючы гэтае мармытанне, падумала са злосцю: малітва адна, пэўна — каб пагода добрая была заўтра!..

Яна знарок не глядзела на Яўхіма, які, абапіраючыся аб калёсы, пабліскваў цыгаркаю,— паліла крыўда на яго. Хоць бы словам адгукнуўся, падтрымаў! Цяжка было загаварыць з ім, але ўсё ж не вытрывала:

— А ты, ты — што ж маўчыш? Ці табе ето... абышто?

Ён не спяшаўся адказваць. Агеньчык цыгаркі зазырчаў і раз і другі, перш чым ён загаварыў, спакойна, роўна, як з меншаю:

— А я не люблю плясці попусту.

— Дачка... памірае, а табе ўсё — попусту!..

Цыгарка зноў зазырчала, перш чым ён прамовіў:

— Не памірае і не памрэ. І няма чаго тут — трэсціся ды кідацца на ўсіх!..

— На вас кінешся! Вельмі вы заварушыцеся! Вам — абы сена не папрэло!..— Ганна загаварыла парывіста, рашуча.— Адна пайду! На руках панясу! І — не трэба мне нічого вашаго! Ніякіх вашых клункаў не трэба!

— Пляцеш немаведамо што! — Яўхім, недавольны, кінуў цыгарку, плюнуў.— Ужэ чорт знае чаго ўбіла ў голаву сабе! Загадзя ўжэ малое ў магілу кладзе!

— А вам і страху мало! Вам аб адном страх!..— душачыся слязамі, напала яна зноў на Яўхіма. Не скончыла. Глушак-стары перапыніў малітву, загадаў люта:

— Ціхо ты! Не бачыш — малюся!..— Ён памаўчаў, прасіпеў разгублена: — Збіла саўсім, паганка! — Закрычаў: — Волі багато ўзяла!

— Аге, «багато»! У вас возьмеш яе!..

— Як гаворыш са мной! — Глушак быў ужо, здавалася, гатоў кінуцца на яе з кулакамі. Яна сказала зацята:

— Так, як і вы са мною.

Ён можа б і кінуўся, калі б за Ганну не ўступіўся Сцяпан. Гнеў старога Глушака пайшоў і ў другім кірунку: зноў гэты смаркач утыкае нос свой куды не трэба! У той жа момант Халімон учуяў нядобрае Яўхімава маўчанне: чорт яго ведае, што выкіне гэты, толькі крані яго жонку! А тут Халімоніха ўперлася ў грудзі старога, пачала вярзці штосьці супакойлівае, прымірэнчае. Глушак адно злосна ўпікнуў Яўхіма:

— Прывёў дабро ў хату! Прыдбаў роднаму бацьку!..

Усе перамаўчалі яму.

3

Не далі Ганне пайсці і малой. Яўхім сілком адарваў ад калыскі, стаў на дарозе. Бачыла: не пусціць

да дзіцяці, не дасць Верачкі. Зразу ж за ім Халімоніха насела на Ганну з угаворамі, з папрокамі: выдумала перціся сярод ночы ў такую далеч, цераз лясы, цераз балоты! То ж каб да Захарыхі-знахаркі дайсці, колькі папяцца трэба, а пра Загалле ці Юравічы і казаць няма чаго: ночы цэлай мала! І дужаму дзіцяці дарога такая — пакута, а як жа можна рызыкаваць хворанькай, якой і ў калысцы нядобра!..

Ганна ведала: старая гаворыць праўду. І ўсё ж не ўседзела б Ганна — страшна ісці ў дарогу, але яшчэ страшней сядзець вось так, склаўшы рукі, глядзець, як марнее, гіне на вачах малая. Там, у цёмнай, далёкай дарозе, хоць рызыка, затое ж недзе за ёй і надзея, палёгка Верачцы, ратунак. Не паглядзела б Ганна ні на што, панесла б беражліва дачушку да гэтай надзеі, каб Яўхім не заявіў, што, калі да ранку Верачцы не стане лепш, возьме коней і завязе сам хоць к Захарысе, хоць у Юравічы...

Усю ноч Ганна не счыняла вачэй над калыскай. Некалькі разоў давала Верачцы грудзей, але тая не брала. Ганна душыла страх, старалася не траціць спадзяванку, што вось-вось бяда пачне цішэць — перастане дачушка гарэць, кідацца, задыхацца. І баялася бяды, і не верыла ў яе, у жорсткасць, бязлітаснасць лёсу, не хацела, не магла паверыць, што можа здарыцца страшнае, ад адной думкі пра якое ўсё халадзела ўсярэдзіне. Не чуючы ніадкуль падмогі, вымушаная сядзець, чакаць, што прысудзіць лёс, увесь пал анямелай ад страху, з трывожнай і ўпартай надзеяй душы аддавала малітве: усё залежала ад бога, ад яго літасці, яго чуласці. Калі малілася, думала пра бога, цешыла сябе: ён, усемагутны, справядлівы, заступіцца, не дасць у крыўду. Не можа ж быць, каб ён не зжаліўся, каб адабраў у яе самае дарагое, адзінае, што яна мае, чым толькі жыве!..

Якіх ласкавых слоў не нагаварыла яна малой у гэту на ўсё жыццё помную ноч! І бадзёрыла, і абнадзейвала, і абяцала: яшчэ трохі пацярпі, ужо небагата асталося, хутка будзе добра — прасіла, маліла, у роспачы хілілася над дачушкай, якая ўсё хрыпела, задыхалася. Зноў і зноў давала малой грудзей, усё не траціла надзеі, што возьме, пап'е, падужэе Верачка. Але дачушка не брала, не піла. Ніколі ў жыцці не было ў Ганны та-

кога гора і такой любасці, такой прагі аддаць усю сябе другому, каб толькі яму хоць трохі палягчэла!

Як ірвалася, хапала паветра гарачым, агністым роцікам, як пакутавала бедная дачушка! Як дужалася з зацятай хваробай маленькае, такое кволае, згаладалае, аслабелае цельца! Вось-вось — нямела ад страху Ганна — не вытрывае, здасца, сціхне без сілы,— малая ўсё кідалася, усё хапала паветра, змагалася за жыццё.

Як у страшным трызненні была тая ноч. І духата звечара, і налёты халоднага ветру сярод ночы, і бляск маланак, і грымоты, і дождж, шумлівы, халодны,— усё гэта было нібы тым жа трызненнем, усё сплялася з надзеямі і адчаем той бясконцай ночы.

Верачка перажыла ноч. З хвіліны на хвіліну павінна было паказацца сонца. Балота, лес, свет цэлы чакаў, калі яно выблісне, заззяе. У чаканні гэтага харaства штосьці новае, абнадзейліваe зацяплела ў душы Ганны.

Яўхім устаў, ускінуў аброці на плячо і пацёгся па коней. Значыцца, хутка — у дарогу, дзе Верачччына збавенне. Можа гэты дзень будзе шчаслівы — дай бог, каб ён быў шчаслівы!.. Ганна ўжо намерылася сабраць што трэба ў дарогу, калі Верачка трудна захрыпела. Напружылася — як бы хацела ўзняць галоўку. Аж выгнулася ўся. Раз, другі і — сціхла.

Ганна глядзела на яе няцямна, не разумела, не верыла. Малая не дыхала. У Ганны самой сцяло дыханне, сама на нейкі час перастала дыхаць, адно глядзела, глядзела — дачушка хоць бы варухнулася! Увачавідкі з кволага тварыка стала хутка спадаць чырвань. Лобік, шчочкі, насок хутка бялелі.

— Верач!..— застраў у горле жахлівы крык.

Дзіўна паслабелымі рукамі схапіла, прытуліла яе, яшчэ цёплую, яшчэ нібы жывую, прытуліла да сябе, як бы хацела аддаць ёй сваю цеплыню, утрымаць жыццё.

— Верачко! Дзіц-цятачко!.. Донечко мая!.. Не трэба! Не трэба! — шаптала-стагнала, маліла, чуючы адно: Верачка халаднее.

Не ўбачыла, як узышло сонца, як усё зазіхацела тысячамі зорак-расінак. Не пачула, як пад'ехалі калёсы, не зразумела, чаму Яўхім сказаў:

— Ну от, можно ехаць...

## 4

На могілкі за маленькай сасновай труной і дубовым крыжам, зробленымі Чарнушкам, ішло толькі некалькі чалавек: Чарнушкі і Глушакі. Людзям не было калі хаваць — усе былі ў лузе.

Ганна сядзела на возе, над незачыненай труной, як бы абдымала яе рукой. Галава яе была схілена, сонца паблісквала ў шаўкавістых валасах, пасма якіх, непрыбраная, звешвалася на лоб. Вочы яе, сухія, гарачыя, нязводна глядзелі на малую: Верачка, блізкая і недасяжная, ляжала сярод валошак, пакладзеных Сцяпанам. Другія суткі не зводзіла Ганна вачэй з роднага тварыка, не верыла, не магла згадзіцца, што неўзабаве тварык гэты мусіць назаўсёды знікнуць.

Яна не заўважала, як калёсы ехалі да могілак,ківаліся ў няроўных каляінах. Заўважыла толькі, што Верачцы ляжаць стала нядобра — ківае яе, водзіць яе туды-сюды. У адным месцы калёсы, аб'язджаючы яму, вельмі нахіліліся, і ў Ганны аж пахаладзела ў грудзях, калі ўхапіла, падтрымала Верачку: каб трохі — упала б, пабілася б балюча дачушка!

Каля могілак калёсы сталі. Мачыха ўзяла Ганну за плячо, гаворачы ласкавыя, суцешлівыя словы, мякка адарвала ад малой, памагла ступіць на зямлю. Павяла могілкамі, сярод старых і новых крыжоў, прышчаватых верб і разгалістых сосен. У зарасніку маладых акацый, між нізкага, густога галля, зеўрала ў цяністым прыцемку свежая яма з асыпанымі берагамі, чырванелі на ўзгорках пяску сыраватыя грудкі гліны.

Ганна рабіла ўсё як у бяспамяцці, толькі вочы жылі, з нямой пяшчотай і скрухай глядзелі, не адрываліся ад малой. Яна моўчкі стаяла з мачыхай, калі здымалі труну, ставілі на зямлю, калі поп казаў штосьці, моўчкі, паслухмяна падышла развітацца з малой. Прытулілася да тварыка, хвіліну паляжала побач, але, як мачыха ўзяла за плячо, паслухмяна паднялася. Калі ж бацька ўзяў вечка і хацеў накрыць дамавінку, з Ганны бяспамяцць як бы спала раптам. Яна як бы ажыла, у момант, нібы пры бляску маланкі, убачыла пясок, гліну, цёмную зеўру ямы, убачыла, даўмела нанова, жахнулася — вырвалася з рукі мачыхі, поўная роспачы і нястрыманай сілы, з крыкам кінулася да труны:

— Не!

Яна ўпала на зямлю, абхапіла дамавіну, прынікла да малой. Шаптала, задыхалася ад гора, ад любасці:

— Не дам, не дам дочачку маю! Кветачку маю! Мальвачку маю!.. Не дам! Не дам! Вяргінечку маю, півонечку маю малую! Не дам! Не дам!!!

Яўхім хацеў падняць яе, але яна адштурхнула яго, упала на дамавіну зноў:

— Не дам! Не дам!!!

Тады падышоў да Ганны бацька, лагодна схіліўся:

— Ганно...

Яна зноў стала бязвольная — нема, незварушна глядзела, як накрылі века, што схавала, назаўсёды аддзяліла ад яе родны твар.

Калі бацька прыбіў века цвікамі, стары Глушак падцягнуў пад дамавіну з двух краёў вяроўкі. Стары і Сцяпан пачалі спускаць на вяроўках труну ў яму.

— Апускай! Апускай! — сіпеў Сцяпану, спалоханаму, няўпраўнаму, стары.— Ці заснуў!..

З краю ямы цурчэў, асыпаўся пясок. Калі дамавіна легла на дно, Сцяпан спыніўся, не ведаючы, што рабіць з вяроўкай,— стары недавольна буркнуў, каб пусціў яе, выцягнуў, акуратна, дзелавіта зматаў...

— Кінь грудку на дамавіну! — шапнула Ганне мачыха, і яна ўзяла камячок, квола, без сілы выпусціла ўніз.

Пачула, як стукнуў камячок, адступіла і раптам ціха, без сілы аб'ехала на зямлю. Каб трохі, упала б — ледзь намаглася ўтрымацца. Бацька заўважыў, што ёй пагана, стаў побач, паклаў руку на плячо, быццам супакойваў, даваў сілу. Стукалі, стукалі грудкі, спачатку — моцна, гулка, потым — мякчэй. Яўхім кінуў некалькі жмень; Сцяпан ухапіў жалязняк, што тырчаў убаку,— як бы спяшаючыся кончыць усё, стаў сыпаць зямлю на дамавіну, хутка, без перадыху.

Неўзабаве на тым месцы, дзе была Верачка, гарбацілася толькі горка свежай зямлі ды тырчаў новы крыж. Стары Глушак прымяў зямлю, падсыпаў, падраўняў, перахрысціўся. Момант пастаяў ціха, потым зірнуў так, нібы паказваў: от і ўсё, можна і вяртацца, памянуць нябожчыцу. Пакорліва, разважна прамовіў:

— Бог — даў, бог — узяў...

Ён намерыўся ісці, калі Ганна раптам узнялася,

ніжучы гарачым, шалёным позіркам, ступіла да яго.

— Ето — вы! Вы!..

Ён нельга сказаць каб збянтэжыўся, але стаў. Перахрысціўшыся, цярпліва пакруціў сухенькаю галавою: ашалела, дурная,— сама не ведае, што вярзе!

Падскочыла мачыха, хацела супакоіць. Але Ганна слова не дала сказаць ёй, поўная крыўды, болю, нянавісці, гневу, што душылі яе, выдыхнула зноў зацята, люта:

— Вы! Вы! Загубілі донечку маю! Загубілі-і!!!

Стары кальнуў яе злым, вострым позіркам. Гора горам, а трэба ведаць, што гаворыш! Такое страхоцце нізашто ўзвяла!

Быць бы большай бядзе, калі б Глушачыха, што хвіліну назад стаяла над магілкай са слязамі, не заўважыла, як ад калёс нядобра, рашуча ступіў да бацькі Сцяпан. Кінулася да сына, уткнулася ў грудзі, утрымала — ледзь утрымала! У час умяшалася ў звадку і мачыха Чарнушкаў: сілком адвяла Ганну ўбок, за акацыю. Загаманіла, затлуміла словамі.

Старога Халімона супакоіў сівенькі, разважны поп — узяў Глушака за локаць, прымірэнча, па-старэчаму ўлагодзіў: не бярыце вельмі да сэрца, мала што скажа жанчына з няшчасця!

Ён яшчэ нешта лагоднае гаварыў, ведучы старога з могілак. За папом і Халімонам Глушачыха павяла Сцяпана. Яўхім, які завяртаў назад калёсы, пазваў Ганну, але тая нават не азірнулася, нібы і чуць не хацела. Ён пастаяў, пачакаў трохі, упрошваць не стаў — пазваў мачыху.

— Ідзі,— сказаў мачысе бацька.— Мы патом...

— Як вам лепей.— Мачыха паволі, бы пасля цяжкай, сумленна зробленай працы, пайшла ад Ганны.

Яны асталіся ўдваіх. Ганна не лямантавала, нават не плакала — седзячы на коленцах, ціха гайдаючыся, як лазіна ад ветру, горбілася, журылася над такім яшчэ нязвычным гарбком зямлі. Сонца выйшла з-за галля, паліла ёй ненакрытую галаву, але Ганна не чула. Доўга моўчкі стаяў і бацька.

— Хадзем ужэ,— нарэшце зварухнуўся ён.— Усё адно... Не вернеш...

— Не пайду я,— не адразу, хрыпата адказала яна. Памаўчала, дадала цвёрда: — Не пайду к ім!..

5

Доўга ўгаворвала яе мачыха вярнуцца к Глушакам, к чалавеку свайму. Ганна не крычала, што не пойдзе, не гневалася, таропіла адно нязводныя, невідучыя вочы і маўчала, бы не чула нічога. Мачыха гаманіла, гаманіла, потым з лагоднай гамонкай прыбрала ёй раскіданыя валасы, завязала хустку, як хворую, падняла пад руку, вывела з хаты. Пад руку павяла па зачырвоненай заходным сонцам вуліцы. Крок у крок тупала побач — баялася, адумаецца, выкіне зноў штонебудзь, несамавітая!

Але Ганна не выкінула нічога. Цягнулася як сама не свая; як звар'яцелая, таропіла вочы. Ціха ўвайшла ў Глушакоў двор, моўчкі, паслухмяна ўлезла на ганак. Каля дзвярэй прыпынілася, абапёршыся аб вушак, павяла вачыма — хацела штосьці даўмець і не магла. Мачыха адчыніла дзверы, пад руку ўвяла яе ў сенцы, у хату. З лагоднай гамонкай палажыла на ложак, накрыла світаю.

Яшчэ як уваходзіла, прыкмеціла на двары старую Карчыху і Сцяпана, іх пільныя позіркі; уладзіўшы Ганну, пастаралася сцішыць згадку пра нядобрую спрэчку, прымірыць. Ад Ганны адразу пакіравала на Карчоў ганак; ступіўшы ў Глушакову палавіну, знарок ветліва, зычліва дала «добры вечар» і, калі ёй адказалі, прыязна, як бы нічога і не было нядобрага, завяла:

— Такі ж, пэўна, і добры — вечар еты! Хоць бы хмарка дзе, як раней! На дождж і не паказуе! Добрая пагода буць мае!.. На дождж, кажу, і не паказуе!

— Дай бог, кеб не було,— адгукнуўся стрымана Глушак.

— Не будзе! Пагода ўжэ будзе! Па ўсяму відно!

Мачыха сядзела, гаманіла з Глушачыхай, з Глушаком, чапляла часам маўклівага, ваўкаватага Яўхіма — усё намагалася палагодніць, прымірыць усіх з Ганнаю. Гаварыла знарок не аб спрэчцы, цешыла добрай, прыемнай гаворкай, зычлівасцю, усмешкай. Толькі нібы мімаходам упляла некалькі слоў пра Ганну:

— Не думайце бо чаго! Не бярыце да душы вельмі! Ето ж і раней гарачая була, не дай бог, а тут — гора такое!..

— Гора, канешне!..— паківала Халімоніха.

Глушак прамаўчаў. Было відаць, таіў яшчэ крыўду, і Куліна не стала рызыкаваць, спрытна пераvяла гамонку ў надзейную мірную каляіну — не ўсё адразу! Яшчэ раней заўважыла, як пад'ехаў пад акно запрэжаны Сцяпанам конь,— запыталася:

— Вы ето — нібы нанач на луг сабіраецеся?

— Сабіраемся...

— Ето добра. Штоб зранку ўзяцца. А то ж бяда бядою, а дзело не павінно стаяць!

— Два дні і так прапало,— панура прамовіў Глушак.

Мачыха адразу падхапіла:

— Ды ў такую пору!

— Канечне, якая там работа була ўчора,— разважыла Глушачыха.— Калі малое павезлі...

— Аге ж, так толькі — для прыліку...

Мачыха бачыла, што Глушаку не сядзіцца: чаго добрага, зазлуе, гаворка добрая яе ні на што пойдзе — у час паднялася.

— Ну, дак вы ўжэ сабірайцеся! І дай бог, штоб у вас усё було па-людску!

Перад тым як ісці дадому, мачыха зазірнула ў палавіну, дзе была Ганна. Паўздыхала, параіла яшчэ, каб не перажывала вельмі за тое, што ўжо не вернеш. Ганна, якая ўсё так жа ляжала на ложку, быццам сляпая, нават не зварухнулася, але мачыха выйшла на вуліцу са спакоем чалавека, які, як мог, уладзіў бяду. «Нічого, пройдзе. Вылечыцца. І не такое зарастае з часам...»

Хутка пасля таго, як яна сышла, Глушакі сталі выпраўляцца ў дарогу. Глушачыха вынесла хлеба, Глушак наліў свежай вадой біклагу, Сцяпан па бацькаваму загаду збегаў нарваў цыбулі. Калі ўсе сабраліся ля воза, стары глянуў на Яўхіма:

— А яна што — не паедзе?

Глушачыха пашкадавала:

— Не да таго ёй. Не чапай...

— Скажы ёй,— строга загадаў Яўхіму стары.— Жджэм, скажы!

— Тато, вы, праўда, не чапайце! — заступіўся за Ганну і Сцяпан.

— Маўчы! Не ўтыкай носа!

Яўхім прашаргаў лапцямі ў хату. Калі ён убачыў Ганну, маўклівую, самотную, вінаватасць лягла на душу, але халадок, што даўно жыў між іх, звыкла стрымаў шчырасць.

— Хваціць ужэ. Што ўпало, тое прапало, сколькі ні бядуй... Дак і бедаваць няма чаго вельмі... Без пары ў магілу лажыцца.

Яна не сказала нічога. Шкадаванне раптам размякчыла яго. Яўхім сеў побач, палажыў руку на яе плячо, прытуліў галаву. Яна не адгукнулася на гэты знак яго пяшчоты, не прыгарнулася. І не адхілілася, не скінула яго руку. Яго як бы і не было.

— Паедам,— пастараўся не заўважыць ён непрыхільнасці да яе, што абудзілася ў душы.— А то ты звядзешся тут, адна са сваімі думкамі... На людзях буць трэба...

Яна маўчала. Ён сказаў цвярдзей:

— Паедам.

Тады яна расчапіла губы, выціснула:

— Не паеду я.

— Бацько жджэ.

— Усё адно.

Па тым, як казала, пачуў: гаварыць больш лішне. Не паедзе. Зняў руку, падаўся на ганак. Стрымліваючыся, сказаў старому:

— Чуе сябе пагано, гаворыць...

Стары недавольна памыляў губамі і загадаў ехаць без яе. Ён узлез ужо на воз, калі Яўхім падаў думку, што трэба было б, каб хто-небудзь астаўся: каб часам не ўчыніла чаго над сабою! Думаў, здаецца, што бацька пакіне яго, але стары, раздражнёны, сказаў астацца Сцяпану.

— Да рана! — кінуў Сцяпану з воза.— Рано штоб на балоце быў!

Ён крыкнуў Яўхіму — ехаць хутчэй з двара.

## 6

Сцяпан не пайшоў у пакой, дзе была Ганна,— не наважыўся. Лежачы на палку ў бацькавай палавіне, толькі слухаў цішыню ў тым баку, дзе Ганна сядзела ці ляжала.

Сцяпану было шкада яе. Хоць і не бачыў і не чуў

яе за сцяною, адчуваў Ганну так, нібы яна была з ім. Ведаў, як ёй балюча. Яму самому балела, як ёй.

Даўно-даўно спачуваў ёй Сцяпан — яшчэ з тых дзён, калі яна — асцярожная, старанная — толькі пачала хадзіць у іх хаце. Можа нават — ад той яе першай спрэчкі з Яўхімам, калі да яе лез са сваімі п'янымі заляцаннямі Крывароты...

Сцяпан потым не раз заўважаў, як цяжка прывыкае яна да нязвычнага ёй парадку, прыжываецца ў новай сям'і. У іх ніколі не было асаблівых, шчырых гаворак, яна ніколі нікому не скардзілася, таілася нават, што ёй цяжка, але і без гэтага ўсяго Сцяпан добра бачыў, як душылі яе работа без перадыху, панурасць, і скупасць, і прагнасць іх. Бачыў Сцяпан, што дзень пры дні, як з жалезнай клеткі, ірвалася яна адсюль, з іх хаты, да сваіх, на волю... Ірвалася, але хавала свае парыванні, стрымлівала, прымушала сябе трываць...

Яго і самога таміла тут. Самому нудна было — у роднай хаце — пасля таго як бацька не пусціў больш у Юравічы, сарваў з вучобы, калі ён, Сцяпан, толькі абвык, увайшоў, можна сказаць, усмак. Начамі ў духаце бацькавай хаты сніліся юравіцкія горы, школа перад самым схілам, за вокнамі якой шырока жаўцелі і шарэлі пяскі і сінелі хвойнікі запрыпяцкай грады. Сніліся, як шчасце, што ўжо ніколі не вернецца, паходы з юравіцкімі таварышамі на вольную Прыпяць, дзе так міла плюскоча вада каля берага, дзе так прыемна бярэ за лыткі вадзяны халадок. Пасля той волі, прастору — ці ж лёгка яму ў гэтай цеснасці, нудзе, калі толькі і ведай — капацца ў зямлі, у гнаі, без радасці якой, без надзеі...

Ці ж мог ён не бачыць, што і ёй нялёгка, горка! У іх жа была, можна сказаць, адна доля-няволя — тое ж, што ён трапіў у бяду, заступіўшыся за яе, за Ганну, яшчэ нібыта радніла. Сцяпану, хоць ён не толькі не казаў ёй, але і не прызнаваўся самому ў гэтым, Ганна была самым блізкім, дарагім чалавекам. Ён быў давольны, калі яна цешылася чым-небудзь, смуткаваў, калі яна смуткавала.

Ён захапляўся спрытам Ганны, зачаравана лавіў удалыя, калючыя яе слоўцы — які ў яе дасціпны, востры язык! Як яна, загарэўшыся, умела абсякаць Яўхіма, адразу, некалькімі словамі!

Якая яна харошая! Воч бы, здаецца, не зводзіў з яе мілага твару з прыгожымі смуглявымі выпінкамі шчок, з як бы ганарлівым носам, са зграбным, акуратным падбародачкам і гарачымі, выгнутымі вуснамі. А вочы яе, вішнёвыя, увесь час неспакойныя вочы, у якіх то смутак, то бляск насмешкі, то затоены боль,— што яны адны маглі рабіць са Сцяпанам!

Дзіўны бацька, не мог даўмець, чым яна ўзяла Яўхіма! Ды яна каго хочаш прывабіць, заваражыць можа! Скажы яна адно слова Сцяпану — і ён, здаецца, пойдзе за яе ў агонь і ў ваду!

Можа не было б гэтага жадання, гэтай ласкі да Ганны, калі б было ёй добра, калі б бачыў, што душа яе поўна сваім шчасцем. Калі б не заўважыў, што і Яўхім, маўклівы, пануры, затоены ў горкай і злоснай недавольнасці, рэдка-рэдка калі гляне на яе радасным, замілаваным вокам! Чуў, не раз пераконваўся Сцяпан — не любіць яна Яўхіма, так толькі трывае. І ў Яўхіма якая любоў, калі ў той любові не столькі дабраты, колькі крыўды і спасцярожлівасці.

Не адзін раз хацелася Сцяпану дакрануцца да яе рукі, пагладзіць супакойліва, сказаць ласкавае, добрае слова! Але з гэтым лезла, вярэдзіла душу важкая вінаватасць: нядобрай, грэшнай чуў гэту неадступную ласку да братавай жонкі. Дакараў, лаяў сябе: ведаў, што грэх і здрадніцтва — ласка да Ганны, а нічога не мог зрабіць, каб з гэтай бядою ўправіцца. Не адступала, тачыла душу развага: а чаму грэх, калі яна не любіць Яўхіма?

Не любіць Яўхіма. І ўсё ёй тут не люба. Вырвалася б з радасцю, пайшла б куды вочы глядзяць! І ён, Сцяпан, мог бы пайсці з ёй, куды зажадала б — абы воля, абы прастор. Абы — разам... Няхай толькі слова скажа!..

Але яна не гаворыць гэтага слова, нібы і не заўважае нічога. Думае, мабыць, што ён проста брату прыяе...

Цяпер ёй так цяжка. Усю ўцеху страціла... Ёй так трэба цяпер апора, апора і — воля. Там, у другім месцы, нішто не напамінала б ёй пра бяду... А што, калі пайсці і сказаць ёй, каб не бедавала вельмі, супакоіць хоць трохі. А то яна — адна са сваёй бядою, мучыцца адна. Хоць думкі ёй адвесці ад бяды... Пайсці пасядзець удваіх — падтрымаць.

А ён падтрымаць можа — не малы ж ужо. Каб прыйшлося, дык і сам сабою жыць мог бы — зможа, калі прыйдзецца, сваім хлебам пракарміцца. Не прывыкаць рабіць, ведае, як з зямлёй абыходзіцца, а дзе трэба, то і граматай падрабіць зможа. Пражыве, калі што якое!.. І другім з ім жыць было б анігадкі — прыпяваючы маглі б жыць, не тое, што з бацькам і Яўхімам! Ён-то не марнаваў бы работай без перадыху і не глядзеў бы па-воўчы...

А што, калі адважыцца і выказаць усё? Выказаць усё чыста — нашто ёй і яму цярпець немаведама для чаго! Таіцца, выжыльвацца дзень пры дні, душыцца, прасветліны не бачачы!.. Калі багата хто жыве інакш, па-людску, калі і ім жыць па-людску не закрыта дарога!.. Толькі адважыцца — і пачнецца новае, вольнае, жаданае... Бацька і Яўхім прыедуць, а іх і след прапаў — шукай ветру ў полі!.. Сцяпан аж устаў з палка, захадзіў па хаце, выйшаў на ганак — сэрца шалёна білася. Пайсці. Сказаць усё!..

Ступіў на яе ганак. Да яе дзвярэй. Але тут раптам апанавалі яго неадольная кволасць і нясмеласць. Ён стаў, прыслухаўся: можа плача, тады ён увойдзе, стане суцяшаць — і скажа ўсё. Так было б лепш. Аднак плачу не было чуваць. Ён адышоў ад дзвярэй.

Некалькі разоў падыходзіў да дзвярэй, намерваўся ўвайсці і — стаяў нясмела. Не хапала адвагі. Лаяў сябе: баязлівец, слімак; папракаў: так ніколі нічога не даб'ешся,— але саўладаць з прыкрай кволасцю не мог. Дзіўнае рабілася з ім: і ўвайсці сілы не было, і адступіцца, адарвацца ад дзвярэй — ніяк. Нібы ланцугом прыкаваны. Падыходзіў, адыходзіў, як прыкаваны, папракаў самога, здзекаваўся нават з сябе. Потым злосць узяла на сваю нерашучасць, стаў нібы смялей... Цяпер — ці ніколі! — адагнаў усё і, не разважаючы больш, не вагаючыся, адчыніў дзверы.

У цемры Сцяпан стаў, агледзеўся — дзе яна. Не так убачыў, як угадаў — на ложку ляжыць, але не пайшоў да яе. Пачакаў, думаў, што запытаецца, адгукнецца як-небудзь. Яна не адгукнулася. Тады нясмела, ціха стаў набліжацца да ложка — няўжо спіць?

Як грымела сэрца, калі спыніўся, нахіліўся над ёю — прыслухаўся, прыгледзеўся зблізку. Аж нібы жарам абліло ад гэтай блізкасці, затлумілася ў галаве.

Яна не спала, глядзела, але — гэта вельмі бянтэжыла — хоць бы варухнулася! Як нежывая!

— Таб-бе... можа... пагано?.. — выціснуў Сцяпан.

Ганна не адказала. Збянтэжанасць яго не толькі не прыціхла, а яшчэ памацнела, ён стаяў, скрануцца не мог. Толькі чуў, як грыміць яго сэрца і тлуміцца ў галаве. Цяпер кволасці ўжо не было, ён гатоў быў на любую адвагу, але — вось жа бяда: навошта гэта адвага, што рабіць? Як бы раптам перастаў цяміць.

— Мо што... трэба?.. Дак я...

Яна, замест таго, каб парадзіць, павярнулася моўчкі, легла тварам уніз. Сцяпан пастаяў, трэба было штосьці рабіць — дакрануўся да яе, асцярожна паклаў руку на плячо. Далонь яго апаліла, гарачыня ў момант заліла ўсяго, аж млосна стала. Хацелася, як ніколі, прытуліцца да Ганны, абняць. Ледзь пракаўтнуў гарачы камяк, што стаяў у горле:

— Ганна...

Як ён шкадаваў, як любіў яе ў гэты момант, якое хараство, радасць якая, надзея таміліся, гарэлі ў ім, чакалі, спадзяваліся, імкнуліся! Ён жыў толькі імі, толькі ёю! Каб яна сказала яму ў той момант памерці, ён памёр бы, мабыць, шчаслівы! Ён быў гатоў для яе на ўсё!

Яна сказала тое, чаго не чакаў. Ціха, ледзь-ледзь чутна, але так непрыхільна, недаступна, што яго нібы ўдарылі:

— Адыдзі.

Рука яго сама сабой адскочыла ад Ганніпага пляча. У адзін міг жаданае, блізкае стала далёкім, недасяжным. Чуючы, як усярэдзіне ўсё пахаладзела, не разумеючы як след нічога, Сцяпан паплёўся назад да дзвярэй.

## 7

Усю ноч Ганна праляжала як нежывая. Не было ў яе думак, не было, здавалася, ніякіх пачуццяў. Паўзлі толькі, павольна, нячутна, як нежывыя, згадкі-малюнкі, паўзлі адзін за адным, спыняліся, вярталіся, блыталіся.

То бачыла, як малая стрыжэ ножкамі, як камары апаноўваюць кволы тварык... То бачыла, як ківаецца яна на руках, беленькая, нібы заснула,— калі везла

з лугу. Як нерухома ляжала ў начовачках, калі мылі апошні раз, калі адзявалі сарочачку... Чула, як скрыпала кола, калі ехалі на могілкі, як, асыпаючыся, шархацеў на труну пясок... І раз, і другі, і безліч разоў, адводзячы другія згадкі, наплываючы на іх, бачылася беленькая, спакойная галоўка Верачкі на падушцы ў труне... Усё, што ні ўзнікала, ні паяўлялася ў памяці, праходзіла дзіўна спакойна, як бы не адгукалася ў Ганнінай душы, не чапала яе, не трывожыла, не вярэдзіла болем. Нібы не было ні болю, ні гора, нібы перастала раптам чуць іх. Усё бачылася, бралася як нежывою. Да ўсяго была нячуласць. Нячулая галава, нячулае сэрца, сама ўся нячулая...

У яе нячуласці непрыкметна для Ганны цвярдзела, камянела нячуласць да Глушакоў. У гэту ноч перасталі што-небудзь значыць ёй глушакоўскія хата, двор, хлявы, самі Глушакі, датлела, спапялілася тое, што жыло да іх — пакора, цярплівасць, старанне дагадзіць...

Толькі на світанні, калі ў паяснелыя вокны глянуў звычайны, такі знаёмы свет, які ўсё шырэў, прасторнеў, пачынаў праменіцца, штосьці варухнулася, ажыло і ў ёй. Калі на раме зіхатнула, зайграла сонца, як бы льдзінка нейкая бліснула ў Ганне, стала таяць. Начны каменны цяжар раптам спаў, Ганне палягчэла. Але так было толькі міг, зразу ж за гэтым ажылае сэрца пранізала тугою.

Дзень вяртаў да рэальнасці. Зноў рушылі згадкі, але ўжо не ціха, не паволі, а імкліва, неспакойна. Праява за праявай ажывалі зноў у памяці. Усё, што было на балоце, у навальнічныя ночы, душныя дні, апошнія дні Верачкі. Ад успамінаў ужо балела — чым далей, тым больш. Заныла, запякла думка: а можна было б дачушку ўратаваць! Магла б Верачка не ў труне ляжаць, пад важкай зямлёй, а жыць, жыць! Стрыгчы ножкамі, смяяцца, радавацца, расці, дужэць! Магла б — калі б не глушакоўская прагавітасць, не ненажэрнасць праклятая! Калі б не свая віна: што слухалася іх, сядзела — тады, як трэба было хутчэй бегчы па ратунак! Не ўратавала, дала загубіць маленькую! Загубіла, можна сказаць, сама!..

«Бог — даў, бог — узяў»,— успомніла свёкравы словы. Сэрца заліла нянавісць: загубілі малую, ды і

вінаватых няма! На бога ківаюць, нібы трэба яму гэта згуба!.. Ні сэрцаў, ні літасці, ні сораму! З-за нейкай жмені сена чалавечка, дачушачку давялі да згубы, ды і хоць бы падумалі, грэх узялі на сябе!.. «Бог — даў, бог — узяў!»

Божа мой, калі ты ёсць, калі ты бачыў усё,— няўжо ты не адгукнешся неяк, даруеш ім? Няўжо даволі адной малітвы старога, каб ты забыў на ўсё? Не, не можа быць, што ім так абыдзецца гэта! Не можа ж быць, праўда?..

Не было дзе дзецца ад думак, што і сама вінавата. Вінавата больш за каго-небудзь! Хіба ж не магла б кінуць усё і пайсці, пабегчы з малой на руках! К бацьку пабегчы, бацька даў бы каня, калі ўжо такое! На што ж сядзела, чакала, марнавала дачушачку! Нашто слухалася старога ненажэру!.. Сама вінавата, сама!.. Даруй мне, маленькая! Даруй, кветачка мая нерасцвілая!

Думкі віхурыліся, пяклі, каралі. Не магла ўжо трываць іх, як хворая, узнялася з пасцелі. Трэба было нешта рабіць. Кволая, амаль без сілы, ледзь цягнучы ногі, патупала па пакоі. Не думала, што рабіць, ні аб чым не думала. Не магла думаць. Як заведзеная, выйшла ў цемнаватыя сенцы, у куток, дзе на лаўцы стаяла вядро з вадою, напілася і зноў, як заведзеная, пацягнулася ў хату.

Убачыла раптам на падаконніку забытую сінюю паўрозу, якой спавівала Верачку апошнімі днямі,— сэрца аж зайшлося тугою, такой балючаю, што захацелася застагнаць. Усё, што ні трапляла на вочы, нагадвала пра Верачку, пра бяду, пякло тугою: коўдра, у якую дачушка была загорнута, калі везлі сюды, канапа, на якой пад абразамі малая ляжала ў труне...

Калі пачула, што пастух крычыць, гоніць кароў, выйшла на двор. Каля павеці тугá зноў заныла, запякла: на яшчэ мокрай чарнаватай зямлі рэзка бялелі свежыя абрэзкі дошчак, трэскі, пілавінне. Тут рабілі Верачцы труну.

Свет быў поўны тугі і пусты. У свеце не было самага дарагога чалавечка. Усё было нямілае, чужое.

Калі выгнала кароў, сярод вуліцы, хістаючыся, пацягнулася да могілак. На свежай горцы пясчаністай зямлі пад зараснікам маладзенькіх акацый быў яшчэ

халаднаваты цень — села каля ўзгорачка, гарбацілася нерухомая, як раней, перад калыскай, калі малая спала.

Чула і не чула: станавілася цяплей, пахлі завялыя кветкі, гулі, звінелі камары і жучкі. За могілкамі час ад часу скрыпелі, лескаталі калёсы — людзі ехалі на сенажаць.

Тут знайшлі яе Хведзька і бацька. За імі падышла мачыха.

— Добрае месцечко выбралі! — сказала мачыха, азіраючы магілку, акацыі.— Анігадкі месцечко! Зелено ўсё, як прыбрано! І ёй, мабуць, хараша, што ў таком спіць! Бачыць жа ўсё, бачыць адтуль, толькі што голас падаць не можа...— Яна ступіла да Ганны.— Пасядзела, пабула — можно ўжэ і ехаць! На луг паедам.

— Паедам! — папрасіў і бацька.

Хведзька глядзеў моўчкі, спалоханымі вачыма. Яна ўстала, між крыжоў і сосен падалася к калёсам. Калі паехалі, мачыха гаманіла, аб чым прыйдзецца, старалася адагнаць ад Ганны паганыя думкі, бацька ж маўчаў, адно ўважліва і сумна паглядваў на дачку. Ужо ў лесе ён аддаў лейцы Хведзьку, развязаў торбу.

— Пад'ела б мо? — Чарнушка даў Ганне хлеб, крышанок сала.

Ганна ўзяла, але ела так, нібы не чула ніякага смаку. Маўчала, аж пакуль не даехалі да сенажаці. Грабла, памагала сваім таксама моўчкі, з такім выглядам, нібы не помніла, не ведала, што робіць. На Глушакоў нават і не зірнула, быццам іх не было тут на балоце.

Толькі пад поўдзень мачыха завяла яе да Глушакоў. Ганна пайшла без ахвоты, але ўсё можа абышлося б мірна, калі б ля дубка яна не ўбачыла калыску дачушкі. Калыска вісела, як раней, затуленая полагам, нібы там была яшчэ Верачка. Ганна, калі ўбачыла гэта, упала перад калыскай, зайшлася рыданнем.

Тут падышоў да яе Яўхім. Потны, абгарэлы на сонцы, пастаяў трохі, хацеў супакоіць:

— Ну, хваціць ужэ! Будуць шчэ дзеці, не зломкі ж самі! Не старыя!.. — Думаў, так хутчэй пераб'е плач, пазваў: — Хадзем! Дабро прападае!..

Ганна раптам ускінулася, вочы — лютыя, гарачь. Як пракляла:

— Няхай яно згарыць, ето ваша дабро!

## РАЗДЗЕЛ ТРЭЦІ

### 1

Гора, якое было Ганне такім вялікім, багата каго з куранёўцаў не вельмі засмуціла.

Нямала хто падзею гэту зусім не палічыў за вартую нейкай увагі: ёсць бедаваць пра што — памерла малое, бы якое дзіва, бы рэдка ідуць яны на той свет! Якраз жа ў гэту пару найбольш і косіць ва ўсіх старая ведзьма людскі прыбытак! Калі хто і адгукнуўся на Ганніна гора, то амаль адны жанкі; але і яны жалкавалі не вельмі, ледзь не кожная зазначала са сталым жыццёвым спакоем: не суджана, значыцца, на раду ўжо так напісана. Доля ўжо такая..

Вялікі павяліцель — клопат пра гаспадарку, які вымеў у адзін дзень Курані, выгнаў усіх на сенажаць,— сам па сабе не даваў бедаваць пра нечае гора, гнаў з душы, як непатрэбшчыну, усё пабочнае. З чужых гэтую вестку блізка да сэрца ўзялі можа толькі Васіль ды Хадоська. У абодвух Ганніна бяда адгукнулася незвычайна, складанай супярэчлівасцю пачуццяў. Няпроста было цяпер усё ў абодвух з Ганнаю. У шчырае Васілёва шкадаванне пра Ганніна няшчасце ўвесь час улазілі ўспаміны пра карчоўскія крыўды...

Хадосьцы вестку пра Ганніна гора прынёс брат Іванка: яны з бацькам касілі ўжо; седзячы каля воза, чакаючы шчаўя, якое налівала матка ў місу, сказаў Іванка спакойна, без здзіўлення ці спачування — проста паведаміў, што ёсць такая навіна. Хадоська ад неспадзеўкі аж дыхаць не стала, стаілася: не толькі таму, што навіна была такая, а больш таму, што яна кранула чулае, балючае ў душы.

З нейкай, ужо звычайнай пры такой гаворцы, пільнасцю чакала, што зробяць, што скажуць бацька і матка. Матка адно ўздыхнула, з папрокам зірнула на Іванку: чула, мабыць, ужо ад некага; бацька ж строга буркнуў:

— Еж.

Іванка і бацька хутка пасёрбалі шчаўя, забеленага малаком, моўчкі пашаргалі лапцямі да кос; Хадоська памагла матцы: з міскай, з лыжкамі схадзіла да лужынкі пры кустах, перамыла, выцерла ўсё. Накрыў-

шы памытае ручніком ад усякай балотнай нечысці, Хадоська ўзяла граблі. Ветрык хадзіў яшчэ ранішні, свежы, але чуўся ўжо і подых недалёкай гарачыні. Хоць і нямоцна, пякло шыю і рукі; трава вя́ла, і кусты і стажкі наводдаль пачыналі брацца смугою, дрыжаць. Сонца зіхцела па ўсёй шырыні балота, калі Хадоська ўзяла рупіцца побач з маткаю — пераварочваць, варушыць яшчэ не падсохлае сена; ад сонца гэтага, ад ранішняй дужасці ў руках, ад звыкласці клопату забылася, сышла з душы прыкрасць, супярэчлівая няёмкасць, якую дала Іванава вестка. Не думала ні аб чым, варушыла толькі граблямі, поўнілася толькі ціхім клопатам працы, сонечнай цеплынёй, ранішняй свежасцю. Праўда, вочы як бы самі сабой беглі то туды, дзе за кучарамі лазы былі ўсе дні Ганна, Карчы, то к дарозе, што паўз лес ішла к сялу. Яшчэ здалёк заўважыла калёсы, пазнала Ганну, Яўхіма, старую Глушачыху; калі наблізіліся, бачыла: Ганна прыпала амаль да калень, трымала малую на руках, як жывую. Вялікае гора было відно нават у тым, як яна курчылася над малой, нават зводдалек.

Хадоська вострым позіркам бачыла ўсё, усё разумела, але як бы нічога не адчувала; хоць бы на міг паявілася спачуванне ў яе зеленаватых, халодных, як ільдзінкі, вачах. Стаяла, не варухнуўшыся, прыціскаючы востры канец грабільна да грудзей, хвіліну, другую не зводзіла вачэй і чула ў сабе непарушны спакой. Быў спакой, хоць там сядзела Ганна, хоць побач гругам горбіўся той, хто даў ёй, Хадосьцы, столькі гора, хто, можна сказаць, скалечыў ёй усё жыццё. Хадоська глядзела спакойна, можа ўпершыню за гэтыя гады так спакойна: бог пакараў іх! Заступіўся за яе: пакараў за ўсё!

Прасачыла, як калёсы схаваліся ў лесе, і — заварушыла звыкла граблямі. Рабіла ўсё так, бы і не было блізка гора. Бачанае, праўда, трохі яшчэ жыло ў памяці, але не вяло ў душу жалю.

Не думалася. Чула толькі бога; поўнілася яго праўдаю, яго сілаю.

Хутка і зусім забыла ўсё, чула адно ў руках цёплае грабільна. Бы і не было нічога, акрамя грабель, акрамя шаматкога сена, спрыту, дужасці ў руках.

Зацятая, шчырая Хадоська ў працы: не стане, каб

і пот сцерці з твару, загарэлага да чырвані, як бы распаленага спёкай; толькі вочы, памутнелыя ад утомы, з белымі, выгаралымі ад сонца вейкамі прыжмурыць, калі пот наплыве, нецярпліва махне рукою. Праўда, каса часам развяжацца, закоўзаецца па плячах, па спіне — тады прыпыніцца, хуценька прывяжа, накрые хусткай — ды зноў за граблі. Валасы, што бялюткімі кудзеркамі выбіваюцца з-пад хусткі ля шыі, пацямнелі, мокрыя, аж вада цячэ з іх; цячэ вада па гарачай шыі, па твары з крапінкамі-канаплянкамі, салоніць губы, але Хадоська ганяе і ганяе граблі. Калі-нікалі яшчэ похапкам вытра асмяглыя, пачарнелыя ў куточках губы: страшэнна сушыць смага. Як мара, успамінаецца біклажка пад возам. Толькі Хадоська не бяжыць да яе, трывае. Умее трываць Хадоська!

Харошая яна сабою стала, красуня-канапляначка! Невялічкая, «акуратная», як казаў Хоня, яна яшчэ пакруглела, здаецца, уся налілася дужасцю. Дужая стала яе шыя, дужыя паўнаватыя рукі і пругкія ногі, поўныя грудзі напіналі высока палатняную кофтачку. І хадзіла, і стаяла Хадоська прама — заўсёды і ў паставе, і ў рухах яе чуліся пругкасць і дужасць, харастсво не абы-як здаровай дзяўчыны ў самай пары спеласці. І яшчэ чулася ў Хадосьцы нязнаная калісьці годнасць, строгасць: строгія былі вочы, строгія губы, што, здавалася, не маглі смяяцца. Харошая была Хадоська асабліва цяпер, у заўзятасці працы, з пацямнелымі, як бы хмарнымі, вачыма, з гарачымі губамі, з гарачым подыхам; у тым, як яна рабіла, бачылася, колькі ў ёй і дужасці, і маладога агню. Прыгожая яна была сярод куп сена і лазняку, сярод зіхотнай, залітай сонцам сенажаці. Толькі не было каму любавацца ёю, усе, нават Хоня, жылі сваім клопатам, рабілі; адна маці раз-пораз паглядвала, але не так з любаваннем, як ужо са звыклым жалем за немаведама чаму няўдалы дзявочы лёс яе. Тут, на балоце, матчына жаласць часта была не толькі пра Хадосьчын лёс: шкадавала маці — няхай бы перадыхнула трохі! Шкадавала, але не гаварыла Хадосьцы: ведала, што тая ўсё роўна не паслухаецца!

Нарэшце, дзякуй богу, уткнула граблі ў купіну. Падалася да воза, набгом п'е з біклагі. Паставіла біклагу зноў у ямку пад возам; магла б сесці, пасядзець хоць

трохі. Дык не ж — зразу ж рупліва прастуе да грабель. Ідучы касу перавязвае, выцірае твар...

Увесь дзень, да позняга вечара, да цемры, шчыравала Хадоська: зграбала сена, зносіла з Іванкам копы, з бацькам, з маткаю, з Іванкам складвала стог. Нарабілася так, што ішла цёмным балотам к свайму агеньчыку як не сваімі нагамі. Усё цела было як не сваё. Ледзь сагнула спіну, каб памыцца з лужы каля куста. Але яшчэ ўзялася памагаць матцы падаць вячэру, зноў памыла потым посуд, лыжкі.

Павалілася спаць, не чуючы нічога. Думала, засне зараз жа; санлівая дрымотнасць, і праўда, агарнула ў момант, ухапілася звыкла закалыхваць. Але не закалыхала зразу, сон не ўзяў; невядома адкуль у змораннай санлівасці паявілася, затрывожыла незразумелая, але — чула яна — нядобрая клопатнасць. Потым — як бы неспакойны вецер прайшоў; чамусьці заныла ў грудзях. Стала чагосьці жалліва, чагосьці стала брацъ горнасць. Бы ў балотны след чорная тарфяная вада, палезлі ў душу нядобрыя, раптам нейк асабліва ясныя, пякучыя ўспаміны. Як стаяла над процьмай глінішчанскага возера, як кружылася галава, як аб'язджаў беражок; як ішла да знахаркі, як сядзела, чакала, як ішла ад яе; нібы нанава вярнулася чорная, халодная, страшная ноч; нанава, з большай, неадступнай сілаю, вярнуліся, узялі адчай, страх, боль, сорам. Згадала, нібы толькі ўчора выйшла з яе, баковачку ў юравіцкай бальніцы; у момант як бы нанава вярнуліся тыя нямілыя сцены, той нямілы ложак, той брыдкі бальнічны пах, усё, з чым было тады нямілае, нясцерпнае жыццё. Нібы нанава вярнуўся шалёны вецер, гарачы снег той ночы, калі хацела кончыць усё; беспрытульнасць таго няласкавага дня, калі ехала дадому; нібы нанава пачула, як забрахалі раптам Карчовы сабакі, калі сані паўзлі вуліцаю.

Каб адагнаць злыя згадкі, стала знарок думаць пра лепшае, пра Хоню: што ж рабіць з ім? Злуецца ўжо на яе, і ці дзіва — столькі ходзіць! «Мо і праўда — пайсці?.. Любіць жа, што ні думай, любіць! Кеб не любіў, хіба б хадзіў столькі? І хлопец добры, на ўсё сяло адзін такі... Бязбожнік адно. Не шануе бога. Але ето пераманіць можно... І матка яго — хоча...» Успомніла нядаўнюю сустрэчу: сама пазвала яе, Хадоську; ляжала

на ложку, з поцемку ўглядалася. Хоць слова спачатку не сказала, Хадоська пачула: спадабалася ёй. Хонева матка заплюшчыла вочы, памаўчала яшчэ, потым вінавата паварушыла губамі: «Страшная, мабуць, я стала...» Хадоську ўзяў жаль, супакоіць захацелася: «Не страшная, саўсім не страшная, от сказалі! Няшчасная толькі! А што няшчасная, хіба вы вінаваты ў етым!» Старой, было відно, спадабаліся яе словы. А ад Хадоські не адступаў жаль: шкода было Хоневу матку, шкода Хоню, шкода малых, што спачатку дзівіліся на Хадоську, а потым разбегліся з хаты кудысьці... Яшчэ два разы заходзіла Хадоська да Хоневай маткі, сядзела на ўслончыку ля ложка; няшчасная сама, чула ў ёй як бы прыяцельку сабе. З ёй было Хадосьцы ціха і спакойна. Адно нядобра было: даводзілася асцерагацца, каб не наплялі языкі, што да Хоні чапляецца... «Хоня — добры,— сказала неяк матка яго.— Не думай нічога вельмі...» Добры... Хіба яна не знае, што добры!.. Але хіба ад таго лягчэй? Бяда ж не ў Хоню, бяда ў ёй! У ёй!.. Хадоську ўзяла горнасць: захацелася плакаць. Яна стрывала, але ўсярэдзіне ныла, балела. З гэтым болем зноў успомніла Ганну на возе, падумала пра яе бяду — і не толькі не пачула жалю, а і нават спакою, які быў удзень. Узяла нават вастрэй, як зазвычай, непрыхільнасць: от і ў іх бяда. Тут жа падумала, што нядобра помсціцца чужой бядзе, але памяць злосна напомніла, як першы раз твар у твар напаткала Яўхіма, калі вярнулася з Юравіч. Нібы зноў прайшла паўз яго. Нават калі зноў згадала Ганну, нядаўняе і, здавалася, ціхае ўжо — як сышліся раптам, беручы шчавель,— за напамінкам пра Яўхіма, і гэта было непрыязнае. І ці дзіва: і там, на полі, хоць былі блізка з Ганнаю, слова не сказала. Бы сцяна між іх была!..

От і яна зазнала гора! От і ў яе... Тут Хадосьчыны думкі нібы наскочылі на другую, большую, агромністую — увайшла, уламілася раптам, не першы раз згадка пра *сваё* малое! Яе, Хадосьчына, малое! *Яе*, якога яна ніколі не бачыла і не ўбачыць! *Яе*, якому цяпер быў бы трэці год, якое магло б абдымаць за шыю, туліцца да грудзей, зваць! *Яе*, якому сама не дала жыць! *Яе*, якое — запякло адчайнае, няўцешнае,— якое сама, *сама* загубіла!!!

## 2

Мінулае ішло заўсёды побач. Яно то мацнела, то слабела, але не знікала; на ўсім, чым жыла цяпер, быў яго цень. Яно прыходзіла ноччу, ішло ўдзень, было ў думках, у настроі, ва ўчынках...

У той дзень, калі збялелую, спакутаваную Хадоську бацька павёз у бальніцу, бяда яе не асталася ў Куранях. У чыстай баковачцы юравіцкай бальніцы Хадосьцы не стала весялей, сорам, адчай пяклі, тачылі Хадоську ў ціхай бальнічнай баковачцы яшчэ горш.

У першы ж дзень у бальніцы, бы знарок, узяліся нагадваць ёй тое, што так хацелася забыць; ледзь унеслі Хадоську на насілках у доктарскі пакой, доктарка стала выпытваць, пра што і думаць было страшна; і была доктарка не адна, акрамя яе яшчэ дзве ў белым стаялі побач, хацелі ведаць, бачыць Хадосьчыну ганьбу. Не расчапіла Хадоська губ, як увайшоў нейкі дзядзька ў белым, намерыўся, здалося, таксама слухаць, глядзець; Хадоська, амаль непрытомная, бы ажыла, заматала галавою, дзіка закрычала: «Не, не!..» Яна ўсё крычала, ірвалася ўстаць з насілак і калі дзядзька пайшоў, і калі доктарка штосьці гаварыла супакойліва — крычала, пакуль зусім не аслабела ў моцных руках жанок у белым, страціла прытомнасць.

Нямілае, ненавіснае было з таго дня Хадосьцы ўсё — і белыя дактары, і гаваркія, назойлівыя жанкі-суседкі, і blізкі ельнічак за акном. Ёй чулася, што ўсе ведаюць пра яе, здавалася, што і глядзяць не абы-як, а з патайнымі, нядобрымі думкамі, як бы смеючыся з бяды яе, з яе сораму. Асабліва ненавідзела яна таго дужага, нахабнага дзядзьку ў белым, пра якога казалі — галоўны ўрач і які ледзь не кожны дзень абыходзіў усіх, пасміхваючыся, распытваў, аглядаў. Спачатку хацеў ён падысці і да Хадоські, але Хадоська ледзь убачыла гэта, яго — здалося — брыдкую ўсмешачку на сытым чырвоным твары, затрэслася, як вар'ятка, закрыла вочы рукамі, закрычала. З таго дня дзядзька не падыходзіў больш да яе, і калі быў ля суседак-жанок, то трымаўся асцярожна, далікатна. Не радавалі ў тыя дні Хадоську бацькі, што часта, вельмі ж часта прыязджалі з дамашнімі гасцінцамі. Хоць ні бацька, ні матка словам не прагаварыліся, чула Хадоська, што яны

ведаюць, якая бяда ў яе, гарэла ад сораму, ад вінаватасці, ад крыўды, маўчала непрыхільна, хвіліны дачакацца не магла, калі яны паедуць ад яе. Пасля сустрэч з бацькамі Хадоську асабліва даймала трывога пра тое, што, мабыць, ужо багата хто ведае ў Куранях пра яе грэх, ведаюць, можа, усе хлопцы, дзяўчаты, ведаюць, смяюцца. Яна часам так ясна ўяўляла, як гавораць, як смяюцца з яе, што, здавалася, чула галасы, бачыла ўсіх увачавідкі. Хадоська камянела ад адчаю.

Доўга-доўга, шкадуючы, згадвала Хадоська бездань азярца каля Глінішчаў: чаму тады збаялася, не кінулася, не кончыла ўсё адразу; не адзін дзень, не адну ноч строіла думкі, як загубіць сябе. За акном гулі вятры, лютавалі сіберныя стужы — вылезь ноччу ў віхурнае поле ці ў лес, і ўсё кончыцца ўраз. Можна сесці, скурчыцца, заснуць; сны, кажуць, сніцца будуць толькі. Не страшна і не балюча, і зразу стане лёгка. Канец усёй пакуце зразу... Пад поўнач ціха выбралася ў калідор — санітарка спала на састаўленых табурэтках; асцярожліва, на пальчыках абмінула яе — дзверы былі замкнёны, але тырчаў ключ; хапатліва крутнула ім і, нічога ўжо не цямячы, рынулася ў сенечкі, за імі — у ветраную цемень, у сівер. Санітарка потым гаварыла: бразнулі дзверы, моцна пайшоў холад; Хадоську здагналі за агародкаю, у хвойніку, у снезе — можна сказаць, у адной сарочцы.

На другі дзень прыехала маці, адразу ж дачулася пра Хадосьчыну ноч; і ці дзіва — уся бальніца гула пра гэта. Чулае матчына сэрца ўміг зразумела, што задумала дачка; глядзела на Хадоську вачыма, поўнымі болю і слёз, божкала, жахалася, благала: «Рыбачко Хадосечко!.. Што ж ето ты, галовачко, удумала!.. Бацьку, матку не шкадуючы, брацікаў, сястрычак!.. Ці ж мы не глядзелі цябе, як вока свае! Не любілі, не шкадавалі хіба?! Як жа ж ты ўдумала такое!..» Хадоська слухала, але нібы не разумела нічога; не было ў ёй ні шкадавання аб сваім учынку, ні жалю да маткі — да ўсяго яна чула, як нешта сціскае, ломіць яе, поўніць усю такім холадам, што вось-вось не ўтрываеш, закалоцішся, бы ў трасучцы. Яна заплюшчыла вочы, паказала матцы, што спіць. У нястрымнай ліхаманцы яна не бачыла, як сышоў дзень, як наступіў вечар, запалілі святло. Увечары холад раптам прапаў, цела яе

стала гарэць, зрабілася так душна, што не было як дыхнуць. Праз нейкі гарачы туман бачыла яна доктара, якога паднялі сярод ночы, абыякава, бы з далёкай далі, чула, як ён мацаў ёй лоб, ставіў градуснік. Доўгую, бясконцую вечнасць, у якой не было ні днёў, ні начэй, не было нічога зразумелага, кідалася яна ў нясцерпным агні, у нейкіх блытаных, жахлівых відовішчах, стагнала, мармытала, крычала нешта; дактары казалі потым, што была ўжо трохі не на тым свеце.

Апрытомнела яна сонечнай, вясёлай раніцай — на марознай шыбе зіхцелі радасныя іскрачкі-зоркі. Ачнулася з дзіўнай, нечуванай лёгкасцю, бясхмарнасцю — ляжала, здавалася самой, лёгкая, бы тая пушынка: шапні вецер — і паляціць! Яна той раз ляжала так нядоўга, бо непрыкметна ўзяў сон, такі ж лёгкі, як і ява. Наступнымі днямі тая ж лёгкасць была ў ёй, не адыходзіла: ні аб чым не думала, нічым не турбавалася. Як бы іншы свет стаў: і марознае святло праз шыбы, і белая баковачка, і дактары, нават той, галоўны, з чырвоным тварам. Інакш спаткала яна і шчаслівых бацьку і маці: пачула нешта цёплае, святочнае, мілае. Бацька больш маўчаў, адно вачэй давольных не зводзіў, а маці гаварыла-гаварыла, аж захліпалася з радасці: «Не пушчалі нас! Не можно, маўляў, к ёй! Дохтар не вялеў, каторы галоўны, маўляў. А адзін раз я ўпрасіла самого, каторы галоўны. Плачам умаліла, штоб пусцілі. Прыйшла. А ты — і спіш і не спіш, губкамі ўсё мыляеш, як бы піць хочаш. Губкі — відно — гарачыя, сухія. І так голаву павернеш, і так — бы ляжаць нядобра, нязручно. І як пабачыла я — горно мне стало так, аж глядзець не магу. Слёзы так і бягуць. «Хадосько!» — кажу ціхо так і аж заходжуся. А ты як пачула, ці што, вейкі задрыжалі, расплюшчыла трохі вочы. Глядзіш кудысь угору, а вочы — няцямныя, змучаныя. «Донечко, рыбачко мая!» — кажу. А ты — як глухая. Бы не пазнаеш, бы я чужая! Вачмі не павядзеш — няцямныя, як нежывыя! «Мамко ж я твая! — кажу.— Мамко твая, чуеш?!» — а ты хоць бы знак які! Паглядзела трохі і саўсім заплюшчылася зноў! Губкамі замыляла, як бы ў роце перасохла, бы вады табе трэба! А там раптам — як застогнеш, як загаманіш — часто-часто! Не разабраць што!..» — Маці зноў зайшлася горкімі слязамі, слова не магла больш вымавіць; зда-

лася Хадосьцы нейкай кволай, няшчаснай, аж жаль узяў. Бацька не вытрываў, папракнуў: «От завяла! Па нябожчыку — нібыто!.. Дачка паправілася, а яна!..» Маці ўраз перастала хліпаць, ражком хусткі выцерла вочы: «Па нябожчыку! А ці ж не была — усё адно што нябожчык! Я ж можа і ўспамінаю, і плачу — што рада! Што дочачка ўсё адно як з таго свету вярнулася!..»

З ахвотаю слухала Хадоська дробныя, але, цяпер здавалася, такія цікавыя, мілыя дамашнія навіны — пра сястрычак і брацікаў, пра матчыны клопаты, ласавалася бацькоўскімі гасцінцамі. Але калі матка з бацькам паехалі, калі падумала, як яны едуць змерзлымі санямі, як выпаўзуць з поцемкаў насустрач ім куранёўскія стрэхі, калі ўбачыла, нібы ўвачавідкі, стрэхі, вуліцу, родны двор, у Хадосьцы разам з прыціхлай радасцю шчаслівай сустрэчы стаў ныць сум. Быў гэта не толькі сум па бацьках — іншае, нядобрае аднекуль улівалася ў яго, захмарвала нядаўнюю бесклапотнасць. Нібы ажываў стары, забыты боль. У той вечар смутнае гэтае прайшло, як далёкая хмара; падступіла, прапаўзло трывожным ценем і прапала. Хадоська заснула без прыкрых думак. Але на другі дзень хмара зноў упаўзла ў яе адзіноту. Нядобрае, нежаданае, якое не хацелася і заўважаць, чаплялася за яе, брала ўсё мацней, усё назольней, нагадвала, малявала, прымушала разважаць. Зноў вярталася з небыцця Захарыха, вяртаўся сцюдзёны, страшны дзень, ажывалі, білі Яўхімавы словы. Згадкі паўзлі блытана, шматкамі, у тумане, такім халодным, пранізлівым, што ў Хадоські ўсё ледзянела, брала прыкрае бяссілле. Спачатку ёй як бы не хацелася верыць згадкам, бы нядобраму сну. Але ўспаміны, наперакор ёй, лезлі і лезлі, усё больш ярчэлі, шырэлі, усё больш хмарылі, трывожылі. Са скрухай, праз засень неадольнай трывогі бачылася ёй зноў сонечная ядраная чырвань на шыбах, на сцяне; нярадасна, холадна глядзела ў куточку верхняй чыстай шыбы абмерзлая калючая лапа хваіны. Сумна, маўкліва назірала Хадоська за жанкамі-суседкамі, слухала іх нецікавыя гамонкі. Жанкі побач былі ўсё «новыя»: тыя, што ляжалі раней, паразыходзіліся па сваіх хатах, але перамена гэтая не супакойвала Хадоську; і да гэтых была ў яе асцярога.

Цяпер Хадоська ўжо не шкадавала пра чорную

процьму глінішчанскага азярца, не строіла сабе думак, як уцячы, загубіць сябе. Ёй цяпер нават успамінаць пра тое, як яна ледзь не замерзла, было страшна; немаведама куды прапала нядаўняя рашучасць.

Хадоська чула ў сабе дзіўную аслабеласць, кволасць. Ад гэтай кволасці, ад бездапаможнасці сваёй перад бядою, якая не адыходзіла, і дзень і ноч сцерагла яе, Хадоську часта браў адчай: накрыўшыся з галавой коўдраю, уткнуўшы твар у падушку, яна душылася ціхім, горкім плачам. Пякучымі слязамі аплаквала Хадоська бесклапотную радасць сваю і даверлівасць, сваю няўдалую маладосць, з якой яна нібы развіталася назаўжды. У першыя дні, заўважыўшы, што яна плача, жанкі звалі яе, супакойвалі, але яна не адгукалася; тады яе перасталі чапаць, не гаварылі пустых слоў, не назалялі, далікатна, разумна маўчалі. Выплакаўшыся ўволю, яна звычайна спакайнела сама і засынала пад коўдрай.

## 3

У гэтыя дні апанавала Хадоську яшчэ мацней набожнасць. Чуючы сябе адзінокай у бядзе, трывожачыся перад невядомым, якое ўсё больш палохала думкамі пра Курані, з нязнаным яшчэ палам пацягнулася яна к богу. Неба ёй было не проста неба, жыццё не проста жыццё; усюды быў бог, ва ўсім быў бог — пра што ні думала, ва ўсім згадвала бога, малілася яму. Аддансць богу яе даходзіла трохі не да вар'яцтва.

Але як ні малілася, як ні аддавалася божай літасці і справядлівасці, як ні хацела верыць, што ўсясільны і справядлівы заступіцца, аберажэ, трывога ад думак пра заўтрашні дзень свой не толькі не адыходзіла, а напаўзала ўсё важчэй, усё чарней. Чым бліжэй чулася сустрэча з Куранямі, тым больш расла трывога: знаёмыя змалку агароды, двары, узболаткі не вабілі, а грозіліся. Сустрэча з Куранямі здавалася цяпер сустрэчай з бядою, з Яўхімам, з крыўднымі плёткамі, якія непакоілі яе, можа, больш за ўсё. Яна — нібы ўвачавідкі — бачыла, як будуць глядзець на яе, калі яна паедзе куранёўскай вуліцай; ад адной думкі пра гэтыя позіркі ёй, у бальнічнай баковачцы, рабілася так нядобра,

што яна заплюшчвала вочы: не вяртацца б туды ніколі, не бачыць нікога!

Матцы і бацьку не заўсёды выпадала наведаць дачку: і дарога няблізкая, і дома клопату — не перадыхнуць, часта прасілі наведацца ў бальніцу, перадаць гасцінчык суседзяў, што ехалі ў Юравічы; Хадоська рэдка ўставала з ложка для бацькоўскіх пасланцоў, з-за фіранкі потым бачыла, як яны ехалі дадому. Так бачыла крывога Грыбка, старую Дамеціху з Міканорам, лесніка Міцю; выйшла ў калідор толькі, калі прыехала Пракопава Маня, таварышка. Маня як бы вельмі ўзрадавалася Хадосьцы, але Хадоська стаяла чужаватая, насцярожаная, ураз прыкмеціла, што глядзіць Маня на яе не абы-як, не так, як некалі. Нібы здалёк чула Хадоська, што Маня гаварыла пра вячоркі, пра тое, хто да каго заляцаецца, хто з кім сп'яна пабіўся. Гаварыла і ўсё разглядала Хадоську круглымі, бляклымі, бы цялячымі, вачыма, каб потым, мусіць, расказаць на вячорках як мае быць; Хадоська ж чакала адно, калі яна змоўкне, калі здагадаецца пайсці: ні сама яна, ні яе навіны Хадоську не цікавілі. Але Маня і потым, калі гаварыць ужо не было чаго, стаяла, маўчала, лыпала цялячымі вачыма, пакуль Хадоська не падалася першая ў сваю бакоўку. Пасля гэтай сустрэчы яшчэ цвярдзей думала Хадоська не вяртацца ў Куранi, паехаць хоць куды, толькі б не сустракацца з бядой сваёй, з Яўхімам, са страхам.

Не першы раз шкадавала, што сваякі ўсе ці ў Куранях, ці ў сёлах поблізу. Як ні разважала, усё выходзіла: сама лепш, пэўна, тут, у Юравічах, астацца: мястэчка вялікае, і куток пад страхою, і работы — абы ахвота была; яшчэ раней дазналася. У гэты вечар зноў гаманіла з мястэчковымі: ляжала Хадоська цяпер у вялікім пакоі, побач было багата юравіцкіх — і хату, і працу, можна сказаць, знайшла...

З нецярплівасцю, з дзелавітай заклапочанасцю выглядвала ў акно бацькавы сані, узрадавалася, замітусілася, калі ўбачыла знаёмага рудога коніка. Але калі матка і бацька ўвайшлі ў калідор, адкрыць жаданне сваё не зразу наважылася.

— Ой, мамко, што я вам скажу! — знарок весела, бы лашчачыся, прытулілася Хадоська да маткі, калі старыя сабраліся ўжо ехаць дадому.

— Што ж ты скажаш? — Матка гладзіла па галаве, чакала: скажа якую-небудзь дробязь.

— Толькі вы не абіжайцеся,— ужо без усмешачкі, папярэджваючы, папрасіла Хадоська.— Добра?

— Чаго ето? Што ты ўдумала?

— Удумала! Толькі я добра разважыла ўсё, мамо! Не думайце, што ето — вецер у галаве!.. Не будзеце?

— Дак ты скажы наперад... Ну, не буду!..

Хадоська раптам як бы забаялася зноў. Яна памаўчала; сабраўшы сілу, не гледзячы на матку, выціснула амаль ▪ адчаем, адным дыхам:

— Мамо, я хачу тут астацца. У Юравічах...

Хадоська, хоць і не глядзела на маці, бачыла: матка зірнула на яе, не разумеючы:

— Чаго ето?

— Жыць тут, мамо. Рабіць буду...

Маці маўчала момант, зноў зірнула на дачку, потым на чалавека свайго, нібы сама не магла зразумець.

— От удумала! — прамовіла, як бы не верачы.— Удумала!

— Я даўно ўжо ето, мамо...

— Удумала! — не хацела слухаць матка.— Ето ж трэба! Дадумацца да такога!

— Мамо, усё адно — пара ўжэ мне. Не век жа пры вас...

— Цесно табе, пагано табе пры матцы ды бацьку було?

— Не цесно і не пагано, мамо. А толькі... Не хочу я туды, мамо!..

Матка не адразу знайшла, што сказаць. Ледзь стрымалася, каб схаваць жаль аб дачцэ. Бацька пакруціў у руках пугаўё, прамовіў:

— Матка — нібыто — праўду кажа.

— А ці ж няпраўду! За бацькам, за маткай калі — якому дзіцяці пагано було? Якое ето — розум маючы — бацькі, маткі цурацца будзе?..

— Дак хіба ж, мамо, я цурацца хочу!..

— А не хочаш, дак і добра! — Матка не дала дачцэ гаварыць: — За маткай, за бацькам заўсягды добра! Толькі — кеб хутчэй дадому, прасіся! Скажы: і так заждаліся, збалеліся душою! Наездзіліся, даждацца не можам: калі ўжэ прывязем саўсім! Брацікі, сястрычкі

ждуць не даждуцца!.. А ето, глупства ўсякае, выкінь! Не думай нічога попусту!

І, паказваючы, што гаварыць больш няма чаго, маці прытуліла Хадосьчыну галаву, пацалавала. Хутчэй адвярнулася, пайшла з бальніцы. Бацька пашаргаў мокрымі валёнкамі ўслед.

На другі дзень санітарка сказала Хадосьцы, што прыйшлі нейкія два хлопцы, просяць, каб выйшла. Хадоська, што ляжала на ложку, толькі нахмурыла вочы, недавольна падтуліла губкі; хтосьці з жанок памог:

— Перадайце, што хворая, што не можа выйсці...

Жанчына ў халаце з мокрымі плямамі і з мокрымі чырвонымі рукамі — мыла, мусіць, штосьці — пастаяла, здзіўлена паглядзела на Хадоську, нібы чакала, што тая перадумае, неахвотна адчыніла дзверы. Тады пачулася гаворка з калідора: хтосьці голасна, можа знарок, каб чулі ў палаце, гразіўся, што, «калі яна не выйдзе»,— уломіцца проста ў пакой! «Так і заявіце!..» — наказаў голас весела, як бы са смехам.

— От ето — кавалер! — пахвалілі ў палаце.— Прыйдзецца ўстаць!

— Бо — і праўда ўломіцца! Зух, відно!..

— А то, можа, я за яе пакажуся?.. А, пабаялася!..

Пад рогат жанок Хадоська хуценька перапляла, завязала косы, паправіла халат: гэты баламут — Хоня — і праўда можа ўламацца, не адстане! Санітарка, выціраючы рукі, весела, з ухвалай прапусціла яе паўз сябе.

— Ты што ж ето — прызнаваць не хочаш? — зарагатаў Хоня, падаў Хадосьцы халодную, цвёрдую руку. За ім пацісну́ў руку з зухаватым выглядам Алёша Губаты, пакпіў у тон Хоню:

— Задаецца! Куранёўскія лапці, думае!

— Скажаце!

— А можа не? Трэці раз — як прыеду чаго ў Юравічы — заходжу — усё хворая ды хворая! Не можа выйсці! Не пазволено беспакоіць! Як якая юравіцкая барыня!.. Я ето ўжэ і матку папытаў: што ето, кажу, Хадоська ваша ўсё хворая? Дабіцца ніяк няможно да яе! А яна кажа: пагано, мабуць, дабіваўся!..— Хоня зарагатаў: — Дак я і рашыў папробуваць: дабіцца добра!

— І дабіўся! — пахваліў Алёша.

— А няўжэ ж!..— Хоня з захапленнем акінуў вачыма Хадосьчыну постаць.— Дак ты ж — ей-бо — хоць на выстаўку! Чым ето вас тут кормяць? Булкамі, мабуць, аднымі? То́-та ляжыш сабе — і анігадкі! Не ляціш вельмі дадому!

— Я і сам адсюль не рваўся б дадому! — Алёша заверашчаў носам.

— А я б не ўседзеў тут доўго! Харчы — харчамі, а пахне ж неяк не па-людску! — Хоня смешна прынюхаўся.— Лекамі нейкімі, ці што? — Ён раптам, з вясёлай бесцырымоннасцю, папракнуў: — Доўго шчэ ты валяцца тут будзеш?

— Скоро ўжэ...

— Хваціць, скажы! А то — просто выглядаць цябе надаело! Ей-бо!.. Еду паўз хату тваю, гляджу: можа ўжэ паявілася?! На вячоркі іду, можа ўжэ і яна тут, думаю! Няма і няма! Я там з нуды сохну, а яна тут вылежваецца!

Хоня глядзеў з такім абурэннем, што Хадосьчыны губы задрыжалі ад смеху. Так, для прыліку, сказала недаверліва: — Сохнеш. Яно і відно...

— А не сохну? От няхай Алёша скажа, калі я брашу! Прыйду на вячоркі, сяду, ушчыкнуць нікого не хочацца! От, Алёша не дасць збрахаць: шчыкаў я каго-небудзь?

— Дзевак — не, а пра Сароку — не знаю. Гаранцію на ету не даю!

— Пасяджу, падрамлю — і дадому. Цяпер чуць не кожын вечар Алёша рэжа на гармоніку. Дак і скакаць, як скажы ты, развучыўся! Усё от думаю: кеб Хадоська була, кеб з Канапляначкаю — полечку ці кадрыліцу на васемнаццаць кален!

Гаварыў, гаварыў, рагатаў Хоня — і загаварыў Хадоську. Схамянулася толькі тады, калі з мястэчка вярнуўся галоўны доктар, яшчэ чырванейшы з марозу, стаў строга аглядваць Алёшу і Хоню. Але і калі ляжала зноў на ложку, доўга цешылася ўпотай смехам, перабіраючы ўсё, што казаў Хоня. Да самай ночы весела згадвала вячоркі, дзяўчат, куранёўскія паляны, хадзіла, гаманіла лёгка, жвава; а ў поўнач, бяссонная, стомленая, раптам зноў забілася плачам, такім горным, што ледзь магла ўтрымаць стогн...

Ехала з бальніцы познім сакавіцкім днём. Сонца то

прарывалася праз нізкія хмары, то прападала; здавалася, што вось-вось пачне сцябаць дождж ці мокры снег, але ні дажджу, ні снегу не было, сцябаў адно халодны вецер. Стылі ногі і рукі, а са стрэх капала, і снег пад палазамі рыпеў мокра, паныла. Не хацелася ні аб чым думаць, нічога чуць. Бацька ў Юравічах заехаў да драўлянай крамкі, вынес нейкія дзве скрынкі — Нохім прасіў прывезці; пакуль давезлі, пакуль пастаялі каля Нохімавага плота, добра звечарэла. Цераз грэблю паўз чорную цагельню цягліся ўжо ў мокрай цемры. Хадоська не бачыла, калі зажаўцелі наперадзе рэдкія агні, зачарнела купа хат. Не варухнулася, не зірнула нават. Бы не было доўгай ростані.

Сярод вуліцы здрыганулася з неспадзеўкі: цішыню працяў злы брэх глушакоўскіх сабак. Кальнуў вочы агонь з іхняй хаты.

## 4

У тую вясну ні разу не пабачылі Хадоську ні на ігрышчах, ні на вячорках. Ніхто за ўсё лета не чуў яе галаска ў дзявочых гуртах: як ні прасілі, ні разу не прыйшла, не заспявала. І смяяліся, і спявалі Хадосьчыны таварышкі без Хадоські. Толькі і бачылі цяпер куранёўцы Хадоську на сенажаці, на полі — загарэлую, ціхую, упартую ў працы, з брацікамі і сястрычкамі сваімі, з бацькамі. Не змянілася яна нічым і ўвосень і ўзіму; жыла адзінока, як у лесе. Заходзіў быў у хату да яе Хоня, раз ці два — Міканор, але, бачылі ўсе, адступіліся скора: не зладзілася з Хадоськаю ў хлопцаў. Хадоська, казалі, нібыта гаварыць не захацела: маўчыць, маўчыць усё, быццам толькі і чакае, калі астанецца адна,— нецікава зусім з ёю. Праўда, другія жанкі казалі, што яна і не маўчыць пры хлопцах, што рада, каб хадзілі; сама нібы запрашала, але каму з хлопцаў цікава быць ▪ такою? Тут часта пачыналіся спрэчкі: адны даказвалі, што бяда — бядою, што Хадоська цяпер — нават лепшая, паразумнела, не тое, што якая другая дурніца ці сама яна раней; другія судзілі — сама вінавата, дык няхай і бядуе сама і на хлопцаў не спадзяецца вельмі...

Сярод гаворак пра Хадоську былі такія, што і Хоня, і Міканор Хадосьцы — пустое, што — пра гэта асабліва

горача даводзіла Сарока — Хадоська, як і раней, любіць, чакае не дачакаецца аднаго Яўхіма. Сарока клялася, што хто-хто, а яна ведае гэта як сама сябе; што ад таго, што так любіць Яўхіма, Хадоська і глядзець на Ганну не хоча, хоць — яшчэ нядаўна ж зусім — таварышавала!..

Гаварылі пра Хадоську багата, самае рознае: ніхто толкам не ведаў, што там у душы такой затоенай, такой не падобнай на тую, якой прывыклі бачыць раней, дзяўчыны. Былі сярод жаночых здагадак і блізкія да праўды, былі і далёкія, але, мусіць, ніхто так далёка не быў ад ісціны, як здагадлівая Сарока. У тым, што зберагloся ў Хадосьчыным сэрцы пасля бальніцы, што хвалявала яе, Яўхім ужо амаль нічога не значыў: не было ў Хадоські не толькі якога-небудзь, хоць бы хворага, кахання, не было нібы і нянавісці. Усё, што было да Яўхіма, неяк скамянела ў ёй: як на камені, нішто не жыло. Яна сама здзівілася, як — здалося ёй — спакойна, абыякава ўбачыла раптам яго на вуліцы; прайшла міма так, быццам і не ведала ніколі...

Згарэла, скамянела і яе дружба з Ганнаю: Ганна была цяпер для яе тым жа, што і Яўхім. Нават калі да Хадоські ў жаночых гамонках сталі даходзіць чуткі, што Ганне нясоладка з Карчамі, ацвярдзелая непрыхільнасць да былой таварышкі не памякчэла; і зларадства не зазнала Хадоська спачатку.

У тое лета Хадоська як бы нанава пачула спеў жаваранка: цёплым, салодкім болем адгукалася ў ёй даўняя, такая звычайная калісьці песня. Як бы нанава ўбачыла Хадоська павітуху на белай зямлі, пачула шорхат спелага жыта, жывую цеплыню сцяблоў, што клала на перавясла. Ціхая, але харошая радасць поўніла яе, калі, зморaная, з абпаленымі сонцам рукамі, паколатымі нагамі ляжала пад бабкаю, слухала, як звініць, спявае гарачая зямля.

Свет быў поўны гукаў, поўны свайго, нябачнага раней жыцця. Ён жыў увесь час, дзівосна багаты і розны, з няўціхнай песняй: празрыстай, звонкай — ранкам, гарачай, прытомленай — днём, ціхай, думнай — увечары. Слухаючы, жывучы ў ім, Хадоська нібы пераставала бачыць усё збоку, нібы зліваласяз ім, станавілася роднай часцінкай усяго. Станавілася нібы — чулася самой — то сінім небам, бо белым воблакам: лёгкая,

бы пушынка з таполі, плыла ў высознай высі, не бачачы, не знаючы зямлі; то нібы сама рабілася коласам, што зморана шархацеў над сухою зямлёй, то — травою, што поўніла росным халадком лясныя прыцемкі, салодкай млявасцю — сонечныя паляны. У такія хвіліны ёй было так хораша, што хацелася плакаць, што сама сабой прасілася з грудзей малітва — хвала богу. Вельмі часта ў такія хвіліны, праўда, браўся аднекуль незразумелы, тупы боль, ныў і шчымеў з нейкай гаркатою; але ён не мог адолець замілаванасці, рабіў яе адно вастрэйшай, чутнейшай.

З поля, з лесу Хадоська вярталася тады не адна — з кветкамі, якія потым стаялі ў гладышцы на акне. Яны і ў хаце пахлі полем, лесам, поўнілі хату харастаом узлескаў і вольнага прастору. Але ў іх паху скора чула Хадоська смутак смерці — хоць даглядала іх, мяняла ваду, кветкі гінулі. Ёй шкода было іх: былі яны Хадоськы як жывыя, са сваёй радасцю і воляю, таксама божыя стварэнні. Ад гэтага, як ні любіла яна кветкі, ірвала потым іх ці ў полі, ці на ўзлесках і мала і рэдка; цешылася дома сваімі, хатнімі, якіх было поўна ў гліняных гаршчочках на вокнах і ў агародчыку перад хатай. Цешыцца было чым: летам агародчык буяў усімі барвамі красы; калі вярталася дадому, яны як бы віталі па-сяброўску — рэзка, мята, вяргіні, мальвы. Яны і былі ёй як сяброўкі, мілыя, шчырыя, надзейныя.

З таго летняга дня, калі Хадоська нанава пачула спеў жаваранка, свет для яе як бы перамяніўся. У свеце было харошае, было чым цешыцца, чаму радавацца. Не было ўжо нядаўняй беспрасветнасці. Хадоська не чула сябе ўжо такой адзінокай. Але ў вялікай перамене, што адбылася ў свеце навокал, менш за ўсё змяніліся для Хадоські божыя стварэнні, якія спрадвеку завуцца людзьмі. Можна сказаць, што цяпер для Хадоські яны — не лічачы бацькі, маткі, брацікаў, сястрычак — былі менш як калі відныя і чутныя. Знайшоўшы сабе ў свеце вялікую ўцеху, Хадоська не думала ўжо з такім страхам, што́ пра яе гавораць, як глядзяць на яе. Яна ўжо як бы менш залежала ад іх. І ёй было лягчэй.

Мінулі лета, восень, зіма, пайшло другое лета, а Хадоську не пахіліла да людзей. Як і раней, не чула сябе Хадоська сярод людзей так добра, як сярод дрэваў ці

жыта. Як і раней, трапіўшы ў грамаду, яна нязменна маўчала, старалася адно адасобіцца; адыходзіла так, быццам вырывалася з няволі.

І сустракаючыся з кім у полі, на дарозе, даўшы звыклы «добры дзень», Хадоська мінала хутчэй, бы баялася, каб не сталі, не прывязаліся. Не ўцякала яна цяпер — заўважылі — можа толькі ад аднаго Хоні, хоць і да яго хілілася не вельмі. А так, можна сказаць, між людзей была Хадоська — або ў царкве, у якой слухала і малілася як мала хто шчыра, або на дарозе да царквы.

Яшчэ заўважылі ў Куранях, што пры такой непрыхільнасці да дарослых Хадоська аж дзіва гарнулася да дзяцей. Ахвотна бавілася яна з суседскімі, што вечна таўкліся каля яе, а сваіх малых брацікаў і сястрыц дык глядзела заўсёды, мілавала, бы матка. І карміла, і паіла, і мыла — і не адзін дзень, для прыліку, а ўсе гады — і з якою ахвотаю, з якою любасцю! Ігнаціха, Хадосьчына матка, нахваліцца ёю не магла.

А яшчэ злыя языкі казалі, што за ўсе гэтыя гады не было такога, каб Хадоська падышла к якой маладзіцы, у каторай груднае на руках. Казалі, бачыць не магла, чарнела тварам, уцякала падалей адразу. Усягоўсякага — калі было да гаворкі — казалі пра Хадоську: і было ў тых гаворках іншы раз і такое, што ў яе «не ўсе дома», што яна трохі, не інакш, «кручаная». І невядома яшчэ, чым яно ўсё кончыцца!

## 5

Хадоська ўночы багата думала пра Ганну, пра бяду яе. Ні ў думках, ні ў сэрцы не было ладу. То як бы спакайнела: не яе бяда, чужая; то гарэла злой радасцю: ёсць на свеце праўда, прыйшла кара; то раптам, чулая, кволая, спачувала: бяда такая! Жаль кволіў, калі думала, як Ганна недзе б'ецца над дамавінай, над белай горкай магілы; ужо, здавалася, гатова была з даўняй, нібы жывой яшчэ таварыскасцю дараваць усё, але амаль кожны раз думкі цямніў Яўхімаў цень, і ў чулы жаль яе ліўся горкі струмень, вёў у душу супярэчлівасць, незмірымасць. Незмірымасць большала, камянела, калі ўспамінала сваё бедаванне, сваё малое, якое нібы зноў трацiла...

У такой супярэчлівасці і ўбачыла Хадоська Ганну, якую везлі назад Чарнушка і мачыха той жа дарогай паўз лес. Хадоська была блізка ад дарогі, і Ганна добра відна была: сядзела на калёсах, па-старэчы згорбленая, ашчаперыўшы рукамі калені. Рукі былі сашчэплены так, што здалося — не разарве ніхто. Навек. І сама сядзела так, бы не выраўняецца век. Яшчэ заўважыла Хадоська: вочы былі згаслыя! Як сляпыя! У той момант Хадоська не думала нічога, толькі глядзела, чулая і збянтэжаная. Яна нібы нанава бачыла Ганну. Чарнушка раптам з калёс пакланіўся ёй, неспадзеўкі твар яго скрывіўся болесна, ён правёў рукавом па вачах, адвярнуўся. І яго паклон і слёзы яшчэ далі Хадосьцы збянтэжанасці.

Збянтэжанасць і вінаватасць жылі ўвесь той дзень. Ці грабла сена, ці зносіла яго ў копы, чула сябе вінаватай перад Ганнай, перад светам, асабліва ж перад богам, які, ведала, бачыў усё, што яна думала! Праўда, вінаватасць і цяпер жыла не адна: час ад часу і цяпер лезла, блытала ўсё бязладдзе пачуццяў і думак...

Увечары, толькі сцямнела, да воза, дзе яна вячэрала з бацькам, прыплёўся Міканор. Прыходзіў ён не першы раз, надзелы былі блізка, але Хадоська глядзела на яго рэдка і строга. Часам чула на сабе яго важкія позіркі, сціскалася і тулілася, хмурачы бровы, чакала, што будзе далей. Далей не было нічога. Міканор нібы таіў штосьці, ставаў, цягнуўся к свайму табару. От і ў гэты вечар курыў, гаманіў з бацькам пра надвор'е, пра сена, лагодна, цярпліва спрачаўся за калгасы: калгасы, пабачыце, дакажуць сваё! Гаманіў, а Хадоська час ад часу чула ўпоцемку — зноў глядзіць на яе! Спрэчку не скончылі і ў гэты вечар: бацька, упарты, гатовы ўскіпець, схамянуўся, што коні не поены, ахвотна знік упоцемку. Хадоська насцярожылася.

— Чаго ето ты Хоню мучыш? — прамовіў Міканор не адразу і не лёгка. Нібы заступіўся: — Ходзіць столькі! І такі хлопец!.. А ты мучыш!..

— Няхай не мучыцца! Я не прашу!

— Дак любоў жа не ад таго... просяць ці не просяць... Яна сама — як зараза якая...— За ўсім гэтым Хадоська чула нешта важкае, стоенае, як і яго позіркі.— Ці ты не любіш яго?..— Яна прамаўчала: знарок стала корпацца ў возе, быццам ладавала пасцель. Ён

стаў побач, узяў яе за руку.— Ці мо... я табе падабаюся?

Ён спрабаваў жартаваць. Але Хадоська чула, што гэта не смешкі, і ёй было пагана. І яшчэ чула яна, які ён дробны, бяссілы перад ёю, Міканор, якога так не любіў і пабойваўся яе бацька. Ён, праўда, не аддаў руку, калі яна хацела ўзяць,— знарок, з мужчынскага гонару, сціснуў дужэй. Абняў дужаю рукой. І ўсё ж Хадоська чула сябе мацнейшаю, варухнула непрыхільна плячыма, і ён нехаця выпусціў. Адышоў, закурыў папяросу.

— Не падабаюся, значыць?..

Яна не адказала. Тут пачулася бесклапотнае пасвістванне — хтосьці ішоў да іх; яшчэ да таго як той падышоў, абое ведалі ўжо: Хоня. Хоня бліжэй перастаў свістаць, паздароўкаўся ціха, стрымана. Толькі калі Міканор адказаў, зарагатаў:

— А я думаў — бацько!..

Ён жартаваў, рагатаў, як бы і заўважаць не хацеў, што Міканор сёння асабліва ж маўклівы. І тое, што Міканор хутка развітаўся, падаўся ў цемру, таксама зразумеў па-свойму. Стаў дурэць, хапаць за рукі, абдымаць, як хапаўся, абдымаў кожны раз, ледзь выпадала астацца ўдваіх і ўпоцемку. Яна вырывала рукі, выкручвалася, а ён — быццам так і трэба было: хапаўся зноў, туліў, смяяўся.

— Дак калі ж жаніцца будзем? — спытаў можа ўжо дваццаты раз. Яна прамаўчала, але ён хоць бы трохі пакрыўдзіўся ці спахмурнеў; вясёла, бесклапотна, не першы раз пастрашыў: — Не маладая ж ужэ! Састарышся!.. Не возьме ніхто!

— Няхай не бярэ!..— Яна бы і не думала смяяцца.

— Звякуеш адна!

— І звякую!.. Страх які!..

— Дурная! — сказаў ён цвёрда. Усё-ткі намогся, абняў яе, прытуліў. Яна паспрабавала вырвацца, але ён лагодна, весела ўтрымаў. Дужаючыся з ёю, з добраю насмешкай пацікавіўся: — Лепшага хочаш дачакацца?..— Лагодна ж, цвёрда заявіў: — Лепей за мяне не знайдзеш!

— Унё! Лепшы на ўвесь свет!

— Лепшы!..— Ён сказаў так, нібы здзіўляўся, што ў гэтым можна яшчэ сумнявацца.— Лепей не знайдзеш.

Няма на ўсім свеце, ей-бо! Ніхто так любіць не будзе!..

— Усім вы так кажаце!

— Я? Я — нікому! Табе толькі! Знаеш жа!

Яна перастала ўжо рвацца, калі ў цемры пачулася нядобрае: «Г-гым!» Постаць была так блізка, што Хоня адразу сам выпусціў Хадоську, якая ўхапілася папраўляць касу. Хадоська з сорамам чакала: бацька бачыў і чуў усё. Момант маўчалі ўтраіх. Хоня першы выступіў: не павінаваціўся, а так, што не было чуваць і знаку разгубленасці, раптам сказаў задзірыста:

— Аддалі б вы Хадоську, дзядзько!

Бацька, абураны тым, што пабачыў, і не першы раз тым, як трымаецца з ім гэты нахаба, не зразу знайшоў, што адказаць.

— Ужэ ж гаварылі, нібыто!..

— Дак я, дзядзько, усе адно як забуў тое.

— Дак шчэ раз скажу,— даў волю гневу свайму Ігнат.— Не будзе маёй бацькоўскай згоды! І не надзейся!

— Уларты ж вы, дзядзько...— Хоня бы пашкадаваў Хадосьчынага бацьку: сказаў як старэйшы, разумнейшы!

— Ну, які ты жаніх! — аж закіпеў бацька.— Які ты жаніх! Ты не бачыш?

Хадосьцы не спадабалася гэта, самой захацелася запярэчыць: нашто казаць так. Хоня, калі б толькі ў гэтым клопат, жаніх непаганы — не тое, што не горшы, а лепшы за другіх. Нашто казаць няпраўду? І наогул — які б ні быў ён, Хоня, не трэба казаць такое: не трэба крыўдзіць за нішто чалавека!

— Дзядзько, жаніх я цяпершнім часам,— у Хоневым голасе — усцешылася Хадоська — не было і знаку крыўды,— першы на ўсе Курані.— У яго ціхай гаворцы чуліся такія годнасць і ўпэўненасць, што Хадоську ўзяў нават гонар за яго.— Цяпер для такіх, як я, усё і робіцца.

— Яна ж з голаду апухне ў цябе! — кінуўся злосна бацька, і Хадосьцы зноў захацелася заступіцца за Хоню: Хоня не гультай, і не трэба папракаць за беднасць...

— Дзядзько, скора будзе калгас. Я там буду першы багацей. Пабачыце.— Тут Хадосьцы здалося, што Хоня як бы аддзяліў сябе ад яе. Думкаю пашкадавала, па-

пракнула: не трэба было пра той калгас. Але, каб і хацела спыніць яго, мабыць, не змагла б: Хоня таксама, хоць і здаваўся спакайнейшы за бацьку, запаліўся ўжо спрэчкаю: не саступіць так сабе; і праўда, упартасць, непахіснасць чуліся, калі сказаў: — Пабачыце, дзядзько!..— Ён, як бы ўжо не цураючыся і прымірэння, дадаў разважліва: — А малыя — ужэ ж падрастаюць. Сястра — дак нявеста, можна сказаць...

— Не аддам! — коратка, як канчатковае, адрэзаў бацька.

Хоня момант маўчаў. Упарта ж, непахісна заявіў:

— Аддасце!

Бацька ад такога нахабства ашалеў.

— Не аддам!

Хоня, здалося, усміхнуўся.

— Аддасце!

Хадоська, слухаючы гэта, аж перастала дыхаць. Ужо не спачувала, а дзівілася Хоню, яго смеласці з бацькам, яго ўпэўненасці, што ўсё будзе так, як ён хоча і думае. Хадоську не абурала гэта, ёй нават прыемна было тады слухаць гэта. Потым ужо яна падумала, што Хоня дарэмна не саступіў: толькі раззлаваў бацьку.

Доўга пасля таго, як Хоня развітаўся, сышоў у цемру, бацька кіпеў, бурчаў: «Жаніх, жаніх!», «Аддасце...» Ён так лаяў Хоню, што Хадосьцы аж было шкода Хоні, аж хацелася не раз заступіцца за яго. Але яна не казала нічога, не хацела гаварыць попусту; у яе былі свае думкі пра Хоню і свая воля...

І ў гэту ноч не спалася ніяк. Не было адбою ад нагол-камароў, ад думак. У думкі пра Хоню, пра Міканора, пра тое, што доля ўжо яе — звекаваць адной, раз і другі лезлі згадкі пра Ганну, пра Чарнушкаў паклон. Убачыла зноў Захарыху, бальніцу, Яўхіма.

Зноў запяклі думкі пра сваё малое, пра бяду, якой ужо не паправіць ніколі. З болем увайшла зноў непрыхільнасць не толькі да Яўхіма, а і да Ганны. У цвярозлівым одуме хацела стрымаць сябе: помніла — радавацца чужой бядзе — грэх; вінавата захрысцілася.

«Божачко, злая я, злая,— каялася з адчаем яна.— Што мне рабіць, парай, памажы мне, божачко! Няма дабраты ў мяне. Не магу забыць, не магу!..»

РАЗДЗЕЛ ЧАЦВЁРТЫ

## 1

Аднойчы ранкам на лузе паявілася таратайка.

Ледзь яна выкацілася на балота з лясной дарогі, адразу зацікавіла: далікатная, прыгожая, незвычайнаю была тут сярод адных вазоў: здалёк відаць было — прышыўся нехта чужы, нехта з начальства ці ▪ упаўнаважаных. Праўда, побач з чужым, пазналі, спакойна хітаўся Міканор, але цікавасць ад гэтага не толькі не паменшыла, а стала вастрэй. Міканор сам цяпер быў начальства, хай сваё, невялікае, але ж начальства. Усё важнае, што прабівалася ў Курані, ішло цераз яго; нешта важнае, невядомае кацілася і цяпер, чулася, з гэтай гарадской каляскай...

Таратайка пракацілася па дарозе ўскрай балота, паўз самы лес і стала каля Міканоравага надзелу. Тут і Міканор і чужы сышлі з таратайкі, распрэглі каня, пусцілі пасвіцца. Шкода, невядома было, пра што там гаварыў прыезджы з Дамеціхаю, з Дамецікам, які падышоў з касою на плячы; затое бачылі ўсе: прыезджы скінуў гарадскі пінжак, верхнюю сарочку, забраў ці не сілаю ад Дамеціка касу і пайшоў сам да травы. Побач з ім падаўся таксама з касой Міканор, а па другі бок — Дамецік, нібы збянтэжаны.

Дайшоўшы да травы, прыезджы скінуў касу, памянташыў. Размахнуўся касою раз, другі, пайшоў роўна. Касіў звычна, упэўнена: відаць было, што браўся не першы раз. І ўсё ж, кожнаму відно было, прыезджы — не касец, і не толькі адтаго, што прыбыў на гарадской калясцы, а і па тым, як стаяў, дзівіўся на памочніка свайго Дамецік, як завіхалася ля агню са сняданкам Дамеціха. Вельмі ж борзда бегла потым да касцоў, гасцінна прасіла аб нечым прыезджага. Звала, пэўна, падсілкавацца.

Прыезджы з Міканорам укленчылі каля воза, перакусілі і зноў узяліся за косы. Пакуль можна было касіць, махаў касою госць побач з Міканорам, не памагаў ніяк куранёўцам дайсці да нейкай разгадкі. Праўда, асоба самога прыезджага хутка была высветлена, бліжнія ад Міканора пазналі, а хто быў далёка — пачулі, што прыезджы не хто іншы, а старшыня райвы-

канкома Апейка; але сэнс загадкі акалічнасць гэта не толькі не праясніла, а як бы заблытала больш: чаго ён тут, дапаў аж да мокуцьскага балота; чаго не выказвае кіраўнічай сваёй справы, а махае Дамецікавай касой! Не было б ужо такога дзіва, каб ён, калі ўжо такі прыткі, дабраўшыся сюды, загадаў, як належыць начальству, сабраць усіх, загадаў бы памаўчаць і стаў бы гаварыць пра палітыку, пра тое, што трэба выконваць куранёўцам, каб не быць у даўгу перад дзяржавай; стаў бы, як другія, расхвальваць калгасы, заклікаць ісці ў іх. Ён жа не загадваў, ён махаў і махаў касою, як бы другога і клопату не было; таіў, што прывяло яго ў гэту далеч...

Ранак быў сонечны, балота ўсё аж нібы зіхатліва дымілася; людзі толькі паглядвалі, гадалі, але не спыняліся — касілі, варушылі рады, як буслы, рупліва бялелі па ўсёй шырыні балота, на якім тырчала ўжо нямала стагоў. Сонца пякло, трава прывяла, хто-ніхто кінуў ужо касіць, а гарадскі госць усё махаў і махаў касою, як бы тое толькі і трэба было яму.

Першая не ўтрывала Сарока: павесіўшы касу на дубок, напрасткі цераз рады, цераз някошанае падалася да Міканоравага памочніка. Стала побач, уткнула рукі ў бокі, важна прасачыла, як ён робіць. Ведала — усе, хто можа бачыць, сочаць за ёй.

— Што, цётка, правяраеце, які касец? — хітравата зірнуў старшыня. Ён выцер далікатнай далонню твар: пот еў вочы.

— Касец — не сакрэт — спраўны! — адгукнуўся ў тон яму Міканор.— Наняў — не шкадую! Касец — маладзец!

— Касец — ігрэц! Ды вельмі ж стараецца!

— Марку ж трэба трымаць! Штоб не зганьбіцца зразу!

— Перад кім жа ето — такі старатлівы?

— Як — перад кім! Перад гаспадаром! Перад Міканорам, дзядзькам Дамецікам!..

— Касец — маладзец! Не сумнявайцеся, цётка!

Сарока пільна кальнула Апейку:

— Агіціраваць за калгас прыбыў?

Апейка ўткнуў кассё, зноў нібы стаіў усмешку:

— Да не ж! Бачыце ж! Памагці от Міканору трэба! Па службе ж чалавек заняты, а бацька — стары!..—

Улавіўшы хітры, мудры позірк жанчыны, з усмешкаю ж, нібы даверліва, схіліўся да яе: — Ну, і, прызнацца, зарабіць хачу! Зарплата малая!..

— Саўсім збяднеў — год не піў, два — не еў! У чым толькі душа дзержыцца! — Сарока кпіла таксама гулліва: разумела жарты.— Што ж ето ўласць твая абяднела так?

— Ды ўлада тут ні пры чым! Дорага ўсё! — Апейка бачыў: за жартачкамі старая цікуе нешта, чакае; знарок сур'ёзна, заклапочана папрасіў: — Мо вам трэба помач?

Яна як бы і не здзівілася:

— Паможаш! З'арэш на далоньку, бяду навядзеш на Сарочыну галаваньку! Скосіш на якую пятку, драбніцу — кулачкаю назавеш маладзіцу! Маўляў, батракоў наймае! Сем патоў спаганяе!..

— Вам, цётка, не страшно! — засмяяўся ад Сарочыных прымавак Апейка.— Вам зробім выключэнне: у вас асобыя ўмовы, вы — удава!

— Удава — сама сабе галава! А як зачнецца калекцівізацыя, дак не паглядзіце, скажаце: ісплуатацыя!

— Дак, можа, цяпер і мне эксплуатацыю прыпішуць? — жартам напалохаўся Міканор.

— Упішуць! Сама ў сельсавет пайду! Начальству ў вушы нагуду!

Якой ні паказвала вясёлай сябе Сарока, пайшла назад яна, чуў Апейка, недавольная: так нічога толкам і не ўведала! Неўзабаве за ёй наведаўся Андрэй Руды; курыў, разважаў аб вялікай палітыцы, асцярожна, дыпламатычна падступаўся таксама: якія важныя справы прывялі сюды старшыню райвыканкома. Гаманіў, мітусіўся Зайчык; маўчаў найбольш, уважліва, удумліва слухаў Чарнушка; гасцей за дзень перабыло ў Апейкі нямала. Ён усё пасмейваўся, запэўніваў: памагчы Міканору прыехаў, і зарабіць трэба. Ён бачыў, што ніхто не верыць яму, і быў давольны той загадкавасцю, якая ўсё расла вакол яго і надавала яго візіту ўсё большую цікавасць. З гэтай загадкавасцю расло нібы і значэнне яго прыезду сюды.

Не было нічога дзіўнага ў тым, што надвячоркам, калі стала спадаць дзённая ліхаманка, людзей зноў пацягнула да Міканоравага агеньчыка. Пацягнула далёка не ўсіх, багата хто з гаспадароў непахісна прырос

да сваіх вазоў, сваіх надзелаў, як нейкіх рубяжоў абароны, насцярожана цікаваў здалёк, нібы чакаў варожага нашэсця. Агні, што чырванелі па ўсім балоце, нагадвалі Апейку табары часоў вайны; як калісьці пад Рэчыцаю або пад Мікашэвічамі... Перад боем...

Мабыць, нямала ад каго з тых, што сядзелі ў абароне каля вазоў, сышліся да Міканоравага агеньчыка жонкі. Жанчын якраз і было найбольш між тых, хто акружаў Апейку. Яны трымаліся разам, то гаманілі між сабой, то прыслухоўваліся да таго, што гаварылі мужчыны з начальнікам; найбольш Андрэй Руды, які дабіваўся нейкага «навучнага» падыходу...

— Дак скора ў калякцію нас пагоняць? — уламалася раптам, знарок недалікатна, Сарока. Апейка заўважыў — на людзях яна як бы выхвалялася сваёй грубаватасцю: глядзіце, маўляў, якая я смелая!

Яна абрэзала Андрэя, абуранага яе некультурнасцю, знарок некультурна паўтарыла:

— Скора?

Апейка спакойна, зморана, з нейкай млявай усмешкай, сказаў:

— Не скора.

— Не скора? — Сарока на момант разгубілася: не чакала такога. Жанчыны захваляваліся.

— Не скора.— У цішыні, гатовай выбухнуць, дадаў: — Саўсім не будуць. Гнаць — не будуць.

— Няўжэ? — выказваючы ўсім мудрасць сваю, не паверыла Сарока. Не тое, што не таіла, знарок выстаўляла: не верце ніхто; я не веру, і вы — не верце!

Жанчыны, гатовыя паспакайнець, насцярожана прымоўклі. Глядзелі на Апейку, чакалі.

— Не будзем. Самі прасіцца будзеце, прыйдзе пара!

— Аге! — насмешліва адгукнулася Сарока. Яе весела падтрымалі.

— Будзеце! — прарочая ўпэўненасць Апейкі прымусіла прыціхнуць.

— Ды мы шчэ паглядзім: прымаць ці не прымаць! — памог Мікалор.

— Цётку Аўдоццю — адставіць трэба зразу! — падаў звонкі голас Хоня.— Штоб папапрасілася!

— А як не будзем прасіцца? — выскачыла наперад Сарокі гарачая Чарнушчыха.

— Папросіцеся! Пабачыце, дзе выгада,— папросіцеся! Кожны ж дабра сабе хоча!

Тут завіраваў нецярплівы, бязладны гоман. Здавалася, ніхто нікога толкам не слухаў, усе гаварылі, часам крычалі, кожны выказваў сваё, перадуманае, гаворанае ўжо не раз, але неадступнае, балючае; сыпала нейкімі прымаўкамі Сарока, аж гарэла Чарнушчыха, круціўся, блазнаваў Зайчык. Апейка і не заікнуўся, каб перабіць галас, рынуцца абараняць, даказваць сваё, смактаў сабе папяросу з газеціны, змораны, абыякавы нібы. Гэта злавала і разам бянтэжыла; гоман то ўскідваўся люта, то ападаў без сілы — неўзабаве і зусім апаў.

Як апошні зык ветру, што прамчаў над лесам, было недавольнае, здзіўленае:

— Нашто ето ў калякцію усіх канешне?

На шчаках Чарнушчыхі палалі два неспакойныя кругі, вочы зырчэлі, дакаралі.

Андрэй Руды памог Апейку, тонам дасведчанага цярпліва растлумачыў:

— Калякцію — ето штоб нужду сялянскую адолець лаўчэй. Рычаг, так сказаць.

— Ты, Андрэй, памаўчы! Самі знаем — што рычаг!.. Не цябе пытаюць!

Апейка выпусціў з рота дым, збіў пальцам з папяросы агарак. Зірнуў спакойна і як бы не разумеючы.

— Дак вам жа, пэўна, гаварылі — нашто?

— Гаварылі-то гаварылі. Ды мы нешта не даўмелі.

— Нешта не можам даўмець!

Бачыў, разумеў: чакалі, спадзяваліся — можа што новае, не чутае ні ад каго, скажа, мо тайну якую, нікім не паказаную, пакажа. Чакалі — бачыў па вачах, якія сачылі за ім,— хто з надзеяй, хто з недавер'ем, хто непрыхільна, але чакалі не абы-як. Чакалі — як усюды ў гэтыя дні. У другім радзе раптам убачыў дзіўна знаёмы твар; успомніў мігам, пазнаў: той, што сядзеў некалі ў каморцы за маслачкоў, Васіль Дзяцел. У вачах хлопца ці ўжо мужчыны была і надзея і насцярожанасць; насцярожанасць неяк асабліва кідалася, мусіць, адтаго, што пазіраў знаёмы спадылба. «Глядзіць усё так жа...» — прайшло мімаволі ў думках.

— Чаго ж тут не даўмець такога? — нібы здзівіўся, стараючыся прыдумаць, як завязаць далей гаворку.

— Ды от не можам...

Памаўчаў. Было чуваць адно, як гугняць камары. Ламала рукі, спіну — пытанне само папрасілася:

— Умарыліся?

Не чакалі гэтага, не зразу быццам і зразумелі.

— Чаго тут. Ведамо...— адгукнулася некалькі галасоў. Сярод іх, заўважыў, адзін быў Дзятла Васіля. Адзначыў сабе між іншага: глядзіць на яго, як на знаёмага, не адракаецца. «Але давер'я — небагата...»

— І я. Я дык, можна сказаць, зусім... запа́рыўся...— Варухнуўся, не таіў: жалезная спіна, ліха на яе, балела — як утрываць! Ён з вінаватай, кплівай усмешкай пакруціў галавою, перад усімі прызнаў кволасць сваю: — Запарыўся!..

— Ето я запарыў! — засмяяўся, паспрабаваў падтрымаць Апейку Міканор.

— Стараўся вельмі! — сказаў Дамецік.— Не перадыхнуў ні разу!

— Не кажыце няпраўду, дзядзько! І перадыхаў, і рабіў не болей за ўсіх! Работнік проста не дужа!.. І работа — ліха на яе!

— Адвык, факцічаскі, ад сельскаго труда!

— Ето — не ў канцылярыі! — нібы падтрымаў Дзяцел.

— А сабіраўся шчэ на работу наймацца! — без злосці напомніла Сарока.

— Сабіраўся — прызнаю! Было такое! І цяпер не адмаўляюся: от пасплю, акрыяю! І — калі ласка, бярыце! Толькі — каб заплацілі добра! І — каб харчы! І тлушчы каб, і мяса!

— Аге, захацеў! З такімі харчамі я і сама рабіла б днямі і начамі!.. Ды й шчэ што ты там зробіш! Мо не так зробіш, як з'ясі!

— Рабіць буду, не шкадуючы спіны! Толькі ж самі знаеце — работа не лёгенькая! Папамахаць касою, устаўшы ні свет ні зара!.. Бо вы ж, мабыць, спаць не дасце!

— Не дам!

Апейка перачакаў смешачкі, загаварыў, нібы і не жартаваў зусім:

— Махаць касой — то ж яшчэ не ўсё. Самі ведаеце. Трэба ж будзе і насілкі цягаць цэлы дзень!

— Ды ў такую гарачыню, не сакрэт!

— Дарагі ты парабак, чалавеча! Дарагая торба — не варта на яе горба! Пакланюся богу, другога папрашу на падмогу!

— Работа, цётка Сарока, дарагая! Акурат — для горба! Нажыву там ці не нажыву што ў вас дзэткам сваім, а горб, мусіць, будзе!

— Будзе! Не мінеш!

— Сагне ў крук!

— Труднае, факцічаскі, сялянскае дзело! — філасофскі абагуліў Руды.

— Цяжкае. Не шкодзіла б і аблегчыць! — згадзіўся Апейка. Ён раптам адчуў, як спала млявасць зморы, як бярэ запал. Сказаў горача: — Не шкодзіла б! Думаеце, акрамя вас, не баліць гэта нікому?

— А то — баліць?! — кінуў Дзяцел.

— Баліць.

## 2

У Апейкі была загана, якую ён ведаў у сабе і якую стараўся стрымліваць. Ён вельмі любіў тлумачальныя падрабязныя гутаркі-прамовы. Схільнасць гэтая развілася і разгарнулася ў ім асабліва з той пары, калі яму выпала на долю стаць чырвонаармейскім агітатарам, адным з першых пачынаць новае ў родных мясцінах. Чалавек дапытлівы, адукаваны сваёй цікаўнасцю і газетамі, ён звычайна ахвотна дзяліўся тым, што ведаў, цешыўся той сілаю, якую чуў у сваіх ведах і ўменні дзейнічаць на людзей.

Але і тады, і асабліва пазней, калі стаў валасным і раённым кіраўніком, Апейка ўведаў і тое, што ўсякае слова мае сваю цану, што яно тым даражэй, чым больш у ім вагі. Вялікі жыццёвы вопыт вучыў, што каму-каму, а яго амаль заўсёдным слухачам — сялянам — патрэбна нязменна: канкрэтнасць, дзелавітасць, яснасць.

— Ёсць ужо нямала машын,— дзелавіта сказаў ён.— Добрых машын...

У хісткім чырвоным святле ад агню Апейка стаў расказваць, якія машыны бачыў нядаўна ў Мінску — выпушчаныя для сялян. Вось паказвалі ў рабоце конную касілку: няхітрая нібы рэч, а як лёгка працаваць на ёй. Кіруй адно са зручнага сядзення, слухай толькі, як бегаюць, чыкаюць спрытныя зубы-ножыкі, падраза-

ючы траву. А ці не прынада тыя конныя граблі: сядзі адно ды пацягвай сабе ручку, пружыністыя жалезныя граблі-вілы будуць кідаць ззаду ледзь не цэлыя копы. Касілкі і граблі пакуль што тут не ўсюды можна пусціць, але багата дзе яны могуць рабіць. А малатарня трактарная — пабачылі б: аграмадзіна — як прыпяцкі параход, гумно добрае снапоў змалоціць — не агледзішся! Ну, а машына, што капае бульбу: ёсць і такая — бульбакапалка; гэта дык проста такі цуд, іншага не скажаш!..

— Цуд-то цуд! Ды грошай — пуд! — першая вярнула людзей на зямлю Сарока. Апейку зноў кінулася на ўвагу: Дзяцел, у вачах якога толькі што праз недавер'е прабівался захапленне, кіўнуў згодна — правільна кажа!

— Пуд — не пуд, а сёе-тое каштуе! — Апейка не спрачаўся.— Адзін бядняк не купіць!

— Ну, от, от! Я ж і кажу! — Дзяцел цяпер не кіўнуў — вачыма, якія неяк павастрэлі, чакаў, пільнаваў: што будзе далей.

— У тым і фокус: адзін не разгонішся!..

— А нашто вам адной такія машыны! — перабіў Міканора, здзіўлена зірнуў на Сароку Апейка.— Каторым з іх сяла цэлага — небагата!

— Усё —калякцыў, калякцыў! — прарэзліва, са злосцю і адчаем уварвалася Куліна Чарнушкава.

У момант цішыні, увагі як і не было. Зноў гаманілі запалена, без ладу, даказвалі Апейку, Міканору, Хоню, адзін аднаму: «Які калякцыў, калі адзін — адно, а другі — нібыто — другое!» — «Ето ж калі б усе адно цягнулі!» — «Адзін спіць, другі — у носе круціць пальцам, а ты — перарывайся!..» — «Землю аддай, гаспадарку!..» — уплёў у гоман сваё Дзяцел — набалелае, нібы злоснае.

— Гаспадарка там у каторага! — плюнуў з абурэннем Міканор, ледзь апаў гоман.— Палоска — як лапцем стаць! Конь — здыхляціна! А дрыжым, крычым! Бы палацы прападаюць!

— Здыхляціна не здыхляціна, а свая! — Дзяцел, бы яго абразілі, і не першы раз, здавалася, гатоў быў схапіць Міканора за́грудкі. Людскі гоман ухваліў Дзятла.

— Апейка падтрымаў разважна, не Міканора — Дзятла, іншых:

— Багатаму жаль карабля, а беднаму — кашаля!

— От, праўда! — заківалі, загаманілі вакол агню. Дзяцел упяў у Апейку няцямны гарачы позірк, апаў гневам, пасвятлеў.

Апейка перачакаў шум ухвалы, памаўчаў, чуючы зноў на сабе агульную ўвагу. Як бы падумаў:

— А толькі і за кашэль трымацца лішне не трэба! Калі, скажам, карабель выменяць можна!

— Дак калі б жа знаць добра!

— Або выгадаеш, або без нічога астанешся!

— І кашаля не будзе! — дакладна выказаў трывогу Васіль.

— Не прагадаеце! — спакойная ўпэўненасць яго, заўважыў Апейка, багата каго бянтэжыла.— От я казаў ужо — машыны. Гэта — адно. Тут усё ясна: палучыце крэдыт, возьмеце машыны... Другое — зямля. Якая яна ў вас, не вам казаць: балота ды пясочак найбольш...— Ніхто словам не запярэчыў — той кіўнуў сумна, згодна, той уздыхнуў.— Ураджай, самі знаеце — ураджай на зямлі нашай — вядомы! Бывае, і таго не сабярэш, што кінеш у зямельку такую... А яна ж і не такая безнадзейная, і ад яе дабіцца можна нечага. Калі падступіцца як трэба. Да зямлі таксама — самі знаеце — падыход трэба ўмелы! Трэба ўгнаенне! Багата і рознага ўгнаення... Знаеце, сколькі палучаюць ужо на такой зямлі ў калгасах?..

Людзі верылі і не верылі, але слухалі так, што забывалі і пра ўтому, і пра камароў, і пра ноч, хуткі час мёртвага сну. Цемра то насядала на самае вогнішча, то адскоквала так, што відно было блізка нерухомае, бы зачараванае, галлё дуба. З цемры выпаўз нечы конь, стаў, выцягнуўшы храпу, глядзеў на агонь, як бы таксама слухаў. Васіль, і не адзін ён, дзіву даваўся, адкуль столькі ведаў юравіцкі госць: і колькі дзе зямля родзіць, не толькі ў нас, а і на Украіне, і ў нейкай Галандыі, і чаго недастае глебе; і якія багацці тояцца ў гіблым гэтым балоце, з якога пакуль адна толькі «карысць» — камары ды хвароба малярыя! Нібы свет цэлы сышоўся сюды, к Дамецікаваму агню: сотні калгасаў былі навакол, тысячы людзей нібы стаялі, глядзелі на іх, чакалі іх адвагі, звалі за сабою. Як бы падышлі

сюды, к Мокуці, к агню, і добра знаёмыя Юравічы, і не такі знаёмы, далекаваты быццам Мазыр, і ўжо зусім загадкавыя, толькі часам чутныя ў гаворках дасведчаных людзей Харкаў, Растоў, Чалябінск. Па ўсёй краіне стараліся для сялян, для калгасаў заводы, рабілі трактары, малатарні, веялкі, рыхтавалі ўгнаенне. І ўсюды, у кожным сяле, па ўсёй зямлі шырокай, людзі трывожыліся, думалі пра калгасы; абагульнялі скаціну, маёмасць, злучалі ў вялікія палі цесныя палоскі, перарвалі межы. Разам ішлі ваяваць з векавечнай сялянскай бядою...

— Толькі ў арцелі, у вялікай, на ўсё сяло, сям'і — ратунак. Толькі так збудзем злыбеду — нішчымніцу і галечу. Даб'ёмся такога, што будзе хлеб на стале — і да хлеба будзе! І самі і дзеці адзенемся як людзі. Лягчэй рабіць станем... Іначай не выб'емся! Толькі так: разам усе. Арцеллю.

Апейка спасцярожліва, з-пад броў зірнуў на аднаго, другога — людзі яшчэ нібы слухалі. Нібы чакалі яшчэ чагосьці. Позірк сустрэўся зноў з Васілём: той нелагодна адвёў вочы.

Міканор першы адгукнуўся:

— Адным словам, абстаноўка ясная. Народ па ўсяму Савецкаму Саюзу пайшоў у калгасы. Значыцца, і нам, куранёўцам, пара па таму ж маршруту!

— Аге! Зразу! — крыкнула Сарока насмешліва.

Андрэй Руды з важным выглядам, павучальна запярэчыў Міканору:

— Ето не так просто: усю Расію, факцічаскі, на новыя рэйкі перастравіць!..

— Расію-то пераставяць! — звонка заявіў Хоня.— От ці Курані павярнуць удасца — ето няясно!

— Няма тут нічого смешнаго! — зазначыў яму Васіль.

— Увесь народ рушыў, зразумеў, дзе яго ратунак,— ірваўся ў бой Міканор.— А мы бачыць нічога не хочам! Не хочам, хаця кажнаму, і сляпому, відно, дзе ўся выгада!..

Апейка адчуў: цішыня зрабілася насцярожанаю. Людзі неспакойна заварушыліся, хавалі позіркі, мужчыны сталі мацней дыміць папяросамі. Васіль Дзяцел хмурна кусаў травінку, унураны, непадступны.

Адганяючы неспакой, як бы стараючыся зноў вяр-

нуцца на вышыню адукаванага, перадавога чалавека, Андрэй Руды філасофскі згадаў:

— Ето шчэ Карл Маркс вучыў: пралетарам няма чаго цяраць, а набудуць яны цэлы свет...

— Карп! Карп той — адно, а тут — другое! — прарвала Сароку. Рудому не далі выкрыць неадукаванасць Сарокі: завіравала зноў гамонка.

— Дак і ідзі! Набувай! А мы пасядзім, паглядзім, як яно! — вылучыў Апейка нацяты Васілёў голас.

— Ну і — сядзі! А за другіх не кажы! — напаў, нібы загадаў яму, Міканор.

— А я за сябе! — не паддаўся Васіль.— Кожны сам знае!

«Моцны арашок!» — мімаволі падумаў Апейка, бачачы, якой упартасцю гараць Васілёвы вочы.

Калі выгаварыліся, Міканор зноў кінуўся ў атаку — заклікаць не адрывацца ад усяго народа, арганізаваць калгас у Куранях, але яго ўжо амаль не слухалі. Тыя, што былі ззаду, пачалі ціха і хутка хавацца ў цемры, разыходзіцца. Нібыта-Ігнат перабіў Міканора, нагадаў, што час позні, Сарока дадала, што пра такую важную справу цяпер і гаварыць няма чаго; іх дружна падтрымалі, і Міканору, бачылі ўсе, не было нічога іншага, як сесці ні з чым. Але ён не сеў, няўвага людская яго не толькі не астудзіла, а запаліла больш; адужваючы гоман, наперакор тым, што хацелі так сабе разысціся, урэзаў:

— Дак я заяўляю, што хваціць ужэ нам стаяць убаку. Штоб з сягонняшняга дня калгас буў і ў Куранях! І хто сягоння гатоў уступіць — няхай тут астанецца і запішацца! А хто не хоча, хто,— Міканораў запал прагнуў нейкіх асаблівых, моцных слоў,— хто проціў народа і мерапрыемстваў Савецкай улады — можа ісці дадому, спаць!..

Ён тут жа сам адчуў, што перагнуў, пагарачыўся лішне, але не паказаў нікому гэтага. Усе маглі бачыць: ён сказаў тое, што трэба, і якраз так, як трэба. Гэтых людзей праб'еш хіба інакш — далікатнымі гарадскімі слоўцамі!

Але людзей не прабіла і Міканорава прамова: не зважаючы на тое, што ў яго словах ды і ў самой яго постаці была яўная пагроза, большасць з тых, што ся-

дзелі яшчэ вакол, сталі дружна разыходзіцца, як бы атрымалі адно дазвол.

Надзеў кепку Андрэй Руды, але не ўтрываў, пад шумок некалькіх куранёўцаў зазначыў Міканору, што пагражаць народу — «факцічаскі» няправільна; Міканор заўважыў між іх ціхага, давольнага Андрэевай заўвагай старога Глушака, узлаваўся:

— Дзядзько, хваціць ужэ вашай балбатні! Або пішыцеся з намі, або ідзіце з дарогі!

— Я-то пайду. Але ето, так сказаць, не па-бальшавіцкаму!

Андрэй хутка, але хадою пераможцы падаўся за дзядзькамі. Ужо ў цемры ён зноў загаварыў да дзядзькоў, ды Міканор не змог разабраць нічога: Сарока яшчэ раз хацела ўпэўніцца ад Апейкі, што заганяць у калгасы не будуць. За Сарокай сышоў у цемру і Васіль, які сачыў за ўсім трохі зводдалі, недаверлівы, пільны.

Урэшце асталіся каля агню шэсць гаспадароў: Хоня, Алёша, Зайчык, Грыбок, Міканораў бацька, Хведар крывы ды некалькі цікаўных жанок; між іх асабліва ўпадала ў вочы нейкая ўрачыстая і вінаватая Зайчыха з малым на руках. Міканорава матка глядзела з вечнай трывогай, і спакойная пастава сястры, Хведаравай жонкі, Міканору была як уцеха.

Спачатку больш маўчалі. Было нешта новае ў тым, што чулі адзін да аднаго, была нейкая дзіўная, нязвычная паразумеласць, блізкасць. Было штосьці адзін да аднаго такое, быццам яны сваякі ўжо, браты і сёстры быццам. Гэтая блізкасць чулася мацней адтаго, што з вясёлымі надзеямі лез у думкі, у душу клопат, які ў некаторых станавіўся проста такі трывожнасцю: а як яно там будзе пазней, што выйдзе з усяго гэтага, якое пачынаецца тут парнай, душнай гэтай ноччу. Не дарэмна такі задуменны сядзеў крывы Хведар, ашчаперыўшы выслізганую мыліцу, не дарэмна так сціснуты былі бяскроўныя губы ў Зайчыхі. Ды і Зайчык быў не такі вясёлы, як хацеў здавацца.

Не аднаму чулася цвярозае: іх, якія тут асталіся, як сваякі, было вельмі ж мала, на пальцах адной рукі палічыць,— ледзь не ўсё сяло было не каля агню, не з імі. Калі Міканора асабліва тачыла тое, што столькі людзей не слухалася яго, як бы не верыла яго шчырасці, то Зайчыху і Дамеціху, самога Дамеціка трывожы-

ла, што з тых, якія нібы сачылі з цемры цяпер, не ўсе глядзелі зычліва, нават — не з простай суседскай цікаўнасцю. Былі там і такія, ведалі яны, хто кляў нема, хто скакаў бы з радасці, каб іх перуном спапяліла, каб ветрам развеяла, як заразу.

— Небагата,— нібы падумаў Апейка, абводзячы ўсіх такімі вачыма, як бы хацеў пабачыць, хто чаго тут варты.

— З нашым народам хіба зробіш што! — не стаў таіць Міканор расчаравання і нават злосці.— Гаворыш — усё адно як не людзям жывым, а пням у лесе! Дый пні, здаецца, угаварыць ужэ можна було б!

— Ето праўда,— падтрымаў ахвоча Зайчык.— Сем разоў напужаюцца, перад тым як асмеляцца!

— Бо й не так сабе ето! — Міканорава маці не ўхваліла Зайчыкавай весялосці.— Не абы-што. Пабурыць усё зразу, ды шчэ самому. Сваёй згодай...

— Нічога,— як бы давольны ўсім, як бы іншага і чакаць не было чаго, сказаў Апейка.— На адзін вечар, можа быць, і нямала! — Ён павёў вачыма на Міканора, яшчэ на аднаго, двух, усміхнуўся.— І важна — не адно, колькі салдат, а і якія! Якасць важна, от што! Тут жа — цвёрдыя, надзейныя кожны!

— Надзейныя! — падтрымаў Хоня.— Кожны дзесяці годны!

Кульгавы Хведар, што абдымаў усё сваю мыліцу, адгукнуўся:

— Ето ўсё адно як разведка.

— Не мало, ей-бо, не мало! — выскачыў Зайчык.— Уся хітрасць, браточкі, як лічыць! Калі толькі гаспадароў, то і праўда — не густо! А калі ўсіх — з дзецьмі,— то з маімі ды Хоневымі — паўсяла, не меней, будзе!

Хоня зарагатаў:

— Ето праўда! Будзе!

— Хваціць ужэ,— спыніў усмешкі Міканор, з твару якога не сыходзіла клопатнасць.— Не ранні час. Уставаць скора трэба будзе... Пра дзело давайце падумаем. З чаго і як пачынаць будзем... Зразу ж, не сакрэт, абагульняць скаціну і інвентар трэба: дак куды зводзіць і ставіць усё будзем, трэба рашыць... Трэба выбраць лепшыя хлявы для кароў і коней і павеці для калёс... Я тут падумаў ужэ, намеціў, дак давайце памяркуем, пастановім...

— А як з курамі, не сказано! — перабіла яго раптам Грыбчыха.— Курэй аставіць трэба!

— І курэй, як і ўсякую жыўнасць, будзем абагульняць,— спакойна, цвёрда заявіў Міканор; але вярнуцца да ранейшай гаворкі яму не ўдалося ўжо — выбухнуў бязладны і гарачы жаночы гоман. У гоман гэты ўчапілася і некалькі мужчын.

Гоман сціх толькі тады, калі Апейка сказаў, што з курамі пакуль што пачакаць можна. Міканор намерыўся далікатна запярэчыць Апейку, пасарамаціць жанок за адсталасць, як Грыбчыха, распаленая гамонкаю, крыкнула:

— І калі ето будзе, тое ўсё абагульненне? Кажа, як усё адно заўтра хоча рабіць!

— Заўтра і зробім! А калі ж? — Міканор сказаў так, як гавораць на неразумную заўвагу. Але Грыбчыха нібы толькі гэтага і чакала:

— Заўтра! Як жа ж ты пачнеш, калі ўсе ў балоце! Калі гаспадарка ў сяле — чорт ведае дзе!

— Аге, не ехаць жа ў сяло, кінуўшы ўсё тут! — падтрымаў жонку Грыбок.

— Трэба, пакуль пагода, ухапіць,— неспадзявана згадзіўся і імі Алёша, што амаль увесь час маўчаў.— Як там яно будзе далей — бог ведае, а пагоду трэба ўхапіць.

— Дак што ж — калгас адкласці?!

Алёша не глядзеў на Міканора, корпаў сукам чорную зямлю. Міканор аж кіпеў ад такой здрады, але Алёша сказаў упарта:

— Няма калі цяпер. Пагоду ўхапіць трэба.

— Дак ето ж, можно лічыць, і не адклад,— як бы хацеў прымірыцца Грыбок.— Згаварыліся ж разам буць. Упісаліся. І не выпісуваемся!.. Толькі што — пара такая!

— Ухапіць трэба. Пакуль не позно.

— Пакасіць, пажаць! Як е! Па аднаму! — Грыбчыха крыкнула так, што ўсе пачулі: хай хоць што — не пераменіцца.

— А малаціць ужэ разам...— асцярожна памог ёй Грыбок.— Малаціць — там не гарыць так.

— Дак ето значыць — зноў як аднаасобнікі?! — Міканор не таіў абурэння. Чуў за ўсім гэтым не так клопат пра пагоду, як хітрасць, кажучы па-ваеннаму —

манеўр: пасядзець яшчэ, паглядзець, што будзе з усяго.

Апейка заступіўся за яго, спакойна, мірна стаў даводзіць, што адкладваць надоўга неразумна, што трэба новы будынак ладзіць хутчэй, не адкладваючы. Але ці то адтаго, што гаварыў ён так, нібы і сам не цвёрда верыў, што спяшацца трэба, ці то ад людской упартасці — і яго не паслухаліся.

— Можно памагці таму, каму вельмі трудно будзе,— як бы павінаваціўся перад Апейкам і Міканорам Алёша.— Усё адно — што ў арцелі.

— Такі праўда, мабуць: абагульненне лепей — калі сажнем! — разважліва, ціха сказала Вольга, Міканорава сястра.— Кеб з толкам, кеб зладзіць як трэба. То ж не так просто знайсці тут, хто тых кароў ды курэй даглядаць будзе! А сколькі ўсяго другога — калі людзям дыхнуць няма як!..

— І калгасаўскім коням, дзетачкі, сена трэба будзе даваць! — уставіў Зайчык, які найбольш сачыў — не ведаў, да каго лепш далучыцца. Ён гатоў быў далучыцца да Міканора, але баяўся, каб не падумалі, што ён шукае адну сваю выгаду.

— Міканор, людзі кажуць праўду! — раптам проста і весела рассек вузел Хоня.— Абагульняць трэба, калі палягчэе трохі! Паспеем! Усё толькі пачынаецца!

— Усе ўжэ даўно пачалі — у другіх сёлах!

— І мы, бачыш жа, пачалі. Запішы ўсіх, што, значыць — уступілі. Што — калгаснікі. Што — калгас пачаўся.

— Дак ето ж як абман.

— Ніякага абману няма. Дагаварыліся. Пастанавілі. Падпісацца можам. І памагаць адзін аднаму будзем, як усе адно калгаснікі.

— Памагаць — трэба! — не ўтрывала Зайчыха.

— Будзем памагаць і сена касіць, і жаць. А малаціць будзем ужэ і саўсім разам!

— Разам,— пайшоў услед ухвальны і, можна сказаць, дружны гоман.

Міканорава расчараванне адтаго, што мара пра калгас, нават такі, нават з гэтай купкі людзей, зноў нібы не спраўджвалася, адступала да восені, трохі памякчэла, калі ўсе прыязна, дружна выбралі яго за старшыню арцелі. Гэта падзея, акрамя таго, што цешыла яго гонар, яшчэ як бы гаварыла, што калгас, які ён ні

ёсць, а пачынае жыць. Прытрымліваючы раптоўную ўцеху, з годнасцю абранага кіраўніка новай гаспадаркі, з відным усім разуменнем не абы-якой адказнасці, нованароджаны старшыня арцелі папрасіў старшыню райвыканкома, каб паклапаціліся прысланць у час землеўпарадчыка, каб нарэзалі адзін зямельны масіў...

Стары Дамецік з гонарам сачыў за кожным словам сына. Дамеціха ж, слухаючы ўсё, ціха, нясмела ўздыхала. Калі ўсё скончылася, залезла пад воз, доўга, трывожна хрысцілася...

3

Чэрвеньская ноч у лузе — час спачыну. Людзі спяць чэрвеньскай ноччу як нежывыя. Так было заўсёды: дзень — у клопаце, у турбоце, у гонцы бясконцай, да знямогі, ноч — толькі сон, толькі ратоўнае, непрабуднае забыццё.

Не кожны ў Куранях датрымліваўся цяпер гэтага заведзенага здаўна парадку: вялікія трывогі, што лезлі ў душу днём, калі ад знямогі балелі рукі і спіна, тачылі, пяклі іншых і ноччу, гналі і гналі патрэбны, жаданы сон. Было і так неспакойна, а гэты юравіцкі госць, што дапаў на сваёй гарадской калясцы аж сюды, у чортава балота, яшчэ падбавіў трывожнага думання.

Не адзін доўга, бяссонна круціўся ў гэту ноч, паглядваў з непрыхільнасцю, з цікаўнасцю на Дамецікаў агеньчык, каля якога меркавала, дамаўлялася аб нечым купка тых, якія паверылі ў вялікую трывогу-загадку. Не ўсе супакоіліся і тады, калі тыя разышліся, калі і сам агеньчык апаў, перастаў зырчаць у цемры чырвоным, неспакойным вокам.

Думалі па-рознаму. З надзеяй на добрае і з адчаем, з цвярозай разважнасцю і хмельнай злосцю. Як ні дзіўна, хутчэй за іншых заснуў Хоня. Дапаў да копкі сена, накрыўся, пазяхнуў з той лёгкасцю на душы, з якой можа пазяхаць толькі чалавек, які нарабіўся досыць, спраўдзіў усё, што трэба, і так, як трэба. Чаго было думаць лішне пра арцель — даўно аддумана ўсё, аддумана і адрэзана. Зрабіў сёння толькі тое, што рашыў даўно. Тут яму ўсё ясна. От калі і ёсць пра што думаць-гадаць, дык гэта пра Хадоську; ён і думае, ліха на яе, здаецца, кожны вечар — от і сёння згадаў яе.

Чаго яна такая вечна: абы прытуліў — рукамі хутчэй упрэцца ў грудзі яму і адно: «Не трэба!» Пацалуеш яе, а яна толькі адно — адвернецца і зноў тое ж: «Не трэба!» Ні разу не прытулілася сама, не тое, штоб пацалавала! А і не скажаш, каб гадкі быў ёй, не — падабаецца, гэта ён чуе добра; а от жа, ліха на яе, дзéржыцца — як з чужым! Хацеў ужо не раз плюнуць на ўсё, кінуць, дык як жа ты кінеш такую! «На калгас як яна паглядзіць? — паявілася неспакойнае.— Пакуль — калі гаварыў з ёй — не вельмі каб коса. А там — каб не занатурылася яшчэ! Каб бацька, ліха на яго, не настроіў!..»

Згадка пра бацьку заўсёды хмарыла, цяпер і гэта не разагнала бесклапотнай лёгкасці. «Нічога, абламаецца!.. Нідзе не дзенецца!.. Нідзе не... Хадосечко!..» — Ён ужо ў сне паварушыў губамі, нібы развітваючыся да наступнага дня, да новай — шчаслівай — сустрэчы!..

Чарнушку доўга не спалася. Спачатку не давала спакою жонка — чаго толькі не наваліла на Міканора, на Апейку, на калектыў! Дасталося разам з іншымі і самому Чарнушку; ён толькі слухаў ды маўчаў, прывык даўно: з яе слоў заўсёды неяк так выходзіла — ва ўсім паганым, што б ні дзеелася на свеце, ён быў нязменна вінаваты! Накляла, напляла, нарэшце, дзякуй богу, як рабіла ўсё, зацята ж захрапла: дала волю Чарнушку пабыць аднаму са сваімі думкамі.

Перабіраючы нанава тое, што казаў юравіцкі Апейка, Чарнушка са сваім спакойным, разважным розумам чуў: багата ў чым той мае рацыю. І пра ўраджай правільна: трэба брацца за гэта, трэба, канешне, каб зямля болей давала, каб не дарам, грэц яго,ірваць на ёй жылы. Угнаеннем трэба паддобрыць яе, гэта таксама правільна: ахвотней радзіць будзе, не можа быць, каб не падахвоцілася, дзе, канешне, не адзін пясок. А тое, што пра машыны баяў, пра гэта і казаць няма чаго: прынада вялікая, такая палёгка! І што кожнаму не пад сілу машыны хоць бы якія, гэта таксама відно было Чарнушку, як і тое, што паасобку ўсяго, што трэба зямлі, не зрабіць. Як ты навозіш аднаго таго ўгнаення, калі да станцыі ні мала ні многа трыццаць пяць вёрст! Ды і за што ты, грэц яго, купіш! Далей Чарнушкавы думкі як бы трацілі сваю яснасць: добра ведаючы, што трэба зямлі, Кураням, ён ніяк не мог пачуць пад усім цвёрдай, надзейнай асновы. Не мог толкам даўмецца

Чарнушка, [redacted] чаго мусіў той калгас так пабагацець, калі ўсе сыдуцца разам, звядуць сваіх конікаў, кабылак, свае калёсы ды сані. Крэдыт — то, канешне, непагана, пакуль суд ды справа, пакуль на ногі не станеш! А толькі ж крэдыт той — як прыпарка; ды крэдыт і аддаць заўтра трэба будзе; сягоння палучыш, а заўтра аддай! Дапамога ад дзяржавы — канешне, добра, але што з таго дастанецца Кураням, от што яшчэ паглядзець трэба! Памагці-то яна, дзяржава, пэўна ж, рада, але ці вельмі ж памагці і яна можа, калі Расея без канца-краю і ўсім трэба помач, і трэба бясконца заводы будаваць, грошы на іх трэба! І на армію трэба, на зброю, на харч! Ясна, што помач памаччу, а трэба, каб самі, грэц яго, станавіліся зразу на ногі! А на тое, што станеш моцна, надзеі цвёрдай і няма! І дабра небагата з кожнага, і надзеі добрай не на ўсякага: не ўсякі, грэц яго, старацца будзе на нечай паласе ды берагчы нечага коніка! Ды і паглядзець яшчэ трэба, які з таго Міканора гаспадар выйдзе, каб правіць такой сям'ёй! У якой чорт ведае, як дайсці да ладу!

З усіх Чарнушкавых разваг выходзіла яму пакуль адно: хапацца няма чаго, глядзець трэба, куды ўсё пойдзе. Гэта браў [redacted] ахвотаю: яно супакойвала, ураз тушыла трывогу — боль за кабылку і жарабя, за карову, за гумно, аб якіх ніяк не магла не балець душа. Супакойвала яно і таму, што давала ўнікнуць пакуль вайны ў сям'і з Кулінаю, давала мір, які ён заўсёды любіў. Але спакою ў Чарнушкавай душы не было: як і ўсе дні, неадступна ныла, балела іншае — Ганніна бяда. Зноў успомніў, як хавалі малую, як упала на дочаччыну труну, як чаплялася без памяці за яе; як нікла нема над свежай магілкаю на другі ранак. Звялася зусім, счарнела ад гора... Стала нядобра, аж запякло ўсярэдзіне: з жалем за яе бяду, за няўдачу ўсю яе ўпаўзла даўняя, заўсёдная вінаватасць. З таго дня, як заўважыў, што невясёлая, не радая Ганулля, вінаватасць была нібы важкім, гарачым каменем у сэрцы. І ўранку, і ўночы насіў яе ў сабе. Хоць помніў, як вінавата ў Ганнінай бядзе жонка, не дзяліў віны, караў аднаго сябе. Хіба б яна зрабіла што, Куліна, каб ён стаў тады цвёрда, адрэзаў: не! Сам, сам ва ўсім вінаваты: не ўтрымаў перад бядою дзіця, пусціў Ганулю на пакуту! Паспадзяваўся на карчоўскае дабро, пакваліўся: адзе-

тая, абутая паходзіць, нішчымніцу забудзе! Пахадзіла, пабачыла «добрага», забыла «нішчымніцу»! Забыла — як смяялася некалі, у беднай бацькавай хаце! Даў шчасця дачцэ сваёй! Устала б, пабачыла б нябожчыца-матка!

А цяпер — з Карчамі разам — і яна кулачка, лішэнка! Як бы багацейка якая праўдзівая, як бы не парабчанка ў чалавека свайго! Усё, што на Карчоў ідзе, ідзе і на яе, і адзін чорт знае, чым усё скончыцца! І адзін чорт знае, што зрабіць тут можна, як выбавіць яе!..

4

Васілю прыйшла на памяць у гэту ноч ужо амаль забытая юравіцкая каморка, недалужная ноч, якою гналі яго маслачкі між чорных гумнаў. Рэдка цяпер памяць вяртала іх, толькі тады хіба, калі што-небудзь нагадвала, як сённяшняя сустрэча з Апейкам; як і ў тыя разы, і ў гэту ноч успаміны, калісьці такія горкія, прайшлі далёкаю хмарай.

Не, сёння, дык асабліва ціха прайшлі, бы і не чуў іх. Бы і не з ім, Васілём, а з некім іншым было. І ці дзіва: было тут як успамінаць Васілю аб далёкім, сатлелым, калі душа трывожылася, балела блізкім, неперажытым, і не якім дробным, а вялікім, што падступалася да ўсяго, што рабіў, чым жыў усе гэтыя гады. «Толькі пачаў станавіцца як мае быць на нogі! — балела, пякло Васіля.— Толькі пачаў жыць!.. І от — на табе!..»

Усё нібы ішло дасюль, як хацеў. Жаніўся непагана, выгадна. Да свайго надзелу прыпісаў Пракопавай больш як паўдзесяціны, і зямлі не абы-якой! Пасаг за Маняй добры ўзяў! Скора пасля таго, як жаніўся, прывёў каня — не здыхляціну, а каня — людзям на зайздрасць! Жаніцьба выгадная — памагла!.. Памагалі вуллі: мёд — на юравіцкім, а то і мазырскім кірмашах — прыкметна падбаўляў грошай. Разам з дзедам выдзяўблі яшчэ тры калоды, усцяглі на сосны. Яшчэ ў тую восень стаў вазіць лес на хату; у пару то з маўклівым, старанным для дачкі Пракопам, то з яго Пятром: склады бярвення на двары, на вуліцы перад селішчам раслі проста ўвачавідкі. Дзякуй богу, лес не дзе-небудзь, а пад бокам, ды і Міцю-лесніку дзякаваць: паперку на паруб-

ку загадаў узяць так толькі, для прыліку; па той паперцы заплаціў за сем дрэваў, а звёз на цэлую хату! Набраў, лічы, бясплатна, хіба што на гарэлцы трохі вытраціўшыся.

Увосень жа з Пракопам укапаў шэсць дубовых слупоў, паклаў падваліны. Злажыць зруб удалося небагата, бо хутка ўчапіліся маразы, паваліў снег, але аснова, што б там ні казалі, была, усю зіму цешыла вока! Хату, бачылі ўсе, стаўляў не абы-якую — пяцісценку, на два пакоі! Не лічачы сенцаў. Сенцы меркаваў потым прыставіць, вялікія, як палавіна хаты. Акрамя хаты, браўся гумно злажыць. Зімой два добрыя дубы на сохі зваліў, прывёз на санях, паклаў пад сцяной старога гуменца. Адным словам, бачыў ужо і хату новую — пяцісценку, з сенцамі, бачыў і добрае гумно, бачыў, што ў людзі выходзіць пачаў...

«Толькі пачаў станавіцца на ногі! Толькі пачаў жыць! І от — на́ табе!» Аддай вуллі, якія дзяўбаў, цягаў на хвоі ці ты, ці дзед, якія кормяць, дзержаць цябе! Аддай у арцель коніка, якога набыў з трудом такім, якім, можна сказаць, і нацешыцца не паспеў! Аддай чорту нейкаму за нішто, абагуль з якою дыхляціпай; аддай у чужыя рукі, пад чужыя злыя пугі, глядзі, як ганяць яго будуць, бы байструка якога, не лічачыся ні з ахвотаю, ні з сілаю яго! Аддай зямельку сваю, якая яна ні ёсць, але на якой ты цар-валадар; аддай тую пасажную палоску, з якой парадніўся толькі; аддай сваё на нічыё, змяняй матку родную на мачыху! Аддай гуменца сваё, якое ўжо ў думках паставіў, аддай плуг свой, калёсы свае, хамут, аброць, усё, што ты нажываў, агорваў, недаядаючы, недапіваючы, выжыльваючыся! Аддай за добрыя словы, за абяцанкі! Аддай за нішто!

Не, няма дурных! З таго, што пячэ несправядлівасць, што бачыць добра: ашукаць, абдурыць хочуць,— дужэе злая, гарачая ўпартасць. Няма дурных! Хай, каму падабаецца, той ідзе! Каму сваё надакучыла, каму так пагана! «А мне і так непагана! Я і так пражыву!.. Вы сабе, а я — сабе!..» Узяло сумненне: так яны і дадуць рабіць, як яму хочацца! Ён тут жа згадаў Апейкава абяцанне: гнаць не будуць, але не вельмі супакоіўся, нібы не паверыў: «Будуць ці не будуць, а — не пайду! Скажу: не і не! Хай хоць што!..»

Цвёрдасць, рашучасць свая ўсё ж давалі глядзець

уперад з нейкай надзеяй. Ужо не так ныла, калі думаў: «Толькі станавіцца пачаў... Толькі пачаў жыць...» Можна было ўжо думаць нават пра розныя заўтрашнія клопаты; за драбязой рознай прыйшоў неўзабаве і спакой, вольны, бяспамятны...

Агонь, забыты людзьмі, хутка апаў, сацьмеў, але абгаркі, вуголле доўга яшчэ не тухлі, зырчалі ў вільготнай, душнай цемры каля Міканора. Доўга не ўціхаў, зырчаў і неспакой у Міканора: вясёлае, прыкрае, клопатнае ішло, лезла, тачыла і тачыла незлагаднасцю, супярэчлівасцю думак. Сярод блытаніны ўсёй то дужэй, то цішэй гаманіў, звінеў вясёлы ручайчык радасці: які ён ні ёсць, а пачатак — зроблены, арцель сабралася, аб'яўлена, арцель, як там ні глядзі, жыве! Багата ці не багата ўступіла, а арцель, усе чулі, ёсць і ў Куранях! Але ручайчык радасці амаль не бег чысты, ясны; ледзь не ўвесь час цямніла яго недавольнае: ёсць яна, арцель тая, толькі ў гаворцы; рабіць жа і жыць пакуль усе захацелі паасобку! Ды каб і рашылі разам — колькі іх у сяле, сярод іншых! Тады ручайчык зусім мутнеў: колькі часу, сілы аддаў гаворкам аб арцелі без толку! Калі думаў пра гэта, аж браў адчай: эх, людзі! Даб'ешся хіба чаго з такімі, калі чуць, разумець не хочуць нічога! Як глухія і сляпыя! Горш за сляпых! Сляпому дай руку — пойдзе! Ды падзякуе яшчэ! І глухому — на пальцах пакажы толькі! А тут: вазьмі руку — вырве! У другі бок пойдзе! Бы ў багну завядуць яго! Брала злосць, калі ўспамінаў недаверлівую гарачкаватасць Васіля — суседа: гэтаму дык і казаць не кажы, што на цвёрдую дарогу выведзеш! У гэтага свая дарога, гэты і сабе раз у тыдзень верыць! Сам, усё толькі сам, ды каб далей ад усіх! Лезе, аж ірвецца, жылы ўсе напяў! Прыдбаў трохі, хату ставіць пачаў, дык як на ворага якога зіркае! Без малога — як Глушак той стары! Уламай такога, паспрабуй! Яшчэ больш злаваў, калі на памяць прыходзіў Андрэй Руды! Калі б ні загаварыў з ім, ківаў усё, памагаў Марксам, Калініным, Някрасавым — свядомы такі, перадавы! А толькі да справы дайшло: «Не так ето ўсё проста — Расею на новыя рэйкі»,— і шасць у тыл! Дэзерцір, балбатун, Маркса шчэ прыплятае! Недавольнасць брала і калі ўспамінаў, як вёў гаворку каля агню Апейка: падышоў, падступіўся — дык бяры быка за рогі, атакуй! Даб'ешся не даб'-

ешся, а спрабуй, атакуй! Дык не, пагаварыў, пагаварыў — і стаў! Добра, што ён, Міканор, у час выйшаў, рынуўся наперад! А то так і кончылася б нічым! І смешак — лішне ў яго; сур'ёзны момант — не да смешак вельмі!..

З думкамі гэтымі мяшаліся клопатныя, клопаты забягалі далёка аж пад восень, пад зіму: была ці не была ўжо арцель, а думак-турбот давала!..

Апейка, які таксама блізка бачыў, як атухаў агонь, жыў зусім іншым настроем. Апейку было лёгка, радасна. Праўда, і ў руках, і ў нагах, ва ўсім целе была змора, але, можа быць, якраз гэтая змора і давала найбольш радасці. Даўно не рабіў ён з такім смакам: з той пары, як лёс закінуў яго на вайну, Апейка ўведаў добра, што такое радасць махаць касой, лажыць пракос свежай травы; радасць гэту не раз спазнаваў ён і пазней, калі стаў вучыцца, а потым — настаўнічаць. Пасля школьнага тлуму заўсёды з ахвотай браў ён касу, аддаваўся звыкламу калісьці, цяпер ужо нячастаму заняткy, які налівае рукі, ногі маладою дужасцю. Цяпер касы не трымаў ён асабліва доўга, асабліва весела ж было яму, калі павёў Дамецікаваю касою па траве. Пасля валаснoй мітусні, бясконцых паездак, часта няўдалых сходаў цешылі вочы і сэрца тут каса, і вільготна-вясёлая трава, і лагодны павеў ветру, і сонечная бяскрайняя сінь. Цешыла дужасць у руках, цешыла працоўная еднасць з Дамецікам, з Міканорам, з усімі, хто касіў, насіў копы, складваў стагі. Адчуванне гэта жыло потым ля агню, жыло і цяпер, калі ён ляжаў адзін у начным поцемку.

Перабіраючы тое, што казаў людзям, аглядваючы сябе збоку крытычным, нібы чужым вокам, Апейка таксама не чуў прыкрасці. Не так, як Міканор — ён лічыў, што ў асноўным усё было добра: гаварыў дзелавіта, перавагі калгаснага жыцця паказваў на фактах зразумелых, даходлівых; бачыў сам: слухалі не абыяк, верачы. Канешне, практычны вынік — невялікі пакуль, але аб выніках можна меркаваць будзе пазней. Важна, каб людзі думалі, думалі правільна, каб сэрцы і галовы іх усведамлялі, што змены неабходны, што іх трэба не баяцца, а імкнуцца да іх. Што партыя хоча толькі дабра тым, хто жыве сваім мазалём... Урэшце ж, самае важнае і самае цяжкае — тое, што трэба не толь-

кі звесці іх у адну сям'ю, але і навучыць думаць, адчуваць інакш! Трэба змяняць душы, псіхалогію іх: уласнік павінен стаць калектывістам! От у чым найбольшы сэнс! I тут — ясна — галоўнае: пераконваць людзей! Цярпліва, доказна, па-ленінску! I няхай вынік пакуль невялікі, кірунак усё ж быў правільны! А вынік канчатковы пакажа час!..

Лёгкасць і радасць былі яшчэ адтаго, што ён бачыў над сабою неба. Не столь нудную, а высокае, з зоркамі далёкімі, бяссоннымі, неба. Ён даўно не бачыў іх так: даўно не спаў на лузе. Адтаго ён быццам раптам вярнуўся ў маленства: быў ужо не старшынёй райвыканкома, пажылым дзядзькам з безліччу клопату і абавязкаў, а малым, што прыгнаў пасвіцца на ноч кабылу. От яна, не інакш, захрапла, яго кабыла. За яе няма чаго трывожыцца вельмі: спутаў добра — от і ляжыць ён, ціхі, лёгкі, пазіраючы адно на зоры. Праўда, у цішыні яго ёсць нейкі смутак: мусіць, адтаго, што чуе, што ён не пастух малы ўсё ж, што маленства — далёка. Што, думае, даўно не быў у той хаце маленства, што матка, мусіць, даўно глядзіць-выглядвае, што даўно не сядзеў з бацькам, не меркаваў аб дамашніх клопатах. Захацелася раптам пабачыць такі родны лазовы плот, пайсці сцежкай паўз вербы да ракі...

Зоры. Збоку, наводдаль, чарнелі хмары, часам на іх трапяталі чырвона зарніцы; а тут былі толькі зоры, і было ціха, і цёпла, і душна. Можа адтаго, што было душна, і не спалася; а можа не заплюшчваліся вочы больш адтаго, што там, у высокай недасяжнасці, не спалі, глядзелі зоры. Ад іх было дзіўна маркотна: зоры трывожылі сваёй недасяжнасцю, вечнасцю; яны нібы далучалі самога да нечага недасяжнага, вечнага. Душу таміла адчуванне раптоўнай агромністасці, бясконцасці свету, дробнай, мімалётнай прыналежнасці да гэтага вечнага...

Колькі от так ляжыць на гэтым лузе, на іншых лугах! Колькі не спяць, думаюць — аб чым мяркуюць, на што спадзяюцца? Колькі ляжала, гадала тут, спадзявалася — з таго дня, як прыйшлі людзі на гэтае мокрае, травяністае балота? Якія радасці і якія няшчасці бачыў гэты луг, як ступіў тут чалавек? Векавечныя, нязменныя з незапомных часоў тут толькі купіны, векавечныя поцемкі, векавечнае неба, векавечныя зоры. Дзесяткі,

сотні гадоў чаргаваліся вятрамі ды цішаю, спёкаю ды сцюжай. Мяняліся тыя, што прыходзілі сюды з граблямі, з косамі. У турбоце, у знямозе старэлі дужыя хлопцы і маладзіцы, прыходзілі на змену новыя, такія ж дужыя, поўныя надзей, каб аддаць тут дужасць, маладосць сваю. Цэлыя таварыствы, пакаленні цэлыя змяняліся, як трава скошаная — маладой, сакавітай; нязменна, неўміруча высілася толькі неба — сіняе, хмарнае, з зорамі.

Колькі ж тут думак перадумана, між гэтых сівых зараснікаў, колькі надзей памерла, колькі расчаравання і злосці сатлела! Людзі думалі, ірваліся душою, а жыццё ішло сваёй мернай, важкай хадою, абыякавае, бязлітаснае да людскіх мар і стогнаў! Ішло, пакуль аднойчы не павярнулі яго, не перайначылі хаду: мокрае балота бачыла тады, мабыць, натоўпы нібы незнаёмых, ахмялелых людзей; яго кроілі нанава, спрачаліся, радаваліся, браліся за́грудкі. Калі перакроілі, аціхла, і ўсё як бы зноў пайшло роўнай, вечнай дорогай, з тымі ж клопатамі, неспакоем, з тым жа імкненнем.

Упершыню, як прыйшлі сюды людзі, даводзіцца ім думаць такое, пра што тут, мабыць, ніколі і не снілі. Жыць арцеллю адной, адной сям'ёй, аддаць усё нажытае, панішчыць усё звыклае, праверанае гадамі, зладжанае бацькамі і дзядамі! Ёсць чаго думаць: ніколі нікому не выпадала ламаць галаву над такой загадкай, трывожыцца такой трывогай, чуць такі неспакой перад заўтрашнім.

Тут у высокі лад думак увайшла зямная клопатнасць: згадалася нядаўная справаздача ў акружкоме, на якой казалі ім і запісалі, што калектывізацыя ў раёне ідзе слаба. Хоць было трохі крыўдна, што ў Мазыры быццам бачыць не хацелі ўсяго, што яны тут рабілі, як ім тут цяжка, Апейка не спрачаўся ні тады, ні цяпер: як бы там ні было, зрабілі, і праўда, небагата. Няхай не таму, што пусцілі на самацёк, як там гаварыў хтосьніхто, а зрабілі-такі небагата. Праўда, бяда тут не толькі ў працэнтах, на якія ўжо аж лішне націскалі на бюро. Бяда ў тым — і гэта асабліва трывожыла Апейку і цяпер, і ўсе дні да гэтага,— што з тых адзінаццаці калгасаў, якія ёсць, большасць ледзь ліпяць. Бяда, вядома, што яны маламікія, а яшчэ горш, што ледзь не ў кожным няма добрага ладу. І прычына найбольшая ў

тым, што мала дзе — кіраўнікі як трэба: не ўмеюць, не могуць кіраваць! Арганізацыя працы ў большасці — кепская, кепская дысцыпліна! Кепскі ўлік!.. Не хапае добрых кіраўнікоў, не хапае рахункаводаў! Не хапае вопыту!..

Заплюшчыўшы вочы, засынаючы ўжо, Апейка падумаў, што трэба ўсе гэтыя дні, пакуль лета, аддаць калгасам — памагчы ўмацавацца ім. Падумаў з надзеяй пра восень: увосень людзі з'едуцца з лугоў, з палёў, спадзе працоўная гарачка. Увосень павінны рушыць хутчэй. Хутчэй, шырэй... А пакуль — больш увагі новым калгасам!.. І — дадому, к бацькам... выбраць час, наведацца... Пачуў, як пырхнуў недзе конь, і здалося — маленькі зноў, прыгнаў пасвіцца кабылу. І яшчэ дайшло — бліснула недзе недалёка. Бліснула і загрымела, туга, працавіта...

5

Раніцай неба было без адной хмурынкі. Край яго над лесам густа пунсавеў, так што, здавалася, вось-вось загарыцца лес. Вышэй ад лесу пунсовасць слабела, паступова пераходзіла ў ружовасць, якая ахоплівала паўнеба. Усё на лузе: кусты, лужы, копы, пракосы — таксама ружавела. Увесь луг як бы дыміўся.

Яшчэ да таго, як выйшла сонца, Апейка і Міканор каля воза перакусілі тым, што падала, просячы выбачэння ў госця, Дамеціха. Падзякаваўшы Дамецісе за сняданак, Апейка, у расхрыстанай сарочцы, з закасанымі рукавамі, з яшчэ больш ружовай, чым звычайна, лысінай, што свяцілася праз рэдзенькае светлае валоссе, дастаў з воза касу, неяк хітравата зірнуў на Міканора:

— Дык што ж, можа твая праўда — пачнем сягоння? Паспрабуем па-новаму, па-калгаснаму, а?

— Канешне, не трэба адкладуваць! — адразу ўхапіўся Міканор.

— Адкладваць не трэба, але трэба рабіць [redacted] толкам. Я прапаную,— Апейка глядзеў усё з хітрынкай,— улічваючы абстаноўку — пераходную форму. Касіць будзем так, быццам косім кожнаму, але — разам, калектыўна. І капіць будзем кожнаму, калектыўна. А як ты мяркуеш?

— Можна і так,— сказаў прыкметна халадней Міканор.

— Дык — з каго пачнем?

— Да ўсё адно. З Зайчыка можна.

— З Зайчыка,— падтрымаў і Дамецік, што сачыў за гаворкай збоку.

— Што ж, давай з Зайчыка.

З косамі цераз плячо ўдваіх: адзін у крамных штанах і ў ботах, а другі, як і ўсе вясковыя, у зрэб'і, у лапцях, пачоўгалі па мокрай траве, цераз пакошу, зайшлі да Хоні, які ўжо браўся касіць.

— Куды ето выправіліся, як на заработкі? — Хоня, у расхрыстанай сарочцы, з кепачкай на макаўцы, весела бліснуў цікаўнымі, жвавымі вачыма.

— Можна сказаць, што і на заработкі,— паддаючыся тону яго гаворкі, адказаў Апейка.— На першы калгасны заработак.

— Рашылі з сягонняшняга дня рабіць па-калекц累ўнаму,— сур'ёзна, як і належыць кіраўніку, старшыні калгаса, растлумачыў Міканор.— На старых покуль надзелах, але па-калекціўнаму. Разам скасіць і прыбраць кожны надзел. Параіліся з Іванам Анісімавічам,— кіўнуў Міканор на Апейку,— і рашылі пачаць з Зайчыка. І от з-за етаго зайшлі к табе. Штоб падтрымаў першы,— кончыў прыяцельскім ужо тонам Міканор, як бы намякаючы, што Хоня таксама на асобым становішчы, Хоню — асобае давер'е.

— Да я чаго ж,— зухавата прамовіў Хоня.— Я не ўломак! Я хоць зараз!

Нібы паказваючы, што ён слоў на вецер не кідае, Хоня тут жа ўзняў касу, ускінуў на плячо. Утраіх напрасткі пакіравалі да Алёшы. Таго таксама не трэба было ўгаворваць, ахвотна далучыўся. Людзі там і тут ужо касілі, іншыя збіраліся касіць, багата хто з цікавасцю паглядаў на незразумелыя зборы, змовы тых, што запісаліся ў калгас. Тыя ж трое, што ішлі з Апейкам,— бачачы, як да іх прыглядаюцца, ішлі і гаманілі між сабой голасна, ганарліва, нават як бы задзірыста. Адчувалі сябе быццам не такімі, як усе, смялейшымі, разумнейшымі. Вялікае гэта адчуванне: ты ідзеш першы, першы пачынаеш тое, што яшчэ ніхто не рабіў, першы бярэшся за тое, да чаго ў іншых не хапае розуму і смеласці! Тыя, што ішлі побач, бачыў Апейка, добра адчу-

валі гонар і шчасце быць першымі, асабліва хвалюючыя ў такі пунсовы ранак, перад столькімі позіркамі!

Не трэба было ўгаворваць, адразу далучыліся і Грыбок і Хведарава Вольга. Гатоў быў пайсці з вясёлай ахвотай крывы Хведар; хаваючы звыкла няёмкасць за сваё калецтва, за нагу на драўлянай падстаўцы, нецярпліва падскокваючы на кастылях, паварочваючыся то да аднаго, то да другога, папрасіў:

— Мо касу каму адбіць трэба? Дык я ўмент!

— Трэба будзе, прынясем! — паабяцаў Хоня.

Зайчык ужо махаў касою. Калі падышлі, кінуў касіць, здзіўлена павёў вочкамі, але клопатнасць схаваў гарэзлівай мітуснёй:

— Чаго ето так рано? Шчэ ж, братачкі, жонка не напякла нічого!

— А мы найперш зарабіць хочам,— зарагатаў Хоня.

— Да от рашылі,— у сваёй старшынскай ролі выступіў Міканор,— работаць калякціўно з сягонняшняга дня. Па чарзе рабіць калякціўно. І рашылі пачаць и цябе.

— Я тут падумаю...— узрушана і вінавата загаварыла Зайчыха, што адразу падышла да гурту.— Я падумаю,— зірнула на Зайчыка, супакойваючы,— звару чаго-небудзь!.. Пакуль тое!..

— Да не трэба! — заявіў Хоня.— Перакусілі ўжэ!

— Паснедалі,— супакоіла жанчыну Вольга.

— Не, патом усе-такі трэба! — прамовіла Зайчыха.

— Трэба,— смяяўся і не смяяўся Зайчык.— Дзень такі!..— Жартам, але не жартаўліва загадаў жонцы: — Разарвіся, але штоб як... Штоб як у людзей!

Хвіліну яшчэ ўгаворвалі Зайчыкавых, што нічога не трэба. Потым спрачаліся, каму першаму ісці, каму весці; гэта было вельмі важна не толькі таму, што весці павінен лепшы касец, але і таму, што гэтым вызначалася і агульнае прызнанне перавагі аднаго перад іншымі і разам як бы аддаваўся яму знак асобай пашаны. Апейка заспяшаўся, параіў першаму пайсці гаспадару, самаму сталаму сярод усіх, самаму, значыць, і заслужанаму. Але Зайчык першы ж запярэчыў: жартуючы, дурэючы, сказаў, што ён і касец не асаблівы і, галоўнае, зусім не сталы: ні ў каго ў Куранях няма ў галаве столькі ветру, як у яго. Ён першы ж і сказаў, каб наперадзе пайшоў Апейка. Зайчыка ўсе падтрыма-

лі, і Апейку асталося толькі падзякаваць за гонар і давер'е. Адтаго, што рад быў пракошаны ўжо далёка ад краю, вярнуліся к пачатку надзелу; Апейка пракасіў першы трохі, тады побач, ззаду пайшоў Міканор, потым Хоня...

— Ну, благаславі, старая! — засмяяўся Зайчык, становячыся, каб ісці за Хонем...

Так яно весела і проста пачалося, на мокрым, нібы дымным, балоце, у ранак, ва ўсім, здавалася, падобны на ўсе іншыя. Балота жыло звычайным сваім клопатам, і ў клопаце гэтым мала хто разумеў, што з гэтага пачынаецца новае, не знанае яшчэ ў Куранях...

Пад вечар таго ж дня бачылі, як Апейка зноў праехаў паўз балота, знік разам з таратайкаю ў зарасніку, што абчэплівае дарогу.

## РАЗДЗЕЛ ПЯТЫ

### 1

Не трэба думаць, што Глушаку не было шкада малой. Не чужая ж кроў, свая, Глушаковае насенне — і адзін дзень, і другі поўз у неспакойныя клопаты ціхі жаль аб нябожчыцы. Да жалю заўсёды прымешвалася злосць на нявестку, асабліва — на дурны выбрык на могілках. Як ні лаяў яе, чуў сябе — і гэта дадавала злосці — нібы вінаваты. Хоць супакойваў сябе: бог даў — бог узяў; хоць разважаў цвяроза: не ведаў жа, што так кончыцца,— калі маліўся аб малой, быццам прасіў ва ўсявышняга літасці і даравання.

Жаль аб малой, вінаватасць за яе вярэдзілі душу старога Глушака ўсё ж менш, як калі б іншым часам. Хмару прыгнала не на яснае — на хмарнае, чорнае неба. Не да таго, не да малой было — нюхам старога, бітага воўка чуў неадступна Глушак: ішло на страту большае. Хоць не хацелася верыць, усё магло неўзабаве загінуць.

Багата што перамянілася ў Глушаковым жыцці за нейкія два гады. Далёкім, нікчэмна-дурным здаваўся яму цяпер той час, калі ён кіпеў люта, што абрэзалі трохі зямлі. То быў толькі пачатак: з таго часу жыц-

цё не раз і не два пляскала ў гразь яшчэ ці даўно самага паважанага, самага моцнага — можна сказаць, самага магутнага ў Куранях — гаспадара. І каб пляскала ў гразь адно, то яшчэ нічога: гразь — не кароста, сорам — не дым; а то ж падразала пад корань, скручвала вяроўкамі ногі, заціскала вузел на шыі...

Леташняй восенню вымелі ўсё дачыста. Думаў прыхаваць трохі, закапаў сем мяшкоў у дрывотні, дроў налажыў паверх да страхі, дык і тыя вывернулі. Гумно, хлявы перакапалі, а дакапаліся, выцягнулі. Толькі і ўхаваў, што пяць мяшкоў на картапляніпічы за грушай. Ашалелыя ад капання, ад яго ўпартага «не», «няма», ад няўдачы, што не маглі дапасці да астатняга,— ледзь у міліцыю не пагналі зразу ж. Судзіць грaзіліся, у турму ўпякаць збіраліся. Перадумалі яны там, ці што, а толькі абышлося неяк без міліцыі, без турмы; наказалі наастатак адно — на другі раз дабра каб не чакаў, калі не кіне злоснае сваё супраціўленне. Божкаў, кляўся, што забралі ўсё, бедаваў са слязамі: як цяпер жыць будзе? — бедаваў не вельмі, каб не раз'ятрыць ненарокам горш; але калі ўспамінаў, думаў потым, нязменна паліла лютасць: зацягваюць на шыі пятлю, а ты і не выпручвайся! Не супраціўляйся, не будзь злосны! Сам памажы! Дзякуй, што не пасадзілі! Нібы тут рай, а не тая ж турма!..

Голас нават адабралі, лішэнцам зрабілі; як бы яму і рота разявіць няможна. Урэшце, праўду кажучы, не так яму і маркотна без таго голасу, пляваў бы ён на той голас, калі б той голас быў толькі голас; вялікі-то гонар — мець голас разам з якім галадранцам, які ўчора жмені тваёй мукі быў рад! Голас важны не сам сабою; голас — то, напраўду, палёгка з падаткам; не маеш голасу — гніся, выжыльвайся пад цвёрдым заданнем! Выжыльвайся ды яшчэ маўчы — бо не маеш права голасу, бо — лішэнец! Каб яму на тым свеце на чырвонай скавaрадзе, на агні вужакай круціцца — таму, хто выдумаў гэту пагібель! Тым, хто гнёў гэтым цвёрдым заданнем; асабліва ж — Дамецікаваму прыблуду, за якім і іншыя ў сяле бы ашалелі! Самаабкладанне, страхоўкі, нарыхтоўкі, падаткі, якім канца-краю няма,— чаго толькі не начаплялі на гаспадара, каб выпіць з яго, як кроў, сілу, каб не даць яму падняцца!..

Яшчэ пазалетась падзяліў гаспадарку з Яўхімам.

Падзяліў нават з ахвотаю: думаў, адрэзаўшы добрую долю Яўхіму, не такім багацеем будзе ўжо лезці ў зайздрослівыя людскія вочы. Думаў — галоўнае — падаткі зрэжуць, палёгку нейкую дадуць. Дык чорта лысага далі: упякалі столькі падатку, што аж заскрыгатаў зубамі. Ды не адзін падатак, а два — і яму, Халімону, і Яўхіму!..

Не той быў цяпер Глушак: пасушэў яшчэ, сагнуўся, як груган, ссівеў нашчэнт; толькі бляск у тхарыных вачах, як быў, астаўся пранізлівы, упарты, нязломны. Трудна было, а глядзеў наперад. Трудна было, і чуў — ад гэтага начамі, калі абдумваў усё, аж ныла ў грудзях — чуў, што гэта не ўсё яшчэ, што вузел толькі пачынае як мае быць сціскацца.

У хваравітай, гарачкавай дрымоце, дзе сон і ява блыталіся, ледзь не штоночы лезла ў галаву назольнае, страшнае відовішча: бачылася, трызнілася нейкая гара, дарога на ёй. Гара была як бы падобна на юравіцкую, дарога ўрэзвалася ў яе — таксама як юравіцкая: гліняная, каляіністая, з глыбокімі рванымі раўчукамі па баках. Знаёмая і звычайная дарога гэта, якой і хадзіў, і ездзіў тысячу разоў і якая нічым даўно не дзівіла, у сне бачылася нязменна такой агромністай, спадзістай, што Глушак, пазіраючы на яе, халадзеў. Ведаў, што не трэба ехаць, што дабром гэта не кончыцца, і ўсё ж кожны раз — бачылася — выкіроўваў з'язджаць з яе. Кожны раз адно, нязменна, бы наканаванае, чуў: калёсы наязджаюць на коней, коні не могуць утрымаць, усё разганяюцца з гары: ляцяць па крутым спадзе — хутчэй, хутчэй. Дух сціпала ад жаху, хацеў нацягнуць лейцы, паспрабаваць спыніць коней, але рукі былі без сілы: хацеў — калі бачыў, што ўжо нішто не ўтрымае ашалелых,— ратуючыся пагібелі, адарвацца ад калёс, саскочыць — і не мог. А коні ўсё набіралі бег, усё ляцелі, калёсы кідала, матляла так, што сэрца як не разрывалася. От-от — бяда, пагібель, канец: каторы з коней не вытрымае шалёнага лёту, ірване ўбок, рынецца пад колы!.. Божа, даруй!.. Трудны, нутраны крык выбіваўся з Глушака, раздзіраў трызненне; чуючы, як шалёна, задыхаючыся, тахкаціць сэрца, як халодны пот гоніць па шыі, па твары, ён яшчэ слабымі, дрыготкімі рукамі хрысціўся, жагнаўся, аддана шаптаў малітвы. Адчуванне жахлівага лёту

к бядзе, к пагібелі, адчуванне бяссільнасці доўга яшчэ жыло ў ім, неахвотна, марудна ўціхала, адыходзіла.

Ён так ні разу і не дасніў страшнага сну да канца: кожны раз абуджаўся, калі коні і калёсы от-от мусілі не вытрымаць пагібельнага лёту. Але, мабыць, якраз ад гэтага страх перад тым, чаго недасніў ні разу, што было там, за мяжою перабытага, найбольш і гнёў яго, таміў душу няпэўнай і нядобрай невядомасцю. Страх гэты дзіўна не цьмеў у яве, ён як бы пераходзіў з трызнення ў жыццё. Тая ж злая невядомасць чулася і наперадзе ў жыцці, злая асабліва таму, што яна ўжо не была прывідам, трызненнем. Яна была праўдаю, чутнай моцна, рэальнай.

Трывога перад заўтрашнім была самаю вялікаю трывогаю яго цяперашняга жыцця. Як агромністая хмара, вісела яна над Глушаком, цямніла ўсё сваім ценем. І ўсё ж, хоць чуў яе над сабою, чуў, што насоўваецца больш і больш, жыў, як і ўсе, як і іншымі гадамі: араў, баранаваў, касіў. Хоць без радасці, без лёгкасці былой, стараўся, асабліва на сенакосе, гнаў сябе і падганяў другіх. Як бы не мог перайначыцца, перастаць жыць тым, чым звык жыць заўсёды, што навек уелася ў душу. Перастаць жыць заўсёдным клопатам было яму як смерць. А ён хацеў жыць. Ён іўраўся жыць.

Часам, праўда, і яго ўпартыя жылаватыя рукі абвісалі без сілы, браў одум: ні на што ўсё гэта, яго гонка. Усё адно — ветрам пойдзе. Гаду якому — хутчэй — на карысць!.. У такі момант кожны раз востра пякло неадступнае: што рабіць? Адтаго, што думаў пра гэта ўжо багата, што прыдумаць не мог нічога толкам, што ведаў — змяніць нічога не можа, не здолее, як бы ні стараўся, з безнадзейнай роспаччу грудзі раздзімала важкая, безвыходная злосць. Увесь свет ненавідзеў! Увесь свет вінаваты быў, што яму так пагана!

Потым браўся зноў за працу, уядаўся, як сляпы. Робячы, спакайнеў патрохі; важкія думкі сплывалі, не вярэдзілі ўжо вельмі, боль аціхаў. Звыклы клопат, стома як бы захіналі ўсё туманам, як бы п'янілі — хоць і гарэлкі апошнімі днямі Глушак часта не цураўся. Ці ў гарэлачным, ці ў клопатным чадзе Глушаку чулася — хмара над ім нібы лягчэла, не так ужо гняла; тады прылівала дужасці, упартасці, душу цешыла надзея: быць не можа, каб так ішло век, каб не

перамянілася! I ў бога — цярплівасць не вечная! I ў бога ж цярплівасці ёсць край! I літасць ёсць к няшчасным!.. Усё шчэ павернецца! Рана зарадаваліся, людзейкі!..

2

У жыцці кожнага чалавека бываюць такія моманты, пра якія раней ці пазней чалавек думае: от ён — пачатак перамены; пачатак радасці ці бяды. Быў і ў Глушака момант, калі стары воўчым нюхам пачуў, што жыццё робіць цвёрды паварот; нядобры паварот — мусіць каціцца ўніз.

Не раз і не два прыходзіў Глушаку на памяць гэты момант, які ўсё вастрэй вырэзваўся першай, грознай вяхою бяды. Было гэта залеташняй восенню, хмурнаватым і халаднаватым днём, які прывёў яго к Нохімавай краме ў Глінішчах. Каціў Глушак на калёсах цераз вуліцу, цераз грэблю, цераз Алешнікі нібы так сабе, купіць такой-сякой дробязі для дому; са звыклай, на ўсё жыццё засвоенай скрытнасцю таіў, што вядзе туды дзіўная няясная навіна, з якой былі ў душы не толькі цікавасць, а і няясныя пакуль надзеі, клопаты: дачуўся Глушак — прадае ўсё Нохім, збіраецца кудысьці ехаць!

Яму не пашанцавала: на дзвярах і на аканіцы Нохімавай крамы ляжалі рудыя жалезныя завалы. Глушак пастаяў момант раздумліва, прывязаў каня да штыкету, прайшоў паўз вокны гэты год нефарбаванага, дзе-нідзе аблезлага дома — вокны глядзелі на мокры «коварат» моўчкі, няветліва. Між сярэдніх вокан вісеў, мабыць, ад нядаўняга свята, партрэт Леніна ў акуратнай рамачцы — Глушак улавіў хітрынку ў вострым позірку, хутчэй адвёў вочы. Калі цераз ціхі, пусты двор падаўся да ганка, з хаты выйшла прышчаватая дзяўчына — нейкая Нохімава, казалі, сваячка. Несла вядро з бруднай вадою: мыла, мусіць, падлогу: глянула на Глушака коса, буркнула, што Нохіма няма, і пацягнулася сваёй дарогай за хлеў. Глушак пачакаў яе, але толкам і не даведаўся нічога: усяго і выпытаў, што Нохім паехаў кудысьці, прадаваць у краме нічога не будзе. Сказала, што не ведае ні куды паехаў, ні калі прыедзе.

Вярнуўшыся к калёсам, Глушак убачыў на двары насупраць Элю — Годлінага чалавека. Яўрэй яўрэя ведае — рашыў ён і падышоў к Годлінаму плоту, паздароваўся. Сказаў некалькі слоў для прыліку, паскардзіўся: прыбыў купіць тое-сёе, а Нохіма няма.

— Заяву ў Юравічы павёз,— не стаў таіць Эля.

Тут на ганак выйшла Годля, прыгледзелася адзіным вокам, прыслухалася. Падала з ганка яхідна:

— У арцель паступіць захацеў!

— У арцель? — засмяяўся, як жарту, Глушак. Хоць не паказаў, на момант разгубіўся з неспадзеўкі: «У арцель — от урэзала! Пляце яна ці... праўду?..»

— У арцель.— Годля кальнула пільным позіркам, Глушак заўважыў у яе воку штосьці вострае, пранікліва. «Не пляце, мабуць...»

— Нашто яму — арцель етая?

— Чэсно жыць захацеў на старасці,— зноў пачуў Глушак у голасе яе яхіднасць.— Без крутні захацеў. Мазалём сваім. Пралетарам захацеў стаць!

«Унь яно што! Пралетарам! Удумаў!» — заўважыў на сабе Годліна цікаўнае вока, засмяяўся весялей: лоўка, маўляў, пажартавала.

— Пралетарам? Нашто ето яму, Годля?

— А вы не знаеце? — Годля не засмяялася, нацэліла вока так, быццам хацела прабіцца ўсярэдзіну яго, да думак.— Вам хіба, дзядзько Глушак, не хочацца?

Мімаволі падумаў: «Хітрая жыдоўка!» — але ўтрываў; з тым жа наіўным смехам сказаў:

— Не хочацца...

— Калі ето праўда, што вы кажаце: што вам не хочацца,— то, значыць, вы — не такі хітры! — Але казала і глядзела так, што Глушаку чуваць было: не верыць.

«Злая ж, сабака!.. Зіркне — бы ў нутро, паганка, улазіць!..» — Глушаку ўжо не хацелася гаварыць: нядобрая станавілася гаворка. Пераеў на іншае: от жа, ліха на яго, не пашанцавала — выбавіўся раз у год купіць таго-сяго — і такая няўдача! Бы лішне часу, каб сноўдаць попусту сюды-туды!..

Далікатны Эля ветліва, даверліва паківаў галавою: вядома, шкода вярнуцца назад, не купіўшы нічога. Годля ж словам, для прыліку, не абазвалася, стрэльну-

ла толькі вокам ды раптам хутка, цвёрда пакіравала ў хлеў па нейкай гаспадарчай патрэбе.

«Вам, кажа, хіба не хочацца — пралетарам?!» — згадаў Глушак, вярнуўшыся да калёс. Паправіў сядзёлку, выцягнуў пасму грывы з-пад хамута, але рабіў усё як у сне, не бачачы: яго поўніў неспакой. «Развярэдзіла душу, слепавокая!» — кінуў нядобры позірк на Годлін двор. Успомніў, адзначыў асабліва, быццам пагрозу нейкую: «Значыць, вы не такі хітры!» — стаў здзіўленымі, устрывожанымі думкамі кружыць вакол Нохіма: што ўдумаў, хітры гандляр! Удумаў такое, што век не прыйшло б у галаву яму, дурному куранёўскаму лапцю! Сам рашыў распетрыць, сваімі рукамі ўсё, што нажываў дзень ада дня, гадамі! Ва ўсім гэтым чуўся такі агромністы, страшны змест, што ў Глушаковых грудзях халадзела.

Нібы на прывязі трымала тут — дачакацца Нохіма, даведацца пра ўсё ад яго; выпытаць, вызнаць усё, што можна. Але стаяць на ковараце, перад вокнамі гэтай яхіднай яўрэйкі, мазоліць вочы ўсім глінішчанскім плеткарам было ні да чога: зусім ні да чога было Глушаку паказваць свой страх і свой клопат. Да таго ж і невялікая радасць стаяць без толку, маркоціцца чаканнем. Разважыў падацца пакуль у Туманы да сваяка — і дарога недалёкая, і, вяртаючыся, стаць зноў можна тут, як бы проста так, едучы дадому... І заадно даведаешся там можа што-небудзь — што робіцца на белым свеце...

Як ехаў, паглядваў на шлях, думаў — Нохім трапіцца, але таго не было відаць. Так і дакаціў да Туманоў. Баран Ігнат — туманоўскі сваяк — быў дома: не ўзрадаваўся, не здзівіўся, але звычаю векавечнага не парушыў — дастаў пляшку самагонкі, паставіў на стол. Руды, калматы Ігнат, хутка пасалавеўшы, упяўшы дурнаватыя вочы ў стол, амаль увесь час маўчаў — недарма далі мянушку — Баран! — але Глушак уведаў, што трэба: круцяцца і тут галадранцы; самі ўлезлі ў арцель ды другіх цягнуць ледзь не сілаю. Толькі іншыя — разумнейшыя, гаспадары — не хіляцца, коса глядзяць; рашылі цвёрда жыць па-свойму, на сваёй зямельцы, са сваімі конікамі...

Ці таму, што выгаварыўся з талковаю Баранíхаю, ці з гарэлкі, на душы было весялей, калі ехаў зноў у

Глінішчы. Яшчэ з вуліцы заўважыў, што Нохім вярнуўся: на двары стаялі ўжо калёсы. З лёгкім жа, яшчэ хмельным настроем спыніў каня, прывязаў да штыкеціны. Хлеў быў адчынены, і Глушак зразу пакіраваў туды. Ён не памыліўся: Нохім быў у хляве, Глушак даў «добры дзень», з цікаўнасцю паглядзеў, як Нохім корміць каня. Нохім, было відаць, хадзіў ля каня не першы раз, але Глушаку не даводзілася бачыць гандляра за такім заняткам: звык бачыць у краме. Да таго ж і на вопратку нельга было не глядзець: і сарочка палатняная, і штаны дамотканыя — мужык, ды і годзе! «Аж пнецца — хоча паказаць, што трудзяшчы таксамо!» — вывеў Глушак, але не сказаў пра гэта ні слова.

— Што ж не таргуеш? — лагодна папракнуў.— Па два разы прыязджаць прыходзіцца!

— А хоць бы і дванаццаць разоў — усё адно замок буў бы на краме.— Нохім выцер белыя рукі сенам, заявіў: — Не таргую.

— Чаму ж ето?

— Няма чым таргаваць. Разарыўся саўсім.

Глушак падумаў: «Кожны рад буў бы разарыцца, як ты! Грошай, пэўне, палічыць не палічыш! Ухаваў дзе-небудзь!..» — але паказаў, што паверыў, кіўнуў, нібы спачуваючы:

— Яно канешне. Цяперашнім часам не разгонішся вельмі...

— Можна було б і разгарнуцца, штоб уменне ды штоб не добры Нохімаў характар. Усё пайшло, Халімон, можно сказаць, задарам людзям. Распетрыў усё дабро, дурная галава, а не зарабіў ад людзей і «дзякуй»! Не тое што грошай! Бацька мне казаў: «Не ўмееш таргаваць, Нохім,— не бярыся! Таргаваць — ето не боты шыць!» Таргоўля спрыт любіць, а спрыту ў мяне няма! А як спрыту няма, дык і таргоўлі няма! Е толькі адны мышы на паліцах! От што е!

— Мышэй у мяне сваіх хапае, Нохім. Солі можа знойдзецца з паўпуда?

— Хіба што табе толькі, са свайго запасу. З таго, што самому сабе бярог на чорны дзень.— Нохім выйшаў з хлява, зачыніў вароты.— Кінуў саўсім таргоўлю я. Бачу ўжэ: не за сваё дзело ўзяўся. Бацько мне тады праўду казаў. Маё дзело, Халімон, у майстэрні

боты шыць. Ты ж, можа, помніш, як я некалі ў шавецкай каморачцы гібеў? З рабочых людзей, з рабочага класа выйшаў, сам знаеш. Дак дзе ўжэ нам, рабочаму класу, у таргоўлю лезці?

— Ты саўсім ето — зачыніць хочаш? — не верылася Глушаку.

— А чаго тут зачыняць! Зачынілася ўжэ, можна сказаць! Само! Чаго там было зачыняць — пляшка якая карасіны, тры пачкі запалак ды жменя солі! Толькі слова адно — што крама, таргоўля свая! Толькі рукі пэцкаў, дурная галава! Было з-за чаго слухаць, як цябе ўсякі называе нэпманам, капіталістам, буржуем! З-за нейкай пляшкі карасіны, што ты даў савецкаму селяніну! Нашто мне гэта трэба, Халімон! Хіба я сам — вораг які савецкай уладзе! Я толькі дабра хацеў уладзе, памагці хацеў! А як вам не падабаецца гэта, дак нашто мне яно! Нашто я мучыцца буду! Пайду назад у рабочы клас, у шаўцы! У арцелі боты буду шыць людзям!

Ужо калі Нохім насыпаў у сенцах торбу солі, Глушак не ўтрываў, пацікавіўся асцярожна:

— Чуў я, што Іцко паехаў кудысь?

— Паехаў...— Нохім уздыхнуў — пачуў Глушак — няшчыра; зіркнуў уважліва і як мог прыязна.— А што там яшчэ гаварылі?

— Ну, што паехаў кудысь...

— Паехаў. Кінуў бацьку. Сказаў мне: ■ такім буржуем, як ты, сорамна жыць у адной хаце! Кінуў усё і паехаў!.. От выгадаваў дзіця, Халімон!..

Глушак пільна сачыў: мо прагаворыцца хоць словам, дасць што-небудзь для здагадкі — не, вядзе асцярожна, хітра. Стары падчапіў:

— У Маскву, кажуць?

— У Маскву ці ў Кіеў — хто знае! Не піша! — Нохім пакруціў галавою, нібы папракаў сына.

— Вучыцца, кажуць?

— Не, брахня! — запярэчыў не вельмі спакойна Нохім.— Дзе ўжэ яму вучыцца, Халімонко! Рабіць на завод падаўся! У рабочы клас пайду, казаў!..

Едучы назад, Глушак перабіраў, узважваў усё, што пачуў, уведаў. «У арцель сам! — ніяк не ціхла здзіўленне.— Сам зачыніў магазін! Набытак увесь сплавіў!.. І, мабуць, па дзяшоўцы, не брэша, мабуць...»

У Глушака ў неадступнае здзіўленне ўлезла думка, што, каб не празяваў, можна было б прыдбаць тое-сёе па дзяшоўцы; але цвярозасць адразу прыдушыла яе: прыдбаць, уперлася ж у галаву такое!.. «Сам закрыў магазін, набытак сплавіў! Іцку ў горад паслаў!.. Чуе, значыцца, што не к дабру ідзе ўсё, што дабра не будзе!..» З заўсёднай зайздрасцю Нохімавай хітрасці, з нязменным вывадам: няма на свеце чалавека хітрэй за яўрэя — легла Глушаку на душу важка, цвёрда трывога: надзеі на добрае няма, пагібель ідзе! Нохім сам чуе!..

З тых адведзін багата дзён і начэй згадваў Нохіма: трэба было і яму, Халімону, штосьці рабіць, неяк вывівацца з дрыгвы, у якую грузлі ногі і якая магла неўзабаве ўцягнуць усяго. Лазячы думкамі ў гэтай багне, шукаючы і не бачачы жаданай выспачкі, дзе б можна было чуць сябе спакойна, Глушак часта проста такі ненавідзеў Нохіма: яму, спрытнаму гандляру, добра; ён — як птушка: сеў, пасядзеў, махнуў крыламі і — дагані яго. Ён і ў новым месцы выкруціцца, шырэй за другіх уссядзе! Яму ўсе гарады, увесь свет адкрыты! А ты — як ты выскачыш, калі ты без зямелькі, без гумна, без свірна свайго — што чарвяк! Што галадранец вашывы! Чым больш меркаваў Глушак, тым больш цвярдзела перакананне: што б ні было, яму няможна пускаць на вецер усяго дабра, аддаваць самому за нішто. «Дзяржацца, дзяржацца трэба — хоць зубамі, да астатняго!» — думаў упарта, наказваў сабе стары. У гэтым бачыў ён сэнс цяперашняга свайго жыцця сярод багны, на якую завёў яго лёс. «Дзяржацца да астатняго — ды ждаць! Не апускаць рук, не пáдаць самому на дно!» Чалавек цвярозага розуму, ён, які зведаў усяго ўсякага за свой неспакойны век, у той бязлітаснай і літасцівай заўсёднай зменлівасці, якая то балюча біла па твары, збівала з ног, то дзьмула добра ў спіну,— бачыў цяпер сваю найбольшую надзею. «Не вечно нішто,— думаў, цешыў ён сябе, найчасцей ноччу, памаліўшыся перад абразамі.— Адзін бог вечны. Булі паны, булі бальшавікі. Крычалі: уся ўласць народу навек! Сабіраліся сядзець век. А патом — як турнулі палякі, дак ляцелі — аж лапці мільгалі! Не вечно і цяпер! Цары булі вунь болей як трыста гадоў, а і то не ўседзелі. Не вечно і етыя, бальшавікі. Турне хтось

і етых, мо тыя ж палякі! І мо — вельмі і скора! Гатовяцца вунь — пішуць — за граніцай даўно!.. Наступіць дзень скора, буць не можа, кеб не наступіў!..

Дзяржацца трэба! Учапіцца ў зямлю ды ждаць, ждаць!..»

У такія хвіліны думаў пра Нохіма як разумнейшы: «Хітры ты, хітры, яўрэй, а і дурны. Распетрыў са страху ўсё сам, гатовы развеяць усё да пушынкі, а як вернецца добры час — дзе яго, тваё, сабярэш? Ухопішся за голаву, заенчыш — ды не выправіш нічого!.. Ждаць трэба, ждаць! — наказваў сабе. Пераканаiы ў сваім, меркаваў: — Прадаць тое-сёе, канешне, не школзіць. Скаціну якую пусціць на кірмаш, малатарню можа збыць на ўсякі выпадак, да пары да часу. Узяць грошы да пары да часу. Грошы, што там ні кажы, да пары да часу, надзейней, не прападуць, штоб там ні было. Можно запраторыць у землю — сам чорт не знайдзе! І няхай ляжаць, ждуць сабе, калі добры дзень прыйдзе! Грошы не прападуць, прадаць тое-сёе не школзіць, але вырываць свой корань з зямлі — толькі дурань вырве!» Цвярозы, ясны асабліва ў цемры і цішыні ночы, Глушакоў розум з мудрасцю разважнай, вопытнай раіў яму: «З людзьмі — да пары да часу — заядацца не трэба! Мякчэй, хітрэй да людзей трэба! З Чарнушкамі пабліжэй, падабрэй трэба — трудзяшчыя сваякі, заступка, якая ні ёсць! Маўляў, самі галадранцаў не цураемся, як адна косць з імі!..» Мелькам, бы наводдаль, у думках прайшло злое: «От, як яно павярнулася ўсё: хоць ганарыся сваяцтвам такім!»

## 3

Глушак скінуў снапы ў застаронак, загадаў сыну выводзіць калёсы з гумна. Сцяпан аброццю прыцісвуў галаву каня да персяў, налёг локцем на хамут — конь неахвотна, але пакорліва пачаў адступаць задам: ён адышоў так крокі са тры, калі калёсы наткнуліся на штосьці, сталі.

— Пастой! — крыкнуў стары сыну, недавольны ўзяўся за задок калёс: няўдаліца Сцяпан і тут не выкіраваў як трэба — утулкаю кола зачапіў за варотнае шула.

Глушак, крэкчучы, падняў задок, пераставіў ад шула. Калі Сцяпан выбраўся з гумна — загадаў распрэгчы, накарміць каня; сам пастаяў трохі, паглядзеў на загуменную дарогу, зноў пасунуўся ў гумно. Палічыў снапы. На прыгуменні, што чырванела водсветам заходняга неба, ён зноў павёў позіркам — ці не відаць Яўхіма з возам. Яўхіма ўсё не было, і Глушак пачаў злавацъ. Не першы раз падумаў, што — пагана, калі ў адным гумне разам два гаспадары, хай хоць ён, той другі, і сын табе. Успомніў, што не раз — як сваю — браў Яўхім яго мякіну, тры разы — як са сваіх — насыпаў сабе з яго мяшкоў.

«Сын, сын, а і за ім — вачэй не спускай! Шчэ можа болей, як за чужым, бо ён тут жа, пры табе, у тваім гумне! Няма таго, кеб бацьку старому памагці, дак сам урваць астатняе ад бацька, старца, гатовы!..» Ён падумаў, як няшчасны, што і з Яўхімам не саўсім пашанцавала яму: не шкадуе бацьку, сам абірае роднага бацьку! — пачуў у сабе тую нутраную злосць на ўсіх, на ўсё, якая цяпер нярэдка брала яго...

Намерыўся ўжо ісці на двор, калі ўбачыў на дарозе з вуліцы чужую постаць. Пазнаў Хоню — «Бацька з маткай» — і стаў насцярожана чакаць: што яшчэ прынесла з гэтым чортам?

— От, дзядзько,— палучыце! — падазрона весела сказаў Хоня, падаючы паперку. Глушак з таго, як ён гаварыў, пачуў, што паперка нядобрая нечым, кальнуў позіркам у яе: што там.

— Што ето?

— Налог, дзядзько. Абавязковы налог.

— Дак я ж ужэ палучыў...

— Ето тачнейшы.

Глушак хацеў ужо ўзяць, калі Хоня раптам пацягнуў паперку сабе: чамусьці засумняваўся. Прыглядзеўся, пакруціў галавою:

— Не, ето не ваша! Ето — Зайчыкава! Чуць не аддаў чужую! От — ваша!..

Глушак кінуў востры позірк — і не дарэмна: было ўжо не сорак восем, як у тым абавязацельстве, а — пяцьдзесят шэсць! Пяцьдзесят шэсць пудоў!

— Ето — утачнілі! — прасіпеў, чуючы, як злосць важка раздзімае грудзі.— Дак можа вы і падумалі — дзе я вазьму столькі?

— Ето ўжэ вы падумайце самі.— Хоня сказаў так, здалося, здзекліва, што ў Глушака затрэсліся дробна рукі. Не знайшоў што і адказаць з гневу. Хоня выбраў яшчэ лісток: — І от — Яўхіму аддайце!

Глушак глядзеў у Хоневу спіну так, што калі б агонь нянавісці, якая гарэла ў яго позірку, мог перадавацца на другіх, спапяліў бы Хоню ў момант гэты позірк. «От жа гад! От жа смурод! — не мог ніяк утрымацца, каб не дрыжалі рукі.— Смяецца шчэ, вашывец!..»

Яшчэ да таго як Яўхім, трымаючы лейцы, побач з возам снапоў падышоў да варот, стары падаўся насустрач. Стаяў каля варот, нецярпліва чакаў, чуючы, як злосць важчэй раздзімае грудзі. Яўхімаў воз, неахайны, крывы, крактаў, нібы недавольны нечым таксама,— Глушак слухаў гэта, і ў ім з гневам рос жаль да Яўхіма, жэўрала няясная, неабходная надзея. Бачыў ужо ў ім толькі супольніка ў няшчасці, адзіную сваю апору ў жыцці. Ледзь воз, чапляючы шчэццю снапоў за слуп варот, усунуўся на прыгуменне, стары пераступіў дарогу сыну:

— От — паглядзі!

Рукі перад Яўхімам дрыжалі яшчэ драбней. Ад узрушэння, ад нецярплівасці, прагі падзяліць з некім сваю злосць як бы не бачыў, што тут жа была Ганна, якой звычайна асцерагаўся паказваць трывогу.

Яўхім прыпыніў каня, доўга трымаў лісток у крывых, дужых пальцах з адрослымі пазногцямі. Пазногці, пад якімі чарнела зямля, дзе-нідзе загнуліся ўжо, бы кіпцюры. Пазногаць на сярэднім быў сарваны амаль напалову. Стары бачыў, як напялася на Яўхімавым твары цвёрдая, дублёная ветрам ды сцюжамі скура, як павастрэлі сківіцы, чакаў, што ён скажа. Яўхім не сказаў нічога: адарваўшы позірк ад лістка, павёў вачыма, быццам хацеў знайсці кагосьці,— глядзеў важка, жорстка. Раптам моўчкі ж сунуў паперку ў кішэню, рашуча сцебануў лейцамі каня:

— Но-о!

Вячэра Глушаку была не ўсмак. Дзе б ні тупаў — ці па хаце, ці ў сенцах, ці ў хляве — усё не ладзілася, усё злавала, усё было брыдкае. У сенцах гупнуў на падлогу начоўкамі, што трапіліся пад руку. У хляве ні за што так бацнуў наском апорка па нагах каню, што той

з перапуду тросся і хроп, калі зноў падыходзіў бліз-ка. Што б ні рабіў, у галаве былі, помніліся гэтыя — пяцьдзесят шэсць пудоў! «Утачнілі! Штоб вам на том свеце, на гарачай смале так утачнілі!..» У думках даваў волю злосці, помсціўся: «Трасцу вам! Не тое, што пяцьдзесят шэсць, а і шэсць пудоў — трасцы! Аднаго пуда — трасцы! Аднаго хунта — дулю! Дулю — аднаго зярняці! Падохніце, выпруціцеся з галаднечы! Паежце адзін аднаго! Як сабакі галодныя! Трасцы! Дулю!..» Ашалелы, думаў, кляўся сам сабе: рукой не варухне, каб злажыць на вазы тое, што яшчэ было ў полі, каб зжаць тое, што яшчэ стаяла: хай гніе, хай прападае! І тое хай гніе, што ў гумне,— цэпа не падыме! У сляпым, салодкім трызненні шалу станавілася лёгка, добра, чуў у сабе такую сілу, што дрэвы мог бы, здаецца, выварочваць; але шал быў нядоўгі, за гарачкай шалу студзіла галаву, грудзі паганая, безнадзейная цвярозасць: рукі, ногі — усё рабілася такім бяссілым, што хацелася сесці. «Не здай, не выканай — папробуй! Цацкацца, можа, будуць з табой, прасіць-маліць!..» Памяць зразу нагадвала не аднаго знаёмага багацея — з Алешнікаў, з Глінішч, з Княжыцы — што па́рылі косці за кра́тамі. «Восем, дзесяць гадоў — хочаш? Зарабі!..»

Пасядзеўшы квола, зноў хадзіў, кідаў, што траплялася пад рукі, сіпеў на ўсіх. З двара зноў вярнуўся ў хату. Кіпела ўсярэдзіне адтаго, што Сцяпан, тулячыся ля акна, упоцемку ўжо, сляпіў вочы пры кніжцы: здароваму гэтаму балэбусу як і не было клопату, што бацьку пятлю зацягваюць! Кіпела і адтаго, што — заўважыў — старая сачыла дурным, спалоханым, сабачым позіркам, старалася дагадзіць як магла!

— Не круціся! — крыкнуў на яе. Калі ж яна пакорліва стулілася ў кутку каля ложка, наляцеў коршакам на сына: — Кінь! Бач — кніжкі яму! Поскудзь ету! Грамацей!.. Штоб і духу етаго не було!..

Глушак вырваў кніжку і шпурнуў к печы так, што зашамацелі жаласна лісты.

— Штоб — духу не було!..

Думаў, кінецца біцца: так сядзеў Сцяпан, калі вырваў у яго кніжку. Старая таксама заўважыла: спалохана крыкнула сыну саступіць — Сцяпан важка пад-

няўся, узяў кніжку ў кутку ля печы, стукнуў дзвярыма ў сенцах.

Стары яшчэ пасіпеў, патупаў злосна і, нарэшце, прыціх. Але сядзець абы так не мог. Выйшаў на двор, пастаяў на вячэрнім ветры. Хацелася пагаварыць, адвесці душу. Пацягнуўся на Яўхімаў ганак. Дом быў перагароджаны, для Яўхіма на месцы акна былі прарэзаны дзверы, зроблен асобны ганак. Было ў Яўхіма і сваё, уласнае селішча, быў там ужо і зруб, і крóквы нават стаялі, а толькі жыццё так завязалася, што і невядома было, канчаць тую хату ці не. Так і лезла ў вочы з голымі кроквамі, сівела пустою.

Яўхім толькі што павячэраў, сядзеў ля стала, курыў самакрутку. Стары пачакаў, калі Ганна прыбярэ са стала, выйдзе, спытаў як парады:

— Дак што ж рабіць будзем?

Яўхім глядзеў усё тым жа нерухомым позіркам, ціснуў плячом вушак. Зацягнуўся глыбока, аж стала з трэскам зырчаць газетная самакрутка, доўга не выпускаў дым.

— Што? Выконуваць...— нарэшце расшчапіў ён губы.

І голас яго, як і сам Яўхім, мог бы здацца спакойным, прыміраным, але Глушак добра пачуў стрыманую, затоеную лютасць.

— З торбаю пайсці нядоўга! Як старцу якому...

Яўхім не адказаў. Зацягнуўся яшчэ некалькі разоў глыбока, павольна; стары зразумеў, што гаворкі талковай не будзе і спадзявацца не трэба, а ўсё ж пакволіўся: што ж яно будзе далей? Яўхім рэзка зварухнуўся, кінуў самакрутку на падлогу, харкнуў, цвёрда расцёр. Адрэзаў:

— Лепей не будзе...

Глушак больш не пытаўся. Не было ахвоты гаварыць. Пасядзеў, памаўчаў, пасунуўся зноў на двор. Было яшчэ больш самотна. Падаўся на вуліцу: неспакой на душы проста гнаў нешта рабіць. А рабіць не бачыў што. Не знаходзіў, што рабіць. І прасіць аб літасці — надзеі аніякай, і працівіцца — без толку. Усё адно што самому лезці на ражон.

«Па закону папробуваць трэба. Будзе што, не будзе — а папробуваць трэба. У цюрму за ето не пасадзяць...» Ціхай вуліцай, між двух радоў чорных хат,

чорных варот і платоў, маўклівых дрэў пацёгся ў той бок, дзе жыў Дамецік. Ідучы, не першы раз пашкадаваў, што адабраў калісьці добры лужок у Дамеціка, судзіўся і адсудзіў, паддобрыўшы суддзю; што прыціскаў, як другіх, то пазычыўшы чаго, то заспеўшы каня яго ў сваім жыце: трэба было тады застаўляць яго, каб адрабляў! Але ж і так падумаць можна — адкуль было ведаць яму, Халімону, што так потым павернецца; што смаркаты вырадак таго Дамеціка стане тваім распарадчыкам!

Вокны ў Дамецікавай хаце былі цёмныя, на двары — пуста, але дзверы ў сенцы былі адчынены, і там хтосьці корпаўся. Глушак даў невядома каму «добры вечар» — з цемры адгукнулася Дамеціха.

— Дамецік дома твой?

— Дома. Чухаецца ўпоцемку...

Глушак пільным позіркам і ў цёплай цемры заўважыў: стары адзін, Міканора няма — знарок расселся на лаўцы так, быццам нікога і не трэба. Толькі пагаманіўшы пра розную драбязу, пацікавіўся:

— А дзе ж ето Міканор ваш?

— У сельсавеце,— адгукнулася Дамеціха заклапочана.— Сход парцейны сягоння.

— Ні дня, ні ночы спакою чалавеку няма,— паспачуваў Глушак. У галаве прайшла думка: «Мяркуе, вашывец, пэўне, як шчэ тужэй пятлю на шыі сціснуць»,— але для Дамецiхі ўздыхнуў нават:— Нялёгко, сказаць, і парційным цяперашнім часам!

— А няўжэ ж лёгко. Рэдко калі і дома пасядзіць! — шчыра пашкадавала Дамеціха.

Глушак разважыў, што яно і непагана, што Міканора няма: пакуль прыйдзе, можа ўдасца выведаць што-небудзь, знайсці, з якога боку падступіцца. Можа ўдасца саміх, Дамеціка і Дамеціху, схіліць да сябе: каб закінулі добрае слова перад сынам. Паскардзіўся, што сэрца нешта вельмі ж тахкацець стала, і ногі паслабелі, і холадна чамусьці робіцца: сорам — а хоць ты летам кажух надзявай іншым разам!.. Старасць — ведама!.. Старасць — не радасць!..

Дамеціха і слухала і сама гаманіла ахвотна, нават прыхільна. Дамецік жа, чуў Глушак, толькі і чакаў, што ён сціхне ды сыдзе з хаты. Знарок пазяхаў на ўсю хату, чухаўся санліва: не хацеў забываць старыя

крыўды! Глушак таіў злосць: як мяняюцца людзі: гадоў яшчэ тры назад бегаў бы, круціўся, каб дагадзіць як найлепей такому госцю, а от — воўкам маўчыць! Што значыць — сілу пачуў: «бацько парційнага саксратара!»

Не гаворачы нічога, Дамецік вылез з-за стала, пашаргаў босымі нагамі па земляной падлозе. Узлез на пол, пачухаўся там. Засвістаў носам. А Глушак усё сядзеў, гаманіў, падступаўся к сэрцу, здаецца, і праўда спачувальнай Дамецісі. Нарэшце наважыўся паскардзіцца на падатак: хоць разарвіся — не выканаеш столькі!

Старая ківала, спачувала. Але як толькі стукнулі веснічкі, затупалі па двары мерныя, упэўненыя крокі, Глушак пачуў сябе так, нібы зараз мусіць счапіцца люта. Яшчэ да таго як бразнула клямка ў хату, ведаў: Міканор ідзе!

Міканор нават не адказаў на прывітанне. Упоцемку сунуўшы шапку на цвік ля дзвярэй, адразу нядобра кінуў:

— Чаго прыйшлі?

— Просьба ў мяне...— Глушак казаў, як мог, лагодна.— Па справядлівасць, сказаць, прыйшоў...

Старая акурат запаліла газнічку, і Міканор быў перад Глушаком: у картовым мятым пінжачку, віслым галіфэ, у прыпыленых лапленых ботах; рабы, пляскаты твар моршчыўся, вочы мружыліся — пэўна ж не ад газнічнага святла.

Глушак лавіў позірк яго: той не зычыў літасці. Яшчэ да таго як скончыў тлумачыць Глушак, Міканор адрэзаў:

— Справядлівасць, дзядзько, такая: здайце ўсё. Да астатняго хунта. Калі па-добраму хочаце! — У голасе яго яшчэ прыбавілася пагрозы, нагадаў: — І не застаўляйце, як летась,— штоб мы шукалі!

— Дак ці ж я проціў, Міканорко, штоб выконуваць! — Глушак трохі не маліў.— Дак багато ж вельмі! Кеб хоць зрэзалі сколькі! Штоб пад сілу було!

— Дзядзько, здавайце і — хутчэй! — пагразіўся непрыступна Міканор, выцершы твар і рукі, сядаючы за стол. Дамеціха, што падавала міску з баршчом, паспрабавала заступіцца за госця, які так прасіў, але Міканор зразу ж загадаў строга:

— Мамо, не ўмешвайцеся, куды не трэба!

Міканор сёрбаў, не гледзячы на Глушака, не тоячы непрыхільнасці, недавольнасці тым, што ён прыйшоў, сядзіць; а Глушак, хоць бачыў усё, сядзеў, са сціплым, няшчасным тварам, цярпліва чакаў, не хацеў траціць надзеі.

Было ціха. Глушак чуў, што самае лепшае пакуль — сядзець так і маўчаць. Маўчала і Дамеціха, баючыся, мабыць, угнявіць сына. У цішыню адно Дамецік уплятаў залівісты свіст з палацяў. Доўга маўчалі. Глушак яшчэ спадзяваўся, што прыйдзе зручная хвіліна, калі можна будзе пачаць зноў. Прасіў толькі ў думках бога, каб не прыперла не ў час каго-небудзь з суседзяў. І калі ўвайшоў хтосьці на двор, пачуў адразу. Чалавек ішоў хутка, рашуча.

Бразнула клямка, і ў хату рушыў — не хто іншы — Яўхім. Без шапкі, з раскіданым чубам, з расхрыстаным каўняром, кінуў на Міканора, на Глушака неспакойным бляскам вачэй. З аднаго позірку ўбачыў бацька, што Яўхім «сарваўся». Стрымлівацца, думаць ужо не зможа. Папрэ напралом.

— Ето ты распарадзіўся? — Голас яго прыкметна дрыжаў. Яўхім узяў з кішэні паперку, сунуў на стол.

Міканор кончыў есці, адставіў міску, выцер далонню губы. Спакойна паглядзеў на паперку, на Яўхіма.

— Улада распарадзілася.

— Ты знаеш, с-сколькі ў мяне будзе?

— Знаем.

— Знаеш! — Яўхім ледзь стрымліваў сябе: — Дак калі я ўсе, што змалачу, аддам вам! Сабе неаставіўшы! Не хваціць на налог вам!

Міканор пакапаў мезенцам між зубоў.

— Хваціць.

— Хваціць! Ты знаеш усе! — Яўхіму нібы цяжка было дыхаць. Вочы гарэлі; гатоў быў, здавалася, рынуцца на Міканора. Дамеціха пабялела ад страху. Глушак устрывожана памкнуўся да сына, развважным, бацькоўскім тонам папракнуў:

— Яўхім!..

Той — быццам не чуў — паліў вачыма Міканора. Дамеціха схамянулася таксама, кінулася к сыну:

— Міканорко!.. І — ты!.. Будзь разумны!..

Міканор дужаю рукою адвёў яе. Устаў на поўны рост; як вартавы, на сцяне за ім устаў цень. Заявіў спакойна:

— Знаем! — Спакойна ж павялеў: — Ты не крычы тут!

Яўхім момант не ведаў, што сказаць. Было відаць: душыла лютасць.

— Волі багато ўзяў сабе! — Але гэтага было мала. Ад лютасці, ад бяссілля аж затросся, адштурхнуў Глушака, шалёна, з віскам крыкнуў: — Дак хай яно — гніе! Усе адно!

На палацях ускінуўся, здзіўлена таропіў вочы Дамецік.

— От як ты загаварыў, кулацкая душа! — у Міканоравым голасе таксама пачуліся гнеў, пагроза: — «Хай гніе!..» А ты знаеш — што за злосны зрыў дзяржаўных нарыхтовак?

— Знаю! — Яўхім не збаяўся. Не таіў нянавісці.— І ты — знай: не астатні раз бачымся! Мо шчэ пабачымся калі! Так што і ў мяне сіла будзе!

Міканор ухмыльнуўся:

— Наўрад!

— Не заракайся!

Яўхім стукнуў дзвярыма з сянец з такой сілаю, што лямпа хітнулася і затрымцела. Хвіліну ўсе маўчалі. Міканор, нерухомы, не зводзячы воч з дзвярэй, глыбока засунуў кулакі ў кішэні, сказаў жорстка — нібы камусьці другому:

— От як шчэ гаворыць, сволач!

Глушак цярпліва перамаўчаў. Паказаў, што чуе сябе вінаватым. Што не хваліць Яўхіма. Вінавата, як бы просячы не браць вельмі ў галаву, адгукнуўся:

— Здурнеў саўсім! Як разгарачыцца, сам не помніць, што кажа! Не глядзіць ні свайго, ні чужога, бацьку, матку не глядзіць! На мяне дак сколькі разоў сляпіцаю лез! Заслепіць вочы — і лезе! Не кажы проціў яго нічого! — Глушак заўважыў: Дамеціха жаллівa ківала, павёў зноў вачыма на Міканора.— Ето як буў малы — упаў раз у пограб. З таго часу ўсё. Абы загарэўся — дурнее! На мяне, кажу, сляпіцаю сколькі разоў лез! Дак ты не крыўдуй, Міканорко! Не думай, што тут што якое!..— Ён узяў са стала Яўхімаву паперку,

згарнуў.— Мы не проціў, штоб выконуваць. От толькі, кажу, няма як — штоб усе. Хоць жылы перарві — не ходіць!.. Кеб скінулі пудоў якіх пятнаццаць?..

Міканор ужо сядзеў ля стала, але яшчэ жорстка таропіўся ў дзверы. Не чуў, што казаў Глушак, не хацеў і слухаць. «От боўдзіла! — зазлаваў стары на Яўхіма.— Прыпёрся, зачапіў, раз'ятрыў гада! Сам сапсаваў усё!..» Калі цягнуўся ціхай вуліцай дадому, да злосці дамяшалася яшчэ трывога: каб не перадаў гэты васпаваты пра Яўхімаву гаворку ў Юравічы! Ліха тады не абярэшся!..

На другі ранак Глушак з'ездзіў на поле, прывёз яшчэ воз снапоў. Скінуў абы-як. Ні за што аперазаў віламі каня. Усё было няміла, нават ненавісна: і конь, і сын, і снапы, і гумно. Увесь свет. Ні на момант не забывалася, кіпела злосцю, лютасцю: пяцьдзесят шэсць пудоў! На прыгуменні плюнуў, загадаў Сцяпану паставіць каня ў хлеў. Плюючыся, лаючы ў думках увесь свет, пабрыў на вуліцу, вуліцаю на дарогу к цагельні, к грэблі. Як быў у полі — у рваным зрэб'і, у штанах, праз дзірку ў якіх бялела калена, у лапцях — сунуўся ў Алешнікі. Загадзя амаль упэўнены быў, што дарэмна ідзе, а ішоў. Не мог не ісці, не паспрабаваць...

За грэбляю бачыў: і ў Алешніках ці не ўсе ў полі або пры гумнах. Здалёк на палосах, на дарогах, на прыгуменнях былі відны вазы. У сяле было ціха і пуста. «Робяць! А ты — лезь! Марнуй час залаты!.. Чорта ён — залаты! Буў — залаты! Буў ды — збуў, прапаў!.. Дак хай еты — прападае! Хай хоць усе прападае! Усе к ліху!..»

У доме, дзе быў сельсавет, у першым пакоі — «на пошце», век таўкліся людзі: адны з газетамі, з пісьмамі, другія — гэтых найбольш — са ўсякімі гамонкамі, з самакруткамі; цяпер, дзякуй богу, і за бар'ерчыкам, дзе сядзеў начальнік пошты, было пуста. За дзвярыма, у сельсавеце, гаманілі; Глушак асцярожна сунуў галаву ў непрычыненыя дзверы — былі толькі Трахім, сакратар, і Гайліс — старшыня сельсавета. Гайліс збіраўся кудысьці ісці — браў паперы са стала, лажыў у шуфлядку.

— Ві за што? — зірнуў ён на Глушака, акуратна замкнуўшы шуфлядку.

Калі Глушак тлумачыў, латышовы вочы, здаваліся, сінелі, як неба зімой: худы, сухі, жаўтавата-загарэлы твар быў цвёрды і недаступны. Усё даслухаў спакойна, не варухнуўся нават. Спакойна ж, мерна стаў адразаць слова за словам:

— Ві не есць бядняк, і ві не маеце права на льготу. Ві — кулак, эксплаататор, вот хто ві есць.— Гайлісавы словы білі роўна, цвёрда.— І мі налажылі на вас падаток — як на кулака. Это зроблено намі законно — согласно закона про сельскагаспадарчы падаток. Мі не зрабілі ніякого парушэння этого закона, і ві не маеце право трэбоваць пераглядаць ваш падаток.— Ён маўчаў, пакуль Глушак нанава тлумачыў, што ён просіць; загаварыў зноў так жа роўна і так жа цвёрда: — Калі ві хочаце мірно жыць з савецкай уладой, то ві абов'язаны всьо віконаць — до одного грама. Інакш — будзеце, согласно законаў Савецкай улады, мець суд.

— Я...— Глушака раздзімала злая ўпартасць.— Я буду... Я падам...— хацеў сказаць «скаргу», але стрымаўся: — Я падам просьбу ў раён!

— Это можно,— спакойна ўстаў Гайліс.— На это есць ваша право.

Глушак спраўдзіў слова: другія толькі яшчэ паснедалі, калі яго калёсы ў крутой цеснаце між юравіцкіх гор сунуліся ўніз у вуліцу. Прывязаўшы каня, скінуўшы яму сена, патупаў старэча па сходцах: у пакоі перад Апейкавым кабінетам было ўжо людзей — не так проста і прабіцца. Ён прыліп да чаргі, прыгледзеўся: ледзь не ўсе такія ж — то са скаргамі на падатак, то — што зямлю пад калгас адрэзалі. Як бы стараючыся ўведаць, што чакае яго, Глушак пільна цікаваў, якімі вяртаюцца з кабінета: чуў непрыхільнасць і нядобрую зайздрасць да тых, што ішлі давольныя, абнадзееныя; трывожыўся, калі паказваліся панурыя, сярдзітыя.

Чакаў, таміўся: чарга ішла марудна. З акна былі відаць гонтавыя стрэхі, фарбаваныя дахі, няблізкі ельнічак, за ельнічкам угадвалася Прыпяць; адтаго, што ўсё было нязвыклае, чужое — самота брала яшчэ мацней, чым у Алешніках. Як і тады, ён амаль не верыў ва ўдачу. Ён, праўда, згадваў, што чуў пра Апейку — добры, справядлівы, але згадкі гэтыя заўсёды натыка-

ліся на сваё, нязменнае: усе яны — добрыя! Каб добры быў, не сядзеў бы тут.

Апейка паглядзеў уважліва, здалося — пільна. Здалося — у твары паявілася штосьці нядобрае, пазнаў нібы. Але не сказаў пра гэта, запрасіў сесці на табурэт каля стала. Схіліўшы палыселую галаву, прабег вачыма прашэнне, якое даў Глушак.

— Дайце спісы Алешніцкага сельсавета,— папрасіў Апейка чалавека, што сядзеў збоку стала. Той паважна і спрытна перагартаў пачак папер, выбраў адну, падаў старшыні.

Толькі цяпер Глушак як мае быць убачыў чалавека: пазнаў «парційнаго да нітачкі», які калісьці прыязджаў абрэзваць зямлю. Згадаў нейкія асцярожныя намёкі Яўхіма, што не такі ён — Зубрыч — і «да нітачкі», як паказваў сябе...

Зноў пільнаваў Глушак, як Апейкавы вочы бегаюць па паперы, загадзя прагнуў уведаць свой лёс. Вось — знайшоў, цішэй, уважней пайшоў па радку. Падняў галаву — і яшчэ да таго, як сказаў слова, Глушак прачытаў свой прысуд: ніякай літасці не будзе! Але таго, што сказаў Апейка, не чакаў:

— Глушак Яўхім — ваш сын, здаецца?

— Сын... — кіўнуў Глушак.

Ён зірнуў востра: Апейка, прыкмеціў, пытаўся не так сабе; і ў Глушака засела нецярплівае: «А — што?» Але Апейкавы вочы былі, як асенняя ноч — не ўгледзеў нічога. Насцярожаны, падумаў: «Васпаваты, мабуць, перадаў!.. Дурань, палез на ражон!..» — вылаяў зноў Яўхіма.

— Я не проціў, кажу,— ужо зусім не верачы ў добрае, прасіпеў Апейку.— Але няхай — штоб па сіле. Кеб скінулі трохі...

— Нам трэба хлеб,— нудным, трохі раздражнёным голасам прамовіў Апейка.— Вельмі многа хлеба! Хлеб — рабочым, гарадам. Хлеб — Чырвонай Арміі! Каб выканаць пяцігодку — патрэбен хлеб! Вельмі многа хлеба!

Тон Апейкавай гаворкі быў такі, што Глушак чуў — ён і не збіраецца ўгаворваць яго, пераконваць. Ён нібы паўтараў урок дурному вучню — казаў толькі таму, што трэба было сказаць нешта, неяк скончыць гаворку. Глушак чуў, што прасіць яго, Апейку, ця-

пер — тое ж, што прасіць сцяну, тую гару, што гарбаціцца за яго спіною, за акном. Яго ў момант заліло нянавісцю, такой пякучай, што стала трудна дыхаць: ненавідзеў лысіну з рэдкімі валаскамі, ненавідзеў нечасаны, зямлісты твар, ненавідзеў расхрыстаную касаваротку, ненавідзеў доўгую, худую шыю з ямкаю над ключыцаю, што відна была ў росхрысце каўняра.

— Няма праўды,— прасіпеў, душачыся адчаем і лютасцю.

Апейка, нібы яго ўжо і не было, адчыніўшы дзверы, пазваў да сябе наступнага. Быццам выганяў яго.

Сляпы ад злосці ехаў Глушак мястэчкам, стуганеў жалезнымі абадамі па бруку. Ужо ля рыначнай плошчы схамянуўся, што няма чаго тут рабіць больш, у мястэчку. Забег толькі на пошту, купіў аж тры газеты і павярнуў каня дадому. Усю дарогу лаяў сябе: знайшоў у каго шукаць праўды, дамаўляцца з кім! Дамовіўся! Кармі ўсякую нечысць — бальшавікоў гарадскіх ды салдат, якіх на тое і сабралі, каб — калі што якое — штык табе ўсадзіць! Гаворыць як,— успамінаў Апейку,— бы не чуў, што ты казаў, бы смяецца з цябе! Чуе, гад, што сіла ў іх, што астаецца — толькі гнуцца ды выконуваць, кленучы і сябе і свет увесь! Ні чорта, ні бога не баяцца! І бог маўчыць, як, бы скажы ты, сам за іх ці як бы — і праўда — няма яго на небе!.. Схамянуўся, перахрысціўся хутчэй: што́ падумаў, дурная галава! Ёсць бог — бачыць, чуе ўсё! Бачыць — прыйдзе час — скажа ўсё! Ён цярплівы, цярпіць, але і яго цярпенне не вечнае! Прыйдзе пара́ — скажа сваё!..

Час ад часу сярод гэтых думак згадвалася пытанне пра Яўхіма, і ён стараўся дапасці: што яно значыла, ці не было ў ім якой бяды сыну. Нічога пэўнага не ішло ў галаву, была толькі няясная трывога, з якой нязменна мяшаўся дакор Яўхіму за тое, што не слухаў яго. Адтаго, што і Яўхім быццам не разумеў яго, не жыў душа ў душу, чуў сябе як рэдка калі адзінокім.

Захацелася прыбіцца да свайго чалавека, аднадумца, у якога тая ж трывога і злосць,— параіцца, памеркаваць удваіх — што рабіць? Ледзь калёсы дакацілі да таго берага, дзе разам з колішнім панскім садам прыступалі к шляху два рады калісьці панскіх, а цяпер — камунараўскіх таполяў, павярнуў каня на не-

шырокую, голую дарогу ў Загародкі. Вельмі раптам захацелася пабачыць Хрола.

К Хролу, бывала, не вельмі хіліўся; хоць іншы раз і запрашаў на святы і сам адведваў яго, як роўнага станам,— пры людзях нярэдка пляваўся, судзіў зларадна: казалі, Хрол сам бацьку роднага зарэзаў. Як знайшлі старога ў лесе з перарэзаным горлам, даказаў хтосьці: не чужая чыя — сынкова работа; скруцілі сынку рукі, катаргу вечную напрарочылі. Дык не ж — неяк выкруціўся, явіўся цераз год — як і не было нічога. Год-другі пачакаў, а там і ўзяўся — купляць, будаваць: і агледзецца не агледзеліся — першым багацеем на ўсе Загародкі стаў! У абарот пусціў крадзеныя ж у пана бацькавы залатыя, над якімі той дрыжаў, галодны і абарваны, як над пісанаю торбаю. Глушака, хоць пляваўся пры людзях, не раз пякла зайздрасць — да Хролавай смеласці, да спрыту, да лёгкага, хуткага багацця яго. З зайздрасцю, як сёстры, ішлі і рэўнасць і злосць — загародскі Хролчык ва ўсім, здавалася, абганяў, абкрадваў Глушакову долю. І як жа мяняецца ўсё: потым не было чалавека, які б так, як Хрол, падтрымліваў яго, Глушака. Не верылася неяк, што ўсё зусім, нашчэнт прападае, прападзе, калі на зямлі яшчэ ходзяць, жывуць такія, як Хрол. Хрол быў як таварыш у бядзе, як надзея ў гэтым паганым, безнадзейным свеце. От і цяпер як на прывязі вяло к Хролу.

Сяло цягнулася доўгае — гарбатыя платы, крывыя прызбы, чорныя вокны, што, здавалася, віжавалі з абодвух бакоў вуліцы. Не вельмі разумна было ехаць так, сярод белага дня, цераз усю вуліцу, к Хролу — самому лезці на непатрэбнае цікаванне людское і плёткі. Другім разам асцярогся б неяк, але сёння было не да пустой асцярогі. Злосць, што не ападала, не хацела чакаць, не давала ехаць кудысьці: вяла проста туды, дзе можна было прыткнуцца да другога, надзейнага чалавека, знайсці нейкую апору, нейкую патолю. Ды, калі на тое, і так доўга бярогся. А што — выбераг?

Хролаў дом, як і тыя разы, зводдалек улез у вочы, ледзь толькі завіднеўся з-за хат. Збоку можна было падумаць — радаваўся ўсяму: сцены жаўцелі, нібы ў масле, цынкавы дах быццам смяяўся, фігурныя аздобы на вокнах — бы дзявочыя ўборы на свята. Ужо зблізку заўважыў: аздоба на вокнах багата дзе патрэска-

лася і абадралася; калі і нагадвала пра святочнае, дык толькі так, што свята было і сплыло. Былі ўборы ў дзеўкі, ды асталося рыззё. Не да ўбораў цяпер колішняй весялусе...

Заўважыў — пабітыя шыбы ў двух вокнах заткнуты анучамі. На двары ўсё раскідана абы-як, вароты ў хлеў скасабочыліся, вісяць на адной пятлі. На ганку правалілася масніца...

Хрол быў на гумне. Праз хвіліну жонка прывяла яго; сухі, жылаваты, у зрэб'і, з асцюкамі ў даўно не стрыжанай барадзе, зірнуў спадылба на Глушака — нялюдска, зверавата. Як бы казаў: чаго прыпёрся?

Ішоў к Глушаку так жа набычаны, з тым жа нязводным позіркам. Прыгорблены гадáмі, ён ступаў неяк нядужа, валачыў ногі, і, каб не веданне, думкі не было б, што ён на такое здатны. Толькі вочы выдавалі яго, ды — рукі... Сядзеў за сталом усё такі ж набычаны, рукі з чорнымі растапыранымі пальцамі трымаў перад сабой. Глушак гаманіў даверліва і лісліва: прыязнымі і вострымі вочкамі бегаў то к Хролу, то к Хролісе, то зноў — к Хролу; як ні быў растрывожаны, не парушыў звычкі — вязаў спачатку гаворку дробную, для прыліку. Хрол маўчаў, Хроліха ж памагала Глушаку, снуючы з сянец к сталу, бавіла госця і загародскімі навінамі і сваімі скаргамі. Падзялілася не толькі навінамі, але і пляшкай самагонкі і закускаю: Глушак скора пачуў, як агонь, уліты самагонкаю, перамяшаўся з агнём злосці, які пёк ад самай гаворкі з Апейкам. Тут і развязаўся ў Глушака язык — стаў выліваць усё, што паліла не адзін дзень; прыпомніў і «васпаватага», і «гада латыша», і «заразу з воласці». Не выліў усяго, калі маўклівы Хрол раптам п'яна адрэзаў:

— Так і трэба!

— Што?.. Што, сказаць... трэба?

— Душыць!.. Чавіць вас трэба!

Глушак скрыжаваў з ім здзіўлены позірк. Хрол не жартаваў, глядзеў так важка, ненавідна, бы хацеў і сам «чавіць». Хроліха заступілася за госця, паспачувала: «І ў нас жа тое». Глушак не ведаў, што казаць. Мімаволі падумаў з ніякавасцю і павагай да Хрола: «Еты — задушыць і не íкне!» Заўважыў — чорныя дужыя пальцы на стале варушыліся.

— Склізні!..— пагардліва скрывіўся Хрол.— Дачакаліся!.. Чаване басота вас — склізь пацячэ! Адна склізь будзе!.. Даждаліся!..

— Не мамéнт цяпер,— вінавата і як бы павучаючы, запярэчыў Глушак.— Сіла ў іх цяпер!.. Галавою сцену не праб'еш! — Ён заўважыў: Хроліха згодна ківала.— Не мамент!

Хрол зноў скрывіўся:

— Склізні!..

Зноў выпілі, доўга, аж Глушаку маркотна стала, маўчалі. Хроліха паспрабавала была перабіць маўчанку, але Хрол так зіркнуў, што яна анямела. Сядзела ўжо, са страхам гледзячы на Хрола. Хрол толькі вачыма павёў на дзверы, і яна знікла.

Хрол тарапіў кудысьці ўсё той жа важкі позірк, толькі пальцы — заўважыў Глушак — заварушыліся нецярпліва, дужа. Стала аж нядобра адзін на адзін.

— Падцікаваць — ды!..— Крывыя пальцы сціснуліся, скруціліся люта.— Штоб і не крэкнуў! — Упяў вочы ў Глушака, скрывіўся: — Няма... Склізні!..

Глушак сказаў, што «Гепеву» толькі і цікуе, каб выткнуўся хто: зразу прыляціць, зразу — пад рэвальверы, але Хрол адно скрывіўся. Добра, акурат налучыўся Хролаў хлопец, загарэлы, жвавы, пацініснуў дужа руку, прысеў да стала. У куточках тонкіх, сцятых губ мільгнула прыхільная ўсмешачка. Глушак ахвотна ўхапіўся за яго роспыты пра Яўхіма, павёў лягчэйшую гаворку.

— А ты чаго ж, не думаеш жаніцца? — пацікавіўся знарок весела Глушак. Успомніў раптам яго мянушку: «Цацура».

— Ды от ждаць, глядзець прыходзіцца! Чорт жа яго знае, што шчэ будзе! — Цацура засмяяўся.— Ці трэба шчэ цяпер той хамут — жонка?

Глушак, хоць улавіў нібы намёк на Яўхіма, засмяяўся невясёламу Цацураваму жарту. Пахваліў за розум.

Яшчэ трывожней было на душы ў Глушака, калі ехаў ад Хрола. Браўся напраcткі, цераз балота; хоць дажджоў даўно не было, конь раз-пораз чвякаў у чорным балотным кісялі, груз да калень, вышэй калень. Балота было тут не так шырокае, толькі ўправа і ўлева зялёнае куп'ё цягнулася немаведама куды; пакуль

вочы бачылі, зелянела куп'ё, асака, рэдкія, чэзлыя кусточкі — а ўперадзе бераг быў недалёкі. Адно перад тым берагам рэзала балота рэчка, цераз якую трэба было перабірацца ўброд. Тут было трохі намошчана галля, але, гнілое, асклізлае, было яно так уціснута ў твань, што і на ім конь груз па пуза, а вада рачная падмачыла Глушака на возе. На самай сярэдзіне рэчкі ледзь не ўгрузлі зусім, Глушак думаў ужо, што давядзецца лезці ў гразь, памагаць каню, але конь усё ж выпяў калёсы на бераг. Тут ужо недалёка была цвёрдая дарога, колы пакаціліся па пясчаных каляінах.

Глушак як за туманам бачыў і гэтае балота, і пустое пясчанае поле, і цёплы хвойнічак пры дарозе. У вушах сядзела, не ўціхала пагардлівае Хролава: «Склізні!»; чуў увесь час: «Так і трэба вам!.. Расчавяць вас!..» Спрачаўся ў думках, даводзіў: не час, «не мамент», ведаў, што няма чаго і зубы паказваць — абламаюць зразу,— а Хролавае: «Склізні!» — усё не ўціхала.

«Ухапіся толькі за карак які пальцамі сваімі — секануць так, што і рукі не вернеш! Не тое што рукі, і галавы! Сіла, улада ў іх! Ге-пе-ву!... Буў час — калі палякі, немцы булі. Сплыў!.. Астаецца толькі ждаць — пакалі бог зноў верне!» Але калі ўспамінаў Апейку, падатак, які чакаў яго ў Куранях, злосць, вялікая, на ўвесь свет, залівала ўсяго, усе развагі. Нельга было чакаць. Не было змогі чакаць. Трэба было рабіць штосьці. Што?!

Ледзь распрог каня, зайшоў у хату, не ўправіўся разуць мокрыя пасталы — паявіўся Яўхім. Прыкурыў ад вугалёчка пры печы, сеў на сваё звыклае месца ля стала, глянуў насмешліва.

— Ну, што, дабіліся, тато, праўды?

— Дабіўся...— Глушак штосілы чвякнуў пастол пад лаўку.

— Трэба було праверыць!

Глушаковы рукі неслухмяна задрыжалі. Не мог развязаць абору на другім пастале. Раптам плюнуў, закрычаў Яўхіму:

— Трэба, не трэба! А і на ражон — няма чаго лезці! Жыць надаело?!

— Не надаело,— як бы павінаваціўся Яўхім.— Толькі ж — і так жыць... Нудно!

— Ну, дак выткніся шчэ раз! Мо — у Гепеву возьмуць! Весялей будзе!

— А, усе адно! Як так жыць! — у Яўхімавым голасе былі такія нецярплівасць і бясстрашнасць, што стары глянуў з трывогай.

— Дурань! — узяў Глушака жаль.

Яўхім перамаўчаў. Дакурыў папяросу, паслініў абкурак, лянiва ўстаў. Кінуўшы абкурак у сметніку ля печы, лянiва падаў плячом дзверы ў сенцы.

Было цемнавата, і Глушак запаліў лямпу. Выняў з каробачкі векавечныя акуляры, зачапіў вяровачкай за вуха. Па ўсім было відаць, што бярэцца за справу сур'ёзную, важную: з такой сур'ёзнасцю толькі маліўся ды — апошні час — чытаў газеты. Цяпер на стале былі газеты; ён разлажыў іх па парадку — «Савецкую Беларусь», «Бедноту», «Правду». Узяў першую, схіліўшыся да святла, вострымі, тхарынымі вачыма пабег па лісце, пакуль не знайшоў — «Весткі з-за мяжы».

У гэты вечар пашанцавала: рукі нецярпліва задрыжалі, калі разабраў вялікія чорныя літары: «Польшча рыхтуе вайну». Так было напісана, чорным па беламу; другі раз прачытаў: «...рыхтуе вайну»! Поўны надзей, ад якіх аж млела ў грудзях, уліп у газету, варушачы сухімі губамі, разбіраў слова за словам. Толкам нічога не было, усё пісалі наогул, але і гэта радавала, абнадзейвала: сам Ленін унь казаў, так і напісана — яшчэ ў 20-м годзе,— што Польшча імкнецца на Беларусь і Украіну! А от жа дык проста напісана: «Польшча ўзбройваецца пры дапамозе чужаземнага капіталу!..» Нібы спецыяльна для яго, каб ведаў, каб не сумняваўся!

У другіх газетах — не дарэмна, значыць, патраціўся — вычытаў, што на савецкую зямлю ўчыняюць наскокі белагвардзейскія і кітайскія атрады. Гэта, праўда, не так цешыла, было чорт ведае дзе, як на тым свеце; ды і артыкул быў увесь злы, усё грязіўся тым кітайцам і белагвардзейцам даць адпор, але і гэта падтрымлівала надзею: вайна збіраецца! От яшчэ: «Кітайскія драпежнікі рыхтуюцца да новага нападу... Кітайскія генералы групуюць значныя вайсковыя сілы каля нашай мяжы... Хочуць справакаваць вайну!..»

Аж пот узяў. Ужо не было нібы кволасці, калі чытаў, што хлебанарыхтоўкі трэба выканаць поўнасцю і

ў тэрмін, што трэба бязлітасна ўдарыць па варожых кулацкіх элементах, якія будуць імкнуцца сарваць важнейшую дзяржаўную кампанію. Усё ж усярэдзіне кіпела, са злосцю ўпаўзала і трывога. Ён зняў акуляры, паклаў у каробачку. Стаў на калені перад абразамі.

У цемры, на палацях, апанавала чутае, бачанае за доўгі, марны дзень, зноў убачыў чаргу ў юравіцкай бакоўцы, Апейку, Хрола. Зноў запякла злосць, ледзь згадаў: «Нам трэба многа хлеба». Трасцы, хваробы вам, а не хлеба! Ён сам не заўважыў, як зашаптаў гэтыя словы так, што старая побач заварушылася. Зэ хвілінай ненавіднасці да яе — пайшлі думкі пра Хрола, пра Яўхіма. Дурні, самі гатовы падставіць галовы пад калёсы! Падстаўце, калі жыць надакучыла! Падстаўце, пабачыце! Гепеву сама рада будзе — ціскане так калёсамі, што галовы дурныя хрупнуць, як гарбузы!.. Падставіўшы галаву пад калёсы, не астановіш іх! Сіла трэба! На сілу — сіла! Падтрымка трэба! Вайна! Адна надзея — вайна!.. Са злосцю падумаў: пішуць усё — будзе, будзе, а — не, няма! Усё — «гатовяцца», «гатовяцца»! Як ні балела душа, розум вялеў: «Не час! Ілбом сцену не праб'еш! Ждаць — адно астаецца. Маліцца богу ды — ждаць! Адно — ждаць маменту!»

## РАЗДЗЕЛ ШОСТЫ

### 1

Пасля таго як дакасілі, разам ужо выходзілі і жаць. Станавіліся ў рад, зажыналі ўсе адразу і ішлі так, згінаючыся, кладучы за сабой снапы, пакуль на паласе не жаўцела адно пожня. Разам састаўлялі бабкі. Калі зжыналі адну паласу, гуртам, гамонячы, ішлі ўсе на другую.

Разам і звозілі снапы. Яшчэ кожны на сваім возе, сваім коніку, але ўжо не на свае гумны, а на прызначаныя. Жыта — у Хведарава гумно, авёс і пшаніцу — у Грыбковае, а грэчку і проса — да Алёшы Губатага. Гэта больш за ўсё ўражвала куранёўцаў. Усё ж стагі і бабкі, хоць і касілі і жалі разам, стаялі ў кожнага на

сваім надзеле, былі яшчэ нібы сваімі, асобнымі. Тут пачыналася ўжо іншае.

Лёгка было заўважыць, што падзея гэта тых, хто рабіў на сваіх палосах, хвалюе, як і на лузе, па-рознаму. Адны бралі ўсё вельмі спакойна, як далёкае, чужое: што нам да таго, куды вязуць, хай хоць у балоце патопяць! Другія глядзелі не толькі цікаўна, а і як бы непакоіліся: трэба ж на такое асмеліцца, не пабаяліся. Трэція толькі галовамі круцілі, судзілі нядобра між сабой, прарочылі, што ўсё гэта ні да чаго, дурныя выдумкі. Як бы хвалячыся гаспадарлівасцю, мудрасцю сваёй, даводзілі адзін аднаму, што яны — не такія дурныя, што трэба глядзецца свайго, надзейнага. Адны пазіралі на вазы, што паўзлі ў чужыя гумны, моўчкі, з нейкім думаннем, другія — чапляліся, падсмейваліся: «Месца ў сваіх мала ўжэ?.. Ці — лішняе?», «Ці ето таму, што Грыбок лепей пасцеражэ?», «Так весялей, мабуць: аддаць сваё, а патом ждаць, калі Міканор падзеліць? Выдзеліць жменю з твайго ж дабра!..»

А потым пайшло яшчэ: калі пажалі, звезлі ў гумны ўсё, сталі зводзіць разам кароў, коней, звозіць вазы, плугі. У той дзень усе, хто быў у сяле, выбеглі на вуліцу, каля кожнай хаты, каля кожнага штыкетніка стаялі, глядзелі жанкі, мужчыны, дзеці. Гуртам, найбольш, праўда, дзеці, рушылі ўслед.

— Дзядзько Іван,— гарлаў Ларывон Зайчыку, што тупаў побач з возам, які цягнуў сівы, стары конь,— чаго ето твой рысак так неахвотно цягнецца? Як усе адно — у калгас не хоча!

— Не хапаецца! — падчапіў Хадосьчын бацька. На ўвесь голас пакпіў: — Несазнацельны, нібыто!

— Дай яму пад пузо, паганаму! — параіў Ларывон, давольны тым, што слухае столькі народу.— Кеб бег і другім прыклад паказуваў!

Зайчык стаў, пацягнуў за лейцы, спыніў старога каня. Весела, паморгваючы, павёў позіркам на тых, што стаялі каля платоў, што ішлі ўслед.

— Няма мне, братачко, хапацца чаго! Я, братачко, усе адно — першы! Ето ты будзеш бегці, штоб не апазніцца! Аж хвост задзярэш, як Халімонаў бугай!..

І тыя, што каля платоў, і тыя, што ішлі ўслед, зарагаталі. Зарагаталі таму, што гэта казаў Зайчык, і таму, што згадалі дурнаватага бугая, і таму, што бугаём

дражнілі ж і Ларывона. Ларывон пачырванеў злосна, але, зірнуўшы на Яўхіма, што стаяў поблізу, стрымаўся.

— Глядзі, штоб ты не ляцеў, задраўшы хвост, са свайго калхозу!

— Я, братачко, бегаць так не ўмею! І хваста не задзіраю!.. Не тая, братко... скаціна!

Зайчык пад рогат пайшоў зноў, не слухаючы, што там спрабуе адказаць Бугай. Чародка цікаўных, смеючыся, падалася ўслед.

— Куды ето, кумочак? — сустрэла Сарока, якая толькі што горача, размахваючы рукамі, спрачалася пра нешта з гуртком жанок. Голас быў ліслівы, прытоена хітры.— Як усе адно — у прымы!

— У прымы! Хацеў, кума, к табе, ды перадумаў — старая ўжэ ты для мяне! Я і маладзейшую найсці магу!

— Дак маладая — не вельмі па табе ўпадае! Абяшчае не на ўцеху, а так, для смеху! Напражэ скварак, а — дасць у карак!..— Перастала рагатаць: — У калгас ето?

— У гурт, братачко.— Падчапіў: — Хадзем мо разам, кеб весялей було!..

— Ідзі, кумочак, покуль адзін,— весела, але неяк сур'ёзна сказала Сарока.— Паспытай — які смак, а тады ўжэ нам дай знак! — Яна азірнулася на жанок.— Як соладка будзе, уся каманда прыбудзе!.. А як горка на смак, паўзі назад, як рак!..

— Старая ты, баязлівая! — плюнуў Зайчык, падаўся сваёй дарогаю.

Заехаў на Міканораў двор, дзе з Міканорам стаяла некалькі калгаснікаў і цікаўных, здаў плуг, барану, распрог каня, здаў збрую. Міканор усё запісаў у зялёны вучнёўскі сшытак, напісаў усяму цану.

— От цяпер — калгаснікі па ўсёй форме! — сказаў, калі Зайчык паставіў пад спісам нейкую крывулю.— А то толькі, не сакрэт, назва адна була!

— Цяпер калгаснікі — на сто працэнтаў,— адгукнуўся Андрэй Руды. Растлумачыў Зайчыку: — Самае аснаўное: абагульненне імушчаства!

— Самае аснаўное, братачко,— засмяяўся Зайчык,— ето — асмеліцца! Я ето набраўся смеласці шчэ на лузе! Хоць — галавою цёмны! А ты от хоць гра-



Партрэт Івана Мележа. *Сакавік 1972 г.*



Іван Мележ у час працы
над раманам «Подых навальніцы».

мацей і ўсё знаеш, а от глядзіш ўсё збоку! Аб'ясняеш усё, братко!

— Правільно ўцэліў, дзядзько Іван! — пахваліў Зайчыка Міканор.— Другіх вучыць, а сам убок туліцца! Калені дрыжаць, мабуць!

— У етом нічого дзіўнаго,— разважна, спакойна прамовіў Руды.— На передавой, як ў бой ісці, граматныя заўсягды булі самыя нясмелыя! Усе адчайныя героі на передавой — з простых людзей, няграматныя, як правіло. І ў етом, як разабрацца — нічого дзіўнаго. Граматны чалавек — ён знае, так сказаць, што да чаго, думае багато. А ето, следавацельно, мяшае геройству. А няграматны — ён зразу рашае. Ці грудзь у крастах, ці — галава ў кустах.

— Ето няправільная цеорыя! — запярэчыў Міканор.— У нас цяпер самыя героі — граматныя! На тое савецкая ўлада і стараецца, штоб граматныя булі ўсе! Да і тое няправільно: што ў калгасе галава можа буць у кустах!..

Руды хацеў нешта сказаць, апраўдваючыся, але на двор ехаў Алёша Губаты з возам.

— Ну, пара і табе ў калякцію, сівы! — Зайчык заўважыў блізка аднаго са сваіх малых, пазваў: — Антось, хадзі! — Пасадзіў бялявага, з тонкай, гусінай шыяю, малога, які шчасліва ўчапіўся ў чарнаватую грыву.— Дзяржыся, братко!..— Падбег яшчэ адзін Зайчыкаў малы, ухапіўся, тузануў: «І — мяне». Зайчык пасадзіў і гэтага.— Дзяржыся за Антося! Пад рукі абдымі, от так!.. Дзяржыцеся адзін за аднаго, байструкі бацькавы! Апошні раз на аднаасобным едзеце! — Ён крануў за аброць сівага.

2

І ў гэты дзень тыя, што назіралі збоку, глядзелі па-рознаму: адны — чапляючы смешкамі, другія — гамонячы, спрачаючыся між сабой, трэція — моўчкі, хаваючы ў сабе сваё думанне. І тут былі такія, што глядзелі на ўсё абыякава, як на чужое, і такія, што хваляваліся, нібы гэта і ім неяк абыходзіла; нібы з гэтым і ў іх нешта магло змяніцца. Але хоць гэта было падобна да таго, як глядзелі раней, можна было заўважыць і тое, што неспакойных і неспакою цяпер было

багата больш; ледзь не кожнага ў Куранях хвалявала незвычайная падзея: цікаўнасцю, надзеяй, трывогаю, злосцю...

Небагата было такіх, што, паглядзеўшы, як калгасаўцы зводзяць і звозяць дабро ў гурт, адразу вярталіся на свае двары, да звычайных клопатаў. Ледзь не ўсе хваляваліся тым незвычайным, што дзеелася на вачах. Яшчэ большыя, як на Міканоравым, таўкліся натоўпы на Хведаравым і Хоневым дварах. Асабліва гоману, тлуму было на Хведаравым двары, дзе стаўлялі ў хлеў кароў і дзе неспакойна стракацелі амаль адны жаночыя хусткі ды спадніцы.

Тут былі і цікаўнасць, і здзіўленне, і смех, і слёзы. Не толькі тыя, што прывялі кароў, але і проста цікаўныя цісннуліся ў варотах, лезлі ў хлеў, глядзелі, быццам немаведама якое дзіва. Каровы, што стаялі ў загарадках, касавурыліся неспакойна на суседак, на людзей, што невядома чаму лезлі да іх,— вадзілі дзікавата галовамі, настаўлялі рогі, слалі на людское рознагалоссе тужлівае рыканне.

Жанкі-калгасніцы, шамочучы свежай, сухой саломай пад нагамі, рупіліся каля кароў, круціліся каля кульгавага Хведара, што як гаспадар дыбаў на мыліцах, пакрыкваў на жанок, дабіваючыся парадку, каля Хведаравай Вольгі, прызначанай даяркаю.

— Пастаў далей ад етай, ад Зайчыкавай, Хведарко! — прасіла ціхая, нібы сарамлівая Алёшава сястра.— Кручаная ета, Зайчыкава! Праткне рогам, пабачыш!.. Перастаў, Хведарко!

— Не праткне! — мірна, але непахісна заяўляў Хведар.— Чаго ёй пратыкаць! У адным калгасе, лічы!.. Пайшла б ты, Арына, лепей було б, ей-бо!

— Штоб карміла добра і — штоб ласкаво з ёю! — раіла Зайчыха, за падол якой трымалася смаркатае малое.— Як накорміш ды як ласкаво падступіш, дак дасць нешто. Не глядзі, што такая!.. Трэба ласкаво, як доіш!

— Ласкаво буду! — клялася Вольга, прытоена радасная, паважная — ад нязвыклай яшчэ пасады. Была яна сёння асабліва акуратная: у зграбным, пашытым Хведарам каптанчыку, у ботах, у прыгожа завязанай хустцы, з якой выглядваў бялявы, акуратны тварык з гладка зачасанымі валасамі.

— А чаго ето, цётко, слёзы ў цябе? — пыталася Нібыта-Ігнаціха Дамеціху, што журботна гнулася, уздыхала.— Як усе адно сына ў салдаты адпраўляеш! Шкода?

— А не шкода, Аўдоцечко? Шкода! Ето ж, як падумаю — як нажывалі яе, як выбіралі... Як цешыліся... Наглядзецца год не магла... Ноччу, бувало, прачнуся, такая радасць возьме... Устану, ей-бо, пайду, пагляджду... Стаю, не нацешуся. Патом ужэ вярнуся. І так добра на душы. Так і засну... Такая добрая папалася! У свеце другой такой, здаецца, няма!..

— Міканор жа ваш усё, цётко, распарадзіўся! Мог, калі на тое, і ўважыць матку!

— Не можа, казаў! Як я, казаў, старшына, то — першы павінен, казаў, прыклад паказуваць! Шчэ й загадаў, штоб слёз не пускала! Асабліва — на людзях! Не ганьбіла кеб — казаў. А я от — не магу!.. У свеце другой такой, здавалася, не було!.. Як успомню, як нажывалі! Як ноччу ўставала, штоб паглядзець! Дак не магу! Хоць што — не магу! Горно!..

У вароты ўсё ціснуліся, усё круціліся ў хляве. Рахманы Хведар пачынаў злаваць, не на жарт замахваўся мыліцаю:

— Адыдзіце, бабы, ей-бо! На двор хоць выйдзіце! А то — от не пагляджу — кастылём каторую! Не пагляджу — па рэбрах, ей-бо! Шпіктакль найшлі! Кароў толькі пужаеце, пужалы чортавы!

— Жанкі, усё дагледзім! Нічыю не абідзім! — лагодна, разважна памагала свайму чалавеку Вольга.

Але ўсе ціснуліся. На змену тым, што адыходзілі, уціскваліся другія, цікаўна ўглядваліся, гаманілі, смяяліся. Увесь час лезлі, шнырылі між дарослых дзеці; штурхаліся, дурэлі, нібы на вяселлі. Было некалькі і мужчын, сярод якіх увага жанок адзначала асабліва старога Глушака, Нібыта-Ігната, Пракопа Лесуна. Стары Корч глядзеў вельмі ўважліва і з павагай; калі хтосьці, паддобрываючыся да старога, сказаў, што каровы і тыя не хочуць разам жыць: вунь, як глядзяць адна на адну! — стары спакойна паправіў:

— Прывыкнуць! Скаціну да ўсяго прывучыць можна! На тое — скаціна!..

Нібыта-Ігнат кінуў нейкія насмешлівыя заўвагі, плюнуў. Лясун глядзеў моўчкі, панура; слова не вы-

цягнуў, так і пасунуўся з двара, не гледзячы ні на каго, не зважаючы на тых, хто цікаўна глядзеў услед.

Сярод жанок, што тоўпіліся на двары, найбольш хваляваліся Чарнушкава Куліна і Сарока.

— Як хто, а я — штоб такое зрабіла калі! — Куліна круціла галавой, з чырвоным, злым тварам, клялася перад усімі: ніколі, нават пад прымусам!

— Жызня будзе: прыйдзеш з работы — ніякай турботы! — растарэквала адважна Сарока.— Ні каровы, ні свіняці — адны сцены ў хаце!.. Любата!

— Як ето яно будзе? — трывожылася Васілёва Маня.— Добра, як у каго няма нічого!

— Аге! — запярэчыла нявестцы Васілёва матка.— Не шкода хіба! Багатаму шкода карабля, а беднаму — кашаля!

— Карова — ето не кашэль! — сказала Нібыта-Ігнаціха.

— То-та і яно!.. Што ето, праўда, будзе — са ўсёй етай выдумкі?..

На Хоневым двары былі найбольш мужчыны. Тут таксама тоўпіліся каля варот, зазіралі ў хлеў. Некаторыя, і калгасаўцы і проста цікаўныя, хадзілі ў хляве, каля коней. І на двары, і ў варотах шнырылі дзеці, ва ўсім падобныя на тых, што былі на Хведаравым двары. Мужчыны рабілі ўсё больш паважна, чым жанкі,— і меркавалі, і пасмейваліся стрымана, як і належыць мужчынам. Багата хто былі нязвыкла задуменныя, ледзь не ўсе курылі.

— Хлеў спаліце, чэрці! — крычаў Хоня, што распараджаўся ўсім.— Выйдзіце адсюль! Не сход вам!.. Коней толькі трывожыце, аднаасобніцкія душы!

— Правільна, Хартон! Гані! — падтрымаў Хоню Міканор, што ўвайшоў вясёлай, дужай хадою.— Як ісці разам, дак не хочуць, а як глядзець — дак сяло цэлае!

— Дак кеб жа ўткнуць голаву куды,— адгукнуўся Міця-ляснік,— глянуць наўперад трэба!

— Глядзіце, не сакрэт, вельмі доўго!..

— Дак ето ж не абы-што!

Міканор, як і належыць старшыні, пачаў аглядаць канюшню, праверыў, як пастаўлены коні, якое сена палажылі. Па тым, як трымаўся ён, што рабіў і як ра-

біў, усе маглі — усе, у каго вочы, павінны былі бачыць, што ў калгасе цвёрды, надзейны гаспадар.

— Штоб корм, Хартон, даваў па рэжыму, у паложаны час, і па рацыёну,— распарадзіўся Міканор.— Кеб ніякіх парушэнняў. Па ўсіх законах навукі. Як дагаворано!

Хоня тым тонам, якім і трэба адказваць на распараджэнне, запэўніў, што ўсё будзе рабіць як належыць. У гэты момант, ні трохі не лічачыся з тым, што побач такі важны чалавек і ідзе такая сур'ёзная гаворка, Хонева кабыла грызнула Міканоравага каня, і той віскліва заржаў і брыкнуўся. Кабыла зноў драпежна выцягнула морду, конь крутнуўся, кінуў капытамі. Пры высокім начальстве, нібы знарок, усчалася паганая, старая бойка — з віскам, з брыканнем, з агіднай злосцю. Хоня рынуўся да коней, аперазаў пугаю мышастую сваю, супакоіў каня.

— Коні — і тыя!.. Кусаюцца! — як узрадаваўся хтосьці з тых, што цісануліся ў варотах.

— І дзяліць няма чаго, сена ўсім адзінакаво! А — брыкаюцца!

— Характар шчэ, не сакрэт, аднаасобніцкі! — хацеў адбыцца жартам Міканор.

— Несазнацельныя! — падчапіў хтосьці.— Не гатовыя шчэ!

— Ето яна, браточкі, любячы,— ускочыў у гаворку Зайчык.— Штоб гуляў з ёю! А не драмаў!

— Нічога сабе любоў! Аж заенчыў!..

Праверыўшы, што трэба, аддаўшы распараджэнні, Міканор паведаміў Хоню, што пойдзе зараз паглядзіць кароўнік, заклапочана, дзелавіта падаўся з хлява, з двара. Людзі пачціва расступаліся перад ім, некалькі чалавек з гуртам дзетвары рушылі ўслед. У цэнтры натоўпу, што застаўся, Руды ўзрадавана ўзяўся тлумачыць:

— У кожнай культурнай канюшні абязацельно павінны буць, так сказаць, ячэйкі на кажнага каня...

— Зноў ты, братачко, за агітацыю сваю! — учапіўся нейкі сур'ёзны Зайчык.

— Я не агіцірую, я саўсім, так сказаць — наабарот. Крыцікую: што вы робіце няправільно. Замест таго, штоб, як вучыць парція, строіць канюшні, вы

ўсё разабралі па хлявах. Ето ж скрыўленне, а не калгас!

— Ты глядзі, дзядзько,— шмаргануў носам Алёша Губаты,— а то за агітацыю проціў калгасаў — мы не пагладзім па галаве! Знаеш, што — за агітацыю?

— Знаю. Дак я ж,— не траціў гонару Руды,— крыцікую не проціў калгасаў у цэлым. Я проціў, так сказаць, няправільных калгасаў. Следавацельно — за правільныя. Як вучыць парція.

— Там разбяруцца, дзядзько,— у тоне Алёшавай гаворкі чулася пагроза,— за што ты агіціруеш!

— Ты не вучы мяне,— зазлаваў Руды.— Рано вучыць узяўся! Не знаеш нічого, дак другіх слухай!..

Але ўсё ж прыціх, неўзабаве і зусім сышоў з двара. А іншыя яшчэ доўга тоўпіліся, вязалі стрыманую гаворку, маўчалі, курылі...

3

Тое, што бачылі, чулі, было самым вялікім клопатам Куранёў. Мала было такіх хат, двароў, дзе б не гаварылі пра гэта, не меркавалі, не думалі. Гаварылі, думалі ў хлявах, у гумнах, у полі, дома, зморана вячэраючы, у думнай начной цішыні на палацях.

Абышоўшы ўсе двары, дзе збіраліся людзі, наслухаўшыся і нагаварыўшыся, Куліна Чарнушкавых толькі апоўдні вярнулася на свой двор. Чалавек каля хлява сек нажом свежае, толькі што нарванае зелле — рыхтаваў яду свінням.

— Як падурнелі! — не першы раз абурылася, быццам і не заўважаючы таго, што робіць чалавек, не дзівячыся, што робіць яе справу: не да таго ёй!

Чарнушка нібы не чуў, наўколенцах сек і сек зелле — заняты быў, здавалася, толькі сваім клопатам. Потым ужо спакойна, стала параіў:

— Не заракайся!

— Я?! А не даждуцца!

— І не будуць дажыдацца! Сама пойдзеш... Як прыйдзе пара!..

— Ето я?!

— Ты,— Чарнушка не спыніўся на момант — звыкла сек зелле.

Мачыха, яшчэ распаленая няўвагай чалавека, яго недавер'ем, не ведаючы, што сказаць вартае таго гневу, які гарыць у ёй, склала раптам фігу, ашалела тыцнула кудысьці ў сяло:

— От ім!

Чарнушка зноў стала параіў:

— Не заракайся!

Кінуўшы секчы, ён устаў, зірнуў на жонку зморана і як бы не разумеючы:

— Чаго ты ето бядуеш так? — Ён выдзеліў асабліва «ты».— Можно падумаць — ты найболей утраціш!.. Багацце самае вялікае, можно падумаць, у цябе!

— А не багацце? Як мы толькі ім і жывем! — Куліна глядзела на чалавека і, здавалася, таксама не разумела яго.

— Багацце, штоб яно праваліласяі Свету белаго не бачыш, а толк які!.. Дочку ў багатыя вывелі! — загаварыў ён раптам інакш, болесна, як бы са слязамі.— Багацейкаю, паняю зрабілі!.. Цешся адно!..— Зазлаваў, загадаў мачысе: — Бяры, зелле свінням давай, багачка!..

Чарнушчыха, збітая трохі папрокам за Ганніну бяду, у якой яна чула сябе такі вінаватаю, хоць і не паказвала гэтага, момант шукала, што б такое сказаць чалавеку,— калі ўбачыла, што Хведзька, які паявіўся аднекуль, сочыць пільна і з нейкім смехам.

— А еты, еты — зноў гультаваў! Зноў не ганяў на выган! Абы матка адвярнулася на хвілінку — гуляць!.. Выскаляецца шчэ! — Чарнушчыха ў запале пашукала, ці няма поблізу дубца, не знайшла, і раптам ухапілася мяшаць свінням зелле.

— Няма калі і етаму рабіць! — прамовіў Чарнушка.— У матку пайшоў. Таксамо жыць не можа без палицікі!..

Пад вечар зайшла Ганна, і спрэчка, што, здавалася, забылася ўжо, зноў узгарэлася, толькі што цяпер і бацька і мачыха — як нейкаму праўдзіваму суддзі — даводзілі Ганне кожны сваю праўду.

Хведзька таксама быў тут, упоцемку моўчкі сядзеў за сталом, чакаў, што скажа праўдзівы суддзя матцы і бацьку.

Сабраліся вячэраць, а не вячэралі. Нібы забыліся, чаго сышліся.

— Не багацце, кажа,— скардзілася мачыха.— Як усе адно я не знаю, якое багацце! Гора, а не багацце! Але і тое забуваць не трэба, якое ні е, а жывем з яго! Жывем, не памерлі!..

— Толькі што! — неахвотна — не любіў спрэчак! — азваўся Чарнушка.

— Жывем, дзякуваць богу! І ядзім нешто, і адзеты! І хлеб твой, і хата твая! І карова, і авечкі твае! Як там ні жывеш, а жывеш спакойна! Знаеш: калі што якое, дак выручыць е каму!..

— От то-та і яно! — зноў коратка і неахвотна запярэчыў Чарнушка.

Ганне не хацелася спрэчкі: прыйшла пасядзець сярод сваіх, адпачыць ад працы, ад нямілай карчоўскай прагнасці.

— Жыць, канешне, трэба з нечага,— разважна, для прыліку, адказвала яна мачысе.— А толькі, мамо, шчасце не ў адном багацці...

— Хто ж кажа, Ганно. Я толькі — што пра гаспадарку думаць трэба. Як жыць будзеш, думаць трэба!..

— Як е ў чалавека шчасце, мамо, дак і гаспадарка значыць нешто. А як няма — які толк са ўсяго!..

— Яно, канешне, і без шчасця — не соладко! Але як есці не будзе чаго, як зубы на паліцу палажыць прыйдзецца, дак от будзе шчасце!

— Бы адно голадам марыць там будуць! — азваўся Чарнушка.

— Перайначуваць усё страшно...— разважна прамовіла Ганна.— Да й тое, праўда, няведама, як там будзе. А толькі горай, як е, наўрад ці будзе. Горай, здаецца, не бывае...

У той жа час у Васілёвай хаце ўсе таксама сядзелі за сталом, упоцемку сёрбалі боршч. Вячэралі моўчкі; толькі Васілёва малое захліпала ў калысцы — Маня недавольна прамовіла: «Зноў!.. Як усе адно знарок!.. Толькі прысядзеш, кеб узяць што ў рот... Штоб табе!» — сказала злосна, кленучы, але Васіль перабіў кляцьбу, загадаў ісці пакарміць малое.

Кончыў Валодзя сёрбаць, палез на палаці, перахрысціўся на абразы дзед Дзяніс, зачэкаў красалам, хацеў закурыць люльку, калі матка, што сядзела ля Васіля, ускрай стала, затурбавалася ўголас:

— Як ето яно цяпер будзе?

— Звярнуло, тым часам, з езджанай дарогі,— азваўся дзед.— Па балоту просто, па купінах...

Васіль маўчаў.

— Як?! — сказаў нядобра, з папрокам.— Знаць вам трэба ўсё канешне! Забіваць галаву!..

— Дак як жа не забіваць яе? — нібы прасіла і раіла матка.— Тут жа, сам бачыш...

— Бачу, бачу!..— зазлаваў Васіль.— Сваёй сухоты мало!

— Дак ці ж тое абыдзецца так, Васілько?! — нібы пыталася і тлумачыла матка.— Думаеш — усё ето?

— Тым часам, ето — пачынаецца толькі! — падтрымаў яе дзед Дзяніс.

Маня ад калыскі раптам уварвалася запалена:

— Няхай лезуць! Каму надаело жыць! А мы — нам і так не пагано!

— Ето — пачынаецца толькі!..— падумаў зноў уголас дзед.— Ето так не кончыцца!..

— То-та ж і думкі ўсякія, Васілько...

Васіль устаў з-за стала, матка адразу адсунулася, прапусціла. Стала збіраць лыжкі, павольна, нібы чакала, як пойдзе далей гаворка.

— Як яно кончыцца, ніхто не знае,— сказаў Васіль спакойна, разважна, стала: як і належала гаспадару, галоўнаму чалавеку ў хаце.— Нам і без етаго сухоты — па горло!..— Як бы папракаць стаў: — Трэба от малаціць жыто, ячмень да авёс! Да — араць! Хату дарабляць трэба! Штоб перабрацца скарэй!.. Штоб дзераво не пагніло да ўлазін!..— Памаўчаў трохі.— Ля цагельні азімае пасеяць думаю...

— Азімае павінно ўрадзіць,— сказаў дзед.— Як пагода не падгуляе, павінно.

— Хату трэба штоб памог дакончыць бацько,— сказаў Васіль ужо да Мані.— Штоб і Пятра ўзяў на падмогу.

— Паможа. Я скажу,— паабяцала Маня.

Тым і скончылася гаворка ў Дзятлікавых хаце: сталі разыходзіцца па палацях, раздзявацца. Адзін дзед, які і летам спаў на печы, доўга яшчэ круціўся бяссонна, не мог уцішыць назольны кашаль...

Доўга не спалася Хадосьцы. Яна, як звычайна, ляжала на палацях з малымі, маленькі Антосік, скурчыўшыся, соваў ёй каленямі ў бок, уцінаў галоўку ёй

пад паху. Хадоська ласкава падымала яго на руку, але праз момант ён зноў саскоўзваў з рукі, уцінаўся галоўкай пад паху.

Усе малыя спалі, толькі зрэдку з ціхім, мерным дыханнем злучалася глухое мармытанне: дзеці штосьці снілі. Але сны сніліся ім добрыя, не будзілі нікога; недарма найбольш чулася Хадосьцы ціхае, салодкае плямканне. Бацькі ж не спалі; хоць спачатку не гаварылі, Хадоська здагадвалася, што не спяць, думаюць пра штосьці.

— Гаспадары! — прахрыпеў нядобра, з пагардай бацька.— Сышліся!.. Галота!..

— Ты — багацей! — ціха папракнула матка.

— Не раўня ім, нібыто!..

— Ціхо ты! — шапнула беражліва матка. Зноў папракнула: — Нос задзіраеш!.. Глядзі, кеб не апусцілі!

— Хто ето апусціць?

— Няма каму? От упаяюць цвёрдае!..

— Не ўпаяюць,— упэўнена сказаў бацька.— Серадняк, нібыто!..

— Сягоння — серадняк. А заўтра — захочуць — прылепяць цвёрдае.

— Не прылепяць! Няма за што!

— Е за што! Язык распускаеш вельмі!.. Смелы вельмі!

— Смелы! Што думаю, тое і рэжу!

— Я і кажу!.. Ды — не грымі! Разбудзіш!..

Бацькаў голас яшчэ падужэў.

— І буду — рэзаць, што думаю! Маўчаць нясцерпно!..

— Ціхо, кажу! — зноў шапнула, просячы, матка. Сказала з папрокам: — Пра дзяцей трэба думаць!

— Ты адна думаеш, нібыто!..

— І ты думай! Не адны!..

Бацька плюнуў і, чуваць было, важка павярнуўся. Не спаў таксама доўга, але ўжо не загаворваў з маткаю. Думаў штосьці сам сабе.

Хадоська думала мала, неахвотна, чула сябе дзіўна адзінокай, пакінутай. Дзень гэты нібы адабраў у яе надзею; яшчэ ўчора яна спадзявалася, што Хоня ўсё ж адумаецца, вернецца да яе; чула, што мае хоць якую сілу і ўладу над ім, а сёння пабачыла, што ні ўлады,

ні сілы ніякай няма; няма таго радаснага, цёплага, чым жыла ўжо даўно, з чым песціла самыя дарагія надзеі. Хоня не паслухаўся, пайшоў далей; зусім разышоўся. Казала ж яму: пра калгас каб і не думаў; у калгас, казала ж, яна не пойдзе, хоць што; калі не выпішацца, каб і не думаў пра яе; дык от — завёў усё сваё, аддаў; зусім ступіў за мяжу, якую яна не пяройдзе ніколі. За мяжу, якая іх раздзяліла; навек раздзяліла.

«Ну і няхай! Няхай жыве сабе! Не канешне ето, пражыву адна! Доля такая ўжэ: жыць адной!.. Е чаго бедаваць!..»

Бедаваць, здавалася, не было чаго, а маркота дзіўна не адыходзіла. І чула сябе Хадоська ўсё адзінокай, пакінутай. І ніяк не магла даўмець: што будзе далей?..

У старога Глушака пад цьмянай, з прыкручаным кнотам, лямпаю сядзелі Яўхім і маўклівы, пануры Пракоп. Пракоп моцнымі локцямі ўпіраўся ў стол, вялізнымі чорнымі далонямі трымаў важкую, зарослую да вачэй галаву.

Яўхім, трохі горбячыся на ўслоне, па-дамашняму ўвесь у зрэбным, у лапцях, прыжмурваючы вока, дыміў папяросаю.

— Дзядзько, не думайце багато,— казаў пасміхваючыся, Яўхім.— Вам, ей-бо, няма чаго галаву ламаць!.. Вам, дзядзько, самы мамент — у калгас!..

Пракоп варухнуў брывом, коса і люта зірнуў на яго. Ён апошнімі днямі быў заўсёдным госцем у Глушаковай хаце, бавіў тут дымныя вечары, слухаючы развагі і парады старога. Стары быў рады яму; калі сядзелі ўдваіх, гаворка ішла заўсёды ў добрым ладзе. Трывожыў гэтыя вечары толькі Яўхім, што іншы час не прападаў недзе, а ўвальваўся ў бацькаву хату. Яўхім век падкусваў Лесуна.

— Ей-бо, дзядзько, самы мамент — у калгас!

Глушак на другім услоне абстругваў, забіваў калкі ў граблі, глянуў на сына недавольна.

— Не трывож чалавека! — вялеў Яўхіму суха, цвёрда.

— Час такі, тато,— лагодна, нібы паслухмяна запярэчыў Яўхім,— думаць трэба. Хочаш не хочаш, а трэба трывожыцца. Думаць трэба. Балото пад нагамі зараз прарвецца. Штоб не було позно!..— Ён зноў

жмурыўся на Лесуна.— Ей-бо, адзін выхад, дзядзько, калгас!

Пракоп важка выкаціў мацюк.

— Ето не трэба, дзядзько! Ето дзелу не паможа,— і вам штоб шкоды не нарабіло! Да й ні на што ўсё: вам, як трудавому чалавеку, калгас — адзіная дарога! Ісці трэба, падскокваючы ад радасці, маліць, — штоб скарэй забралі ўсё! Ісці да й другіх шчэ весці з сабою!.. Прыклад другім паказуваць, каторыя несазнацельныя. Каторыя дабра свайго для савецкай уласці шкадуюць. Ето ж [illegible] такія гады, каторыя коней, кароў, авечак сваіх для савецкай уласці шкадуюць!..

— Яўхім! — зноў загадаў Глушак.

— Ей-бо, тато, е такія шчэ гады!.. Трэба ж, дзядзько, карміць начальнікаў, каторыя ў гарадах. Дзяцей іх, жонак, палюбоўніц іх, да й не абы-чым, не расолам якім. А мясам, мукою, булкамі, каклетамі!.. Сазнацельным трэба буць, дзядзько! Бегці скарэй, падскакуючы, да й другіх шчэ цягнучы! А вы, эх вы, дзядзько, нашто толькі галава ў вас на плячах! — думаеце шчэ!.. Скарэй у калгас бяжыце! Ей-бо!.. Не бойцеся, што Міканор не дасць рады! Ён — спрытны, скора знайдзе збыт усяму! Вам голаву ламаць не прыйдзецца!.. Не бойцеся!.. Бяжыце!..

— Што ж ето, праўда, будзе? — адгукнулася ад палацяў старая, якая то драмала, то абуджалася.

— Будзе, што хоча савецкая ўласць. Што хоча, тое і будзе!..— Яўхім дакурыў, плюнуў на акурак, растаптаў лапцем на падлозе.— Савецкая ўласць — уласць цвёрдая. Што намерыцца — тое і зробіць!..— Адолеў сур'ёзнасць, зноў загаварыў з насмешачкай: — Я, калі б не цвёрдае заданне, з радасцю б у калгас!.. А то ж не прымуць — элемент класавы! Не паглядзяць, што і жонка з трудзяшчаго элемента!

Устаў, сабраўся ісці. Задумаўся чагосьці, неспадзявана сур'ёзна сказаў:

— Такі і праўда, пайшоў бы. Усе адно жыць не жывеш. А там — хто знае. Мо і будзе нешто... Толькі ж,— зноў прамовіў з насмешкай,— не просяць! А лезці — калі б'юць — не люблю!

— Наплёў! — пакруціў галавою стары, калі Яўхім бразнуў сенечнай клямкаю.

Стары ў гэты вечар быў нязвыкла маўклівы і па-

нуры. Так і бавілі рэшту вечара: адзін корпаўся з граблямі, другі толькі час ад часу шалёна варушыў брывамі ды жаваў чорную пасму вусоў.

Думны і розны быў куранёўцам гэты вечар.

4

Пад вечар Зайчыха і Вольга падаілі кароў, сталі раздаваць малако калгасаўскім жанкам. Пад прыглядам старшыні, які явіўся асабіста праверыць, як будуць выконваць яго ўказанне, Вольга карцом мерала малако, налівала ў гладышкі, якія прынеслі жанкі.

— Строго па колькасці едакоў! — нагадваў важны, цвёрды Міканор Вользе, што зачэрпвала з вядра.— Штоб — па справядлівасці!..

Ён казаў не так для Вольгі, якая ўсё ўжо ведала і якая, канешне, будзе рабіць так, як трэба,— новы старшыня казаў для тых, што цікаўна тоўпіліся навокал, назіралі.

— Па справядлівасці штоб. Пароўну. А не так — каму густо, каму — пусто!

Міканор быў давольны: чуў, што кожнае слова яго ловяць, панясуць па хатах, будуць абмяркоўваць, думаць над кожным словам. Давольны быў, што ўсе бачылі: калгас жыве, ён, Міканор, не дарэмна біўся; ужо не словамі, справаю можна было паказваць прыклад, як трэба жыць і тым, што стаялі ўбаку, глядзелі. Няхай глядзяць, думаюць, можа таксама за розум возьмуцца!

Блізка была матка, перахапіў нейкі маркотны і чакальны позірк яе, але не падаў знаку, што заўважыў: не месца для сямейных спраў, не сын тут, а старшыня. Сам, можна сказаць, бацька.

— Ну, дак — як першы дзень рабілася? — павярнуўся старшыня да Зайчыкавай, што, склаўшы рукі на жываце, глядзела, як Вольга дзеліць малако. Была, прыкмеціў Міканор, узрушаная, шчаслівая, але шчасце стрымлівала, таіла. І нібы ніякавела пад людскімі позіркамі.

— Да чаго ж. Рабілася добра.— Яна ўзрадавалася, даўгаваты, худы твар засвяціўся, ніякавасць прапала.— Рабілася весело... Толькі Алёшава,— зноў

узрадавалася нібы,— не даецца! Не прызнае быццам! Я і так, і так да яе — не хоча! Адну Арыну падпусціла!

— Яна і дома адну мяне прызнавала! — сказала Арына.

— Не прывыкла. Старыя прывычкі! — уставіў хтосьці з жанок.

— Прывыкне! — заявіў Міканор спакойна і паважна. З той жа паважнасцю загадаў Хведару, даяркам: — Давайце корму нанач. І можно — дадому. Заўтра штоб рано, як паложано па рэжыму.

— Не бойся. Не апознімся,— паабяцаў Хведар.

— Ну, дак я — пайду,— сказаў заклапочана.— Трэба шчэ паглядзець, што там на канюшні!

Мерна, упэўнена ступаючы, прайшоў паўз цікаўных, падаўся вуліцаю. Па тым, як ішоў, у шэрым, у пасачку, пінжаку, у картовых святочных, першы раз надзетых, штанах, у добра намазаных дзёгцем ботах, у кепцы, насунутай на лоб, было відаць, што ідзе чалавек заклапочаны, чалавек, на якога паклалі нялёгкі абавязак. Мерна, дзелавіта выйшаў з двара, па-гаспадарску стала рушыў вуліцаю. Востра заўважаў позіркі з-за платоў, з вокнаў.

На Хоневым двары, каля хлява, таксама купчылася чародка. Як і ўдзень, чародка была з мужчын, каля якіх круціліся, шнырылі дзеці; з жанок тырчала адна Сарока.

— Пара ўжэ, не сакрэт, і разыходзіцца! — нібы распарадзіўся Міканор; не прыпыняючыся, дзелавіта падаўся ў хлеў.

— Не гані! Прыйдзе пара — самі пойдзем да двара! — пачуў услед, але не стаў, не адказаў нічога. У хляве было ўжо цемнавата, упоцемак, вылучаючы Хоневу і Зайчыкаву постаці, бадзёра кінуў:

— Як тут у вас, канюхі?

— А так што,— нібы рапартуючы, звонка адгукнуўся Хоня,— можно сказаць: служба ідзе!..

— Усё як трэба, братко!

— Не братко, а — старшына! — паправіў Зайчыка Хоня.— Адказуваць не знаеш як!

— Малады шчэ! Не навучыўся! — захіхікаў Зайчык.

Далі коням сена, Міканор прайшоў, праверыў, як

прывязаныя. Разам з Хонем і Зайчыкам выйшаў з хлява.

— Не вельмі, старшына, пабагацелі! — пачуў Міканор з чарады зларадналае. Стаў, рэзка адказаў:

— Не радуйся, дзядзько! Будзем — багацей! Пародзістых скора прывядзем з Юравіч!

— Ждуць вас там!

— Ждуць! Прывесці павінны скора! З коннаго завода!

— Занудзіліся там, ждучы вас!

— Ето паглядзім, як прыйдуць!

Міканор з Зайчыкам і Хонем пайшлі ад хлява. Следам паслухмяна рушыў і натоўп. Хоня зачыніў вароты за ўсімі, вярнуўся к Зайчыку і Міканору, што курылі перад ганкам.

Міканор ужо збіраўся падацца дадому, але Зайчык сказаў:

— Такі дзень грэх пускаць сухім, братко, ей-бо!

— Не Мікола святы, дзядзько Іван,— штоб піць канешне! — запярэчыў Міканор. Зайчык кінуў вачыма да Хоні, што ішоў да іх, загаварыў жвавей, гарачэй.

— Не кажы, старшына! Свято шчэ большае, дак і выпіць больш трэба б!

— Ето праўда! — падхапіў Хоня.— Дак давайце ў хату! Мо знайдзем слязу якую!

У хаце было цёмна, у цемру, туды, дзе ляжала звычайна Хонева матка, далі «добры вечар». Хоня запаліў лямпу, і Міканор з Зайчыкам убачылі добрыя, уважлівыя вочы старой, дзяцей, якія стаялі пры стале, сачылі з палацяў, з печы. Хоня адчыніў скрыню, дастаў пляшку самагонкі, паставіў на стол тры чарачкі, адну з адбітай ножкай палажыў. Пад вясёлае крыўлянне і жартачкі Зайчыка выпілі, разам з Хоневай маткай. Хоня падаў старой чарку перш, чым выпіў сам,— памог падняць галаву. Толькі калі матка выпіла, калі даў закусіць гурка з хлебам, вярнуўся зноў да сяброў.

Сядзелі ўтраіх за сталом, чвякалі гуркамі, сёрбалі расол, дружныя, пажвавелыя, гаманілі, як браты.

— Перагародкі рабіць, няйнакш, трэба! — меркаваў дзіўна гаспадарліва Зайчык.— Штоб не пакалечылі адзін аднаго!

— Канюшню трэба! Як паложано! — Міканор чуў, як ад выпітай гарэлкі мацнее ў ім задзірыстая ахвота спрачацца, выстаўляць сваё.— На трыццаць коней! З кармушкамі і са станкамі! Як у Вадавічах!

— Не пагано б! — засмяяўся Хоня.— Толькі што малаціць трэба да араць!

— Аранне адложым покуль! Землеўпарадкаванне наўперад правядзём! Штоб адзіны масіў адрэзалі! Да кеб землі, не сакрэт, як паложано калгасу! Лепшай! Што каля цагельні, я трэбую!

— Непагано! Нагледзеў! — засмяяўся Хоня.

— Выбраў! — пахваліў і Зайчык.— Калі б адрэзалі ето, анігадкі булі б, ей-бо!

— Адрэжуць! Я трэбую! Пад калгас — па закону паложано — лепшую павінны!

— Лепяцца там ужэ на лепшай! Гвалт падымецца на ўсё сяло! — разважліва сказаў Хоня.

— Як муравейнік, забегаюць! Калі кіем развярушыш! — Зайчык пакруціў галавою: — У самы муравейнік уткнем кій, браткі!

— Дзятлік Васіль вытаргаваў там палоску ад Лесуна,— згадаў, быццам спачуваючы, Хоня.

— Будзе галасу! — радаваўся Зайчык.

— Е такія, што і так зубы точаць! — панура сказаў Міканор.— Кеб далі рады — з'елі б!

— З'елі б, кеб зубы такія мелі! Ето праўда, Міканорко! — весела падтрымаў Зайчык.

— Багацеі смяюцца: «Галадранцы сышліся!..» Няхай смяюцца! — Міканор стукнуў кулаком па стале.— Пабачым, хто потым смяяцца будзе! Хто смяяцца, а хто — плакаць!

Калі выпілі яшчэ па чарцы, Хоня пакруціў галавою, з дружбацкаю, шчыраю ўсмешкай прызнаўся:

— Адвярнулася ад мяне прысуха мая! З сягоняшняга дня любоў мая дала трэшчыну! — Не так ужо весела дадаў: — Наперакор ёй зрабіў!

— Правільно зрабіў! — заявіў голасна, ні трохі не вагаючыся, Міканор.— Даўно трэба було ламаць ето з ёю! Кулацкае, не сакрэт, нутро ў яе, у Хадоські! Точно такое, як і ў бацькі яе!

— Пра бацьку не скажу нічога, а на яе ты — дарэмно,— ціха, але ўпэўнена сказаў Хоня.

— Не дарэмно! Нібыто-Ігнат — стопрацэнтны ку-

лак па нутру! І яна — недалёко ад яго! Ты правільно ето, што — паламаў! Канчаць трэба зразу!

Хоня памаўчаў трохі, не тоячыся, прызнаўся:

— Не магу! От сягоння — як успомню, кошкі душу шкрабуць! Сам сабе не рады!

— Цвёрдасці ў цябе мало! — сказаў з папрокам Міканор.— Ніякай пралетарскай стойкасці!

— Мало! — ахвотна згадзіўся Хоня. Неспадзявана, са звычайнай сваёй бесклапотнасцю зарагатаў: — Да яе — праўда — мало!

Міканор ад гэтага рогату нахмурыўся больш; не таіў, што яму не падабаецца неразумны Хонеў смех. Зайчык раптам заўважыў, кіўнуў Хоню на палаці:

— Матка штось сказаць хоча...

Хоня ўстаў, схіліўся над палацямі.

— Усё сваё! — прамовіў, давольны, вярнуўшыся.— Харошая, кажа, Хадоська! Штоб — жаніўся!..— Засмяяўся: — От, а ты гаворыш!..— Са смехам, нібы з адчаем, рашыў: — Жанюся!

— Як ето! — у Міканоравым голасе былі здзіўленне і абурэнне.

— Не знаю сам! — перавёў усё на жарт Хоня.— Ажанюся! Праўда!..

Зайчык ускочыў у гаворку, смешачкамі адвёў яе з небяспечнага кірунку...

Рэшта вечара ішла зноў у добрым ладзе, у агульным клопаце. Гаманілі зноў, як браты. І разышліся прыхільныя, таварыскія, не нагаварыўшыся, здавалася, удосталь. Калі Міканор вярнуўся дахаты, матка і бацька яшчэ не спалі. Бацька, што сядзеў разуты, у споднім на палацях, зірнуў насустрач з радасцю і гонарам:

— Дзе ето заседзеўся, старшына? — У тым, што ён назваў не «Міканор», а «старшына», у тым, як сказаў гэта, чуўся таксама гонар сынам.

Матка адразу дастала з печы чыгун, насыпала ў місу картоплі, паставіла скаварадку з салам. Звычайна ў вячэру падавалі гуркі ці капусту, і Міканор гэта адзначыў таксама як знак павагі да сённяшняй яго працы. Можа быць, што зрабіць гэта параіў матцы бацька...

— Тато, пойдзеце заўтра на канюшню,— сказаў бацьку.— Кармушкі рабіць і перагародкі...

Бацька кіўнуў: «Добра» — паслухмяна і з радасцю.

Міканор еў ахвотна, са смакам, і прычынаю гэтаму былі не толькі гарэлка ды бедная Хонева закуска, а і вясёласць, што зноў поўніла ўсяго. З-за гэтай вясёласці не бачыў, якім маркотным позіркам глядзела матка, што сядзела па другі бок стала, цярпліва склаўшы на грудзях рукі.

— Як ето будзе, Міканорко? — не вытрывала, запытала нясмела.

— Што — як? — глянуў, нібы здалёк, Міканор.

— Голо, пусто. У хляве. Як вымерло ўсё. Сумота.

Міканор выцер скавародку кавалачкам хлеба, даеў, спакойна, дасведчана параіў:

— Забуваць трэба, мамо, на старое.

Устаўшы з-за стала, дадаў:

— А калі ўжэ ў хлеў канешне глядзець, то ідзіце глядзець у калгасны. Там не пуста.

У цемры, на палацях, яму зноў згадаліся насмешлівае: «Пабагацелі!» — спрэчка з Хонем пра Хадоську, але яны хутка адступілі перад шырокай, клопатнай радасцю, ад якой усярэдзіне было цёпла і хораша. Нават пра бяду сваю, што, прыхаваная ад людскіх вачэй, ныла, шчымела неадольна ў сэрцы, пра недасяжную прысуху сваю — глінішчанскую настаўніцу, думаў без заўсёднага шкадавання аб няскладнасці жыцця. Думкі, якія весяліла неўтаймоўнае адчуванне вялікай перамены, жвава беглі наперад. «Веялку скарэй прывезці б — каторую абяцалі. А шчэ б — малатарню дабіцца б! Да і трактар паспробуваць бы дабіцца! Хоць на дзень, кеб паказаў — што такое калгас! Дадуць не дадуць, а паспробуваць трэба!.. А галоўнае — не сакрэт — штоб упарадкаваць землю скарэй! Штоб камортніка прыслалі, не зацягваючы доўго! Штоб з араннем не апазніцца!.. Упарадкаванне зямлі — галоўнае! Самую добрую зямлю, тую, што каля цагельні, канешне! Ніякую другую! Будзе зямля добрая — будзе ўсё!.. Няхай пасмяюцца тады ўсялякія Карчы ды Ігнацікі! Паглядзім, як смяяцца будуць!.. І кароў пародзістых дабіцца трэба!.. І будавацца канешне! Кароўнік, канюшню, свіран — як паложано!.. Але наўперад канешне — з зямлёй упарадкавацца! І канешне тую, што каля цагельні!.. Зямля — галоўнае!..»

## 5

І наступнымі днямі нямала сыходзілася цікаўных на Хведаравым і Хоневым дварах. Але больш пільна збіраліся тыя, чые стаялі ў хлявах каровы ды коні. Асаблівай настойлівасцю, было прыкметна, вылучаліся жанкі. Жанкі, праўда, быццам памагалі карміць, даіць, але старанне гэтае больш давала адзін вынік: кожная, як магла, замінала Хведару, даяркам. Хведар нярэдка лаяў жанок, адганяў, але, непаслухмяныя, яны лезлі і лезлі ў хлеў. Патроху прывыкалі к іншым рукам каровы, і не касавурыліся, і малака больш давалі, не таілі, а жанкі ўсё не хацелі адвыкаць ад сваіх рагуль.

Управіўшыся з каровамі ды коньмі, даяркі і канюхі ішлі ў гумны: Зайчык і Хоня браліся за цапы, з прымаўкамі, са смешкамі, выпярэджваючы адзін аднаго, білі па снапах. Цапы ў калгасных гумнах, як і ў іншых, цупалі з рання да позняга вечара. Малацілі Міканораў бацька, Алёша, Хведарава Вольга, сам Міканор.

Намалочанае збожжа звозілі ў Хведараў свіран. Кульгавы Хведар зважваў усё, запісваў у кніжку, стукаючы па падлозе драўлянай нагой, памагаў ссыпаць у засекі. Хведар не толькі памагаў жанкам у хляве, але і быў упраўным кладаўшчыком. Ён і замыкаў свіран, сачыў за ім,— быў, можна сказаць, яго вартаўніком.

Неяк ранкам, прыкладна так з месяц пасля таго, як звялі дабро разам, запрог Міканор коней, з бацькам пакаціў у Юравічы. Калі паявіліся зноў, усе, хто трапіўся на дарозе, на загуменні, дзівіліся: на калёсах, паблісквая фарбай, круглячыся коламі, стаяла машына. Нібы аддаючы пашану ёй, Міканор і бацька пачціва ішлі побач яе. Бацька асцярожна кіраваў коньмі, а Міканор падтрымліваў машыну, каб не ўпала. Калі знялі веялку, паставілі на прыгуменні, Міканор сам паказаў Зайчысе і Алёшавай сястры, як трэба абыходзіцца з ёю, паказваў з радасцю і годнасцю — ледзь не паў-Куранёў глядзела на яго і на яго радасць — веялку. З таго дня каля веялкі ледзь не ўвесь час быў хто-небудзь з цікаўных, хоць бы з дзяцей; багата каму хацелася ўзяць за ручку, пакруціць колы.

Міканор і сам нярэдка падыходзіў да яе, памагаў жанкам веяць.

Каля веялкі Міканор асабліва шкадаваў, што не ўдалося дабіцца пакуль малатарні. А як добра было б, каб хоць ненадоўга прыслалі трактар. Але ў Міканоравым шкадаванні была і надзея, і веялка яе нібы падмацоўвала: ёсць веялка, раней ці пазней будзе і малатарня, і, не сакрэт, і трактар. Усякая тэхніка будзе. Веялка — гэта пачатак. Усе разумець павінны.

Нязвыклае паволі станавілася звыклым. Дзень за днём, кожны ранак, выпаліўшы ў печы, паснедаўшы, калгасаўцы сыходзіліся каля Міканоравай хаты, гаманілі, курылі. Тут уведвалі ўсе, дзе каму рабіць, куды каму ісці. У цэнтры гурту звычайна быў Міканор: ён прыходзіў амаль заўсёды з гатовымі планамі: перад тым, бачылася, вымеркаваў, што трэба, разважыў сам з сабою. Было часам і так, што яму пярэчылі, раілі, асабліва Хоня, Хведар кульгавы, Хведарава Вольга, і ён, хоць і спрачаўся, нярэдка прыслухоўваўся, мяняў свае рашэнні. Праўда, рабіў ён гэта неахвотна і з няёмкасцю, нібы гэта прыніжала яго, выяўляла яго нявартасць. Тут вельмі памагаў Хоня, які цудоўна ўмеў прыйсці ў час на падмогу, ператварыць непрыемнае ў вясёлае, жартаўлівае. Часам і на бязрыбным балоце спаймаць нешта можна, дык, маўляў, глядзець усюды не шкодзіць; да ўсіх прыслухоўвацца!..

Як бы там ні было, Міканор усяму быў кіраўнік, галава быў; як потым зразумелі, і брыгадзір, і бухгалтар, і старшыня. Што помніў, а што запісваў у сшытак: і колькі чаго намалочана, і хто намалаціў, і хто дзе рабіў. Сам асабіста ставіў кожнаму за дзень «палачку», па якіх, казаў, будзе відаць, колькі хто рабіў...

З прычыны асаблівага значэння Міканора цеснаватая і цесная Міканорава хата ўсё больш станавілася як бы цэнтрам тых, хто пайшоў у калгас. Сюды збіраліся на сходы, на нарады, нярэдка збіраліся і проста так. Пайсці ў Міканораву хату рабілася ўжо як бы прывычкай. Вечарамі ў Міканоравай хаце цяпер век свяціліся вокны, век гаманілі, меркавалі пра нешта калгасаўцы; іншы раз — было так — без Міканора:

калі Міканору даводзілася прападаць вечарамі ў Алешніках ці Юравічах.

Раз ці два гэтымі вечарамі няпрошаны заходзіў у Міканораву хату Глушакоў Сцяпан. Сядзеў ён звычайна моўчкі, амаль увесь час глядзеў толькі ды слухаў. Міканору не да спадобы былі гэтыя яго наведванні, але старшыня неяк прамаўчаў: у хату прыходзіла нямала і іншых пабочных, ды і сакрэтаў якіх-небудзь у тыя вечары не было. Так што праганяць хлопца не было і прычыны.

Але праз некалькі дзён хлопец паявіўся на двары ўранку, стукнуў дзвярыма, улез у хату. Міканор яшчэ не ўправіўся вочы працерці пасля сну, санліва сапучы, нацягваў сухія, абпыленыя боты, зіркнуў спадылба, недавольна.

— Чаго прыйшоў? — не адказаў на прывітанне.

Хлопец нібы няёмка — прыдурваецца! — стаў каля дзвярэй, пачаў мяць у руках шапку.

— У калгас... прасіць хочу...

— У калгас?! — Міканор паглядзеў на яго, нібы хацеў зразумець: што ён удумаў. Пацікавіўся непрыязна: — Чаго ето?

— Як усе. Жыць.

Міканор устаў, націснуў на бот. Зноў глядзеў пранікліва.

— Хто ето навучыў цябе? Бацько ці Яўхім?

Сцяпан збянтэжыўся больш, пачырванеў.

— Сам я...

— Сам! — Міканораў позірк паказваў: думаў знайсці дурня! Сказаў спакойна, насмешліва: — Ідзі скажы свайму бацьку ці брату... Скажы: мы не такія дурныя, як ён думае!

— Чаго? — не зразумеў Сцяпан. На твары яго паявілася нешта разгубленае і дурнаватае.

— Скажы: няхай сам прыйдзе! — жорстка сказаў Міканор.

— Чаго? Ён і мяне... не пусціць...

Міканор сабраўся ісці мыцца.

— Вы мне... не верыце?

Міканор зазлаваў.

— Не верыце? Не верыце? Знаю я вас! Твой бацько таксамо — сіратою ўмее! Слязу пусціць!..

— Мне бацько не ўказ. У мяне свая галава.—

У Сцяпанавым голасе пачулася ўпартасць.— І Яўхім мне не пара!

— Пара не пара, аднаго поля!

— На адным полі рознае расці можа. Не канецшне, як бацько такі, дак і я...

— Не для вас ето! Ясно? — узяла нецярплівасць Міканора.

— Дак... як жа мне?..— Сцяпан стуліўся, нібы прасіў аб літасці.

Міканору стала шкада яго. Ён і злаваў таму, што ўвесь час лезла агіднае шкадаванне. Якога не павінна было быць. Адужаў чуласць, адрэзаў:

— Не блытайся пад нагамі! От як!

Зачэрпнуў карцом вады і нахіліўся над начоўкамі. Ужо за спіной пачуў недарэчнае:

— Дак... бувайце здаровы!..

Добра, не было на гэты час у хаце маткі. Калі ўвайшла, запыталася, чаго прыходзіў Сцяпан, Міканор толькі махнуў рукою. Ведаў, што матцы лепей не гаварыць пра гэта.

Увесь дзень было дзіўна ніякава: лезла, тачыла непаслухмяная вінаватасць, як бы несумленна, пагана абышоўся са Сцяпанам. Гнаў развагі, што Сцяпан і стары яго — розныя зусім, што са Сцяпана — не сакрэт — мог толк быць. Падтрымліваў ранішнюю цвёрдасць: тое, што *можа быць*, яшчэ не значыць, што так канешне і *будзе*, што Сцяпан не можа — калі захоча стары — стаць за яго, за Яўхіма, за ўсё кулацкае кодла. Пераконваў сябе: правільна зрабіў, так і трэба. Стараўся не прызнаваць, што злаваў на Сцяпана, нецярплівы быў асабліва таму, што Глушакі, гэта ўжо не раз чапляла матка, хоць і няблізкія, а сваякі. Ён і матцы казаў і сам думаў, што лічыць такіх сваякамі можна толькі на здзек яму, але, як там ні кажы, сваяцтва ўсё ж нейкае было і, што ні думай, нейкі цень на яго кідала. І ад гэтага ў яго была асаблівая злосць на Глушакоў, як бы яны хацелі падкапацца да яго такім спосабам. Таму лічыў, што з імі трэба быць асабліва цвёрдым, бязлітасным. Таму не хацеў, каб пра гаворку яго са Сцяпанам ведала матка...

Нярэдка бавіў вечары ў Міканоравай хаце Андрэй Руды. Ссаў свае далікатныя папяросы-люлечкі, пускаў ноздрамі далікатныя струменьчыкі дыму, слухаў ін-

шых, улазіў са сваімі меркаваннямі, парадамі. Тым, як ён слухаў іншых,— прыжмурыўшы вочы, з паблажлівай усмешачкай, як гаварыў, павучальна, тонам старэйшага, мудрага, ён як бы паказваў, што ведае і ў гэтым даволі, вельмі можа быць — больш за іншых. Ён так трымаўся, нібы быў тут не госцем, якога ніхто не прасіў, а ледзь не галоўнай асобай, ва ўсякім разе, другой пасля Міканора. Міканор, якога Руды не раз дапаўняў, а аднойчы ўзяўся нават папраўляць, ускіпеў:

— Дзядзько, чаго вы лезеце ўсюды! Куды вас не просяць! Без вас разбяромся! Прыйшлі, дак сядзіце ціхо — ясно?

— Ты чаго кідаешся? — не хацеў траціць годнасці Андрэй.— Яжэлі савет даюць, так сказаць, дзякуваць трэба. Што памагаюць разумным словам. А не гырчаць!

— Я не гырчу! Я папярэджую, штоб не разводзілі тут сваю агітацыю,— і штоб не падрывалі аўтарыцет! Ясно?

— Я толькі хацеў памагці! Штоб аўтарыцет буў, следавацельно, большы! — Руды ўстаў, не хаваючы, а нават знарок паказваючы, што яго неразумна, няўдзячна абразілі: за яго ж добрае! З годнасцю заявіў: — Я думаў ужэ, так сказаць, далучыцца. Сабраўся ўжэ напісаць прашэніе. Але як ты так кідаешся, то, следавацельно, падажду.

Ён паважна пайшоў да дзвярэй, стукнуў дзвярыма. На другі дзень ён падсцярог Міканора каля Хведаравага свірна, паздароваўся з той велікадушнасцю, якая паказвала, што як ні вінаваты Міканор перад ім, ён гатоў забыць крыўду.

— Я напішу прашэніе,— сказаў, як бы хацеў супакоіць Міканора.— Толькі што б мне, следавацельно, інцілігентную работу. Штоб бугалцерам, напрымер. Ці кладаўшчыком...

— Зразу вы, дзядзько, выгаду шукаеце,— папракнуў Міканор.

— Ета выгада найперш, так сказаць, для калгаса,— паправіў Міканора Руды.— Патом ужэ для мяне...— Дадаў, вучачы: — Трэба цаніць грамату! І скарыстоўваць граматнага як кадравага спіцыліста!..

Міканор мірна сказаў, каб падаваў заяву; паабяцаў падумаць аб просьбе...

6

Усе ў Куранях заўважылі: калгасаўцы вельмі трымаліся адзін аднаго. Нядаўна, здавалася б, чужыя, цяпер разам былі ў гумнах, на працы, разам — вечарамі. «Як сваякі»,— дзівіліся людзі. Калгасаўцы нібы ўстанаўлівалі сваё сваяцтва, асобнае ад таго даўняга, ад веку, ад бога, якое заўсёды і ўсюды шанавалі людзі.

І яшчэ заўважылі ў Куранях: калгасаўскія як бы ганарыліся сабой, сваёй адвагай і розумам. Глядзелі на іншых быццам на чорную чараду, што нічога не бачыць і не разумее. Не тое што ад Міканора, такое можна было чуць і ад Хведара, і ад Зайчыка. Зайчык, той знарок пацяшаўся, чапляў, абы паспрачацца, абы пасмяяцца з куранёўскай слепаты ды скнарлівасці.

У тых, што не ішлі ў калгас, была свая цвёрдасць, і, значыцца, свае меркаванні, і свае адказы, у якіх было таксама багата насмешкі. Так што Зайчыку давалі бой, і бой гэты Зайчыку не проста было выйграць. Можна сказаць, што бой гэты ніколі і не канчаўся чыёй-небудзь перамогай: і адны і другія байцы разыходзіліся не паддаўшыся, са сваёй цвёрдасцю. Яму, гэтаму бою, можна сказаць, не было канца.

Міканорава хата была ў гэтым змаганні як нейкая ўправа, ад якой багата залежыць, чым скончыцца цяперашняя, найважнейшая ў гісторыі Куранёў, спрэчка. Усе ў Куранях з хваляваннем глядзелі на вокны, што чырваніліся адным трывогаю, пагрозаю, другім — надзеяю, добрай зычлівасцю. Усе выведвалі, што там робіцца ў гэтай неспакойнай хаце, што там чакаюць, што рыхтуюць...

У Міканораву хату найперш прыходзілі важныя для калгаса, а значыць так ці інакш і для ўсіх Куранёў, навіны. Навіны гэтыя прыходзілі звычайна з Міканорам, які, распрогшы на Хоневым двары каня, стомлены, запылены, уваходзіў у хату, дзе акрамя маткі ды бацькі сустракаў звычайна і нямала сваёй новай сям'і. Гэта ён, сёрбаючы боршч, пад маркотным зіркам Дамеціхі, далажыў, што малатарні, на якую спадзяваліся, не дадуць,— і трэба, не сакрэт, спадзявацца пакуль на сваё, на цапы. Сюды адразу прывёз ён, давольны, з гонарам, тры мяхі адборнага, сартаво-

га насення, жыта і ячменю, якое прывезлі ў Юравічы аж з-пад Гомеля, са спецыяльнага саўгаса. Міканор дазволіў развязаць мяхі, паглядзець, якое яно, гэтае насенне, што нібы таіла ў сабе заваблівы цуд будучага лета.

Сярод клопатаў, якімі жылі тыя, што збіраліся ў Міканоравай хаце, найбольшы быў пра зямлю, пра вялікі перадзел, які штовечара ўспаміналі, штовечара абмяркоўвалі. Перадзелу гэтага чакалі асабліва, у размовах нязменна быў неспакой пра тое, каб, чаго добрага, не запазніліся з ім: самая пара араць пад азімае. Аднойчы загаварылі, што некаторыя, хоць ведаюць, што можа быць перадзел, збіраюцца араць свае палосы; хочуць араць свае палосы і каля цагельні. Кажуць, што ніякага перадзелу не будзе, што ўсё гэта выдумка тых, каму няма чаго рабіць, хто хоча нажыцца з чужога дабра. Міканор, пачуўшы гэта, з абурэннем заявіў, што гэта гаворкі шкодныя, з кулацкім духам, што такія гаворкі трэба абразаць са ўсёй строгасцю. Ён зноў заявіў, што перадзел раней ці пазней, а будзе абавязкова, і трэба, каб ніхто ў гэтым не сумняваўся. Але сумненні былі — не аднаго трывожыла такое, што калі і будуць дзяліць, то можа ж выйсці і так, што нарэжуць не канешне каля цагельні, а дзе-небудзь у іншым месцы, так што з таго перадзелу не багата радасці будзе. Міканор і на гэта рэзаў, што дагаворана выдзеліць масіў на лепшай зямлі, што Апейка сам згадзіўся, каб выдзелілі не якую іншую, а тую, што каля цагельні.

Некалькі разоў Міканор ездзіў у Юравічы па каморніка, а прыязджаў адзін. Каморніка ўсё не давалі. Вяртаючыся аднойчы, ён убачыў у полі некалькі постацей, што ішлі, горбячыся, за плугамі. Дзве постаці былі і на полі каля цагельні. Міканор хутка разгледзеў — Нібыта-Ігнат і Васіль Дзяцел. Ён падцягнуў рукою лейчыну, пакіраваў калёсамі цераз разоры напрасткі к Васілю. Спыніў каня, саскочыў з калёс, стаў чакаць, пакуль той, завярнуўшы баразну, падвядзе плуг да яго.

Міканор прыкмеціў: Дзяцел убачыў здалёк, але паказвае, што не бачыць нікога. Гэта няцяжка яму: з-за каня Дзятла амаль не відаць. Сівы конь дзелавіта ступае звыклай дарогай; заўважыўшы Хоневу кабы-

лу, ідзе бадзёра, ахвотна, так што араты вымушаны нават стрымліваць, нацягваючы лейцы. Чым бліжэй, Дзяцел усё больш выступае з-за каня: відаць ужо шапка, плячо, рука, што моцна трымае ручку плуга, пільна кіруе ім. Твару не відаць, ён схілены, яго амаль закрывае старая, выгаралая шапка; уся постаць паказвае адно, што Дзяцел заклапочаны справай, сочыць толькі за баразной. У зрэбнай, расхрыстанай сарочцы, зрэбных, зарудзелых ад зямлі штанах, у лапцях з наліплай, вільготнай зямлёй, абветраны, з рудаватым шчэццем на шчаках, падышоў упрытык, не ўздымаючы галавы, намерыўся прайсці міма. Міканор ступіў крок да яго, ухапіў за аброць, спыніў каня.

Дзяцел узняў галаву, хмурна, нядобра глянуў. Недавольна чакаў, што будзе далей. На брывах, на нягаленых шчаках наліпла пылу, пыл поўніў раннія маршчыны каля рота, на лбе. З-пад шапкі цераз шчаку ішоў засохлы потны пісяг.

— Ты што ето! — не так запытаў, як загадаў Міканор.

— А што! — недавольна, не паддаючыся, адказаў ён.

— Чаго арэш!

— Хочу, дак ару.— Дзяцел сказаў так спакойна, што Міканору пачуўся ў гэтым здзек.

— «Хочу»! Можа ты шчэ чаго захочаш! — сказаў ён, як бы загадваючы, грозячы.

Ад бяссільнасці, ад таго, што Дзяцел не хоча лічыцца ■ яго правам, брала злосць. Дзяцел, як бы паказваючы, што яму ні на што гэтая гаворка, тузануў лейцамі, хацеў ісці далей. Міканор стрымаў каня. Не выпускаючы аброці, строга сказаў:

— Цябе папярэджувалі: ета зямля — пад калгас!

Дзяцел непрыхільна павёў вачыма наперад. Міканор нібы ўбачыў у яго позірку: от прыперла чорта не ў час!

— Гаварылі,— прамовіў ён, не тоячы прыкрасці, што от трэба бавіцца дурной гаворкай. Дадаў спакойна: — Мала хто што скажа!

— Цябе папярэджувалі, не сакрэт — ад імя ўлады!

Дзяцел зноў павёў вачыма: от прыліп! Па-ранейшаму не таіў, што ўся гэта гаворка нудзіць яго.

— Ты — шчэ не ўся ўлада! — У тым, як Васіль

гаварыў, была непрыступная ўпэўненасць, якая проста збівала Міканора.— Не ўсе і табе можна! Е шчэ — закон!

— Дак от закон такі: лепшую зямлю — калгасу!

— Ето — твой такі закон,— нібы выкрываў, судзіў Дзяцел. Судзіў спакойна, упэўнена.— Які ты выдумаў, штоб табе выгадно було! Штоб заставіць другіх у калгас твой пайсці! Думаеш, усё табе пазволено!

— Ето разгаворчыкі, не сакрэт,— з кулацкім духам! — Міканор сказаў гэтыя словы з усёй сур'ёзнасцю, якой яны варты былі.— За такія разгаворчыкі, не сакрэт, можа не паздаровіцца!

— Што ты пужаеш! — прамовіў Дзяцел, ледзь стрымліваючыся, з нецярплівасцю, і упартасцю.— Свайго ўжэ не ары! Сваім ужэ не распараджайся! — У ім расло раздражненне.— Ты даў мне яе? Ты даў ету землю — што распараджаешся? Прырэзаў паўдзесяціны, дак я магу аддаць! Вазьмі сабе етае сваё дабро, пясок свой. На які гною не навозішся.— Зноў стрымаў сябе, як бы скардзячыся некаму, са здзеклівай непашанай прамовіў: — Кажны прыходзіць, кажны камандуе, каму ахвота! Кажны — уласць над табой!..

Даючы знак, што гаворка скончана, зноў, ужо рашуча, тузануў лейцамі. Міканор пачуў, што спрачацца далей няма толку; злуючыся на сваю бяссільнасць перад упартасцю гэтага зацятага Дзятла, пагразіўся:

— Я папярэджую цябе. Штоб потым не жалуваўся, што рабіў дарэмно!

Ён пусціў каня, цвёрдым крокам пайшоў да калёс. Нелагодна шмаргануў лейцамі. Калёсы ападалі коламі ў разорах, хісталіся, уціскалі пожню, ён не заўважаў нічога. У ім жыло, шчымела: «Кажны камандуе, каму ахвота», «Ты — шчэ не ўлада», «Закону не маеш!» Думаў помсліва, люта: «Я пакажу табе — «кажны», я ці — не «кажны». Араб які ці — уладай пастаўлены за сяло адказуваць! Няма ў мяне закону ці — е закон!.. Дзержыцца шчэ як! Як і праўда — закону на яго няма! Горай Глушака старого! Той хоць прамаўчыць! А еты — адкрыто! Не прызнае нічого!.. Што ж, пададжджы — пабачыш! Пакажам — е ці няма на цябе ўлады!..»

Раніцай, яшчэ праз дрымоту, пачуў матчынае: сказала бацьку — Васіль сеяць збіраецца. Хутка ўстаў,

адзеўся, выйшаў на ганак: на Дзятлавых двары — запрэжаныя калёсы, на калёсах — два мяшкі. Трапілася акурат: Дзяцел вынес каробку-сявеньку. Спяшаўся. Адразу заўважыў Міканора — недавольна адвёў вочы. Ткнуў сявеньку ў перадок.

Міканор сышоў з ганка, стаў каля плота.

— Куды ето?

Дзяцел нядобра зіркнуў спадылба, прамаўчаў. Паказваў, што папраўляе мяшок.

— Сеяць?

Зноў прамаўчаў. Нецярпліва зіркнуў на хату: чакаў кагосьці.

— Глядзі — папярэджую: прападзе! — Паспрабаваў падступіцца па-добраму: — Слухай ты, ей-богу. Вазьміся за галаву. Кінь ето, ідзі к нам. Будзе табе зямля! Усё будзе!..

— Чаго ты прычапіўся! — сказаў Дзяцел.— Дыхнуць не дае!

— Дыхай, колькі хочаш. Толькі, не сакрэт, знай: і мы дыхаць хочам. Ясно?

— Ето з-за цябе трудно ўсім!

Дзяцел кінуў недавольны позірк на хату і рашуча пайшоў да яе. Доўга не паяўляўся. Калі Міканор зноў выйшаў на ганак, двор быў пусты. Калёс не было.

Увечар Міканор даведаўся: Дзяцел пасеяў. «Ну, што ж, няхай не крыўдзіцца!» — падумаў з пагрозай, хочучы помсціць.

## 7

Вечарамі ў Міканоравай хаце часта меркавалі, як абжывацца, дзе што трэба будаваць. Калі размова пачыналася пра гэта, то, было прыкметна, людзі жвавелі, гаварылі гарачэй, перабівалі адзін аднаго. Амаль заўсёды такая размова пераходзіла ў спрэчку. А гаварыць і спрачацца было пра што: якія прылады і машыны дабівацца, якія і дзе ставіць канюшню, кароўнік, свіран. Чуліся такія думкі, што трэба лазню, канечна, і школу, і яслі для дзяцей. І хоць ведалі ўсе, што ўсё трэба, спрачаліся, што — найперш, з чым пачакаць пакуль; раілі, як гэта разумна зрабіць, з чаго пачынаць, куды падацца, каб памаглі. Часта выгаворвалі сваё набалелае: як пагана без школы, без ясляў...

Можна было заўважыць, што спрачацца пра гэта людзі не прывыклі: многія, асабліва жанкі, гаварылі нясмела, няёмка, як бы прасілі загадзя прабачыць. Былі такія, што слухалі з недавер'ем і раз-пораз устаўлялі разважныя, не вельмі бадзёрыя рэплікі: лёгка казаць усё! — але большасць хваляваліся і верылі, што мяркуюць не дарэмна. Асабліва горача гаварыў Міканор: яго проста абурала, што нехта можа думаць, нібы ўсе іх намеры — пустая фантазія; ён ні на момант не сумняваўся, што ўсё будзе зроблена. Ён так маляваў, якія будуць Куранi праз пяць гадоў, што не ў аднаго дух займала. Ён нібы бачыў ужо іх сваімі вачыма: з шырокім калгасным дваром, з фермамі, дзе адны пародзістыя каровы, з трактарамі, што аруць і жнуць і малоцяць усё; з ветранымі рухавікамі, якія даюць электрычнасць у фермы, у хаты, што забудуць не толькі лучыну, а і газу. Ён нібы вёў па непазнавальнай куранёўскай вуліцы, на якой не тое што не грузнуць па калені, а і ног не пэцкаюць, бо ўся яна забрукавана, а паўз платы пакладзены тратуары. І гэта пры тым, што людзі ходзяць не ў лапцях ці босыя, а, не сакрэт, як у горадзе, у ботах і чаравіках. Хораша было з Міканорам у гэтых Куранях, і калі хто-небудзь падаваў зноў слова недавер'я, дык большасць брала злосць.

Такія заглядкі наперад у другіх, найбольш — гарадскіх, людзей называліся марамі. У Куранях слова такога не ведалі: няпростае, нібы панскае было яно, стагоддзямі было яно ні на што ў куранёўскіх хатах; як думка пра белую булку таму, у каго няма чэрствай, чорнай скарынкі. Не жыло гэтае слова і цяпер у Міканоравай хаце. Тыя спрэчкі, якія вяліся пад ціхае хліпанне Міканоравай лямпы, называліся па-новаму — строіць планы. Слова гэтае ахвотна і хвалююча абжывалася ў старой, людная хаце...

У тыя дні ў Куранях зацікавіліся тым, што Міканор чагосьці стаў заходзіць на пясчаністы, шырокі пляц за сялом, дзе-нідзе адно падзяленены рэдкімі, чэзлымі купкамі травы, хвашчу, рознага пустазелля. Пляц звалі выган, але пасвілі тут рэдка, ганялі ўсе жывёлу на другі канец сяла; тут жа найбольш гулялі дзеці, падшыванцы-падлеткі. Заўважылі, што Міканор ходзіць нейкі заклапочаны, як бы з нейкім намерам; здаровы, няўклюдны, у ботах, пашытых Хведарам, падыбае па

выгане, стане, абглядвае месца, як бы мяркуючы нешта, пачне вымерваць штосьці крокамі. Выбера на позірк яшчэ месца, пяройдзе туды і зноў вымяркоўвае штосьці, мерае крокамі. І кожны раз, калі б ні прыйшоў, аглядваецца дзелавіта, вылічвае, мяркуе нешта.

Зацікаўленыя куранёўцы хутка дачуліся, чаму Міканор так прыглядваецца да выгану, дадалі да чутак свае меркаванні, пачалі чакаць, што будзе далей. Чакаць давялося нядоўга: праз якія некалькі дзён — у нядзельную раніцу — паявіўся Міканор на выгане ўжо з чарадою калгасаўскіх хлопцаў, дзядзькоў, жанок. Са звязкам вяроўкі, і сякерамі, з абярэмкам альховых ды лазовых дручкоў. Вяроўку Міканор нёс на плячы сам; калі скінуў з пляча, развязаў, аказалася, што вяроўка гэтая — мерка: на ёй было завязана некалькі вузлоў. Міканор зноў агледзеўся, трохі адышоўся, аб'явіў:

— Тут будзе канюшня.

Ён загадаў Хоню ўзяць другі канец вяроўкі. Калі ён нацягнуў вяроўку, пакамандаваў, пакуль той не стаў, дзе Міканору хацелася, пазваў Алёшу Губатага ўбіць калок. Калі Алёша падышоў да яго, Міканор нечакана ўзяў сякеру з Алёшавых рук, з ахвотаю, дужым махам сякеры ўвагнаў калок глыбока ў зямлю.

— Ну, от адзін ужэ е!

Другі, між Міканорам і Хонем, убіў Алёша Губаты. Трэці калок убіў ён каля Хоні. Тады перацягнулі вяроўку, выраўнялі па тых двух калках, і Алёша забіў новы. Пакуль размячалі канюшню, навокал сышоўся натоўп. Спачатку гайнёй, з галасам — малыя, потым хлопцы, дзядзькі, старыя. Гаманілі, маўчалі, глядзелі цікаўна, зычліва, нядобра, панура. Тлумачыў штосьці Чарнушкавай Куліне Андрэй Руды, перасмейваўся з Сарокай Зайчык, акружаныя ахвотнікамі пасмяяцца. Моўчкі, рахмана глядзеў стары Глушак, хваравіты, прыгорблены; панура, з-пад навісі броваў сачыў Лясун. Пра нешта перагаворваліся Васіль Дзяцел і Нібыта-Ігнат. Калі Міканор перайшоў на новае месца, агледзеўся і аб'явіў, што тут будзе кароўнік, хтосьці з жанок, здаецца Чарнушчыха, крыкнула: «Няма такога права!» Услед за ёй, нібы толькі і чакалі, загаманілі, зашумелі недавольна мужчыны; асабліва незгаворлівы, упарты Нібыта-Ігнат. Чуваць было, што няма та-

кога права — займаць агульны выган; што выган — каб пасці скаціну, што — не аддадуць выган.

— Дзетачкі, які ж ето выган! Хто сюды ганяў! — скрывіўся, хацеў звесці ўсё на жарт Зайчык, але Міканор перабіў яго, раўняючы з Хонем вяроўку, спакойна, нібы абыякава заявіў усім, што пра выган ёсць, не сакрэт, распараджэнне сельсавета. Хтосьці на гэта крыкнуў, каб Міканор паказаў рашэнне, але Міканор, загадаўшы Алёшу забіваць калок, параіў пайсці ў сельсавет таму, каму хочацца праверыць. Дзядзькі яшчэ пашумелі недавольна, пагразіліся, што так гэта яны не кінуць, што скажуць, дзе трэба, але адтаго, што Міканор нават быццам і не слухаў іх, не тое што не спрачаўся, патрохі аціхлі. Неўзабаве многія разышліся, засталіся найбольш дзеці ды хлопцы з дзяўчатамі, што падгаворвалі Алёшу прыйсці пайграць...

У панядзелак — у Куранях дзівіліся Міканораваму спрыту — некалькі калгасаўскіх падвод: Хоня, Зайчык, сам Міканор з бацькам — пакацілі ў лес. Пад абед зноў паявіліся на дарозе, што выходзіла з хвойніку,— на расцягнутых калёсах валаклі дубы. Возчыкі паважна ішлі побач, пылячы пяском. Перад сялом павярнулі падводы на выган, услед за Хонем пасталі. Памагаючы адзін аднаму, пачалі скідаць дубы.

Калі паскідалі, цугам, ужо седзячы, пакацілі ў сяло. Але пасля абеду сышліся на выгане зноў, цяпер і з іншымі калгаснымі, з жанкамі; між іншых кульгаў і Хведар на драўлянай назе. Былі цяпер без коней, з жалезнякамі, з піламі, з сякерамі.

— Ну, дзетачкі, памолімся! Кеб бог не глядзеў крыво! — замітусіўся, хіхікаючы, падміргваючы, Зайчык.— Кеб стаяло — не гніло, не гарэло! Кеб скаціна вадзілася не пераводзілася!

Жанкі, асабліва Міканорава матка, накінуліся на Зайчыка: няма чаго вярзці глупства ўсякае, гневаць за нішто бога. Зайчык паказаў, што спалохаўся, вельмі ж заўзята ўхапіўся капаць жалезняком. Усе па адным, па два браліся за сваё: хто, як Зайчык, капаў ямкі пад шулы, хто пілаваў дубы, хто абчэсваў бярвенне. Чулася мернае шарганне піл, сакавітае цюканне сякер. Востра, ядрана біла ў нос пахам свежага дуба. Хведар кульгавы, адчапіўшы драўляную нагу, сядзеў на бервяне, як на кані, памахваў сякеркаю так, быццам хва-

ліўся спрытам і ўмельствам. Бязногі, калека, ён усюды, дзе мог, паказваў, што не горш за іншых, з любым паспрачацца можа. І праўда, дзе-дзе, а ў спрыце да працы, ва ўмельстве Хведара мала хто мог перагнаць. І шавец, і пчаляр, і цясляр — да ўсяго Хведар здатны на дзіва. Недарэмна і тут Хведару даручылі не абыякую справу: часаць шулы, дзяўбаць пазы па абодва бакі шулаў. Шулы — аснова сцен, шулы злучаць бярвенні. Завостраныя канцы бярвенняў учэпяцца ў пазы шулаў, бярвенні лягуць адно на адно сцяною. Важная рэч — шулы. Хведар гэта ведае. І ўсе бачылі, што Хведар ведае...

Тут, на будоўлі, усімі больш распараджаўся Міканораў бацька, які ва ўсім раіўся з Грыбком. Дамецік і Грыбок паказвалі, якія ямы капаць, як глыбока; якой даўжыні рабіць шулы, дзе абчэсваць, а дзе стругаць толькі. Міканор сам, у расхрыстанай сарочцы, без шапкі, з наліплымі на лоб, потнымі белымі валасамі, уядаўся жалезняком у зямлю, даставаў, кідаў на горку вільготную гліну. Ён жа ўдваіх з Зайчыкам пад наглядам Дамеціка і Грыбка закопваў першае шула пад будучую канюшню, заўзята, нават люта ўтоптваў ботамі свежую зямлю вакол шула.

— Будзе стаяць. Покуль не сагніе,— сказаў весела Зайчык.

— Доўго пастаіць,— адгукнуўся Дамецік.— Дуб — дзерава жывучае.

— Жывучае,— падтрымаў яго Грыбок.

Да вечара ўкапалі тры шулы, абтапталі пры іх зямлю. Упоцемку паклалі нават дзве падваліны. Мужчыны трохі пасядзелі на іх, пакурылі, толькі тут заўважылі, як нарабіліся за дзень. Нылі спіны, балелі рукі; пальцы непаслухмяна, важка скручвалі цыгаркі...

— Замучыў ты, братко, усіх! — папракнуў Міканора Зайчык.— Як так будзе, то духу ненадоўго хваціць!..

— Ето з непрывычкі! Прывыкнем — анігадкі будзе! — пажартаваў, заступіўся за Міканора Хведар.

— Шчэ дзень, а там — будзе лягчэй,— сказаў Міканор.— Возьмемся старое раскідаць!..— Ён зацягнуўся.— Возьмем старое, штоб памагало новаму...

На другі дзень зноў ездзілі ў лес, прывезлі дубоў. Хведар, Дамецік, Грыбок у лесе не былі: з ранку цю-



Партрэт Марыі Дзянісаўны —
маці Івана Мележа.



Іван Мележ у родных мясцінах.

калі на выгане, рыхтавалі шулы. Пасля абеду на выгане сышліся ўсе: да поцемку ставілі шулы, часалі, лажылі падваліны. Калі курылі, седзячы на падвалінах, Міканор сказаў Алёшу і Хоню, каб прыйшлі заўтра да яго гумна з сякерамі — рабіць «лёгкую» работу...

Навіны ў Куранях хутка разбягаюцца ад хаты да хаты. Раніцай усё сяло гаманіла, што Міканор будзе раскідаць сваё гумно. Каля платоў, каля калодзежаў, на дварах перадавалі адзін аднаму, меркавалі, судзілі кожны на свой лад. Не аднаго дзівіла, ураджвала: не адумаўся, не баіцца нішчыць сваё, сваёй рукой. Не адзін нядобра круціў галавою, вызначаў: зусім здурнеў, стараючыся за сваю дурную выдумку.

Не абы-як хваляваліся і многія калгасаўскія. Тое, што Міканор збіраўся бурыць не чыё-небудзь, а сваё гумно, не давала супакаення: усе разумелі, што вельмі хутка за гэтым і ім трэба будзе адважвацца на такую страту. Міканор і пачаў з сябе, разумелі, пэўна, таму, каб паказаць прыклад, як трэба ахвяраваць сваім дабром...

Як толькі Міканор спусціў ногі з палацяў, салодка са сну пацягнуўся, адразу пачуў на сабе пільна-трывожны позірк маці. Папраўляючы штосьці ў печы, яна павяла вачыма ў яго бок. Толькі момант, яшчэ санлівы, бачыў Міканор яе позірк, але і гэтага было даволі, каб зразумець, пра што яна трывожыцца. З той хвіліны, ці абуваўся, ці мыўся, Міканор ледзь не ўвесь час заўважаў яе насцярожаную ўвагу, чакаў, што яна загаворыць. Яна маўчала; можа адтаго, што не ведала, як пачаць: Міканор знарок не паказваў, што заўважае яе позіркі, што гатовы слухаць.

Калі падала снедаць, села насупраць, склала рукі на грудзях, глядзела, як ён есць, і, як раней, маўчала. Ён чакаў: зараз загаворыць.

— Дак ето... сягоння? — выдыхнула, нарэшце.

— Сягоння.— Міканор знарок не зірнуў на яе, спакойна еў аладкі з салам. Паказваў: няма чаго ўжо гаварыць пра гэта.

— Не... перадумаў?..

— Думалі ўжэ...

— Думалі...— Хвіліну вагалася: столькі спрачалася за гэтыя гады, ведала, як ён слухаецца, усё ж не

вытрывала, папракнула: — Ето — канешне: бурыць!.. Толку з яго старого — калі раскідаць. Як яно струхлело ўсё...— Яна апошнім часам, пярэчачы, амаль заўсёды гаварыла так, быццам клапацілася больш пра Міканора, пра яго ж выгаду.— Як ставіць ужэ, то — са ўсяго новаго. Штоб пастаяло доўго.

— Падзержыцца шчэ і етае, мамо...

— Нас з табой перажыве, не бойся,— падтрымаў Міканора бацька, ідучы да стала.

Матка ўстала, дала яму месца, прынесла яшчэ аладак. Папракнула:

— Ты б, стары, памаўчаў. Калі ўжэ разумнаго сказаць не можаш! — Запярэчыла Міканору: — Падзержыцца! Ето здаецца толькі. Сагніло ўсё з сярэдзіны. Толькі на пагляд — дзераво як дзераво, а так — гнілое ўсё! — Асцярожна, лагодна села побач.— Да й ці тут не трэба яно калгасу... Ці калгасу ўжэ і гумнаў не трэба?..

— Гаварылі ж ужэ,— сказаў бацька.— Ахвота дурыць хлопцу голаву попусту!

— Я разумнае яму раю,— стрымалася матка.— Не канешне бурыць усё, што складзено...

— Дай пад'есці хлопцу,— строга папрасіў бацька.

Яна прамаўчала, тоячы крыўду на бацьку. Падышла да печы, па-мужчынску рослая, зірнула ўсярэдзіну, узяла качаргу — падгарнула вугаль. Вялікаваты, амаль бязбровы твар яе няроўна, хістка чырвоніла полымя.

— Не чапай, Міканорко,— папрасіла, калі Міканор выцер губы далоняю, устаў з-за стала.— Лесу багато.

Ён распрастаў плечы: добра пад'еў, чуў у плячах, у нагах, ва ўсім целе непатрачаную, радасную дужасць.

— Яго, мамо, і трэба багато,— сказаў паблажліва, сыта.— Новаму дзераву, мамо, таксама хваціць дзела, не бойцеся. Усё пусцім у дзело. І новае і старое.— Раптам загаварыў дзелавіта, сур'ёзна, нібы тлумачыў: — Мамо, нам трэба хутко зрабіць. І часу, і рук лішніх няма, не разгонішся. А тут — дзераво гатовае саўсім. Зразу складуваць можно. Ясно?

На прызбе ўжо гаманілі калгаснікі. Міканор надзеў пінжак, цвёрдай хадою выйшаў на вуліцу. Памеркаваўшы, паслаўшы ўсіх працаваць, ён вярнуўся ў хату, хацеў узяць сякеру, якую паклаў пад лаўку каля дзвя-

рэй. Сякеры не было. Ён здагадаўся: узяў бацька. Зноў заўважыў, што матка сочыць, як бы чакае чагосьці; не азірнуўся, выйшаў з хаты.

Яшчэ ад хлява ўбачыў, што каля гумна цэлы натоўп. «От жыць стаў: куды ні пойдзеш, усюды — чарада,— падумаў, чуючы ахвоту смяяцца.— Кеб грошы браць за глядзенне, дак пабагацець можна було б!..» Ён лёгка, дужа пайшоў травяной, пажоўклай ужо дарожкай, з той ахвотай, гарэзнасцю, з якімі выходзіць бараца спрытны, упэўнены ў сабе хлопец перад усімі хлопцамі і дзяўчатамі, усім сялом.

Калі заўважыў, што яго ўбачылі, сочаць, пайшоў яшчэ лягчэй.

— Народу,— азірнуўся, быццам здзіўляўся,— як — на вяселле!

Заўважыў блізка Андрэя Рудога, Сароку, Грыбка, Зайчыка. Амаль усе калгаснікі стаялі тут — не пайшлі рабіць.

— Занудзіліся, мабуць! — падтрымаў Хоня.— Вясёлага даўно не було!

— Будзе сягоння! — шмаргануў носам Алёша.

— Ну, дак што ж: калі ўжэ такая ахвота — пакажам можа? — Міканор павёў вачыма на Хоню, на Алёшу, на Зайчыка.

— А можно і паказаць! — зарагатаў Хоня.— Мы — не ганарлівыя!..

Міканор вынес з гумна загадзя падрыхтаваную лесвіцу. Прыставіў да страхі, на самы рог гумна. Праверыў, ці добра стаіць. Разуўся, аддаў боты бацьку, ступіў нецярпліва на папярэчыну. Хоня і Алёша самі ўзяліся падтрымліваць лесвіцу. З верхняй папярэчыны ўхапіўся пальцамі за жмут парослай зялёнымі струпамі моху страхі. Учарнелая, патлелая зверху салома крышылася — ён стараўся ўшыць пальцы глыбей. Чапляючыся рукамі, уцінаючы пальцы ног у салому, намагаючыся не асклізвацца, амаль на карачках, спрытна пабег угару. Ён бег па зломе страхі, па самым хібе — каб не так крута было, бег з нечакана згаданай хлапечай праворнасцю; увесь час радасна помніў: знізу глядзяць людзі. Не думаў ніколі, што так спатрэбіцца даўняя навука лазіць па стрэхах: у момант дапаў да самага верху, стрымліваючы частае дыханне, стаў. Стоячы наўколенцах, на самым вільчы-

ку выпрастаўся — усярэдзіне штосьці радасна і — жудасна дрыжала. Знаёмае, забытае.

— Мо — перадумаў! — крыкнула знізу нейкая жанчына; здаецца, Сарока.

— Лезь уніз! — пазваў хтосьці з мужчын.

Другі падхапіў:

— Покуль не позно!

Ён зварухнуўся, зірнуў уніз: адтуль глядзелі, чакалі,— падумаў з хлапечай гарэзнасцю: «Глядзіце! Прывыкайце! Шчэ не раз глядзець трэба будзе!..»

— Сцеражы-ыцеся! — Міканор адвязаў, ірвануў сівую бярозавую паплеціну. Яна не адразу паддалася, нібы ўрасла ў страху,— ён ірвануў мацней, адарваў, стараючыся не траціць раўнавагі, учапіўшыся другой рукой у страху, штосілы штурхнуў. Паплеціна непаслухмяна хіснулася і пераламалася каля самай Міканоравай рукі; перавярнулася разы два, пасунулася наўкася трохі і лягла над краем страхі. Унізе засмяяліся:

— Аге, не хоча!..

Міканор скінуў другую паплеціну, ухапіў яшчэ адну, але тая была старэй, счарнела зусім,— трэснула, ледзь Міканор паспрабаваў адарваць ад моху. Міканор кінуў уніз толькі канец яе. Адарваўшы паплеціны, Міканор рашуча скубянуў чуб абадранай ветрам, пасечаной дажджом саломы на самым версе. Зверху чорная, крохкая, яна ўнізе была бура-рудая, тхнула даўнім пылам, тлеласцю. Дажджы прыбілі яе, спрасавалі, яна аддзіралася неахвотна, непадатна. Міканор скубаў яе жменя за жменяю, люта шпурляў убок — частка яе ляцела ўніз, частка застравала на страсе, асобныя пасмы з радасцю хапаў, нёс вецер.

Чым больш скуб Міканор, тым быццам больш злосна кідаў салому. Хутка з рудога саламянага плеху вылез жаўтлявы гуз, пачаў расці, зрабіўся верхам крокваў. Паказаліся першыя, верхнія жэрдкі, гумно нібы ашчэрылася зубамі.

— Не кідай так! Звязуй! — пачуў Міканор бацькава; здагадаўся — бацька раіць звязваць салому. Каб скарыстаць потым, крыючы канюшню.

Міканор паспрабаваў звязваць: салома была такая тлелая, што ламалася, крышылася, ледзь паспрабаваў скруціць перавясла.

— З яе ўжэ і гною добрага не будзе! — засмяяўся Хоня, беручыся памагаць Міканору.

Міканор кінуў нязвязаны сноп, крыкнуў бацьку:

— Аджыла ўжэ ваша салома, тато!

З гэтага часу на страсе завіхаліся ўжо ўтраіх: Хоня, Міканор і Алёша. Салому цяпер скідвалі проста на ток, рабіць было лёгка і зручна, усе трое як бы хваліліся спрытам адзін перад адным. Замшэлая, у зялёных струпах страха ўвачавідкі ніжэла, выпускала і выпускала жоўтыя абпыленыя кроквы, абчэпленыя павуцінаю жэрдкі. Круціліся блізка, скакалі па жэрдках, лямантавалі вераб'і — бедавалі пра разбураныя гнёзды. І адно, і другое даводзілася бурыць — шэрыя, рупліва склееныя ластаўчыныя хаткі, не толькі Алёша, вельмі чулы да птаства, да ўсяго кволага, а і Хоня прыпыняўся, натрапіўшы на такую дамоўку. Адзін Міканор гнаў сваё цвёрда; папракнуў нават: вайна без ахвяр не бывае...

Унізе амаль увесь час тоўпіліся. Адны сыходзілі, паглядзеўшы, другія падыходзілі. Нядобра, злосна зіркаў Нібыта-Ігнат, сышоў, не гледзячы ні на каго. Бедавала Куліна Чарнушкава: трэба ж так узяцца нішчыць сваё: да чаго дайшлі некаторыя. Чарнушка паявіўся пазней, спакойна пакурыў з Дамецікам; заначыў па-прыяцельску: шкадаваць няма чаго, дабро такое! Збочыў з дарогі, ідучы кудысьці, стары Корч; горбячыся, глядзеў, як завіхаюцца ўгары. Калі ціха, як на пахаванні, падышла Дамеціха, разважна супакоіў: усяму свая чарга. Быў тут, дыміў люлькаю, кашляў сусед Дзяніс; малады — Васіль — не паявіўся, здалёк зірнуў і адвярнуўся, падаўся сваёй дарогай. Па-рознаму глядзелі і іншыя, што збіраліся каля гумна: адны гаманілі між сабой, ціха, разважліва, другія — чаплялі тых, хто на гумне. Не аднаго радаваў імпэт разбурэння, нярэдка чуўся смех. Багата было і такіх, што глядзелі моўчкі, сур'ёзна, сумна. Якіх усё гэта трывожыла...

Да абеду гумно абадралі: свяцілася голае — сохамі, кроквамі, рабрынамі жэрдак. Пасля абеду сякерамі сталі абсякаць жэрдкі, прыкручаныя ссохлай, цвёрдай, як жалеза, лазой. Хіліліся яшчэ кроквы; але да вечара паскідалі і кроквы. Трымаліся пакуль сцены і цыбатыя, з сукамі, з раламі ўгары сохі. На другі дзень

не стала і сцен — разабралі бярвеннямі, на калёсах звезлі на выган. Як калекі-крыжы, тырчалі на тым месцы, дзе нядаўна было гумно, адны сохі. Сярод нязграбных куч чорнай саломы і трухі.

Дамеціха, што жагналася кожны раз, калі бачыла вяшчасную, жахлівую пустэчу, зірнуўшы на сохі вечарам, сумелася: на чырвоным заходнім небе сохі высіліся, як калекі з абсечанымі рукамі. Уздымалі абсечаныя рукі ў неба: быццам малілі ў неба заступкі, кары на бязбожных. Старая, чуючы, як разрываецца душа ад болю, страху і крыўды, пачала, хапаючыся, кідаць перад сабой крыжы: гарачым роспачным шэптам маліла памагчы, падтрымаць, злітасціцца: «Божачко, ты — усемагутны!.. Ты — разумнейшы за ўсіх! Памажы, парай!.. Дай розум ім!.. Навучы іх, неразумных!..»

Ніхто ў Куранях не думаў тады, што пройдзе дватры гады — і ад усіх гумен не застанецца і знаку. Што і загуменная дарога, і загуменні будуць толькі ў няпэўнай людской памяці...

# ЧАСТКА ДРУГАЯ

## РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ

### 1

Апейка багата ездзіў. Ледзь не штодня даводзілася выпраўляцца ў тую ці іншую дарогу.

Дарог больших было тры. Адна, самая кароткая і самая добрая, адразу ля райвыканкома глінянымі каляінамі крута лезла ярам угару. Тут Апейка заўсёды ішоў побач з таратайкай, іншы раз памагаючы каню. З гары шырока і далёка была відна зямля; Апейка з ахвотаю глядзеў, як ішлі і ішлі палі, дзе-нідзе пераразаныя дарогамі, расквечаныя купкамі дрэваў; за сіняватай смугою хораша, мякка плылі таполі, купкі далёкіх садоў ды стрэх, абрысы ўзлессяў. Дарога была шырокая і роўная, стары шлях з шумлівымі бярозамі і тэлефоннымі слупамі; коні тут не толькі ішлі, а і беглі ахвотна, колы лёгка каціліся ў цвёрдых каляінах,— дарога паволі ўсё паніжалася і паніжалася, пакуль не ўпіралася ў нешырокае балота абапал рачулкі Тур'і, дзе раптам збочвала і ўжо бралася мастком ды крывою падковай грэблі.

Адсюль балоты ўжо амаль не адпускалі шлях: ішлі ўвесь час поблізу, край іх добра абазначалі стрэхі гумнаў і сады — сёлы тут ляпіліся к самым балотам, так што платы агародаў гнілі ў балоце. Ды і самі вуліцы, асабліва ў веснавое разводдзе ці асеннюю слату, падобна было, танулі ў балоце.

Людзі тут адвеку шкадавалі кожны шматочак добрай зямлі. Час ад часу балоты нецярпліва падбіраліся да самага шляху, а то і перахоплівалі яго: ад Тур'і, ад Глінішчаў кожныя паўтара-два кіламетры шлях узыходзіў на чорныя грэблі, тэлефонныя слупы ішлі цераз твань. Пад самы шлях падыходзіла балота і на мяжы раёна...

Раён цягнуўся ўздоўж Прыпяці; на карце ў Апейкавым кабінеце, якую намалявалі Апейку ў школе,

раён падобны быў на рыбіну, што ляжала ўздоўж ракі. Мяжа нібы знарок старалася не адыходзіць далёка ад берага, віляла найбольш усцяж яго. Паўз бераг з мястэчка ў процілеглыя бакі ішлі дзве другія большыя дарогі. Абедзве яны ішлі па нізу, адна, прагрукатаўшы брукам галоўнай раённай вуліцы, адразу за апошнімі дамамі ўлазіла ў густы і цёмны сасновы лес, які, абхапіўшы, сціснуўшы з двух бакоў, не выпускаў яе больш за два дзесяткі кіламетраў, да самай чыгуначнай станцыі, якую таксама абцінаў лес. І гадзіну, і другую, едучы тут, бачыў Апейка нейкі насцярожаны лес, чуў, як важка ідуць у глыбокім пяску колы, як натужваюцца коні. Адсюль, калі збочваў улева, лесам, пяскамі, цераз брады Апейка выбіраўся да прырэчных вёсак, да Прыпяці; управа ж дарога выводзіла яго ў новыя лясы, у балоты, сярод якіх радкі хат з саламянымі ды гонтавымі стрэхамі, агароды, палі былі як астравы ў зялёным моры...

Самая знаёмая была Апейку тая дарога, што бегла з мястэчка ўніз паўз Прыпяць. Тут было ўсё асабліва вядомае: кожны ручайчык, кожная лугавіна, кожны радок крывых, каравых верб пры дарозе. Адтаго, што бачыў іх часта, а найбольш, мабыць, таму, што апаноўваў які-небудзь клопат, зазвычай нецярплівы, неспакойны, вочы нярэдка быццам і не бачылі ні верб тых, ні лугавін. Быццам не было ў іх нічога асаблівага. Але здаралася і такое — найчасцей ціхімі залатымі днямі, калі сэрца раптам станавілася немаведама чаму на дзіва кволае, чулае,— што і вербы, і грэблі ішлі ўжо насустрач, знікалі, як жывыя, як блізкія. Радасць, нейкая святочнасць квола, нібы павуціна, трымцелі ўсярэдзіне, калі згадваў, як ехаў паўз гэтыя самыя вербы цікаўным, палахлівым звярочкам — першы раз у вялікі свет, у Юравічы, калі згадваў дробныя драбніцы, што зачаравалі, урэзаліся ў памяць на ўсё жыццё. Тужліва было, калі ўспомнілася, як гэтай вось грэбляю, п'янага, ачмурэлага, везлі на вайну, як гарланіў з братам Саўчыкам «паследні нынешні дзянёчак», як бацька адварочваўся, жалліва шморгаў носам. Тут — ціхі, пастарэлы, здавалася, на сто гадоў, ехаў праз паўтара года ранены — асцярожна трымаў на сене забінтаваную нагу. Побач у сене ехалі мірна мыліцы, паблісквалі дзвюма чорнымі цыратовымі паду-

шачкамі... Каля хаты ён знарок весела скокнуў з гэтымі мыліцамі, а матка — раптам уголас, на ўсё сяло... Увесь дзень то смех, то — слёзы...

Другі раз везлі раненага ўжо з белапольскага фронту. Ногі цяпер хадзілі добра, але куля прашыла верх лёгкага і лапатку — рука вісела як чужая. Дактары раілі малако, чыстае паветра і адпачынак... Чыстага паветра хапала ўдосталь, а малака не было: адзіную кароўку абадралі і зжэрлі прагавітаю гайнёю паны уланы. Не было і як адпачываць: дзе ты будзеш сядзець зломкам, калі ўсе ў полі, на лузе, у клопаце. Левая рука пачынала жыць быццам нанава: вучылася рабіць за правую...

А потым, з шынялём, у нехалодныя дні накінутым напашкі, ездзіў сам на сельсавецкай каняцы ў воласць: спярша — сакратар, а потым — старшыня сельсавета. Усё быццам сышлося к таму, каб кіраваць сельсаветам: і такая-сякая грамата, прывезеная з армейскай службы, і ранняя сталасць, набытая раненнямі ды вандраваннямі ваеннай пары, і нават калецтва. І праца была важная, патрэбная. І не толькі важная, а і небяспечная. Дасюль, калі ехаў тым балотам, дзе чорны зараснік лез з абодвух бакоў на грэбельку, чуў, як халадзее ўсярэдзіне: трэба ж, ледзь не аддаў душу за нішто! От тут вылезла пачвара гэта — бандзюга, гаркнула: «А ну, злазь!..» Ён ад неспадзеўкі аж абамлеў, прыпыніў каня. Заўважыў — яшчэ двое вылазяць. Гэта іх, мабыць, супакоіла — што паслухаўся, стаў. Гэта і памагло яму. Як ён раптам — адкуль узялося! — здагадаўся, так спрытна і лоўка аперазаў пугай па вачах таго, першага! І як тузануў каня, і як конь ірвануў! І як здагадаўся ўпасці на воз! Тры разы бахнулі — не пацэлілі! Жыць яму, значыцца, доўга выпала! Добра і што дарога хутка завярнула, схавала яго: памагла! Але ж як блізка была нябожчыца-старая, каб трохі — той свет пабачыў бы!

Багата што напамінала дарога Апейку. Напамінала, як ветраным кастрычніцкім днём ехаў у Гомель, на курсы; як вяртаўся з курсаў летам ужо з жаданым, сумленна зарobленым дакументам пра тое, што ён — настаўнік; як ездзіў у валасны цэнтр на партыйныя ды настаўніцкія нарады. Думкі тут кожны раз вялі сваёй сцежкай: то ў дзядзькаву хату, дзе ён адзін

«вёў» чатыры класы, у цёмнае лясное сяло; то ў другое такое ж сяло, дзе ён зноў быў у сельсавеце; то к таму ці другому знаёмаму той пары...

Успаміны пра даўняе бралі Апейку найчасцей, калі ён ехаў к роднай хаце. Калі ж вяртаўся, яго больш апаноўвала тое, што давялося пабачыць у сваёй хаце, у сяле. Было амаль заўсёды тужліва і неспакойна: шкада было бацьку і матку, якія станавіліся ўжо зусім старымі. Матка яшчэ завіхалася, калі ён прыязджаў, быццам і не чула стомы, а ў бацькі ўсё валілася з рук. Рука дрыжала, калі трымаў лыжку. Слабеў стары не гадамі, а тыднямі. Да трывогі пра бацьку нязменна прыпляталіся супярэчлівыя, блытаныя, з жалем і злосцю, думкі пра брата, пра Саўчыка. Тое яснае, шчырае, што калісьці жыло між іх, цяпер не толькі не лагодніла абодвух, а рабіла яшчэ больш нецярплівымі, непрымірымымі. Былі не тое што чужыя, а горш за чужых: Апейка проста ненавідзеў брата; а брат ненавідзеў яго. Нянавісць гэту ён і вёз з сабой, вяртаючыся: кляў дурную братаву прагнасць, злую зацятасць, што калечыла, паганіла чалавека; шкадаваў матку, якая разрывалася між абодвух...

Бяда з братам вельмі трывожыла Апейкава жыццё. Мала пра што думаў ён цяпер з такой тугою, нярадасцю: як-ніяк той, хто лез у дрыгву, быў брат!..

З тымі трыма дарогамі, якія столькі разоў беглі насустрач Апейку, якія ён асабліва ведаў, была яшчэ адна, таксама важная, але не падобная ні на адну з трох. Яна пачыналася каля рачнога маяка на пясчаным беразе Прыпяці і вяла ў «акругу», у гарбаты, то па-сяброўску ветлівы, то дзелавіта строгі Мазыр. Працавіты, белы «Чычэрын», мерна лапочучы па вадзе, штодня лез насуперак шырокай прыпяцкай плыні; з мая, калі сыходзіла разводдзе, да позняй восені з аднолькавай ахвотай нёс і на нарады і на суровыя справаздачы. Зімой, па аснежанай рацэ, была самая роўная і самая зручная санная дарога: сані дабягалі да акруговага горада весялей і спарней, як па беразе...

Ад усіх трох галоўных дарог раёна збочвала мноства меншых дарог, дарожак, сцежак. У кожнай дарогі і дарожкі былі свой характар, свой нораў: мала дзе ў свеце было столькі наравістых, ненадзейных дарог, як на гэтай зямлі. Толькі нямногія з іх і нядоўга ціха

ішлі полем ці лесам; большасць, ледзь Апейка з'язджаў са шляху ці байчэйшай дарогі, зразу ўлазіла ці ў мокрыя зараснікі, ці ў балотнае куп'ё.

За балотам, за зялёнай тванню ды зараснікам абапал грэблі таратайка Апейкава праз нейкі час выбіралася на меншую ці большую выспу, і колы ў летнія сонечныя дні мякка сеялі пясок або дробны, як мука, пыл. Выпаўзала, круцілася поле: млелі на сонцы палоскі звычайна беднай збажыны — нікчэмны колас, худзенькія, хваравітыя сцяблінкі, поле ўсё свіцілася наскрозь, пясок ды пясок. Ішлі палоскі зацярушанай пылам бульбы, вецер прыносіў салодкі пах грэчкі. За вытаптаным выганам, амаль заўсёды пры балоце, Апейку абступалі хаты — новыя, пасівелыя ўжо ад дажджу ды ветру, скрыўленыя, абымшэлыя ад даўнасці. За шыбамі, за платамі сустракалі цікаўныя вочы: чым далей ад вялікай дарогі, тым радзей бачылі тут чужога чалавека...

У кожным сяле былі ў Апейкі цяпер знаёмыя, прыяцелі; калі не спяшаўся вельмі, нават кіруючыся далей, ён спыняў каня, завітваў у хату. Да выпіўкі ён быў, усе ўжо ведалі, не вялікі ахвотнік, ведалі, што, калі галодны быў, не таіўся, не аднекваўся для прыліку і не грэбаваў беднай якой грыбной ці шчаўлевай паліўкай. І ведалі, што любіў юравіцкі госць, як пачастунак, талковую, цікавую гаворку. Ведалі і частавалі. Чаго-чаго, а гаворак у Апейкавых паездках хапала заўсёды! То нібы пустыя, са смешкамі, то сур'ёзныя, яны Апейку былі і радасцю і абавязкам: хто-хто, а ён ведаў, як далёка панясуць не вельмі багатыя на такія сустрэчы дзядзькі ды цёткі гаворкі гэтыя, як доўга будуць пераказваць, услухоўвацца, дашуквацца не толькі яўнага, а і тайнага сэнсу. Гаворкі цікавыя і карысныя былі і самому Апейку: тут, у гэтых людзей, было мора навін, такіх патрэбных яго душы, якая хацела быць заўсёды з народам...

Калі ён ехаў далей, побач часцяком ішло некалькі дзядзькоў, цётак, чародка цікаўных малых — праводзілі. За крайнімі хатамі таратайка зноў кацілася пясчанымі каляінамі, разам з якімі і ўбягала ў яшчэ адно балота. Абапал зноў мяняліся зараснікі шызаватых лазнякоў ды бліскучага алешніку, зноў ядавіта зелянела раска, цёпла, дурнотна пахла тванню. Трашчала

галлё пад коламі, што дробна дрыжалі, курыўся пыл — руды, тарфяны.

Адразу збоку грэбелькі млела дрыгва, зманліва зялёная, з буйной травою; ступі — і не выберашся, зацягне, засмокча навек. Доўга ішлі то купы зараснікаў, то высокая бурая трава, то раска з жабамі, то чорнае, асклізлае ламачча. Балота, зялёная пагібель, як зглядзець воку, на цэлыя кіламетры, да сіняй пасачкі кучаравага лесу.

Час ад часу балота змяняў лес, таксама мокры, з балотнай травою, з асклізлым ламаччам. У ім яшчэ вастрэй біў смурод гнілі, яшчэ назольней лезла ў вочы, у вушы камарэча, што кідалася цэлымі хмарамі. Балота, мокры лес, зноў балота; выспачкі, нават пясчаныя, былі рэдка, сыходзілі вельмі ж скора.

Іншы раз лес абступаў пануры, чорны, з такімі зараснікамі, што сонца не магло прабіць, з такой густой навіссю ўгары, што не было відаць неба. Станавілася сярод белага дня цёмна, як увечары. Дарога была ўжо нібы не дарога, а пяшчэра. Колькі ні бачыў такіх дарог, і чуў Апейка, як нешта сціскаецца і чарнее і ў яго душы, як бярэ нейкая маркота, нейкая трывога. Калі ехаў з ім выканкомаўскі возчык Ігнат, Апейка заўважаў, што і ў таго прападае звычайная дарожная санлівасць, у вачах паяўляецца неспакойны бляск. Азіраецца мімаволі.

Мала дзе даводзілася бачыць Апейку такія агромністыя алешыны, бярозы, асіны, часам дубы, што ціснулі бедную дарогу, прымушалі яе віляць і туды і сюды. То там, то тут каляіны прападалі ў лужынах, і вада ў іх была таксама чорная, як дзёгаць. І гадзіну, і другую ішлі, ціснулі з абодвух бакоў магутныя камлі, чорна звісалі галіны, здавалася, ніколі не будзе ўжо ні поля, ні сонца; але — нарэшце — наперадзе між дрэваў выбліслівала нешта вясёлае, а неўзабаве сляпілі вочы вольны прастор, радаснае неба, воблакі.

2

Ва ўсім раёне не было цяпер сяла ці нават хутарка, у які хоць бы некалькі разоў не наведваўся Апейка.

Яшчэ ў першыя паездкі свае па раёне Апейка заўважыў, што людзі ў розных месцах жылі неаднолька-

ва, што тыя, хто жыў падалей ад ракі, між балот ды лясоў, багата чым розніліся ад яго знаёмых змалку землякоў — жыхароў пясчанай надпрыпяцкай вёсачкі. Розніліся некаторымі звычаямі, розніліся гаворкаю: раптам прыкмеціў, што ў блізкіх, можна сказаць, суседніх сёлах па-рознаму вымаўлялі адны і тыя ж словы, быццам гаварылі на розных мовах! Дзіўна было чуць, як дзядзькі ці хлопцы аднаго сяла пацяшаюцца з гаворкі тых, што жылі за тым жа балотам, з другога боку яго! Пацяшаліся, хоць у саміх гаворка была дзіўная, хоць тыя, з другога боку, таксама падсмейваліся з іх! Апейка, дабіраючыся да разгадкі такога дзіва, меркаваў, што гэта была, мабыць, памяць далёкай даўніны, калі вёсачкі на сваіх выспах між багнішч жылі яшчэ больш асобна.

Дзе-нідзе сярод палешукоў траплялія палякі і яўрэі. Палякі, прыкмеціў Апейка, трымаліся купкамі, каля мястэчка, у засценку, яўрэі ж, акрамя тых, што аселі ў мястэчку, жылі па адным, па два ледзь не ў кожным большым сяле, блізка ад дарогі. Палякі корпаліся ў зямлі. Яўрэі таксама нярэдка аралі і малацілі, але большасць кармілася розным рамяством — найчасцей кавальствам ды шытвом. Там-сям спрабавалі гандляваць. Любілі зямлю гэтую і цыганы: не дзіва было Апейку бачыць ці калёсы-буданы на грэблях, ці шумлівыя табары на выганах. Не раз самога якая-небудзь прычэплівая, смуглявая маладзіца хапала на дарозе за руку, дабівалася расказаць, што чакае яго...

І палякі, і яўрэі, і цыганы былі тут свае людзі. Палякі часта радніліся з тутэйшымі; яўрэі мірна курылі на прызбах разам з палешукамі; амаль у кожным сяле знаходзілася хата, якая давала цыганам цяпло і прытулак на ўсю доўгую зіму. Яны былі ўсе, і цыганы, і палякі, і яўрэі, як ручаінкі, што ўліваліся ў вялікую раку, што самі станавіліся той жа ракою.

Раён быў, як вычытаў Апейка ў адной краязнаўчай кніжцы, «даволі аднародны». Апейка чытаў кніжку ўжо тады, як нямала прыглядзеўся да раёна, і ў словах пра «аднароднасць» пачуў быццам іронію. Яму здалося — нішто не было больш далёкае ад ісціны, як гэта — «аднароднасць»! Ужо тое, дзе жылі, у якім месцы, розніла нямала людзей. Яго землякі, што ўмелі смаліць лодкі і закідваць у прыпяцкія затокі сеці, не

ва ўсім былі падобны на тых сваіх братоў, хаты якіх ляпіліся ўздоўж шляху, якія з вясны да зімы толькі і корпаліся на сваіх перадзеленых, перамераных палосках. Людзі па шляху таксама бывалыя, звыклыя да блізкіх і далёкіх гасцей. Не дзіва тут сустрэць граматнага чалавека, амаль у кожным вялікім сяле — школы, настаўнікі. Але ўсё ж гэтыя не такія ўжо галасістыя, не такія вольныя на людзях. Гэтым лодка ды сецьяк дзіва якое, гэтыя не вераць у раптоўную ўдачу, калі за адзін дзень пабагацець можна. Мабыць, таму і гандлююць так ціха, асцярожна, паважна, і далей за Юравіцкі кірмаш выбіраюцца рэдка. Рачныя ж — рухавыя, і ў Нароўлі сустрэць лёгка, і ў Мазыры, і за Мазыром. Лёгка набываюць і лёгка трацяць.

Зямля каля рэчкі найбольш пясчаная, няўдзячная. Тых жа, што каля шляху, яна падманвае рэдка, ёй больш вераць, больш стараюцца. Тут зямля спрадвечных аратых, векавечных плугатароў...

У тых, што за гушчарамі, за балотамі, багата ў чым і сваё, асаблівае жыццё і свае характары. За балотамі зямля найбольш паганая, людзі хапаюцца за лес, шукаюць ратунку ў лесе. З ягадамі, арэхамі, грыбамі запасяць на зіму жалуды: цэлымі гарамі ссыпаюць у засекі. Жалуды любяць свінні, жалуды таўкуць на муку: хлеб там рэдка без жалудовай дамешкі. Бывае і толькі з жалудовай мукі; ён у горле як гліна, у жываце — бы цэгла. За балотамі настаўнікаў менш, менш школ, з-за балот людзі рэдка выбіраюцца ў свет. Там не дзіва сустрэць цётку ці хлопца, якія век не бачылі ні паравоза, ні парахода. Там больш за ўсё цёмных, хворых на ліхаманку і сухоты, там самыя недаверлівыя, дзікаватыя позіркі...

«Даволі аднародны...» Той, хто пісаў кніжку, цікавіўся этнаграфіяй, ён казаў пра этнаграфічны склад жыхароў раёна. Яго не цікавіла — ён «меў права» абысці — галоўнае, што вызначала стан людзей у грамадстве —стан іх гаспадаркі; галоўнае, што кідалася найперш у вочы былому сялянскаму хлопцу і цяперашняму старшыні райвыканкома. Не толькі па абавязку, а і з як бы ўжо сардэчнай патрэбы раней за ўсё ўведвала Апейкава цікавасць, якая ў чалавека гаспадарка: колькі зямлі — пахаці, лугу, лесу (быў яшчэ нямала ў каго і «свой» лес); колькі едакоў у сям'і,

колькі працаздольных; колькі коней ці быкоў — якое *цягло*; колькі кароў, авечак, свіней. Не абыякавая, не фармальная, чалавечная цікаўнасць яго старалася дазнацца не толькі тое, колькі зямлі і лугу, але і якіх; і хто тыя едакі ў сям'і, што не робяць; і які той конь, тая карова — якая карысць з іх. Усякія ж зямля і коні бываюць — ведаў ён не з падручнікаў якіх, а таму, што папахадзіў па гэтых усякіх землях і паездзіў, папарабіў на ўсякіх конях. І яшчэ не забываў ніколі: ці не служыць хто з хлопцаў у Чырвонай Арміі, дзе, кім,— не забываў не толькі таму, што ведаў, як багата значыў той хлопец у гаспадарцы, а і таму, што помніў, паважаў армейскую службу; хацеў, каб усе помнілі: армія — то армія, хлопец не на гулях, а на дзяржаўнай службе, служыць народу. Значыць, пашана і яму, і яго бацькам ды братам. Пашана і ўвага...

Бачыў Апейка, што і заможныя і беднякі не ўсе былі на адзін капыл. Былі сярод заможных багацеі-кулакі, п'яўкі, што толькі і жылі з чужой крыві, з чужога поту, а былі і такія заможнікі, дзе дастатак увесь набываўся тым, што сям'я ўся — з падрослых, працавітых дзяўчат ды хлопцаў, якімі правіць суровы, бязлітасны камандзір-бацька. Бацька-манарх, бацька-катаржнік; камандзір катаржнай каманды. Былі і такія заможнікі, у якіх адно лічылася зямлі больш, як у іншых; але як зямля тая жаўцела жоўценькім пясочкам, то заможнікі такія праўдзіва нагадвалі голых каралёў. Былі і такія, у якіх за чорнымі, пакрыўленымі сценамі, за сляпымі акенцамі, заткнутымі анучамі, таіліся багацце і хцівасць, пра якія б век не падумаў,— поўная кулацкая дзяржава пад абдзёртай, старчай страхою! А другога гатовы былі залічыць у кулакі таму толькі, што ў таго хата відная на ўсё сяло; выпнуўся, паставіў усім на зайздрасць; лезе ўсім у вочы сваім хорамам; а ў тым хораме век галодныя дзеці — багацце ўсё!

Не блізнятамі былі, бачыў Апейка, і тыя, каго аб'ядноўвалі адным імем — бедната. За тым агульным, добра знаёмым абліччам галечы і нішчымніцы, якое яднала ўсіх, бачыў Апейка розначасць лёсаў і прычын: бедныя — ад беднасці зямлі,— што ты выціснеш з таго пясочку ці балота — ад недахвату цягла: паспрабуй, разгарніся без каня! — адтаго, што хворыя кармільцы,

адтаго, што няшчасці — невядома за які грэх — сыплюцца, адтаго, што ратоў поўна ў хаце: усё дай ды дай,— а падмогі — ніякай! Былі бедныя, што век у працы, у клопаце, і бедныя, што чухаліся і то з лянотаю; былі век цвярозыя і век п'яныя. Былі такія, што Апейка загадзя мог бы паручыцца — у калгасе апорай будуць: калгасная гаспадарка на такіх будзе трымацца; а былі і такія — Апейка гэта таксама добра бачыў,— што не парадуецца калгас, прыдбаўшы: труцень, прыхлябацель, беднасцю сваёй пахваляцца будзе — як білетам на бясплатную паездку ў рай...

Што праўда, тое праўда: былі ў балотнай ды лясной старане, у якой Апейку выпала рабіць з людзьмі, ціхія, рахманыя, акурат такія, якімі палешукоў паказвалі свету старыя, спачувальныя кнігі; але былі і зусім іншыя, якія невядома чаму не ўварваліся ў тыя кнігі: не рахманыя — крыклівыя, задзірлівыя нават; былі баязліўцы, што дрыжалі перад усім, і зухі, якія не страшыліся ні чорта, ні бога. Была жахлівая цемра і дзікасць, але ж колькі сустракаў у глушэчы сваёй Апейка такіх цётак ды дзядзькоў, што хоць не ведалі, як распісацца і ўвесь век корпаліся на сваёй богам забытай выспе,— а былі проста мудрацы. Хоць, здавалася б, павінен быў прывыкнуць — сустракаў такіх не аднаго: ледзь не ў кожным сяле спаткаць можна было такога,— кожны раз захапляўся яснасцю, глыбінёй разваг, шырынёй думання не знаных нідзе, акрамя свайго сяла, філосафаў. Не мог не здзіўляцца: як можна было мець такі ясны, багаты розум пры векавечнай, да знямогі, працы, пры векавой дзікасці!

Ён любіў балотных мудрацоў. У Апейкі была проста неадольная слабасць: пагаманіць з такім, падчапіць, выклікаць на спрэчку, усчаць дыскусію; у кожнага мудраца былі свае меркаванні, свае развагі, свае сумненні: колькі тут можна было пачуць цікавага і павучальнага, яму, які сам нямала пабачыў на свеце!..

У адным, можа, большасць людзей, з якімі даводзілася сустракацца, былі падобныя адзін да аднаго: у тым, як адносіліся да ўсяго, што казалі ім. Нават Апейка — свой чалавек — чуў нязменна: у землякоў яго не лішне даверлівасці. Не, яны слухалі Апейку; падобны да іх, ён умеў гаварыць з імі, ведаў, як падысці. Яго слухалі і ахвотна — нават вельмі ахвотна — ківалі,

згаджаліся. Але амаль што кожны, слухаючы, ківаючы, чуў Апейка, не забываў ніколі прытым прасейваць усё праз сваё вельмі тонкае, пільнае сіта...

У кожным сяле, ды амаль што ў кожнай хаце — у гэтым людзі ў сёлах былі перакананы яшчэ больш за Апейку — жылі чым-небудзь выдатныя людзі. У адной славіўся на ўсё сяло пчаляр, які так навастрыўся ў пчалярскай справе сваёй, што нават гаварыць з пчоламі ўмеў; у другой — дзівосны грыбнік, які дапаў да ўсіх грыбных тайн і век нясе грыбоў утрая больш за другіх; у трэцяй слава ззяе над паляўнічым: не тое што лісіц — ваўкоў ды рысяў перабіў, не злічыць, у качак пападае са стрэльбы, «заплюшчыўшы вочы»; гэты ведае такія сакрэты рыбацтва, пра якія іншым і не снілася; той такі выдумшчык, што як збрэша — жываты папарвяце; той так спяе, што за сэрца возьме; той — казачнік, той — балалаечнік, той — скакун! А колькі майстроў — касіць, капіць, стагі складваць; жаць, малаціць, веяць! Пячы хлеб, варыць патраўку; калоць свіней, рэзаць цялят! Праць, ткаць, бяліць палатно! Пілаваць дровы, плесці лапці! Багата дзе ёсць чалавеку паказаць свой спрыт, свой талент!..

Тысячамі самых розных, блытаных,— іншы раз, здавалася б, нечаканых — вузлоў вязала нястомнае жыццё чалавечыя дачыненні. Стракаты, нястрымна барвісты ішоў перад Апейкавымі вачыма свет; свет складаных, неахвочых да схем, з套 рознымі, часам супярэчлівымі якасцямі, імкненнямі, пачуццямі людзей; жывых людзей.

Апейка жыў сярод гэтага свету: сярод супярэчлівасці, блытанасці, загадак. Ён не ўмеў — і не мог — змяніць гэты свет на больш зручны, выдуманы; яму не давалі гэтага ні месца яго ў жыцці, ні характар яго: штодня, штохвіліны неабыякавым сэрцам чуў ён жывую бяду, жывыя надзеі! Яму доляй самой трэба было адказваць жывым, раіць жывым, развязваць бясконцыя вузельчыкі і вузлы. І трэба сказаць, ён не наракаў; ён нават задаволены быў: з такім багаццем цікава жыць! Жывучы з такімі, разумееш, што ты патрэбны ім, патрэбны справе; разумееш, што не дарэмна хлеб ясі працоўны!

## 3

У характары Апейкі былі дзве рысы — розныя, несуладныя: нейкая чуласць, схільнасць да элегічных адчуванняў і разам цвярозасць, практычнасць.

Чуласць, элегічнасць яго былі, мусіць, ад прыроды: пэўна, яны і былі калісьці прычынай таму, што Апейка з усіх жыццёвых доляў выбраў сабе долю настаўніка, ды яшчэ настаўніка літаратуры. Выраслы ля лесу, ля рэчкі, ён усё жыццё быў неабыякавы да лесу, да рэчак, да ціхага і вялікага жыцця прыроды. От і цяпер, жывучы неадступнымі клопатамі, ён увесь час чуў яе з сабою.

Ішла пара, якая заўсёды асабліва хвалявала яго,— восень. Ён заўважыў яе подступ здаля, са жніўня,— калі сонца падымалася яшчэ высока і ад гарачыні іншымі днямі аж млелі дрэвы, бабкі, недажатыя палосы, агароды за платамі.

Подступ яе радаваў добрым надвор'ем: палі дружна галелі, зелянелі адно палосы з картопляю. Дарогі былі поўныя працоўнага руху: дзе б ні быў, рыпелі вазы, сунуліся да сяла, па загуменных дарогах, уціскаліся ў расчыненыя гуменныя вароты. Не толькі ў халаднаватых гумнах, а і на гарачых прыгуменнях пахла жытам, ячменем, аўсом; там і тут рады снапоў пры сценах аздаблялі чорныя гумны, як паясы: снапы сушылі. Дзе-нідзе цупалі ўжо цапы.

Восень далічвала летні плён. Што ж, Апейку не было чаго быць недавольным гэтым плёнам. Яно было не пустое, не гультайскае — можна ўжо сказаць — мінулае лета. Як і ў тыя гады, нязбытным, вялікім клопатам лета былі дарогі; трэба было, як і ў тыя леты, карыстаючыся тым, што балоты падсыхаюць, што сярод лета ёсць трохі вольнага часу, ладзіць грэблі, правіць, лажыць масты. Дарогі былі вечнай бядою: хоць нямала за мінулыя гады наладзілі, клопату хапіла і на гэтае лета; хопіць і яшчэ, мабыць, не на адзін дзесятак гадоў. Паваждацца давялося нямала, але клопат, што ні кажы, не прапаў папусту: яшчэ дзве грэблі новыя — у самую балотную глухамань; яшчэ некалькі падсыпалі, наладзілі старых; пералажылі шчарбатыя, падламаныя масты, збудавалі трохі новых. Можна, не хвалячыся і не прыбядняючыся, сказаць: тое-сёе зра-

білі. Вядома, да ладу яшчэ далёка, дарогі яшчэ багата дзе рэжуць без нажа, але ўсё ж — тое-сёе зрабілі. Зрабілі.

Першага верасня школьны званок паклікаў малых у тры новыя школы; Апейка ў той вераснёвы дзень дапаў да адной з іх, у Мокуці: сам бачыў, колькі радасці-ўцехі было ў бацькоў і дзяцей. Усё сяло, старыя і малыя, сышліся як на свята; заняткі доўга нельга было пачаць адтаго, што кожнай матцы, кожнаму бацьку хацелася паглядзець, як будуць іхні — ці іхнія — вучыцца. Потым разышліся, праўда, па палосах, па гумнах, але вечарам, каб не было Апейкі, спаілі б з радасці далікатнага настаўніка, адзінага пакуль на ўсю школу. Свята праўдзівае было, і Апейка не дзівіўся: раней трэба было перціся ў школу за цэлых сем кіламетраў, ды ледзь не ўсё лесам, па незлічоных лужынах, якія і летам не высыхалі; цераз балота за Куранямі. І лес там быў найбольш чорны, непралазны, поўны ўсякага звяр'я ды гадаўя... У саміх Юравічах — тут былі і Апейкава задума і яго кіраванне — зрабілі інтэрнат для дзяцей з далейшых сёл: школ другой ступені ў раёне нягуста: пакуль што — поўная — толькі адна; дык от і няхай будзе сталы прытулак усім, хто хоча ісці з балот да святла. Няхай будзе цёплы куток і страха перад вучобай, пасля вучобы; не ўсякаму бацьку ёсць на што наняць іх у мястэчку. Сам-насам Апейка радаваўся — ганарыўся нават, як асобым дасягненнем,— што ў гэтым годзе школы будуць не толькі з апалам: дрывамі ўдалося забяспечыць школы непагана, дзецям не давядзецца мерзнуць у халодных класах; у гэтым годзе ва ўсіх школах будуць для дзяцей гарачыя снеданні — хлеб і чай з цукрам! Ва ўсіх школах цяпер ёсць тытаны ці бачкі гатаваць чай! Ёсць хлеб і ёсць цукар!.. Гэта ўжо нешта ад будучыні, гэта ўжо, можна сказаць,— з'ява сацыялізма!..

Цяпер, калі восень відна не па нейкіх асобных прыкметах, а ўладарыць усюды, беспадзельна, можна ўжо скінуць з душы трывогу пра ўраджай. І налілося ўсё, і выспела, і прыбралі з поля,— за ўсе зернавыя можна быць спакойным: і за жыта, і за ячмень, і за авёс. Тое — леташняе — лета было няўдалае: зернавыя ўрадзілі слаба; што вымакла з вясны, а што пагарэла; і людзям было мала і перад дзяржавай у даўгу

асталіся: не выканалі нарыхтовак. Была цяжкая восень: у трывозе аб людзях, з усякімі непрыемнасцямі зверху за нявыкананы план; і яшчэ больш цяжкая зіма і вясна. Людзі ў некаторых сёлах дамешвалі ў муку *жолуд*, пяклі з жалудовага цеста; не адной сям'і, некалькім сёлам гразіўся голад; трэба было памагаць, ратаваць колькі змогі. Памагалі і выратавалі: узялі з багацейшых сёл, выціснулі з кулакоў. Тым-сім, дзякаваць ёй, падсабіла акруга. Пасля ўсяго асабліва неспакойныя былі і вясна і лета; таму і асаблівая радасць, што не падвялі: ураджай сёлета — непаганы, калі раўняць нават з тым, што збіралі ў добрыя гады. Жыццё павінна выправіцца. Цяпер неспакой толькі пра картоплю; каб з ёй добра было ўсё...

Восень пакуль — не прыдумаеш лепшай. Золата — не восень. Дні — як адзін — сонечныя, лагодныя, неяк на дзіва чыстыя: усё навокал у ласкавай, дзівоснай яснасці. Усё агорнута млявым, велічным спакоем: белаватае неба, далёкія і блізкія лясы, трава пры дарогах; усім гэтым, небам і зямлёю, прырода нібы кажа: я папрацавала нямала, нашчыравалася за вясну ды лета і от хачу пакволіцца ў спакоі. Яна можа і мае права на спакой, а людзям не да яго, не да спачыну. Людзі поўныя клопату, адвечнага асенняга імкнення. І таксама повен клопату Апейка; толькі ў клопаце яго не адна сям'я, не адна гаспадарка. Тысячы сем'яў, дзесяткі вёсак і вёсачак, раён...

Цупаюць цапы ў тысячах гумнаў — за палямі, за барамі і зараснікамі, за абшарамі балотных чаратоў і асакі. Цупаюць у дзённай яснасці і ў чорныя, з першым подыхам холаду, ночы — пры святле «лятучых мышаў». Звіняць і ўдзень і ўночы яшчэ не частыя калгасныя малатарні: удзень — танчэй, як бы празрысцей, уночы — басавіцей. Гул іх яшчэ не ўсюды звычны і таму вяселіць асабліва: ён — як нейкая новая, і вельмі звонкая, мелодыя ў даўняй песні восені.

Людзі начамі пры святле ліхтароў і на сваіх гумнах і каля малатарань выглядаюць трохі незвычайнымі. На стрэхі, на сцірты, на поле ліхтары кідаюць вялізныя цені: ад ценяў гэтых людскія рукі з бічамі цапоў, з віламі — нібы рукі асілкаў, самі людзі выдаюцца асілкамі. Можа быць, яны і ёсць асілкі: з ночы ў ноч, да світання цупаюць цапы, гамоняць малатарні;

людзі робяць не шкадуючы сілы, да знямогі. Цяпер самае галоўнае — хлеб. Хлеб трэба ім, трэба гарадам, трэба арміі; у хлебе — жыццё народа і магутнасць краіны, якія будуюць пяцігодку. Хлеб гэты, якога раён дасць небагата,— толькі некалькі кропель у хлебным моры краіны, але і яны не лішнія. Краіна жыве не лёгка, не раскошна — кожная кропля на ўліку.

Першымі ў акрузе былі чырвоныя абозы з іх, з Юравіцкага, раёна. Адзін абоз павёў у Калінкавічы на станцыю новы сакратар райкома Башлыкоў, з другім у няблізкую дарогу, у Хвойнікі, выправіўся Апейка. Апейка вёз абоз з сёл, якія былі бліжэй да Хвойнікаў. Збіраліся на шляху: вазы з сёл ішлі к шляху цераз грэблі, цераз масты, па польных дарогах; з жалезных абадоў цёк то руды, тарфяны, то белы, як мука, дарожны пыл. Па шляху рушылі разам: вазы з мяхамі збожжа паўзлі па белых, пясчаных каляінах, між старых і шумных бяроз, праз сёлы і міма сёл, міма хат наводдаль і ветракоў, што паважна круцілі крыламі. Ехалі пад вясёлыя маршы і полечкі куранёўскага гарманіста Алёшы, пад песні возчыкаў, між якіх асабліва стараўся Міканор; калі ж гарманіст і ахрыплыя возчыкі сціхалі — пад доўгі, задуменны гоман тэлефонных правадоў. Толькі сцяг на пярэднім возе ўвесь час весела, агніста хадзіў пад лагодным, цёплым ветрам.

З полечкамі ды кадрылямі прагрымелі коламі па бруку галоўнай вуліцы мястэчка, паўз балота выбраліся ў строгі сасоннік далёкай станцыі. Абпыленыя, прытомленыя, з прытомленымі конямі — але гаманлівыя, галасістыя...

Пра гэтыя абозы пісалі потым газеты; гэта была падзея не толькі для раёна, але і для акругі і, можна сказаць, для рэспублікі. Башлыкоў чуў сябе тады героем: абозы гэтыя як бы прагрымелі аб тым, які кіраўнік, якога палёту, прыехаў у раён. І трэба сказаць, што для абозаў гэтых ён намала пастараўся, так што пачатковы гэты яго трыумф быў зусім заслужаны. Але, як і здаралася не раз мінулымі гадамі, пачаўшы першымі, набыўшы шумную славу рэспубліканскага маштабу, усю гэту славу неўзабаве ж страцілі, ганебна адсталі — не зважаючы на ўсе старанні сакратара райкома і на яго вялікае шкадаванне. Апейка, вядома,

таксама шкадаваў, што нарыхтоўкі зацягваюцца, але ён перажываў спакайней: быў і характарам больш стрыманы, і аб славе не так бедаваў, і, галоўнае, браў тое, што здарылася, як пакуль няўхільную бяду. Яна не першы раз абыходзілася з ім так. Усё ж бяда гэта і яго тачыла: дарогі рэзалі, прымушалі траціць попусту столькі часу і сілы! Каб мог палічыць хто-небудзь, колькі патрачана іх за ўсе гады; колькі паламана адных калёс,ператомлена коней! Ва ўсім раёне ні адной вярсты чыгункі, ні адной станцыі. Палавіна вёсак кіруе на станцыю ў адзін суседні раён, другая — у другі. І як ні выгадвай: і ў адзін і ў другі бок менш як па трыццаць — сорак, а каму-нікаму і па пяцьдзесят кіламетраў не выходзіць. Тут як ні старайся, хоць абозы будуць рыпець не толькі ўдзень, а і ўночы да ранку — усё адно не ўправішся добра. Усё роўна раён спозніцца...

У такія дні Апейка нецярпліва думаў пра той блізкі і далёкі час, калі і па іх лясных ды польных дарогах запыляць аўтамашыны. Гэта была яму адна з самых дарагіх мар: з добрымі дарогамі ды машынамі, быў ён упэўнены, глухая старана іх вельмі хутка зменіць сваё аблічча, стане краем багацця і культуры. Машыны, лічыў ён, борзда разгоняць застаялую, дзікую цішыню, радасна панясуць у знябытыя вёскі шчырыя і шчодрыя дарункі гарадоў. Пакуль жа, ужо не першы год, ён недавольна паглядваў на раку: усцяж раёна больш за паўдзесятка прыстаней — чаму б не арганізаваць хоць бы вывазку паставак па рацэ, на баржах. Ужо не раз гаварыў, дабіваўся ў акрузе, у Мазыры; адтуль пісалі, званілі ў Мінск, у Кіеў — ва ўпраўленне параходства; нічога не дабіліся — не было барж і буксіраў.

Не ўправіліся вывезці і палавіны збожжа — падаспела бульба. Усе рынуліся на поле — капаць картоплю. Абапал усіх дарог, на ўсіх палосах — даўно ўжо не зялёных, рудых: зелянiна бульбоўніку пасохла, парудзела даўно,— заклапочаныя постаці: і старыя, і малыя, усе, хто можа рабіць. Падкопваюць, выбіраюць картоплю, зносяць у кучкі ці ў кашы на вазах. Над полем, над дарогаю — з дня ў дзень пяшчотная сонечнасць. Дні пагодныя, як на заказ. Чыстыя і вельмі ціхія: галасы як бы звіняць, але ціха. Усюды пла-

вае «бабіна лета». «Бабіным летам» абчапляны рудыя кусты бульбоўніку, трава пры дарозе, чапляецца яно за ногі, за крылы таратайкі. У конскай грыве таксама «бабіна лета». І спакойная, мудрая журлівасць над усім. І пахне дымам: там і тут на полі белыя дымы — паляць сухое бацвінне. Пякуць бульбу — радасць малым, і грэюцца старэйшыя: зямля ўжо не летняя, стынуць рукі. Днём яшчэ цёпла, а ночы — волкія, важкія; ранкамі на бульбоўніку, на траве белыя махры інею.

Паўзуць і паўзуць полем вазы з лазовымі кашамі. Вазы з кашамі на полі, на дарогах, на прыгуменнях. Пры гумнах ледзь не ў кожным двары ладзяць капцы — картоплю ўкрываюць ад зімніх халадоў. Вялікія, доўгія, як аборы, капцы ссыпаюць пры калгасных дварах; доўгія капцы гэтыя яшчэ ў навіну, як і самі калгасныя аборы.

Ідуць вазы з кашамі к вялікім раённым дарогам, па шляхах з бярозамі і вербамі, з тэлефоннымі слупамі. Палавіна вазоў у адзін раён, палавіна — у другі. На станцыях зноў людна і тлумна: сыходзяцца, ціснуцца дзесяткі, сотні вазоў. Храпуць, іржуць коні, разпораз ускідваецца лаянка, гатова загарэцца бойка: кожнаму хочацца прабіцца да вагаў раней. Зноў Апейку бярэ трывога аб вывазцы: марудна ідзе яна. З акругі ж — што ні дзень — званкі, запытанні: як з нарыхтоўкамі, як — план? Напамінкі, што бульба — Ленінграду і Маскве, накачкі: падводзіце акругу! Нібы ён вінаваты, нібы ўсё таму, што ён — не хоча ці мала хоча, каб было лепш! І от жа: хоць не вінаваты, хоць ведаеш — няма на табе віны, а ездзіш ужо як вінаваты; гаворыш ужо ў сельсаветах, у калгасах, у вёсках неспакойна. Сам падганяеш ужо, і сам накачваеш, хоць часта бачыш, што ўсё гэта і не трэба. Неспакой, гарачка — нервы не вытрымліваюць. Спакой, дзелавітая разважнасць не ўдаюцца.

А можа такое з ім і адтаго, што ён адчувае: цішыня гэта асенняя — не такая лагодная, як магло б здацца,— зманлівая. Нельга паддавацца яе мірнай супакойлівасці: спакою — няма. Спакой нам толькі сніцца, праўду казаў Блок. Нярэдка сустракаюць у сёлах незычлівыя, нядобрыя позіркі. Нярэдка позіркі людзі хаваюць — хаваюць душы. Стараюцца ўтаіць, што там

у іх. Заўважыўшы яго блізка, спяшаюцца адысці пада-лей. І на сходы вечарамі няпроста склікаць: доўга сыходзяцца, і не ўсе. Паўзуць нядобрыя чуткі, што гэты год цвёрдыя заданні будуць не толькі кулакам, і серадняком — нават маламоцным. Што не абмінуць потым і беднякоў, у каторых будзе што ўзяць. Што забіраць будуць усё, дачыста; што павязуць усё ў горад — рабочым і партыйным. Не ў адным сяле чуў ён: кулакі шэпчуцца, згаворваюцца, гатовы падняць галаву. Харчаў сказаў, што ў яго ёсць дакладныя матэрыялы пра тое, што рыхтуецца змова.

Не ціхая, зусім не ціхая гэтая залатая, асенняя цішыня. І ў гэтую восень — як і летась — натыкаешся на спробы ўхіліцца ад здачы абавязковых падаткаў. Як і летась — дзе-нідзе спрабуюць утойваць збожжа і бульбу. Адгаворка ўсюды адна: падаткі не пад сілу, здаваць няма чаго. Ні ўгаворы, ні пагрозы часта не памагаюць. Даводзіцца арганізоўваць актывістаў. З іх помаччу знайшлі не адзін тайнік, схованку збожжа і бульбы. Знайшлі — рэквізавалі. На саміх тых, хто хацеў ухіліцца ад падаткаў, ашукаць, аформілі некалькі спраў, перадалі ў суд. Пяцёх, найбольш злосных, пасадзілі нават.

Можа таму так востра чуеш прыроду, што бачыш, колькі яшчэ сярод людзей ёсць нялюдскага. Работа старшыні райвыканкома — не для беленькіх рук. З дня ў дзень прыходзіцца лезці ў гразь, браць яе сваімі рукамі — ачышчаць зямлю ад гразі. Гэта толькі збоку здаецца, што работа яго лёгкая: таратайка са скураным сядзеннем, возчык Ігнат, свой кабінет у раённай сталіцы. Прэзідыумы за сталом з чырвоным сукном; слава і ўлада. Работа старшыні райвыканкома — гэта работа таго будаўніка грэблі, які першы ідзе і ў ваду, і ў твань, першы сячэ зараснік, вядзе дарогу і па полі і цераз балота. Работа байца і маленькага — аддзялённага — камандзіра, які з сакратаром райкома, без адгаворак, галавою сваёй і сэрцам адказвае за ўсё, што дзеецца ў раёне. У такі складаны час...

І радасць, і неспакой вечны ў сэрцы і ўдзень, і ўвечары, і начамі. І ў сёлах, і ў мястэчку, і ў дарозе. Адтаго ён і так часта ў дарозе, па сёлах — няма ніколі спакою.

Радасць увесь час ■ клопатам. Радасць: вясёлы,

імпэтны гуд калгасных малатарань прыглушыў мернае цупанне цапоў ужо не ў адным і не ў двух сёлах. У кожным сельсавеце між цеснага бязладдзя мізэрных палосак — шырокія, прасторныя абшары калгасных уладанняў. Яны шырэй сталі за год. Касыя рады аратых, адзін пры адным, ступаюць калгаснымі палямі; баразна пры баразне пакідаюць за сабой вільготную свежасць пахкай зямлі — рыхтуюць да новага калгаснага засеву. Не толькі аратыя і коньмі — нястомныя трактары, пыхкаючы сінім дымам, гаманліва, па-маладому порстка, рушаць, як новыя працаўнікі, пачынальнікі новых, знаных пакуль толькі ў марах, часоў. За гумнамі, за крайнімі агародамі, пры дарогах растуць нязвыкла шырозныя двары з доўгімі аборамі і свірнамі. Іх складваюць са старых свірнаў і гумнаў; для іх прывозяць з лесу смалістыя сосны: хораша тады пахне свежай смалою на калгасных дварах!

Калгасаў пакуль небагата. Дзевяць калгасаў у раёне — як астраўкі сярод даўняга балота. Але бяда не толькі ў тым, што іх мала лікам, большая бяда, што амаль у кожным — мала народу. І — што яшчэ горш — мала парадку. Ладу мала. Мала калгасных будынкаў: жывёла найбольш па ўсім сяле, па розных хлявах. Будаўніцтва ідзе слаба. Тэхнікі вельмі мала. І людзі не заўсёды старанна працуюць. Без вялікай ахвоты. Як бы аглядваючыся назад. Свядомасці не хапае; і агітацыя не заўсёды даходзіць. Невядома, як зацікавіць, запаліць іх. Багата што яшчэ невядома; і чым далей, чым шырэй разгортваецца калгаснае, тым больш гэтых загадак. Але галоўнае: як дабіцца, каб людзі стараліся, каб рабілі ад усёй душы; каб любілі і зямлю, і коней агульных, як любяць сваё, адзінае!..

Багата клопату і неспакою было ў Апейкі. Але над усім — і дробным і нядробным — было адчуванне блізкіх вялікіх падзей. Подых гэтых вялікіх падзей чуўся ўсё мацней і шырэй па меры таго, як сыходзіла восень, набліжалася зіма.

## 4

Другая частка Апейкавага жыцця была ў мястэчку. Тут нязменна канчаліся ўсе яго вандраванні па раёне.

Тут быў, на тым баку, што бліжэй да хвойніку, да

Прыпяці, яго дом. Палавіна дома, у якую ён усяліўся па праву старшыні райвыканкома. Тут была жонка Вера, былі малыя: сын яго большы — Валодзя, і шчабятуха Ніначка. Вяртаючыся пад поўнач ці пад досвітак, ён падыходзіў да чорнага акна, ля якога ён, здавалася, знадворку чуў цеплыню іх пасцеляў, цеплыню іх сну; прытульваўся, мімаволі прыслухоўваючыся да цішыні там, ціха, радасна стукаў. Ён чуў асцярожны шорхат, што адразу адзываўся на яго стук: Вера прачыналася так хутка, нібы і не спала; момант бачыў ці ўгадваў цьмяны абрыс яе твару, што прыпадаў да шыбы; нецярпліва пералазіў каля сцяны плот, скакаў на двор. Чуў з ганка, як яна адчыняе хатнія дзверы, як упоцемку ідзе праз сенцы, стукае засаўкаю.

Цяпло любага чалавека, цяпло роднага дома — як чуў Апейка іх пасля холаду, беспрытульнасці дарогі, пасля чужых канап і ўслонаў, пасля навалачы турбот. Вера тулілася да яго, уся поўная маўклівай пяшчоты, ды і ён, казаць праўду, чуў сябе так — нібы і не было ў іх тых васьмі гадоў — васьмі гадоў пад адной столлю. У пакоі заўсёды напагатове чакала лямпа, упоцемку Вера шамацела запалкамі; да таго часу, калі Апейка звыкла намацваў кручок і вешаў паліто, лагоднае жаўтлявае святло ўжо адводзіла цемру. Ціхая пяшчотная цеплыня бруілася ў сэрцы, калі Апейка на пальчыках ступаў у непрычыненыя дзверы, станавіўся пры ложках. Ніначка ляжала на матчыным; кожны раз, калі ён глядзеў на яе, вейкі яе пачыналі чула дрыжаць; нярэдка яна прачыналася, момант санліва, няцямна пазірала абы-куды; тады бацька шаптаў штонебудзь супакойліваe, і яна паслухмяна заплюшчвалася. Сын спаў на бацькавым ложку, каля другой сцяны, найчасцей носам у падушку,— так што Апейку звычайна былі відны толькі кволая шыя ды неспакойны віхорчык на макаўцы.

З пачатку восені ён прыязджаў штодня і ў вялікай трывозе: дачка гарэла ад шкарлятыны — баяўся за дачку, баяўся за сына, ложак якога тады перастаўлялі ў сталовую. Цяпер бяда была ўжо ззаду: дачка выдужала, і, на шчасце, Валодзьку хвароба абмінула. Трывога ныла хіба трохі як успамін пра нядаўняе, як няззжытая яшчэ дамешка да радасці, ад якой радасць, можа, толькі чулася вастрэй.

Адышоўшы ад дзяцей, ён сядаў за стол, аглядваўся, быццам хочучы без слоў даведацца, як тут жылі, што рабілі. Валодзева торбачка з лемантаром і сшыткам на канапе, падрыхтаваная — пад матчыным прыглядам — на заўтра, да школы; сын пачаў працоўнае жыццё, з восені стаў вучыцца. Апейка яшчэ не зусім прывык да гэтай перамены — калі думае пра Валодзю, разам з радасцю паяўляецца часта і шкадаванне: нялёгка маломуl.. Вунь там, ля парога,— канькі, сын катаўся; бацька амаль бачыў ужо, як ён, чырванашчокі, шчаслівы, уваліўся ў пакой... Каленкі, бок у лапінах снегу: падаў ці дурэў... Ніначчыны лялькі на гнутым крэсле, шматкі тканіны — спавівала, люляла ляльку перад тым, можа, як сама пайшла спаць. Сукеначка малой на спінцы крэсла — Вера латала сукеначку. Новая акуратная латачка на Валодзевым паліто, што вісіць ля парога,— на локці...

Яны ў такія хвіліны гаварылі мала. Вера не пыталася нічога — у тыя позняя сустрэчы больш поўнілася клопатамі: вымак, мабыць,— дождж унь які; перамёрз — мароз унь цісне! Скінь боты, надзень сухія шкарпэткі, перамяні бялізну!.. Шкарпэткі і чыстая бялізна заўсёды былі напагатове; спрытна паяўляліся з аблезлага пузатага камода, паслухмяныя яе клопату, яе каханню. Праходзіла якіх некалькі хвілін, як Апейка стаяў ужо ў сухой бялізне, у сухіх, цёплых шкарпэтках, з асалодаю ўмываўся, садзіўся зноў за стол, на які яна збірала вячэру. Сабраўшы ўсё, яна садзілася сама, ціхая і маўклівая, поўная спакоем сустрэчы.

Нават калі было што-небудзь важнае, яна звычайна не гаварыла, асабліва калі гэта было непрыемнае: такая была ўжо ў яе, ды і ў яго, звычка: нішто не павінна было хмарыць сустрэчу, час радасці — усяму свая пара. Прыйдзе пара і клопату, цяпер здарожанаму чалавеку трэба адпачыць, пажыць бясхмарнай радасцю сустрэчы. І радасць жыла, з ёю ён — за поўнач, на досвітку — клаўся спаць, з ёю стомлены, нязвыкла спакойны, чуючы жонку, малых, засынаў — плывец, што даплыў, нарэшце, да свайго берага.

Калі ён уставаў раніцай, яе ўжо не было. Не было і Ніначкі, і Валодзі: Валодзя быў з ёю, у школе, Ніначка — у дзіцячым садзе. Праз сон Апейка чуў, як

яна пяшчотным шэптам супакойвала малую — каб не будзіла татку! — як ціха і спакойна загадвала Валодзю; усё гэта праз сон праціналася да яго і знікала: змора сцірала ўсё. Абуджаўся ён ці сам, ці — дачасна — будзіў пасыльны з выканкома з якой-небудзь пільнай справай. Апейка, хутка памыўшыся, перакусваў тым, што Вера паставіла на стол, і ішоў на вуліцу, у клопатны дзень.

Ён часта думаў пра жонку, шкадуючы: нялёгка ёй, маючы дваіх, рабіць у школе — няхай сабе і на палавіну стаўкі. Ён, вядома, разумеў, чаму яна не хацела кідаць школу; ён разумеў: школа была не толькі працаю, а і ўцехаю, без якой жыццё было б бяднейшае; тут, ён ведаў, была не толькі звычка дзесяці гадоў, тут была і любоў яе, якую нішто не заменіць. Апейка і не настойваў, каб яна ішла са школы; яму было даспадобы, што яна жыве, як і раней, не толькі домам — актыўным грамадскім жыццём. Сапраўдны грамадскі дзеяч, і яшчэ які! Хто-хто, а Апейка ведаў, якая з яе настаўніца. І ўсё ж тое, што яна працавала ў школе, рабіла і ў школе і дома, рабіла за дваіх, надмеру, турбавала яго адчуваннем несправядлівасці, якую невядома было як паправіць. Апейка і сам з сабою, і з ёю ўдваіх не раз меркаваў, што б можа было зрабіць, каб хоць трохі вызваліць яе, але нічога добрага так і не вымеркаваў. Можна было б перавезці бацьку і матку: бабуля глядзела б малых,— але старым шкода было кутка, набытку сваіх. Пра тое, каб наняць хатнюю работніцу, і гаварыць не сталі: наняць яе — гэта ж усё роўна што наняць парабка; камуністу, старшыні райвыканкома! Як ні думалі, аставалося адно: аддаваць Ніначку ў дзіцячы сад — адчынены, трэба для праўды сказаць, пад кіраўніцтвам старшыні райвыканкома. Аддаваць дачушку ў дзетсад, глядзець за Валодзем, хадзіць у школу, у крамы, на рынак, рабіць усё, што трэба і што хочацца рабіць. І яна рабіла — упраўлялася неяк і ў школе, і з дзецьмі, і па гаспадарцы. Праўда, іншы раз і з дапамогаю старшыні райвыканкома, які часам — калі быў узрушаны ці стомлены — наракаў на неўладкаванасць сямейнага жыцця. Яна хоць і крыўдавала на яго ў такі момант, але перамоўчвала яму. Ён злаваўся, бурчаў, але, нарэшце, астываў, спакайнеў.

Найболей жа яны жылі дружна. Як бы ні былі напоўнены турботамі дні, было часу, каб хоць кораткa, хоць урыўкам пасядзець разам, падзяліцца бачаным, чутым, думаным; няхай сабе найбольш увечары, пасля Апейкавага дня ў выканкоме. І разумелі яны адзін аднаго з паўслова, часта з аднаго позірку...

У другой палавіне дома жыў даўні Апейкаў знаёмы — Харчаў. Калісьці Апейка сам угаварыў былога начальніка міліцыі пераехаць з не вельмі зручнай кватэры, якая была ў памяшканні міліцыі; радаваўся, калі той пасяліўся побач, цэлымі гадзінамі, бывала — увечары ці выхаднымі днямі,— сядзелі адзін у аднаго ў гасцях або на Апейкавым ці Харчавым ганку. Часам спрачаліся, і разыходзіліся найбольш кожны са сваёй цвёрдай думкай, але гэта не шкодзіла нібы жыць мірна, нават у добрым сяброўскім ладзе. Толькі ж з часам, асабліва пасля таго, як Харчаў вярнуўся з Масквы, з курсаў, лад сяброўскі парушыўся. І цяпер, здараецца, пасядзяць, пагавораць, сустрэўшыся на двары, але сядзяць і гавораць ужо, можна сказаць, не як сябры, а як знаёмыя, якім даводзіцца быць на адным двары. Праўду кажучы, цяпер абодва, гамонячы, не часта і сядаюць, больш стаяць: гаворкі цяпер не такія доўгія. Не, гэты нялад не адтаго, што Харчаў зазнаўся пасля курсаў, пасля новага прызначэння, прычыны тут іншыя. Думкі розныя, розныя погляды; розныя, як сам жа Харчаў сказаў, прынцыпы. Розныя і цвёрдыя ў кожнага — і ў Харчава і ў Апейкі. Гэта праверана ўжо не раз; таму цяпер амаль ніколі не даходзяць да спрэчкі; як бы згаварыліся: нашто траціць час марна! Ці дзіва ж, што цяпер няма шчырасці, прыхільнасці былой; хоць бы такой, як у Веры з жонкай Харчава, добрай, спагадлівай Марусяй. І ці дзіва, што жыць цяпер побач з Харчавым, сустракацца не толькі на працы, а і дома Апейку не вельмі даспадобы. Так што ў Апейкавым доме ёсць і свае, як кажуць, мінусы...

Перакусіўшы сам-насам, замкнуўшы дзверы і схаваўшы свой ключ у кішэню, Апейка выходзіў на знаёмую вуліцу. Кожны раз ранкам пасля вандровак ён ішоў вясёлай хадою чалавека, для якога не абы-якая

радасць ступіць зноў на сцежку, па якой не ступаў, здавалася, цэлы век. У такія ранкі вочы яго ўсё бачылі як бы нанава, як нешта незвычайнае. Добра, лёгка ішлося па вулачцы, няхай сабе і была яна вузенькая, без тратуара, вясной і ўвосень гразкая, а зімой — замеценая паверх платоў гурбамі снегу. Вулачка выводзіла Апейку на другую, трохі шырэйшую, таксама без бруку і тратуара, але падсыпаную жвірам. Як і дасюль, перад вачыма Апейкі мяняліся хаты: найбольш старыя, найбольш пад гонтам, усе драўляныя, усе з агародамі і агародчыкамі, з безліччу платоў і катухоў. Вясковыя платы і хаты гэтыя выводзілі Апейку на брук галоўнай вуліцы, дзе быў і гаманкі дашчаны тратуар і там-сям белыя і чырвоныя ганарлівыя камяніцы, дзе грымелі жалезам вазы, дзе святочна чырванелі лозунгі; дзе і было тое, што вылучала гэтае паселішча з іншых, што давала яму права звацца асабліва — мястэчка.

Галоўная вуліца — Леніна — была даўжэзная: цягнулася ўсцяж гары болей як на тры кіламетры, пакуль не ўпіралася ў зыбучы пясок, у цёмны хвойнік. Другая такая ж вуліца, так жа ўсцяж гары, але бліжэй, прыціскаючыся да самага падножжа, ішла ў другі бок, між ліп, між вербаў, да самай аздобленай хмызнякамі роўнядзі лугавой нізіны. Вясной усю нізіну залівала прыпяцкая паводка, увесь прасцяг быў повен шырокага вадзянога бляску: у вадзе танулі агароды, завулкі, з вады тырчалі платы, катухі, вада лізала ганкі. Тады па агародах, па завулках спрытна юрлілі лодкі — лодкі станавіліся самым неабходным транспартам. У дні і тыдні паводак, здавалася, невядомае мора падступала да хат — вада разлівалася да самых далёкіх гор на другім баку Прыпяці; так шырока, што сцінала грудзі. Пад лета — раней ці пазней — вада паволі спаўзала, аддавала людзям чарнату мокрай зямлі; за гародамі ды завулкамі вылазілі на волю лугавыя прасцягі, вылазілі проста з вясёлаю зелянінаю і бліскучым россыпам жоўтых красак. Хутка абсыхалі пясчаныя разлогі паўз Прыпяць — бераг быў увесь у пясчаных засыпах пяску,— адкрывалася, нарэшце, дарога да прыстанькі, што ўжо нямарна чакала святочна белыя параходы.

Наперарэз гэтым дзвюм бегла з цеснаты гары яшчэ

адна валікая вуліца: усё ніжэй, ніжэй, між хат, пад сасначкі, у прыпяцкія пяскі, к той жа прыстані. Гэта і была асноўная дарога, па якой, цераз раўчакі і брады, што амаль не перасыхалі, дабіраўся да Прыпяці ўвесь раён.

На гэтых трох вуліцах і жыла большасць местачковага жыхарства; гэта, можна сказаць, былі галоўныя вуліцы. Але, як і большая частка самай галоўнай, вуліцы Леніна, астатнія дзве галоўныя вылучаліся сярод іншых амаль адной даўжынёй: былі гэта ў цэлым гразкія і пыльныя вясковыя вуліцы з вясковымі ж хатамі. Акрамя лепшай часткі вуліцы Леніна, толькі невялічкі кавалак той, што збягала з гары, нагадваў нешта гарадское і брукам і дзвюма-трыма камяніцамі; усё гэта, самае выдатнае з дзвюх вуліц, было сабрана разам у тым месцы, дзе абедзве вуліцы скрыжоўваліся. Тут і было тое, што выклікала пашану да мястэчка ў прыезджых з усяго раёна. Тут былі ўстановы, нардом, аптэка; тут былі магазіны, рыначная плошча, крамкі; прыватныя краўцы і шаўцы. Тут быў «цэнтр».

У гэты «цэнтр» і выходзіў цяпер Апейка, вострым позіркам ловячы праявы местачковага жыцця.

5

Толькі што мінуў крыклівых хлапчукоў, якія гайсалі на каньках па доўгай замёрзлай лужыне; малыя, заўважыў,— адзін местачковы, двое другіх — з вёскі; з інтэрната, пэўна, з другой змены той жа школы на гары, дзе цяпер Вера. Па бруку ляскочуць тры падводы — вязуць прыкрыты посцілкамі, увязаны вяроўкамі лён; адзін з возчыкаў заўважыў Апейку, пазнаў — даў «добры дзень». Апейка таксама пазнаў: вадавіцкія камунары; едуць — здагадаўся — у Калінкавічы, на станцыю, здаваць. Недалёка ад іх спаткаў дзядзьку: перад калёсамі сівы канёк трухае; дзядзька сядзіць стаўбуном, нібы дрэмле, абыякавы; але спакой — нагнаны, вочы з-пад барановай шапкі з адвіслымі вушамі зіркаюць востра, пільна. Пазнаў яго, Апейку, але адвёў позірк, нудна нокнуў на каня і зноў нібы задрамаў. На возе — нічога: сена толькі для вачэй, але Апейка паручыцца мог бы — не пусты едзе,

вязе нешта. Мяса зарэзанай цялушкі ці можа каровы знаёмаму краўцу або спекулянту... «Рэжуць скаціну, што далей — больш... Калі не спыніць гэтае вар'яцтва, чорт знае, што будзе...» Заўважыў на сцяне аптэкі перарваны ветрам кавалак шпалераў — лозунг: «Збор попелу — ударная...» Ніжні край лозунга вецер вырваў, хоць шпалеры і былі абабіты па краях дранкамі,— знізу матляўся толькі язычок шпалеры з нейкімі кветкамі спадыспаду. Ля цёмнай, з пачарнелай шалёўкай, гуменнай красы цяперашняга нардома цераз усю вуліцу варухліва чырванела: «Вышэй тэмпы калектывізацыі! Выйдзем на першае месца ва ўсёй акрузе!» Апошнія словы былі напісаны танклява і густа, Апейка ведаў — па загаду Башлыкова; Башлыкоў, пабачыўшы няўзгоднены з ім лозунг, загадаў зняць яго і дапоўніць... Апейка ўбачыў на сцяне нардома аб'явы; адна вельмі кароткая: будзе кіно «Два друга — модель и подруга». Перад другой ён стаў, уважліва прачытаў: «22-га, у нядзелю, у Юравіцкім Нардоме пачнецца чыстка членаў і кандыдатаў партячэйкі Юравіцкага райкома партыі КП(б)Б. Просьба ўсім беспартыйным мястэчка Юравічы, а таксама і ўсіх сельсаветаў і вёсак Юравіцкага раёна, абавязкова явіцца, а такжа падрыхтаваць факты пра работу і недахопы партыйцаў з ячэйкі, асабліва — кампрамеціруюшчыя матэрыялы. Усе гэтыя факты просьба кідаць у скрынку, якая тут вісіць, або заявіць Камісіі па чыстцы ці на самім пасяджэнні па чыстцы публічна.

Пачатак чысткі ў 10 гадзін раніцы».

Аб'ява датычылася Апейкі: супрацоўнікі райвыканкома таксама ўваходзілі ў райкомаўскую партячэйку.

Усё, што аб'яўлялася, было яму ўжо вядома: і тое, што чыстка будзе, і дзе, і ў які дзень; і ён чытаў аб'яву і адышоў ад яе з такім выглядам, як бы нічога асаблівага не здарылася,— а ў грудзях усё ж зашчымела, нядобра, трывожна. Брала гэтае трывожнае не ўпершыню, але сёння неспакой быў багата чутнейшы. «Кампрамеціруюшчыя матэрыялы» — засела ў памяці, не адступала, не ціхла.

«Глупства! — прымусіў ён сябе адагнаць непатрэбны неспакой.— Глупства... *Маё* сумленне — чыстае... Чыстае... І ніхто яго не запляміць... Ніхто і нішто!»

Адсюль ужо блізка было да райкома. Райком быў у яшчэ новай будыніне з жаўтлявых, толькі трохі пасівелых бярвенняў, з вішнёвага колеру бляшаным дахам. Сама па сабе будыніна была падобна на дзесяткі іншых; вылучала яе [redacted] абывацельскага рада іншых хіба толькі шыльда «Юравіцкі райком КП(б)Б», зробленая нядаўна ў Мазыры — важная, багатая, серабром па чорным, адзіная на ўсё мястэчка сапраўдная шыльда. Акрамя яе, вылучаў райкомаўскую хату яшчэ хіба радок белых чашачак на сцяне — з тэлефоннымі правадамі.

Апейку пашанцавала: Башлыкоў быў акурат у райкоме. Апейка павітаўся з русявым хлопцам у гімнасцёрцы, памочнікам сакратара, папытаўся — больш для прыліку,— што новага, пайшоў у кабінет Башлыкова. Башлыкоў быў не адзін: перад ім на крэсле, у свіце, з пугаю ў руцэ сядзеў Чарнаштан, старшыня глінішчанскага калгаса. Сам Башлыкоў стаяў насупраць, за сталом,— стройны, прыгожы, у строгай сіняй гімнасцёрцы і сініх штанах. Звыкла трымаючы адну руку ў кішэні, ён весела адказаў Апейку на прывітанне, моцна, энергічна пацiснуў руку, зноў павёў бліскучымі, прыязнымі вачыма на Чарнаштана. Па-сяброўску, як старэйшы, мудрэйшы маладому таварышу свайму, тонам парады сказаў:

— Усё гэта — настроі! Адсталыя настроі, Павел Васільевіч. Я вам раіў бы паменш прыслухоўвацца да ўсякіх настрояў, да ўсякіх гаворачак! Цвёрда весці сваю лінію!

— Дак жа знаць не хочуць нічого!..— У мяккім голасе Чарнаштана чулася вінаватасць.— Слухаць нічого не хочуць!..

— Паслухаюць! Трэба толькі пагаварыць як належыць, павесці іх! Пераканаць!.. На тое і кіраўніцтва, каб кіраваць, весці людзей туды, куды ўказвае партыя! Улічваць асаблівасці селяніна, канечна, трэба, але гэта не значыць, што трэба ісці на паваду ў яго. Нельга ісці на паваду! Нельга патакаць усякім настройчыкам! Весці за сабой, весці — вот што трэба!

— Дак як ты іх павядзеш! Толькі і чутно: хто робіць, хто не робіць — толк адзінакі! Усім палачка ў ведамасці! Справядлівасці, кажуць, няма!

— У іх свая мерка справядлівасці, сялянская, улас-

ніцкая. Ім цягнуцца і цягнуцца трэба, каб зразумець справядлівасць нашу, пралетарскую! Яны прыраслі к старому, у с е мераюць старым аршынам! Аддзіраць трэба іх, не шкадуючы! Аддзіраць і весці за сабой! Весці з кожным днём усё больш людзей! — Башлыкоў загаварыў заклапочана, дзелавіта: — Мы павінны ўзмацніць тэмпы калектывізацыі. У гэтым — галоўная задача, якую паставіла партыя перад нашым раёнам у цяперашні момант. Выкананне яе, гэта ясна, будзе нямала залежаць і ад вас. Сяло ваша — вялікае, віднае, на вас, я заўважыў, паглядваюць і другія. Таму кіраўніцтва раёна спадзяецца, што вы пакажаце добры прыклад іншым...

— Дак мы — што ж, мы б — з радасцю, калі б — ладзілася! Калі б людзі дружно рабілі!..

Башлыкоў стаў ля стала, строга задумаўся. Костачкі пальцаў цвёрда, нібы ў лад думкам, пастукалі аб стол.

— У вас там, па ўсім відаць, кулач'ё ваду муціць! Карыстаючыся вашай і нашай слепатой і бяспечнасцю, робіць сваю работу! У гэтым, канечна, і соль уся таго, што класава чуждыя настроі ў вас так развіліся! Сяло ў вас — заможнае, контррэвалюцыйнага душку хапае. І, вядома, контррэвалюцыйнай прапаганды. А мы развесілі вушы, ударыліся ў спячку. Забываем, што вораг не спіць, робіць сваю справу, пакуль мы спім... Трэба будзе спецыяльна прыгледзецца да вашага сяла...

— Рады будзем — прыязджайце, паглядзіце!.. А то так і глядзяць — штоб зноў назад...

— Назад дарогі, Павел Васільевіч, не будзе! Трэба глядзець у глыбіню, у корань! Дарогі назад няма, так і скажыце ўсім! Партыя аглядвацца не будзе, бальшавікі не прывыклі аглядвацца! Мы ідзём к суцэльнай калектывізацыі — так рашыла партыя. Калектывы — будучыня сялян, не аднаго, не дзесяці — усіх. І ў нашым раёне, і ва ўсёй краіне. Усе — рана ці позна — будуць калгаснікамі. К гэтаму ўсё ідзе. І тыя, хто сягоння яшчэ ў аднаасобніках,— таксама будуць у калгасах. Усе. За выключэннем кулакоў. Такая лінія наша! Так і скажыце людзям!

— Скажу... Дак мы будзем чакаць вас...

Башлыкоў, даючы знак, што гаворка скончана, выйшаў з-за стала.

— Трэба глядзець наперад, Павел Васільевіч! —

Дзелавіта дадаў: — Так і быць: у бліжэйшы час пад'еду! Сам пагляджу, разбяруся! Толькі вот спраўлюся з неадкладнымі справамі! Ну! — ён падаў руку, пасяброўску, дужа пацісnуў Чарнаштанаву.

Калі Чарнаштан пратупаў ботамі к дзвярам, Башлыкоў і Апейка праз шыбу глядзелі, як ён падбіраў сена, адвязваў каня, як нетаропка, задуменна выкіроўваў на вуліцу.

— Н-да...— Башлыкоў прайшоўся, стройны, паюначы пругкі ў хадзе. Пастаяў, рашуча крутнуў ручку тэлефона. Загадаў, каб далі Алешнікі, пазвалі Гайліса.

— Вітаю, таварыш Гайліс! Башлыкоў гаворыць! Дзятла няма?.. Рэдка бывае ён у вас!.. Не апраўдвай! — Башлыкоў строга хмурыў чорныя бровы, глядзеў кудысьці ў кут вострым позіркам. Ён памаўчаў, як бы даваў Гайлісу час зразумець, што зараз пачне галоўнае: — Што там у вас робіцца? Растлумачыць трэба? Я пра Глінішчы пытаю!.. Творыцца чорт знае што пад бокам, а вы — спіце і сны спакойныя бачыце! Спіце! Не бачыце, што робіць пад носам у вас кулач'ё!.. Не бачыце! Ці занялі апартуністычную пазіцыю, што яшчэ горш!.. Калі не выправіце — будзем гаварыць сур'ёзна! На бюро!.. Перадай гэта Дзятлу!.. Да пабачэння!

Ён важка палажыў трубку, мелькам зірнуў на Апейку.

— Думаеш, дарэмна прыгразіўся? Бачу па вачах. Дарэмна так строга — з Чарнаштанам?..— Ён глядзеў проста ў вочы Апейку.— Абстаноўка патрабуе. Не такая абстаноўка, каб цырымоніцца! На сілу — трэба сілай! Упэўненасць і строгасць! Няхай бачаць і чуюць — кіраўнік ёсць кіраўнік!

Апейка зразумеў: гэта не так тлумачэнне сваіх паводзін, як павучанне яму, далікатнаму, мяккацеламу. Хацеў запярэчыць, але Башлыкоў сказаў: — Думаю, Глінішчамі трэба заняцца Харчаву...

— Харчаў няхай зоймецца... Толькі бяда там, відаць, не ў адной агітацыі кулакоў... Трэба, па-мойму, нешта рабіць у самім калгасе. Мы, па-мойму, мала лічымся з псіхалогіяй людзей. Трэба неяк заахвочваць людзей. Чарнаштан гэта правільна казаў...

— Заахвочваць, заахвочваць... Ох, гэта псіхало-

гія!.. Жыць яна не дае табе! Мяняць трэба яе, гэту тваю псіхалогію!..

Апейка адчуў, што спрачацца — безнадзейна. Перамаўчаў. Башлыкоў зірнуў, дзелавіта, патрабавальна:

— Ну, дакладвай, хваліся — калі ёсць чым!

Апейка сказаў, дзе быў апошнімі днямі, дзе правёў сходы, колькі чалавек уступіла ў калгасы. Башлыкоў дастаў блакнот, перапытваючы, запісаў. Стаў расказваць, дзе сам быў.

— Учора заязджаў на тваю радзіму. Перад сходам зайшоў да старых тваіх. «Дай, думаю, пагляджу, як жывуць бацькі нашага старшыні». Так што — пазнаёміўся... Спадабаліся і маці і бацька. Карась хваліў бацьку: «Майстар першай маркі — і ў полі, і на рацэ. І — часнейшай душы. Першы стары ў калгасе»,— сказаў. Так што — харошае было знаёмства! Харошыя старыкі!

— Не скарджуся! — нібы пажартаваў Апейка. Ён усміхнуўся скупа, хоць добрае слова пра старых і было на радасць яму і хоць, бачыў, Башлыкоў давольны ад душы; чуў Апейка за тым, што сказаў Башлыкоў, недагаворку, прадчуваў, што той скажа яшчэ штосьці — не такое прыемнае.

З чулай насцярогаю чакаў.

Ён не памыліўся: праз які момант усмешка з твару Башлыкова сышла, губы строга сабраліся. Глядзеў проста ў вочы, шчыра, нявесела:

— А брат! Ну і брат! — Спачуваючы, пакруціў галавою.— Гэта — сваяк!

Апейка прамаўчаў. Маўчанне было доўгае, цяжкае. Потым Башлыкоў запытаў:

— Як ты прагледзеў гэта?

— Чаму — прагледзеў?..

Башлыкоў паясніў думку:

— Харчаў казаў: ён памагаў табе пры паляках? Прадукты, патроны табе насіў? Памагаў нам... Бедняком быў...

— Быў...

— Перарадзіўся?.. За гады савецкай улады?..

— За гады савецкай улады...

Апейка не таіў, што гаворка гэта для яго непрыемная. Ён не любіў гаварыць пра брата, не толькі таму,

што гэта была не такая ўжо вясёлая тэма для гаворкі, а найбольш таму, што яму пры гэтым выходзіла як бы апраўдвацца, выгароджваць сябе; рабіць тое, чаго Апейка вельмі не любіў.

На шчасце, даказваць гэта амаль ніколі не даводзілася: усе ў раёне ведалі і яго радню і яго брата.

Башлыкову, хутка пасля таго як той прыехаў сюды, Апейка пры нагодзе казаў ужо ўсё пра брата — не падкрэсліваючы іх няладу і не апраўдваючыся, проста для таго, каб Башлыкову было ўсё вядома.

Ужо тады Апейка зразумеў, што Башлыкоў — з анкеты ці з нечых слоў — ведае ўсё як мае быць; і цяперашні напамінак пра брата, і тое, што ён гаварыў з Харчавым, і думка пра тое, што ён, можа, знарок заехаў туды, даведацца самому, праверыць, адазваліся ў душы прыкрасцю.

«Перад самаю чысткаю якраз...» — звязала ўсё пачутае ў адно развага.

— Было ўсё: і патроны насіў, і ў бедняках быў,— цвёрда, са злосцю сказаў Апейка.

Башлыкоў, здаецца, зразумеў гэту злосць, паспачуваў:

— Н-да... Я не хацеў бы мець такога брата.

— А я яго сам выбраў! — Апейка гаварыў груба: хацеў абарваць гаворку.

— Н-да, братоў не выбіраюць. Гэта правільна. І ты, вядома, калі падумаць, з аднаго боку, не вінаваты, як, можа быць, не вінавата і твая старуха-маці. І ўсё-такі, чорт яго ведае, жыццё ёсць жыццё: ёсць і другі бок у тваёй гісторыі з братам — кампраметыруе гэта цябе... Не ў маіх вачах — я гавару не пра сябе, а — у народа! Не раскажаш пра ўсё кожнаму, народ ёсць народ, і не ўсякі зразумее па-чалавечы. Іншы падумае так: пляма ёсць пляма, сам ты яе набыў ці табе прыклеілі яе другія. Розніца, вядома, вялікая, але ідзі ты растлумач кожнаму... Я разумею тваё становішча...

— Нашто ты мне гэта гаворыш? — сказаў Апейка абурана.

— Проста так,— Башлыкоў не зніякавеў, толькі трохі здзівіўся.— Так, к слову прыйшлося.

— Дак от, калі к слову: я не лічу сябе вінаватым за яго. Нікольні.

— Я табе гаварыў не пра віну тваю. Я гаварыў пра

іншае. Ты не зразумееў нічога. Шкода.— Башлыкоў і тут адчуваў сябе вышэй, мудрэй, і Апейку зноў запякло абурэнне. Але Башлыкоў загаварыў пра іншае: — Адстаём мы з калектывізацыяй!

— Чаму — адстаём? — Апейку ад непрыціхлай злосці хацелася пярэчыць: — На другім месцы ў акрузе.

Башлыкоў заявіў спакойна:

— Другое — не першае!

Ён пашамацеў паперамі, выбраў адну:

— От тут скарга ад веруючых на тое, што зачыняем алешніцкую царкву. У Мінск скардзіліся... Якая твая думка?

— Мая думка такая, што трэба дабівацца, каб царква сама зачынілася.

— Як гэта?

— Трэба веруючых зрабіць няверуючымі. Бязбожнікамі...

## РАЗДЗЕЛ ДРУГІ

### 1

Калі Апейка ішоў у кабінет, ля дзвярэй амаль кожны раз сустракала яго чарада дзядзькоў і цётак, што чакалі яго. Просьбы свае давяралі адным паперам дзядзькі і цёткі рэдка, не заўсёды задавальняла іх і гаворка з сакратаром райвыканкома ці загадчыкам райза, багата хто лічыў за нязменны абавязак уручыць паперу самому старшыні, пагаварыць з *самім*. Бывала, калі Апейка не паяўляўся з раёна доўга, сядзелі па некалькі сутак, начуючы дзе-небудзь у знаёмых; паяўляліся кожную раніцу, быццам на працу,— пакуль не дабіваліся да самога.

Такія сустрэчы з людзьмі былі Апейку няпростай і нялёгкай часткай яго работы. Людзі неслі сюды да яго свае надзеі і сваю роспач: хто што меў. Цяпер да звычных просьб памагчы мукою, насеннем, да скарг на вялікі падатак, на падатковыя несправядлівасці дадаваліся часта скаргі, звязаныя з калгаснай навіною: таму зямлю нарэзалі нядобра — усё лепшае забралі пад калгас; таму прыгразіліся, што калі не ўступіць, каб у Салаўкі рыхтаваўся. Рэдка хто не пытаўся: гэта — справядліва, гэта — па савецкіх законах?

Амаль у кожнай скарзе-просьбе за асабістымі нягодамі і крыўдамі былі агульныя, грамадскія праблемы; амаль кожны раз, адказваючы, памагаючы, раячы, Апейка так ці інакш павінен быў тлумачыць дзяржаўную палітыку ў калгаснай справе, браў на сябе як бы ролю агітатара. Гэта была-такі сапраўдная работа агітатара...

Сёння яго таксама чакалі: між дарослых, сярод якіх ён заўважыў чалавека з жаўтаватымі, доўгімі, за каўнер, пасмамі,— поп, ці што? — цэлая, прыціхлая, чародка вясковых дзяцей. Апейка павітаўся, сказаў, што хутка пачне прымаць, у кабінеце зняў паддзёўку. Ён, як і па дарозе сюды, быў яшчэ неспакойны: не адступала прыкрасць ад Башлыковага папроку за брата, важка ціснула ўсярэдзіне даўняя, зноў пацяжэлая непрыхільнасць да Саўчыка. Зноў згадаў Башлыковае: «Не хацеў бы мець такога брата!» Адказаў думкаю злосна, з'едліва: «А я хацеў! Я сам параіў быць такім!.. Я сам, знарок, начапіў сабе на шыю гэтае бервяно!» Зноў прыкрасць перайшла на аднаго Башлыкова: «Як бы вышэй лічыць сябе за тое толькі, што няма такога кампраметуючага брата, што біяграфія — ідэальная!.. Як ордэнам ганарыцца!..»

Ён хутка пераглядзеў паперы, што прыйшлі гэтымі днямі, выйшаў у прыёмную:

— Ну, пачнём...— Усе ўсталі, некаторыя падаліся бліжэй, чакаючы. Апейка абвёў усіх позіркам, заўважыў — жаўтлявы, з доўгімі пасмамі, стаяў трохі асобна; маладыя карыя вочы глядзелі цікаўна, дапытліва, як бы загадзя дазнаваліся, чаго трэба чакаць. Апейка на міг затрымаў позірк: сялянская світа, зайцовая шапка; дужы, загарэлы: скура твару аж ільсніцца; пэўна, кормяць непагана. Зразу ж адарваў позірк, спыніўся на кучцы дзяцей: нясмелыя, нема прыціхлыя, найбольш сарамяжныя, яны ціснуліся адно да аднаго, амаль усе ў даматканых світках,— не зводзілі з яго чыстых, даверлівых і востра пільных вачэй. Ён кіўнуў ім весела, бадзёрліва: — Вы ўсе разам?

— Разам,— адказаў за ўсіх адзін, з шорсткім шчэццем няроўна — мабыць, матчынымі нажніцамі — абскубаных валасоў; з рашучым, мужчынскім басочкам.

— Разам,— пацвердзіў і лысы дзядзька, што стаяў

ля іх, як пастух,— з шапкаю ў адной руцэ, з пугаю ў другой.

— Што ж такое здарылася, што адразу такой грамадой? — Апейка перачакаў момант маўчання, весела запрасіў: — Ну, заходзьце, высветлім!

Дзеці заварушыліся, сталі перагаворвацца шэптам, штурхаць адно аднаго, але не пайшлі. Дзядзька з пугаю таксама ўзяўся з выглядам старэйшага паддаваць смеласці малым: няёмка, нясмела штурхнуў аднаго, другога шапкаю, вялеў з папрокам усім:

— Заходзьце, сказано!

Першым адважыўся той жа, з шорсткім, паскубаным шчэццем, за ім — беленькая дзяўчынка з ружовымі кругамі на шчаках. Апейка, прапускаючы іх паўз сябе, падбадзёрліва, з любасцю пагладзіў некалькі галовак. Апошні ўвайшоў, як за статкам, дзядзька з пугаю: няёмка трохі і важна, як бы хаваючы важнасцю гэтай няёмкасць свайго становішча сярод малых.

У кабінеце дзеці ў лапцях, у зрэб'і азіраліся яшчэ вастрэй, ціснуліся яшчэ больш — смыкалі насамі, насцярожана чакалі. Апейка не стаў прасіць іх сядаць, не даў і ім і сабе лішняга клопату; не зайшоў за стол, стаў парад імі, як настаўнік у школе.

— Ну, дык што здарылася, а?

Пасля моманту няёмкай цішыні асмелілася бялявая з ружовымі шчакамі; паружавеўшы яшчэ горш, нібы са сцэны, прачытала на памяць — відаць было — падрыхтаванае загадзя: аж перарывалася дыханне — так хвалявалася.

— Тав-варыш с-старшыня... райвык-канкома!! Мы прыйшлі, каб... п-прасіць вас... штоб пакінулі ў школе... настаўніка Івана Мікалаевіча!..

Гэтым вялікім словам яна аддала ўвесь пал сваёй душы, і не толькі душу, а і голас; іншыя ўжо маглі, пакуль яна гарэла перажытым, адказваць Апейку: з якой яны школы, з якога класа, па якіх прадметах у іх Іван Мікалаевіч, як яго прозвішча. Нарэшце Апейка высветліў, што дзеці з Крыцкай школы, што настаўнік, за якога яны прыехалі заступіцца,— Іван Мікалаевіч Гарошка. Апейку былі вядомы не толькі гэтае прозвішча, але і той, каму яно належала: Гарошка настаўнічаў у сваёй роднай вёсцы ўжо з дзесятак гадоў; яшчэ ў тыя гады, калі настаўнічаў і ён, Апейка.

Апейка быў амаль незнаёмы з ім: бачыліся толькі некалькі разоў на настаўніцкіх сходах; але Апейку добра было вядома, што Гарошка — настаўнік такі, якіх мала не тое што ў раёне, а і ў цэлай акрузе; пра гэта казалі ўсе, хто калі-небудзь быў на яго ўроках. От і дзеці, смялеючы, памагаючы адзін аднаму, перабіваючы, з захапленнем казалі цяпер: так добра, так цікава пра дзевяцьсот пяты год, пра рэвалюцыю ў Пецярбурзе, пра Леніна расказваў; пра пяцігодку, пра тое, якія дзе заводы будуюцца; як добра будзе жыць скора. І от жа, бяда якая: цяпер Івана Мікалаевіча знялі з настаўнікаў; сказалі, што яму няможна вучыць дзяцей, бо ён служыў пры цары ў царскай арміі і быў царскім афіцэрам, і што ён будзе вучыць дзяцей супроць савецкай улады. Але ж яны ведаюць, што хоць Іван Мікалаевіч і быў у царскіх афіцэрах, але ж ён зразу, як пачалася савецкая ўлада, перастаў служыць цару. І цара ён зусім — гэта яны самі чулі — не любіў ніколі і не любіць; і афіцэр ён не з памешчыкаў якіх-небудзь, а з простых людзей, з іх жа сяла; і ўсе добра знялі яго бацьку, і ўсе бачаць, што ўсе гады ён, Іван Мікалаевіч, за адну савецкую ўладу стараецца...

Апейку вельмі ўсхвалявала дзіцячая шчырасць. Слухаючы малых, нібы вярнуўся ў сваю нядаўнюю, мілую мінуўшчыну, нібы зноў быў настаўнікам: як настаўнік ён добра адчуваў, як важна дзецям тое, што яны кажуць тут, і тое, з чым яны пойдуць адсюль, куды прынеслі свае давер'е і надзею. Таму жыццёвы вопыт дадаваў да ўсяго сваю долю цвярозай няпэўнасці: ведаў Апейка, як няпроста будзе замацаваць у іх веру гэту і надзею. А да ўсяго, што б там ні было, радаваў сам факт: малыя самі ўсталі за праўду, вясковыя, сарамяжыя, прыйшлі ў райвыканком! Малыя грамадзяне будучыні!

Ён нібы не паверыў:

— Хто вас падгаварыў, штоб прыйсці прасіць за Івана Мікалаевіча?

Дзеці здзівіліся:

— Ніхто... Мы самі...

— Шкода стала. Мы і надумаліся...

— Няправільна яго знялі!..

— Скажыце — няхай ён зноў вучыць!

— Збуту не давалі, пакуль не сказаў, што падвя-

зу.— Дзядзька з пугай пакруціў лысай галавою, са здзіўленнем і пашанай.— Як машкарэча, населі!..

Апейка ведаў ужо, і што Гарошку знялі і як усё было. Хтосьці з пільных Гарошкавых землякоў, можа быць ім вывучаных, месяцы два назад напісаў у сталічную газету, што ў Крытах у школе — пры патуранні сельсавета і раённага кіраўніцтва — замаскіраваўся класава чужды элемент, белагвардзеец, які з залатымі пагонамі і з вінтоўкай у руках ваяваў за цара і ўсякіх урангеляў і губіў няшчадна трудавы народ. У газеце з пісьма зрабілі копію, якая і трапіла на стол сакратару Юравіцкага райкома партыі. Ліст гэты чытаў у кабінеце Башлыкова і Апейка. Пад усім, што паведамляў невядомы аўтар газеце і Башлыкову, стаяла гордае: «Непрымірымы селькор». Башлыкоў аддаў пісьмо Харчаву з рэзалюцыяй, напісанай зверху коратка і ясна: «Праверыць, прыняць меры, далажыць!» Харчаў за які дзень праверыў, і на другі дзень лёс Гарошкі рашыўся: Гарошку знялі з настаўнікаў. Харчаў прапанаваў таксама арыштаваць, і каб не Апейка, Гарошка даўно быў бы за кратамі. Башлыкоў падумаў, павагаўся і схіліўся да Апейкі. У Апейкі былі моцныя довады: Гарошка трапіў у афіцэры не па сваёй ахвоце, а як настаўнік; у грамадзянскую вайну ніякім белым не быў, рабіў дома. Быў потым у Чырвонай Арміі; з першых жа мірных дзён сваіх, пасля арміі, увесь час у сяле... Але вярнуць Гарошку на настаўніцкую працу Башлыкоў не згадзіўся. Цвёрда, рашуча...

І от гэтыя дзіцячыя, шчырыя твары, гэтыя вера і надзея. Што ён, старшыня райвыканкома Апейка, можа сказаць ім, любым і ясным, якія думаюць, што ў свеце ўсё так проста, што праўда і справядлівасць — рэчы абавязковыя і лёгкія. Не ведаючы добра, што сказаць ім, ён знарок стаў распытваць кожнага, як хто вучыцца, ці добра паводзяць сябе ў класе, ці памагаюць бацькам.

— Ну, што ж,— сказаў ён, гатовы развітацца.— Дзякую за тое, што вы сказалі. Я перадам ўсё, каму трэба. Скажу — што вы прасілі!.. От і ўсё — бывайце здаровы!

Некаторыя ўжо сабраліся, абнадзееныя, кіравацць да дзвярэй, калі бялявая, з ружовымі плямамі, насцярожылася:

— Дак яго — аставяць нам? Івана Мікалаевіча?..
— Я ж сказаў, перадам, што вы — прасілі...
— Не, вы скажыце — аставяць?
— Я буду прасіць!
— Не, не, вы — скажыце!

Апейка нічога не сказаў, толькі лагодна, як бацька, які не хоча крыўдзіць малога і не можа даць усяго, што той просіць, усміхнуўся.

— Ну, шчаслівай вам дарогі!..

Яны пачалі выходзіць, не вельмі ахвотна, не вельмі ўсцешаныя; найбольш таму, што дзядзька з пугаю штурхаў іх да дзвярэй. Не парадаваў іх; але што ж ён, Апейка, мог сказаць ім іншае?..

Адразу за імі ў кабінет ступіў бялявы хлопец у зацяганай, але крамнай паддзёўцы, у ружовай і залатанай пад каўняром нязрэбнай сарочцы. Кепка ў яго руцэ была таксама гарадская, з размоклым ад дажджу казырком.

— Можна зайсці? — Хлопец пытаўся ціха, далікатна.

— Заходзьце. Сядайце.

Ён і ішоў ціха, і сеў на ўскрай крэсла; пад уважлівым Апейкавым позіркам няёмка адвёў шэрыя, з нейкай задуменнай прытоенасцю вочы. Потым сустрэўся з Апейкавымі, і позірк быў ужо цвёрды, рашучы і разам з тым даверлівы.

— Мяне завуць — Глушак Сцяпан,— ціха і не адводзячы вачэй ад Апейкавых, сказаў ён.— Я падаваў заяву ў Вадавічы. Хацеў паступіць у Вадавіцкую камуну. Мне спачатку сказалі, што — добра, прымуць. А потым — адмовілі. Сказалі, што не могуць прыняць, таму што мой бацька — кулак...

— Вы з Куранёў? — перабіў яго Апейка.

— З Куранёў,— кіўнуў хлопец. Ён нялёгка, але цвёрда дадаў: — Я — сын Глушака Халімона. Мабуць, знаеце. Мой бацька — кулак. На яго наложана цвёрдае заданне. Але я яго кінуў. Мы з ім цяпер — як чужыя.

— Чаму вы яго кінулі? — зацікавіўся Апейка.

Хлопец памаўчаў, задумаўся.

— Я і сам не знаю, як сказаць. Трудно было жыць з ім. Проста — не можна жыць стало. Я хацеў з ім жыць, думаў спачатку, што — нічого, што — прывыкну. Цярпеў доўго: бацько ж усё-такі. Да і матку было

шкода. Знаеце ж, як матцы, калі сын кідае. Хацеў перацярпець. Але — не выцерпеў! — Ён па-ранейшаму не адводзіў ад Апейкі ціхіх, задуменных вачэй. Памаўчаў зноў, загаварыў, ад душы шкадуючы, з болем.— Ён, мой бацька, жыве для аднаго: штоб пабольш сабе. Хоць як, праўдай ці няпраўдай. Штоб пабольш нажыцца. Прагны, просто страх. Ён з-за етаго ўсіх парабіў усе адно як парабкамі. І сыноў, і матку нашу, і Ганну. Чужых парабкоў не бярэ, баіцца, дак свае — як парабкі... Дыхнуць просто няма як...— І позірк, і тон яго гаворкі былі такія шчырыя, што Апейка чуў — праўду кажа. Не маніць, так нельга маніць.— І раней не было цярпець як, а цяпер — дак чаго цярпець?.. Цяпер — калі ўсё пачынае па-новаму быць... Дак я і кінуў яго. Счапіліся адзін раз як не за̀грудкі. Я і кінуў. Пайшоў жыць на волю. Як усе людзі...

— А не шкода яго, бацьку?

— Не. Можно сказаць — не,— глянуў ён проста. Падумаўшы, дадаў: — Матку шкода. Папамучылася яна...

«Не маніць. Праўду кажа...» — падумаў Апейка і злавіў сябе на тым, што спачувае хлопцу. Успомніў раптам, што ў Глушака ёсць яшчэ сын: пра гэтага сына Апейка ведаў ужо нямала.

— А з братам як? Дружна жылі?

— Дружно.— Ён адвёў вочы, позірк стаў важкі, нядобры. Губы злосна таргануліся.— Дружно... Мне такога брата... век бы не бачыць!.. Штоб яго зямля не насіла!..

З таго як Сцяпан гаварыў, Апейка вывеў, што ён недзе вучыўся; запытаў — дзе, чаму недавучыўся. Пацікавіўся, ці любіць кніжкі, што чытаў, якія з іх спадабаліся найбольш; ці чытае газеты, ці ведае, што робіцца ў свеце. Хлопец адказваў лёгка, ахвотна: пра гэта гаварыць яму было куды больш даспадобы, як пра бацьку, пра бяду, якая захмарыла ўсё яму. Чым больш Апейка пытаў яго, чым больш слухаў, тым больш бачыў: хлопец — разумны, дапытлівы. «Талковы хлопец. Чулая душа... Чулая да ўсяго. І да новых павеваў... Шкода толькі — што сваяцтва такое...» Думка нечакана паставіла побач хлопца і самога, зблізіла: «Таксама — з плямаю, якой не заслужыў... Таварыш па няшчасці!..»

У думцы было і багата іроніі, і трохі суму, і была невясёлая праўда... Апейка адагнаў непатрэбную думку. Уважна зірнуў на Сцяпана.

— Вучыцца, пэўна, хочаш?

— А не хацеў бы? — Шчырыя вочы не таіліся. Загарэліся на міг і згаслі.— Хацеў бы!.. Дак куды ж цяпер паступіш! Зразу скажуць: кулацкі сынок!.. От папрацую, дакажу. Тады можа...

— Думаеш, дакажаш?

— Хачу даказаць.

Апейка раптам адвёў вочы, задумаўся. Не першы раз узяў асцярожны, цвярозы одум: нашто яму, Апейку, усё гэта; нашто — рызыка? Каму-каму, толькі не яму брацца за рызыкоўнае. Не яму, у якога ў самога не ўсё чыста ў біяграфіі. У якога — не абы-якая пляма... І не цяпер, калі так блізка чыстка. Дзе ўсё будуць перабіраць. Дзе ўсё могуць павярнуць і так і інакш. Ён і так за колькіх ужо заступіўся, за якіх другія не адважваліся. Прыгадаюць калі-небудзь, і, можа быць, вельмі скора. Тое, што ён цвёрды з сапраўднымі ворагамі заўсёды, не заўважаць; а гэта — прыгадаюць, перакруцяць. Вельмі можа быць такое: як ты дакажаш праўду сваю? Харчаву, Башлыкову, іншым харчавым... Падумаў, шкадуючы: трэба ж, столькі блытаных лёсаў ідзе, і трэба ўсё разблытваць самому, кіруючыся толькі сваім сумленнем.

«Сумленне... Сумленне...» — было ў галаве, калі ён, узняўшы вочы, зноў паглядзеў на Сцяпана. Той не зводзіў шчырага, трывожнага позірку; як бы бачыў, што прысуд яму вырашаецца цяпер, у гэты момант. Гэты позірк — трывога і надзея, жывая надзея, жывы лёс чакалі ад Апейкі праўды і смеласці. «Чалавек з цябе, канешне, можа выйсці. Непаганы чалавак, карысны...» — падумаў ён, гледзячы ў Сцяпанавы вочы. У думках прайшло раптам яснае, вясёлае: «От яна — новага сіла, ад самога Глушаковага дрэва адрывае галіны. Роднага сына адарвала!» За гэтым зразу ж, вясёлае, дужае, выспела рашэнне: «Што ж, так і быць: бяры ты, плынь, нясі яго з сабою. Мый, чысці для новага, для нашага жыцця!..» Апейка ўстаў з-за стала. Цвёрда паклаў на стол далонь.

— Добра. Пагавару, уладжу ўсё.

— Уладзіце?! — Сцяпан ускочыў. Не верыў яшчэ.

— Толькі — каб не падмануў потым. Каб не прыйшлося чырванець.

Ён як пакляўся:

— Не будзеце!

— Ну, тады — бывай здароў! — Апейка падаў яму руку.

— Бывайце здаровы!

Сцяпан вылецеў з кабінета.

Апейка глядзеў з-за стала: уваходзіў той, з доўгімі, жаўтлявымі кудламі. Ціха, акуратна прычыніў дзверы за сабой, зняў зайцовую шапку, няўпэўнена пакланіўся.

— Добры дзень жалаю вам!

Апейка адказаў, не тоячы цікаўнасці. Цяпер ён бачыў, што не памыліўся: поп. А каб не доўгія космы, дык і не думаў бы, спаткаўшы дзе-небудзь: світа рудая, зайцовая шапка, дужыя чырвоныя рукі — селянін, не хто іншы. Рукі каравыя, жылаватыя, відаць, што ў зямлі корпаліся. І пастава важкая, сутулая. Толькі от рукі з зайцовай шапкай на жываце — склаў, як на казанні...

Бачыў, маладыя карыя вочы таксама нізалі, выведвалі яго.

— З чым прыйшлі? — запытаў стрымана, афіцыйна. Не толькі таму, што не любіў гэтых божых служак, а і таму, што хацеў, каб гаворка пайшла зразу ў строгім, афіцыйным кірунку.

— Прыйшоў я з рашэннем вялікім,— пакорліва загаварыў поп.— Вялікім — для мяне, бо яно павінна зразу перамяніць увесь строй майго ранейшага жыцця...— Не зводзячы вачэй з Апейкі, як бы нецярпліва чакаючы прысуду, ён сказаў: — Я рашыў змяніць чорную расу свяшчэнніка на сялянскую світку.

Апейка адказаў з іроніяй:

— Вы ўжо змянілі яе.

— Змяніў,— спакойна згадзіўся ён.— А сэрца яшчэ раней. Ужо даўно пад уплывам савецкай газеты «Правда» і журнала «Бязбожнік» я прыйшоў да вываду, што бога няма. І што рэлігія, як правільна вучаць бальшавікі, ёсць опіум народа. І той, хто служыць рэлігіі, ёсць абманшчык, які ідзе супроць народа і савецкай улады... Газета «Правда» і журнал «Бязбожнік», якія я чытаю ўжо другі год, адкрылі мне вочы,

і я не хачу болей служыць рэлігіі і абману. Я хачу цяпер служыць савецкай уладзе, штоб выкарчоўваць святы дурман з людскіх галоў. Я прыйшоў да вас з адзінай мэтай, каб атрымаць яснае настаўленне, што мне трэба рабіць для гэтага...

Пільныя карыя вочы ўвесь час не выпускалі Апейку. Апейка глядзеў на здаровы, загарэлы твар, на гладкія чырвоныя шчокі і тоўстыя губы, якія, мабыць, любілі смачненькае, і думаў: «Хітры, разумны. Ліс... Пачуў, што паленым пахне... Што — лепш пераадзецца...» Не тоячы, што не вельмі верыць у шчырасць папоўскага ўчынку, сказаў усё ж:

— Гэта — пахвальна, што вы рашылі...— Памаўчаў, проста зірнуў у карыя вочы, чужа, востра: няхай бачыць, што ён, Апейка, разумее ўсё, як яно ёсць: — Значыцца, вы пытаецеся, што рабіць... каб памагчы нам?

— Іменна па гэта я прыйшоў да вас.

— Вельмі добра. Калі так, растлумачу.— У іранічным ладзе Апейкавай гаворкі паявілася дзелавітасць.— Вы— свяшчэнна-служыцель. Служка рэлігіі, якая, як вы сам сказалі, дурманіць людзей. Так, рэлігія — мы не тоім гэтага — адна з самых чорных сіл, якая перашкаджае нам, бальшавікам. Адна з самых чорных і ўчэплівых. Нашы агітатары самі ў рэлігіі — слабаватыя, агітацыю вядуць, не ведаючы добра справы, наогул. Вы ж, мабыць, прадмет гэты ведаеце дасканала?

— Я вучыўся мала.

— Ну, усё-такі больш за нашых. Ведаеце канкрэтна, з фактамі. У вас ёсць веды.— Дужая, з жаўтлявымі пасмамі, галава сціпла кіўнула: веды такія-сякія, канешне, ёсць. Апейка параіў: — От і павярніце веды свае супроць рэлігіі!

— Я паспрабую.

— У вас гэта павінна добра выйсці. У вас не толькі веды, а і — аўтарытэт! Сам слуга божы — супроць! Гэта само па сабе значыць штосьці!..

Поп кіўнуў галавою: кіўнуў важка, як бы паказваючы, што справа гэта ўся няпростая яму. Падзякаваў Апейку за параду, паказаў нават, што збіраецца ісці, але схамянуўся, зірнуў заклапочана:

— Даруйце, але цяпер, калі я пераступаю на но-

вую сцежку, на плечы мае кладуцца і зямныя турботы. Мне трэба думаць пра тое, каб зарабіць свой сумленны кавалак хлеба. У сельсавеце ёсць вакансія начальніка пошты...

У Апейку зноў уліп дапытлівы позірк. Апейка не чакаў гэтага, задумаўся, параіў потым:

— Вакансіі будуць. Папрацуйце, пакажыце сябе. Там — паглядзім.

— Вы не сумнявайцеся ва мне. Я прынёс вам душу, якая прагне ачышчэння...

— Я не сумняваюся. Мы будзем меркаваць пра вас па тым, што і як вы будзеце рабіць...

— Я буду рабіць з чыстай душой. Толькі мне б хацелася, каб вакансія...

— Вакансіі будуць.

Поп зірнуў на Апейку і надзеў зайцовую шапку.

2

За акном ужо вечарэла, і Апейка апрануўся, каб ісці дадому абедаць, калі ў кабінет уварваліся двое: старая і дзяўчына.

— Ой, божачко ж, божа! — залямантавала старая, як толькі ўбачыла яго. Яна была ў адчаі.

— А што, што здарылася? — здзівіўся Апейка. Старая — дробная, сухенькая — на яго пытанне толькі залямантавала галасней; ён павёў позіркам на дзяўчыну. Дзяўчына, пачырванелая, кусала губы і ледзь стрымлівалася, каб не расплакацца, як маці.

— Мар'я Мацвееўна! — узяў Апейка старую за локаць.— Я плачу не разумею і слёз не люблю! Скажыце мне толкам, чалавечымі словамі!..— Ён лагодна пасадзіў старую на крэсла, стаў, чакаючы, што яна вытра слёзы, загаворыць; але старая загаласіла яшчэ горш. Апейка перахапіў слёзны позірк дзяўчыны, знарок незадаволена, з папрокам паківаў галавою: ай, ай, хіба так можна?! Дзяўчына хліпнула, няёмка выцерла слёзы, схілілася над маткаю:

— Мамо, мамо... Не трэба... Не трэба, мамо!..

Маці трохі прыціхла, але не пераставала плакаць.

— Божачко ж, бож-жа...— гаварыла яна праз слёзы, хітаючы горка галавою.— Што ж ето будзе... Божжачко ж, бож-жа...

Дзяўчына раптам схамянулася, нібы штосьці згадаўшы, выпрасталася, хутка сунула руку пад картовы каптан. Рашуча выхапіла з-за пазухі нейкую пакамечаную і згорнутую паперу, падала Апейку. У той жа момант выхапіла паперу з Апейкавых рук, разгарнула, пашукала неспакойнымі, нецярплівымі вачыма; падала зноў. Паказала, што трэба глядзець. Гэта была газета, мінская газета. Апейку зразу кінулася ў вочы вострае, калючае, чорнае: «Нацдэмаўскі падбрэхіч».

Першыя ж словы захапілі ўвагу так, што на час забыў і пра дзяўчыну, і пра маці, што яшчэ ківалася, горка божкала, страшачыся невядомасці. «У гэты сусветна адказны час... калі класавая барацьба бязмежна абвастраецца... класавы вораг выкарыстоўвае любыя метады, каб расстроіць шчыльныя шэрагі бальшавіцкай моладзі... каб адхіліць іх, а ў канчатковым выніку — адарваць іх ад генеральнай лініі бальшавіцкай партыі... Асаблівую ролю адыгрываюць у гэтым ланцуговыя сабакі, наёмныя служкі сусветнай буржуазіі і сусветнага нацыянал-фашызму, нацдэмакраты розных масцей і гатункаў. Гэтыя вылюдкі, злейшыя ворагі працоўнага чалавецтва, спадзяваліся на нашу палітычную слепату, спадзяваліся, што ім удасца непрыкметна пралезці ў нашы рады, тайна весці сваю брудную работу буржуазных паслугачоў. Але іх разлікі правaліліся: дзякуючы вострай бальшавіцкай пільнасці, вужачыя гнёзды гэтых замежных падкідкаў-нацдэмаў выкрыты, і па іх раз'юшаных руках ударана са ўсёй бальшавіцкай прынцыповасцю і смеласцю. Уся студэнцкая грамадскасць з энтузіязмам ухваліла гэтыя неабходныя меры. Аднак мы не можам закрываць вочы на такія агідныя факты, што сярод некаторай, няхай нязначнай, часткі моладзі ў мінскіх інстытутах знайшліся асепленыя, страціўшыя класавае чуццё інтэлігенцікі, якія не толькі не далучыліся да суцэльнай масы студэнцтва, а фактычна сталі на бок выкрытых і асуджаных усёй масаю нацдэмаўскіх багоў. Адзін з такіх нацдэмаўскіх падбрэхічаў — так званы «паэт» Алесь Маёвы...— Апейка, хоць ужо здагадваўся, пра каго гаворка, запыніўся: — Алесь Маёвы... так званы «паэт» Алесь Маёвы... у сваім лакейскім асляпленні дакаціўся да таго, што нават выступіў на сходзе літфака... дзе спрабаваў узяць пад абарону...

выкрытых багоў з бруднага нацдэмаўскага балота... Вось да чаго можа давесці страта класавага чуцця... і пагарда разбэшчанай «паэтычнай асобы» да імкнення і волі калектыву. Камсамольская ячэйка правільна зрабіла, што прынцыпова разабрала гэтую анархічную вылазку... і ўдарыла па руках наваяўленаму... нацдэмаўскаму падбрэхічу і адвакату... Камсамольская ячэйка універсітэта з уздымам... выключыла... «паэта» Алеся Маёвага... з шэрагаў камсамола... як адшчапенца і — перараджэнца... Камсамольцы універсітэта аднадушна рашылі таксама хадайнічаць... і аб выключэнні Маёвага з універсітэта... У універсітэце не павінна быць месца... разлажыўшымся нацдэмаўскім падпявалам... і перараджэнцам!..»

Пад артыкулам стаяў подпіс — «Студэнт Г-скі». Апейка хвіліну глядзеў на гэты подпіс, як бы стараючыся прачытаць яшчэ нешта. Ён не разумеў нічога. Тое, што ён прачытаў, было зусім не падобна на хлопца, якога ён ведаў; яно было такое непадобнае, аж не верылася, што гэта пра таго ж самага хлопца. Першае ж адчуванне было, што ўсё гэта паклёп, злосны і беспадстаўны; але тое, што гэта было надрукавана, што ўчынак «паэта Маёвага» быў абмеркаваны і што тут толькі расказвалася пра тое, што было, заблытвала думкі. Ён ухапіў трывожным позіркам словы «знайшліся... аслепленыя... страціўшыя класавае чуццё інтэлігенцікі...», зноў ужо не так хутка, нецярпліва, а з цвярозай, пільнай развагай стаў перабіраць радок за радком...

«Як адшчапенца і — перараджэнца...» — засела ў Апейкавай галаве, калі ён зноў дачытаў артыкул, утаропіў позірк у загадкавае «Студэнт Г-скі». Усё ж — Апейка гэта цяпер адчуваў асабліва добра — артыкул быў туманны: пры тых вельмі моцных, ясных палітычных абвінавачаннях амаль нічога пра факты. Факты ўсе гэтыя — вельмі агульныя: «выступіў... заступіўся... дакаціўся...» Але гэтыя няяснасць, туманнасць доказаў якраз і трывожылі Апейку больш за ўсё: за імі магло быць усё, самае страшнае. Хоць што магло быць горш: страшнае, відаць, ужо здарылася; асабліва страшнае таму, што неспадзяванае. І неспадзяванае, і незразумелае.

— От, паехаў вучыцца,— сказала раптам са шка-

даваннем матка.— У людзі захацеў выйсці!..— Выказала, не першы, відаць, раз, набалелае ўжо: — Вывучыўся!..

Апейка пачуў гэта і як папрок сабе: ён быў тым, хто ўгаворваў яе, каб не трымала пры сабе, пусціла ў свет сына. Не вытрывала, з бязлітаснай строгасцю асудзіла сябе, яго, Апейку:

— Як чула сэрца!.. Сядзеў бы дома ціха!.. Бедны, ды — рады!..

Апейка не запярэчыў ёй. Ведаў, што спрачацца — пустое: не дакажа цяпер нічога. А больш не мог спрачацца таму, што бачыў яе вочы; гэты позірк запомніўся яму навек: прытомленыя, выцвілыя ад гадоў, ад польнага ветру ды сонца, амаль ужо бясколерныя вочы яе былі на дзіва празрыстыя, як бы свяціліся знутры. Можа таму, што ў іх яшчэ былі слёзы, што яны так свяціліся, Апейка не тое што адчуў, ■ ўбачыў увачавідкі такую нязмерную пакуту, такое гора і такую трывогу, што здаўся сам вінаватым. Нібы сам быў злачынцам перад ёю. «Няхай бы сядзеў дома ціха!..» Мімаволі адвёў позірк: заўважыў, як пільна, востра глядзела маладымі, яснымі вачыма яе дачка.

Што ён мог зрабіць для іх? Усё, што ён мог пакуль, ён мог адно: супакоіць іх, хоць трохі абнадзеіць. Ён мог гэта і ведаў, што гэта трэба зрабіць. Перш за ўсё.

— Ерунда нейкая,— сказаў ён як мага спакойна. Абыякава згарнуў, абыякава адкінуў газету.— Ерунда. Напісаў нехта — мабыць, па злосці...

— Па злосці! Канешне, па злосці! — ухапілася, засвяцілася матка. Парэпанымі, крукаватымі пальцамі стала борзда выціраць павесялелыя вочы.

— Дак жа пішуць — абмяркоўвалі на сходзе!..— не паддалася сястра. Глядзела ўсё так жа востра, недаверліва.

— Ну, і што — што абмяркоўвалі? Усё магло залежыць ад таго, як далажылі. Як паказалі тое, што было. Не па праўдзе паказалі, не разабраліся...

— Выключылі ж, пішуць! З камсамольцаў! З ніверсіцета хочуць!

«Эх, ты!» — падумаў недавольна Апейка. Але загаварыў спакойна, стрымана: увесь час, не гледзячы, бачыў уважлівы матчын позірк:

— Маглі і выключыць! Не разабраўшыся, пад га-

рачую руку! Паддаўшыся таму, хто нагаварыў са злосці!.. Дзіва што!.. Супакояцца, разбяруцца, пераменяць усё!

— Пераменяць?

— Абавязкова.

— Па злосці, па злосці, Ніна! — падтрымала Апейку матка.— Ето праўда — па злосці! Па праўдзе такога і падумаць не падумаў ніхто! Па злосці! — Падумала заклапочана: — Толькі ж хто ето на яго мог так уз'есціся? І за што? Ето ж трэба — з'есці гатоў! Навярнуў такого, што страх слухаць! На хлопца, які век птушаняці не зачапіў! Не тое што чалавека!..— Яна глядзела на Апейку, шукала ў яго згоды; і ён згаджаўся: падтрымліваў яе.— Кажуць: заступіўся за кагось! За паганаго бога якогось!.. Цяпер усе багі паганыя сталі!.. Слова не скажы добраго!.. А ён і заступіўся!.. Слово можа толькі сказаў, дак еты нелюдзь і ўз'еўся! Навярнуў такое на чалавека!.. Па злосці! Канешне, па злосці ўсё!.. Дак, кажаш, вернуць усё яму?

— Павінны вярнуць. А як жа іначай.

— Кеб жа тое було. Дай божачко!

Ніна маўчала: было відаць, не супакойвалася. Ужо не так для маці, як для яе сказаў:

— Скора паеду ў Мінск. На сесію ЦВК. Зайду, сам разбяруся ва ўсім.— Паказваючы, што з гэтым кончана, што гаварыць больш няма чаго, пацікавіўся: — А як там, дома? З хлебам, з картопляю?

— Ды картоплі хопіць. І з хлебам пераб'ёмся неяк.— Матка зноў згадала: — Як чуло сэрца, калі ехаў! Як знало! Не так сабе балело!.. Сядзеў бы няхай дома ціхо!..

— Усё будзе добра, Мар'я Мацвееўна!.. Дык, кажаце, хлеба — хопіць?

## 3

Апейка да канца трымаўся спакойна, разважна. Не паказаў трывогі ці няпэўнасці і тады, калі правадзіў на ганак, развітваўся. Толькі калі вярнуўся ў кабінет, стаў сярод пакоя, ужо не тоячыся, у важкім роздуме: што там здзеелася?

Ён забыў, што збіраўся быў ісці; стомлена сеў на край стала і сядзеў у змроку, не варушачыся, дума-

ючы гэтае адно: што там здзеелася? Усё, што ён прачытаў, было такое неспадзяванае, так не пасавала з тым, што ён ведаў пра хлопца дасюль, што і цяпер яму не верылася, думалася пра нейкую невядомую недарэчнасць ці несправядлівасць. Разам з тым галава ўжо неспакойна дашуквалася прычыны таму, што магло прывесці да таго сходу, да ўсяго, што было там на сходзе, да гэтага туманнага і страшнага артыкульчыка ў газеце. Што ў тым артыкуле праўда і што — няпраўда? Колькі яе, праўды, і якая яна?

Думкі біліся ў пошуках. Загадкі ішлі адна за адной, самыя розныя. Завабілі, ашукалі? Ачмурылі прыгожымі, ілжывымі словамі? Пакарысталіся маладой даверлівасцю? Ці — неразумная ганарлівая задзірлівасць, жаданне паказаць сваё «я»? Няўжо — і праўда — перарадзіўся, перакінуўся к чужым радам? Разлажыўся, разбэшчаны прагай славы, аблытаны «настаўнікамі»? Не, не, быць не можа! Што ж тады, паклёп, злы нагавор? Помста нядаўняга таварыша, з якім счапіўся чаго-небудзь? А можа — дробязь якая, раздутая ў слана? Можа якая-небудзь юначая дапытлівасць там, дзе некаторыя лічаць пытанні лішнімі? Ці — шкадаванне чулай, не вельмі мудрай душы? Голас чулага — і сляпога — сумлення, якое багата чаго яшчэ не разумее? І за якое — даўбенькай па галаве!.. Нічога не было вядома, і адказу не было. Былі толькі пытанні. Стараючыся дайсці да ісціны, ён стаў перабіраць у памяці тое, што ведаў дасюль пра яго, яшчэ ці даўно, здавалася такога яснага, зразумелага хлопца. Ён успамінаў не як чужы, не як суддзя, а, можа быць, як бацька, які ўбачыў раптам сына ў неспадзяванай, незразумелай бядзе і якому трывожна ад яшчэ нязвыклай невядомасці. Ад гэтага тое, што ён згадваў іншы раз і раней, сёння ішло ў асаблівым, неспакойным і вострым, святле.

У памяці ажыло далёкае: якім ведаў яго ўпачатку. Дзікаваты і хваравіты хлапчук нічым асабліва не кідаўся ў вочы. Быў хіба затоены як мала хто, і калі не ведаў чаго-небудзь, вельмі ж ніякавеў, пунсавеў увесь. Добра помніцца: вельмі здзівіўся, калі раптам трапіў на вочы яго верш, пад абгорткаю спісанага сшытка. Верш быў, і цяпер помніцца, пра поле, пра завею, пра адзінокую, крывую хатку ў полі. Дзіўна не забываліся

радкі [redacted] яго: «У полі халодным, пад ветрамі дзікімі хатка малая стаіць. У далеч бяскрайнюю вокнамі ціхімі век баязліва глядзіць...» У хаце на печы туліліся, мерзлі дзеці; бацька паехаў у лес, маці пайшла кудысьці — цяпер не помнілася куды. Нядобра дзецям адным, халодным і галодным — шкадаваў іх аўтар; але і крывую хатку, і верш грэла надзея, што бяда не вечная: «Бацька як вернецца, печка затопіцца, матка іх будзе карміць!» Не вельмі зграбны і не вельмі арыгінальны, верш гэты захапіў тады незвычайнай шчырасцю, недзіцячай клопатнасцю, песеннай маляўнічасцю. Напісаны, пэўна, пад уплывам Купалы, ён гаварыў, мабыць, і пра перажытае малым паэтам, дзіўна кранаў нешта чулае ў сэрцы — хваляваў, трывожыў!

Гэта была радасная неспадзеўка, адкрыцце: талент, паэт, у іх школе, у іх ад веку беспаэтнай лясной глушы! Нібы нанова ўбачыў малога. Калі заняткі скончыліся, папрасіў астацца. Сеў перад ім на парце, уважліва, яшчэ не зусім верачы, угледзеўся, запытаў пра верш: «Сам напісаў?» Алесь сцепануўся, нібы яго хацелі ўдарыць. Зірнуў са страхам. Гатоў быў кожны момант кінуцца наўцёкі. Потым ужо гарэў, нібы яго злавілі на нечым саромным. Не падымаў галавы, стрыжанай, з кароценькімі мяккімі валаскамі, з чарнільнай плямай ля вуха. Калі пахваліў яго: «А ведаеш — верш добры! Праўда — добры!» — ён толькі ніжэй звесіў галаву. «Гэта — не адзін? Не адзін, праўда? Багата ў цябе іх?..» — не хацеў адступацца ад яго, але тады так і не дабіўся нічога: хлопец таропіў вочы кудысьці пад парту і маўчаў. Ужо калі дазволіў яму ісці,— ля парога затрымаўся, зірнуў, выціснуў жаласна: «Не кажыце нікому!..»

Вучыўся не лепш за іншых. Матэматыка даходзіла нават горш, як другім. Вылучаўся між іншых можа хіба толькі асаблівай, нейкай затоенай, маўклівасцю. Маўклівы быў амаль заўсёды, паглыблены ў сябе. І самалюбны быў. Ды яшчэ — упартасць незвычайная ў позірку. Праўда, усё гэта набыло нейкае значэнне пасля таго, як адкрыўся з вершам куточак затоенай душы. Калі б не гэтае, можна было б лічыць, ва ўсім такі ж, як усе іншыя. Не горшы і не лепшы; свой сярод сваіх. Дзіця балотнай беднасці і дзікасці. Век, у будні і ў свята,— у зрэб'і, у лапцях. Адна пафарбава-

ная паркалёвая сарочка з белымі гузікамі. Ботаў можа і не абуваў ніколі... Потым не раз ездзіў у яго Буду — купку хат сярод панурага лесу, заходзіў у яго дамоўку. Хата была трухлявая, цесная, нізкая: галава даставала ледзь не да столі, да пабеленых бэлек; была цёмная: у трох гнілых мізэрных акенцах не адна шыбка была заткнута анучамі. Сеўшы першы раз на асінавы ўслон ля акна, агледзеўся з не абы-якім хваляваннем: згадаў нанова знаёмы верш — тут проста ўвачавідкі было відна, што нарадзіла тыя шчырыя, маркотныя радкі. Іх жыло тут трое: акрамя хлопца, маці-ўдава ды меншая сястра Ніна. Бацька ўжо багата гадоў ляжаў недзе ў салдацкай магіле, і маці — нібы жартам, нібы і сур'ёзна — казала пра малога: «мужчынка мой», «хадзяін наш»! «Хадзяін» тады сядзеў каля палацяў, набычыўшыся, таропіў вочы ў земляны дол і не пярэчыў!..

Ад хаты гэтай да школы было нямала-небагата, кіламетраў сем, амаль увесь час між лесу ды балота. Кожны дзень, у цяплынь і ў сцюжу, у слату і ў завеі, хлопец са зрэбнай матчынай торбачкай цераз плячо цярпліва мераў гэтыя сем кіламетраў. Мераў з купкай сяброў ці, здаралася, найбольш у непагодныя дні,— адзін. Было ўсялякае: адзін раз мала не прапаў між белага балота — мяло вельмі; што ні крок — то па пояс, па грудзі ў снег, знясіліўся ўшчэнт. Другі раз — быў месячны вечар, мароз прадзіраў рэбры пад світкамі, піліпаўскі мароз — утраіх з такімі ж, як сам, хлопцамі ледзь не трапіў у зубы раз'юшаных ад голаду ваўкоў. Махалі ламачынамі, торбачкамі, спрабавалі крычаць, гразіцца, чулі, як сцінае сярэдзіну ўжо не толькі холад, а і страх — гайня не адставала, усё насядала. Хто ведае, чым бы кончылася, але ім пашчасціла: пад'ехалі акурат падводы з дзядзькамі, дзядзькі і адагналі клыкастых. Ён, настаўнік, калі даведаўся пра здарэнне, параіў дзецям уладзіцца, хоць на зіму, ля школы, хлопцу ж сам найшоў хату, даў гаспадыні грошай. Хлопец пераначаваў дзве ці тры ночы — і ўцёк. Пытаўся тады яго: можа пакрыўдзілі чым-небудзь, супакоіць хацеў: калі і пакрыўдзілі, бяда не вялікая, можна іншую хату наняць,— але хлопец, гледзячы ў дол, упарта пакруціў галавою — не трэба. Так і не дазнаўся чаму. З таго дня хлопец зноў ме-

раў дарогу, кожны дзень, пакуль не скончыў школу...

Гарачым і бліскучым летнім днём з маткаю завёз яго на станцыю, купіў білет да Гомеля, даў грошай на дарогу. Выправіў у рабфак. Як вялікай удачы ўзрадаваўся, калі той прыслаў ліст, што здаў экзамен і што яго прынялі. Але найбольш парадаваў хлопец усё ж тады, калі — на другую ўжо восень — прыслаў газету з першым надрукаваным сваім вершам.

Тую газету бярог і цяпер, хоць яна была цяпер не адна; дома быў цэлы пачак розных па назвах і па даўнасці газет, якія збіраў, зберагаў як дарагое і важнае. Цяпер, калі хлопец вучыўся ў Мінску ва універсітэце, вершы нярэдка друкаваліся амаль ва ўсіх сталічных газетах! Неяк, у адным з нядаўніх лістоў, Алесь між іншых навін сціпла пахваліўся, што хутка, можа быць, выйдзе нават цэлая кніжка!.. З той пары, як вершы сталі паяўляцца часта, ён падпісваў іх ужо не сваім прозвішчам, а прыгожым, паэтычным псеўданімам — Маёвы; Алесь Маёвы. Апейка ніколі не зважаў асабліва на прозвішчы, але хлопца не судзіў: гэта быў, калі падумаць, не такі ўжо і нікчэмны ўчынак: як-ніяк хлопец — не проста хлопец, а — паэт; не выходзіць жа паэту ў свет са сваім недарэчным — Заяц Хама. Вершы паэта Зайца — само па сабе гучыць так, што смяяцца можна; у паэта, ды яшчэ паэта ў такі час, прозвішча павінна быць годнае!

Ён недарма выбраў сабе такое прозвішча — Маёвы! Ён і пісаў, можна сказаць, пра май, пра веснавую радасць, пра радасць росквіту. Яго вершы былі пра разлеглыя, без меж, палі, якія будзіць сваім гоманам працавіты трактар; пра рабфакаўца — сына сяла, што да світання хіліць чубатую галаву над кнігаю, марыць пабачыць родную вёску ў сонечным шчасці; пра жанчыну-гаротніцу, што вясковаю вуліцай ідзе не ў царкву, а ў школу, змагаць векавую цемру; пра радасць, што *карагодзіць* сёння ў вёсцы і ў горадзе, пра жыццё, што *бурапеніць* новымі песнямі і справамі. Вершы былі прыгожыя, падобныя на песні, часам здавалася — малаканкрэтныя, як бы затуленыя ружовым ад сонца туманам, але заўсёды — узнёслыя, шчырыя — ад усяго юначага сэрца. Чытаў іх не так, як іншыя, чужыя, а так — нібы ён таксама меў да вершаў не абы-якое дачыненне.

## 4

Згадалася, якім паявіўся Алесь у яго кабінеце мінулай зімой — па дарозе з Калінкавіч. Нібы нанава адчуў дужы мужчынскі поціск абветранай, нахаладалай рукі Алеся, убачыў заружавелы, харошы маладосцю твар, радасныя і чыстыя, без хмурыначкі вочы... Былі раскіданыя, нецярплівыя роспыты, цікаўныя позіркі на яго яшчэ вясковы, падлатаны на рукаве кажушок, на новую, фасоністую, ■ гузікам на макаўцы, мінскую шапку. На ботах раставаў умёрзлы снег, крапелькамі мутнеў на шыйках, на насках: боты былі зграбныя і моцныя — добрая і радасная абноўка. Вёз, мабыць, нейкі падарунак дамашнім: паставіў ля парога чырвоны, з гнутай фанеры, круглаваты куфэрачак...

Потым ківаліся побач у выканкомаўскім вазку, пад ціхі, спорны спеў палазоў, пад рып гужоў — знарок выправіўся ў дарогу і ў яго сельсавет, каб падвезці хлопца і пабыць разам яшчэ. Алесь маўчаў, але па вачах яго, што паблісквалі пад фасоністай шапкай, што ахвотна, прагна лавілі ўсё, што выбягала насустрач блізка і далёка, бачыў, што госць яго рады без меры даўно не бачаным палям, снежнай звонкай чысціні, лёгкаму, крылатаму лёту вазка. У куточках Алесевых вуснаў, з-за паднятага, прыцярушанага снежным пылком каўняра, здавалася, кожны момант гатова была зайграць усмешка. Хоць было весела і глядзець на чужую бесклапотную радасць, глядзець і маўчаць, не ўтрываў усё ж, папрасіў яго прачытаць што-небудзь сваё. Алесь, што ўвесь, мабыць, поўніўся радасцю сустрэчы, неспатольнай цікаўнасцю, адчуваннем лёту, не адразу нібы зразумеў, пра што яго просяць. З няёмкасцю, ціха сказаў, што — не хочацца. Падумаў трохі, відаць, разважыў, што адмаўляць — настаўніку свайму — нядобра, хрыплаватым голасам, нясмела, па-вучнёўску, пачаў:

Выйду ў поле я — ранне-маёвае...
Ой ты шыр, ты калгасная шыр!..
Вее хвалямі мора жытнёвае...
Хмеліць радасць-песня ў душы!..

Алесь адразу ж сціх і пакруціў галавою — вінавата, як бы просячы прабачэння. Было відаць, што хлопец

адчуў сябе ніякавата, глядзеў на дарогу ўжо з нейкай клапотнай нездаволенасцю. Тады так і не зразумеў, чаго той зніякавеў: ці таму, што бачыў яшчэ ў ім настаўніка, трывожыўся яго прысуду; ці таму, што — гэта потым прыйшло — чуў у душы нязбытае, даўняе: вершы — далікацтва. Пазней яшчэ заўважаў, што ў ім, у Алесі, які не адзін верш надрукаваў, жыве быццам сарамлівасць за гэты свой занятак; векавая сялянская сарамлівасць перад людзьмі, што робяць іншую, сапраўдную справу: сеюць, косяць, дбаюць пра гаспадарку...

— Лепей — другіх паслухайце...— сказаў Алесь вінаватым голасам. Ён пакашляў, ускінуў галаву, амаль заплюшчыў вочы; адчуў раптам, што замінае каўнер кажуха, нецярпліва аблажыў яго. Як бы задумаўся, а ў голасе паявіліся смеласць і гонар.

Падаюць сняжынкі... Дыяменты-росы...
Падаюць бялюткі за маім акном...
Расчасалі вішні шоўкавыя косы
І ўранілі долу... снегавы вянок...
Дзесьці... у прасторах... праззвінелі бомы...
Дацвілі пялёсткі нейчае тугі...
І здаецца... зноўку еду я... дадому...
Пераведаць родных... блізкіх... дарагіх...

Вершы дзіўна хвалявалі: нейкае незразумелае хараство брала, апаноўвала яго, апаноўвала ціхай задуменнасцю музыкі, незвычайнымі, быццам марозныя ўзоры на акне, малюнкамі-згадкамі, шчырым, аддадзеным голасам таго, хто чытаў на памяць...

Калі Алесь скончыў, захацелася памаўчаць, падумаць. Самога павяло на ўспаміны, на роздум. Пазней ужо запытаў:

— Чые гэта?

— Паўлюк Трус! — сказаў ён з захапленнем, з гонарам.— Наш, з універсітэта... студэнт наш...

— Добры верш!..

— Гэта — вялікая паэзія!

У памяці доўга жыў не зусім зразумелы, самотны радок: «дацвілі пялёсткі нейчае тугі...», радок, які дзіўна хваляваў, прымушаў думаць пра недаступныя таямніцы паэзіі...

— Чаму цяпер некаторыя пішуць прыгожа і... як бы сказаць — не проста... не зусім зразумела?..—

Яму, Апейку, была не да спадобы самотная маўклівасць. Ён растлумачыў: — От у Пушкіна ж усё проста: «Буря мглою небо кроет...» Або — «Во глубине сибирских руд...».

— Пушкін — добры паэт.— Алесь запыніўся, задумаўся — як лепш сказаць. Паправіўся: — Ён быў добры паэт. Але ён устарэў. Аджыў сваё. Цяпер у паэзіі — новыя законы. Сучасныя... Усё мяняецца. Змяніліся і законы паэзіі...

— А — Купала? У Купалы ж таксама ўсё проста. І сучасны, а ўсё — проста, ясна. «Паміж пустак-балот беларускай зямлі...»

— Гэта — з яго дарэвалюцыйных вершаў. Цяпер і ў Купалы іншыя матывы і стыль іншы. Вазьміце яго «Арлянятам»!.. Купала таксама стараецца ісці ў першых шэрагах новай паэзіі. Праўда, яму нялёгка вызваліцца ад грузу старога...

І тады, калі пярэчыў, Алесь гаварыў мякка, без якой-небудзь амбіцыі, адчувалася ў тоне яго гаворкі не толькі павага да былога настаўніка, а і добрая, нерастрачаная ў горадзе сціпласць. Пры ўсёй далікатнасці сваёй усё тое, што думаў, ён гаварыў цвёрда, пераканана. Ён, Апейка, сам пярэчыў Алесю мякка, як бы з асцярогаю: можна сказаць, не так і пярэчыў, як выказваў свае сумненні, не траціў адчування: вучань вырас!

У чым іншым яго, пэўна, павучыць можна, а што да паэзіі, то тут і прыслухацца не лішне. Прыслухацца ды падумаць.

— Па-мойму, галоўнае правіла, якога трэба трымацца паэту і цяпер... як і тады,— старацца пісаць прасцей...— гаварыў ён Алесю.— Як можна прасцей... Каб кожнаму было зразумела... Каб кожны селянін, кожны рабочы мог чытаць...

— Гэта правільна. Мы аб гэтым акурат і стараемся... Але ў паэзіі,— зноў цярпліва ўзяўся тлумачыць Алесь,— свае законы. Свая мова, свае вобразы, свой лад. У кожны час у паэзіі былі свой лад, свая мова. Адны ў Пушкіна, другія — у нас. Мяняецца час, мяняецца і паэзія. Так было ва ўсе часы. У наш час гэты закон дзейнічае яшчэ мацней: наша грамадства не падобнае ні на што з таго, што было раней! Гэта ставіць і асаблівыя, незвычайныя задачы паэзіі! Нашым паэ-

там трэба шукаць таго, чаго да іх не рабіў ніхто! Адсюль і ўся радасць і ўся бяда. Пушкін — гэта выпрабаванае. Да Пушкіна прывыклі. Наша ж паэзія — як кветка, што толькі пусціла парасткі. Навіна, рунь зялёная!.. Вядома, мы яшчэ не ўсё знайшлі! Мы шукаем!..

— Я гэта разумею. Уся соль, па-мойму, у тым — што шукаць і як шукаць. Па-мойму, заўсёды трэба помніць пра людзей, якія цябе чытаюць і слухаюць. От як хочаш, браце, а я, хоць забі, не разумею: нашто ў вас гэтыя — «бурапеніць», «карагодзіць»?.. Хоць забі, не разумею! Хіба ж у нас мала слоў тых, якія ведаюць людзі? Хіба імі не можна выказаць усё, што хочаш? Дак ці ж канешне — выдумляць яшчэ?

— Мы не можам не шукаць. Разам з усім іншым — і слоў...— не здаваўся Алесь.— Можа не ўсё ўдала выходзіць. Канешне, не ўсё, ёсць нямала, канешне, і смецця. Але шукаць усё-такі трэба. Новае нельга выказаць толькі старымі, злінялымі словамі. Новаму трэба і новыя словы...

Зноў ехалі моўчкі; толькі мерна, спорна секлі ўмерзлы, уезджаны снег конскія капыты, рыпелі гужы, беглі насустрач аснежаныя дрэвы, круцілася поле. Алесь падняў каўнер, схаваў макава-чырвоныя вушы, убіраў бліскучымі вачыма зменлівае яркае хараство дарогі. Ён, Апейка, не ўтрываў, загаварыў першы.

— Чытаю я, бывае, і дзіўлюся: столькі арганізацый развялося розных. Мала таго, што «Полымя», «Узвышша» і «Маладняк», дык і «Росквіт», і «Усплёскі» нейкія...

— Багата арганізацый,— не адарваў Алесь вачэй ад дарогі.— І вялікіх, і дробных...

— Мы тут сялян арганізоўваем, а ў вас усё — дзяляцца. Цераспалосіца сапраўдная. І спрэчкі, як дзенебудзь у Будзе, у суседзяў. Адсюль, збоку, дык не заўсёды і разбярэш, з-за чаго...

— Там, бывае, таксама цяжка зразумець сэнс іх. Іншы раз ніякага сэнсу і няма. Проста — амбіцыя чыянебудзь загаворыць. Захочацца вылучыцца.

— Складанае становішча ў краіне. Усё зрушылася, сіла на сілу пайшла. Клас на клас... От і ў вас там неспакойна... Чуў я, ва «Узвышшы» асабліва нядобры душок... І ў «Полымі» ёсць...

— У іх таксама розны народ. Нямала і добрых, сумленных... І ў «Маладняку» ўсякага хапае...

— Ты — у «Маладняку», здаецца?

— Быў у «Маладняку». Цяпер у нас, на з'ездзе, стварылі БелАПП. Я — у БелАППе...

— Ты ведаеш, мне адсюль часам здаецца, што там у вас аднолькавыя па духу людзі, пралетарыі, бальшавікі — у розных арганізацыях. Як бы штучна падзелены. І вайну вядуць часта выдуманую, непатрэбную. Можа я памыляюся, але мне здаецца, браце, што б'юць там іншы раз адзін аднаго свае, а нечысці рознай, сапраўднай, пад бокам не бачаць!

— Так, неразбярыхі ў нас там больш, чым трэба.— На Алесеў лоб лягла клопатная маршчынка.

— Я і кажу. Няпростая гэта штучка, па-мойму,— «гурты свае» і «не свае», бойкі хлапечыя. Калі побач, між нашых, нечысць усякая лазіць. Што прымазалася, у «гурты» ўшылася. Тут, чаго добрага, можна трапіць у *такую* кампанію. Калі засляпіць вочы... П'юць там, чуў я, у вас некаторыя — дым ідзе? — Паглядзеў зноў уважліва на Алеся.

— Ёсць любіцелі,— прамовіў хлопец стрымана.

— «Гуртамі» ж, няйнакш. Па аднаму ж піць — сумна... Весяліцца — дык весяліцца. На ўсю Іванаўскую...

— Вяселяцца. Спачатку вяселяцца, а потым — за чубы хапаюцца. Геніі непрызнаныя... Як дзядзькі вясковыя. Толькі што — за калы не хапаюцца...

— Ты, браце, не крыўдуй,— Апейка нокнуў каню.— Я ад душы. Кажу, як нам адсюль здаецца. Я ў вашых справах — суддзя слабы. Мала ведаю сучасную літаратуру, адстаю ганебна. Няма калі чытаць, часам, бывае, тыднямі газету ледзь упраўляешся прабегчы. Ну, і ў нас ёсць літаратура свая, першачарговая — рашэнні канферэнцый, з'ездаў! Так што — адстаю па вашай часці. І, можа быць, чаго не разумею.— Неспадзеўкі дадаў з намёкам:— Але і тое можа быць, што і ты ў нечым памыляешся. І ты, і твае таварышы...

— Канешне, можа быць,— згадзіўся Алесь.

Гаварылі яшчэ нямала, але ўжо не пра літаратуру: успаміналі школу, Алесевых таварышаў, ён, Апейка, расказваў пра свае выканкомаўскія клопаты. У гаворцы непрыкметна даехалі да лесу, пад якім дарога ра-

выходзілася на дзве: адна ў адзін бок лесу, у сельсавет, а другая, праз лясок жа, к недалёкаму ўжо Алесеваму сялу. На разгалцы хлопец саскочыў. Сказаў Алесю, што мог бы падвезці і да хаты, але хлопец заматаў галавою: «Не трэба, дабягу сам. Тут — блізка». Ускінуў на плячо фанерны куфэрачак, удзячна памахаў рукою і борзда, у кажушку, у ботах, у фасоністай шапачцы, подбегам падаўся дарогай дахаты. Адышоўшы, азірнуўся, замахаў яшчэ рукою...

Едучы маўклівым, вусцішным лесам, доўга і радасна думаў пра Алеся: выйшаў хлопец у вялікі свет, распраўляе крылы. От і няшчодрая на хлеб і на пісьменнікаў балотная палеская зямля пачынае даваць свету паэтаў. Няхай ён яшчэ толькі спрабуе голас, няхай яго пакуль не вельмі шырока чуваць,— хто ведае, як ён узляціць потым, калі памацнеюць крылы, калі набярэцца сіл. Хто ведае, можа там паўз лес, у палатаным кажушку і шапцы з гузікам, ідзе будучы Янка Купала ці Нікіцін. «Нас і дзеці нашы ўспамінаць з часам перастануць, а ён, хлопец гэты, можа ў народзе, у свеце век жыць будзе — словам сваім, вершамі сваімі?!.»

Яго не раз дзівіла, і цяпер здзіўленне гэта ажыло зноў; колькі паэтаў, пісьменнікаў паявілася на беларускай зямлі за які дзесятак гадоў! Які дзесятак гадоў, да рэвалюцыі, мала хто і ведаць ведаў, што раджаецца, можа разрасціся шырока такая літаратура — беларуская, літаратура народа, які стагоддзямі «абыходзіўся» без сваёй літаратуры! Толькі дзесятак гадоў, як рэвалюцыя ўзаконіла і мову і літаратуру, дала ім дарогу, а от — глядзіце, дзівіцеся як цудоўнаму цуду! Не адно-два дрэвы, лес цэлы расце, ды які буйны, які багаты! За які-небудзь дзесятак гадоў — на добрай савецкай глебе! Якія ж сілы таіліся ў народзе век ад веку, каб не прапасці, не змарнець за стагоддзі ўціску, цемры, пагарды, здзеку: каб здалець усё, наперакор усяму выжыць, дачакацца сваёй пары! Векавая прага цэлых стагоддзяў, маўклівых, скаваных, у гэтым радасным імкненні, у магутнай творчай нецярплівасці і сіле. «Творчасць наша, познія нашы кветкі, як жа расцвіцеце вы яшчэ праз дзесятак, праз два, тры, пяць дзесяткаў гадоў!..»

## 5

Гэта было ўжо зусім нядаўна, летам. Дайшло, што хлопец зноў прыехаў дадому, жыве ў маткі. Калі выпала наведацца ў адну ■ блізкіх вёсак, знарок збочыў да Алеся. Яму не пашанцавала: увайшоў на пусты двор, дзверы ў хату былі на зашчапцы. Памагла дзяўчына-суседка: убачыўшы дзядзьку, што азіраецца на двары, пабегла па Алесеву матку; тая рабіла штосьці за гумном — на агародзе. Матка, выціраючы рукі аб фартух, гасцінна запрасіла ў хату, але Апейка не пайшоў: сказаў, што заехаў ненадоўга, праведаць адно яе сына. Прыселі ўдвох на цёплай прызбе, пад ліпаю.

— Схуднеў саўсім...— паказала яму боль свой старая. Губы яе, сухія, патрэсканыя, жалліва смыкнуліся, але яна стрымала плач.— Сухоты прызналі. Працэс, кажуць...

Апейка, устрывожаны і сам, паспрабаваў, як мог, супакоіць яе.

— Вучыўся, вучыўся, ды от — вывучыўся.— Разважліва, сумна падумала ўголас.— Нішчымніца, ведама. У горадзе, чула, галадна багата каму. А яму, без помачы, дак і саўсім. А ён змалку не моцны здароўем, век недаядаў. А тут яшчэ да навукі такі падкі, сушыў усё галаву, мабуць...

— Нічога, Мар'я Мацвееўна. Вылечыцца. У Мінску дактары добрыя. Першага сорту спецыялісты. Бальніцы добрыя, пад наглядам добрым будзе. Вылечыцца, не бядуйце да часу. Толькі от падкарміце, падмацуйце пакуль. Беражыце — чалавекам вялікім становіцца. Ганарыцца сынам сваім можаце...

— Я і рада б. Што б не бяда, не сухоты етыя. А так ён — сынок — дзякуй богу! Грэх паганае што сказаць! Кожнай матцы такога б сына! І ласкавы, і абыходлівы; не тое што маткі, дзіцяці не пакрыўдзіў ні аднаго! Са ўсякім паздароваецца, кожнаму «добры дзень» дасць! І на работу не ўломак, усе яго хваляць!..— Яна раптам сціхла, спахмурнела. Прызналася: — Не, не ўсе. Няпраўду кажу. Васіль тут, Сук, прыязджаў. З Гомеля — прыказчыкам там работае. Бацько яго жыве унь цераз хату. Дак Васіль той сказаў: «Не багато, сказаў, набраўся Хомка ў горадзе. Буў, сказаў, лапаць, лапаць і астаўся». Яно і праўда: усё добра, а от,

і другія гавораць, дзержыцца Алёшка па-простаму. Як усе адно і не буў у горадзе. І гаворыць не па-гарадскому, а па-нашаму. Як бы не ўмее іначай. А ў Васіля таго, дак боты хромавыя, наваксаваныя. І еты, як яго, гальштух пад шыяю, і гадзіннік у кішэні, з ланцугом. І — усё па-гарадскому, па-гарадскому: «дарагой ацец», «пажалуста». Культурны такі!

— Культуры той, Мар'я Мацвееўна, ва ўсім ім менш, як у адным Алесевым мезенцы!

— Не кажыце! Важны такі, як усе адно колішні пан. З гальштухам, чобаты хромавыя да калень, ідзе — ручкаю памахвае. Зямлі не бачыць. А як стане з кім, дак: «Здрастуйце! Как жызнь маладая?» Папяроску гарадскую ў губах дзержыць!.. Пан, ей-богу, пан...

— Чым жа яму, Мар'я Мацвееўна, пахваліцца другім, калі ў галаве мякіна?

— Яно такі праўда. Мякіна, адна мякіна...

Алесь абганяў картоплю. Неўзабаве сядзелі ўжо на ўзмежку, бачыў яго схуднелы, амаль без загару твар, вузкія і вострыя белыя плечы; зрэбныя, малаватыя ўжо, штонікі [illegible] лапінаю на каленях, белыя, з наліплай рудаватай зямлёй ногі. Ён быў голы па пояс, і былі добра відны рабрыны пад белай скурай, было відна, які ён худы і змарнелы.

Сястра, што вадзіла яму каня, толькі падышла на хвілінку, паздароўкалася і зноў падалася да каня — пасвіла яго наводдаль. Апейка і Алесь сядзелі на ўзмежку ўдвух.

— Чаму не зайшоў, калі ехаў сюды? — папракнуў Апейка.

— Я заходзіў. Вас не было. «У раёне», сказалі...

— Пераказаў бы ці паперку аставіў бы. Што вярнуўся. На радзіме...

— Мала ў вас клопату без мяне! Я думаў быў чыркнуць два словы, а потым рашыў — не трэба...

— Скажы: паленаваўся. На першы раз даю вымову. Другі раз, калі такое паўторыцца, будзе горш. Запомні...

Ён усміхнуўся:

— Запомню.

— Надоўга?

— На месяц.

— Болей трэба. На паветры добрым трэба пабыць. Агародам пакарыстацца. Свежай зелянінаю.

— У рэдакцыі прасілі. У газету я ўладзіўся. Рабіць трэба. Летам раз'язджаюцца ўсе. З-за гэтага найбольш і ўзялі. Ну, і калі падрабіць, як не летам!

— А што — з лёгкімі?

Ён паморшчыўся, не хацеў гаварыць.

— Найшлі нешта. Зацямненне вярхушкі справа. Дысемінацыя — ёсць такі вучоны тэрмін. Смяртэльнай небяспекі няма, сказалі. Але — патрэбна лячэнне. Добрае харчаванне, добры пакой, здаровы рэжым.— У голасе яго чулася іронія.

— Алесь, адчайвацца не трэба. Але — і падсмейвацца таксама ні да чаго. Тваё здароўе не аднаму табе трэба...— Улавіў іранічную ўсмешачку, не даў запярэчыць яму.— Будзь разумны!.. Пішаш тут?

— Мала. Гультую без сораму. Гуляю, гляджу...

— Гуляй. Адпачні. Вершы — потым. Самі пісацца будуць... Дарэчы, загараць табе, здаецца, покуль не трэба... Што ў горадзе?

— Вучыўся багата, экзамены. Дык не вельмі і бачыў...— Сагнаў усмешку, заклапочана змоўк.— Неспакойна ў горадзе. Пошасць розная галаву ўзнімае. Усякі бруд напаверх вылазіць... Ну, і дурняў багата, што толькі бруд і бачаць усюды. Не вераць, што людзі могуць быць і чыстыя!..— Ён раптам трасянуў галавою.— Ат, хай яны ў балота!..— Павёў бліскучым позіркам па полі, па лесе наводдаль. Шчаслівы, заплюшчыў вочы; адкінуў назад галаву, шумліва, на ўсе лёгкія ўдыхнуў:— Паветра ў нас! Лесам і лугам, нават у полі, пахне!.. І наогул — рай тут!.. У Мінску ўвесь час у мітусні. А тут — ціш, воля! Думай, колькі ўлезе!

Здаецца, усё запомнілася з гэтай сустрэчы; але з асаблівым жалем згадваліся белыя вострыя плечы, рабрыны пад белай, кволай скурай. З трывогай успаміналася яго іранічнае: «Ёсць такі навуковы тэрмін — дысемінацыя!» Потым ад урача даведаўся як мае быць, што значыць гэты навуковы тэрмін, напісаў яму на універсітэт ліст, і прасіў, і загадваў берагчы сваё здароўе, сур'ёзна паставіцца да хваробы. Успамінаў, вядома, і клопатнасць маршчынак на Алесевым твары, і неспадзяванага вясёлае: «Ат!», і захопленае, зачарава-

нае: «Ціш, воля!» Згадваючы ўсё, не бесклапотна ўспамінаў тое, што ён кінуў пра «бруд», пра «дурняў», якія не верапь, што ёсць «чыстыя», але неспакой гэты трывожыў яго толькі наогул, як агульная трывожная з'ява, а не як бяда, што мае асаблівае дачыненне да хлопца. Трывожыўся адно пра яго здароўе. Адсюль ён чакаў бяды. І вось, на́ табе!..

Цемра ў кабінеце пабольшала, а ён усё сядзеў на стале, перабіраў усё ў памяці, стараўся развязаць неспадзяваную, незразумелую зусім загадку. «Выдумка, паклёп!» — прыходзіла зноў упартае, самае простае. «Наплёў нейкі дурань — і пайшло! А там — і надрукавалі!..» Думка такая прыходзіла Апейку найбольш адтаго, што яму хацелася, каб было гэтае, самае лёгкае для Алеся, і адтаго, што яна найлепш адпавядала ўсяму, што ён ведаў пра хлопца. Але цвярозыя развагі адна за адной бурылі гэтае добрае, жаданае: «Так проста і надрукавалі б! Усё ж там блізка было, ля газеты. Усё відна. Праверылі, узгаднілі. Ды і — ясна сказана ж — абмяркоўвалі на камсамольскім сходзе. Калектыўная думка!..» Гэта заводзіла развагі ў тупік: тая ж самая цвярозасць казала, што, як бы там ні было, хоць і абмяркоўвалі, хоць і надрукавалі, усё гэта — няпраўда. «А ячэйка — не магла памыліцца? Ячэйка — маладыя, гарачыя хлопцы і дзяўчаты. Якія так лёгка паддаюцца настрою. Бываюць выпадкі, і дарослым не хапае цвярозасці. Дарослым, спакайнейшым, вопытным. А то ж — маладыя, гарачыя...»

Што б там ні здарылася, Апейка быў перакананы ў адным: «Не можа быць! Не можа быць таго, што напісалі! Няпраўда!» Але перакананне гэта ўсё ж не супакойвала: што ні думай, а, мяркуючы па артыкулу і сходу, штосьці ж *было* там; нейкая, няхай і не такая, як там у артыкуле навернута, прычына *была* ўсяму! Прычына, што дала *пачатак* гэтаму. *Была!* Што ж яна за такая?

«Вучыўся, вучыўся і — вывучыўся!» — успаміналася яму матчынае. Тады прыходзіла на памяць тое, што ён ведаў пра асяроддзе, у якім давялося жыць хлопцу ў Мінску. Прычына, адчуваў Апейка, была, не інакш, тут: даверлівы, зялёны вясковы хлопец, шчырае, няхітрае дзіця, трапіла ў хэўру спрактыкаваных, лоўкіх, нячыстых махляроў: ачмурылі, зацягнулі, за-

губілі! Апейка з газет ведаў, колькі іх там такіх — затоеных, яўных, нядобразычлівых, нават варожых — ахвотнікаў муціць ваду і галовы людзям! Напладзілі ўсялякіх аб'яднанняў, як гандляры крамак; узнімаюць век непатрэбную валтузню: бясконца спрачаюцца, кусаюць адзін аднаго, вылазяць з рознымі фанабэрнымі заявамі, якія іншы раз выглядаюць проста як выскакі супроць генеральнай лініі партыі!..

Чорт ведае, што ў іх там робіцца! Нават такія відныя — здавалася б, надзейныя, адданыя партыі — дзеячы, як славуты, можна сказаць — узрошчаны рэвалюцыяй, паэт Міхась Чарот, як Змітро Жылуновіч — Цішка Гартны, чалавек, які ўзначальваў першы савецкі ўрад Беларусі; людзі, якія, думалася, столькі гадоў усёй душой служылі партыі і савецкай уладзе, нават яны, аказалася, апынуліся ў твані. Нават яны, пісалі газеты, дакаціліся да таго, што звязаліся з буржуазнай поганню, нацдэмамі, не толькі па гэты, а і па той бок мяжы! Чаго ім было лезці ў тую смуродную твань! І чорт яго ведае: калі ў твані апынуліся такія вопытныя дзеячы, то што было зацягнуць туды зялёнага, няхітрага хлапчука! Няўжо і праўда — зацягнулі?!

Думаючы цяпер пра ўсё гэта, дашукваючыся, што ў тым артыкуле пра Алеся праўда і што — няпраўда, Апейка мімаволі згадваў, што не ўсе артыкулы аб літаратурных справах, якія ён чытаў у газетах раней, былі абгрунтаваныя, доказныя; успаміналася, што ў некаторых з іх абвінавачанні, і вельмі сур'ёзныя, былі прыцягнуты, проста сказаць, за вушы. Ён прыпомніў, як адна цэнтральная газета абвінавачвала часопіс «Полымя» і нават рэдакцыю газеты «Савецкая Беларусь» у тым, што яны гадáмі вялі контррэвалюцыйную нацдэмаўскую прапаганду. Тая цэнтральная газета так і пісала, Апейка гэта запомніў добра: «Мы гадáмі цярпелі прапаганду контррэвалюцыйнай нацдэмаўскай ідэалогіі» ў гэтых часопісе і газеце! Апейка не часта разгортваў часопіс, не стаў бы ручацца за яго, а газету «Савецкая Беларусь», газету ЦВК, чытаў амаль штодня і ведаў добра, колькі ў тым гневе праўды! Яго тады вельмі здзівіла і абурыла, што на відную, заслужаную газету так проста было пісаць такую страшную няпраўду! Лёгка, безадказна нападала тая

мінская газета нават на ЦК партыі: вінавaціла ЦК, нібы ён абараняў «багоў» тыпу Жылуновіча ад крытыкі газеты; Апейку гэта здзівіла асабліва тым, што газета нібы абуралася ўмяшанню ЦК у яе справы! І ў тым артыкуле, і ў іншых Апейку не да спадобы быў, здавалася яму, непатрэбна крыклівы, пагрозны тон, дзе крык і пагрозы нярэдка падмянялі доказы.

Усё ж нельга сказаць, што ён не вельмі верыў таму, што чытаў пра літаратурныя справы ў Мінску. Яго бяда была ў тым, што ён не бачыў усяго сам, сваімі вачыма. Не ведаючы добра ўсяго, ён мусіў лічыць, што ёсць яшчэ нешта вельмі важнае, чорнае, што яму невядома і пра што не пішуць; што іменна гэтае невядомае і дае падставы гаварыць там, у Мінску, такім тонам. У яго раз-пораз узнікалі сумненні, што некаторыя нападкі праўдзівыя; але сумненні гэтыя рэдка трымаліся моцна — ён вельмі ж мала ведаў сам. Сумненні яго найчасцей разбіваліся аб цвёрдасць, непахіснасць тону і рашэнняў там, у сталіцы рэспублікі: там, пэўна ж, ведалі, што рабілі! Што ні думай, з такіх пастоў, як пост рэдактара цэнтральнай газеты ці намесніка наркома, так проста не здымаюць! Ды яшчэ такіх відных пісьменнікаў, відных дзеячаў, як Міхась Чарот і Цішка Гартны! Пэўна ж, ёсць важныя прычыны!

Цяпер даўнія сумненні ажывалі зноў, зноў трывожылі. Алесь, канешне, не Цішка Гартны і не Міхась Чарот, але ці няма ў тым, што было з імі, з Гартным і Чаротам, адгадкі і Алесевай «гісторыі»? Ён толькі мог гадаць пра гэта, як і пра незразумелы артыкул. У думках не было яснасці. Думкі блыталіся ўпоцемку. Ды і як яны маглі выбіцца з поцемку, калі невядомы праўдзівыя факты. «Факты, факты, от што трэба высветліць! Самому!..»

Апейка раптам схамянуўся, заўважыў: за акном было зусім чорна. Трэба дадому. Не запальваючы лямпу, стаў вобмацкам збіраць паперы на стале; паклаў у шуфляду, замкнуў яе.

«Паеду на сесію. Там і высветлю ўсё».

РАЗДЗЕЛ ТРЭЦІ

## 1

Доўга не ўціхала туга па дачцэ. Ні клопат, ні ўтома не маглі сцішыць смутку страты. Усё лета, усё ў гэтым леце жыло смуткам вялікай, незваротнай страты. Аб страце шумелі лозы ў балоце, шапталі каласы ў полі, спявалі жаўранкі. Аб ёй гулі перадвальнічныя вятры, грымелі грамы́, пісалі агністымі стрэламі бліскавіцы...

Толькі пад восень стала патроху аціхаць, зацягвацца рана. Яна яшчэ чулася, ныла, але ўжо не так балюча. Як бы прывыкаць стала Ганна да гора. Ужо не такім жывым згадвала тварык дачушкі, усю яе, ужо не чула жывога цяпла яе цельца. Цьмеў воблік малой, паціху, непрыкметна, але адыходзіў у нябыт.

Усё ж такой, якой была, Ганна ўжо не стала. Пакута назаўсёды пакінула ў ёй знак. Штосьці ў яе душы перакіпелае як бы астыла, зацвярдзела, давала ёй большай рашучасці, а другое зрабілася мяккім, вельмі чулым, падатным. Можна сказаць, нейкая не знаная раней чуллівасць паявілася ў Ганне...

Былі пагодныя дні. З сонцам ад ранку да вечара, з сінім небам. Днём яшчэ было цёпла, а пад вечар, калі чырвонае сонца сцякала за лес, апусцелая, няласкавая зямля стыла на холадзе. Пад поўнач бяліў яе іней, у ледзяныя, звонкія раніцы і трава каля платоў і на выганах, і палі з загонамі яшчэ не скопанай бульбы, і панурыя, учарнелыя стрэхі — усё было па-зімоваму белае. Калі ўздымалася над чэзлым балотным алешнікам сонца, светлае, прамяністае, ад інею заставаліся толькі цемнаватыя плямы вільгаці. Неўзабаве знікалі і яны. Іней трымаўся яшчэ ў цені дрэваў і хат, трымаўся ўпарта, пакуль сонечная цеплыня не дабіралася і сюды.

Неба гэтымі днямі сінела чыстае і глыбокае. Яно не было цяпер такое яркае, як раней, часта атульвала яго белаватая, нібы малочная, смуга, і яно здавалася бляклым, быццам выгаралым за ліпеньскую і жнівеньскую спёку. Сонца таксама было іншае. Аддаўшы амаль увесь свой пал лету, яно берагло рэшткі цяпла, грэла мала, але на дзіва лагодна і пяшчотна. Гэтай лагодна-

сцю і пяшчотай было напоўнена ўсё ў прыродзе, усе дні.

У лагодным сонечным святле гарэлі сумным адвечным полымем ліпы і бярозы каля хат, дрэвы ў недалёкім лесе. Як сівізна ад былога, ад перажытага, бялела ўсюды павуціна. Яна вісела ў паветры, абчэплівала павялы і пасохлы бульбоўнік, калы і жэрдкі вакол агародаў, пажоўклыя кусты. Усё агартаў спакойны, стары, як свет, смутак, смутак развітання з цяплом, з летам, набліжэння слаты, халадоў.

На душы ў Ганны ўсе гэтыя дні было самотна і трывожна, не адыходзіў ціхі, цягучы жаль. Душы хацелася шкадаваць — шкада было і добрага, ужо аслабелага сонца, і голых, бедных палёў, і яркіх агністых дрэваў, што вось-вось павінны былі страціць сваю красу.

«Што ето са мной?» — дзівілася не раз яна сваёй чуласці. Раней яна ніколі не адчувала так восені, была безуважная да гэтай пары, нібы і не заўважала. Чаго ж цяпер так хвалюе яе апошняя пяшчота цяпла, згалеласць палёў, смутак асенніх дзён? Чаму ж усё гэта адгукаецца ў сэрцы маркотнай, няўціхнай журлівасцю?

Капалі бульбу. Цэлымі днямі, ад ранняга ранку да позняга змроку, Ганна рабіла на полі. Зямля была ўжо халодная, і пальцы, чорныя ад зямлі, стылі, станавіліся непаслухмяныя. Зямля моцна ўядалася ў поры, у маршчыны, пад пазногці; скурчаныя, намёрзлыя пальцы пад вечар разгіналіся цяжка. Цвярдзела, касцянела і сагнутая дзень у дзень крукам спіна.

Рыючы пальцамі зямлю, яна неяк сарвала аб каменьчык палову пазногця. Пазногаць яшчэ моцна трымаўся на пальцы, але капаць і перабіраць рукамі зямлю стала нязручна. Часам Ганна вярэдзіла яго, і руку ламаў, тузаў моцны боль; яна сціскала зубы, каб не застагнаць. Старалася б яна маўчаць, мусіць, калі б было і ў тысячу разоў горш. Ганне ні за што не хацелася паказваць перад свёкрам і перад свякрухаю свой боль. Хавала яна яго і ад чалавека.

За час свайго замужжа Ганна прывыкла таіцца, хаваць у душы і пакутны боль, і тугу, і надзеі. Калісьці такая гаваркая, таварыская, яна даўно стала любіць адзіноту.

З настроем адзіноты лепш за ўсё было ёй у лесе.

Лес супакойваў, суцішаў, гаіў; дрэвы, то маўклівыя, то шапаткія, здавалася, разумелі і спачувалі, каля іх лягчэла на душы. Так было раней, увесну, улетку. Цяпер жа лес, як і ўсё, навяваў у душу, якая стала дзіўна чулай, трывогу і смутак.

І ўсё-ткі ён вабіў да сябе. Поле Глушакоў было каля самага лесу, і Ганна не раз збіралася выбраць вольную хвілінку, пахадзіць па ім. Але Глушакі рабілі амаль без перадыху. Толькі калі скончылі капаць усю паласу і апошнюю бульбу ссыпалі ў лазовы кош, Ганна, нарэшце, адчула, што прыйшла жаданая хвіліна.

— Я пайду ў лес,— абыякава сказала яна свякрусе.

Глушачыха глянула недавольна.

— Чаго там табе рабіць?

— Грыбоў пагляджу...

— Свіней карміць скора! — апярэдзіў маці Яўхім. Ён паклаў у кош жалязняк.

— Я ненадоўга.

Старая нечакана прамовіла:

— Яўхім, а мо і ты схадзіў бы, дзіцятко... пагуляў.

Ганна, што ўжо ішла ад старой, слова не падала, нібы нічога не чула. Ужо ў лесе яна мелькам азірнулася — Яўхім стаяў каля воза, рыхтаваўся ехаць дамоў.

Схаваўшыся ў лесе, яна адчула палёгку, якая з'яўлялася ў яе толькі тады, калі знікалі з вачэй Глушакі. З гэтай палёгкай, нібы між знаёмых, блізкіх, і пайшла яна між дрэваў.

Як тут было хораша і як сумна было! Тое асенняе хараство, на якое так адгукалася яе сэрца, у лесе панавала асабліва. Тут было ўсё перайначана, перароблена ім. З усіх бакоў абступалі Ганну купы падпаленага лісця, жаўтлявага, дзе-нідзе зеленаватага, зусім, да рэшты, чырвонага, ружовага, барвовага. Ніколі ў лесе не было такой дружнай, бурнай, як усплёск полымя, яркасці фарб, такой кідкай красы. Усё было нібы ахоплена агнём, дзівосным, невыказна прыгожым, усеабдымным.

Гэта хараство ўзяло, захапіла Ганну. Як у сне, яна рвала ля куста мокрую траву, слала на аблепленае зямлёй дно кошыка, як у сне, ішла без сцежкі, трымаючы кошык каля грудзей, слухаючы, як шархаціць пад нагамі апалае лісце. Яна раптам забылася пра грыбы, стала дзіўна бяздумная, няцямная. У шырокіх, круг-

лых, пасвятлелых вачах яе было не здзіўленне, не захапленне, а нейкая пакутлівая разгубленасць. Абветраныя, патрэсканыя вусны Ганны, нервова смыкнуўшыся, застылі, гатовыя ні то ўсміхнуцца, ні то сумна сціснуцца...

Яна прайшла зараснік, багата лесу, што абступаў бярозамі, дубамі, асінамі, падлескам.

Ужо сярод лесу яна нібы абудзілася, пачала шукаць грыбы. Іх было нямала, але пара іх сыходзіла, большасць, асклізлыя, трухлявыя, ад першага дотыку разлазіліся.

Ганна хутка адчула, што стамілася, і падалася назад. Ішла павольна, неахвотна. Вяртацца не хацелася. Каля рабіны, на якой крывёю гарэлі важкія гронкі ягад, яна паставіла кошык і апусцілася на халодную траву. Зморана згорбіўшыся, не варушачыся, нейкі час сядзела з той бяздумнасцю, з якой нядаўна ішла лесам. Вакол, ападаючы, шамацела лісце, угары маркотна, цягуча шумеў густы вецер.

Яна заўважыла непадалёку некалькі кустоў арэшніку, і ў грудзях яе штосьці нядобра заныла. Успомнілася нечакана, як калісьці спаткалася з Васілём — у такім самым арэшніку. У яго была цераз плячо доўгая торба... Яны потым сядзелі на выспачцы. Васіль лузгаў арэхі, якія браў з торбы, гаварыў, што ў Хвойным воўк сярод белага дня зарэзаў авечку... Яшчэ пра рознае гаварылі... Нічога асаблівага ёй не прыгадалася, бо ў той сустрэчы нічога такога і не было, але сэрца яе зашчымела жалем.

Адышло ўсё гэта, сустрэчы з Васілём, маладое шчасце назаўсёды адышло. І ў думках даўно ўжо не згадваецца, і ў сне не сніцца... Адышло, адгарэла — няма чаго і згадваць...

Іншае наўме было, іншым жыла. Каб і хацела, не было б калі думаць асабліва, перабіраць у памяці... Жончына доля — не дзявочая. Гаспадарка, клопат дзень пры дні. Ганна ўпершыню як бы глянула назад: вясною, зімою, летам — хоць бы калі была гадзінка, каб параскошавацца без працы...

Гаспадаркі ў Глушакоў не тыя, што ў бацькоў. Толькі ўпраўляйся навaрыць свінням, каровам, авечкам, нарэзаць, намясіць, занесці ўсім, накарміць такую пражору. А поле — памажы паараць, пабаранаваць,

пасеяць; а агарод — парабі градкі, пасадзі ўсё, выпалі так, каб травіначкі нідзе не асталося: свёкар любіць, каб чыста было! А жніво — калі ў вушах шамаціць ад сухіх каласоў, калі ломіць здзервянелую спіну, калі чакаеш не дачакаешся краю паласы, збаўчага поцемку. А восень — выццё малатарні, хмары пылу, ад якіх душыць усярэдзіне, доўгія рады карчоў бульбы, падкапаных жалезняком Яўхіма ці старога Глушака...

Было тут калі думаць, успамінаць пра вольныя мілыя вечары! Толькі збудзеш апошнія клопаты, з'ясі чаго-небудзь, ледзь дацягнешся да ложка — сон навальваецца як сцяна. Спіш — што мёртвы. Ніякая сіла, здаецца, узняць ужо не здольна. А заспяваюць другія пеўні — ногі самі сабой ссоўваюцца з ложка. Дзіва — і мёртвы ўстаў бы, калі стары, крэкчучы, успёрся, пачаў сноўдацца па хаце. Усе павінны ўстаць. І ўсе ўстаюць. І яна таксама...

Як адзін доўгі-доўгі дзень, як адна бясконцая, дурнотная ноч успаміналася Ганне яе замужняе жыццё — тры гады жыцця! Успомніліся нялюбыя, грубыя Яўхімавы абдымкі, якія яна павінна была заўсёды цярпліва трываць — чалавекава жонка! А ён хоць бы калі падумаў, уважыў яе: ахвота ці неахвота ёй, ён ведаў адно — абы яму было добра! Ён нават як бы знарок мучыў яе, чуючы яе стрыманасць. Ён як бы помсціў за тое, што не любіла, што ўпарцілася некалі. Помсціў за Васіля, за вольныя гады... І кожны вечар, кожную ноч — адно і тое ж: быць з ім, цярпець яго!.. І так усё жыццё — да скону!.. Няўжо ўсё жыццё — так?!.

Усё жыццё, увесь век цярпець яго, цярпець старога, які гатоў з'есці, калі прысядзеш на хвілінку, калі запарвеш, панясеш што сваім, які воч не зводзіць, баіцца, што абкрадзеш; да скону са старой, якой усё мала памагаеш, якой усё мала любіш Яўхімачка?!. Батрачкай, рабою іх век быць?! Рабою скнарых ненажэр, рабою — праўду ж кажуць — п'явак людскіх, кулакоў. Ганну ўзяў страх.

Яна паспрабавала адагнаць страх, але спакою не было.

Позірк яе раптам выхапіў бярозу, што тырчала наводдаль. Бяроза дажывала век. Вецце яе было ўжо найбольш пасохлае, там і тут вятры абламалі галіны, ствол чарнеў старэчай карою... Ад гэтай бярозы Ганне стала

яшчэ страшней. «Ето ж — я сама! — пранізала яе думка.— Такая ж і я!..»

Слёзы, як ні стрымлівала іх, набеглі на вочы, затуманілі позірк.

Згадала, як канала малая. Як засыпалі зямлёй труну. Адчуванне бяды, вялікай, як свет, непапраўнай ніколі, напоўніла яе, сціснула балюча горла. Усё жыццё пакутаваць ёй, усё жыццё ісці з бядою. Жыць без шчасця, без уцехі, без якой-небудзь надзеі на прасветліну!

Яна ўпала на павялую, халодную траву, і плечы яе затрымцелі ад горнага, роспачнага рыдання.

Яна плакала доўга. Доўга ляжала без слёз, ціхая, стомленая, спусцелая. Калі раптам цвёрда ўстала, не глядзела ўжо навокал. Вочы нібы не бачылі нічога, зрэнкі былі вузкія, вострыя, сухія. З дзіўным, такім не падобным на нядаўняе спакоем падумала: «Няўжэ ж так і далей будзе? Не пераменіцца няўжэ?.. Увесь век!..»

Спакойна ж, з нейкай злосцю, нават злараднасцю запярэчыла: «Не!»

2

З таго дня апанавала Ганну адна думка, адно жаданне: пабачыць Васіля. Спаткаць дзе-небудзь нялаcкавага, нядобрага, любага. Лежачы каля Яўхіма, які зморана спаў, яна душыла ў сабе глухую нянавісць, стрымлівалася, каб не ўстаць, не пайсці куды вочы глядзяць. Далей — з гэтай даўкай цемры, з задухі гэтай. Трэба ж было ляжаць спакойна, не варушачыся, бо свякруха таксама часта не спала,— Ганне было чуваць яе крахтанне ды божканне. Часам здавалася, што старая прыслухоўваецца ў цішы да Ганніных нядобрых думак, каб заўтра расказаць пра ўсё сыну, накінуцца на яе.

Прыслухоўваецца. Няхай прыслухоўваецца. А яна, Ганна, будзе думаць пра тое, пра што хочацца, што любае. Пра Васіля! Што ж ёй, думаць нельга аб тым, што адно дае ёй цяпер уцеху! Яна ж, можа, і жыве цяпер толькі тым, што ён недзе ёсць, што, можа, таксама вось так ляжыць і думае пра яе...

Не, не думае. Даўно з галавы выкінуў усе думкі аб

ёй. І ці дзіва, чаго яму думаць, калі ў яе — чалавек, а ў яго — жонка?

А яна вось думае пра Васіля. Ведае, што — непатрэбнае, лішняе,— а думае. І думкі найбольш адны: то ўспамінае былое, то гадае, ці любіць ён жонку сваю. А над усім жаданае: як бы пабачыцца. Сказаць бы некалькі слоў, пачуць яго. А можна і не гаварыць, толькі б пабачыцца, ды каб не на людзях, а адным, каб ніхто не замінаў, каб не трэба было хаваць душу, таіцца. У такія хвіліны часта шукала думкамі, разважала: дзе б маглі сустрэцца, у які час...

Часта ва ўяве ўзнікалі жаданыя сустрэчы так ясна, што ў грудзях рабілася цёпла і хораша. Бачыла Васіля перад сабой, быццам быў напраўду тут, чула яго ласкавыя словы так, нібы ён і праўда гаварыў. Словы яго ў марах-яве былі заўсёды пяшчотныя, добрыя, такія якраз, якія хацелася, якія даўно не чула і якія, можа, не пачуе. І сама гаварыла яму пра тое, каб не крыўдаваў, каб дараваў, пра тое, які ён харошы і што любіла і любіць будзе яго аднаго, адзінага...

Днём, каб пабачыцца з Васілём, некалькі разоў хадзіла дамоў, да сваіх; ступаючы паўз Васілёву хату, мімаволі насцярожвалася, коса паглядвала на яго двор, на шыбы. Аднойчы ўбачыла: Васіль перапрагаў каня каля ганка. Заўважыўшы яе, знарок адвярнуўся — яна потым цэлы тыдзень хадзіла журботная. Другі раз бачыла яго з бацькавага агарода: браў сена з воза, насіў у гумно. Быў не адзін, з Маняю, стары Дзяніс побач стаяў, штосьці гаварыў яму...

Цяпер, калі ў Глушакоў бульбу пакапалі, прыйшла да сваіх, памагчы; таіла ўцеху — хоць здалёк, хоць з жонкаю пабачыць яго. Загоны бульбы, бацькаў і Васілёў, былі побач.

Бульба на Васілёвым загоне была яшчэ не дакапана. Але ні Васіля, ні Мані не было, капала адна яго маці. Ганна сказала вінавата ёй «добры дзень».

— Не кончылі? — прамовіла да маці, абы не маўчаць.

— Не кончылі... Клопат розны, не ў пару...

Ганна заўважыла, што старая не крыўдуе, і ёй палягчэла. Спадзеючыся, што маці скажа, дзе Васіль, запыталася:

— Які клопат?

— Які ж! Гарпіна, Маніна сястра, што ў Алешніках, захварэла. Дак от Васіль паехаў з Маняю. Мо дохтара трэба...

— І што, хворая вельмі?

— Сястра? Зжоўкла на лісток лазовы!..

— Бяда якая! — паспачувала Ганна.

— І не кажы! Бяда!..

— А я сваім хачу памагці... Карціць таксамо...

— Аге ж! Ведамо!..

Ганна пайшла да сваіх. Бацька выслізганым жалезняком падкопваў бульбяныя карчы, а мачыха і Хведзька выбіралі. Мачыха выпрастала спіну, з падазронасцю зірнула на Ганну.

— Пра што ето вы там?

— Так. Нічого...

Рыючы зямлю, Ганна раз-пораз паглядвала на дарогу, што ішла з сяла: ці не едзе? Па дарозе то з сяла, то ў сяло поўз чый-небудзь кош; Ганна з надзеяй углядвалася ў тыя, што выкіроўваліся ў поле,— можа Васіль? Васіля не было.

Ён прыехаў пасля абеду. Адзін. Ледзь убачыла яго, адчула, як кроў прыліла ў твар. Галаву не ўздымала, чамусьці цяжка было ўзняць, сэрца білася часта і горача. Але і не падымаючы галавы адчувала, як ён пад'ехаў, чула рыпенне яго калёс, яго голас. Што сказаў ён маці, не разабрала, вецер аднёс словы.

Ганна пакпіла з сябе: трэба ж, перажывае, як нейкая дзяўчынка! Вочы баіцца ўзняць, як зладзейка. Дзівачка! Здаецца, ён пазірае на яе, сочыць, бачыць, як яна збянтэжылася. А яна вось зараз возьме ды таксама паглядзіць на яго, проста ў вочы. Хай судзіць!..

Узняла вочы на яго. З намаганнем, з трывогаю. Ён не глядзеў, ён памагаў маці капаць. Васіль, здавалася, быў увесь адданы свайму занятку. Гэта было відаць па тым, як рабіў, па ўсёй яго постаці. Не глядзіць, нават глядзець не хоча. Што ж, няхай не глядзіць, ёй гэта і не трэба!

Але Ганна не магла не паглядваць на яго. Яе позірк нібы прыцягвала да Васіля. Усё навокал перамянілася з той пары, як прыехаў Васіль; яе сэрца, здавалася, чула набліжэнне навальніцы, далёкі, жаданы і трывожны падступ грому, ад якога страхам і радасцю ныла ў грудзях. Усе думкі, уся яе ўвага былі цяпер

у тым баку, дзе заклапочана схіляўся Васіль. Чаму ён адзін прыехаў? Дзе Маня, жонка яго?

Яна трывожылася, што Васіль паедзе рана, што мачыха затрымаецца позна. Ледзь ухавала радасць, калі пад вечар мачыха стала хапацца дадому: карміць скаціну. Як насыпалі кош, яна і падалася з возам. Бацька таксама пайшоў: правіў канём. Ганна асталася, сказала: яшчэ хоча пакапаць. Не разгінаючыся, выбірала бульбу, кідала ў каробку. Хоць галавы не ўздымала, адразу ўгледзела тое, што хацела: падалася нарэшце ў сяло Васілёва матка. Астаўся толькі Хведзька.

Надыходзілі раннія асеннія поцемкі. Людзі, кашы з бульбай адзін за адным выпраўляліся з поля.

Ганніна сэрца білася моцна, трывожна. Цяпер самы час. Цяпер ці ніколі. Няўжо не падыдзе, не захоча падысці да яе? Насцярожаная, слухала, чакала. Не, не ідзе, не хоча. І так не цярпелася ўбачыць бліжэй, так баялася, што час міне і ім ніколі ўжо не ўдасца пабыць так, як марыла даўно,— удваіх, адным, што не ўтрывала. Кінула збуцвелае каліва бульбоўніку, забыўшыся на ўсе трывогі, на ўсё, хутка, пахапліва падалася напрасткі да яго.

Ён разагнуўся, выцер аб штаны рукі. Глянуў хмурна.

Ганна, спыніўшыся перад ім, перавяла дыханне. Родны, які родны! Ці не ў сне гэта? Убачыла на зрэбнай, з плямамі зямлі сарочцы латку, няўмела прышытую. «Сам, мусіць, прышываў!» — і горыч віны, і пяшчота, і жаль нахлынулі на яе.

— Васіль...

Толькі і змагла сказаць. Але як прамовіла — так, як тады, у многія бяссонныя ночы, калі пра яго думала.

У Васіля раптам дробна, па-дзіцячы бездапаможна задрыжалі губы. Не змог ухаваць крыўды.

Стаялі моўчкі. Ганна загаварыла першая:

— Даўно не бачыліся...

Яна прамовіла не так, як трэба было: чамусьці радасна. Ён адказаў халаднавата:

— Даўно...

— Падрос ты... Мужчына ўжэ...

— Пара́...

— Я цябе бачыла...
Ён не пацікавіўся, калі.
— Ты каня перапрагаў... Ехаць, мабуць, сабіраўся кудысь...
Зноў памаўчалі.
— Я цябе сам бачыў...
— Ты адвярнуўся...
— Не тады... Як да сваіх ішла...
Узрадавалася.
— Калі?
— Пазаўчора...
— Па загуменні?!
— Я ў гумне буў...
— Ты?.. Я Валодзьку бачыла...
— Мы ўдваіх... Я ў гумне, ля варот...
— А я не знала.
Словы гэтыя вырваліся самі сабой, у іх было шчырае, непрытоенае шкадаванне. Таксама шчыра, але крыху пакрыўджана папракнула:
— Не выйшаў... Схаваўся...
— Я знарок...
— Чаму? — Ганна выціснула: — Гадкая я табе?
— Чужыя... у цябе — сваё, у мяне — сваё...
— Чужыя? — стрымалася: — А дзе Маня?
— У Алешніках. З сястрою асталася.
Ёй упала ў вочы яшчэ латка, акуратна прышытая, пэўна, жонкаю.
— Як табе жывецца?
— Так... Жывецца...
— Маня — добрая. Працавітая... Акуратная...
— Акуратная...
Ён не хацеў гаварыць пра жонку. Зноў трохі памаўчалі. Васіль адолеў сябе, сваю чужацкасць, кінуў спадылба раўнівы позірк:
— А ты як?
— Не пытайся...
— Багачка!..
Губы яе кпліва смыкнуліся:
— Багачка...
Яна момант яшчэ стрымлівалася. Таіла горыч і шкадаванне, як звычайна. Як усе месяцы, усе гэтыя гады, ад усіх. Звыкла ўжо таіцца. Але — чаго ж таіць ад яго? Каму ж і адкрыцца, як не яму?

Апаліла Васіля вачыма:
— Вася, мне тое багацце... во! — Ганна парывіста правяла рукою па шыі.— Хай яно — агнём!
Ён збянтэжыўся:
— Рабіць багато застаўляюць, кажуць...
— Калі б тое адно...
— І б'е ён, чутно було...
— Усяляк бувае...
Таілася момант, з даўняй нязменнай звычкі не паказваць іншым бяду! Але толькі момант. Больш, каб і хацела, не змагла б таіцца. Шчыра, з нейкай адчайнай рашучасцю выдыхнула:
— Магіла то мая, Вася!
— Магіла?..
Неспадзявана і для Васіля, і для сябе Ганна горача з той жа рашучасцю запытала:
— Вася, табе не шкода, што ў нас так... няскладно?
У яго лягла хмурынка між броваў. Ёй нічога не трэба, ёй толькі ведаць хочацца. Толькі ведаць, не для якіх-небудзь думак, разлікаў, а так, для душы. Глядзела на яго, чакала, замёршы ўся:
— Не шкода, Вася?
— Чаго гаварыць!..
— Не шкадуеш, скажы?!
— Пустое ето!
Ён праўду кажа, не трэба пытацца. Пустое. Але ж ёй так хочацца ведаць!
— Скажы, Вася! Я хочу знаць!
— Што з таго — шкадуеш, не шкадуеш?!.
— Скажы! Я хочу, Вася, скажы!.. Не шкадуеш?
— Ну, от! — Ён нібы гаварыў: прыйдзе ж у галаву такая непатрэбшчына.— Кончано ж усе...
— Кончано?
— Ну, ты ж знаеш! Ты ж...— Васіль зазлаваў. Няхай злуе, так лягчэй, так лепш, чым гэты нядобры холад.— Ты ж пачала ўсё...
Яна згадзілася — нібы з радасцю:
— Я... Я вінавата... Я...
Вочы яе хутка заслала слязамі. Ганна закрыла твар далонямі.
— Людзі ўбачаць.
— Няхай бачаць. Што мне, і паплакаць няможно ніколі?..

— Гаварыць будуць...

— Няхай гавораць! Ты — баішся?

— Я? Мне — што?

Ганне палягчэла: пра яе непакоіцца! Пра яе думае — значыцца, не зусім абыякавы.

Яна ціха, як бы не верачы сабе, сказала:

— Ты... ты не забуў саўсім, Вася?..

Ён не адказаў. Дзіўныя пытанні часам у гэтых жанчын бываюць. Абы запытацца.

Яна ўсё зразумела і без слоў.

— Не забуў, Вася!.. Вася, мне зараз так добра!.. Мне больш нічого і не трэба було. Толькі знаць ето, і ўсё!

Ганна са слязамі ў вачах усміхнулася:

— Е і ў мяне радасць!

Васіль аб нечым думаў.

— Пра што ты, Васіль?

— Ды от... Як нам цяпер?..

Да іх ішоў Хведзька. Убачыўшы гэта, Васіль недавольна нахмурыўся. Ганна здагадалася — не падабаецца, што прыйдзецца спыніць размову. Адчула, якое жаданне з'явілася ў ім, якія словы зараз сарвуцца з яго неспакойных губ, сказала сама:

— Вася, давай — пабачымся!

— Як?

— Ну, я... прыйду... Куды толькі?

— А калі?

— Хоць заўтра! Як сцямнее...

Ён зірнуў, як бы сам пытаўся:

— К гумну, хіба? Дзе яблуня?..

— Добра.

Калі ішла назад, не чула пад сабой зямлі. На сваёй паласе раптам гарэзна абхапіла Хведзьку, сціснула. Хацелася смяяцца, крычаць: не забыў, не выкляў, любіць! Любіць!

## 8

Ні ў тую ноч, ні ўдзень потым нічога больш не было асаблівага, усё было, здавалася б, як і раней. Так жа божкала за дзвярыма свякруха, так жа хроп, разлёгшыся на ложку, Яўхім; так жа рана ўсхапілася, даіла карову, паліла ў печы, марнавалася з будзённымі,

заўсёднымі клопатамі. Але ці ляжала, за ўсю ноч не счыніўшы вачэй,— ціха, нястрымна ўсміхалася ў цемру; ці хадзіла, завіхалася днём — ледзь магла ўтрымаць смех, шырокую радасць. Нагам было лёгка, рукі бегалі спрытна, весела: нібы і не заўсёднае, ненавіснае, рабіла. Што б ні рабіла, успамінала Васіля: кожную рысачку на твары, кожны знак пяшчоты, кожнае слова шчырай і труднай, поўнай вялікага значэння гаворкі. Вясёлая надзея ні на момант не ўціхала ў Ганне, трывожыла і трывожыла нецярплівым, радасным чаканнем.

«Сягоння. Сягоння, увечары!..— нібы штосьці спявала ў ёй.— Сягоння!.. Хутчэй бы той вечар!..» Час ад часу ў спеў гэты ўрывалася неспакойнае: каб не перашкодзіла што-небудзь! — але не магло ўтрымаць радасць. Жыло, віравала ў думках, у грудзях адно: «Сягоння. Сягоння, увечары!..»

Раўнівая Глушачыха хутка заўважыла незразумелую перамену, паглядзела на яе з падазронасцю.

— Што ето носіць цябе, як нячыстая сіла...— прабурчала яна ўслед Ганне.

«Пачула, старая скнара! Носіць!.. Носіць! Толькі не нячыстая сіла! — падумала Ганна са злой радасцю, з помстай. Увайшла ў сваю палавіну, убачыла на лаве, на стале сонечныя паскі, засмяялася.— Дзень які! Як свята!.. А хіба ж не свята? Свята, маё свята!»

Пасля абеду, хаваючы нецярплівасць, знарок абыякава сказала, што пойдзе да сваіх, памагчы. Старая, што аказалася якраз у іх палавіне, упікнула:

— От гаспадынька, называецца! Гаспадынька! Толькі і думкі, што пра другіх, пра чужых! Чужыя ёй даражэй!

Ганна, не тоячы непрыхільнасці да яе, адрэзала:

— Яны мне не чужыя!

— Як ты гаворыш з маткаю? — умяшаўся Яўхім, здымаючы з кручка аброць: надумаў з'ездзіць у лес.

— Як гавару? Як трэба!

— Не навучылі, мабуць, цябе!

— Не навучылі! Цябе не папыталіся!..

— Яўхімко, як ты трываеш! Як ты пераносіш ето!.. От да чаго — дабрата твая!

Яўхім сказаў пагрозна:

— Не навучылі, дак я навучу!

— Навучы! Навучы, Яўхімко!

— Позна мяне вучыць! I не вам!

Яўхім, здзіўлены, паглядзеў на жонку. Штосьці новае, незвычайнае было ў ёй, у яе голасе, у позірку. Ён прывык да тупой, нярадаснай пакорлівасці яе, і тое, як Ганна цяпер абыходзілася з ім і маці — смела, незалежна, нават задзірыста,— было незразумелым.

— Не мне, кажаш, вучыць?! — Яўхім густа пачырванеў. Рукі яго задрыжалі. Ён раптам крыкнуў: — Не мне?!

Яўхім раз'юшана ўскінуў аброць. Апярэджваючы яго, Ганна затуліла твар далонямі, уціснула галаву ў плечы.

Удар упаў на рукі, на сківіцы.

— Не мне?!

Яўхім ударыў другі раз.

Не думаў, што Ганна кінецца ў ногі, стане прасіць літасці, ведаў ужо яе, але чакаў, што загалосіць. Плакала ж раней, бывала. Цяпер не заплакала. Калі адняла ад твару далоні, убачыў: вочы зусім сухія. Глянула на яго з такой нянавісцю, што яму на момант стала няёмка. Яўхім, аднак, прыгразіўся:

— Я цябе навучу!

— Дзякуй!.. Навучыў ужэ!..— Голас у Ганны быў хрыплы, жорсткі.— Не забуду!..

З рассечанай цуглямі Ганнінай далоні цякла кроў, кроплямі падала на падлогу.

Старая маўчала, гледзячы то на нявестку, то на сына.

— Помні! — Яўхім важка павярнуўся, моцна бразнуў дзвярыма; затупаў у сенцах, на ганку.

Пасля таго як ён выйшаў, Ганна і свякруха не перамовіліся ніводным словам. Неўзабаве ён праехаў паўз вокны, прарыпеў, адчыняючы і зачыняючы, варотамі. Старая стаяла каля акна, сачыла за ім, пакуль ён не схаваўся з канём на вуліцы.

Ганна сабралася ісці да сваіх. Глушачыха праводзіла яе позіркам непрыхільным, ненавідным, але нічога не сказала.

Вуліца з краю ў край блішчала цягучай, як дзёгаць, граззю, якая ў гэтыя дні не высыхала. Пасярэдзіне вуліцы гразь была перамешана конскімі нагамі, калёсамі, было яе там столькі, што часта даходзіла да га-

ловак колаў; людзі звычайна ліплі бліжэй да платоў. Каля плота ішла і Ганна. Гразь была ўжо халодная, і босыя ногі моцна стылі. Яна не чула гэтага.

Дзень быў такі ж ясны — рэдкі, незвычайны ў гэтую познюю асеннюю пару, але Ганна не заўважала ўжо святочнай яго яснасці. Трапляліся сустрэчныя, віталіся з ёю, яна адказвала нібы спакойна. Хавала ў сабе свой смутак. Хто-ніхто азіраўся ўслед ёй: чулі ўсё ж, што бяду нейкую тоіць. Не здзіўляліся амаль, ведалі, як ёй з Глушакамі жывецца...

Бацька і Хведзька былі на прыгуменні, ладзілі капец. Ганна стала памагаць ім перабіраць бульбу. Рупячыся гэтым, сярод сваіх, яна паспакайнела, і думкі пайшлі цвярозыя, рашучыя. «Не буду, не буду я цярпець!.. Нашто і жыць, калі так... Кіну ўсё, кіну!..»

Між гэтых думак яна ўспамінала сустрэчу з Васілём, успамінала зноў з любасцю ўсё, што ён казаў, слова за словам, думала пра вечар, які набліжаўся. Ганне было радасна і трывожна. Ці будзе ён, гэты вечар, ці будзе ўсё так, як хочацца: ці прыйдзе Васіль? А што, калі якая неспадзеўка перашкодзіць ім? А што, калі ён перадумае?

Гэта было б такое няшчасце! У яе ж цяпер уся радасць, уся надзея на яго. Прыйдзе, прыйдзе — супакойвала сябе, старалася заглушыць трывогу.

Ледзь павячэрала ўпоцемках са сваімі, выйшла на двор. З двара агародам на прыгуменне, на дарогу за гумнамі. Яшчэ не дайшоўшы да Васілёвага гумна, стала; трэба было аддыхацца: сэрца моцна, няўціхна калацілася. Чаго яно так калоціцца? Такое неспакойнае, узрушанае, трывожнае...

Ногі стылі. Было холадна. Ад няласкавага ветру, што находзіў моцнымі хвалямі, біў у твар, поўз за каўнер, вечар здаваўся проста сцюдзёным. Ганна ледзь стрымлівала дрыжыкі. Неба звісала вельмі нізка, толькі недзе далёка за балотам цьмяна тлела тоненькая паска. Гумны, платы, дрэвы чарніла макраватая цемра. Дайшла да Васілёвага прыгумення. Паслухала, ціха адчыніла вароты. Тут за вуглом гумна павінна быць яблыня. Вось яна. Ганна стала, агледзелася. Дзе Васіль? Яго не было. Ганна прытулілася да яблыні, пачула, як сіратліва гайдаецца-шуміць голае голле..,

Яшчэ здалёк пачула шарганне крокаў, Хтосьці

ішоў да прыгумення. Ён ці не ён? Калі пройдзе па сцежцы, значыцца, не Васіль; зверне сюды — ён. Насцярожана чакала. Чалавек звярнуў да яе, наблізіўся; стала відна ў змроку цёмная постаць.

— Ты? — прашаптала яна.

— Я.

— Запазніўся...

— Прыехаў позна...

Стаялі, маўчалі, але самі поўніліся пачуццямі, чаканнем. Не радасныя, не бесклапотныя былі гэтыя пачуцці, не лёгкае — чаканне; зусім інакшае было ўсё, як тады, тры гады назад, калі ён быў нежанаты, і яна не замужам. І не чалавек яе, і не жонка яго адны былі гэтаму віною. Ні ён, ні яна не думалі пра іх, і Васіль і Ганна жылі ў гэты момант толькі сустрэчай, адчуваннем таго, што, як калісьці,— яны зноў у цемры адны. А ўсё ж радасці і блізкасці ранейшай не было. Штосьці і радніла іх, і прыцягвала аднаго да адной, і стрымлівала, аддзяляла.

Перажытае паасобку — многія дні, месяцы — мяжою ляжалі між іх... І не чужыя быццам былі Ганна і Васіль, і — як бы чужыя...

Васіль пачуў, што Ганна дрыжыць.

— Холадна?

— Аг-ге...

— Хадзем у гумно. Зацішней там.

— Не трэба. Хутка дад-дому...

— Пакуль тое.

Усё ж пайшла за Васілём. Паслухмяна праціснулася ў прачыненыя вароты. У гумне здалося цёпла — не хадзіў сцюдзёны вецер. Але ток быў — як лёд.

— Тут салома ў застаронку,— ціха сказаў Васіль.

Салома падатліва асела пад імі, атуліла з бакоў. Ганна ўкапала ў салому ногі, адразу стала ўтульней і цяплей. Пахла прэллю са страхі, токам, свежай, нядаўна памалочанай іржаной саломай. Угары, недзе пад страхой, ціўкнуў спрасонку верабей.

Васіль нязграбна, як бы першы раз у жыцці, абняў Ганніны плечы.

Стаў лашчыць яе, туліць да сябе. Спачатку нясмела, няўпэўнена, але чым далей, то смялей, гарачэй. Гэта быў ужо не той сарамлівы, дзікаваты Васіль, але яна не думала пра гэта. Не тая была і яна. Ды што з таго:

ім было так хораша. Яна не праціві лася, сама тулілася да яго. Яна пацалавала яго, так, што ён як не задыхнуўся; і — тулілася, тулілася, дрыжучы ўся, як у ліхаманцы, ад агню, што поўніў яе, ад нецярплівасці, ад прагі — быць бліжэй, бліжэй з ім...

— Вася, мілы! Родны!.. Вася!..

Потым ляжалі ціхія, паспакайнелыя. Доўга не гаварылі. Раптам, з роспаччу, Ганна прызналася:

— Не вытрываю я, Вася!..

Васіль, адчула, зірнуў — нібы не зразумеў.

— Я, можа... утаплюся...

Ён насцярожыўся:

— Ну, ты... тое!..

— Табе аднаму кажу... Не пытайся болей! Не хачу пра яго!

Ганна парывіста, горача зашаптала:

— Родны ты мой!.. Буў ты ў мяне адзін!.. І адзін астаўся... хоць я цябе і не бачу... Ты — толькі адзін!.. І ўсё няпраўда, што гаварылі колісь — пра мяне і пра яго. Няпраўда. Не було ў нас да вяселля нічога! Як перад богам кажу, як на споведзі! Няма мне чаго выдумляць. Усе плёткі тыя — няпраўда!.. Ты ў мяне буў адзін, адзін і астаўся. Я, можа, толькі і жыву цяпер, што ты е... Ты ў мяне і цяпер адзін, адна радасць. Я таму і прыйшла. Ты не думай нядобрага...

— Я і не думаю...

— Можа не трэба було — набівацца на сустрэчу, але мне так хацелася хоць трохі пабуць удваіх! Хоць слово сказаць, хоць пачуць слово...

Яна раптам прызналася, шкадуючы:

— Злая була я тады на цябе. Не паверыў! Другім паверыў, а мне дак — не!..

— Гаварылі ж людзі...

— Гаварылі!.. І ўсе-такі мы памірыліся б, мабуць, кеб не мачыха. Вельмі ж ёй дабра Карчовага захацелася! Сваячкай Карчовай захацелася стаць!..

— Я дак зразу нейк прывыкнуць не мог, што ты пайшла...

— Я і сама думала патом: як я згадзілася! Як магла так зрабіць! Як магла!

— Не свая ахвота...

— А вінавата, выходзіць, сама.— Яна сказала цвёрда: — Сама вінавата! Самой — і бедаваць век!

## 4

Свет не без добрых людзей. Чутка пра Ганніны спатканні з Васілём вельмі хутка дайшла да Глушаковай хаты. Першай, мабыць, даведалася Халімоніха, прынесла вестку ад некага з суседак, зразу ж стала сарамаціць, клясці Ганну. Неўзабаве даведаўся стары — слова не сказаў, але зірнуў тхарынымі вачыма так, што ўсярэдзіне ў Ганны заныла ад страху.

Яўхіма не было. Ён прыехаў з поля пад вечар. Адразу, як толькі ён уз'ехаў на двор, Халімоніха кінулася да яго, але стары Глушак вярнуў яе з двара. Стары і Яўхім разам падаліся з калёсамі к павеці. Потым вярнуліся ўдвух на бацькаву палавіну. Калі яны ўвайшлі, стары загадаў Халімонісе, каб дала есці,— Глушакі паселі вячэраць. Яўхім, мабыць, таксама сеў за стол; адразу не зайшоў у палавіну, дзе была, чакала бяды Ганна.

Яна здагадвалася: Яўхіму ўжо расказалі — ведае аб усім. Сядзіць, моўчкі жуе, кіпіць злосцю. Праз забітыя дзверы чула: усе маўчаць — хоць бы слова прамовілі; усе душацца злосцю, прагнуць помсты. Ганніна сэрца ныла нядобра — што ж гэта будзе? Трывога гнала з хаты — уцячы, выбавіцца! Але як ты ўцячэш, і куды ты ўцячэш — мужава жонка!.. Пустое ўсё. Усё адно — рана ці позна не мінавала б! Усё адно... Чаго ж яна баіцца — хіба ж не ведала, што так будзе?.. Да слыху дайшло: цікаюць ходзікі — роўна, мерна. Завыў на двары сляпы сабака. Цягуча, доўга...

Вось пачалі ўставаць. Яўхім выйшаў. Зараз сюды ўвойдзе. Адчыніліся дзверы, цвёрда затупалі боты, бліжэй, бліжэй. Ганна сціснулася.

Ён стаў побач. Хвіліну маўчаў, адно соп сярдзіта, важка. Але прамовіў як бы спакойна:

— Зноў — знюхалася?..

— Аб чым ето ты? — нібы не зразумела Ганна.

— Не знаеш?

Вочы яго праціналі Ганну. Рот крывіўся злосцю, нянавісцю, лютасцю. «Звер! — мільганула ў галаве Ганны.— Заб'е! Насмерць!..» Чула сябе кволаю, бездапаможнаю, але стрымлівала страх, старалася, каб не бачыў, што яна баіцца... Яна і не баіцца! Няхай — што будзе, тое будзе!.. Усё адно — рана ці позна!..

Адзначыла мімаволі: за дзвярамі свякруха не бразгала посудам, ліпла, мусіць, да шчылін. Стары не падаваў голасу — прыслухоўваліся, чакалі...

— Не знаеш?

— Скажаш, мабуць!..

Яўхіма прарвала:

— С-сука!

Не ўправілася адхіліцца: Яўхімаў кулак ударыў у скіўцу — нібы гіра. І ойкнуць не паспела, як упала. Затуліла адно твар рукамі. Яўхім люта, колькі сілы, ударыў ботам раз, другі — ёй заняло дыхаць. «Заб'е!.. Ну, і няхай!.. Усе адно!..»

Яўхім і забіў бы, можа. Б'ючы, ён не толькі не спатольваўся, а шалеў яшчэ больш. Шалеў асабліва таму, што жонка-блудніца хоць бы голас падала, хоць бы застагнала! Не толькі не прасіла літасці, а і болю не паказвала!.. Апантаны злосцю, Яўхім не заўважыў, што дзверы з сенцаў расчыніліся і ў іх паявіўся Сцяпан, якога трымала, цягнула назад Глушачыха.

— Сцяпанко, не твае... Не чапайся...

Але Сцяпан вырваўся, кінуўся к Яўхіму, хацеў адпіхнуць ад Ганны, толькі дзе там — Яўхім таўхануў так, што ён паляцеў патыліцай да печы:

— Не лезь!!!

Тут на падмогу Сцяпану падскочыў ужо ўстрывожаны стары Глушак, каршаком кінуўся наперад Яўхіму, стукнуў сына ў грудзі:

— Стой! Стой, кажу!!.

— Тато, сыдзіце,— на момант запыніўся, прахрыпеў чырвоны, з дзікім позіркам Яўхім, гатовы кінуцца, здаецца, на бацьку; але Глушак зноў стукнуў яго, прасіпеў злосна:

— Дурань! Абоўдзіла!

Не даючы сыну апамятацца, адпіхнуў яго. Ужо калі Яўхім, яшчэ ўвесь трасучыся ад не пережытай лютасці, адышоў, сеў на лаўку, Глушак сярдзіта папракнуў, як малога:

— Бі — да знай меру!

Поўны крыўды за сябе і гневу, да Яўхіма падступіў Сцяпан:

— Ето, ето... За ето, знаеш, што можа буць!!.

— Не сунь носа!

— Другі раз — у міліцыю заяўлю! — закрычаў Сцяпан.— Пад суд пойдзеш! У цюрму!

— Не лезь! — ускіпеў Яўхім, аж узняўся на лаве.— А не — дак!..

Халімон зіркнуў на Сцяпана, на Яўхіма, загадаў малодшаму:

— Ідзі адсюль! Не тваё дзела!

Глушак павёў позіркам: нявестка ўжо стаяла, спіной да ўсіх — трохі сагнуўшыся, трымалася за бок. Раз-пораз ускідвалася ад нейкага нутранога болю, аж захліпалася, але маўчала. Яўхім таксама маўчаў, яшчэ ўзрушаны,— нерухомыя, лютыя вочы нічога, здаецца, не бачылі. Стары адчуваў, што ў любы момант ён можа кінуцца на Ганну зноў.

Глушак вывеў Яўхіма на сваю палавіну...

Штосьці ў баку рэзала Ганну так, што зацінала дыханне. Як касой рэзала бок. Боль быў такі, што трываць, здаецца, не было як. Але трывала, супакойвала: ну, от усё, самае страшнае перабыла! Дайшло ўжо, дазнаўся, папомсціўся! Няма чаго таіцца — і баяцца няма чаго.

У суседнім пакоі стары Глушак, хоць бачыў, што Яўхім слухаць нічога не хоча, не ўцерпеў, упікнуў:

— Казаў я табе, казаў, калі табе жонкі захацелася! Не туды шлеш, казаў! Не паслухаў!.. Разумнейшы за бацьку быў! Бацько — нічога не петрыць! Бацько — дурань!.. Дак от — паспытай! Сам хацеў етаго!

Памаўчаў, дадаў павучальна:

— А толькі — вучы асцярожна! У меру! Калі хочаш буць цэлы!..

Яўхім не сказаў нічога.

## 5

З гэтага дня ў Глушакоў зноў узгарэлася вайна. Не мінала дня, каб Яўхім не лаяў, не біў Ганну, злосна, бязлітасна. Як заўсёды, яна цярпела гэтае біццё моўчкі — толькі вішнёвыя вочы гарэлі ўпартым, нядобрым агнём. Разам рабілі Ганна і Яўхім у гаспадарцы, разам сядзелі за сталом, ляжалі ў ложку, а былі як бы аддзелены непераходнай мяжой. Былі як ворагі, скаваныя адным путам.

Цяпер вечарамі Яўхім часта прападаў у Ларывона.

Яна тым часам упоцемку клалася спаць, але сон не браў — з цягучай, няўціхнай тугою, як пакуты, чакала, калі затупаюць на ганку яго боты. Не адзін раз паўтаралася адно і тое ж: загадзя ведала, што будзе, калі ён, п'яны, пануры, прыцягнецца.

Яўхім вобмацкам сунуўся да ложка, важка садзіўся, соп, сцягваў боты. Боты не слухаліся, ён нецярпліва мацюкаўся, сцягнуўшы, кідаў водмаш, грымотна, лез пад коўдру.

Ганна чула едкі, дурнотны пах самагонкі — яго цяпер звычайны пах, чула натужнае, злое сапенне, ляжала нерухома, паказвала, нібы спіць. Але яго гэта не толькі не стрымлівала, а злавала больш.

— Сука! — кляў ён.— Га́дзіна! — У розныя вечары словы былі розныя, але сэнс іх быў звычайна адзін.— І знайшла каго! Прамяняла на каго! На ету гніду!..

Яна не гаварыла нічога, не толькі таму, што ён не любіў, каб пярэчыла. Не хацела, не магла вінавацiцца, апраўдвацца, не шукала сцежкі да прымірэння. Нават калі ён, звярэючы ад яе маўчання, непадатнасці, пачынаў шалёна гнуць ёй плечы, круціць рукі, трывала боль, не прасіла літасці. Толькі часам, калі цярпення не ставала больш, гразілася, што пойдзе ў раён скардзіцца ці ўцячэ...

— Ткніся толькі туды, у раён! — сіпеў Яўхім.— Толькі папробуй, дак — пабачыш!.. Папробуй уцекці! На вяроўцы прывяду! Як суку паганую!..— Не адзін раз, як бы ўжо цвёрда надумаў, гразіўся: — Заб'ю! Зарэжу, калі што якое!.. Няхай арыштуюць, засудзяць, хоць у Салаўкі сашлюць! Плявадь! А ўсе адно не жыць табе, калі што якое!..

Бачыла, што не пляце попусту, што, калі прыйдзецца, спраўдзіць сваю гразьбу,— то таіла страх у сабе, аж ляжаць спакойна не магла побач, то чула лёгкасць, бясстрашнасць: чаго ёй дрыжаць за такое жыццё, няхай яно прападзе пропадам! Адно не мянялася ў Ганны: хоць ведала, што не толькі злосць і лютасць жывуць у ім да яе, ні на міг не пашкадавала Яўхіма, не зжалілася над яго дурным каханнем. Бы агнём выпаліла ў Ганніна душы спагаду, шкадаванне да яго.

Чуючы, як ныюць плечы, баліць усё цела ад Яўхімавай «ласкі», цешылася ўспамінамі пра спатканні з Васілём, радасцю сустрэч, і такіх яшчэ блізкіх, чут-

ных, і тых, якія, здавалася, даўно ўжо нібы забыліся.

І весела, горка было ад тых згадак. Што б яна аддала цяпер за тое, каб зноў вярнуць бесклапотнае, неразумнае шчасце, якое некалі само ішло да яе! Каб не Яўхім, а Васіль от так быў побач — няхай маўклівы, хмурны, недавольны якою няўдачай, часам няхай — несправядлівы, недаверлівы да яе, але ўсё ж — жаданы, любы, родны. Адзін — любы, адзін — родны, адзін на ўсім свеце.

У цёмнай, душнай цішыні бяссонных начэй упарта, учэпліва церабілі Ганну думкі-мары: як бы зноў спаткацца, хоць на момант, хоць адным словам перамовіцца! У гарачай, растрывожанай галаве, як сон увачавідкі, узнікалі добрыя, шчаслівыя малюнкі: сустрэліся раптам, калі ішла па загуменню да сваіх. Нікога навокал, толькі ён ды яна; Васіль так рады ёй, што відаць — чакаў, не мог дачакацца. Стаіць, маўчыць, толькі цісне руку, так балюча цісне, што трываць, здаецца, няможна. Але ёй як бы і не баліць, няхай цісне, няхай!.. А вось — на вячорках яна, прадзе з жанкамі кудзелю. Зайшло некалькі мужчын пагаманіць, і ён сярод усіх. Сядзіць, маўчыць, слова ёй не кажа. І яна маўчыць, не зірне нават на міг — ведае, што жанкі сочаць. Не глядзіць на Васіля, а сама ўсё бачыць. Усё разумее, як бы думкі яго чуе. І ён як бы чуе... Узяла прасніцу, пайшла нібы дадому... Ён неўзабаве за ёй... Зноў — удваіх, як калісьці каля плота... Цемра, дождж імжыць, а ім добра-добра...

Думкі-мары раз-пораз спыняў, цверазіў одум — разважная, разумная, ведала: пустыя яе спадзяванні, хваравітыя сны. Пустыя — не таму, што за ёй сочаць, што ў няволі яна, а больш таму — што не вольны ён.

У такія хвіліны здавалася сабе страшэнна, безнадзейна адзінокай. Душу паліла роспач, і з крыўдамі, што поўнілі Ганну, усё часцей упаўзалі, апаноўвалі, трывожылі ліхаманкавыя думкі: кончыць усё разам, у адзін момант! Трохі страху, нядоўга болю — і ні Карчоў, ні пакуты ніякай не будзе! Чортава вока на глінішчанскім возеры супакоіць ураз!..

За хвілінамі безнадзейнасці і адчаю прыходзілі вера і рашучасць: не ўсё яшчэ прапала! Усё можна яшчэ паправіць: свет вялікі, ёсць у свеце месца для яе і Ва-

сілёвага шчасця! Ці ж не бачыць яна, што не любіць Васіль сваю Маню!

Пазваць, пайсці з ім хоць на край свету, к шчасцю свайму!..

Як ніколі, нямілая была ёй цяпер Глушакова дамоўка. Як у няволі, у палоне, акружанай з усіх бакоў ворагамі чула сябе Ганна дзень пры дні. Як і раней, рабіла яна, што трэба было, але рабіла нібы заведзеная, поўная ў душы непрыхільнасці і нянавісці да ўсяго, што было Глушаковым дабром, Глушаковай уцехай. Не раз, не два кляла яна ў думках Глушаковы хлявы, Глушакова гумно, Глушаковых свіней, авечак, Глушаковых сабак. Кляла, звала з маўклівага неба пагібель на ўсё.

Цэлымі днямі, было, не перамаўлялася яна ні з кім хоць бы словам, не глядзела ні на кога. Не спрабавалі загаворваць з ёй і яны, толькі адзін Сцяпан немаведама чаму хіліўся да яе, ліп адданымі вачмі — але яна як бы і не заўважала ні яго прыхільнасці, ні самога яго.

Так і жылі: маўчалі, калі пораліся ў хаце, калі рабілі ў хлявах, у гумне, маўчалі за сталом. Усюды і заўсёды былі чужыя, нядобразычлівыя — непрыяцелі, якіх лёс, нібы на здзек, звёў у адной хаце.

## 6

У той самы дзень, калі чутка пра сустрэчы Васіля і Ганны ўлезла ў Глушакову хату, прыйшла яна і да Дзятлікаў. Першая даведалася пра гэта Васілёва маці, якой перадала нядобрую навіну Нібыта-Ігнаціха. Занепакоеная, устрывожаная вельмі, Дзятліха і знаку не падала таго, якім важкім каменем легла ёй на сэрца небяспечная бяда.

Не паказвала яна трывогу і сваім; толькі з таго, як сапглядвала час ад часу то на Васіля, то на Маню, як сачыла за імі, можна было б здагадацца, што гняце, паліць яе бяда. Тоячы страх свой, як ніколі лагодна хадзіла яна каля Мані, чым толькі магла, старалася памагчы, дагадзіць — нібы старалася пацешыць, парадаваць за крыўду, што зрабіў Васіль.

— Харошы які! — хілілася пры Мані над калыскаю з Васілёвым сынком.— Агу, агу!.. Разумны ж

які!.. Такі малы, а ўжэ знае, што да чаго!.. Смяецца! Агу, агу!..

Маня, як заўсёды, паволі, быццам ляніва, рабіла сваё, паволі, быццам ляніва, насіла папаўнелае цела. Васілёва маці, што ўвагі не зводзіла з яе, гонячы трывогу, знарок супакойвала сябе: «Не знае нічого»; супакойвала сябе, але супакаенне не прыходзіла: чула, што блізка тая пара, калі да яе, да Мані, усё дойдзе. Дойдзе, не абміне — і да бацькі, і да яе прыйдзе. У Дзятліхі проста з рук усё валілася.

За цеснай халупай, у якой яны яшчэ туліліся, цюкалі сякеры, былі чуваць мірныя галасы працы: стаўлялі новую хату. Зруб быў ужо складзены, рабілі кроквы: глядзі ды радуйся, здаецца,— от-от можна будзе перабрацца! А тут раптам — такое! І каб стаўляў кроквы іншы хто, а то ж Пракоп сам, Манін бацька, з сынам Пятром — Маніным братам. І лес вазілі, і чысцілі бярвенні разам, разам складалі; і склалі ж — глядзі — не наглядзішся: відная, прасторная, на дзве палавіны, хата, якой век не было б у іх, Дзятлікаў, адных. Нарадавацца не магла з Васіля: дабіўся свайго, дабіўся, чаго хацеў,— у людзі, лічы, выйшаў; сам выйшаў і сям'ю ўсю выцяг! І от — нá табе!.. Забыў даўно, думала, Ганну тую, забыў — і ўспамінаць не ўспамінае; аж не, аказваецца — і не забыў і не астыў. Зноў загарэўся, зноў пацягнула да той — як на бяду! То-та смутны быў апошнім часам, усё таіў нешта, усё тупаў без ранейшай ахвоты, хмурыўся, бы ў нейкім одуме! Яна гадала, што за прычына, баялася: захварэў можа — аж от яна, тая хвароба!..

Даўно не было ў Дзятліхі такога неспакою, як у гэты дзень. То каля Мані хадзіла, то выбягала на двор паглядзець на Пракопа з Пятром, на Васіля: Пракоп з сынам рабілі, як раней, спакойна, нічога яшчэ не ведалі. Сачыла за вуліцай, за суседнімі дварамі: здавалася, хто ні ішоў міма, вельмі ж цікаўна, усмешліва зіркаў у вокны, на зруб, на якім рупіліся мужчыны.

Як ніколі багатага баршчу наварыла, хлеба найбольшую буханку дала, сала добры кавалак дастала, парэзала на скаварoдку. Калі ўнесла з каморкі потную бутэльку гарэлкі, абцёршы фартуком, паставіла на стол, Пракоп аж вочы з-пад чорных навісаў-броў упяў здзіўлена.

— Пагрэйцеся бо з холаду! — сказала чула, зычліва.

Пракоп прамаўчаў, а Пятро давольна пакруціў галавою, засмяяўся:

— Расшчадрыліся нешто вы, цётко! Ці не ўлазіны ето рабіць хочаце сягоння?

— Аге, улазіны! — ледзь не вырваўся ў Дзятліхі сумны подых; яна адразу ж адагнала сум, пажартавала: — Баюся от, штоб гарэлка не ўсохла! — Дзятліха клапатлівай гаспадыняй захадзіла каля Пракопа і Пятра.— Пагрэйцеся бо, шчырыя вы нашы! Холадно ж нешто стало. І восені, можно сказаць, небагато, а ўжэ так холадно!.. Ето ж і ўнізу, як дыхне вецер, дак бы працінае холадам!.. А там, угары, дак і скалець, мабуць, нядоўго?..

— Ды не, не вельмі. Няма калі мерзнуць! — весела адказаў Пятро.

— Усё-такі — пагрэцца не лішне!

— Ды, мабуць што, і не лішне...

Толькі ўзялі шклянкі ды кубачкі, як паўз акно праплыла постаць: ляснік Міця. Ляснік не затрымаўся ў цёмных сенцах, прайшоў упэўнена, як у сваіх; упэўнена, як у сваю хату, ускочыў перад ім жоўты абскубаны леснікоў сабака.

Міця ступіў, прыгінаючы галаву, ад парога сказаў: «Памагай бог!» Не чакаючы запрашэння, паставіў стрэльбу ў сметніку, ахвоча крэкнуў:

— Як чуў! У самы раз!

— Аге. Угадаў, Міцечко!

Васіль устаў, даў яму месца бліжэй да кута, падсунуў свой кубак. Спакойна, як дома, палез Міця за стол: ледзь не сваім чалавекам стаў з таго часу, калі пачаў нарыхтоўваць Васіль лес на хату.

Спакойна, важна ступаючы, падаўся пад стол і леснікоў сабака.

Другімі разамі Дзятліха, частуючы Міцю, адно дзівілася, як ён п'е — не п'янее: толькі што твар нібы цёмнай крывёю наліваецца; дзівілася, шкадавала потай, колькі гарэлкі, дабра нанішто прападае. Сёння ж яна і на яго глядзела інакш як заўсёды: язык у лесніка дурнаваты, паганы; так і глядзі, сп'яну плясне, чаго баішся!

— Скончыце ўжэ скора! — прамовіў Міця, пераку-

ліўшы кубак, закусваючы хлебам з прэжаным салам.

— Да ўжэ і небагато, сказаць! Толькі што халады падступаюць, бы на вараных! — адгукнулася жвава Дзятліха.

Трывожачыся, каб Міця не пляснуў чаго, яна як пачала, дык і не спынялася амаль, гаварыла абы-што, абы не маўчаць, абы не даць Міцю развязаць язык. Бывала, яе нямала злаваў жоўты сабака, што ўвесь час то круціўся, тоўкся пад нагамі, то нават станавіўся, чапляўся пярэднімі лапамі за край стала, глядзеў зладзейкавата, што б такое ўпарваць. Пракоп зіркаў на гэтага нахабу і сёння панура, раз нават так даў наском пастала, што сабака ўпаў на бок і грозна загірчаў; Дзятліха ж сачыла за кашлатым госцем з незвычайнай лагоднасцю. І гаварыла яму мірна, і костку кінула, і пахваліла нават: разумны які, маўляў, сабака!..

Пачула сябе трохі лягчэй, калі Пракоп, выцершы бараду, палез з-за стала, валка, няўклюдна патупаў на двор. За Пракопам хутка выбраліся з хаты і Пятро з Васілём. Міцю ж і жоўтага сабаку Дзятліха правяла сама да веснічак.

Радуючыся, што ўсё пакуль абышлося неяк, вельмі ж ахвоча прасіла яна лесніка, каб не крыўдаваў, што гарэлкі было мала, каб заходзіў іншым часам, не мінаў хаты...

Бяда ўсё ж прыйшла неўзабаве. Прыйшла адтуль, адкуль найбольш і баялася Дзятліха — проста з вуліцы, проста да Пракопа. Прыдуркаваты Бугай Ларывон, дыбаючы сярод вуліцы — нудны і нечага злы, стаў супроць зруба, крыкнуў задзірыста:

— Доўга корпаецеся нешто!

— А табе — якое свінячае дзело? — адрэзаў з верху зруба Васіль.

— Мне-то — нічого,— Бугай раптам голасна і з радасцю — знайшоў пацеху! — на ўсю вуліцу аб'явіў: — Ганна — недавольна!

Васіль не чакаў гэтага. Ледзь не кінуўся ашалела са зруба, каб учапіцца ў Бугая,— але стрымаўся. Насцярожана сачыў, што будзе далей.

— Якая Ганна? — няцямна запытаў Пятро.

Бугай зарагатаў.

— Якая! Што жыць будзе ў етай хаце! Ну, з

якой — любіцца! На гумне з якой па начах мілуецца! Калі жонка спіць!..

— Ах ты, с-сволач! — Васіль схапіў абрэзак паплеціны — Бугай ледзь управіўся адскочыць, як яна ляснула ў вулічную храпу.

— Баішся! — Бугай закрычаў яшчэ зларадней, галасней.— Згаварыліся ж, што — к Васілю пяройдзе скора!

— Ты што брэшаш, Бугай паганы! — напала на яго Дзятліха, стараючыся адвесці бяду.— Не бачыш, што ў яго жонка, што дзіця ў яго!..

— Жонку ету ён выгане, кажуць!

Адгукнуўся ўжо са зруба Пракоп:

— Хто кажа?..

— Усё сяло!..

З кляцьбой і пагрозамі Дзятліхі Ларывон адразу давольны падыбаў па вуліцы. Лясун, уткнуўшыся чорнай барадой у грудзі, нейкі час яшчэ моўчкі, панура, як аглушаны, цюкаў сякераю. Потым выпрастаўся, таксама ж моўчкі пасядзеў нерухома, стаў няўклюдна злазіць. Як бы па нячутнай камандзе, палез услед за ім і Пятро.

Васіль астаўся наверсе — усім сваім выглядам паказваў, што не хоча ведаць нічога, жыве клопатам пра хату.

— Не слухайце бо! — кінулася да Пракопа Дзятліха.— Брахня ўсё ето! Гад еты, Бугай,— ад злосці ўсе! Злы на Васіля — от і набрахаў! З'есці б Васіля гатоў, не тое што!.. От і набрахаў! Не верце ні слову! Брахня ўсё!..

Чуў ці не чуў Пракоп — невядома было: упяўшы некуды ўпарты позірк з-пад навіслых броў, стаяў як скамянелы — хоць бы адна жылка на твары варухнулася! Не сказаўшы ні слова да Дзятліхі, спадылба павёў вачыма на дачку: Маня стаяла неяк па-дзіцячы разгубленая; тоўстыя мокрыя губы крывіліся крыўдаю, белыя вейкі дрыжалі — вось-вось заплача!

Чула ўсё, што казаў Бугай. Чакала падмогі, падтрымкі. Пракоп і ёй не сказаў слова, з тым жа скамянелым, панурым тварам адвярнуўся, паволі, валка пацёгся на вуліцу. Дзятліха яшчэ пайшла побач, яшчэ не траціла надзеі працяць Лесунову нячуласць...

Адарвалася ад Пракопа, пабрыла назад у роспачы.

Ужо ў двары схамянулася, стала, глянула туды, куды пайшоў Бугай, паслала наўздагон:

— Штоб табе астатнія мазгі высахлі, гад падкалодны!

Убачыла Маню, што ўсё стаяла сярод двара, ціха, жаласна хліпала,— захадзілася каля яе:

— Не слухай нікога! Не думай попусту! Ад злосці ўсё. Мала чаго не наплятуць — ад злосці. Не слухай нікога, рыбачко!.. Хадзем бо! Кеб малое не выпала з калыскі, крый божа!..

Маня адно хліпала, як шчаня. Хліпаючы, бязвольная зусім, нібы ў сне, і падалася з Дзятліхай у хату.

7

Ні Валодзька, ні дзед Дзяніс яшчэ не ведалі пра бяду: абодва былі ў полі, глядзелі пчаліныя калоды перад зімою.

Калоды, праўда, былі ўжо ўцеплены, але дзеду Дзянісу — ведаў Валодзька — карцела яшчэ паглядзець, праверыць усё: баяўся дзед, каб не забыў чаго, ходзячы першы раз,— памяць старая, тым часам, і падмануць магла! А падмануць было ёй няцяжка: калод меў дзед, як-ніяк, сем штук, і стаялі яны па ўсёй зямлі — на ўзлессях, на полі, усе на дрэвах высока. Пакуль даедзеш ад калоды да калоды, пакуль узлезеш!..

Валодзька ездзіў з дзедам не так сабе, не з пустой ахвоты. Памагаў ставіць драбіну да дрэваў — яна была важкая і доўгая! — трымаў драбіну, калі дзед асцярожна лез з папярэчыны на папярэчыну; памагаў дзеду несці яе на воз.

Ехаць было добра, а стаяць, трымаць драбіну — брала нуда і стылі рукі. Але Валодзя не скардзіўся — ці ўпершыню было цярпець яму нудоту і нядобрае: не адно ж ужо лета з дня на дзень пасвіў свіней, каня нават пасвіў, і мок, і стыў у полі, сцярог — як прывязаны быў пры іх. Спярша цярпець нуду гэту была пакута страшная, а потым — прыцярпеўся, звык: нічога не зробіш, памагаць трэба, зарабляць на хлеб. Не малы ж ужо — не век жа есці хлеб дармовы, сядзець на чужой шыі!

Словам, цяпер гэта быў не той бесклапотны малы, які адно ведаў: хачу гуляць, хачу есці; ведаў Валодзя цяпер, што, акрамя гэтага спакуслівага — хачу, ёсць у чалавека непрыемнае, але неадменнае, абавязковае — трэба. Не заўсёды «трэба» перамагала «хачу», але ён ужо добра чуў, што «трэба» — важнейшае, што не лічыцца з ім няможна...

Так, на выганах і на пашах зазнаў малы чалавек вялікую супярэчнасць чалавечага жыцця. Зазнаў ён і складанасць свету, складанасць становішча чалавека ў ім. Запісаны ў алешніцкую школу, за тры месяцы ён пасядзеў на лаўцы ў першым класе толькі якіх дзесятак дзён: іншыя дні то памагаў па гаспадарцы, то — у слату, у дождж — сядзеў у хаце (не было ў чым ісці), то гуляў дзе-небудзь з прыяцелямі, аддаўшыся свайму спакусліваму «хачу»...

За тры гады ён вельмі падрос і стаў больш падобны на матку. Як і ў маткі, валасы ў яго былі бялявыя; аднаго колеру — шэра-сіняватага — былі і вочы, не такія, як у Васіля, не хмурныя, падсцярожлівыя, а даверлівыя, лагодныя, з дачаснай задуменнасцю. Гэтая задуменнасць неяк асабліва прыкметна была ў малым, была як знак таго, што чалавек глядзеў на свет сур'ёзна, стала, разважна...

— Дзед,— сказаў ён, калываючыся разам з калёсамі на ямках і купінах,— а ў Жалудка — у настаўніка — вуллі, як хаткі. І — проста на зямлі стаяць, у садку...

— У калодах ім лепей. Зацішней. Не так трывожно...

Валодзя, што кіраваў канём, аб'ехаў яму, памаўчаў, падумаў аб нечым сваім, запытаў ціха:

— Яны — вельмі трывожныя? Болей за людзей?

— Болей!..— Вочы дзеда бліснулі жвава, весела.— Шчэ якія трывожныя! У іх нутро, тым часам, хоць маленькае, а — чуткае, страх! Далікатнае нутро!.. Усё чуюць! Любіш ты ці не, рады ты ці смутны! Усё, зразу!..

Валодзя не сказаў нічога, адно задуменна пазіраў з-пад раскіслага, падобнага на сабачае вуха казырка. Дзед памаўчаў трохі, прамовіў давольны:

— Еты год пчолам зіма не страшная будзе. У калодах цёпло, што ў добрай хаце! Хай ім хоць які холад —

баяцца нечаго! І яды, тым часам, хваціць! Да самага лета мёду аставіў — той раз!..

Ехалі ўжо к апошняму — сёмаму — вуллю, калі на дарозе трапіўся Андрэй Руды, які таксама кіраваў некуды на калёсах. Хацелі размінуцца, але Руды спыніў каня, саскочыў, гукнуў дзеда. Падышоў, спытаў, ці даўно ў полі.

— Вы ж, следавацельно, і не знаеце, што ў вас учынілася! — сказаў, нібы радуючыся таму, што выпала паведаміць.

Дзед кінуў позірк з-пад белых броў:

— Што, тым часам, учынілася?

— Учынілася, Дзяніс Ігнатавіч, у вас — та-скаць — асобеннае праісшэствія! — Руды зацягнуўся самакруткай, пусціў носам далікатны дымок.— Праісшэствія — та-скаць — на ўвесь сельскі маштаб! Усё сяло гудзе: раскол у сям'і Дзятлаў! — Ён перахапіў нецярплівы дзедаў рух і сказаў: — Маня ідзе да сваіх, а Васіль — ёсць сведзенія — бярэ Ганну Чарнушкаву!

— Як ето — бярэ?..

— Та-скаць, згаварыліся тайно!

Дзед адразу ўзяў ад Валодзі лейцы і, не гаворачы больш нічога, павярнуў каня ў Курані.

Валодзя бачыў, што навіна, пачутая ад Рудога, вельмі ўстрывожыла дзеда: пра пчол нават адразу забыў! Валодзька ж спачатку ўзяў вестку са сталай і спакойнай разважнасцю: ідзе Маня, ну і няхай ідзе! Ён нібы ўбачыў, як яна ідзе па вуліцы, тоўстая, павольная, падумаў ясна: Васіль усё роўна не любіць яе, калі з Ганнай жыць хочацца! А так і Васілю добра будзе, і Ганне, і Мані — бо што ёй за цікавасць з Васілём, як яму другая болей падабаецца! Яна і так колькі наплакалася адтаго, што ён вечна хмурны, недаволены. Цяпер хоць пажыве ціха каля сваіх!.. І ёй добра будзе, і Васілю з Ганнай. Ён тут жа з трывогай падумаў: а з кім жа цяпер астанецца хлопчык — з Васілём ці з Маняю,—і пачуў, што жыццё зноў нагадала пра сваю складанасць. Ён рашыў усё ж, што і гэты вузел развязаць можна так, каб усім добра было: няхай жыве яно трохі ў адных, трохі — у другіх. Яму так яшчэ лепей будзе! За гэтымі клопатамі Валодзю раптам узяла радасць: яны цяпер з Хведзькам — сваякі! Ганна ж — Хведзькава сястра!

Гэта радасць і жыла ў ім найбольш, калі ён ехаў з дзедам к сялу. Яму вельмі не цярпелася хутчэй пабачыцца, падзяліцца вялікай навіной з прыяцелем — Хведзька ж, можа, яшчэ нічога і не знае! Калі ехаў па вуліцы, так і лавіў позіркам, ці не відно знаёмай постаці, так і гнала саскочыць, кінуцца шукаць! Так шкода было, што Хведзька можа ў Алешніках на ўроках яшчэ!..

Падумаў — зойдзе на хвілінку, пачуе сам на свае вушы ўсё, тады — пабяжыць шукаць, а як Хведзька на ўроках, пабяжыць к грэблі, насустрач! Але калі ўехаў на двор, пабачыў сумную матку, калі ўвайшоў у хату, убачыў заплаканы, няшчасны Манін твар — пачуў, што радасць ураз выцекла, як вада з далоні між пальцаў. Жаль вялікі ўзяў за Маню: не рада ж яна, вунь як бядуе! І матка — як бы нябожчык у хаце!

Хацеў нават зразу сысці з хаты, але маці заўважыла, пазвала: дала есці.

Адтаго, што Маня сядзела на палацях каля калыскі ды хліпала, яда была не ўсмак. Пасёрбаў баршчу так, для прыліку, каб матка не гаварыла нічога, хутчэй вылез з-за стала, выйшаў на двор. Адышоўшы ж ад двара, стаў на вуліцы, поўны вялікай, цяжкай супярэчнасці.

Было так шкада і Мані, і маткі, што ісці да Хведзькі ўжо не хацелася. Ён і не пайшоў да Чарнушкаў, падаўся на выган, з выгану на ўзболатак, але ад хмызняку павярнуў назад, пацёгся прыгуменнай дарогай. Ішоў сам не ведаў куды. Не ведаў, што рабіць. Чалавек быў зусім збіты з тропу.

Пастаяў на сваім прыгуменні, залез у гумно, ушыўся ў салому. Сядзеў ціха, моўчкі, з нейкім супакаеннем слухаў, як пахне жытняю саломаю, халодным токам, старым дрэвам. Пад застрэшшам круціліся, цыркалі вераб'і, і гэтае знаёмае цырканне таксама як бы супакойвала. Але сядзець неўзабаве надакучыла. Калі зноў выцягнуўся на святло, на прыгуменне, з усіх прыяцеляў успомніў аднаго Хведзьку. Іменна Хведзькі не хапала цяпер яму. Адзін Хведзька патрэбен быў.

Усё ж ішоў на Чарнушкаў двор без ранейшай вольнасці, з невядомай трывогай і асцярожнасцю, як бы чагосьці баяўся. Зусім забаяўся, калі раптам убачыў не каго іншага, а Хведзькаву матку, калі тая так зірк-

нула, што ледзь не кінуўся наўцёкі. Хведзькі не было, і ён, самотны, падаўся на выган, потым у хмызняк. Чалавек усё не знаходзіў сабе месца, жыў адно толькі тым, што выглядваў, ці не відно дзяцей на дарозе, ці не вяртаюцца са школы.

Хутка і гэтае выглядванне надакучыла, падаўся насустрач, дайшоў да цагельні. Толькі калі ўбачыў на грэблі купку малых, стаў, цярпліва і хмурна пачакаў. Хмурны ж падышоў і да Хведзькі, моўчкі пацёгся побач, сярод хлопцаў і дзяўчат у світках, у каптанах, з торбачкамі,— адзін унураны, сур'ёзны ў дураслівай, гаманкой чародцы. Ужо ля сяла адвёў Хведзьку ўбок, сказаў са сталай стрыманасцю:

— Знаеш, мы з табой, мабуць, будзем сваякамі...

Хведзька шмаргануў чырвоным з чарнільнай плямай носам.

— Чаму ето?

— Васіль праганяе Маню. Ганну вашу хоча ўзяць за жонку.

Хведзька толькі зірнуў заклапочана:

— А як жа Яўхім яе?

— Яўхіма яна, мабуць, кіне.

— От добра! — сказаў Хведзька.

Валодзя як бы прасіў парады, помачы, прызнаўся нявесела:

— Добра-то добра, ды яна не хоча — Маня! Плача!

— Ну і няхай плача! — проста рашыў Хведзька.

Валодзю не вельмі ўсцешыла гэта рашэнне, але яму ўсё ж стала спакайней. Раптам найшла вялікая любасць да Хведзькі. Абодва любілі адзін аднаго ў гэты момант, як ніколі, пяшчотна, моцна. Шчаслівыя, блізкія, як ніколі, ішлі ў сяло: родныя ўжо, можна сказаць, людзі!

Калі Хведзька пайшоў у хату — кінуць торбу з букваром і сшыткам, пад'есці, Валодзька астаўся чакаць на выгане. Баяўся, што матка затрымае прыяцеля, не пусціць, але Хведзька хутка прыбег. Удваіх — поўныя радасці неспадзяванаму свайму сваяцтву — шасталі па хмызняку, па прыгуменнях, пакуль не разлучыла халодная цемра.

Дома ж, калі Валодзька залез пад коўдру, ледзь улавіў Маніны ўздыханні ды хліпы, нядаўняя радасць ураз растала. Узяла зноў вялікая маркота, лёг

на душу жаль. Як-ніяк, шкода вельмі яе, Мані! Спачуваючы ёй шчыра, прагнучы неяк памагчы, Валодзя падумаў разважна: а чаму б не зрабіць так, штоб і яна, Маня, не ішла з іх хаты нікуды, і Ганна штоб жыла тут з Васілём. Калі ўжо ім абедзвюм з Васілём быць хочацца. Услед за гэтым падумаў: чаму канешне ў кожнага па адной жонцы? Уздыхнуў сам сабе: карміць, мабуць, дваіх не накорміш!..

Амаль тады ж, калі сышоў з двара Валодзя, дзед Дзяніс з вінаватым і лагодным выглядам, з лутавым карцом мёду паклыпаў к Пракопу. Вярнуўся ён поцемкам, стомлены і ціхі. Васілёва маці, што чакала яго ля варот, хоць пачула, што невясёлы ён, не ўтрывала:

— Што яны?..

— Што! Яна, тым часам, нічого. Мірно. Ён, Пракоп, як камень,— слова не выціснуць. Злы вельмі!..

Убачыў упоцемках Васілёву постаць, цвёрда пайшоў да яго, заявіў строга:

— Жаніўся, тым часам, дак аднаго дзяржыся! Хваціць бегаць!

Васіль павярнуўся, моўчкі падаўся ад яго...

8

Тое, што здарылася ў гэты дзень, Васіля нібы не вельмі ўразіла: бяда, не відная другім, вярэдзіла ж яго ўжо не адну ноч, не адзін дзень.

Нялёгка было чуць, таіць яе ў душы, ведаць, што ў любы час яна можа выплыць, што спакой і дабрабыт яго такія нетрывалыя. Цяпер, калі адкрылася ўсё, была разам з супярэчлівасцю розных нядобрых пачуццяў нават нейкая палёгка: няма ўжо чаго таіцца, чакаць з апаскай, трывожыцца!..

У даўняй супярэчнасці пачуццяў найбольш пякло адчуванне як бы наўмыснай няскладнасці жыцця, якое вечна блытала нібы цвёрдыя, надзейныя разлікі, нібы знарок абдзельвала шчасцем...

Убіраўся ў сілу. Лез, дзёрся ўгару — упарта, безупынна. Дня не было такога, каб ранкам, днём, вечарам не рабіў чаго для гаспадаркі, не поўніўся няўцішным клопатам аб сваім дабры.

Лез, дзёрся. І рады, здаецца, павінен быць бы. Це-

шыцца, здаецца, трэба было б адно: збывалася ўсё, што хацеў, пра што марыў. Гаспадаром станавіўся, не абы-якім, спраўным; зямлі пабольшала, пабольшала ў гумне і ў клеці; конь, карова — не сорам і перад людзьмі; хата расце. Цешся ды радуйся! А радасці, а шчасця поўнага не было!

Дзіўна абыходзілася з Васілём жыццё. Ці так ужо на раду яму напісана: адно ладзіцца, адно цешыць, дык другое — бы назло гэтай радасці. Бы знарок нішчыць яго ўцеху! Другім, канешне, можна і не паказваць гэтага, а сам жа ад сябе не ўтоіш, не ашукаеш самога сябе: ці ж такую трэба жонку! Не тое што не да душы,— злосць век бярэ на яе, маруду, цяльпуху! Няўдача, а не жонка! Дабро — дабром, а толькі ж і дабро — не ўсё шчасце, з-за няўдаліцы і дабро неяк не цешыць часам. Ты гары, ты рвіся дзень ада дня, з цямна да цямна, а ёй — хоць бы што! Другая дык і дома ўпораецца, і скаціну пакорміць, і чалавеку прыбяжыць паможа ў гумне ці ў полі, а гэта — каб не матка яго, дык і ў хаце прапала б адна! Жыве не жыве, а — нібы спіць ходзячы, робячы! Так і хочацца ўхапіць, зрабіць за яе — глядзець на яе нудна!..

Колькі разоў, асабліва ўпачатку — пакуль не прывык, не сцярпеўся трохі — успамінаў з жалем Ганну. Ноччу, дык доўгі час проста бачыў яе з сабою, проста прымірыцца не мог, што жыццё так перакруціла мары-спадзяванні! Ён не песціў думак пра Ганну, гнаў іх, як мог, убіваў у сябе: непатрэбшчына, пустое — уздыхаць, шкадаваць аб тым, што ўпала — прапала, а не ўздыхаць, не шкадаваць не мог!

Не адну ноч, не адзін месяц прыкрай чуў побач Маню, адварочваўся, адсоўваўся, а калі яна тулілася, лашчылася — злаваў. Потым усё ж як бы перастаў бедаваць аб няўдачы: як бы прывык да Мані. За часам, за навалаччу турбот радзей і радзей успамінаў ужо Ганну; можа і зусім перастаў бы згадваць, калі б не тая сустрэча на бульбяным полі, не спатканні ўпоцемку ля гумна; калі б не Ганніна шчырасць, не бяда яе, свая бяда: калі б усё не ажыло раптам, не запякло зноў! Ажыло, запякло — ды з якой сілай!..

Яшчэ адно даўно ўжо хмарыла шчасце: бясконцыя сходы; абы сабралі — пра калектывы, калгасы. Думаў, што не паддасца ўгаворам-абяцанкам, будзе трымац-

ца свайго дабра, хоць бы што, не дасць крыхоткі аднюй,— а спакою, пэўнасці надзейнай не было!..

Лез, пяўся, колькі змогі, зладжваў будыніну свайго шчасця, бервяно за бервяном, плашку за плашкай, паплецінку за паплецінкай. Складваў, стараўся, а будыніна крывілася, хілілася, гатова была ў любы момант разлезціся, разламацца; не было грунту, асновы добрай у будыніны, кволай, няпэўнай будыніны яго шчасця!

Цяпер нетрываласць гэта чулася як ніколі. Ці хадзіў, паіў каня, ці карміў карову — моўчкі, унурана думаў аб няскладнасці, крыўднай несправядлівасці жыцця, думаў без вялікага бедавання, з нейкай стомленасцю, нават нібы абыякавасцю. Маня, збітая тым, што адкрылася, нічога не рабіла па гаспадарцы; Васіль рабіў і за яе. Як праз туман, да Васіля даходзіла: яна не кляла, не папракала, адно хліпала і хліпала аднастайна, нудна. У яго не было ні шкадавання аб ёй, ні шкадавання за тое, што гора гэта — ад яго. Абыякавы быў да яе, абыякавы быў і да яе скрухі...

Ні жалю аб ёй, ні шкадавання за свой учынак не было і тады, калі ўночы ляжалі побач. Звыклыя ў галаву ішлі клопаты — аб скаціне, аб нясконччанай хаце; плынь думак гэтых увесь час перарывалі то ўспаміны-развагі пра Ганну, то згадкі пра апошні дзень. Бугай паганы — укалоў як!.. Пракоп-маруда — аж дайсці не мог доўга, што рабіць!.. Сядзеў усё, моўчкі цюкаў!.. Як яно цяпер павернецца: не прыйдуць, мабыць, ужо — аднаму канчаць трэба будзе!..

«Ганна ў етай хаце жыць будзе!..» — казаў Бугай. «Згаварыліся, што к Васілю пяройдзе!..» Набрахаў на ўсю вуліцу ды і падыбаў, бы праўду сказаўшы!.. Са злосцю на Бугая — не першы раз за гэтыя ночы — любая, неадступная, увайшла, узяла Васіля думка-мара: калі б тое можна было, калі б праўда Ганна гаспадыняй стала! Усё было б тады ў яго, усё, чаго не хапае! Шчасце было б поўнае — не падман!.. Бы ўвачавідкі — не першы раз ужо — убачыў, як Ганна пораецца каля печы, як ходзіць па двары,— і ўсярэдзіне аж забалела!

Думкі перабіў плач малога, якое прачнулася ў калысцы ля ложка. Ён пачакаў, калі Маня, што была, як заўсёды, бліжэй да дзіцяці, возьме паўрозку ад ка-

лыскі, загушкае, але яна нібы і не чула. Дзіця ж не ўціхала, галасіла ўсё мацней.

— Вазьмі пагушкай! — не ўтрываў Васіль.

Яна хоць бы варухнулася. Васіль зазлаваў:

— Не чуеш?!.

Яна была як нежывая, як калода. З палацяў злезла маці, узяла малога на рукі, пачала тупаць па хаце, прыгаворваць:

— А-а... а-а... Спі, маленькі... Спі, разумненькі!.. Курачкі ўсе спяць!.. Цяляткі, парасяткі!.. А-а, а-а...

Яна насіла, гушкала, пакуль малое не ўціхла, не заснула добра; паклала ў калыску, пагушкала яе. Потым яшчэ доўга стаяла ў цемры, як бы не цяміла, што рабіць; схамянулася, пасунулася к палацям сваім тады, калі штосьці загаварыў праз сон Валодзька.

— Пайду я! — раптам ціха, цвёрда сказала Маня. У голасе яе пачулася злосць: — Жыві з етай сваёй!..— Яна не ўтрывала, захліпала: — Мало ёй аднаго... свайго!..

Васіль не сказаў нічога. Не абнадзеіў, не супакоіў. У галаву зноў лезла — што ж цяпер будзе з гаспадаркай, з канём, з зямлёй, якую даў цесць? Між гэтай клопатнай няпэўнасці ныла згадка пра Ганну, шкадаванне, што не пабачыліся сёння. Гэта дамашняя неспадзеўка не дала выйсці к назначанаму месцу, а яна ж — Ганна — пэўна, чакала!.. Чакала — і не дачакалася! А пабачыцца трэба было б, нават цяпер... Цяпер, дык асабліва трэба было б...

Ён не ведаў, што Ганна ў той вечар таксама шкадавала, што не можа выйсці...

## 9

Яны пабачыліся праз тры дні — пабачыліся, хоць угавору не было: проста падказала чуццё. Першая прыйшла Ганна; ідучы загуменнай дарогай, азірнулася, стала ўпоцемку ля Васілёвага гумна, прытулілася да сцяны. Слухала, узіралася, поўнілася такім неспакоем, што дрыжала ўся.

Няўжо не прыйдзе, не пабачыцца — Ганна аж стаяць не магла на месцы ад думкі, што так можа і стацца. Як заўважыла цёмную постаць ад двара, як пазнала, што — ён, дрыготка ўзяла яшчэ мацней.

— Я ўжэ баялася! — сказала ціха, шчыра.— Не здагадаецца, думала!..

Ён памаўчаў момант. Не ўзяў яе рукі, не абняў.

— Я і ўчора прыходзіў... Думаў: можа будзе...

— Няможна было мне... Сягоння — як вырвалася да сваіх... Жывасілам, можна сказаць...

— І за мной — глядзяць... Не вераць...

У іх была тая ж шчырасць, як і ў тыя разы. Але той блізкасці, роднасці — дзіўна — не было ўжо. Са шчырасцю, няпрошанае, неадступнае, чулася яшчэ нешта, што як бы — трэцяе — стаяла між іх, не давала ім быць блізкімі, роднымі. Асабліва гэта трэцяе стрымлівала Васіля — Ганна чула востра, крыўдна...

— Знаю ўжэ... Мачыха сказала.... як у цябе было...— гаварыла яна, стараючыся не заўважаць яго стрыманасці.— Як Пракоп пайшоў...

— Пайшоў...— Васіль за тым, што яна сказала, чуў яшчэ пытанне — а як жа Маня будзе? — але не адказаў нічога. Не хацеў ні гаварыць, ні думаць пра гэта. Сам не ведаў.

Тое, што стаяла між іх, аддаляла, было няяснае, непадатнае, важкае. Яны стаялі можа хвіліну моўчкі — блізкія і далёкія разам.

Ганна раптам паспрабавала пераступіць мяжу, знарок весела, задзірыста ўсміхнулася:

— От і няма чаго баяцца! Знаюць усе!

Васіль не засмяяўся.

— Знаюць...

— Не так яно страшна, як здавалася!..

Васіль прамаўчаў. Яго маўчанне не толькі не стрымала яе, а як бы дало большай рашучасці:

— Пацярплю шчэ трохі,— сказала яна аж дзіва лёгка.— А там!..

Васілю здалося: Ганна вось-вось засмяецца! Ён хмурна пацікавіўся:

— Што — там?..

— Кіну ўсё! Хай яно згарыць! — Як пра даўно абдуманае, сказала, ужо без смеху: — Пайду!

— Куды ето?

— Хоць куды! Куды вочы глядзяць!

— Сказала!..

— Надумалася — і пайду! Толькі таго і свету, што Курані. Як прападаць тут век, дак мо знайду

што!..— Яна гаварыла ўсё гарачэй, сур'ёзна: — У Мазыр пайду, а мо і далей! Абы — далей адсюль! Штоб Карчоў і духу не было! І не відно, і не чутно!.. — Ганна раптам дадала шчыра: — От кеб ты буў!

Яна не толькі хацела гэтага, яна быццам пазвала: так гэта было сказана. Васіль чуў: сказала пра яго не так сабе, не выпадкова, думала пра гэта; яму стала хораша, радасна. Момант было адчуванне шчаслівай, вялікай блізкасці — у свеце было толькі яго і яе шчасце.

— Не бойся! Нічого не бойся! — як бы чуючы яго настрой, казала яна.— Ето толькі зразу, асмеліцца страшно! А там — добра будзе! Пабачыш!.. Ці мы паны якія! З чужого жыць прывучаны змалку? Рукі е, рабіць умеем! Не прападзём нідзе, пабачыш! Што я кажу — не прападзём! Жыць будзем, як ніхто не жыве тут! На зайздрасць усім жыць будзем! Удваіх — дружно, шчасліво, як ніхто! Я ж цябе так люблю! Так любіць буду век! Родны, мілы мой Васілёчак!..

Ніколі нічыя душа не хвалявала Васіля так, як яе ў той вечар. Ніколі нікога не любіла Ганна так, як яго — у тым халодным, беспрытульным поцемку каля гумна. У бядзе, у роспачы Васіль быў Ганне не проста любым — быў надзеяй, ратункам, быў тым жыццём, да якога яна рвалася. І яна Васілю была тым шчасцем, якога яму так не хапала заўсёды...

Яе гарачы шэпт, яе рашучасць глушылі заўсёдную Васілёву разважнасць. Момант была дзіўная лёгкасць, чуў вясёлую волю ў сабе — нібы ўжо ішоў разам...

Усё ж — больш са звычкі — стрымаў сябе:

— Не так ето просто...

— Просто не просто, а — не трэба баяцца! Ето адважыцца толькі — страшно! А як адважышся — лягчэй! Страшно — толькі пачаць! А там лягчэй будзе — пабачыш!.. Не век жа жыць, не любячы! Штоб любіў — тады б другое було! А як не любячы — дак чаго баяцца! Чаго шкадаваць тых кароў, той хаты! Які ў іх толк — як церпіш толькі адзін аднаго! Любоў будзе — усё нажывецца! І не на гора — на радасць! Усё на радасць будзе!..

Яна раптам абарвала свой шэпт. Парывіста ступіла да яго, абхапіла рукамі за шыю, прыціснулася так, што ён пачуў усю яе — ад гарачага лба да дужых ног. Хвіліну стаяла так, як бы перадаць хацела ўвесь агонь

сваёй душы, усю адвагу. Адарвалася так жа рэзка, сказала ціха:

— Не канешне зразу рашаць. Падумай... Як надумаешся, дай знак!

Апошнія словы прамовіла спакойна, неяк дзелавіта — павярнулася, цвёрда, хутка пайшла ў цемру загуменнай дарогі.

Васіль пастаяў трохі, падаўся паволі к двару. Ці стаяў потым ля павеці, ці ляжаў на палацях, згадкі, думкі аб спатканні з Ганнаю, аб тым, што яна гаварыла, важка варочаліся ў галаве, вярэдзілі душу з нязнанай горыччу. Былі хвіліны, калі здавалася, што ён гатоў кінуць усё — прападзі яно пропадам! — кінуць і ісці з ёю, з Ганнаю, па тое шчасце, што недзе ж, і праўда, можа ёсць, можа быць іхнім! Праўду казала: не жыццё — калі не любіш, не век жа цярпець, не любячы!

Але за гэтым находзіла іншае, халаднаватае, разважнае, і душу гнёў камень. Куды ён пойдзе, як ён кіне ўсё, чым жыў усе дні, цэлыя гады, што набываў такой упартасцю — па крупінцы, па зярнятку — такім трудом,— свету белага не бачачы. Можна было б не ісці нікуды, не кідаць нічога, проста Ганну ўзяць да сябе — але ж тады што з тае гаспадаркі будзе: зямля лепшая прападзе, каня аддаць трэба, за хату век не расплоцішся! Ды і пра малое падумаць — як яму, бязбацькавічу няшчаснаму, быць, жывога бацьку маючы! А што без бацькі будзе — ясна: не аддасць жа Маня яму хлопчыка, не аддасць! А там — возьме хто яе сабе з хлопцам,— звядзе, гад які, заніпто чалавечка, бацькаву кроў!..

І сынок, радасць яго і надзея. І — гаспадарка, якая так ужо зладавалася была! Конь, зямелька, хата! Дзе ты, калі ты ўсё зноў набудзеш!.. Але за гэтым чуў зноў абдымак Ганнін, бачыў, як яна гаспадыняй у хацемары, і зноў парываўся да яе, прагнуў яе! Вялікія, непрымірымыя імкненні рвалі Васілёву душу!..

## РАЗДЗЕЛ ЧАЦВЁРТЫ

### 1

Чыстку рабілі ў зале нардома. Народу было поўна. Людзі сядзелі на лаўках, стаялі з бакоў ля сцяны, ціснуліся ззаду, каля дзвярэй.

Дзве лямпы, што віселі над сталом прэзідыума і пад брусам, пасярэдзіне столі, кідалі два кругі святла — у адным з іх быў стол пад чырвонай тканінай, за якім сядзеў прэзідыум, а ў другім — дзесятка паўтара радоў тых, што слухалі. Уся іншая частка залы была ў паўзмроку; толькі прыгледзеўшыся, можна было ад сцэны бачыць чубы, лысіны, бароды, хусткі. Хоць старшыня, узіраючыся ў залу, не раз стукаў далонню па стале, загадваў сядзець ціха, не перабіваць, гаманілі часта і перабівалі; хоць прасіў не курыць, курылі.

За сталом было трое: камісія па чыстцы. Пасярэдзіне сядзеў старшыня камісіі Белы, работнік партка-легіі ЦК партыі Беларусі і камуніст з лютага 1917 года, прысадзісты, шчуплаваты, немалады ўжо, з зачасанымі назад пасівелымі валасамі, спакойны ў манеры гаварыць і ў рухах. Абапал старшыні былі члены камісіі: чорны, з кудламі, вельмі жвавы і вельмі худы Галенчык, прафсаюзны дзеяч з Мінска, былы майстар па вырабу хромавай скуры; і шыракаплечы, важкаваты з выгляду Беразоўскі, чыгуначнік. Абодва члены камісіі першы час пад позіркамі стольківх вачэй чулі сябе неабыякава: Беразоўскаму было як бы няёмка, ён амаль не глядзеў у залу і нібы не ведаў, куды пакласці рукі; Галенчык жа, ад увагі такога мноства людзей, быў поўны ахвоты дзейнічаць, трымаўся вельмі ўпэўнена, смела, здавалася, не ведаў, куды дзець энергію і смеласць свае. Позірк яго паволі, цвёрда хадзіў па радах, па абліччах, раз-пораз спыняўся з увагай,— Галенчык углядаўся, вывучаў, з нейкім сваім вывадам ішоў далей. Раз-пораз ён адрываў позірк ад залы, чорныя, бліскучыя, лупаватыя вочы яго разбіралі таго, хто быў збоку стала. У такім павароце на худой, птушынай шыі Галенчыка быў відаць вялікі кадык, ды і ва ўсім яго вобліку было штосьці птушынае, пагрознае. З усіх траіх Галенчык прыцягваў найбольшую ўвагу;

здавалася, што не Белы, а Галенчык галоўны тут, старшыня...

Першым выклікалі сакратара райкома Башлыкова. Святло падала трохі збоку і спераду, яно паблісквала ў гладкіх, без сівінкі валасах, выдзяляла моцны, чысты лоб, моцны нос, плечы; яно адзначала кожную ямку, кожную маршчынку, рабіла Башлыкова трохі старэйшым; але і ў такім святле было відаць, які ён малады, дужы, прыгожы. Гэтае ўражанне дужасці яшчэ падмацоўвала ўпэўненая пастава, строгі, ладны, зеленаватага колеру кіцель, стрыманы і ў той жа час энергічны голас. Было відаць, што ён адчувае сябе цвёрда, што яго нішто не трывожыць. Роўна, голасна і разам сціпла казаў ён пра сваё жыццё. Нарадзіўся ў тысяча дзевяцьсот чацвёртым годзе, у Гомелі, у рабочай сям'і. Бацька — рабочы на чыгунцы, і сам ён рабочы з малых год; спачатку — на чыгунцы, потым — на электрастанцыі. З юнацкіх год у камсамоле, потым — у партыі. У час работы на электрастанцыі быў вылучан на кіруючую камсамольскую работу, быў пасланы вучыцца ў Мінск на шасцімесячныя курсы кіруючых камсамольскіх работнікаў. Пасля курсаў быў вылучан на партыйную работу, ва ўпраўленне чыгункі. Сціпла, проста сказаў Башлыкоў, што з упраўлення чыгункі ён пасланы партыяй на кіруючую работу ў Юравіцкі раён сакратаром райкома.

— Ніякіх спагнанняў і ваганняў у правядзенні партыйнай лініі не было,— дадаў ён голасна і цвёрда, як бы падводзячы вынік свайму яснаму жыццяпісу.— Ні ў якіх антыпартыйных групіроўках і блоках ніколі не ўдзельнічаў. Вёў і буду весці з імі самую бязлітасную барацьбу, як і са ўсімі тымі, хто будзе спрабаваць адхіліць нас управа ці ўлева ад генеральнай лініі партыі.— Ён ужо скончыў, але ўспомніў, даказаў:— За граніцай сваякоў няма. Асуджаных савецкім судом таксама няма. Ні з блізкіх сваякоў, ні з далёкіх...

«Ніводнай плямкі. Ідэальная біяграфія»,— падумаў ці адчуў, мусіць, не адзін Апейка; але Апейка, які ведаў і помніў тое, чаго не ведалі ці не прыгадвалі іншыя, можа быць як мала хто, падумаў, што ўсё гэта, нібы такое пераканаўчае, яшчэ не ўсё, далёка не ўсё, каб паказаць, чаго варт чалавек як партыец. Апейку чулася ў гладзенькім гэтым жыццяпісе як бы нават

нейкая няпраўда, за ўсім гэтым гладзенькім, роўненькім...

— Тут паступілі на таварыша Башлыкова такія скаргі...— Старшыня камісіі з вельмі спакойным, дзелавітым выглядам, не гледзячы ні на Башлыкова, ні ў залу, у вялікай цікаўнай цішыні разгарнуў папку, прабег вачыма па паперцы, адной, другой, стаў чытаць. Гэта былі паперкі ■ тых, што называліся кампраметуючымі матэрыяламі, якія камісія збірала, калі рыхтавалася да сходу.

Башлыкоў першы момант, было відно, трохі занепакоіўся, але, паслухаўшы адну, другую, паспакайнеў і стаў перад сталом і гаварыў зноў упэўнена, з годнасцю чалавека, які ўсё, што ад яго залежала, рабіў і будзе рабіць; які калі чаго і не зрабіў, то толькі таму, што гэта не ад яго аднаго залежала. Яму гэта было добра гаварыць таму, што амаль усе скаргі былі ў аснове сваёй не так на Башлыкова самога, як на райком, на розныя непарадкі ў мястэчку, у сёлах, на жыццёвыя нястачы. Былі дзве запіскі са скаргамі, што не хапае солі і карасіны; ён сказаў, што ўсё, што выдзяляюць раёну, не залежваецца ні на складах, ні ў крамах. У адной запісцы абураліся тым, што забіваюць свіней і кароў, прадаюць мяса з-пад палы: дзяруць з людзей шкуру; ён таксама абурыўся, сказаў, што партыйная арганізацыя вяла і будзе весці бязлітасную барацьбу з гэтымі злачынцамі і спекулянтамі. Папрасіў, каб пра кожны такі выпадак паведамлялі ў міліцыю ці яму асабіста. Хтосьці паскардзіўся, што ў Бярозаўцы, калі адводзілі зямлю пад калгас, няправільна абрэзалі зямлю; ён паабяцаў, што пасля сходу паедзе ў Бярозаўку і высніць усё сам. Скардзіліся, што прыцясняюць веруючых; ён стаў з гневам гаварыць пра рэлігію, пра яе шкоду, самакрытычна прызнаўся, што таварыствы бязбожнікаў, настаўнікі і камуністы ў сёлах няўмела змагаюцца ■ рэлігійным дурманам...

У адной запісцы было, як папрок, неспадзяванае для такога сходу: «Чаму сакратар таварыш Башлыкоў, сустрэўшыся на вуліцы, ні з кім, акрамя сваіх сяброў, не здароваецца. Не кажучы ўжэ пра тое, што б зняць шапку ці папытаць, як здароўе». Калі Белы прачытаў гэта пытанне, у зале хтосьці, мабыць ад неспадзеўкі, засмяяўся. Засмяяўся знарок весела і Башлыкоў.

— Здароваюся!..

— Правільно напісано! — крыкнуў хтосьці з залы.— Падмечано!

Белы з цікавасцю слухаў, як па зале ішоў даволі дружны, нядобры гоман.

— З людзьмі, каторых я знаю ці каторым веру, я не толькі здароваюся, а і падаю руку,— паспрабаваў адужаць гоман Башлыкоў. Ён зноў гаварыў цвёрда.

— Мало ж ты каму верыш! — упёк яго хтосьці з залы, голасна, злосна. Зноў пачуўся гоман — неспакойны, непрыхільны.

Твар Башлыкова стаў чырванець. Востры позірк пабег па радах, узіраючыся, шукаючы.

— Я з усімі здаровацца не магу, калі б і хацеў,— сказаў ён, не бянтэжачыся.— У раёне тысячы людзей! А я — адзін!

— Правільна,— падтрымалі яго некалькі галасоў.

— Паважаць людзей трэба! — зноў выбіўся той моцны, злосны.— Нос задзіраеш рано!

— Зазнаўся!.. Малад яшчэ!..— пайшло зноў па радах.

— Я не зазнаюся,— сказаў ён, гатовы ўпарта абараняцца.— Ніколі не зазнаваўся,— прамовіў ён яшчэ мацней. Раптам, адужваючы шум, разважна, цішэй дадаў: — Але, канешне, у мяне таксама могуць быць недахопы...

— Вось гэта правільна,— згадзіўся цяпер Белы. Старшыня пастукаў алоўкам па графіне, запытаўся ў залы: — Якія таварышу Башлыкову пытанні, прашу задаваць.

Стала ціха. Ля сцяны злева ўстаў барадаты дзядзька, пакашляў. Сказаў быццам з затоеным сэнсам:

— Няхай скажа, ці работаў у сельскім хазяйстве?

Башлыкоў, яшчэ з чырванню ў твары, павёў уважлівым позіркам к сцяне.

— Раней не даводзілася.

— Яс-сно,— прамовіў дзядзька зноў як бы прытоена і сеў.

Вясёлы жаночы голас запытаўся, чаму таварыш сакратар нежанаты ходзіць: местачковых дзяўчат гэта вельмі цікавіць; але Башлыкоў, хоць і ў зале павесялела, не паддаўся на весялосць. Яшчэ насцярожаны, адказаў, што з жаніцьбаю думае пакуль пачакаць.

— Шкода! — уздыхнуў хтосьці гулліва.

Башлыкову давялося перажыць яшчэ некалькі важкіх хвілін, калі Белы запытаў у залу, хто хоча выступіць, і к сталу камісіі лёгкай, пругкай хадой падышоў Гайліс. Гайліс ледзь дайшоў, дзіцячым сваім галаском кінуў у залу:

— Тут неразумно смяялісь з запіска: Башлыкоў не здымае шапка, не здароваеца! Нічого нет смешного. Правільно. Таварыш Башлыкоў не знімает шапка. Конечно, это маленькі недостаток. Товарыш Башлыкоў, можа быць, дажэ не знал, что тут есць такі звычай: здароваца з незнаёмы чалавек. Але это — што таварыш Башлыкоў не здароваеца — не есць дробязь, ерунда. Бо тое — што товарыш Башлыкоў не здароваеца — не есць случайносць. Бо этот факт говорыт пра тое, як товарыш Башлыкоў звычайно паступает. Он звычайно і таварышам, з каторымі разом работает, таварышам па парціі, руку не подае. Он нікогда не пытаеца: «Як вы жывьёце?» Он болей любіць крычат у трубку: «Ві там чорт знает, что дзелаетэ! Ві спітэ! Ві — опортуністы! Мі будзем з вамі говорыт на бьюро!» Вот як говорыт часто товарыш Башлыкоў...— Гайліс памаўчаў, паглядзеў на Башлыкова, як бы хацеў пераканацца, ці слухае той. Башлыкоў, пачырванелы, стоены, слухаў, і Гайліс павярнуўся зноў да залы.— Товарыш Башлыкоў, можа быць, лічыць, што сэкрэтар павінен быць строгі. Это правільно: павінен быць строгі. Он не есць, як гаворыцца, кум. Але этаго мало. Сэкрэтар райкома павінен быць не толькі строгі, але і ўважлівы, і справядлівы. Чуткій павінен быць. Культурный. Этого часто нет.— Ён зноў павярнуўся да Башлыкова, дакончыў:— Вучыца, таварыш Башлыкоў, трэба!

Ён гаварыў так шчыра, пераканана, што ўся зала моўчкі лавіла кожнае слова. Уражвала, мусіць, і тая адкрытасць, смеласць, з якой ён рэзаў праўду самому Башлыкову, не думаючы зусім пра тое, што можа быць потым. Апейку гэтыя адкрытасць і смеласць не дзівілі, ён адно думаў з ухвалай, як добра тое, што ён, Гайліс, рэжа ў вочы Башлыкову, і іменна тут, у гэты момант; бачыў, як чырванеў, як стрымліваў сябе не вельмі ахвотны да такіх урокаў сакратар. «Слухай, слухай,— мімаволі думаў Апейка.— Вучыся...»

Гайліс такой жа лёгкай хадою сышоў, як чалавек, які зрабіў тое, што павінен быў, падаўся на сваё месца, на другім радзе, недалёка ад Апейкі. Апейка не азіраўся, але адчуваў, што на Гайліса глядзяць з павагай,— у зале яшчэ ціха, ні аднаго галаска. У цішыні гэтай і пачулася:

— Дазвольце мне слова!

К сталу ішоў Зубрыч. Ускочыў на адну ступеньку, на другую, зірнуў у залу, але гаварыць не стаў спяшацца. Пачакаў увагі.

— Я — беспартыйны,— сказаў ён спачатку да камісіі.— Але я таксама хачу сказаць. Паколькі думка беспартыйнай масы, як мне вядома, таксама не абыякавая для камісіі. Голас мой як чалавека непартыйнага, можа быць, і не так многа значыць, але я магу таксама ўнесці сваю долю для высвятлення ісціны. І такім чынам, па гэтай хоць бы прычыне, я адчуваю абавязак сказаць сваё слова.— Ён павярнуўся к зале, памаўчаў момант і загаварыў больш павольна, моцна.— Я павінен сказаць шчыра некалькі слоў. Перш за ўсё, не буду таіцца, таварыш Башлыкоў са мной таксама не цырымоніўся. Мне, наколькі я помню, ён таксама не толькі не падаваў рукі, але і, здаралася, гаварыў словы не менш вострыя, чым таварышу Гайлісу. Здаралася, было такое, таіцца няма чаго. Я буду гаварыць шчыра.— Ён кінуў позіркам на Башлыкова, які насцярожана сачыў, да чаго ўсё гэта.

Апейка таксама глядзеў з цікавасцю з залы, з першага рада; праўда, з цікавасцю асаблівай: непрыемны і не зусім зразумелы быў яму гэты чалавек, з якім даводзілася ўжо не адзін год рабіць блізка. І падхалім, і не падхалім, нешта горшае: брыдкае, нейкае слізкае. Для чаго ён вылез сюды, з якім намерам? Што яму трэба тут?

— Я — не друг таварышу Башлыкову. Ні ён да мяне, ні я да яго не мелі асаблівай сімпатыі. Будзем гаварыць шчыра. Але я люблю праўду. І вось гэтая праўда і прымушае мяне гаварыць, не маўчаць. Я з таварышам Башлыковым сустракаўся не раз, бачыў яго збоку, слухаў — і магу сказаць, што ведаю таварыша Башлыкова някепска. Ведаю як кіраўніка, ведаю як чалавека, як партыйца. Я ведаю таварыша Башлыкова.— Зубрычаў голас яшчэ падужэў, набыў як бы святочнасці.— І таму

я, скажу шчыра, не магу згадзіцца [redacted] таварышам Гайлісам.— Зубрыч адолеў шум у зале.— Не магу! Таварыш Башлыкоў надзвычай энергічны, дзелавы кіраўнік! Вельмі чулы да людзей.— Ён зноў адужаў шум.— Так, вельмі чулы! Я згодзен, што ён — строгі, патрабавальны, але ён разам з тым і чулы. Тут няма ніякай супярэчнасці: яго строгая патрабавальнасць і ёсць не што іншае, як сапраўдная чуласць. Дзелавая. У наш час, калі класавая барацьба так абвастрылася, калі сам закон класавай барацьбы патрабуе быць заўсёды напагатове, заўсёды быць пільным, нельга быць чулым і не быць патрабавальным. Не разумеючы гэтага, нельга правільна зразумець таварыша Башлыкова.— Тут Зубрыч прымоўк і далей загаварыў ужо цішэй, мякчэй, але з той жа шчырасцю ў голасе.— Я павінен адказаць і яшчэ аднаму прамоўцу. От тут пыталіся, ці працаваў таварыш Башлыкоў у сельскай гаспадарцы. Маўляў, ці ведае сельскую гаспадарку. Магу сказаць: ведае! Як спецыяліст, які часта сустракаецца з ім іменна ў гэтай галіне, гавару: ведае. І што яшчэ больш важна: ведае душу селяніна, ведае, чым ён, селянін наш, як кажуць, дыхае! Я магу сказаць з поўнай адказнасцю, што партыя не памылілася, прыслаўшы такога работніка ўмацаваць кіруючае партыйнае ядро! Добры кіраўнік, сапраўдны бальшавік! Такая мая, беспартыйная, думка!

Хтосьці крыкнуў: «Правільна!» — некалькі чалавек запляскалі, і Зубрыч сышоў як чалавек, які таксама сумленна зрабіў сваё. Зноў у зале гаманілі, і таму, хто выйшаў за ім, давялося чакаць, пакуль старшыня камісіі супакоіць залу. Звонкі, не па гадах важны, сталы, таропячыся ў залу ўпартым позіркам, Косцік Кудравец са ўсім сваім камсамольскім пылам рынуўся раскідаць усё, што сказаў Гайліс, што пакрыквалі з залы. Ён заявіў усім у зале, што прынцыпова згодны з усім тым, што гаварыў таварыш Зубрыч; што ён наогул не разумее, як можна сумнявацца ў тым, што таварыш Башлыкоў больш, як хто іншы, годны быць у бальшавіцкай партыі...

У зале зноў прыціхлі, калі старшыня камісіі запытаў у тых, хто сядзеў побач, якія ёсць пытанні. Беразоўскі сказаў, што няма і ўсё ясна. Ясна яму, ведаў Апейка, было не толькі з таго, што ён пачуў тут, але і з таго, што яму вядома было яшчэ да сходу: камісія

рабіла ў мястэчку ўжо больш за два тыдні. Неахвочы да лішняй гаворкі, ён, відаць, лічыў, што няма чаго пытацца папусту, дзе ўсё зразумела; калі, да ўсяго, уперадзе яшчэ столькі нялёгкай працы. Галенчык жа, строга перабіраючы нешта ў памяці, у роздуме, памаўчаў. Зала сачыла за ім, чакала. Пайшоў шумочак.

— Чаму ў вас такі малы працэнт рабочай праслойкі? — нацэліўся Галенчык на Башлыкова.

Башлыкоў адказаў, што ў раёне вельмі мала рабочых: толькі на млыне ды ў арцелях. Але Галенчыка гэта не супакоіла. Ён не тое што не таіў, ён усім паказваў, што недавольны адказам. Ніжняя губа яго была вельмі зразумела адтулена. Ён пакруціў галавою: як такое можна гаварыць? Мала рабочых! Адно за адным стаў кідаць пытанні: колькі арцеляў у раёне ўсяго; колькі ў раёне ўсяго рабочых; колькі ўсяго ў партыі? Што далей, то больш: чаму ў партыі аказаліся элементы з заможнай праслойкі, элементы з цёмным прошлым; элементы, якія злучыліся ■ класава чуждымі элементамі? У той час, калі рабочая праслойка не расла. Башлыкоў гаварыў спачатку цярпліва, потым, Апейка прыкмеціў, стаў злаваць, абурацца пытанням, што былі як несправядлівыя абвінавачванні.

— У мяне ёсць пытанне,— перапыніў, нарэшце, Галенчыка Белы.— Я хацеў бы, таварыш Башлыкоў,— загаварыў ён спакойна, па-сяброўску,— каб вы расказалі, канкрэтна, фактамі, як вы працуеце з сялянамі? Як вы пераконваеце іх, што калгасы — адзіная дарога да лепшага жыцця? Што вы, як сакратар райкома, робіце, каб арганізаваць сялян у калгасы?..

Башлыкоў, расказваючы, зноў пачуў сябе спакойна і ўпэўнена. Белы слухаў яго ўважліва, ківаў раз-пораз у знак згоды, ухваляў; трапна памагаў новымі пытаннямі. Усё ж Башлыкову давялося яшчэ перацярпець некалькі хвілін: Галенчык, якому прагнулася зноў заявіць пра сябе, узяў слова. Стоячы за сталом, абводзячы вачыма залу, ён пачаў з таго, што паправіў усіх, якія выступалі. І таварыш Гайліс і таварыш Зубрыч, сказаў ён, гаварылі аднабакова: таварыш Гайліс не адзначыў таго станоўчага, што ёсць у таварыша Башлыкова, а таварыш Зубрыч — адмоўнага; тых вялікіх памылак, якія дапусціў таварыш Башлыкоў. Непахісна выкрываючы гэтыя небяспечныя памылкі, Галенчык

зноў падышоў да тых пытанняў, якія не даў яму дакончыць старшыня камісіі. Даводзячы, як шкодна для партыі тое, што ён выкрываў сваімі пытаннямі, ён ужо выпраўляў не толькі лінію Башлыкова, а разам і лінію тых партыйцаў, якія бяруць такую лінію пад абарону. Галенчык знарок не называў прозвішча старшыні, ён, відаць, і так ведаў, што ўсе зразумеюць, каго ён папярэджвае. Белы слухаў яго цярпліва, не перабіў ні разу, і Галенчык зноў вярнуўся да Башлыкова. Таварыш Башлыкоў павінен улічыць, павінен помніць, павінен не забываць усяго, што яму было тут сказана. Такім жа тонам Галенчык і скончыў: таварыша Башлыкова можна аставіць у партыі, але ўказаць на тыя недахопы, якія тут былі ўскрыты...

Выйшла так, што Белы, які гаварыў апошні, проста нібы падтрымаў прапанову Галенчыка. Пасля некалькіх спакойных, дзелавых слоў старшыні Башлыкоў і сышоў па ступеньках уніз, у залу.

2

Белы выклікаў к сталу камісіі Апейку. Калі Апейка ўзышоў, Белы спакойна, будзённа зірнуў, папрасіў расказаць біяграфію.

Апейка павярнуўся і ўбачыў звыклае: залу, людзей, што чакалі яго слоў. І ад гэтага звыклага адчуў сябе раптам вельмі спакойна. Спакойна, роўна расказваў пра жыццё сваё, адказаў на пытанні.

Яго трохі здзівіў тон, штосьці нядобрае, незразумелае ў тым тоне, з якім Галенчык сказаў:

— Я прапаную прачытаць кампраметуючыя матэрыялы, якія паступілі на таварыша Апеньку.

Тады Апейка падумаў быў, што Галенчык незнарок перайначыў яго прозвішча; Апейку больш кінуўся на ўвагу нядобры, нібы зларадны бляск у чорных, пранізлівых вачах. Па гэтым бляску Апейка зразумеў, што яму грозіцца небяспека. Здагадаўся, што небяспека — ад запісак.

Ён ■ насцярожанасцю глядзеў, як Белы выбіраў з папкі, перачытваў паперкі. Падрыхтаваўся мімаволі да паганага. Але першыя ніякай небяспекі не зычылі. Хтосьці нават пісаў, што «камплімецірующчых мацерыялаў пра таварыша Апейку можна напісаць багата»,

бо ён «такі парціец, што ў яго няхай бы ўсе вучыліся». Другі пісаў, што яго няма чаго чысціць, таму што ён свой і ўсе яго і так ведаюць. Былі запіскі, у якіх наракалі на парадкі ў раёне. Дзве з іх былі напісаны, мабыць, тымі ж людзьмі, якія пісалі на Башлыкова: у адной скардзіліся, што не хапае солі і карасіны, у другой — што прыцясняюць веруючых. Потым ужо адна — вось яно! — пэцнула брудным намёкам: «Чаму таварыш Апейка скрывае, што сапраўднае яго прозвішча не Апейка, а Апенька? Ці не таму, што вядомы міраед-кулак Апенька — яго родны брат?» Тады яшчэ адна, такая ж дурная і злая: «Няхай скажа, сколькі з'еў кулацкага сала?» Але самая паганая была апошняя: «У парційную камісію. Прашу заявіць на сходзе: ці можа займаць важны савецкі пост такі чалавек, як Апейка, які зросся з кулакамі і сам фактычаскі яўляецца іх пасобнікам і заступнікам?»

У зале, калі Белы чытаў апошнія запіскі, захадзіў гоман такі, што Белы пасля кожнай прыпыняў чытанне і паглядваў у гаманлівы прыцемак. Хтосьці крыкнуў хрыпла і моцна: «Брахня!» Яго падтрымалі, між мужчынскіх, стрыманых,— некалькі абураных, жаночых. Апейку гэтыя галасы супакойвалі і падтрымлівалі. Але і з іх падтрымкаю стаяць спакойна было няпроста: удар быў важкі, небяспечны. І ўсё ж Апейка стараўся не паказваць хвалявання: не толькі таму, што на яго глядзела столькі вачэй. Недзе там, сярод добрых, прыязных, помніў ён увесь час, цікавалі вочы, якія прагнулі яму бяды, болю.

— Чаму я Апейка, а не Апенька,— гаварыў ён як мог спакойна, з годнасцю,— пра гэта лепш запытацца ў таго п'янага папа, які запісваў мяне ў метрычную кнігу...— Нехта засмяяўся, іншыя падтрымалі прыхільным гаманком. Апейка адчуў, што тон узяў правільны; загаварыў зноў ■ той жа спакойнай насмешлівасцю: — А як я скрываў, хто мой брат і хто мой бацька, дык гэта, мабыць, не вядома толькі таму, хто пісаў запіску... Хоць,— Апейка нібы задумаўся,— ён, мусіць, знае гэта лепш за іншых...

Зноў засмяяліся, хтосьці крыкнуў, не весела, нават пагрозна: «Знае!» Апейка перачакаў і сказаў коратка, цвёрда:

— Сала братавага я не браў. Не браў і, значыцца,

не еў. Ні аднаго фунта. І браць не думаю.— Гэтыя словы яго таксама ўхвалілі гоманам. Ён памаўчаў, падумаў.— Што да трэцяга пытання, то,— Апейка глянуў на Белага,— яно, можна сказаць,— не да мяне. Гэта пытанне — да камісіі.

Белы кіўнуў, што згодны з адказам. Запытаў у залу, якія да таварыша Апейкі пытанні. Пастаяў, павёў позіркам па зале.

— Чаго тут пытацца! Знаюць усе.

— Свой чалавек!..

Белы цярпліва пачакаў. Пастукаў алоўкам па графіне. Гоман прыціх.

— Хто хоча выступіць аб таварышу Апейку?

— Выступленне тут простае! Добры чалавек!

— Справядлівы!

Белы, жмурачы вочы, прыгледзеўся: хто там гаворыць? Устаў дзядзька, здаровы, шырокі, у расхрыстанай паддзёўцы.

— Ето я казаў! — Апейка пазнаў: «Сопат, рабочы з млына». Белы папрасіў яго выйсці к сталу, але Сопат толькі варухнуў плячом.— І тут добра. Сярод народу. Лаўчэй... Дак от, кажу: добры чалавек! Добры, абыходлівы!.. Словам, парцейны!.. От і ўсё!

Дзядзька зірнуў на Белага, на Апейку, важна, з годнасцю чалавека, які выканаў неадменны абавязак, сеў. Белы зноў пытаўся, хто яшчэ скажа; зноў быў гоман, чулася: «Чаго тут казаць попусту!», «Ясно ўсё!», «Свой чалавек!» Тады паднялася, момант пастаяла, потым ціха пайшла к сталу Міхаленка Вольга, смуглявая, чорная, як цыганка, швейніца з арцелі. Апейка быў добра знаёмы з ёй: яна была сакратаром камсамольскай ячэйкі арцелі, не раз прыходзіла да яго. Зусім нядаўна абуралася ў яго кабінеце, што загадчык арцелі і кладаўшчык рознымі хітрыкамі нажываюцца на чужой працы, крадуць, п'янствуюць. Была яшчэ — таксама нядаўна зусім — з просьбай: дабівалася грошай на ленінскі куток. Ціхая, яна запомнілася Апейку і нейкай незвычайнай, пры гэтай ціхасці, цвёрдасцю, упартасцю. Нясмелая нібы, цыганаватая дзяўчына гэтая судзіла ўсё строгай, нязменнай меркай патрабавальнага сумлення.

Яна і тут загаварыла ціха, як бы нясмела, але з той верай у сваю праўду, якая прымусіла ўсіх прыціхнуць.

— Тут чыталі запіскі, у якіх таварыша Апейку ўсё роўна як вінавацяць у тым, што ў яго паганы брат. Яшчэ і робяць такі намёк, што, маючы такога брата, не можно займаць месца ў райвыканкоме. Я не знаю, хто гэта пісаў, але па том, што напісаў, відно: чалавек ён паганы. Злы. Чалавек, каторы глядзіць, за што ўхапіцца, штоб утаптаць нашага старшыню ў гразь. Утаптаць ні за што ні пра што! — Яна як бы не чула добрага гоману ў зале: жыла адно сваім хваляваннем — выказаць усё, да канца.— Канешне, яблыкі з аднэй яблыні і не далёка падаюць. Ето праўда. Але людзі кожны жыве сваім розумам, у кожнага свая дарога. Брат брату, кажуць, па няшчасцю прыяцель. Ето ўсе адно як сказано да сягонняшняго сходу: такі брат, як у нашага старшыні,— ето, праўда, няшчасце. Да яшчэ калі пра етаго брата напамінаюць табе; калі яго як усё роўна прывязваюць на шыю, штоб утапіць.— Яна перачакала гоман, заявіла непахісна: — Трэба не шукаць, каго б яшчэ прывязаць, а трэба паглядзець — хто сам той, каго сабраліся чысціць. Якая ў самога яго душа, ці душа ето бальшавіка, ці — кулака, спекулянта. У нашага старшыні — душа бальшавіка. Сам ён увесь — бальшавік сапраўдны, правераны. Правераны народам, які яго знае. Знае ўжэ не адзін год.

— Значыць, вы лічыце, што таварыша Апейку няма чаго і абмяркоўваць? — бліснуўшы вачыма да залы, падчапіў яе Галенчык.— Можа быць, вызваліць яго ад чысткі?

— Можна было б і вызваліць,— сказал яна цвёрда. Гледзячы проста ў вочы Галенчыку, дадала яшчэ цвярдзей: — Чышчаны ён. Не адзін ужэ год чышчаны.

Яна ціха і ўпэўнена сышла ўніз, не зважаючы ні на тое, як пакруціў галавою насмешліва Галенчык, ні на тое, як глыбакадумна штосьці запісваў ён у блакнот. Ужо тады, калі ён зноў павёў позіркам па зале, папрасіў слова малады, звонкі голас. Яшчэ па голасе Апейка пазнаў: Кудравец, сакратар райкома камсамола. Папраўляючы на хаду пояс, абцягваючы складкі на гімнасцёрцы, рашучай хадою Кудравец пайшоў насустрач яму, к сталу.

Па тым, як ён ішоў, як стараўся не сустракацца позіркам, Апейка адчуў, што Кудравец выйшаў не абараняць яго. Кудравец стаў край сцэны, ускінуў галаву,

нагадваючы раптам плыўца, што зараз кінецца ў ваду. Набраўшы паветра, ён і кінуўся ў спрэчку: перш за ўсё напаў на камсамолку Міхаленка за яе ідэйна непрадуманую заяву, нібы чыстка партыі неабавязковая для ўсіх партыйцаў. У партыі ўсе роўныя, сказаў ён, і чыстку абавязаны прайсці ўсе, знізу да самага верху. Таму заява гэта Міхаленкі — памылковая, і райком камсамола ў прынцыпе асуджае яе. Апошнія словы Кудравец казаў ужо Галенчыку, і Галенчык слухаў яго з сур'ёзнай мінай; стрымана кіўнуў, што прыме заяву гэту да ведама.

— Цяпер — пра таварыша Апейку...— Голас яго апаў, ён перавёў дыханне, гатовы, здаецца, уздыхнуць. Хоць Кудравец быў наперадзе і Апейку бачылася толькі патыліца ды трохі шчака, ён заўважыў, што той нячмка шукае некага. Вось — знайшоў. Башлыкова. Цяперашняга свайго настаўніка. Апейка востра сачыў, неспакойна і як бы раўніва: Кудравец быў яго вучнем. Не хто іншы, ён, Апейка, заўважыў, прапанаваў вылучыць Кудраўца ў райком, ён падказаў паслаць яго на вучобу. Сам вучыў яго, дзяліўся ўсім, што было ў душы; вучыў, пакуль не паявіўся іншы настаўнік. Цяпершні. «Каго ж ты вылучыў і вывучыў?..» — прайшло раптам цяпер у галаве. Кудравец зноў набраў паветра і як бы нырнуў: — Таварыш Апейка... ніхто не стане адмаўляць... зрабіў нямала. Ніхто не сабіраецца скрываць: таварыш Апейка — чалавек працавіты і... стаіранны. Тут я магу далучыцца да таварыш Міхаленка. Таварыш Апейка стараецца працаваць. Як на сваёй пасадзе старшыні райвыканкома, так і ў бюро райкома. Ён выконвае даручэнні, якія яму даюць як члену бюро.— Усё гэта, асцярожлівае, нясмелае, Апейку чулася, нібы прадмова да іншага, галоўнага, якое Апейка чакаў з раптоўнай, пільнай цікаўнасцю. Ён не памыліўся. Адразу за гэтым тон Кудраўцовага голасу пацвярдзеў.— Мы не сабіраемся скрываць тое добрае, што было. Але — мы і не павінны заплюшчваць вочы на тыя недахопы, якія ёсць. А яны ёсць у таварыша Апейкі. І — немалыя. І тут трэба сказаць гэта не тоячыся. Бо чыстка — гэта не бяседа за сталом са ўсякімі пачастункамі, дзе сябры хваляць адзін аднаго ды абдымаюцца. На чыстцы трэба чысціць, счышчаць усялякія наросты. І тут мы павінны, не тоячыся, сказаць, што ў

таварыша Апейкі ёсць вялікія недахопы. Перш за ўсё, трэба сказаць адкрыта, у таварыша Апейкі не заўсёды хапае бальшавіцкай прынцыповасці. Таварыш Апейка, трэба прама сказаць, нярэдка траціць класавы крытэрый у рабоце.

— У чым гэта выражаецца? — ухапіўся Галенчык, узняў галаву. Кудравец азірнуўся: Галенчык патрабаваў суровага, смелага адказу.

— Ён, таварыш Апейка, вельмі добры...— Кудравец хацеў схаваць ніякавасць, адвярнуўся к зале, загаварыў знарок голасна.— Мы жывём у вялікі, але суровы час. Нас акружаюць і справа і злева ворагі, і нам трэба быць пільнымі і бязлітаснымі. Нам нельга папускацца, быць добрымі. Нам трэба быць бязлітаснымі. Каб вораг здалёк нас баяўся, адчуваў нашу непахіснасць...

— Чаму ж ён, таварыш Апенька, добры такі? — зноў перабіў Кудраўца Галенчык. Перабіў строга, непрыхільна; з нейкім пагрозным, улавіў Апейка, намёкам. Тон быў такі, што Галенчык ведаў прычыну «дабраты»: «добры» — ён вымавіў моцна, насмешліва; Галенчык пытаўся, каб падказаць прычыну другім.

— Ён добры, па-мойму, проста... ад прыроды...— сказаў Кудравец.

— Ад прыроды!.. Гледзячы што разумець пад гэтаю — пры-ро-даю! — Галенчык насмешліва, бліскуча-халоднымі вачыма павёў па зале.— Пры-рода розная бывае!..

— Радзіўся такі...

Галенчык вельмі зразумела — наіўнае дзіця! — пакруціў галавою. Кудравец зноў загаварыў, спачатку няёмка: Апейку былі відны чырвоная шчака і чырвонае вуха; потым — смялей, галасней, як бы стараючыся вярнуць сабе годнасць. Ужо рэзка напаў на Апейку за тое, што заступіўся за былога афіцэра Гарошку, дабіваўся вярнуць яго ў школу; патрабаваў, каб Апейка неадкладна парваў усялякія сувязі з братам, паказаў і тут цвёрдасць і прынцыповасць...

Голасна закончыўшы гаварыць, ён знарок бадзёра хацеў сысці, але Галенчык яшчэ затрымаў яго:

— Што вы прапануеце наконт таварыша Апенькі?

— Я прапаную!..— голасна і бадзёра сказаў Кудравец, мімаволі павёў позіркам на Башлыкова. Як бы

шукаў парады.— Я прапаную,— яшчэ павысіў голас Кудравец, хаваючы кволасць,— указаць таварышу Апейку... што ён павінен канчаткова парваць са сваімі сваякамі ўсялякія сувязі!.. А на пасту займаць цвёрдую класавую, бальшавіцкую лінію!..

— А як вы лічыце — можна аставіць таварыша Апеньку ў радах членаў КП(б)Б?

«Унь як!» — не так здзівіўся, як адзначыў сабе Апейка. Ужо даўно чуў ён, што небяспека тоіцца там, дзе Галенчык, чакаў адтуль пагрозы. Праз гэта ён менш, як трэба было б, дзівіўся таму, як паводзіў сябе Кудравец. Ён проста нібы адкрываў сабе новае ў характары Кудраўца. Дзіўна, заўважыў на Кудраўцовай патыліцы пот. «Нялёгка хлопцу...»

— Я так думаю,— не паказаў кволасці Кудравец.— Трэба, каб таварыш Апейка даў слова. Што ён у далейшым будзе цвёрда весці бальшавіцкую лінію. Ва ўсім. Папярэдзіць яго.

3

Яшчэ Кудравец не дайшоў да лаўкі, як з радоў ускочыў, імкліва рушыў да сцэны Гайліс. Хударлявы, жылаваты, у расшпіленым шынялі, ускочыў на сцэну, крута павярнуўся к зале.

— Не можно так, таварыш Кудравец! — зазвінеў высока, востра галасок.— Не можно! Ві — молады большавік! Ві — кіраўнік райкома камсамола! Ві должны паказваць прымер усёй моладзі! Трэба мець свой характэр! Свой цвёрды прынцып!

— Я гаварыў прынцыпова! — устаў, крыкнуў з залы Кудравец.

— Ві говорылі без прынцып! — абрэзаў яго Гайліс.— Ві говорылі прынцып: «Чэго ізволітэ!» Вот какой говорылі ві прынцып!..

— Таварыш Гайліс! — упэўнена, уладна спыніў латыша Галенчык.— Вам ніхто не даў права абражаць людзей. І заціскаць ім рот. Калі яны гавораць тое, што вам не падабаецца.

— Я не заціскаю рот! Но надо говорыць праўду! Говорыць не аглядваючысь!

— Не забывайце, дзе вы знаходзіцеся. Не забывайце, што вы на пасяджэнні камісіі па чыстцы.

Белы пастукаў алоўкам па графіне, тонам загаду сказаў: «Таварыш Галенчык!» Галенчык зіркнуў незадавольна, але змоўк, стаў штосьці запісваць у блакнот.

— Я не забываю, што тут ідзёт чыстка. Тут рашаецца судзьба таварыша Апейка. І надо говорыць чэсно. Дажэ калі это непрыятно некоторым на вухо! Надо говорыць праўду, товарыш Кудравец!

— Кажыце пра таварыша Апейку,— папрасіў спакойна Белы.

— Это тожэ імеет отношэніе до товарыша Апейко. Товарыш Апейко — сапраўдны большэвік. Настояшчый. Он усе сілы оддаёт, штоб парційнае дзело перамагало. Он не баіца, як некаторыя, ездзіць у самыя глухія сёлы. У балото і ў лес не баіца лезці. Он усяго сябе оддаёт для працоўных людзей. І людзі любят яго. Яго не любят только нехарошые людзі, которые хочуць яго запэцкаць! Ківаюць на брата! Но он с братом не імеет нічого брацкого! Он брат усім працоўным людзям, а не міраеду. З которым радзіўся разам случайно!..

Захапіўшыся, гарачы латыш расказаў, як памагаў Апейка будаваць школу ў Мокуці, ладзіць дарогі, як прыязджаў аж на луг арганізоўваць калгас у Куранях; спыніўся раптам, коратка, непахісна заявіў зноў, што таварыш Апейка — «сапраўдны, настояшчый большэвік». Ужо ступіў са сцэны, калі стаў, павярнуўся да камісіі: — А вам, товарыш Галенчык, не надо подказваць, што говорыць. У кожного ёсць свой голова! Свой розум. Ясно?

Не чакаючы, што Галенчык скажа, рашуча пайшоў у залу, якая зноў ахвотна, ухвальна загаманіла, запляскала.

Ніколі за ўсе гады не перабіралі так Апейкава жыццё, як у гэты вечар. Успаміналі, спрачаліся, папраўлялі адзін аднаго, гаварылі, крычалі да хрыпаты. І смалілі, смалілі цыгаркамі: дым вісеў над людзьмі хмараю. Амаль не зачынялі дзвярэй, часта расчынялі вокны, каб выцягвала дым; тады чуваць было, як па нагах паўзе халадок, халадок цёмнай асенняй ночы. Людзі то выходзілі, то заходзілі, стаялі ў сенцах, гаманілі пад вокнамі; к поўначы трохі разышлося, але ў зале было і цяпер амаль што поўна. Што далей, то часцей сталі пакрыкваць, што пара канчаць,— пра Апейку, усё яс-

на; але Белы не слухаўся, даў выказацца ўсім. Было ўжо далёка за поўнач, калі старшыня запытаў у членаў камісіі, ці няма ў іх пытанняў.

Зала зноў глядзела на Галенчыка. Той, ссунуўшы строгія бровы, хвіліну думаў, перш чым выказаць сваё права і ўладу. Ці даўно бачыліся з братам? У якіх адносінах вы з былым настаўнікам і афіцэрам Гарошкам? Якія адносіны ў вас з кулаком Глушаком? Падрыхтаваны ў думках, што ад Галенчыка можна чакаць усяго, Апейка адказваў спакойна, з годнасцю; не абураўся нават тым, што Галенчык на ўсё недаверліва крывіць губы. Апейку як бы падтрымлівалі і разумная ўвага Белага і спачуванне залы.

Галенчык не вельмі насядаў на Апейку з пытаннямі. Ён неўзабаве заявіў, што пытанняў больш няма. Але як толькі Белы пацікавіўся, ці не хоча хто з членаў камісіі выступіць, Галенчык глыбай падняўся за сталом.

Ён адразу заявіў, што некаторыя з тых, якія выступалі, не паказалі належнай палітычнай спеласці. Больш таго, некаторыя, як таварыш Гайліс, паспрабавалі зацісн уць рот тым, хто адважваўся крытыкаваць Апеньку. Больш таго, стараліся выставіць Апеньку як нейкага святога, якога і падазраваць у грахах не дазволена.

— Паглядзім, ці такі ён святы, таварыш Апенька, як тут стараліся некаторыя даказаць. Паглядзім, узважым усё строгай, бальшавіцкай меркай.— Галенчык акінуў вачыма залу. Непахісны, бязлітасны.— Узважым... Бальшавіцкай меркай! — Памаўчаў, загаварыў цішэй, мякчэй, паблажліва: — Таварыша Апеньку тут называлі добрым. Справядлівым. Чулым. Хвалілі, што таварыш Апенька ўсіх прымае. Усіх выслухоўвае. Памагае ўсім.— Галенчык нібы пахваліў таксама: — Памагае, правільна. Правільна!..— Голас яго дзіўна заняўся. У голасе штосьці таілася, абяцала: — Памагае. Але — давайце паглядзім,— Галенчыкаў голас падужэў,— *як* Апенька памагае і — *каму* памагае! Вот што давайце паглядзім!.. Адна справа — калі памагаюць працоўнаму чалавеку, бедняку, які шукае парады і падтрымкі ад роднай савецкай улады, які просіць, каб савецкая ўлада абараніла яго ад заклятага яго ворага і ворага савецкай улады — кулака-міраеда. Гэта адна

справа. І тут мы можам цалкам ухваліць такога кіраўніка як сапраўднага прадстаўніка савецкай улады на месцы! Сапраўднага савецкага кіраўніка! — Галенчык зноў акінуў залу. Зала сачыла за кожным яго рухам, чакала.— А другая справа,— загаварыў ён з нейкай уедлівасцю, яхіднасцю,— калі ў кабінет старшыні савецкага выканкома прыходзіць лішэнец, цвёрдазаданец, былы царскі афіцэр! Калі яны размазваюць па твары кракадзілавыя слёзы толькі для таго, каб затуманіць нашу галаву, усыпіць нашу бальшавіцкую пільнасць! Гэта — другая справа!.. Адна справа — гэта наш друг, працоўны чалавек, а другая — вораг, класава чужды вораг, з якім трэба быць заўсёды напагатове, якому нельга даваць ніякага спуску! Па таму, як адносіцца чалавек да класава чуждага ворага, праяўляецца перш за ўсё бальшавіцкая стойкасць і загартоўка!..— Галенчыкаў голас пацішэў, і зноў пачулася ў ім яхіднасць: — І вот тут адкрываюцца нашым вачам, проста сказаць, дзіўныя рэчы! Партыец з такім вялікім стажам, пастаўлены на адказны пост старшыні райвыканкома, сплош і радам губляе простую і чоткую класавую лінію! Замест таго, каб цвёрда праводзіць генеральную лінію, ён сам сваёй рукою выцірае ворагу кракадзілавыя слёзы!..

Апейка чуў, як штосьці важкае, гарачае залівае ўсяго, б'е нецярпліва ў скроні, тлуміць галаву. «Унь куды гне!» Хацелася ўскочыць, перабіць, усёй зале сказаць, чаго варты гэтыя паганыя падступы, гэтыя брудныя закіды. Але ён стрымліваў сябе, падбадзёрваў: няхай гаворыць, няхай усё выказвае! Ён адкажа яму!..

У зале амаль не гаманілі. Амаль усе маўчалі, чакалі... У цішыні гэтай вельмі чутна вырвался: «Што ён пляце, людзі!» Шчырае, здзіўленае, жаночае...

Галенчык не тое што не збянтэжыўся: па твары прайшла нават давольная, задзірыстая ўсмешачка. Ён упэўнена стаяў за сталом, член камісіі таварыш Галенчык, ён абводзіў залу позіркам, у якім былі і смеласць і разуменне ўсяго, недаступнага многім з тых, якія ў зале. Можа быць, нават усім недаступнага. Разуменне і цвёрдасць, якая толькі мацнела ад розных выкрыкаў...

— Вам трэба факты? — сказаў ён, як бы радуючыся. Голас яго зноў дзіўна падужэў.— Калі ласка! Усе

вывады, якія я зрабіў тут, асновалы на фактах. Усе факты — праверанвя, дакладныя. Я пачну з таго, на што даволі асцярожна, намёкам нацэліў таварыш Кудравец. На факт заступніцтва таварышам Апенькам за былога афіцэра Гарошку. Падумайце: член партыі, старшыня райвыканкома сам дабіваецца, каб аднавілі на рабоце настаўнікам былога афіцэра. Каб даверылі выхоўваць наша маладое савецкае пакаленне, нашу надзею, дзяцей — беламу афіцэру, заклятаму ворагу савецкай улады! Трэба дадаць: гэта таксама важны момант, вельмі важны! — сваёй цэлі Апенька дабіваецца пасля таго, калі партыйная ячэйка, райком камсамола і райана разаблачылі гэтага ворага і вырвалі яго, як шкодную траву, з асяроддзя нашых савецкіх дзяцей. Аб чым гэта гаворыць, падумайце, таварышы! Але гэты факт — не адзіночны. Такіх фактаў вельмі многа, іх можна прывесці дзесяткі, а можа і сотні з дзейнасці Апенькі на пасту старшыні райвыканкома! Не далей як тыдзень таму, ужо тады, як работала камісія, таварыш Апенька ўзяў пад сваю апеку ашуканца цёмных нашых людзей — папа! Які прыйшоў да яго ў райвыканком з казкамі, нібы ён усвядоміў шкоду рэлігіі, якой ён служыў усё жыццё! А цяпер рашыў астрыгціся! Захацеў быццам бы пачаць жыць сумленным жыццём! Таварыш Апенька, вопытны работнік, немалады партыец, «паверыў» на слова гэтаму прайдзісвету, богаваму служку! Які прыкінуўся толькі для таго, каб замаскіравацца пад нашага савецкага чалавека! Каб уладзіць у наш савецкі інстытут свайго папоўскага сынка! Больш таго, Апенька — гэта факт, правераны факт! — даў указанне гэтаму папу, каб той вёў агітацыю супроць рэлігіі! І ўзяў слова, што той будзе агітаваць! Гэта — не выдумка! Факт!.. У той жа самы дзень Апенька ўзяў пад сваю апеку яшчэ аднаго пакрыўджанага савецкай уладай — сынка крывавжэрнага кулака з вёскі Курані — Глушака Сцяпана! Гэты кулацкі выкармак устроіў Апеньку спектакль, нібы бацькаў кулацкі хлеб дзярэ яму горла і ён кінуў бацьку! І ён просіць, каб далі яму месца працаваць у камуне! І Апенька паверыў кулацкаму сынку, паверыў! І памог ушыцца ў камуну!

У зале там-сям шумелі, раз-пораз вылятали крыкі: абураліся Галенчыкавай гаворкай, радаваліся ёй;

Апейка не дзівіўся, проста адзначаў сабе: былі і такія, што радаваліся. Але большасць, прыкмячаў ён, маўчала; маўчала і чакала, што будзе яшчэ. Было штосьці і ў саміх прыкладах, і ў тым, як гаварыў Галенчык, нешта такое, што прымушала людзей слухаць, маўчаць, чакаць. Рукі Апейкі дрыжалі; важкае, тлумнае ўсё поўніла галаву, нецярпліва ўздымала з табурэткі. «Няхай гаворыць, няхай выкладвае ўсё!..— як бы загадваў ён сабе.— Спакайней, спакайней слухай! Трымайся ■ годнасцю: людзі глядзяць на цябе! Няхай бачаць, ты ведаеш: праўда твая! Трэба слухаць усё, запамінаць! Каб не прапусціць потым чаго-небудзь, адказваючы!..»

— Што гэта такое? Як гэта назваць? — уядаўся ў Апейку галасок.— Ёсць людзі, якія называюць гэта «дабратою».— Галасок быў поўны іроніі.— Вы, таварыш Кудравец, называеце гэта дабратою, а бальшавікі, сапраўдныя бальшавікі, называюць гэта інакш. Сапраўдныя бальшавікі называюць гэта — патураннем класава чуждаму ворагу. Змычкай з класава чуждым ворагам! Па сапраўднаму бальшавіцкаму азначэнню — гэта не што іншае, як скрыўленне класавай лініі бальшавіцкай партыі! Па бальшавіцкаму азначэнню гэта не што іншае, як правы ўхіл. Вот што гэта такое, калі глядзець глыбока і адкрыта!.. Правы ўхіл, з якім бальшавіцкая партыя пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна вяла і будзе весці бязлітасную барацьбу! — Галенчык ледзь не сарваў голас, але прымусіў замерці ўсю залу. Ён кіпеў гневам, у ім чулася вялікая сіла. Апейку раптам узяла кволасць: «А што, калі і Белы ці Беразоўскі так жа?!. Калі яны паддадуцца гэтаму?!.» — ён хацеў знайсці слова, як назваць Галенчыка, але не знайшоў. Пачуў раптам ва ўсім целе нядобрую млоснасць. «Спакайней, спакайней трэба!» — нагадаў сабе. Але спакою не было...

— У чым прычына ўсяго гэтага? — гаварыў цішэй, хрыпавата, але з цвёрдасцю, настойлівасцю Галенчык.— Чаму Апенька такі «добры» — ці, па нашаму азначэнню,— такі няўстойлівы? Прычына тут простая. Шукаць доўга не трэба. Толькі сляпыя могуць не бачыць яе! Тут не выпадкова, і ў матэрыялах камісіі і ў некаторых выступленнях, касаліся асобы некаторых сваякоў Апенькі, у прыватнасці асобы яго брата Апенькі Савасцея! Падабаецца ці не падабаецца некаторым,

мы не можам заплюшчыць вочы на тое, што сам Апенька, сам састаіць у родственнай сувязі з класава чужды-мі элементамі! Ён звязаны з імі адным ланцугом. Таму ён і абараняе іх, сплош і радам служыць ім! Служыць і тайна і адкрыта!.. Яблыка падае не толькі блізка ад яблыні, але і блізка ад другога яблыка! Яны ляжаць радам! У гэтым і ўся прычына Апенькавай «дабраты»! І калі тут, у матэрыяле, які паступіў у камісію, пытаюць, ці можа такі чалавек займаць адказны савецкі пост, то я на гэта магу заявіць: не можа! — Галенчык адужаў гоман у зале, яшчэ цвярдзей заявіў: — Не можа!.. Я лічу, што камісія павінна таксама сур'ёзна ўзважыць усе даныя і зрабіць свае сур'ёзныя вывады пра тое, ці дастойны такі чалавек быць у бальшавіцкай партыі. Партыі, якая павінна быць у абстаноўцы бязлітаснай класавай барацьбы згуртаванай як адзін чалавек і непахіснай!.. Я асабіста лічу, што Апеньку ў такі адказны момант астаўляць у партыі не трэба! І,— заявіў ён праз гоман і крыкі,— галасаваць буду супроць!

У Апейкі грымела ў скронях. Цяпер, калі трэба была яснасць у думках, ён пачуў, што галава яшчэ налілася тым гарачым, важкім: абвалакло, заняволіла думкі. Толькі грыміць у скронях. Ды лезе непаваротлівае, упартае, нястрыманае: «Няўжо? Няўжо можа быць?..» Астатняе было недзе за думкамі, але ён чуў яго ўсёй істотай: няўжо могуць вычысціць? Усё раптам страціла рэальнасць, даходзіла да яго як штосьці незразумелае, недасяжнае розуму.

«Спакайней, спакайней трэба!..» — загадаў ён, але спакой не прыходзіў. Праз гарачую завалоку чуў ён гоман у зале, бачыў, як ускочыў нехта. Здзіўлена, галасна кінуў:

— Людзі, што ж ето ён плёў! Усё ж ето... Брахня ўсё ето! — Ад стала — Белы, мабыць,— пачуўся звон алоўка аб графін.— Якое ж тут скрыўленне лініі!.. Поп прыходзіў, кулацкі сын! Ахвіцэр! Дак к яму ж усе прыходзяць! Усе к яму ідуць! Я пяць разоў была! Чаму ён не ўпамянуў! Дак якое ж тут скрыўленне!.. Па-мойму, савецкая ўлада такая і павінна быць! Як Іван Анісімавіч!.. Выгнаць з парціі! Вы чулі! Ды яму «дзякуй» трэба сказаць! Сказаць, штоб у парціі ўсе былі, як ён!

Жанчыне заляскалі; хтосьці крыкнуў: «Правіль-

на!», «Маладзец!» — і на Апейку найшла неспадзяваная хваля расчуленасці.

Некалькі чалавек цягнулі рукі, прасілі слова; блізка ад сцэны з паднятай рукой стаяў Гайліс, чакаў дазволу, але Белы стукаў па графіне, пакуль не прыціхла.

— Таварышы, камісія абмяркуе таварыша Апейку ўсебакова і аб'ектыўна,— спакойна загаварыў ён.— Рашэнне наша будзе справядлівае. Я прашу весці сябе дысцыплінавана і вытрымана, каб камісія магла працаваць з поспехам... Слова мае таварыш Беразоўскі, член камісіі.

Беразоўскі, як і седзячы, калі стаў, таксама горбіўся, важкая галава выдавалася ўперад; у стол упіраліся моцныя кароткія рукі. Вочы глядзелі спадылба, і збоку здавалася, што яны нядобрыя, злыя, і сам ён здаваўся хмурным, жорсткім.

— Я хачу ўказаць тут на некаторыя маменты,— сказаў ён важка, глуха.— З каторымі я не згодны. Антон Аляксеевіч тут асвятліў так, што Апейка звязан з варожымі элементамі і састаіць у радстве з імі. Ён гаварыў пра брата Савасцея. І не сказаў, што ў Апейкі ёсць яшчэ брат і тры сястры. І што яны — беднякі ці маламоцныя серадиякі. І не атмеціў, што бацькі Апейкі зноў жа — самай, што ні на ёсць, пралетарскай крыві. Гэта ён упусціў. Па-другое,— ты, Аляксеевіч, упусціў, што за ахвіцэра Апейка хадатайстваваў не сам, а таму, што к яму прыходзілі дзеці са школы. От што. Паслухай, потым скажаш! — не даў ён перабіць сябе Галенчыку.— І я папутно хачу сказаць — шчэ раз, што ахвіцэры таксамо — розныя былі. Я табе расказваў ужэ пра штабс-капітана Карабкова, каторы шчэ пры царском рэжыме агіціраваў нас за бальшавікоў. І пайшоў пад суд за ето. Або вазьмі Тухачэўскаго — зноў жа ахвіцэр, да шчэ і з дваран. А Ленін не пабаяўся назначыць яго камандуюшчым. Пастой, паслухай! Я ж цябе не перабіваў!.. А тут жа гэты Гарошко — хто? Не тое што не дваранін, а і селянін — бацько яго — не асаблівы. Серадняк. Вывучыў яго, выбіваючыся з сілы. У людзі хацеў вывесці. Вывучыў, зрабіў настаўнікам. І з-за таго Гарошку етаму і начапілі залатыя пагоны. От які гэто ахвіцэр! І зноў жа людзі, як ты чуў, гаварылі: супроць савецкай улады — нічого не рабіў. За савецкую ўладу гаварыў!.. Не пішы, паслухай ды падумай.. Дак

які ж гэто, як ты кажаш, закляты вораг!.. І к таму ж дзеці прасілі Апейку за яго! Так што тут твая крыціка — пустая! І пра хлопца таго, пра Глушака, папутно — тое ж скажу. Калі ён хоча жыць па савецкаму закону — няхай жыве! І правільно — што Апейко памог яму! Няхай жыве! Што ж яго, як тое кацяня: яно на бераг, задыханы ўжэ, лезе, а мы яго зноў у раку: тапіся! Тут зноў тваё ўпушчэнне! І папутно зноў адкажу пра самого Апейку. Ты няправільно стараешся завесці яго ў тупік! Няправільно! Ён, канешне, чалавек, не святы, ето правільно: жывучы на зямлі, усяго набярэшся. Як той куст пры пуцях — і пылу, і шлаку. Але ён, Апейко,— харошы чалавек. Бальшавік. Не перабівай, слухай! Аб етом гавораць усе факты, усе надзейныя людзі пацвердзілі гэто, з якімі мы гаварылі. А ты ўхапіўся за мацер'ял, каторы падкінуў, можа, які-небудзь прахадзімец. «Ці можа быць такі чалавек на савецкім пасту!» І яшчэ падпяваеш яму: «Не можа!»

— Я не падпяваю,— абурыўся Галенчык.— Я даказаў гэта пераканаўча!

— Нічога ты не даказаў! — загарэўся і Беразоўскі.— Нічога! — Гаварыў, як лажыў важкія, чыгунныя пліты: — Ты кажаш — «Не можа!» А я кажу: можа! І ў партыі — можа быць! Такая мая думка! От што!..

Апейка, які пасля Галенчыка не вельмі верыў у гэтага не зусім зразумелага, прытоенага маўчуна, слухаў яго і раптоўнай уцехай і з вінаватасцю. От, чакаў ад яго паганага, не верыў, а ён — глядзі ты, цвёрда сказаў сваё слова. І якое слова, якое разумнае, цвярозае; Апейка быў поўны неспадзяванай удзячнасці. Раптам перастала біць у скроні, пасвятлела ў галаве. Пачуў сябе лягчэй: як бы ўбачыў наперадзе прагаліну...

Спакайней, з давер'ем слухаў Белага, які, відаць, хацеў ужо канчаць абмеркаванне.

— Час позні, таварышы. А мы хацелі б абмеркаваць яшчэ аднаго таварыша... Таму я яшчэ раз прашу: быць дысцыплінаванымі. Памагаць нам працаваць... Не шумець у зале...— Ён памаўчаў, і Апейка зразумеў: зараз пачне гаварыць пра яго. Белы загаварыў так жа роўна, спакойна, але разважліва: — Чыстка... Што такое — чыстка?.. Чыстка — здаецца — вельмі простае: чысціць... Бяры мятлу — лепей густую ды пацвярдзей — і мяці... Чысці, шаруй. Пакуль не стане чыста. Чым мят-

ла цвярдзей, чым шаруеш цвярдзей, тым лепей... Проста...— Памаўчаў зноў, заявіў: — Проста і — няпроста!.. Проста — калі падлога, і няпроста — калі людзі! Няма такой мятлы, якая чысціла б проста людзей. Няма і — не будзе! От у чым закавыка! Тут штука — тонкая! Тут не размахнешся! Тут дзесяць разоў трэба прыгледзецца, вывучыць усё! Каб рашыць справядліва, пабальшавіцку!.. Яно ж — і гаспадыня добрая, метучы, не асабліва размахнецца мятлой... Глядзіць, як бы са смеццем не вымесці і лыжкі ці лапця... А як жа камісія павінна глядзець, каб не аставіць у партыі смецця. І каб,— Белы загаварыў з націскам,— каб не вымесці таго, чаго вымятаць не трэба! Што патрэбна ў гаспадарцы, што трэба партыі бальшавікоў!.. От што такое, калі падумаць, чыстка! Вымесці смецце і аставіць усё добрае!.. Той, хто вымятае не толькі смецце, а і добрых партыйцаў, той робіць не меншае зло, чым той, хто пакідае смецце!.. От з гэтага давайце і паглядзім на ўсю гэту гісторыю з таварышам Апейкам... Давайце паглядзім, хто такі таварыш Апейка!.. Таварыш Беразоўскі гаварыў, хто яго бацькі. Правільна гаварыў. Тут карціна ясная, і няма чаго паўтараць тое, што вядома. Давайце паглядзім на жыццёвую дарогу самога Апейкі!.. Дзіця бедных бацькоў. Пастух, касец... Навабранец... Салдат у акопах... Чырвонаармеец... Тут вельмі важна, што ў Чырвонай Арміі ён не адбываў службу, а служыў не шкадуючы сябе!.. Быў ранены!.. За савецкую ўладу чалавек праліў кроў!.. Для савецкай улады ён стаў камандзірам. Агітатарам!..— Год за годам перабіраў Белы Апейкава жыццё, пакуль не падвёў да вываду: усё, чаго дабіўся Апейка, ён дабіўся, дзякуючы савецкай уладзе і таму, што па-сыноўняму служыў ёй. Само Апейкава жыццё, якое нядаўна пад недаверлівым, зняважлівым позіркам Галенчыка выглядала нікчэмным, бруднаватым, цяпер разгортвалася, як, няхай і не выдатнае асабліва, адкрытае людскім вачам, віднае ад краю да краю поле.— Такое жыццё таварыша Апейкі...— нібы падвёў рысу Белы.— На ім — адна вялікая, паганая пляма. Брат. Кулак. Родны брат — кулак!.. Кулак і па свайму становішчу, і, як мы ведаем, па свайму духу. Скажу проста, такое сваяцтва насцярожвае і прымушае нас больш уважліва прыглядацца да таварыша Апейкі. І я тут разумею недаверлівасць та-

варыша Галенчыка,— раптам прыкра адгукнулася ў Апейку. Насцярожыла.— Я і сам з асаблівай увагай вывучыў гэтую частку Апейкавай біяграфіі. Гэта вельмі важна для высвятлення асобы таварыша Апейкі,— трывожыў Апейку Белы.— Па тым, якія адносіны ў Апейкі з братам, мы можам меркаваць, хто такі сам Апейка... Таварыш Галенчык сказаў, што з адной яблыні яблыка ад яблыка падае недалёка. Сказаў нават, што ляжаць радам... Гэта правільна. Што да яблык. Але людзі — не яблыкі. Людзі могуць быць і радам, і могуць быць па розныя бакі барыкад... Таму мы ўважліва праверылі, блізка ці далёка адзін ад аднаго браты Апейкі. Праверылі, еў ці не еў Апейка, як тут пісалі, кулацкае сала. Я магу ўпэўнена сказаць цяпер: не еў. Браты, можна сказаць, ідуць зусім рознымі дарогамі... Але, разам з тым, камісія ўказвае таварышу Апейку, што ён вінаваты, што не спыніў своечасова брата. Што даў яму вырасці ў такога вырадка, у кулака!.. Гэта віна ёсць на таварышу Апейку, і мы ўказваем яму!..

«Вінаваты, век буду вінаваты! — падумаў Апейка.— Век будуць чапляць!» Узяло расчараванне: разумны чалавек, а гаворыць такое! Але Белы не цікавіўся яго пачуццямі, Белы спакойна, незласліва і бязлітасна вёў сваю гаворку, мераў усё сваёй меркай. Вось пачаў ужо новае: «А цяпер паглядзім, як праявіў сябе таварыш Апейка на рабоце. Работа — самая дакладная праверка бальшавіка...» Апейка не прапусціў слова да тых апошніх, якія сказаў Белы:

— І калі найлепш пра чалавека меркаваць па рабоце, па справах, то таварыш Апейка,— наш, савецкі работнік. Бальшавік... Са сваімі заслугамі перад партыяй... Такія людзі патрэбны партыі.

Калі Апейку далі слова, ён раптам пачуў, што не ведае, з чаго пачаць. У душы было яшчэ поўна трывогі, неастылага хвалявання. І разам з тым жыла надзея, адчуванне, што ўсё кончыцца добра. Адзін будзе супроць, але магло б быць і горш. Ён бачыў перад сабою твары: яснейшыя ў кругах святла, цьмяныя — далей. Твары, вочы, вочы, што чакалі. Што ж казаць? Можна гаварыць многа, але нашто? Беразоўскі і Белы сказалі... І трэба — падумаць, разабрацца ва ўсім. Але — гэта потым... Як цяжка гаварыць, калі столькі адразу асела

ў галаве, столькі перажыта!.. Трэба коратка. Самае галоўнае...

— Жыццё — штука складаная...— Ён здзівіўся, які ў яго хрыплы голас. Загаварыў галасней: — Не заўсёды зразу можна знайсці правільнае рашэнне... Я, канешне, не раз памыляўся. Але я ніколі,— голас Апейкі пацвярдзеў,— не патураў ворагу. І тым больш не змыкаўся з ім, як тут стараўся пераканаць таварыш Галенчык. Такім жа безадказным лічу я і абвінавачванне мяне ў правым ухіле, якое таксама ж блізка да ісціны, як і іншыя. Калі я памагаў каму-небудзь з тых, у кім сумняваецца таварыш Галенчык, то таму, што лічыў, што гэтыя людзі могуць быць карысныя нам. І лічыў подлым таптаць людзей, якія хочуць жыць па-новаму. Нават калі гэтая дарога была для іх не простая... Я ведаў, што знойдуцца дзеячы, якія прычэпяць адзін з тых ярлыкоў, якія тут начапілі, але лічыў трусасцю рабіць наперакор свайму партыйнаму сумленню... Я і далей буду рабіць так, як падказвае мне партыйнае сумленне. Не азіраючыся на выкрыкі тых, у каго кульгаюць ці разважнасць, ці, можа быць, сумленне...

— Вы каго маеце на ўвазе? — загарэўся Галенчык.

— Я сказаў усё,— зірнуў Апейка на Белага.

— Будзем галасаваць...— Белы ўстаў, як бы даючы зразумець важнасць хвіліны, памаўчаў.— Хто за тое, каб таварыша Апейку Івана Анісімавіча аставіць у партыі? — Ён сам, першы ж, падняў руку. За ім падняў руку Беразоўскі.— Двое... Хто — супроць?.. Адзін... Такім чынам, большасць — «за»...

Ледзь Белы аб'явіў рашэнне камісіі, не чакаючы, калі сціхнуць воплескі, Галенчык папрасіў слова:

— Я лічу гэтае рашэнне няправільным. Лічу, што камісія ў даным выпадку праявіла палітычную блізарукасць і апартунізм. Я пераканаўся ў гэтым яшчэ раз, слухаючы выступленне Апенькі,— у якім ён не толькі не прызнаў сур'ёзных палітычных памылак, а заявіў, што будзе так жа дзейнічаць і далей. І ў якім ён назваў усіх, хто ідзе прама, трусамі і дурнямі... І я далажу пра гэта вышэйстаячым інстанцыям. Для адпаведнага вываду.— Ён зноў абвёў залу, перш чым сесці. Ён быў упэўнены, што не ўсё кончылася.

## 4

Поўны хвалявання, думак, Апейка нібы праз заваloку бачыў, як чысцілі трэцяга, Харчава. Паўнацелы, шыракагруды — аж гімнасцёрка як не трашчала, ён стаяў прама, па-вайсковаму, гаварыў коратка, голасна, трымаўся вельмі спакойна. Спакой на яго бурувата-чырвоным твары, ва ўсёй моцнай постаці быў і тады, калі пачалі чытаць запіскі. Запісак было нямала, і большасцю — нядобрыя. Што п'е часта; што грубы з людзьмі; што без прычыны арыштоўвае людзей.

Харчаў гаварыў: «Што выпіваю часам — гэта праўда. Не адмаўляюся. Але ніякіх парушэнняў па службе з-за гэтай прычыны не было і не будзе. Я выпіваю ў свабодны ад службы час. Калі б я ні піў, я ніколі не прапіваў памяць. І тым больш — сумленне. Я заўсёды помню пра свой абавязак і заўсёды магу выканаць любое паручэнне... Я адмятаю, як паклёп,— голас яго падужэў, пацвярдзеў,— што з — грубы з людзьмі.— Ён перасіліў гоман у зале.— Я, канешне, рассусольваць не люблю, але з людзьмі невінаватымі я гавару вытрымана і ветліва. Я грубы з тымі, з кім трэба быць грубым. Са ўсякай контррэвалюцыйнай сволаччу і спекулянцкай нечысцю. У мяне такая работа... Мне даручана глядзець за ўсякай нечысцю, ахоўваць ад яе савецкую ўладу ў раёне. І савецкі парадак. І я ахоўваю. Не цырымонячыся з тымі, хто падкопваецца пад наш парадак. Я не цырымоніўся і цырымоніцца не буду!..»

«Ну, а што вы скажаце на тое, што вас абвінавачваюць у незаконных арыштах?» — нагадаў Белы.

«Я скажу так, што незаконных арыштаў не было.— Харчаў адужаў гоман у зале: — Гэта паклёп. Калі трэба, я гатоў хоць сягоння даць поўны адказ адпаведнай камісіі. На кожны факт арышту, на кожную меру. Аб усіх мерах я дакладваю ў адпаведныя органы. Ніякага самаўпраўства я не дапускаю.— Мабыць, таму, што ў зале гаманілі нядобра, ён дадаў яшчэ цвярдзей: — Усе арышты былі таму, што былі контррэвалюцыйныя дзействія! І пакуль яны, такія дзействія, будуць, мы будзем прымаць неабходныя меры!..»

Гайліс дапёк Харчаву так, што бура-чырвоны твар Харчава стаў барвовы. Спачатку за выпіўку: «піць на такім пасту ёсць самае вялікае злачынства!»; «чала-

век, каторый п'ёт, не можэт не згубіць совесць! І не можэт заўсёды віконаць любое заданне!» Потым за грубасць: «Товарыш Харчэў не верыт іншы раз не толькі простый селянін, але і савецкі актыў, партыйцам не верыт. Сам сабе толькі верыт!.. Поэтому ў товарыш Харчэў ёсць памылкі! Незаконныя арышты! Ві жэ незаконно арыштовывалі грамадзянку Сарока и Курані! Ві выпусцілі скоро, но ві жэ — арыштавалі! Почэму жэ ві гаворыце: незаконных арыштаў не біло!»

За Гайлісам выскачыў ліслівы Зубрыч, заступіўся за Харчава: Харчаў выключна адданы справе, прынцыповы бальшавік!

Потым падтрымаў Харчава Башлыкоў, які зноў трымаўся з гаспадарскай упэўненасцю. Заявіў, што Харчаў працуе ў самым цесным кантакце з райкомам, ніякіх фактаў злоўжывання сваімі правамі не дапускаў. Пахваліў Харчава як члена бюро: справядлівага, сумленнага, актыўнага. У самых складаных і важных справах ніколі не быў убаку, удзельнічаў заўсёды адкрыта, прынцыпова, па-партыйнаму...

Доўга, крыкліва тлумачыў значэнне працы Харчава Галенчык, які, аказалася, мог быць і шчодры на хвальбу. Горача маляваў ён тым, якія сядзелі ў зале, воблік адданага, строгага, але справядлівага бальшавіка, якому выпала на долю такая цяжкая і слаўная праца. Апейка бачыў, як Харчаў, па-свойму праўдзівы, непрыхільны да напышлівых слоў, няёмка крывіўся ды адварочваўся ад Галенчыка...

Выйшлі на вуліцу пад раніцу. Неба шарэла. Было вельмі холадна: гразь узялася храпаю. Апейка разы тры спатыкаўся. «Пара б ужэ снегу быць... Штоб не пашкодзіла азімыя...» Ішло спачатку побач некалькі чалавек, потым асталіся ўдваіх. Харчаў, які таксама маўчаў, раптам плюнуў:

— Ну і гніда ж гэты крыкун! Ці ганіць, ці хваліць — бляваць хочацца...

Апейка не сказаў нічога. Разам дайшлі да хаты, разышліся кожны на свой ганак.

Па тым, як хутка адчыніла дзверы жонка, Апейка зразумеў, што яна не спала. Можа таксама была на сходзе...

— Была? — стомлена зірнуў ён на яе, павячэраўшы.

— Была... Усё, як трэба было чакаць...— здагадалася яна.

Калі лёг, пачуў, як стаміўся. Пачуў, якую небяспеку пераджыў. «А што, калі б — не Белы, не Беразоўскі?.. Хто-небудзь яшчэ... пад Галенчыка... ці — без характару... Ды і так — ці ўсё яшчэ кончылася?.. Гразіўся — у «вышэйстаячыя інстанцыі»!.. Гніда, праўда!.. Прыпомнілася: «Ці можа займаць адказны савецкі пост чалавек, які звязаны з кулакамі?..» Хто гэта пісаў? Ці мала іх, мала каму ён насаліў!.. І вось жа, таксама ўзяў удзел у чыстцы!.. А Гайліс! Гайліс! Упарты латыш!..

Разам — дужасцю — адагнаў думкі. Што б ні было і што ні будзе — трэба працаваць! Працаваць, працаваць!.. Час пакажа, чыя праўда! Праўда скажа сваё!..

## РАЗДЗЕЛ ПЯТЫ

### 1

Збоку паглядзець: звычайнае жыццё ішло ў хаце. Яшчэ далёка да золаку саскоўзвала з ложка матка, пачынала корпацца пры печы. У водсвеце чырвонага полымя з печы мыла картоплю, ссыпала ў чыгун, налівала вады. Лупіла картоплю на дранікі, спраўна, мерна чыркала па тарцы. Дзед таксама не спаў; доўга, душачыся, кашляў на печы, спусціўшы ногі, курыў люльку, думаў нейкую вечную сваю думу. Пакурыўшы, даставаў падсохлыя, цвёрдыя лапці, цёплыя анучы, з крэктам абуваўся. Стукалі дзверы, і дзед надоўга прападаў на двары: Васілю можна было паляжаць трохі, калі дзед уставаў.

Але Васіль не залежваўся. Не так клопат, як звычка і сумленне ўздымалі — таксама абуваўся і выходзіў у сцюдзёную ранішнюю цемрадзь глядзець гаспадарку. Рыпеў журавель, плёскалася ядраная вада ў вядры, хроп цяплом конь, радуючыся сустрэчы. Пачынаў нязменна з каня, потым ужо ішоў у загарадкі да каровы, да авечак, паіў, падкідваў сена, саломы. Часта вядро свежай вады прыносіў у хату, зачэрпваў першы карцом, плюхаў на рукі, апалосквау твар... Рана, яшчэ поцемку, будзіла матка Валодзю: дарога чакала няблізкая, пакуль дападзе да тых Алешнікаў, да школы. Калі яна

катурхала, Валодзя найчасцей толькі скурчваўся ды залазіў глыбей пад коўдру; тады матцы памагаў нецярплівы і строгі Васілёў загад:

— Ну, гультай! Цацкаюцца, як з малым!

У хісткім святле лучыны Валодзя санліва глытаў бульбу, надзяваў торбу з кніжкаю і сшыткам, сунуўся на вуліцу, з якой нярэдка ўжо зваў яго гоман таварышаў.

— Не забуў хоць чаго, глядзі! — вечна ішла ўслед матка.

Пазней за ўсіх, калі не будзіла дзіця, уставала Маня. Седзячы на ложку, доўга спала, пазяхала ўголас, чухалася,— ніяк не магла прачнуцца. Матка ледзь не кожны раз пры гэтым пачынала яшчэ больш завіхацца; лагодным голасам раіла паляжаць яшчэ: няма чаго ўставаць ні свет ні зара, адна тут управіцца. Зноў жа — малое не давала паспаць па-людску. Маня сапла, крывілася недавольна і часта лажылася зноў. Здаралася, што Васіль і не бачыў, калі яна ўставала...

Удзень Васіль найбольш быў у гумне: малаціў. Зняўшы з шула цэп, размахваўся, біў і біў па разасланым жыце, па ячменю, пад якімі чулася цвёрдасць тока; зграбаў салому, падмятаў зерне; зноў зносіў, рассцілаў снапы, мерна, звыкла цупаў біччом. Часам прыходзіў дзед: памагаў веяць збожжа. Заходзіла матка: ці звала абедаць, ці прыносіла чаго-небудзь пад'есці; памагала адграбаць салому. Вярнуўшыся са школы, зазіраў Валодзя; калі аднойчы Васіль, спатнелы, зморана варушачы плячыма, выйшаў з гумна, малы ўзяў важкі, доўгі цэп, натужваючыся, размахнуўся. Біч мала не зачапіў галавы, а калі Валодзя выцяў па снапах, балюча рванула рукі; але Валодзя не адступіўся. Сапучы, падняў цэп другі раз, трэці... Васіль хутка вярнуўся, хмурна папракнуў:

— Вырас пад жаніха, а цэпам выцяць не можаш!

— От зараз, глядзі! — загарэўся Валодзя.

Ён, чырвоны ад натугі, ударыў біччом штосілы: канешне, як сам Васіль; але Васіль быццам і не заўважыў, строга загадаў аддаць цэп. Стаў моўчкі малаціць, як бы Валодзі тут і не было...

Дзятліха і дзед Дзяніс найбольш гаспадарылі на двары, у хляве: паілі жывёлу, кармілі, падкідвалі падсцілку. У хаце дзед то лез на печ, то рэзаў на лаўцы

тытунь. Маці паліла ў печы, Маня гушкала дзіця, памагала свякрусе; тая, акрамя ўсяго, пільна сачыла за меншым, прымушала садзіцца за стол, чытаць і пісаць урокі, што зададзены на дом... Усё нібы ішло як заўсёды, але пад усім гэтым заўсёдным няўціхна жыло, не знікала ні ўдзень, ні ўночы іншае, якое, хоць яго і стараліся не паказваць, не заўважаць, было пры тым самым чутным, самым вярэдлівым кожнаму. Тая нягода, якая неспадзеўкі для ўсіх, акрамя Васіля, укацілася ў хату, калі Бугай на ўсё сяло раскрычаў пра тайныя Васілёвы ды Ганніны спатканні, не забывалася, не ціхла ніколі; яна была, чулася, турбавала ўвесь час. Нікому не было вядома, чым яна гразілася. Усе адчувалі гэта, і ўсе жылі ўжо не так, як жылі яшчэ нядаўна.

І раней невялікі весялун, Васіль цяпер ледзь не цэлымі днямі хмурна маўчаў. Сам ён амаль не пачынаў гаворкі і адказваў неахвотна, рэзка, коратка. Асабліва маўклівы, нелагодны быў ён з Маняю: здаралася, што за суткі не перамаўляўся з ёю словам. Ён не таіў, што не хоча сустракацца з ёю, стараўся да ночы не заходзіць у хату. Калі даводзілася сысціся за сталом, аберагаючыся яе позіркаў, хутчэй сёрбаў боршч і глытаў гарачыя камы — хутчэй вырываўся на волю.

Удзень і яна гаварыла мала: толькі слязілася часам ды смаркалася. Яна нібы чакала ночы. Цяпер, у цемры, пад адной коўдрай, яна ўжо не хліпала моўчкі, як першыя ночы; з кожным разам да слёз дадавала ўсё больш папрокаў. Васіль, як бы адгароджваючыся, лажыўся спіною да яе; за спіною чуў, нудна, назольна гугніла: «Пайшла, дурная... За такого... Казалі: «Не ідзі»... «Ні кала ні двара»... «Чаго ты пойдзеш?»... Пайшла. Не паслухалася, дурная... Пашкадавала. Думала: бедны ды няшчасны, любіць болей будзе... А бяду агораем: прынясу сёе-тое. Скрыню поўную, карову... Хату бацько паможа... Дак от, аддзячыў... Аддзячыў за маё добрае... Аддзячыў. Загубіў жызню маю маладую!.. Асарамаціў на ўвесь свет!.. На вуліцу паказацца не можно!..» — Яна доўга хліпала, смаркалася, потым зноў вяла, цягуча, паныла, нейкім сырым голасам: «Казалі: «Не ідзі за яго»... «Ні кала ні двара»... «Чарнушкава ета, голая, і то адвярнулася»... «А ў цябе дабра столькі», казалі. «Любы возьме»... Не паслухалася, дурная!.. Сама ў пельку палезла...» — Зноў за Васі-

лёвай спіною хліпала, смаркалася. Сапла важка.— «Хведар з Алешнікаў наказуваў бацьку: «Аддай за Аўсея...» Не захацела, кручаная... Лепшага трэба було!.. Ад шчасця свайго сама адказалася!.. Сама... Пайшла б за Аўсея — жыла б прыпяваючы! На ўсе Алешнікі гаспадары, не тое што!.. Дак не ж, не паслухалася! «Кульгавы, крывы — Аўсей, не даўпадобы!..» Сама сабе загубіла жызню!.. Знайшла шчасце! На вуліцу хоць не вытыркайся!..» — Зноў слязліва сцепалася, смаркалася.— «Дабра столькі бацькаваго перабраў... Азалаціўся бацькавым дабром... Карову, землю такую забраў. Хату паставілі... Усе мало! Усе забуў, толькі пазвала ета...— яна памаўчала, шукаючы вартага слова, але не знайшла.— Я тут кручуся ўвесь дзень, корпаюся ў етым гнаі, свету не бачачы. А ён,— у голасе яе штосьці забулькала, крыўднае, злое,— а ён — па разорах качаецца з етаю!.. Ёй захацелася свежаго, яна крутнула хвастом, дак ён і пабег да яе! Па разорах качацца, покуль жонка корпаецца ў гнаі!.. Жарабец, кныр паганы!»

Маня быццам бачыла, з кім ён думкамі, душою, хоць і ляжыць пры ёй. Адтаго, што ён на ўсё маўчаў, яна ўсё больш злавала; усё больш чула, як бы ні хацела, не зможа нічога зрабіць, каб адхіліць бяду. Не раз і не два штоночы згадвала яна Ганну з такой нянавісцю, што не магла вымавіць яе імя; не знаходзіла, здавалася, вартых слоў. Тое, што яна ўсё больш разумела, што змяніць нічога не здолее, што бяссільная, яшчэ распальвала яе нянавісць. «Знайшоў каго!.. Ету с-сучку!.. Якая шчэ ў дзеўках лезла пад усякаго!.. Якой толькі адно наўме!.. Толькі адно — штоб склешчыцца!.. Абы з кім! Абы — жарабец!.. Абы — кныр!.. Абы — склешчыцца!.. Ету... ету... Якая век па завуголлях бегае!.. Суку завугольную!.. Якая ля кожнага вугла! Ля кожнага плоту!.. Абы з кім!.. Абы — кныр!..»

— Маўчы ты! — не вытрываў Васіль. Ён сказаў з такім гневам, што яна ад неспадзеўкі анямела. Азвалася са злой радасцю:

— А, не даўпадобы!.. Шкода стало!..

Васіль павярнуўся да яе так раз'ятрана, што яна замерла. Ведала гэтыя раптоўныя прылівы гневу. Ён, і праўда, гатоў быў учапіцца ў горла ёй. Колькі хвілін ледзь утрымліваў дыханне.

Яна адсунулася да сцяны, ляжала моўчкі, прыслухоўвалася. Калі ён паспакайнеў, захліпала:

— І не скажы нічога!.. Слова не скажы!.. Сама вытварае такое!.. А не скажы!..

Васіль мацюкнуўся. Адкінуў коўдру, поцемкі стаў шукаць апоркі. Сарваўшы світу з крука, накінуў на плечы, стукнуў дзвярыма. Доўга сядзеў на халодным ганку, не мог астыць.

З гэтага вечара Маня пабойвалася клясці каля яго Ганну. Сцепалася толькі ў плачы, упікала, гразілася пайсці; ён, як і раней, ляжаў, адвярнуўшыся ад яе, маўчаў, думаў сваё. За ўсе ночы ні адным словам не павінаваціўся ён жонцы. Слухаючы яе, нанава ўспамінаючы ўсё, што было з Ганнай, Васіль не адчуваў ні сораму, ні вінаватасці перад Маняй. Не трывожылі Васіля яе пагрозы: «Пайду. Кіну ўсё. Як так мучыцца... Жыві, цешся з етай сваёй!.. Пайду! Лепей ужэ адной! Як такое...» Часам было і так, што Васіль, лежачы побач, не чуў ні скарг яе, ні пагроз; тады, калі яна хліпала, гразілася, ён думкамі, успамінамі як бы вырываўся з цемры, з хатняй задухі на волю, бачыў поле, прыгуменне, Ганну. Чуў Ганнін голас, бачыў Ганніна аблічча; цешыўся, ладзіў удваіх з ёю нязнанае шчасце...

Яму было шкода маткі, няёмка было перад дзедам; хата адна, ведаў: яны не спяць, чуюць усё. Нярэдка лавіў слыхам, як матка стрымлівае невясёлы ўздых, як дзед варочаецца на печы. Павяртаўся да жонкі тварам у твар, жорсткім, лютым шэптам загадваў:

— Сціхні!.. Зараз жа!..

Яго нелагоднасць да жонкі пераходзіла ў жорсткасць: ні разу не памкнуўся Васіль супакоіць Маню хоць словам; не толькі таму, што не ўмеў, а і таму, што не хацеў. Аднойчы ноччу яна прытулілася да яго спіны, пяшчотна пагладзіла. Потым нават пацалавала. Васіль, які і раней не любіў «лізання», непрыхільна варухнуў плячом, як бы загадваючы адкаснуцца. «Выдумала! Знайшла час!..» — падумаў як пра недарэчнае. Але яна не адхінулася, зноў стала туліцца да спіны, лашчыць яго. «Не було нічого,— пачуў ён неспадзеўкі гарачы, дзіўна вясёлы шэпт.— Не було! Матка ето праўду кажа!.. Выдумалі ўсё, нагаварылі!.. Бугай сам выдумаў і пусціў па сялу. Пусціў, а другія — ухапілі-

ся!.. Ім даўно хацелася етаго!.. Завідно було, што хату такую ставім! Што разжываемся! Не тое што некаторыя!.. От Бугай і выдумаў! А ўсе ўхапіліся! Са зла, з зайздрасці!..» — Яна раптам абхапіла яго рукою за грудзі, прыціснула так, што яму цяжка стала дыхаць; ён можа ўпершыню адчуў, што яна такая дужая. Яна павярнула яго да сябе: — «Васілько, харошы! Ніхто нас не разлучыць!.. Я цябе буду шанаваць, што б там ні казалі!.. Не буду слухаць нікога!.. Аднаго цябе!.. Аднаго!..— Яна стала лашчыць яго, цалаваць так хапатліва, ашалела, што ён нібы не пазнаваў яе. Што раптам здзеелася з ёй, такой лянівай, няўклюднай, якая, здавалася, часта на хаду драмала!

— Ну чаго! Чаго ето ты! — недавольна адвёў Васіль яе руку.

Маня прыціхла. «Ты не зліся! — папрасіла яна паслухмяна, лагодна.— Я ето з радасці... Думала ўжэ, што — канец. Ісці ўжэ, думала, дадому...» Акурат заплакала малое, яна ўстала, забрала яго, лежачы, стала карміць.— «Ссе, як п'яўка!..— прамовіла давольна.— Покуль усё не выцягне, не адарвеш!.. Здаровы, як бык!..» — Накарміўшы хлопца, палажыла між сабой і Васілём: — «Паляжы от тут, з бацькам!.. Пацешся!.. Даўно не ляжалі разам! — Сказала Васілю: — Думаеш,— ён, малы, не чуе, з кім ляжыць! Бацько ці хто другі. Чуе ўсё, разумее...»

Калі хлопец заснуў, палажыла яго ў калыску, зноў пачала лашчыць Васіля. Васіль не адводзіў яе рукі, не гаварыў ёй нядобрага, але на пяшчоты, як і раней, не адгукаўся. Яна хутка перастала песціць яго і ляжала ўжо моўчкі; таксама думала пра нешта.

Што можа зрабіць адзін дотык ціхага, цёплага цельца дзіцяці. Васіль чуў, як у хмурную непрыхільнасць яго ўвайшлі, зашчымелі жаласць да малога і вінаватасць. Паявілася ў душы штосьці чулае, кволае; з-за гэтага прыслухоўваўся ўжо да Мані, прыйшло ў галаву раптам: пра што яна думае? Яна доўга маўчала. «Не было нічого?.. Праўда? — прамовіла яна ціха і ўжо з сумненнем, як бы разгублена.— Не було?.. Матка праўду казала?.. Не було?.. Праўда?..»

Ён ведаў, што яна рада была б і хлусні яго, але маўчаў. Яна чакала, спадзявалася, а ён маўчаў; быццам гаварыў: што было, тое было, чаго тут хаваць.

Яна сама адсунулася, уткнула галаву ў падушку. Васіль улавіў, як матка на палацях пры печы важка ўздыхнула...

2

У тым прытоеным, няпэўным жыцці, якое хавалася пад звыклай, зманлівай абыдзённасцю клопатаў, што ўздымалі яшчэ поцемкі ўсіх у хаце, найбольш няпэўнасці, нязлагаднасці было ў Васіля.

Ішлі дзень за днём, а Васіль усё не мог дайсці да якой-небудзь цвёрдасці. Усё нібы круціўся на раздарожжы.

Былі, праўда, і цяпер хвіліны, калі сэрца поўніла адвага. Калі чулася незвычайная, узнёслая лёгкасць. Усё важкае, блытанае рвалася. Былі толькі дзівосная лёгкасць і шчасце. Ён нібы зноў быў з Ганнай, і Ганна была — яго. І нікога не было між іх, і нікога навокал. Былі, бачылася ўжо, чалавекам і жонкай. Не збягаліся потай, крадком, а жылі разам, у адной хаце. Ішлі разам у поле, разам дбалі пра гаспадарку. Васіль проста ўвачавідкі бачыў, як яна нясе зелле парасятам, як доіць карову. У поцемку душных начэй мроілася, як яна падыходзіць да ложка, кладзецца побач. Як ляжыць, дакранаючыся да яго грудзямі. Як ён пальцамі абцінае гарачую круглясць яе пляча; як рука бяжыць за спіну ёй — як ён туліць яе. Ён чуў, што ў яго — ад адных думак — усё ўсярэдзіне гарэла пякучым, нецярплівым полымем. Тады помсліва, зларадна ўспамінаў: «Праўду казала: якое ето жыццё, калі не любячы мучышся! Нашто і жыць так! Хто мяне прывязаў канешне — хадзіць век пры етай, не любячы! Жаніўся, дак можно і разжаніцца! Не тыя, не старыя часы. Цяпер — не тое, што ў старыя часы!..»

Але вось жа бяда, і лёгкасць, і яснасць неўзабаве кудысьці прападалі. І прападала рашучасць. З галавы як бы выходзіў, выветрываўся хмель. Лез халодны, нядобры роздум; усё зноў пачынала бачыцца хісткім, блытаным, цьмяным. Куды ні падайся — гушчар і гушчар: чапляецца за ногі, за рукі, коле твар. «Хто прывязаў канешне? А хіба — не прывязаны? Прывязаны, ды шчэ не адной вяроўкай!.. І прывязаны, і звязаны па руках і нагах!..» Чым далей адыходзілі тыя вечары, но-

чы, калі ўпершыню адчуў сябе на безвыходным раздарожжы, тым менш гаркаты было ў думках, менш пякло. Нібы прыцярпеўся к бядзе. Нявесела плёўся не раз ужо ходжанымі разорамі развагі, кожны раз спатыкаўся, аб адно і тое ж. І ўсё больш безнадзейна бачыў, што выхаду няма, што ўсё звязалася ў вузел, які не развязаць. Толькі — рэзаць: рэзаць па сваім сэрцы...

Днём амаль не было гарачкавых відовішчаў. І думкі былі больш важкія, павольныя, і ўсё навокал малявалася яшчэ горш блытаным, неразвязным. Усё, куды б ні павёў вачыма, нагадвала пра тое, што жыве на зямлі, сярод людзей; ці бачыў дзеда, матку, дзіця, ці ішоў па двары, нёс вядро вады каню, ці з прыгумення бачыў, як ходзяць па згалелых агародах,едуць па пустым полі людзі, ці проста бачыў даўнія, замшэлыя стрэхі,— грудзі ціснула адчуванне няпростасці ўсяго ў свеце, трываласці векавечных парадкаў.

Ніколі яшчэ ён столькі не думаў, як у гэтыя дні, і ніколі не было ў яго думках столькі няроўнасці, супярэчлівасці. То ён гатоў быў ужо зміріцца з тым, што ёсць: «Як склалася, так склалася, не пераменіш. Позно мяняць. Раней трэба было думаць, пачынаючы...» Тады часам папракаў у думках Ганну: «Не захацела разам, калі можна було. Глушаковага шчасця паспытаць захацелася. Спахвацілася цяпер, як усё так завязалася!..» То раптам з адчаем находзіла рашучасць: «Пайду! Кіну ўсё! Прападзі яно пропадам! Штоб век за яго мучыцца!..»

Ужо ішоў, каб аб'явіць усім. Ішоў рашуча, потым запавольваў хаду, зусім спыняўся. Як ён кіне ўсё: такую зямлю, хату, каня; лепшую долю таго, што нажыў! Лепшы свой набытак!

Ён нібы спрачаўся з сабою. Ледзь не ўвесь час, ледзь цверазеў ён, лезла да яго, гняло разуменне нейкай неправамернасці, недазволенасці гэтага шчасця. Нібы ніякага права не меў ужо ён на гэта — любоў, Ганну. Нібы ён хацеў браць тое, што ўжо не дазволена было браць. Нібы пераступаў закон. «Не вольны, не малады ўжэ!» — вярэдзіў заўсёды хтосьці разважны ў Васілёвых думках. Дадаваў нязменна, неадчэплівa:

«Ганна па душы?! Мала, што па душы! Мала, што хочацца! Прайшла пара, калі рабіў як хацелася! Не хлопец ужэ! Чалавек сталы, гаспадар! Дак і рабі — як

сталы, як гаспадар!..» Прызвычаены ўвесь век цярпець, перакана765ны, што жыццё — цярпенне, ён і тут адчуваў: трэба цярпець. Лёс бы наканаваў: тое, што некалі вяло Ганну к Яўхіму, цяпер не пускала да яе Васіля!

І вось жа, бы знарок: Ганна, узлаваная, даўно не пільнавалася гэтага закону-абавязку, а Васіля ён трымаў, звязваў яго і ўчынкі і думкі. Глядзі гаспадарку, гаруй, цярпі. Любіць — не любі. Не хлопец... Толькі ж чаму так цяжка было адагнаць недазволенае гэтае? «Як жа я без яе? Як яна?..» — усё вярэдзіла яго.

Сярод гэтай зменлівасці адна думка шчымела заўсёды: малое. У тыя дні яно часта аж заходзілася з крыку: нечага балеў жывоцік. Ашалелая ад дзіцячага плачу, ад страху, роспачы, Маня раптам закалацілася:

— Крычы, крычы!.. Штоб табе немач! Як ты слухаць не хочаш нічого!.. Крычы, крычы! Покуль бацько твой цешыцца са ўсякімі!.. Крычы! Мо і ён пачуе, што табе баліць! Мо пабачыць, што не ўсім так соладко, як яму!.. Крычы, крычы! Штоб ты выпруцілася! Як ты не ў час выйшло, на маю бяду!..

Васіль ледзь не кінуўся на яе. Хацеў адабраць дзіця, але яна ўчапілася ў малое. Залямантавала яшчэ горш:

— Не чапай! Ідзі к етай! Ідзі!.. Не дам!

Васіль, таксама ашалелы, ужо не мог адступіць. Невядома, чым скончылася б, каб не ўбегла маці. Ухапіла Васіля за локаць, замалілася:

— Васілько! Сынко! Саступі!..

Ён не адразу і неахвотна адышоў. Стаў шукаць нешта ў прыпечку: сам не ведаў што. Краем увагі адзначыў, што Маня стала гушкаць дзіця. Калі малое прыціхла, загаварыла спакойней:

— Не плач!.. Не пачуе ён!.. Яму абы самому цешыцца!..— Напрарочыла малому, стараючыся ўкалоць Васіля: — Наплачашся шчэ, накрычышся! Такога бацька маючы!.. Сіратою ходзячы! Пры жывым бацьку!.. Покуль ён будзе цешыцца!..

Матка перахапіла Васілёў позірк, дала знак вачыма: не чапляйся, саступі! Ён выбег на двор, доўга тупаў у хляве, у павеці — не мог супакоіцца.

Васіль ніколі раней не думаў, што можа быць да некага такая жаласнасць. Ён і раней не вельмі песціў сынка, цяпер і зусім не падыходзіў, як бы не было яму

нейкага неадменнага права; а ў душы заўсёды — асабліва пасля той сутычкі — чуў незвычайную, чулую жаласнасць да малога. З ёй амаль кожны раз ажывала нешта сарамлівае, вінаватае; асабліва калі выпадала сустрэцца з круглымі, цікаўнымі вачыма; калі малы паказваў усмешкаю першыя зубкі...

Як і ўсё кволае, пяшчотнае, Васіль хаваў сваю жаласнасць; але Маня добра разумела, чым яму можна мацней дадзець. Аб'яўляючы, што пойдзе да бацькоў, ніколі не забывала сказаць, што возьме сына; не дасць на згубу гэтай «душагубцы». Хліпала ўсё над малым, вярэдзіла Васіля: «Сірата, пры жывым бацьку!»

Такі ж зменлівы, як у думках, быў Васіль у гаспадарчым клопаце. Хвіліны весялосці, жвавасці ўсё часцей змяняліся хмурнай марудлівасцю, нават абыякавасцю. Ён часта зранку хадзіў стомлены, з важкай галавою, ■ нязвыклай млявасцю ў нагах, руках. Тады і зносіў на ток снапы, і малаціў, і падмятаў вяла, як бы хворы. Апусціўшы цэп, раптам спыняўся, згорблена стаяў, нібы слухаў сябе. Кідаў цэп, садзіўся на агароджу застаронка, доўга ўнурана сядзеў. Хоць бы зварухнуўся.

Не раз падоўгу стаяў як здранцвелы, калі карміў каня. Стоячы пры кані, Васіль цяпер іншы раз не бачыў, як ён цягне галаву к сену, як знаёма туліць чуйныя вушы к грыве, не чуў, як ён шчыра хрустае сенам. Не заўважаў таго, што, бывала, век цешыла. Іншы раз конь, здзіўлены такой няўважнасцю гаспадара, пераставаў жаваць, паварочваў мяккую храпу, спачувальна ўглядваўся вільготнымі вачыма, дыхаў цёпла ў самы Васілёў твар. Васіль, здаралася, ажываў, гладзіў Канчаку шыю, але весялеў рэдка. Валокся старэча з хлява.

Як і не было нядаўніх запалу, напорлівасці, нястомнай працавітасці. За ўсе гэтыя дні Васіль толькі раз зайшоў у новую хату, што, як і раней, выстаўляла голыя рабрыны кроквaў. Паплёт з аднаго боку так і быў прыбіты толькі да паловы. Столь таксама была недалажана: у пройму між бэлек шарэла нізкае, каламутнае неба.

Васіль прывёў Валодзю. Паспрабаваў рабіць: мераючы алехавай меркаю, адрэзаў з братам некалькі дошак на столь. Паставіў адрэзкі пры сцяне на козлы,

каб можна было браць зверху. Загадаўшы брату астацца, палез на гару, пачаў усцягваць дошкі. Хацеў залажыць пройму. Рукі, усё цела пагана слухаліся: цягнучы адну дошку, ён няўдала павярнуўся, ледзь утрымаўся, каб не зваліцца долу,— дошка, ужо высока ўзнятая, крутнулася і паляцела ўніз. Рабром тарца коса прайшла паўз Валодзю, грукнула аб падваліну.

— Трохі не па плячы! — азваўся хлопец дзіўна весела.

Васіля ўзяла злосць. Гонячы мімалётны страх за Валодзю, кінуў няласкава:

— А ты не стой там!

— Дак яна ж не выцяла!

— Не стой! — узвысіў голас Васіль.

Ён сеў, згарнуў цыгарку. Закурваючы, хмурна загадаў:

— Ідзі дадому.

— Саўсім?

— Сказано... Саўсім.

— Болей рэзаць не будзем?

— Ідзі!

Васіль дакурыў, пасядзеў яшчэ моўчкі, стомлена, плюнуў раптам злосна і стаў злазіць. Больш у хату ён ужо не заходзіў.

3

Часам заходзілі суседзі, знаёмыя. Першы зазірнуў Зайчык. Спачатку плёў нібы так сабе — пра жыта, пра малацьбу; Васіль слухаў моўчкі, не глядзеў на яго: чуў, што ўсё гэта — падступ адно, што прыпёрся не дзеля гэтага.

— Плятуць,— як бы адказаў Зайчык. Параіў весела: — А ты, братко, не глядзі! Не слухай! Не век агля-дувацца ды слухаць усіх!..— Васіль зіркнуў спадылба: Зайчык, здалося, глядзеў шчыра.— Калі ето і пажыць, як не ззамаладу. Пакуль спрыт малады ды сіла!.. Я, братко,— дробна, па-сяброўску захіхікаў,— у сваю пару таксамо буў! Не мінаў, дзе ўхапіць можна було! Не мінаў! Любіў, братко, салодкаго мяса ўхапіць! Смак знаў у етым! — Зноў захіхікаў: — І цяпер рад бы, дак — няма чым!

Пасмактаў люлечку, загаварыў без смеху, з павагай:

— Ганна, братко,— дзеўка! Ето не тое, што твая Маня! Я, брат, збоку бачу!..— Нібы разважаў уголас, шчыра:— А і ты ж упадабаўся нечым! Бач — жыла, жыла з етым, з Корчыкам, а не ўжыла! Да цябе пацягнуло!.. Знайшла нешто ў табе, чаго ў Яўхіма няма! Нечым болей упадабаўся! І пажыўшы столькі з Карчом, не забылася! І — скажы ты — рук яго не пабаялася! Нічого не пабаялася, от баба! Наравістая, з характерам!.. Бабы, яны ўсе, чэрці, разбіраюць — хто ды што. У кожнай свой смак! А толькі ж — церпяць! І знаку не падаюць, што не даўпадобы! А ета ж — твая — не ўцерпела! І перад кім, перад Яўхімам! Наравістая!.. Упадабаўся, значыць, вельмі!.. Б'е яе дурань еты па чым папало! Уся ў сіняках! А не поўзае перад ім, не гнецца!..— Зайчык зірнуў востра:— Што ето будзе ў вас цяпер? Сам поп, мабуць, не разбярэ.— Васіль не таіў, што гаварыць не хоча, але Зайчык не адступаўся:— Што ты ето рабіць думаеш? Праўда ето, што пабрацца згаварыліся? — Васіль так зірнуў, што Зайчык быццам павінаваціўся:— Я — нічого. Я толькі так — гавораць усе. Як, скажы ты, знаюць канешне!.. Не хочаш казаць, не кажы, я хіба застаўляю цябе!..— Пыхнуў люлькаю і зноў павёў сваё:— Чаўпуць усе, на ўсіх падворках. Як знаюць канешне!.. А чаго ж — калі на тое — яно можно і — пабрацца!.. Баба — не кабыла, сказаць, а і яна ж нешто значыць!.. І без добрай бабы — у хаце як не хапае нечаго! Так што і баба людская — трэба!

Васіль амаль не глядзеў на яго і стараўся не слухаць, але ўсё, што ні казаў Зайчык, чула адгукалася ў душы, вярэдзіла, трывожыла. «Як знарок прыпёрся — штоб дадзець яшчэ! Мала без яго думання було!..» Саскочыў раптам са сценкі застаронка, узяў мятлу, стаў, не зважаючы на Зайчыка, падмятаць на таку.

— Ат, як там ні е, не жалей, братко! — параіў раптам Зайчык. Саскочыў таксама з застаронка: сабраўся, мабыць, ісці. Цыркнуў весела:— Калі на тое: пажывіўся — і рад будзь! Другія ето — з зайздрасці! Асабліво — жанкі! З зайздрасці і плятуць!.. Нашто мая — і то з'ела б,— як угледзіць, што на каторую зірну! А раней було!..— ён зайшоўся смехам.

За ім прыйшоў Андрэй Руды, у крамнай сарочцы, картовых у пасачкі штанах, апорках, чыста паголены. Запытаў, колькі намалаціў, але Васіль няветліва адно буркнуў, што не мераў. Руды, нібы не заўважыў Васілёвай няветлівасці, пахваліў, што жыта ўрадзіла непаганае, калі раўняць з іншымі куранёўцамі. Канешне, у другіх краінах збіраюць больш, але з тымі нам пакуль што няма чаго раўняцца. Скруціў папяросу, адмысловую, тоненькую з аднаго боку, шырэйшую да другога,— увесь час нешта гаварыў пра кіслую глебу, пра тое, што ёй раіць даваць навука.

— У нас ето бы дзіво якое,— загаварыў павучальна і нібы звысака,— бы сабыціе несусветнае,— што чалавек завёў сабе, так сказаць, маладзіцу.— Васіль, хоць пачуў спачуванне, насцярожыўся адразу, з падазронасцю зірнуў спадылба. Руды спакойна слініў, склейваў папяросу, пераламіў, як люлечку.— У горадзе, асабліво ў некаторых странах, дак ето і не замецілі б. А на таго, хто здзівіўся б, паглядзелі б, так сказаць, як на дзікара. Там кажны, хто хоча і хто не хоча, мае абязацельно жанчыну, шчэ акрамя жонкі. Любоўніцу, называецца. І ніхто не дзівіцца, а наабарот. Там ето, так сказаць, як правіло. Так заведзено: кажны павінен мець! — Васіль зіркнуў: Руды спакойна мяў у пальцах сваю люлечку. Быццам папракнуў:— Цемната ўсё наша!..— Узяў люлечку тонкім краем у рот, але не закурыў, паклаў раптам за вуха.— А то шчэ ў Расіі бывае такое дзело,— тлумачыў Васілю,— жывуць, не распісуючыся. Не распісуюцца, а жывуць, як муж з жонкаю. Жывуць, пакуль, значыць, даўпадобы. Свабодныя атнашэнія. А патом, як нажывуцца,— так сказаць, да свіданія! Благадару, дарагая! Ето так завецца — гражданскі брак! — Васіль — хоць не выказваў асаблівай прыхільнасці госцю, глядзеў найбольш кудысьці ў кут гумна — слухаў ужо з ахвотаю: лягчэй станавілася на душы. Нібы не такое страшнае было тое, што гняло.— А то шчэ е парадкі,— жвавеў, чуючы Васілёву ўвагу, Руды.— Ето найболей у цёплых странах, як, напрымер,— Турцыя ці Персія. Ето за Каўказам е такія страны. Дак там заведзено, што мужчына можа мець па некалькі жонак. Па закону іхняму палажано. Там некаторыя маюць, пра ето ў кнігах е сведзенія, па трыццаць, а то і пяцьдзесят жонак. І старэй-

шых, і маладзейшых, і саўсім маладых. І чорных, і белых! Называецца — гарэм... У аднаго було, навука падлічыла,— сто семдзесят тры жонкі!..

— Нашто ето яму? — не паверыў Васіль.

— Як ето нашто! Штоб, так сказаць, усякай уцехі пробуваць! То з адной, то з другой!

— Рабіць яму, мабуць, няма чаго. Багацей, пэўне...

— Багацей... Па-іхняму называецца — хан. Па-іхняму — хан, а па-нашаму — пан. Тое ж самае. У сачыненні Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна апісан адзін такі случай.

Нагаварыўшы ўсялякіх цудаў, у якія Васілю і верылася і не верылася, Руды, як старэйшы, мудрэйшы, узяўся навучаць, як выбрацца з бяды.

— Калі будзеш расходзіцца з бабаю сваёй, глядзі востро, штоб не абдурылі. Штоб усё, як паложано па Гражданскаму, а такжа, так сказаць, Працэсувальнаму кодзексу. Па кодзексу паложано палавіну імушчаства — табе, палавіну ёй. Яжэлі ёй, скажам, карова, то табе — конь. Яжэлі хату дзяліць, то такжа трэбуй: палавіна — мне. Або калі, дапусцім, хату ўсю ёй, то ты імееш право трэбуваць факцічаскую замену. У відзе, прымерам, каровы, свіней, хлява і таму падобнаго. Штоб усе па закону було, а не так, як Лесуну захочацца!..

Руды згадаў пра сваю папяросу-люлечку толькі на прыгуменні. Закурыў, падаўся лёгкаю, давольнаю хадою па загуменні дадому; Васіль жа, вярнуўшыся ў гумно, згадваючы яго парады, пачуў сябе яшчэ горш заблытана. «Напалавіну ўсё! Палавіну табе, палавіну — ёй! Лёгко табе дзяліць! Рэзаць чужое!..»

Ён веяў намалочанае, калі заўважыў, што ў вароты, за спіною, хтосьці ўвайшоў. Трымаючы ў руках лапатку са збожжам, як стаяў на карачках, азірнуўся: увайшоў сусед Міканор, у зрэбным, у лапцях, у расхрыстанай сарочцы, з асцюком у бялявых калматых валасах.

— Ну, дак як будзем? — сказаў голасна, весела, пасля таго як паздароваўся, пагаварыў для прыліку пра розныя дробязі.

— Што? — не зразумеў Васіль.

— Надумаў ужэ, можа?

— Што?

— У калгас надумаў, пытаюся?.. Пара ўжэ пада-

ваць заяву. Чакаеш, што спіцыяльно запросяць? Ну, дак от я прыйшоў, спіцыяльно. Падавай заяву і — канец з канцом! Трэба канчаць ету валынку, на новую дарогу станавіцца. Бяры от, калі на тое, Ганну — і давай! Зразу рассякай вузел!.. А не, дак, калі на тое,— давай з дзвюма!— Міканор засмяяўся.— Абагульнім!

Васіль толькі ўнурыўся на яго смех.

— Мо — памагці табе? — Міканор не смяяўся, але глядзеў весела.

— Чаго?

— Напісаць заяву.

— Абыдуся покуль.

— Дурны ты! — незласліва, з папрокам сказаў Міканор.— Улез у кучу гною і бачыць не хочаш нічога! Яму добрага хочуць, на свет цягнуць, а ён улез у кучу гною і толькі адно: абыдуся! Сядзіць — і вылазіць не хоча! Жук і той выходзіць, а яго дак і выцягнуць не можно!

— Не можно, дак і не цягні!

— От, шчэ і гірчаць пачынае, калі спробуюць цягнуць! Ты што ж, думаеш — ето табе жартачкі! Ты што ж думаеш — парція, увесь народ ето так сабе — з калгасамі! Пагавораць, пагавораць і — перастануць! Ці мо думаеш — круцяльня тут якая-небудзь? Абмануць хочуць, ці што?

— Нічога я не думаю! І думаць не хочу! Надумаўся ўжэ, што ў вачах зелено!..

— От, от — шчэ не зрабіў нічога, а ўжэ ў вачах зелено! Зелено, бо не тое думаеш, што трэба! Не тых слухаеш! Табе ўсякае кулацкае гадаўё голаву ачмурыла, дак табе і зелено! Ім нятрудно ето, бо ты цёмны, за старое сваё гніллё дзержышся! А нас слухаць не хочаш! Не хочаш слухаць тых, што адны цябе могуць выцягнуць з гною! — Міканор доўга, цярпліва, таварыскім тонам тлумачыў радасці калгаснага жыцця; тлумачыў, хоць Васіль слухаў неахвотна і недаверліва. Нарэшце, цярплівасць яго кончылася.

— Ну, дак—напішаш?—прамовіў нядобра, строга.

— Падажду.

— Глядзі, штоб не було позно!

— Што ты прыліп з етым калгасам! — загарэўся Васіль.— Наравіцца — дак жыві! Што ты — сілуеш мяне!..

— Я не сілую, я — раз'ясняю табе! І папярэджую — штоб не позно було!

— А! — Васіль плюнуў з адчаем.— Позно, не позно — усе адно!

— Унь як!..— Міканор глядзеў на Васіля так, быццам бачыў першы раз. Быццам стаяў перад непрыяцелем.— Кулацкая ж ты душа! З беднякоў выграбся, а ўжэ — чысты кулак! Стопрацэнтны кулак! Шчэ, можа, горай за кулака! Акапаўся — не падыходзь блізко! Не гавары яму, яму не наравіцца слухаць пра калгасы!.. Не наравіцца па-такому — загаворым іначай! Возьмемся і за вас!

— Бярыцеся!

— Возьмемся скора! Так возьмемся, што — пачуеш! Прывыклі, што цацкаюцца з вамі!..

Ён цвёрда пайшоў у вароты, пакінуў пад рудою з пачарнелымі кроквамі, з радамі старых лат, [redacted] павуцінай і пылам дзесяткаў гадоў страхою даўкі подых пагрозы. Але пагроза гэта толькі распальвала Васіля: «Возьмемся, грозіцца! Бярыцеся! Найшоў, чым пужаць! — Стомлены яшчэ тым неразвязным думаннем, што было да Міканора, рашыў горача: — Усе адно!.. Як так ірвацца!..»

Ён абыякава ўзяў цэп. Проста таму, што трэба ж было штосьці рабіць. Доўга біў па снапах, не мог супакоіцца. Стаміўшыся, сеў на сценку застаронка; сядзеў, перадыхваў, астываў. Злосці не было ўжо, была толькі важкая, салодкая стома. У паспакайнелую галаву раптам увайшло: «А мо і праўда — пайсці? Забраць Ганну і — пайсці.— «Прыміце...» Як так ірвацца!..» Ён пабачыў сябе з Ганнаю ўжо ў калгасе, пабачыў [redacted] ціхай радасцю і палёгкай. Але пазней, калі пачаў цвяроза абдумваць усё, на змену лёгкасці зноў прыйшла блытанасць пачуццяў, развaг: пайсці, кінуць усё, што нажываў гадамі! Улезці самому ў гэтую выдумку, якая можа аказацца пасткаю, пелькаю! У пельку ўлезці, толькі што — удваіх з Ганнаю!..

Думаў пра гэта і ўночы, і ў наступны дзень. І чым больш думаў, тым больш бачыў зноў: аблытаны ўвесь, па руках і нагах. І як ні падумай, каб разарваць, усё баліць нечым, усё нешта траціць трэба,— жывое адрываць ад сябе...

Сярод халаднаватага, ветранага дня, ідучы з бярэзніку — нарэзаў бярозавага веццяна мятлу,— сутыкнуўся з Ганніным бацькам. Чарнушка ішоў нечага ў бярэзнік, у світцы, з сякераю за поясам. Сутыкнуліся пры самым канцы бярэзніку — праз рэдкае, голае галлё дрэваў праглядвала ўжо сяло. Убачыўшы блізка Чарнушку, Васіль разгубіўся, адвёў вочы, як бы баяўся сустрэцца з яго позіркам. Чуў сябе як малы, які ўлез у шкоду і трапіў на вочы гаспадару, добраму чалавеку,— як злодзей, якога злавілі, на якога глядзяць. Няёмка стуліўся,— не гледзячы, бачыў Васіль,— і Ганнін бацька, прыпыніўся, клыпаў так, быццам думаў — ісці бліжэй ці не. Няцвёрда набліжаўся. Калі падышоў, неяк хрыпла паздароваўся. Нібы не ведаў, як здаровацца. Васіль вінавата адказаў. Чарнушка ступіў ужо ісці далей, але стаў. Быццам хацеў загаварыць, а не мог. Не ведаў, як пачаць. Чырвоны ад няёмкасці, пільны, Васіль улавіў позірк ціхіх, добрых вачэй: у іх былі пакута і нейкая надзея. Васіля раптам узяў жаль да яго.

— От як яно... завязалася!..— Штосьці булькнула ў горле, Чарнушка каўтнуў дрыготка. Паскардзіўся, быццам — роднаму: — От як!..— Штосьці тарганулася ў Чарнушкавым твары, і вочы пачало завалокваць.

— Завязалася!..— З адчаем павёў вачыма ўбок Васіль. Пачуў сябе як вельмі вінаваты.

Чарнушка стрымаў горнасць. Толькі боль прайшоў па твары. Васіль убачыў старэчыя маршчыны на шыі, і жаль да старога запёк зноў.

Стаялі. Маўчалі. Шумеў адно вецер угары, часам далятапі галасы з сяла. І гаварыць не маглі, і развітвацца штосьці не давала. Як бы было яшчэ недагаворанае, няяснае.

— Не абіжай яе! — папрасіў раптам стары.— Еты гад есць яе... У сіняках век...— у голасе старога пачуўся адчай.

— Дак ці ж я... не хочу...

— Звядзе яе еты... нелюдзь...

Васіль схаваў вочы, угнуўся.

— Як бы ето... выручыць яе?

— Я думаў ужэ... Трудно ето... цяпер...

— Трудно!..— стары пашкадаваў зноў.— Завязалася!

— Завязалася!..

— Усе-такі ты — падумай...— папрасіў з болем.

— Падумаю...

Зноў маўчалі.

— Ну, бувай! — першы схамянуўся, выціснуў Ганнін бацька. Мякка, зычліва — як роднаму.

— Бывайце!..

Ужо ідучы ўзболаткам, Васіль учуў з сяла сабачы брэх: брахалі Карчовы вартавыя. Пачуў як бы нанава. Цераз пажоўклае куп'ё, цераз голы агарод з вязкай вецця на плячы даплёўся да гумна. Да поцемкаў малаціў, падмятаў на таку, веяў, быў у клопаце; і ўвесь час пяклі яго і вінаватасць, і жаль да Ганны, да бацькі яе, і турбота: што ж рабіць?! Думкі пра Ганну ішлі з нейкім новым наплывам пяшчоты і імкнення да яе...

Усе гэтыя дні Васіль стараўся не сыходзіцца ні з кім. Кожны дзень бачыў за плотам Дамеціка, Дамеціху, паказваў, што не заўважае; калі хто-небудзь з Дамецікавых браў ваду з калодзежа, Васіль павяртаў назад з пустым вядром. Неяк каля гумна ледзь не сутыкнуўся з Ганнінай мачыхай, адразу адвярнуўся, нібы спакойна пайшоў у гумно. Слухаў, ці не ідзе ўслед: здалёк здалося, што мачысе хацелася загаварыць з ім. Ткнулася была неяк зайсці Сарока, загаварыла лісліва, але ён няветліва адышоў, падаўся к хлявам. Паказаў, што не хоча растарэкваць з балбатухай гэтай.

Два разы пільны Васіль бачыў, як паўз гумно загуменнай дарогай праходзіў не хто іншы, Яўхім. Адзін раз Васіль назіраў за ім, пачуўшы блізка Яўхімаў голас: Яўхім ішоў з Ларывонам. Тады Васіль праз шчыліну між бярвенняў, з якой біла святло, заўважыў, як і раз, і другі, адказваючы Ларывону, Яўхім зірнуў к яго гумну, к двару — нібы шукаў яго. Васіль бачыў — глядзеў позіркам чалавека, які гатоў зарэзаць. Другі раз Васіль убачыў Яўхіма зводдалек — не стаў чакаць, пакуль той падыдзе,— як мог спакойна падаўся з гумнішча на двор. Ідучы, чуў на спіне ненавідны, затоена люты позірк.

Здавалася, Яўхім ірвецца схапіцца з ім. Шукае толькі зручнага выпадку.

Васіль, што не хацеў ні з кім бачыцца, менш за ўсё хацеў сустрэцца з Яўхімам. Не тое што баяўся: Васіль і сабе самому не паказваў, што можа баяцца: ёсць

кага яму баяцца, Карча! — а ўсё ж сустракацца з ім аберагаўся. Нічога добрага не зычыла яму гэта сустрэча.

І трэба ж, усё-такі сустрэліся. У такі час, калі Васіль не чакаў: на Курані легла ўжо важкая, асенняя цемра. Каб трохі далей былі, разышліся б, не пазнаўшы; але сутыкнуліся вочы ў вочы.

— А-а! — сказаў Яўхім злавесна радасна.— От хто!

Васіль прамаўчаў. Пачуў, як брыдкая млоснасць кволіць рукі, ногі, усяго. Стараўся адужаць яе. Думкамі рыхтаваўся да бойкі. «Як толькі рынецца, крутнуцца ўбок і даць самому! Па сківіцы, па п'янай пысе!..» Але не ўправіўся і варухнуцца, як ад лютага, пудовага кулака загуло ў галаве, пачуў моцны ўдар па назе. Ледзь устаяў. Сляпы ад болю і крыўды, кінуўся на Яўхіма, з усёй сілы сунуў кулаком у твар. Трапіў, здаецца, у нос — Корч аж енкнуў. Васіль у момант адскочыў к плоту, ухапіўся за кол... Хітнуў, стараючыся вырваць... Кол паддаваўся туга. Але Васіль ірваў яго... Яўхім стаяў упоцемку нерухома. Чамусьці не кідаўся біцца. Заскрыпеў зубамі, шкадуючы, з адчаем, вылаяўся.

— Не бойся! — неспадзеўкі прасіпеў. Хвіліну маўчаў. Зноў гатоў быў, чуў Васіль, люта кінуцца на яго, учапіцца ў горла і стрымліваў сябе з адчаем.

— Не тут ето рабіць. Заб'ю, міліцыя ўхопіць зразу! — прасіпеў з нястоеным шкадаваннем, са злосцю.— У цюрму неахвота... Ці ў лес бегці. Жызнь губіць. З-за етакага... Але — знай,— голас стаў важкі, грозны.— Знай, смярдзючы ўдод, будзе мамент! Я падлаўлю!

— Сам пра сябе падумай! Штоб цябе не падлавіў хто!

— Будзе ўдобны мамент — кішкі выпушчу! Па адной выцягну! Есці сваё застаўлю!.. Не пападайся ў пустом месцы адзін! Знай!

Васіль чуў: забіць можа, зарэзаць. Як плюнуць. Але не паддаўся гонарам.

— Напужаў!

— Пасмяешся патом! — грозна прадказаў Яўхім. Пастаяў крыху, як бы для таго, каб Васіль падумаў, важка пасунуўся ў цемру.

## РАЗДЗЕЛ ШОСТЫ

### 1

Усе Дзятлікавы пільна сачылі за тым, што рабілася з Васілём і Маняю. Між іх не было чалавека, якога б гэта не трывожыла. У гэтым быў цяпер самы вялікі клопат і самы вялікі неспакой.

Ні на адзін дзень не ўціхаў неспакой у Валодзі. Усё, што ён лавіў слыхам, што бачыў, чула вярэдзіла яго, узварушвала важкія, непадсільныя думкі. Як і тады, калі ён упершыню даведаўся, што Васіль хоча жыць з Ганнаю, тайна згаварыўся з ёю, калі пабачыў Маніны слёзы, свет мучыў яго нядобрай, нязменнай нязладнасцю. Гэтая нязладнасць не толькі не прападала з днямі, а яшчэ нібы больш паказвала, якая яна вялікая і моцная. Колькі Валодзя ні думаў, усё не выходзіла так, каб усім было добра. Усё ішло да таго, каб жыць утраіх хіба — і з Маняю, і з Ганнай. Але цяпер відаць ужо было, што калі б і ўзяўся Васіль карміць абедзвюх, дык усё адно нічога б не склеілася. Маня толькі і ведала, што клясці Ганну. Доўга Васіль цярпеў бы, слухаючы век гэту кляцьбу! А то ж, пэўне, кляцьбою аднаю і не абышлося б. Канешне ж, пры такім жыцці ці адна, ці другая век чаплялася б за косы. Крыку на ўсё сяло было б век. Толькі і аставалася б сядзець ды разбараняць ашалелых...

Не было ніякага ладу і ў Валодзевых думках і пачуццях. Хоць Васіль быў і вінаваты ва ўсім, хоць ад гэтага Валодзьку было няёмка і сорамна за яго, за тое, што ён і сустракаўся тайна, і згаворваўся тайна кінуць жонку, было Валодзьку разам з тым і шкода Васіля. Што ні кажы, а Васіль усё ж такі — брат, і хоць, бывала, брат гэты не вельмі ласкава абыходзіўся з Валодзькам, а ўсё ж такі не вельмі добра на душы, калі бачыш, што брат твой сам невясёлы, можна сказаць — няшчасны. Што там ні казала Маня, а Валодзьку часта шкода было і Ганну, якая таксама ж мучылася з паганым сваім Карчом і не з радасці ж вялікай хацела к Васілю жыць перайсці; шкода было — і заўсёды чамусьці і няёмка, і сорамна,— хоць Валодзя і сам толкам не ведаў — чаму. Мабыць, таму, што Ганна ўсё ж — чужая жонка, венчаная ў царкве з другім, што бегала к Васі-

лю тайна, хоць Васіль венчаны з другой; сустракаліся тайна, не па закону, не па закону цалаваліся, хоць чужыя. З гэтым зноў і зноў улазіла спакуслівае: усё ж добра было б, каб Ганна перайшла, стала сваячкай, каб сваяком стаў і Хведзька. Яны, праўда, і так амаль ужо сваякі [redacted] Хведзькам, калі ўжо ў Васіля [redacted] Ганнаю было такое; а ўсё ж такі лепей было б, каб парадніліся саўсім, па закону...

Шкадаваў Валодзька і Маню. Маню дык ён толькі шкадаваў: што ні думай, яна самая няшчасная. Васіля ўсё ж любіць Ганна, і Васіль Ганну таксама любіць; яны могуць пашкадаваць адно аднаго. А Маня як сірата, Васіль і глядзець на яе не хоча, гаварыць не хоча [redacted] ёю. Шкода Маню. Адтаго маркота і жаль бяруць, калі бачыш, як яна горбіцца іншы раз пры калысцы. І хочацца неяк суцешыць, каб ёй не было так горка,— неяк памагчы ёй.

Валодзька не адкручваўся, як раней, калі матка загадвала пазабаўляць малое, якое само чамусьці ляжаць ціха не магло. Калі ў хаце нікога не было, а Алёшка пачынаў гарланіць на ўсю хату, то Валодзька і без чыіх там загадаў падыходзіў да калыскі, забаўляў ці гушкаў хлопчыка. Не тое што кніжку, а і забавы цікавыя свае кідаў, каб супакоіць Алёшку. Іншы раз ён агукаў, як матка, і крывіўся смешна, паказваў рожкі і калі Маня была ў хаце; калі ёй было не да Алёшкі. Валодзьку хацелася, каб яна пахваліла яго: вось які ён, сказала б, добры, як памагае ёй, але яна нібы і не заўважала. І нават — Валодзька здзівіўся — зіркнула неяк нелагодна, быццам і недаволька была, што ён памагае. Знарок падышла да калыскі, адштурхнула яго, стала карміць малога, хоць той і не хацеў есці. А то вось, калі Валодзька ўзяўся забаўляць Алёшку, раптам кінула паласкаць пялёнкі ў начоўках ды так злосна рынулася да Валодзькі, што таго страх узяў.

— Чаго лезеш?! — закрычала, аж трасучыся ўся. Вочы яе былі чырвоныя, круглыя, рот шчэрыўся.— Чаго чапаеш?!

Валодзьку здалося, што яна зараз ухопіцца за віхор яму. Ці ўчэпіцца злымі зубамі.

— Я пазабаўляць... хацеў...— Ён з асцярогі адступіўся ад калыскі, не зводзячы з Мані вачэй.

— Пазабаўляць! Ідзі забаўляй сучак па завугол-

лях! Забаўляка!.. Пазабаўляць хацеў!..— Закрычала грозна: — Штоб не чапаў! Штоб блізко да яго не падыходзіў!

— Не б-буду... Я толькі...— хацеў ён растлумачыць, апраўдваючыся, але яна перарвала:

— Штоб блізко не падступаў!..

— Не буду...

З таго разу Валодзю было і шкода яе і боязна...

Дзед Дзяніс не кідаўся так, як Валодзя. Не было ўжо ў дзеда і збянтэжанасці, і абурэння, якія гналі яго з поля першы дзень, калі на дзеда абваліў неспадзяваную навіну Андрэй Руды. Дзед не кіпеў ужо, быў аж на дзіва стрыманы і роўны. Быў ён яшчэ — нібы больш строгі і разважны. Худы, касцісты, з важкім чырвоным носам, хадзіў ён у дублёным кажусе і па двары, і па хляве ўжо нібы не так старэча, з нейкай дужасцю ў хадзе, з асаблівай годнасцю даваў загады, найбольш матцы; паводзіў сябе не як якая-небудзь дзесятая спіца ў коле, а як першы ў сям'і, гаспадар. Матка, беручы яго загады, хоць іншы раз і аглядвалася асцярожліва на Васіля, ківала дзеду згодна, слухалася. Васілю дзед амаль не загадваў, рэдка казаў і заўвагі, але гэта не мяняла значэння: дзед нібы паказваў, што не хоча звязвацца з гэтым неслухам. І што яму мала клопату, што думае гэтае дзіця. Трэба сказаць, што Васіль, хоць і не бегаў па дзедавых загадах, нічым не пярэчыў, што дзед, праўда,— старшы, не так сабе ўзяў гэта — кіраваць усімі.

Такое было не першы раз. І раней, калі ў сям'і ці ў гаспадарцы ішло што-небудзь крыва, дзед не глядзеў ціха са свайго сціплага месца ззаду, дзед выходзіў наперад і браўся за лейцы сам. У такія моманты дзед нібы згадваў, што ён не для таго тут, каб кашляць на печы ды дыміць люлькаю; бачыў нанава, што ён, а не маладыя стрыкуны гэтыя, самы сталы тут. Адзін сталы і адзін разважны. Момант нібы зваў дзеда ўзняцца над усімі, весці ўсіх, і дзед адгукаўся на кліч, уздымаўся і вёў іншых. Ці дзіва, што дзед станавіўся такі раздумлівы і паважны, што і хадзіў, і дзейнічаў з такой годнасцю...

Дзед Дзяніс не таіў, а знарок паказваў, што яму не падабаюцца ні Васілёў учынак, ні непарадак у гаспадарцы і ў хаце. Ён амаль не гаварыў пра гэта, не дака-

раў Васіля словамі: тое, як недавольны, дзед выказваў моўчкі. Нядобра зіркалі маленькія, выцвілыя вочы з-пад нейкіх натапыраных, кусцістых броваў, густа, непрыязна дыміла люлька; і кашаль пры Васілю быў ужо не той дабрадушны, як нядаўна, а нелагодны, злы нават. Яшчэ больш пра тое, што думае дзед пра Васілёў учынак, гаварылі сур'ёзнасць і строгасць, з якімі дзед гаспадарыў на двары, у хляве.

Усё ж ад гэтага не лягчэла. Маўчанне яшчэ нібы дадавала злога, і з кожным днём усё больш. Дзеду бачылася, што неслух гэты не разумее яго маўчання! Заўважаць не хоча! Усё нецярплівей жавалі сухія губы люльку, усё злей калолі вочкі з-пад натапыраных броваў.

— За розум пара ўжэ брацца! — не ўтрываў, нядобра павялеў дзед. Голас быў нацяты; відаць было, накіпела дзеду, але ён яшчэ стрымліваў сябе. Васіль на дзедавы словы адно матнуў галавою — як ад назольнага авадня. Адвярнуўся нават.

Дзеда ўзяў гнеў. Загарэўся зразу:

— Слухаць трэба! Слухаць, што кажуць! Брацца на вум!.. За розум брацца пара! Не дзіця ўжэ! Дак і дзяцініцца няма чаго! За розум трэба брацца!.. Кінуць глупства ўсякае пара!.. Кінуць!..— Дзед некалькі разоў запар уцягнуў дым з люлькі, абурана закашляў: — Разумны вельмі стаў! Разумнейшы за ўсіх!.. Волі багато ўзяў сабе!.. Як жарабя, што на выган вырвалося! Усё яму нізпачом...— Заявіў цвёрда: — Разбалуваўся!

Дзеда ўжо не стрымаць было. Хоць Васіль словам не запярэчыў, слухаў цярпліва, дзед доўга не ўціхаў, кіпеў яшчэ. І потым, калі Васіль асцярожна сышоў,— ледзь не цэлы дзень,— у хаце, на двары, шумеў, бурчаў сам сабе. Нагаварыў злога дачцэ, Васілёвай матцы, якая трапілася на вочы. Не пашкадаваў Маню: насеў так — нібы з-за яе ўсё выйшла!..

Больш за ўсіх кідалася матка. Яна не кіпела гневам, як дзед; яна адно бедавала, ціха, турботліва. Усіх ірвалася супакоіць, улагодзіць, прымірыць. Ірвалася ўвесці мір у хату. Асабліва старалася дагадзіць яна Мані, з якой абыходзілася так ласкава, нібы хацела адплаціць за ўсё гора, якое даў яе сын. З твару яе не сыходзіла вінаватасць, чулая, добрая вінаватасць, матка нібы прасіла быць незласлівай, даравацъ.

Калі Васіля не было блізка, матка штодня ўводзіла ў галаву нявесткі: «чаго ў сям'і не бывае», «усяго пабачыць даводзіцца», «ето толькі збоку здаецца, што ў другіх ціхо ды гладко»; штодня, цярпліва, неадступна ўгаворвала, каб тая — не дай бог, не рабіла глупства, праз якое век будзе каяцца — не ішла да сваіх; каб не забывала пра тое, як будзе потым дзіцяці без бацькі; каб не рабіла няшчасным сіратою.

Бяда была ёй з Васілём. З Васілём яна не ведала, што рабіць, як падступіцца да яго. Іншы раз яна завіхалася каля яго, спрабавала ўлагодзіць, змякчыць яго; але Васіль нібы не заўважаў яе ці недавольны адыходзіў.

Ёй балела адтаго, што бачыла: ён не хіліўся ні да кога; ён цураўся ўсіх, не толькі Мані. Усе — і дзед, і яна, і Валодзька — былі яму нібы чужыя. Сярод сваіх ён жыў асобна, адзін, сам з сабою; і блізка не падпускаў нікога да сябе, і яе разам з іншымі. Яе дык, здавалася, горш за іншых цураўся!..

Толькі можна было здагадвацца, што робіцца ў душы яго; ад гэтых здагадак, ад невядомасці матчыны грудзі яшчэ болей ціснула скруха. Балела асабліва таму, што, ведала ж — не такі ён каменны, як мог бы падумаць хто-небудзь іншы; бачыла — сумны і разгублены ён, сам не ведае, як з бяды выбрацца. Бачыла, што трэба яму і лагоды, і парады,— а ніякай падмогі не дапускаў!..

## 2

Калі яны ўвайшлі ў гумно, Васіль азірнуўся. Ён глядзеў на іх толькі момант, амаль адразу адвярнуўся, стаў зноў зграбаць памалочаную салому, кідаць у застаронак.

Матка і дзед моўчкі стаялі ў дзвярах, чакалі. Згробшы салому, Васіль пастаяў трохі, тварам да застаронка,— у зрэбных споднікаў і зрэбнай сарочцы, з асцюкамі ў расчухранай чупрыне. Сарочка каля пахі разлезлася, і ў дзірку была відаць жаўтаватая паска голага.

Ён трохі гарбаціўся; ні то думаў пра нешта, ні то чакаў, што яны скажуць. Яны маўчалі, і ён зноў азір-

нуўся. Па тым, як ён спадылба ўважліва, дапытліва глядзеў, было відаць, ён здагадаўся, што яны прыйшлі не так сабе. Але яны не сказалі нічога. Зноў стаялі моўчкі: дзед у кажусе, у кучомцы — строгі, з тварам рашучым, важным; маці ў каптане, як бы спалоханая, вінаватая, з апушчанымі зморана рукамі. Яна трывожна сачыла за кожным Васілёвым рухам. Васіль стаяў, схіліўшы галаву, схаваўшы вочы, хмурны, насцярожаны.

Было чуваць, як пад страхою зацята верашчаць, пра нешта спрачаюцца вераб'і. Як недзе цупае цэп, як крычаць, гуляючы, дзеці.

Дзед пакашляў, пачаў першы. Па абавязку старэйшага.

— Дык што ж ето будзе?

Васіль варухнуўся, зіркнуў у іх бок. Не сказаў нічога.

Дзед памаўчаў зноў, пайшоў далей.

— Як жыць будзеш?

Васіль зноў варухнуўся. Не падняў вачэй.

— Так і буду.

Дзед пачакаў трохі.

— Як ето: так?

— А так...

Дзедавы вочкі пад натапыранымі брывамі павастрэлі.

Дзятліха спалохана зірнула на старога, молячы маўчаць. Ён недавольна, нязгодна адвёў вочкі, але стрымаў сябе.

— Ссох саўсім...— лагодна пашкадавала матка.

У Васілёвым твары смыкнулася нешта кволае, сумнае. Яна пасмялела:

— Штоб на сухоты не пайшло...

Ён не зірнуў на яе, але матка заўважыла: слухае.

— З трудных думак можа пайсці. Трудныя думкі да ўсяго давесці могуць...

Раптам зноў пабачыла пасачку голага пад пахаю. Пабачыла малым, няшчасным, зайшлася такім жалем, што перахапіла горла. Усёй душой раптам падалася да яго, і тады сказала самае цяжкае, самае важнае:

— Не думай нічого. Кінь пра яе. Не думай!

Лагодна, аддаўшыся ўся парыву і надзеі, што напоўніла нецярплівасцю і дужасцю, загаварыла:



Старшыня камітэта
па Ленінскіх і Дзяржаўных прэміях СССР
Мікалай Ціханаў віншуе Івана Мележа
з уручэннем яму Ленінскай прэміі
за «Палескую хроніку».



Сустрэча на дачы ў Міхася Лынькова.
Іван Шамякін, Іван Мележ,
П. М. Машэраў, Міхась Лынькоў.
*18 чэрвеня 1972 г.*

— Не думай. Ні да чаго ўсё ето. Сухоты толькі адны, а толку ніякага. Ето толькі здаецца так, што добра, што лепей будзе. Толькі так здаецца. Лепей не будзе... І так жа добра. І гаспадарка такая, і зямля. І хата свая якая. І сынок які — глядзець толькі ды — радувацца. Як яно ручкамі ды ножкамі перабірае. Як яно гулькае нешто, як яно смяецца бацьку свайму! То ж і не агледзішся, як ён падрасце, пабяжыць сваімі нагамі. Як вырасце бацьку па плечы, цешачы век свайго радзіцеля! Хвалячы век бога за такого радзіцеля, што выкарміў, вырасціў яго на радасць! То ж такі харошы хлопец расце, красівы ды дужы, чысты бацько! А здаровы — асілак будзе, няйнакш!.. І Маня — слова не скажу. Ужэ за тое, што прынесла, дзякуваць ды дзякуваць. Ды за такога хлопца, што падарыла.— Заўважыла нядобрае ў сынавым твары; баючыся, што вось-вось пераб'е, загаварыла яшчэ гарачэй: — Канешне, мо на пагляд не вельмі. Дак ці ж жонка на тое, штоб глядзець на яе! У другой е на што паглядзець, дак толку з таго пагляду. Калі яна ні ў хату нічого, ні ў жызні нічого. А то, бувае, і так: адным вокам на цябе, а другім — на другого. Ці пражывеш — а сына недажывешся, без патомства, без радасці пакіне!.. Усяляк буць можа! Там усё віламі па вадзе пісано. І так, і так буць можа!..

Бачыла — ледзь намякаць стала на Ганну, насцярожыўся зноў. Слухаў нецярпліва. Вочы ўжо не таропіліся ўніз, бегалі недзе па застаронку, не знаходзілі прыпынку. Чула: надакучаць стала яму; загаварыла карацей:

— І тое забуваць не трэба: Маня не пабегла к другому. Бацькам наперакор сказала: пайду. Беднасці не пабаялася. А тая,— Дзятліха з-за гневу ўжо траціла разважнасць,— тая, як быў нежанаты ды бедны, дак прызнаць не хацела. Адвярнулася. Да Карча пабегла! Лепшых знайшла! А як — пабагацеў ды хату паставіў, абжыўся — дак і сам добры стаў! Вазьмі ўжэ яе! Яна ўжэ пойдзе! На гатовенькае!..

Васіль так зіркнуў на яе, што яна замерла. Апаўшы раптам духам, зразумела, што зачапіла тое, чаго не трэба было.

Бачыла ўжо, што ён напружыўся ўвесь. Шыя ўжо не гнецца, пачырванела, жылы напяліся; плечы неспакойна варушацца пад сарочкай. Слухаць яе не хо-

ча, двума словамі сапсавала ўсё. Асцярожна паспрабавала паправіцца:

— Я што... Я нічога і проціў яе... І яна, канешне — нічога не скажаш... І ёй не соладко... І, калі на тое, дак і не па ахвоце сваёй яна. Мачыха ўсё... Зноў жа, хто не хоча дабра сабе... Не са зла яна. Апяклася яна. Хто ж кажа проціў яе... І яна няшчасная...— Матка пераўняла дыханне: як бы набіралася дужасці. Асцярожна павяла далей, не зводзячы ўжо з яго вачэй: — Толькі ж, сынок,— позно ўжэ.— Ён не зазлаваў, перамаўчаў ёй. Дзятліха пачула, што гэта дайшло. Яшчэ лагодней дадала: — Што було, тое було... Няхай шкода, а — не вернеш... Позно...— Нібы пазвала на помач старога: — Цяпер трэба за розум брацца. Дзед праўду кажа...

— На людзей глядзець сорамно! — прамовіў настроены нелагодна дзед.

Васіль, гатовы ўжо мірна кончыць гэту надакучлівую гаворку, загарэўся зноў:

— Дак вы не глядзіце!

— Як ето не глядзець?! — Дзедава барада абурана заварушылася.— Па ўсіх дварах, тым часам, толькі і плятуць!

— Няхай плятуць, у каго языкі свярбяць!..

— Праходу няма!

— Ат! — Васіль варухнуўся так, быццам паказваў: слухаць няма чаго.

— Разумны вельмі стаў! — закрычаў раптам дзед.— Слухаць нікого ўжэ не хоча! Усё яму ніпачом! Не хадзіце, не глядзіце! Не слухайце, што плятуць!.. Волі багато бярэш!.. Хопіць ужэ гайсаць! Не хлопец ужэ! Не жарабя! Жыць трэба ўжэ, як людзі!..

— От бо! — не вытрываў Васіль. Не апранаючыся, выскачыў з гумна, на прыгуменні азірнуўся, куды падацца. Матка кінулася за ім: — «Васілько!» — але ён адкаснуўся ад яе, падаўся за гумны.

— Васілько, світу вазьмі!

Ён затрымаўся, не гледзячы на яе, узяў світу. Люта ўсадзіў рукі ў рукавы, не зашпільваючыся, намерыўся ісці. Яна выскачыла наперад.

— Вярнуўся б мо? — Яна нясмела зазірнула ў вочы яму.— Чаго ты пойдзеш немаведама куды? Вярніся...— Ён адводзіў хмурны, невідушчы позірк.— Не злі-

ся. Мо што і не так, дак — не зліся. Не са зла мы табе. З дабра ж... І на дзеда не зліся. І ён — з дабра...

Васіль нецярпліва крануўся, яна ўжо не затрымлівала яго. Бачыла: ні да чаго гаварыць яму, не паслухаецца. Толькі болесна глядзела ўслед, вачыма, поўнымі жалю і трывогі: каб не ўчыніў чаго паганага з сабой. Худая, высушаная надмернай працай і рознымі турботамі, з тварам, на якім пад шэрай, у глыбокіх маршчынах скурай выпіналася выразна кожная костка: шчокі, нос, падбародак, стаяла яна пад халодным ветрам і не чула нічога. Вецер рэзаў вочы, і яна прыплюшчвала іх, але не заплюшчвала зусім, не адварочвалася, глядзела ўсё ўслед. З трывогай, што не ціхла, чакала як надзеі на радасць, што азірнецца.

Ён ішоў, падаўшыся ўперад, амаль не махаючы рукамі. Ішоў без якой-небудзь сцежкі, па куп'і, напрасткі да чорнага алешніку; рушыў дзіўна проста, як бы ведаў куды. Раз-другі спатыкнуўся аб купіны, няспрытна ступаў у ямкі, але рушыў і рушыў к алешніку. Ён так і не зашпіліў світы, і вецер раскідаў полы яе, але ён і на гэта не зважаў. Рушыў нібы сляпы, нібы п'яны. І так і не азірнуўся.

Яна глядзела ўслед, калі ён ужо схаваўся ў алешніку. Падумала з дакорам сабе, што дарэмна ўсё ж не затрымала, не вярнула. Каб не ўчыніў чаго паганага...

Васіль не заўважыў, як дайшоў да алешніку, як пайшоў між чэзлых, голых недаросткаў. «Не са зла! З дабра!..— не адступала злоснае: — Улезуць, развярэдзяць душу — ды з дабра! Параядзяць чалавеку душу — ды маўчы! Дзякуй — што і яны шчэ, разам з чужымі!.. Мала таго, што чужыя, дак і свае так жа!..» — Ён згадаў дзедава: «Перад людзьмі сорамно!» — і злосць пайшла на дзеда: «Сорамно — дак не канешне глядзець! Да й не ты рабіў — дак і не саромейся за некаго!.. Сорамно яму!.. І крычыць шчэ, як на дзіця якое! Як усе адно розуму свайго ў мяне няма!.. «Маня — слова не скажаш паганаго! — згадаў ён матчынае.— Не тое што каторая: ні ў хату нічого, ні ў жызні нічого!» Найшла раўняць каго: Маню і Ганну, дый шчэ так, што Ганну як дзёгцем замарала!.. Сама знае, што няпраўда, а — кажа! Вер ёй!.. «Апяклася»! У том-то і бяда, што апяклася! І — няшчасная! Дак нашто нагаварваць на яе!»

«Што було, тое було... Няхай шкода, а не вер-

неш...» — зноў нібы пачуў ён. І зноў зазлаваў на матку, на дзеда: «Лёгко вам ето казаць! Усё вам лёгко! Вы толькі і ўмееце, што вярэдзіць душу! А самі і знаць не знаеце, як яно чалавеку!..»

Чалавеку было горка. І адтаго брала яго злосць на тых, якія нібы не хацелі разумець гэтага, а лезлі папракаць, вучыць. Як бы ён не ведаў таго, што малым дзецям вядома. Як бы яму самому не было шкода, што Алёшка стане бязбацькавічам; што гараваць будзе, можа, усё жыццё між чужых; якія папікаць будуць ды знушчацца. Як бы з адных думак гэтых у яго на душы не балела так, што не мог ужо думаць пра іншае роўна. Як бы самому яму не шкода было Канчака, як бы не шкода было хаты, зямелькі, што ля цагельні; не шкода дабра свайго, якому столькі аддаў сілы сваёй і з якім былі ўсе надзеі.

Дык не ж, улезуць у душу ды пачнуць вярэдзіць сатое, да чаго і самому дакрануцца моташна. Ды шчэ сараміць пачынаюць: «На вуліцу паказацца не можно!» Пад нагамі яго раптам чвякнула, ён пачуў, як ногі ўпаўзаюць у мяккае, і стаў. Упершыню заўважыў, куды зайшоў, што навокал. Пачыналася мокрае балота, парослая алешынамі, крушынамі, лазою куп'істая дрыгва; з усіх бакоў аднастайна, паныла абступалі голыя, хмурныя дрэвы. Наперадзе яны раслі радзей, алешнік свіціўся, і між іржавай травы чорна, быццам дзёгаць, значыліся лапіны балотнай вады. Ён пачуў, як анучы працінае вада, і падаўся назад.

Ён цяпер бачыў рудую траву, пасохлае бадылле балотных раслін, глядзеў, як абыходзіць дрэвы, кусты. Чуў, як хлюпаюць вадой лапці, як мокрыя анучы сцінаюць ногі. «Выкруціць трэба б»,— прайшло ў галаве звыклае; але ён не стаў, рушыў і рушыў, як бы яго гналі. «Нажа не ўзяў... Мятлу трэба б зрабіць»,— падумаў ён, заўважыўшы бярозку, падумаў і адразу забыў.

«Гаворадь у сяле!.. Няхай гавораць! Толькі і бяды — з тае гаворкі!.. Тут свету не відно, не знаеш, як разарвацца, а ім адно — «гавораць»! Узяў амаль адчай: «Дакуль жа яно ўсе ето будзе,— што круцішся на адным месцы. Што ніяк не набярэш цвёрдасці, штоб павярнуць ці сюды, ці туды. Штоб рашыць цвёрдо і штоб не аглядувацца. Штоб не шкода було ці таго, ці другого! Калі ж ето стане жыць так — што на душы лёгко!..»

Ужо на ўзлессі, калі з-за дрэваў завідненіся платы, гумны, хаты, ён спыніўся. Не толькі ісці, а і глядзець не хацелася яму на Курані цяпер! Ён і не глядзеў на іх; стаяў, вадзіў, як лось, што трапіў у загароджу, сумотнымі вачыма,— не ведаў, куды падацца. Блізка аказаўся ўчарнелы пянёк; Васіль сеў, пачаў хапатліва, нібы радуючыся, што знайшоў клопат, развязваць аборы, раскручваць анучы. Разуўшы адну нагу, краем палы світкі выцер насуха гарачыя пальцы, пятку, расцёр, сагрэў усю нагу, дакуль намокла, выкруціў анучу, старанна абуўся. Разуў другую нагу, абуўся.

Ён борзда ўстаў: от адно зрабіў — што зараз? «Поле паглядзець. Як там яно?..» — нагадаў сабе. Ужо намерыўшыся ісці, павёў позіркам па гумнах, хатах, спыніўся на сваім гумне — у грудзях заныла: Ганна!.. Уміг пачуў пах саломы, яе плячо, яе адданы шэпт: «Адзін ты ў мяне... Адзін буў, і адзін цяпер...» Вочы знайшлі той плот, каля якога пабачыліся апошні раз: «Не жыць жа век не любячы...» Ён павёў вачыма туды, дзе яна цяпер пакутавала, нахмурыўся, адарваў позірк.

«Як — без яе, аднаму? — думаў ён, ідучы ўзлессем к полю.— Канешне, без дабра свайго — не чалавек. Канешне, гаспадарка — ето гаспадарка, аснова. Е аснова — і ты е. Берагці ўсё, канешне, трэба. І каня, і хлявок, і хату, і землю. Нашаму брату, гаротніку, не лёгко ето нажываецца. Распетрыць можно ўмент, а нажыць — папапяцца, жылы падарваць трэба!.. Ето праўда!.. Але што ж ето за жыццё, калі нярадасць у хаце? Калі не бачачы Ганну — як не жывеш? Усе адно — што не жывеш! І робіш, і глядзіш усё, што трэба, а — як не жывеш!.. Ды і яна як адна будзе? З етым дурным Карчом, якому яна папалася на бяду сваю!» Калі ён, Васіль, можна сказаць, адна надзея яе!.. Як жа ён адну кіне яе, у бядзе! Каб яна гаравала век!..

Поле было голае, панылае, як і ўсё ў гэты ветраны дзень, калі сонца і не праглядвала з-за нізкіх, даўкіх хмар. На шэрай, бруднай аднастайнасці вылучаліся адно лапінкі руні, на якія ён паглядваў праз завалоку думак, мелькам, без цікавасці адзначаючы, як яна ідзе ў другіх. Было клопатна і хораша, калі ўбачыў сваю паласу: яна ўся зелянела; кволыя сцяблінкі, калі стаў перад паласою, заварушыліся — нібы віталі яго, радаваліся яму. Ён, шастаючы лапцямі па чэзлай траве,

пайшоў мяжою ўздоўж паласы, з цікаўнасцю, трывогай і радасцю ўзіраючыся ў рунь. Не, зямля гэта і цяпер не падманула: рунь была ўсюды дружная, моцная; ні аднаго зерняці, пэўна, не прапала. «Ето — расце! — свяцілася ў ім. Звыкла, з асцярожлівасцю, каб не ўракнуць, стрымаўся: — Як бог дасць снегу ды марозу і вясну добрую, дак уродзіць нешто! Будзе жыто! Тольві б бог даў снегу, ды вясну, ды лето добрае! Штоб не вымерзло, не вымакло, не высахло, не дай божа!» — як бы памаліўся ён.

«А зямля — болей бы такой зямлі! Усю такую б зямлю! Не дарэмно стары Лясун жыліўся так: було чаго шкадаваць! А ўсё ж такі не ўбярог! Аж плакаў, як аддаваў, а ўсё ж такі аддаў!.. Добрая, ды адно — мало! Кеб шчэ хоць столькі!..— Прыйшоў на памяць той незабыты перамер, калі біўся з Яўхімам.— Адрэзалі б тады тут, ля цагельні! — ажыла даўняя бяда.— Дак — удзялілі кавалак!.. Скруціў Корч хітры; улез, казалі, у душу самога ўпаўнаважанага! Улез-такі, пэўне, бо вельмі ж ужо «абрэзалі» выгадно! І Міканор — «справядлівы», такі, перарабіць не мог! Маладзец сярод авец, а з Карчом не справіўся!.. Нічого, шчэ можа справяцца, унь як за кулакоў узяліся! То-та дрыжыць стары хітрун, лістам сцелецца! Толькі цяпер — не выкруцішча! Не выкруціцца!» — падумаў з уцехай.

«От бы тады — прырэзалі б ад іхняй, карчоўскай. Блізко ж саўсім. Мог бы аддаць усю тую, што пад Міхалевам. «Вазьміце, скажу, усю тую, а дайце тут. Штоб — маўляў — у адным месцы, штоб — зручно було!..» Аге, дадуць табе, пабачыш — як свае вушы!.. Дадуць не дадуць — а папробуваць, канешне, трэба!» Згадалася апошняя гаворка з Міканорам пра калгас: «Капаешся ў гразі, дабра свайго бачыць не хочаш!» Дабро! Пабачым, якое то яшчэ дабро!.. Прыдумалі: аддай усё сваё, памяняй на чужое! Аддай сваё поле, дзе кожную сцяблінку, здаецца, сагрэў бы сам! Ішоў бы ад адной да другой ды хукаў бы, каб не мерзла! Аддай чужому, якому на яго напляваць! І сам рабі немаведама на каго, немаведама за што!.. Ідзіце, як вам так хочацца! А мы як-небудзь і так пражывём! Ды пабачым — хто шчэ лепей!..»

«Аддай поле, абагуль! Аддай поле — ето ўсё адно што — аддай душу! Папробуй, адарві душу!» — як бы

казаў ён Міканору. Потым кінуў гаварыць яму; абабегшы позіркам паласу, падумаў ужо сам сабе: «Уся сіла чалавека — у зямлі. І сіла ўся, і радасць! Няма зямлі — няма, лічы, і чалавека!»

«Ганна!» — зноў уварвалася ў яго думкі. Ён мімаволі стаў. Нібы зачапіўся за штосьці. «Ну, от зноў!..— ажыло знаёмае, нязбытнае.— Зноў — як спутаны. Дакуль жа ето будзе?!» З вінаватасцю перад Ганнай узяла злосць: «Не хацела тады, як можно було. За Карчом пагналася. Цяпер — думай тут!.. А што я ўдумаю, што?! Калі нічога прыдумаць не можно! Не можно ўжэ!» Ён растрывожана павёў вачыма па полі. Яно, здавалася, глядзела, чакала, спадзявалася; тысячамі сваіх сцяблінак, што варушыліся, хваляваліся, як жывыя. І раптам ён адчуў, як нязбытны цяжар спадае. Як вяртаюцца даўно не знаныя дужасць і яснасць. Поле, бяда яго і радасць! Яго сіла і надзея яго! Быў ён з імі і астанецца з імі! З імі толькі і жыць яму.

Не кіне ён ніколі поле гэтае, якім не нацешыўся, хату, у якой не жыў яшчэ; не кіне — каб і хацеў! Не можа кінуць; як не можа сам сябе загубіць!

«Ганна»,— згадалася зноў, але так, як бы разышліся ўжо. Разышліся, ведаючы, што сустрэцца ўжо не давядзецца. Узяла маркота, жаль аб страчаным назаўсёды. «Не суджано,— нібы сказаў ён сабе, суцяшаючы.— Не судзілася тады, дак цяпер няма чаго думаць. Кончылася! Пра дзело трэба думаць, пра гаспадарку!..» Ідучы зноў мяжою, чапляючыся лапцямі за чэзлае бадылле, тлумачыў сабе: «Мабуць, так ужэ век: што не можно, штоб усе было аднаму. Што трэба нечым паступацца... Дак і трэба паступіцца!.. Не малы! Не стрыкун! Хваціць ужэ балувацца!.. Мало, што даўпадобы! Прайшла пара!.. Пра дзело думаць трэба!..»

Цераз палосы з пожняю, цераз узаранае, цераз межы ён падаўся к узлессю, бліжэй да сяла. Зрэзаў вялікі кут, той жа хуткай, дужай хадою ўзболаткам, поплавам амаль напраскі пайшоў к загуменню; абмінуўшы сяло, выйшаў к свайму гумну. Да самых поцемкаў, не аддыхваючыся, цупаў і цупаў цэпам. Ужо ў цемры зачыніў вароты гумна, але не пайшоў вячэраць: доўга гаспадарыў у хляве, цешыўся канём.

Усхапіўся зноў на золаку. Яшчэ і не ўднела добра, з сякерай кінуўся к новай хаце. Лёгка адкінуў ад дру-

гіх адну калоду, уладзіў, каб не круцілася, замахаў сякерай. Матка ледзь адарвала, каб паснедаў. Да паўдня часаў, дрэва аж звінела пад сякерай; а пасля полудня ўхапіўся зноў за цэп. І цэп бегаў спрытна, ахвотна, не стамляючыся.

Як перамяніўся чалавек.

## 3

Ганне ніяк не ўдавалася пабачыцца з Васілём. Некалькі разоў праходзіла яна па загуменні паўз яго селішча, чакала, але яго не было. Не было Васіля і на тых вячорках, куды хадзіла яна з кудзеляю.

Як надзеі на радасць, узрадавалася Ганна чутцы, што прыехала кіно.

Кіно было ўжо ў Куранях два разы, але першы раз Ганна даношвала дзіця перад родамі, а другі — малое было на руках; толькі з людскіх гаворак ведала яна, якое гэта дзіва — кіно. Вельмі вялікая ахвота была некалі, пасля тых людскіх гаворак, пабачыць кіно, але цяпер кіно прывабіла Ганну не так само сабою, як тым, што на яго сыдзецца многа людзей; ажыла, нецярплівa забруілася надзея — будзе, мабыць, і Васіль!.. Хоць бы здалёк пабачыць, вачыма перамовіцца...

Яўхім яшчэ пад вечар падаўся кудысьці: можна не баяцца, што прычэпіцца, затрымаць захоча. Ледзь накарміла жывёлу, хапаючыся — каб хоць не вярнуўся не ў час! — апранула каптан і стрыманай хадою ступіла на ганак. Вьіткнуўся, бы знарок, стары, прасіпеў нядобра:

— Куды ето?..

— От, пайду, пагляджу...— як адмахнулася ад яго.

Чула спіною, што глядзіць услед, але не азірнулася. Ішла цвёрда, упэўнена.

Кіно павінны былі паказваць у Пракопавай хаце, адной з большых куранёўскіх хат. На гразкай вуліцы каля хаты, на двары, упоцемках і ў белым, аж рэзала вочы, святле, што ішло з вокан, тоўпіліся, варушыліся, здалося, усе Курані. Амаль адразу яе ўзрадавана гукнулі, і яна азірнулася — ёй усміхаўся Сцяпан.

— Хадзем разам! — сказаў ён весела.

— Можна — разам,— не ўзрадавалася яна.

— За мной ідзі...

Было многа не толькі моладзі, але і старых, асабліва мужчын,— у двары прыйшлося проста прабірацца між чародак людзей. Сярод дарослых усюды шнырылі малыя. Гула гамонка, ускідваўся смех, вясёлыя воклічы.

«Як на вяселлі якім. Ці ў царкве, на вялікі дзень...» — падумала Ганна, таксама поўнячыся весялосцю.

— О тут е такая машынка, якая ток электрычны дае,— цешыўся, казаў Сцяпан.— Круціць яе трэба, штоб электрычнасць дала!..— Ён засмяяўся: — Глядзі, сколькі ахвотнікаў пакруціць! Папасці ў кіно бясплатно!..

Калі Сцяпан і Ганна ўціснуліся ў сенцы, яна аж радасна прыжмурылася: да таго ж светла, такой яснасці і ўдзень у сенцах не бывае. Зірнула з павагай на лямпачку, што зырчала над расчыненымі дзвярыма ў хату. Ужо затым заўважыла яна поблізу ў сенцах дзіўную машыну з кругамі ўгары, пра якую Сцяпан сказаў, што гэта і ёсць — кінаапарат.

— Галоўны апарат, які паказуе ўсё... Усё ідзе адсюль, ад етаго апарата...

Яго дасведчанасць давала цяпер як бы перавагу, і ён трымаўся з Ганнай вальней і смялей, чым заўсёды. І не таіў шчасця. Яна ўпершыню бачыла яго вясёлым з тых дзён, як ён вярнуўся з няўдалых уцёкаў у камуну. Ганна ведала, што ён цяжка перажываў сваё выключэнне з камуны: кулацкі сын! — ведала, што толькі слёзы яго маткі прымусілі яго зноў вярнуцца з няпэўнага прыпынку — ужо ў Юравічах — дадому. Яна здзівілася, калі ўбачыла ўпершыню, як ён пасталеў за які-небудзь месяц. Век маўклівы, унураны, нейкі нязнана важкі, павольны. Штосьці ў ім нібы раптам згарэла, патухла. І вось — дзіва — зноў запалілася... Ён, аказваецца, мог быць і цяпер вясёлы, давольны...

Каля апарата корпаўся, штосьці папраўляючы, гладкі і, здалося, вясёлы незнаёмы хлопец з русявымі, зачэсанымі назад валасамі. Тут жа быў і Андрэй Руды, важна заглядваў туды, што і хлопец, пытаўся ў яго.

Каб увайсці ў хату, трэба было купіць білет, якія прадавалі на століку перад дзвярыма. Сцяпан толькі ўзяў квіткі і пазваў Ганну ў хату, калі побач раптам выпнуўся расчырванелы, з вачмі, што прасілі і малілі, Хведзька:

— І я! І — мяне!..

Яго прапусцілі з імі. Хведзька ішоў, туліўся да Ганны, анямелы ад шчасця, ад белага святла. Але праз хвіліну пасля таго як Ганна і Сцяпан умасціліся на ўслоне, рудаватага Хведзькавага чубка як і не было побач — знік недзе сярод сваіх равеснікаў, што круціліся, дурэлі на падлозе наперадзе, каля самага белага палатна.

Ганна агледзелася: у хаце было ўжо багата людзей. Трохі іх сядзела на ўслонах, на ложку, другія — большасць — уладзіліся проста на падлозе. Блізка, трохі ззаду, гаманілі Грыбкі і Сарока, далей, каля акна, у купцы дзяўчат тулілася Хадоська. Пракоп-лясун, як гаспадар, уладзіўся з выгодамі, на прыпеку,— з жонкаю, са старэйшымі сынам і дачкою. Малодшыя дурэлі, пішчалі на печы.

— Курыць не можно! — сказаў Міканор як загад.

— Чаму ето? — недавольна прамовіў ляснік Міця.

— Загарэцца можа!

Сцяпан, усё з той жа пасмялеласцю, радаснасцю, стаў адразу расказваць, як недзе за Прыпяццю запаліўся апарат ад адной іскрачкі,— хата згарэла ў момант, бы карабок запалак. Ганнаківала яму галавою, паказвала, што слухае, а сама была поўна адною думкаю: Васіля няма. Стараючыся не паказваць таго, яна нецярпліва лавіла галасы ў тым баку, дзе былі дзверы, адкуль уваходзілі. Разы два не вытрымлівала, азіралася. Глянуўшы апошні раз на дзверы, яна неспадзеўкі ўбачыла Яўхіма: не ўседзеў дома, прыпёрся ўслед. Гэта было ёй як знак сваёй сілы, улады над ім, але ўцехі ні на міг не пачула яна.

Ён не падаў знаку, што бачыць яе, сеў наводдаль з мужыкамі. Цяпер увага Ганны стала як бы двайцца — прыслухоўвалася, чакала Васіля і разам з тым увесь час непрыхільна помніла: Яўхім тут...

Ужо не Міканор, а Пракоп з прыпека грозна прагуркатаў, што курыць няможна. Але хтосьці з дзядзькоў усё ж потай курыў; дым ад тытуню быў добра чуцён між пахаў поту, лазы з лапцяў, балотнай гразі, старых світ, якія поўнілі хату. Сцяпан з папрокам загаварыў: да чаго ж несвядомыя ў нас людзі, як малыя!

Мусіць, з-за гэтай гаворкі, Ганна не адразу заўважыла, калі ўвайшоў Васіль. Яна ўбачыла яго тады, як ён

ужо стаў непадалёк са сваёй Маняю, шукаючы на падлозе вольнага і зручнага месца. Ён Ганну тады яшчэ не бачыў. Але Васіль, здаецца, пачуў на сабе яе позірк, няцямна азірнуўся. На момант іх вочы сустрэліся, і гэты момант так многа сказаў Ганне. Тое, што яна адкрыла, не ўсцешыла: Васіль адразу занепакоіўся нядобра, хутчэй адвярнуўся. У гэты час асабліва чулая, яна зразумела ўсё: «Не хоча і глядзець... Перадумаў... Кончано!..» У грудзях яе стала раптам тужліва, пуста.

«Перадумаў. Ну і няхай — перадумаў»,— паспрабавала супакоіць сябе яна. Канешне, павінен быў перадумаць: жонка ў яго, і малое... І сама яна, Ганна, хіба ж вольная?.. Яна ўхваліла як бы з палёгкай: — «І добра, што так... Не вярэдзіць душу абы-чаго...»

Але туга не адыходзіла. Ганна чула, разумела: яшчэ адна ўцеха, надзея яе, прапала. У момант раптам не стала таго, чым цешылася, аб чым днямі і начамі трызніла-марыла, да чаго рвалася душою... З гэтым так цяжка было згадзіцца, што яна ўхапілася зноў за мару сваю, не паверыла таму, што так добра ўбачыла: «Не, не перадумаў. Ето так здалося толькі... Ето ён толькі перад людзьмі так... Кеб не плялі лішняго...»

Туга, трывога ўсё ж не ападалі. Ганна чула душою адно: адумаўся, адступіцца рашыў! Ёй зрабілася так прыкра, быццам яна знарок сама сябе ашукала: «Напляла, настроіла сабе бог ведае чаго, дурніца!.. Сама напляла і сама паверыла!..»

Яна зноў адчула сябе адзінокай, чужой сярод чужых. Нявесела было цяпер слухаць бесклапотны, са смехам гоман людзей, падумала горка: «Трэба було перціся сюды! Сядзела б лепей дома!..»

З гэтым настроем яна амаль не слухала, што казаў Міканор, які выйшаў к сталу. Знайшоў калі ўгаворваць, каб уступалі ў калгас; самы час людзям думаць пра гэта. Нарэшце пачуў, што попусту гаворка, перастаў лезці ў душу людзям. Абыякава глядзела, як пад усхваляваныя воклічы дзяцей і пакрыкі дарослых, якія загадвалі сціхнуць, на палатне заварушыўся, нібы ўладжваючыся ямчэй, белы квадрат. Ён то лез на столь, то апаўзаў так, што на палатне тырчалі нечыя неслухмяныя віхры, чарнелі шапкі, нават галовы. Гэтыя абрысы весялілі таго-сяго, асабліва малых, якія

адзін за адным сталі высоўваць рукі, паказваць чорцікаў, дулі. Яны ўраз апалі, калі Андрэй Руды ад апарата пагразіўся:

— Штоб селі ўмент! А не — дак выганю ўсіх!

Белы квадрат пакоўзаўся, пакоўзаўся, супакоіўся, стаў. Амаль адразу, калі святло ў хаце пагасла, белае акно на сцяне паявілася зноў, ужо ярчэйшае,— і ў цікаўнай цішыні, ззаду, ад дзвярэй, пачулася стракатанне. У белым акне задрыжалі, заскакалі, як бы ў полечцы, нейкія плямы, пісягі, нібы жывыя, выскачылі літары.

— Абрэк Заур...— прачытаў уголас Сцяпан.

Яна не зразумела нічога з гэтых слоў, ды і не дабівалася зразумець. Праз бяду сваю Ганна без якога-небудзь захаплення — зусім інакш, як усе, што аж анямелі, зачараваныя,— глядзела на дзівы, што паяўляліся, мяняліся і мяняліся ў белым дрыготкім акне. То лезла крыва, потырч зямля з камянямі, пра якую Сцяпан казаў — горы, то ляпіліся адна на адной дзіўныя хаты без стрэх, то імчаў на чорным жарабцы адчайны чорны чалавек у вялікай кучомцы. Ён так грозна ляцеў са сцяны, што наперадзе нехта закрычаў ад страху. Ды і Ганне было не вельмі добра: усё здавалася — выскачыць са сцяны, з акна, паляціць на жарабцы па людскіх плячах ды галовах...

Непрыкметна, спакваля туга ціхла, але зусім не забывалася: усё ж бачыла ўжо наперадзе няхай дзіўнага, але чалавека, жывога нібы і знаёмага. І чым больш уведвала пра яго, тым больш цікавіў ён, больш спачувала яму. Цікавасць і трывога аб ім дзіўна спляталіся з тугой аб сваёй бядзе, з тугой пра нейкае нязнанае і заваблівае жыццё ў нязнаных, дзівосных кутках, куды, каб магла, паляцела б з радасцю, ад бяды, ад няпраўды, ад няўдачы сваёй...

З гэтым неспакоем сядзела яна і калі акно наперадзе зноў чыста забялела і запалілася ў хаце святло. Мара-туга паляцець, уцячы кудысьці яшчэ пабольшала, запаліла, калі згадала Васілёў позірк, зноў вярнулася душою да таго, што з гэтага позірку зразумела. Яна, аднак, пастаралася адагнаць тугу сваю, стала прыглядацца, прыслухоўвацца да таго, што дзеелася вакол. Было відаць, багата хто быў як бы аглушаны бачаным, не мог ачомацца.

— Ядры яго мацы! — выказаў захапленне Зайчык.— Зямля ў небо лезе!

— Які чорны, такі й праворны! — заявіла Сарока.— Цыган чысто!

— Салому са стрэх — нібыто — скармілі! Ні адной страхі!

Андрэй Руды папракнуў за цемнату людскую:

— Каўказ! Следавацельно, і горы. І каўказцы чорныя! І хаты такія! Сакля называецца. Аб етым неаднакратно пісаў Міхаіл Юр'евіч Лермантаў...

— Горы — нябось — не меншыя, як у Юравічах...

— Параўняў — та-скаць! Вераб'я з бугаём! На дзесяць вярстоў угару прэцца! Хрыбет!

— На дзесяць! Брашы!.. Як усе адно мераў хто!..

— Навукай даказано!

— От адчаянны, дзеткі, еты, што на кані! — зноў уплёў з захапленнем Зайчык.

— Адчаянны! І конік — нічого!.. Мне б такого!

— Умент бы ў Юравічы заскочыў!

— Дак ето — усё? — ні то здзівілася, ні то проста запыталася Грыбчыха.— Ці шчэ што пакажуць?

— Шчэ будзе! — супакоіў Сцяпан.— Самае цікавае!

Людзям была ахвота паглядзець гэтае цікавае, але той, што паказваў кіно, усё нешта стукаў у сенцах жалезнымі банкамі, мудрагеліў каля машыны. Ледзь дачакаліся, калі патухне зноў святло і задрыжыць-затрасецца белае акно на сцяне. І тут неспадзеўкі ўразіў яшчэ адзін цуд: горы раптам перавярнуліся, звіслі са столі верхам уніз, неба і воблакі задрыжалі пад імі. І конь, як муха па столі, пабег дагары нагамі, і не чалавек ехаў на ім, а ён на чалавеку, на чорнай кашлатай шапцы. Ганна, як і ўсе людзі, была так здзіўлена тым, што бачыла дасюль, што і гэта ўзяла за дзіва, якое толькі не ведала, як разумець...

Дзеці ж адразу аж завішчалі ад радасці. Віск-смех іх стаў перадавацца дарослым, з якіх той-сёй, як і Ганна, стараўся яшчэ разабрацца, што ж дзеецца на сцяне,— смех, рогат усё дружнеў, дужэў. Неўзабаве ўся хата трэслася ад рогату, у якім на час зусім забылася адважная постаць чорнага конніка. Людзям было нават шкода, калі гэтае вясёлае відовішча на палатне раптам прапала, і вясёлы кіношнік, сам вельмі рады, што па-

цешыў людзей, стаў зноў корпацца каля машыны. Неўзабаве тыя ж горы і таго ж конніка ўсе ўбачылі ўжо як трэба — ён ехаў на кані, камяністай крывой дарогаю. Гэта было ўжо нібы не так цікава, але хутка гісторыя загадкавага каўказца зноў захапіла ўсіх...

У гэту ноч, засынаючы, Ганна бачыла то хаты, што ляпіліся адна на адну, то чорнага чалавека, які ляцеў на кані, цэліўся са стрэльбы, зноў і зноў бачыла Васіля, як стаяў з Маняю, як адвярнуўся ад яе, ад Ганны. Дзіўныя відовішчы кіно і тужлівай рэальнасці спляталіся, блыталіся: на момант убачыла сябе на кані — ляціць, ляціць, аж дух займае. Лёгка, добра-добра ёй, шчаслівая, туліцца да адважнага чорнага конніка. Не, не да яго, да Васіля. Ляцяць, ляцяць удваіх з Васілём. Васіль, мілы мой!..

І тут жа абудзілася. Ледзь даўмела, дзе ляжыць, у памяць зноў унізалася: як убачыла Васіля, як ён адвярнуўся, і Ганна ледзь не застагнала. Каб адагнаць тугу, крыўду, боль, стала знарок згадваць тое, што бачыла ў кіно. Але і тут спакою не было. Душа балела па адважным конніку, марыла аб нейкіх адважных учынках, аб прасторы, аб волі. Паляцела б, не паглядзела б ні на што,— каб было з кім... Цудоўныя відовішчы, якія яшчэ жылі ў ёй, звалі, вялі яе ў свет цудаў. Але ўтрымаць у гэтым свеце не маглі доўга: зноў і зноў у мары яе ўрывалася згадка пра Васіля. Самая дарагая надзея гразілася цяпер самай горкай стратай...

# ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

## РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ

### 1

Выехалі пад вечар. Ледзь толькі мінулі бярэзнічак за мястэчкам, насеў поцемак. Лес тут і ўдзень цёмны, сосны ды сосны, цяпер ехалі як у чорнай канаве. Ехалі паціху, Апейка сказаў, што спяшацца няма чаго: часу аж залішне, цягнік будзе апоўначы.

Недзе паверсе хадзіў вецер, але на дарозе, унізе, было ціха; толькі аднойчы, калі справа зашарэла поле, вецер шырока ўварваўся на дарогу, стаў мокра біць у твар. За полем дарога зноў увайшла ў чорную канаву лесу, у ціш і дрымотнасць. Мабыць, ад гэтай цішы, чорнай маўклівасці навокал гаварылі мала. Жанчына спрабавала была завязаць гаворку, сказала, што от зіма падступае, скора маразамі возьмецца. Апейка для прыліку падтрымліваў яе; і яшчэ разы два падтрымліваў, без ахвоты, і гаворка зноў аціхала, як бы глухла ў важкай лясной цішы. Так і ехалі амаль увесь час, дрэмлючы ці моўчкі думаючы кожны сваё; толькі Ігнат раз-пораз, як бы спрасонку, нокаў, памахваў пугаю; нокаў так лянівa, што коні амаль не зважалі.

Лес выпусціў толькі каля самых калінкавіцкіх хат; зразу за соснамі заблішчалі агеньчыкі, пачалася вуліца. У вуліцы і коні і людзі пачулі сябе весялей; коні, здаецца, без Ігнатавых лейцаў, самі ўхапіліся ўподбег; так уподбег і дакацілі да доўгай і шырокай, са святлом у вокнах будыніны вакзала. Амаль зразу, як увайшлі ў залу, там усчалася мітусня, усе рынуліся к дзвярам, што вялі на перон, зала напоўнілася нецярплівым гоманам, крыкам. Занепакоілася і Апейкава спадарожніца: таксама захадзілася — хутчэй білет трэба б, не спазніцца б,— але Апейка супакоіў, што гэта не іх, гэта, па часе, гомельскі.

Так яно і было: поезд быў на Гомель. У апусцелай і пацішэлай зале ўзяў Апейка з касы два білеты, на

Мінск праз Жлобін; абгледзеў, праверыў іх і так, і на святло; Ігнат, які сачыў за ўсім, рашыў, нарэшце, што задачу сваю выканаў і мае права лічыць сябе вольным. Ён зняў шапку і так, з шапкай у адной руцэ і з пугай у другой, сказаў, каб вярталіся жывыя-здаровыя, і валка, спакойна падаўся да дзвярэй.

Сядзелі ўдваіх на канапе, доўга гаманілі; з гаварлівасцю жвавай вясковай жанчыны спадарожніца шчыра дзялілася, мабыць, усім, што было на душы: і неспакоем пра тое, як там чалавек адзін з дзецьмі ўправіцца; і надзеяй на сястру, якую яна прасіла, каб прыходзіла, наглядала; і клопатам, як там будуць яе каровы без яе: яна была даяркаю ў калгасе; пэўна, забудуць зусім, пакуль яна вернецца зноў. Не таіла і страху, як бы там чаго паганага не здарылася з Лысаю: занядужала нешта якраз надоечы. Апейка і слухаў, і сам пытаўся, і думаў раскідана пра свае пакінутыя няскончаныя справы, але найбольш жыў адчуваннем утомы, прадчуваннем перадышкі, чаканнем як бы свята.

Адэскі, які па дарозе на Ленінград павінен быў падвезці іх да Жлобіна, прыйшоў а трэцяй гадзіне ночы. У цёплым, поўным сонных людзей вагоне ім не адразу ўдалося ўціснуцца на лаўку; усюды ляжалі, сядзелі, храплі барадатыя дзядзькі, гарадскія хлопцы, цёткі ў хустках, з клункамі, дзеці; немаладая, басавітая правадніца, вядома, знайшла б месца дваім удзельнікам сесіі ЦВК Беларусі, але Апейка нават не заікнуўся пра гэта. Знайшоў месца Анісі, уладзіўся сам. Яму доўга не спалася, потым вагон заківаў, загушкаў: Апейка пачуў сябе вельмі лёгка, бесклапотна. Абудзіўся ён адтаго, што забалела шыя: сядзець было няёмка, не было на што добра абаперціся; санлівым паглядам заўважыў у акне светлую, шырокую шэрань снегу. Адвярнуўся, змяніў паставу, абапёршыся аб чамаданчык, паспрабаваў заснуць зноў.

У Жлобін прыехалі поцемку. Агні гарэлі цьмяна і рэдка, але нязвыклы яшчэ снег весяліў усё. Бадзёрыла, весяліла снежная, з дамешкам вугальнай гáры, свежасць.

У зале было поўна народу. Ліхтары над людзьмі як бы віселі ў пары і дыме; свяцілі цьмяна. Не змаўкаў гоман. Чулася зразу цеплыня, цяжкі дух. Не так прос-

та было і адысці ад дзвярэй. Акенца касы абляпілі — і не думай прабіцца. Апейка і не стаў прабівацца пакуль: да цягніка на Мінск яшчэ некалькі гадзін, можна не спяшацца кампасціраваць. Заўважыў у кутку буфет, стаў з Анісяй кіравацъ да яго.

Распараная, важкая жанчына ў каптанчыку, што аж трашчаў на грудзях і на баках, таргавала півам, чаем, гарэлкаю. Найбольш — півам з бочкі, каля якой пад насосам мутнела пеністая з бурбалкамі лужына. Каптан у яе быў мокры, мокрыя былі чырвоныя рукі, якія яна час ад часу выцірала аб каптан. Анісся не адразу рашыла, што ёй узяць; з сур'ёзнай мінай, бы наважылася на штосьці важнае, нарэшце выказала: чаю і — піва шклянку. Коржыка не трэба; коржыкі ёсць свае. Сабе Апейка папрасіў кухаль піва; пакуль буфетчыца налівала, агледзеўся, дзе б прыладзіцца. Хоць бы куточак вольны на адзіным століку, залітым таксама, засмечаным аб'едкамі ад рыбы, картаплянымі лушпайкамі. Прытуліўся ля акна, што з гэтага боку, знутры, слязілася мутнымі пісягамі.

За акном быў аснежаны пляцок з голым крывым дрэвам, з ашмёткамі саломы на снезе, слядамі саней, лапцей, капытоў, конскай мачы. Патрохі развіднівалася. Смокчучы піва, закусваючы дамашнім хлебам і мясам, Апейка праз звон у недаспанай галаве слухаў, як гаманілі побач два хлопцы.

— Піво — паганае. Як цялячае пойло... З вадою, мабуць...

— Буў бы таран, дак і етае ўсмак ішло б...

— У Гомелі піво дабрэннае. Жыгулёўскае. А то шчэ — бархатнае...

— Мы самі сушылі рыбу. Як у Пхові работаў. Наловім, павесім на вяроўку на двары. От закуска!..

За сталом хлопцы, мужыкі здаровыя былі ўжо асалавелыя ад гарэлкі, ад піва; размахвалі рукамі, размазвалі рукавамі і локцямі макрэчу на стале; важка варушылі сківіцамі, жуючы. Раз-пораз выкідвалі мацюкі.

Асабліва гарланіў адзін, чорненькі, вяртлявы, нахабны, што насядаў на рослага, рудога: «І ты, ты папусціўся?!» Другія падпявалі яму.

— А што я мог?.. Што мне рабіць было?!.— апраўдваўся руды. Ён узяў гурок, стаў ніякава жаваць.

— Што?! — Чорненькі акінуў вачыма дружкоў. Усе рагаталі.— Што — пытаецца!..— Ён скрывіўся, плюнуў цераз плячо. Аб'явіў: — Г... ты!

Апейка павёў позіркам: ля стала блізка дзяўчына з кніжкаю, хмурыцца, паглядвае спадылба, са страхам і агідаю. Побач матка туліць малую, закрывае сабой ад лаянкі, ад крыку; відна толькі яе спіна ды хустка. Іншыя глядзяць хто недавольна, хто абыякава; ёсць і такія, якіх кампанія за сталом цікавіць: назіраюць і слухаюць...

Дзе міліцыянер: няўжо не бачыць, не чуе? Чаму іншыя маўчаць, трываюць? Сам не ўтрываў, прашыўся да чарнявага.

— Ці нельга б — пацішэй трохі. І — папрыстойней!

Чорненькі не зразу і даўмеў.

— Што?! — Ён утаропіў важкі позірк, з пагардай, гневам угледзеўся.— Прыс-стойней! — Ён цыркнуў цераз плячо: — Т-ты хто такі?!

— Можам бліжэй пазнаёміцца. Калі не прыціхнеш...

Цвёрды Апейкаў тон, цвёрды позірк не збянтэжылі яго, яшчэ раздражнілі. П'яны, чырвоны, прыўстаў, адсунуў нагой табурэтку. Гатоў быў рынуць ў бойку. Але дружкі ўхапілі за рукі, пацягнулі. Сілаю пасадзілі.

— І наогул, пара б — вызваліць стол. Заселі, паны!

Апейку падтрымаў гоман. Падышоў і не бачны дасюль міліцыянер, стаў праяўляць уладную цікаўнасць. Чорненькаму далі папяросу, ён закурыў. Нядобра зірнуў навокал.

Апейка адышоў. Блізка ад яго вызвалілі ад клункаў месца на канапе. Ён і ператрывожаная зямлячка селі. Чуў побач галасы ўхвалы яму: «Праўда, як паны!», «Расселіся, і не скажы ім!», «Так і трэба з імі!» Каб не ўдаваць з сябе нейкага героя — падумаеш, геройства! — паказаў, што не слухае, стомлена палажыў галаву на далоні, на чамадан на каленях. Нібы паказваў, што хоча спаць.

Ён такі хацеў спаць і ад гэтага хутка супакоіўся пасля сутычкі з малайцамі. Але сну не было. Ён чуў, як стукаюць раз-пораз дзверы, як плача блізка дзіця, як недзе далей рагочуць; чуў, як туга прагрукаў за вокнамі паравоз. Прыйшло на думку: от сядзіш дома, і

здаецца — усе сядзяць дома; едзеш па раёне — здаецца: увесь свет у раёне. А рушыш ў дарогу — нібы ўвесь народ у дарозе; колькі народу — малых, старых, мужчын, жанчын — у дарозе! Нібы і няма хат, аселасці.

Не, гэта не прывід. Усё ў руху. Ніколі не было такога руху. Нават у Жлобіне, у глушы гэтай, дзе на станцыі адно век драмалі тыя, каму выпала перасадка, нават тут, глядзі, што робіцца!..

Чуў, цікаўная Анiся дапытвалася:

— Усё так і кінулі?

— Чаго там было кідаць такога...

— Усе ж такі — хата свая. Карова, конь.

— Хату мы забілі. А карову паглядзіць покуль Тэкля, сястра. Кажуць, патом перавезці можно будзе. Па чугунцы... А каня — няма. Здох летась, пад весну...

— Ад чаго ж ето? — паспачувала, жахнулася Аніся.

— А хто яго знае. Хвароба якаясь. Здох. Ад чаго ні здох — лягчэй не будзе. Здох...

— І не страшно?

— Чаго?

— Ехаць — у белы свет. На пустое можа место. Дзе — ні хаты, ні двара. Да і не блізко можа?

— Далёко. Ігнатко, як яно завецца? От не запомню ніяк. Падобно на «кыш-кыш»...

— Кыштым,— памог з годнасцю хлапечы голас.

— От. Кыш-тым. Кажу, падобно «кыш-кыш». Далёко. За гарамі Урал.

— Далёко.

— Ну, от... А страшно, не страшно — што з таго? Не жыць жа адным тут, усе адно. Ён там, мы — тут. І так ужэ год цэлы, лічы, не бачыліся. Дзеці саскучыліся, і ён, піша, скучае.

— А страха там, хата е якая?

— Барак, кажа, е. Пажывём, а там — саб'ём сваю. Ён у мяне не ўломак які. Хадзяін. І каб піць — як каторы, дак не. І курыць, лічы, не курыць. Хадзяін. Завод строіць. Дак і хату сабе абстроіць мо!..

— Шкода було?

— Чаго?

— Ну, радныя места. Жыццё ўсё пражылі. Бацькаўшчына. Бацько, матка — жывыя можа?

— Матка жыве, а бацько памёр... Шкода, а толькі

што з таго? Радныя, не радныя, а толькі як там лепей будзе — так і тыя радныя будуць. Нашых сколькі ўжэ ў Сібер пераехало, і далей, за Сібер шчэ, кажуць. І жывуць. Прывыклі. Як усё адно і бацькаўшчына там.

— Увесь Савецкі Саюз — родзіна. Ето праўда,— сказала Аніся.

— Я ж і кажу. Рыба шукае дзе глыбей, а чалавек — дзе лепей.

Апейка расплюшчыў вочы, паглядзеў: жанчына — чырвоная ад духаты, сіваватая; без хусткі, але ў кажусе. Адной рукой туліла да сябе малое, другая рука была на галоўцы дзеўчаняці, што сядзела на клунку перад яе каленямі; дзеўчанё спала, палажыўшы русявую галоўку на матчыны калені. Яшчэ на клунку сядзеў хлопец — Ігнат, недаспанымі, але пільнымі вачыма глядзеў навокал — вартаваў бацькоўскае дабро.

— Вы хто такі сам будзеце? — пачуў раптам Апейка. Пыталіся яго — дзядзька справа: з плоскім тварам, барадаты, у цялячай шапцы.

— А чаму гэта цікавіць вас?

— Ды от: мо не наборшчык часам? — Дзядзька заўважыў наразуменне на Апейкавым твары.— Ну, не набіраеце людзей куды-небудзь?

— А? Не.

Умяшаўся, не адразу, другі, таксама барадаты, з вострымі вочкамі:

— А — задкуль, здалёку? — Ён сядзеў на фанернай скрынцы. Паварушыўся, сеў ямчэй, растлумачыў: — У заработкі едзем. Дак от і пытаемся...

— Дык вы ж, мабыць, выбралі ўжо дарогу?

— Дак так што і не. У том і дзело, што — не.— Ён зноў нібы растлумачыў: — Летам — у балоце, пад Воршаю,— работы, кажуць, не перарабіць, а цяпер — зімою — куды?..

Той, у цялячай шапцы, памог яму:

— Надумаліся, паедзем — папытаем. Без спросу, седзячы — усё адно не знайдзеш.

Мяркуючы па тым, як адразу прыліп да іх гаворкі трэці, у паддзёўцы з шыняля, іх было трое. Апейка зірнуў дапытліва, востра:

— А як жа — гаспадаркі? Пакідалі?

Цялячая шапка кіўнула няпэўна:

— Можно сказаць, што і пакідалі...

— Ад цвёрдага задання ці — ад калгаса? — узяў Апейка напрасткі.

— У мяне-то было,— спакойна прызнаўся той, што ў цялячай шапцы.— А ў іх — не. Яны — маламоцныя. Андрэй,— кіўнуў ён на маўклівага,— той дак у калгасе ўжэ быў. Дый цяпер у калгасе, можно сказаць.

— І яму цвёрдае — няправільно...— адазваўся маўклівы, што ў паддзёўцы.— За тое, што ў калгас адказаўся... «Пагляджу», сказаў...

— Чаго ж вы — з калгаса? — Апейка зірнуў на маўклівага. Той схаваў вочы, моўчкі, нядобра махнуў рукою.

— Там — калгас такі,— узяўся тлумачыць той, што быў на скрынцы.— Калгас. Коні дохнуць. Сеяць няма чым. Палавіну пагніло, палавіну — пагублялі, пакраў нехто. Робяць — дрэмлюць у полі. Паспіць у разоры — «палачку» пастаў. Базар якісь.

Апейка слова не ўправіўся сказаць у адказ: паткнуўся ледзь не ўсутыч барадаты, у цялячай шапцы; рашуча, горача дыхнуў:

— Ярашчук пытае: «Пойдзеш ці не?» — Ён перадыхнуў.— Другія — як хто, а я — не. «Не пайду!» — кажу. Ярашчук: «Чаму?!» — «Не ўвераны»,— кажу. Тады ён, Ярашчук: «Ты ш-што ж, не верыш савецкай уласці?!» Дак я сам не дурного бацькі дзіця. «Савецкай уласці, кажу, веру, а ў калгасе — не ўвераны!» Ён, Ярашчук, як пачуў, пазелянеў. Ад злосці, што не ўзяло яго. Што я ўпіраюся. І як бы шчэ смяюся з яго. Хаця які там смех. За жывое ўзяло. Крычаць хочацца. І ўпартасць, як у таго натурыстага каня. «Д-добра!» — кажа. Так кажа, што бачу — добра не будзе. І праўда — цвёрдае заданне мне! Уляпіў ды шчэ — грозіцца: «Не кінеш кулацкія штучкі — ізаліруем! Як апасны элемент!» — Барадаты плюнуў са злосцю, паскуб бараду дрыготкай рукою.— Я выканаў усё: падмёў пад мятлу. Дзяцей галодных пакінуў. Пазычыў, чаго не хапіла. А — выканаў.— Абодва яго таварышы ківалі: усё, як было, гаворыць. Той жа, у цялячай шапцы, глядзеў невідуча. Жыў успамінам.— Яно-то праўда, я — апасны,— прамовіў потым з роздумам.— Апасны, праўда. Людзі глядзяць на мяне. Як я, так і яны. А толькі як разабрацца,— ён быццам запярэчыў камусьці,—

дак апасны элемент папраўдзе не я, а — той калгас. Ён, такі калгас,— самы апасны элемент!

— А хто ж вінаваты — што калгас такі? — зачапіла Апейку. Ён нібы вінаваціў. Вінаваціў строга, не сумняваючыся.

— А — я?

— А хто ж? І — вы. І — ён,— кінуў Апейка на Андрэя, калгасніка.— І ўсе.

— Як хто, а я — ні пры чым,— адрэзаў цвёрдазаданец.— Я так думаю: бярэцеся навучыць людзей жыць па-новаму, дак вучыце. Вучыце! — Ужо ён вінаваціў Апейку.— Наладзьце спачатку, а патом — другіх завіце! А то — укінулі людзей, не далі рады адным, а хутчэй гоняць — другіх. Як на пажар! Трубяць на ўвесь свет — першыя сярод усіх! Скора даб'ёмся на сто працэнтаў! Героі на ўсю рэспубліку! Патрэты друкуюць у газетах, хваляць! Бярыце прыклад!..

Апейка запытаў, з якога яны раёна. Аказалася, з Клімавіцкага, слава пра які, і праўда, грымела па ўсёй рэспубліцы!

— І адкуль ён, толк той, будзе,— уступіў у гаворку той, што сядзеў на скрынцы.— Прыслалі таго Ярашчука калгас рабіць. А ён сам — не араў, не сеяў ніколі!

— І араць не будзе!

— Пэўне ж, не будзе. А камандуе! Яму абы хутчэй! Абы — укінуць ды — далажыць! Што заданне выканаў, арганізаваў усіх! Ды скарэй дадому ў горад, к жонцы цёплай сваёй!

— Дак хіба ж ён думаць будзе добра, што выйдзе з усяго заўтра!

— Ён-то не думае, а што ж — вы думаеце? — падчапіў строга Апейка.— Земля-ро-бы! Кінулі зямлю, поле, няхай — дзядзя арэ! Няхай дзядзя калгас падымае, народ корміць!

Яны не чакалі такога павароту. Апейка заўважыў, як адразу прыхавалі позіркі, аддзяліліся ад яго.

— Быў час, кармілі,— непрыхільна сказаў той, у цялячай шапцы.— І аралі, і сеялі, і кармілі.

— Ды не вельмі-то кармілі,— зноў пайшоў у наступ Апейка. Чуў — не ўгаворваць трэба, а наступаць, цвёрда.— Няма чым асабліва хваліцца. І раней — не густа, а цяпер, калі заводаў столькі будуецца, калі гарады растуць,— і саўсім на галодны паёк паставілі б!

Барадаты зіркнуў з-пад цялячай шапкі:

— Паглядзім, як вас калгасы накормяць!

Апейка нібы чакаў гэтага:

— От іменна: глядзець будзеце! Другія будуць араць, сеяць, біцца, паднімаючы гаспадарку ў сёлах, а вы — глядзець! — Ён сказаў таму, што ў цялячай шапцы.— Самі ўцякаеце, ды яшчэ за сабой людзей цягнеце!

— Нікого я не цягну! Я адшыў можа яшчэ пяцёх! Каб я хацеў, дак паўсяла мо пайшло б!

Яго таварышы ківалі: праўду кажа, самі пайшлі, і другія прасіліся.

— Не адны мы,— як бы павінаваціўся той, што сядзеў на скрынцы.— Думаеце, тут, на вакзале, мала такіх. Палавіну можа, а то і болей. Усе глядзяць, дзе б дзецца...

— Не ўсе. На віду заўсёды тое, што паверх плыве. Будзе каму і араць, і сеяць, хлеб рабіць. Карміць — у тым ліку і вас.

Апейка бачыў: не хацелі ўжо глядзець на яго. Былі як чужыя. Барадаты, у цялячай шапцы, не таіў злосці: яшчэ адзін указчык знайшоўся! Але Апейка не шкадаваў: была ўпэўненасць, што правільна так строга павёў гаворку. І іх няма чаго хваліць. Хоць ён і разумее і праўду, і боль іх, якіх дурната нейкага Ярашчука выгнала з родных двароў. Ярашчукова дурната ды і свой страх... Няхай ведаюць, што ёсць і іншая, большая праўда...

Але трэба і да іх справядлівым быць. Ёсць у іх свая праўда, ёсць. І няма чаго хаваць гэта. Ды і ці так папрокі трэба ім цяпер; парада — цвярозая, разумная — от што ім трэба найбольш!..

— Не пашанцавала вам,— сказаў ён мякчэй, як бы з одумам. Яны ўлавілі ў тоне яго гаворкі спачуванне, зірнулі на яго недаверліва, дапытліва.— Не пашанцавала. З Ярашчуком.

Усе трое прамаўчалі, але Апейка прыкмеціў: гэта — спадабалася. Зноў як бы бліжэй сталі. Толькі той, у цялячай шапцы, зіркаў недаверліва.

— Ярашчук, мабыць, ваша праўда,— дурань...— Апейка задумаўся, пачаў разважаць уголас.— Толькі ж тут і так можна падумаць: Ярашчук — то Ярашчук. Ярашчук — збоку прыклёпу... Ды і то, канешне, праў-

да: нядоўгі госць... Не сам уцячэ — дак выганяць. Раскусяць, што за птушка,— мятлой пагоняць! — Заўважыў у барадатага сумненне, запярэчыў цвёрда яму: — Пагоняць! Раней ці пазней — пагоняць!

— У том і дзело, што мо і пагоняць — ды позно!

— Позна не будзе! — Апейка гаварыў цвёрда, як бы ўсё ведаў загадзя, наперад. Ведаў: толькі так зможа пераканаць іх; калі — увогуле зможа пераканаць.— Але не ў тым соль... Ярашчук Ярашчуком, а калгас — калгасам...— Як сказаў нешта не абы-як важнае, зірнуў не абы-як, і з той жа цвёрдасцю: ведае цану тэму, што кажа. Не на вецер кідае: — Калгас — што б там ні накруціў Ярашчук — сам сабою справа надзейная! От што — галоўнае!.. Цёмная яшчэ для многіх, новая, але — надзейная. Разумная. І сваё возьме!..— Спакойна, упэўнена папярэдзіў: — Так што і тое глядзіце: як бы не пашкадавалі потым аб сабе...

Завязалася спрэчка пра калгасы, звыклая для Апейкі спрэчка, якую столькі разоў вёў ужо дома і якую давялося зноў весці тут, «на перасадцы». Апейка не мог бы сказаць з пэўнасцю, што пераканаў іх ва ўсім, але каб задумаліся нанава, гэта ён, бачыў, дабіўся... Як і раней, стаяў на дарозе, палохаў усіх траіх Ярашчук. «Тут жа, каб і хацеў вярнуцца, дак з Ярашчуком — як жыць!»

— Калі буду бачыць каго-небудзь з вашых кіраўнікоў, скажу пра яго...

— Забяруць аднаго, другога прышлюць! — не ўзрадаваўся барадаты.

— Не, няхай скажа. Можа што і людскае будзе,— запярэчыў той, што сядзеў на скрынцы.— Скажы. Ці напішы...

— Скажу.

Гаворка ўціхла. Трое маўчалі; Апейка адчуў, маўчалі таму, што ён ужо быў лішні ім. Хацелі аб нечым памеркаваць між сабою. А можа гэта толькі здалося, можа ім проста не хацелася ні гаварыць, ні думаць. Сказаў, што хоча спаць, што не спаў ноч. Узлёг на спінку лаўкі, стуліў галаву. Пачуў, як яны сталі адыходзіць.

Хацеў заснуць. А сну не было.

2

Падышоў хлопец, пакрыкваючы: худы, чарнявы, насаты, са скуранои сумкай на жываце; пачаў прадаваць газеты, кніжкі. Апейка ўзяў газету, амаль абыякава папрасіў паказаць кніжкі; стаў перабіраць і неспадзеўкі натрапіў на знаёмы партрэт на вокладцы. «Алесь Маёвы. Вясеннія ветразі».

Апейка, амаль не лічачы, даў грошы за кніжку, вярнуўся на лаўку. Тут, уважліва, дапытліва, угледзеўся ў партрэт: акуратна прычасаны, у вышыванай святочнай сарочцы, з вясёлым і задуменным позіркам. З той жа дапытлівасцю і трывожнасцю разгарнуў кніжачку: першы верш быў знаёмы, чытаў ужо ў газеце; але Апейка адчуў яго нібы нанава: усё бачылася цяпер зусім інакш, як тыя тры ці чатыры месяцы, калі верш друкавалі ў газеце. Амаль дзіцячая, бязмежная радасць вясне, красаванню, якой быў поўны верш, адгукалася ў Апейку скрухаю, неспакоем. З незвычайна вострым адчуваннем гартаў ён лісток за лістком, убіраў верш за вершам і чуў, як скруха і неспакой не толькі не адступаюць, а ўсё важчэй кладуцца на душу. Перагарнуў апошнюю старонку з такім настроем, нібы чытаў пра няскладны лёс даверлівага, шчырага хлопчыка, якога невядома за што крыўдзілі...

Вакзал ні на хвіліну не ападаў гоманам. Усё завіхалася буфетчыца, цурчала піва, стаялі з кухлямі ля акна другія; Ігнат пра нешта гаманіў з двума прыяцелямі. Адзін з трох дзядзькоў, што сядзелі наводдаль, штосьці сказаў двум другім, стаў прабірацца, здаецца, да касы. Да жанчыны з клункамі, Ігнатавай маткі, падышоў малады мужчына ў ватоўцы, сказаў, што будзе вагон. «Багато вас тут?» — запыталася Анісся. Ігнатава матка сказала: «З нашаго сяла шэсць сем'яў. А ўсяго з раёна — паўсотня, не меней...»

Было што назіраць і слухаць. Апейка ўсё бачыў і чуў, але душу цiснулі тая скруха, трывожнасць, што асталіся ад кніжкі. Прыйшло на думку: кніжка выйшла, мабыць, да той гісторыі, да артыкула ў газеце; яе носяць, прапануюць таму, што ці прапусцілі артыкульчык, ці проста не звязалі, што напісаў яе той самы «нацдэмаўскі падбрэхіч». Думкі зноў доўга кружыліся вакол Алеся, турбавалі загадкамі, клопатам. Не-

прыкметна ва ўзрушаную галаву ўлез успамін пра гаворку з дзядзькамі; перабраўшы нанава тое, што яны казалі, падумаў: колькі зла добрай справе можа зрабіць адзін бязлітасны дурань! Зразу ж — нібы толькі і чакала гэтага — ускочыла, учапілася думка: а хіба няма такіх у тваім раёне! Такіх, якія сваім бесталковым наскокам бураць веру ў добрае, толькі калечаць справу!..

Адагнаў прыкрае, павёў думку да сесіі, на якую ехаў: што там будзе? Важная гаворка павінна быць. Вялікія справы пачаліся. Вялікія перамены ідуць. Жыццё ўсё набірае ходу, рэзка ідзе ўгару... Думкі перанеслі ў Маскву: там толькі што ішоў пленум ЦК партыі, які рашаў надзвычай важныя пытанні, сярод іх — пытанні калектывізацыі. Шкада — няма яшчэ тут сённяшніх газет: вось-вось павінны паявіцца ў друку рашэнні. Факт — тое, што рашыў пленум, будзе мець асаблівае значэнне для сесіі... У памяці прыйшло нядаўняе: артыкул Сталіна «Год вялікага пералому», што быў надрукаваны ў «Правде» 7 лістапада, да кастрычніцкай гадавіны. Апейка чытаў яго дома, тады ж, як прыйшла газета. Ён зноў, як і тыдзень назад, калі толькі чытаў газету, стаў думаць пра артыкул, які ўсё выклікаў нялёгкі роздум. Сталін аб'явіў, што калгасны рух дабіўся небывалых поспехаў, што ў глыбіні сялянства адбыўся карэнны пералом. У калгасным руху, пісаў Сталін, з'явілася новае: сяляне ідуць у калгасы ўжо не асобнымі групамі, а цэлымі валасцямі, нават акругамі. Калі і ёсць нездавальненне ў сялян, то — выходзіла з артыкула — адно тым, што іх не ўпраўляюцца забяспечваць машынамі і трактарамі. І тады, калі чытаў, і цяпер, калі ўспамінаў, Апейка асабліва думаў пра тыя развагі Леніна, якія былі вытрымкамі ў артыкуле і якія павінны былі як бы падмацоўваць некаторыя вывады артыкула. Развагі Леніна вылучаліся глыбінёй, нават кароткімі вытрымкамі яны памагалі Апейку развязваць тыя цяжкія вузлы, якія завязала жыццё. Яны, думкі Леніна, ва ўсім адпавядалі таму, што Апейка бачыў у жыцці; было відаць, як глыбока разумеў Ленін душу селяніна і цяжкасці, што стануць на шляху калгасаў. Ленін як бы папярэджваў ад паспешлівасці і лёгкасці. Той лёгкасці, якая, здавалася, чулася часам і ў артыкуле і бянтэжыла

Апейку... Зноў думкі Апейкі кружыліся вакол ідэі — ствараць калгасы-гіганты. Сталін едка высмейваў «навуку», якая сумнявалася, што можна і варта ствараць зернавыя гіганты ў 40—50 тысяч гектараў. Ён непахісна спасылаўся на нейкую практыку. Апейку гэта ідэя захапляла размахам, але і тут, у каторы раз ужо, стрымліваў одум: як зрабіць гэта? Ці рэальна цяпер такое?.. Проста не мог уявіць, як гэта будзе, напрыклад, у яго раёне?

Непрыкметна ў думкі зноў унізалася свая трывога: чыстка, Галенчык — чым усё скончыцца? Што скажуць «вышэйстаячыя інстанцыі»? Бо ён жа, Галенчык, калі прыгразіўся, што будзе дабівацца свайго, сапраўды — будзе... Гэты слоў на вецер не кідае... Апейка супакоіў сябе: скончыцца добра, канешне. Разбяруцца, скажуць дурню, што трэба. Але ж ты от — развражай, злуйся попусту. З-за дурня, які адзін «адданы», адзін — «пільны»... Зазлаваў ужо на сябе: а не канешне і думаць пра яго! Кланяцца кожнаму дурню! Няхай звягае! А ты рабі сваё! Ёсць суддзя найвышэйшы — сумленне сваё!..

Думаў там, у Юравічах: ад'едзе — забудзе прыкрасці свае, рассеецца, аж от табе — «рассеяўся»! Праўда гэта: ад думак не ўцячэш! З думкамі стаяў у чарзе да акенца касы, каб закампасціраваць білет; з думкамі сядзеў зноў на лаўцы, да той пары, калі аб'явілі, што ідзе поезд, і пачалася мітусяніна, поўная бегу, галасоў, нецярплівасці. Гарката ад думак чулася яшчэ, калі на пероне, у людскім гомане глядзеў, слухаў, як сунецца, аддуваючыся белымі пыхкамі пары, чорны, важкі, нібы спатнелы, паравоз; як ідзе, адціскаючы людзей, крычыць: «Пастарані-ісь!» — чыгуначнік; як бразгаюць буферы, пакалыхваючыся, рушаць міма вагоны, вокны, дзверы з праваднікамі і праваднiцамі.

Яны знайшлі ў цёплым, абжытым другімі вагоне два вольныя месцы, са столікам і каля акна; уладзіўшы чамадан, Апейка ў акно бачыў, як яшчэ доўга не ападала мітусяніна на пероне; бачыў, як рушылі назад вокны вакзала, кран у пабеленай сцяне з надпісам «кипеток», доўгія будыніны складаў. Пайшла разнастайнасць хат, хлявоў, агародаў, закружылася, пагойдваючыся, поле. Было штосьці харошае, супакойлівае ў мерным грукаце колаў, у самім бегу цягніка — па

нязвыклым яшчэ, заснежаным полі, з далёкімі і блізкімі лясамі і лясочкамі, з чарнатою блізкіх і далёкіх хат.

Калі Апейка адарваў позірк ад акна, вагон ужо зноў жыў звычайным, спакойным жыццём. За столікам па другі бок некалькі чалавек стукалі ў даміно; хтосьці за перагародкаю вучыўся іграць на гармоніку, недзе плакала дзіця. Побач зусім ён убачыў тую дзяўчыну, што чытала на вакзале; цяпер з ёю загаворваў стрыжаны чарнявы чырвонаармеец. Некалькі чырвонаармейцаў спакойна сядзелі ў суседнім купэ, усе ў шынялях і будзёнаўках, з вінтоўкамі, штыкі якіх былі насаджаны ўніз. Яшчэ двое такіх жа чырвонаармейцаў было відно далей. «Каманда. Ездзілі ці едуць на нейкае заданне...» Блізка быў селянін, малады, з барадою, нечым падобны да аднаго з тых, якія гаварылі з ім на вакзале; Апейка ўспомніў: «Думаеце, мала такіх тут на вакзале...» Падумаў, што і праўда, мусіць, нямала: кідаюць ад страху хаты, поле; а ці мала сярод іх патрэбных, неабходных нават, вёскам, асабліва цяпер... «Трэба б неяк спыніць, затрымаць у сёлах усё каштоўнае. Не даць, каб сяло траціла попусту людзей. Індустрыя, канешне, возьме сваё, багата возьмуць будоўлі. Але трэба зберагчы і для поля... Трэба змагацца з іх страхам. Цярпліва тлумачыць. Прывіваць веру... Адзін выхад...»

Яго паклікалі гуляць у даміно. Апейка сядзеў у шумлівай купцы дзядзькоў і хлопцаў, пакуль праз вагон не пайшоў стары, прастуджаны праваднік: «Бабруйск! Каму Бабруйск! Выходзьце!..» Адзін з прыяцеляў, ці не самы гарачы і галасісты, выглянуў, нібы не верачы, пашкадаваў: «Прыехалі!..» Ён усё ж дагуляў партыю, ужо на стаянцы; давольны выйгрышам, скінуў чорныя костачкі ў мяшочак і ўрэзаўся ў чараду людзей, што ішлі ў вагон.

Апейка вярнуўся на сваё месца. Жыхары вагона проста на вачах мяняліся: новая змена з порсткім тупатам, штурхаючыся, хапаючыся, сапучы, разыходзілася па калідоры, па ячэйках, з чамаданамі, з клункамі, з мяшкамі. Чырвонаармейскай каманды ўжо не было; сядзеў толькі распрануты чарнявы — мабыць, адпускнік. Смеючыся, зазірнуў у кніжку, якую дзяўчына нібыта спрабавала чытаць. Апейка зноў глядзеў

на мітусню на пероне, разглядваў новых пасажыраў, глядзеў, як цягнік прабіваецца праз блытаніну вуліц, вулічак, бляшаных ды гонтавых дахаў. Вочы мімаволі лавілі праявы чужога жыцця: сані з дрывамі, пры іх — дзве постаці: цётка-гараджанка і вясковы дзядзька з пугаю; чародка дзяцей каля горкі — на санячках, з канькамі; забітая дошкай крама з крыва павіслай, адарванай з аднаго краю шыльдай.

Кружыліся за шыбкамі поле, ляскі, беглі вёскі. Вагон пругка пакалыхвала; спорны, імклівы стукат колаў унізе ўсё больш аддаляў роднае мястэчка. Новыя краявіды, новыя шыр, дарогі, снягі падбягалі, знікалі, змяняліся; у гэтым імклівым лёце ўвесь час не адступалі, кружыліся думкі. Ахвотна думаў пра добрае, цікавае — сесію, пленум, сустрэчы са знаёмымі, адганяў трывожнае, назольнае, што прымушала ныць сэрца. Адганяў, а потым лавіў сябе на тым, што зноў думае пра тое, што вярэдзіць душу. Пра Алеся, пра Галенчыка, пра Башлыкова, пра брата, пра будучыню сваю, у якой паявілася нядобрая невядомасць. Пра тое, як жыць і быць.

Брат. Саўчык. «Звязаны з класава чуждымі элементамі...» Чаму такое вялікае значэнне мае, хто твой брат? Чаму яно становіцца часам не меншым, а нават нібы большым, як тое — хто *ты сам*. Людзі ж не выбіраюць братоў сабе: гэта ён тады ўдала сказаў Башлыкову; не выбіраюць братоў, дзядзькоў, цётак, пляменнікаў; чаму загадзя, навек запісана, што адносіны з імі могуць быць толькі прыязныя; што яны — абавязкова! — неяк уплываюць на цябе. Яны на цябе, а не ты — на іх! Чаму ты абавязан адказваць не толькі за сябе, а і за іх — якіх у вёсках можа быць дзесяткамі. Канешне, тут у яго не хто-небудзь, а — брат. Родны брат. Гэта праўда. Але ж гэта, калі задумацца, яшчэ лепш гаворыць пра тое, як неразумна дабівацца дыстыляванай чысціні ў біяграфіі па часці сваякоў... Чаму такі клопат пра ідэальную біяграфію; часта куды большы, чым клопат пра ідэальнасць дзейнасці чалавека! Вазьмі таго ж Башлыкова: ідэальная біяграфія яго як бы ўжо загадзя спісвае яму якія-небудзь грахі ў рабоце. Як бы ўжо чалавек з такой біяграфіяй сам па сабе ідэальны ва ўсім, ва ўсіх учынках... Хоць у жыцці часта бывае зусім наадварот... Чаму багата хто

лічыць, што жыццё можа каціцца гладзенька, роўненька, як паравоз па рэйках! Чаму некаторым бачыцца ўсё такім просценькім, нямудрым, калі і дурню відно, якое яно няпростае, старое жыццё; асабліва ў крутыя, як цяпер, паваротныя часы! Чаму іншыя нават падазрона глядзяць на старанне разабрацца разумна, справядліва, не біць з пляча; чаму часта найбольш цэніцца прасталінейнасць, якую невядома чаму завуць прынцыповасцю, хоць гэта найчасцей чэрствасць і неразумнасць. Ды яшчэ выдаюць іх за знак асаблівай «рэвалюцыйнасці», «адданасці»!..

За акном праляталі неспакойныя, ірваныя кудлы дыму з паравоза. Так жа рвана ішлі і думкі ў Апейкі — у развагі ўваходзіла цікаўнае, загадкавае: чаму гэта раптам выклікалі ў Мінск Белага, які ехаў тут днём раней? Потым зноў ішлі развагі пра Башлыкова: што — можа — прасталінейнасць яго — ад маладосці, ад няведання жыцця; што пажыве — пераменіцца, не інакш. Жыццё таксама навучыць... З радасцю думаў пра Белага: от ён — чалавек ленінскай вывучкі!..

Усё больш адчуваў набліжэнне Мінска. І ўжо як пра блізкае, абавязковае думаў пра тое, што зробіць тут за гэтыя дні. Самым першым нязменна было: сустрэцца з Алесем!..

3

У Мінск прыехалі ўвечары. Горад спаткаў россыпам агнёў на пуцях, у вулічных ліхтарах, у вокнах. Каля дзвярэй з вакзала ў горад сухарлявы чалавек у капелюшы пытаў, ці ёсць удзельнікі сесіі ЦВК. Праз некалькі хвілін Апейка, Анісся, яшчэ двое незнаёмых дзядзькоў кацілі ўжо, святочна ўзрушаныя, аўтамабілем па святочна-прыгожых вуліцах сталіцы. Зіхцелі, беглі агні, зіхцеў, вясёлкава іскрыўся ў святле агнёў снег; мільгалі постаці, вокны, пад'езды, урачыстая чырвань транспарантаў, пачэпленых цераз вуліцу; калі прыпыніліся, прагрукатала вялізнае, са светлымі вокнамі дзіва.

— Трамвай! — сказаў з захапленнем Апейка. Чулая радасць поўніла сэрца.

Апейка пазнаваў: ехалі па галоўных вуліцах —

11 ліпеня, Савецкай, Ленінскай. Выйшлі на пляцы Волі каля гасцініцы «Еўропа». Анісся была не толькі ўсхваляваная, а і трохі разгубленая; хаваючы разгубленасць, увесь час паглядвала на Апейку, як бы чакаючы яго парады. Шафёр узяўся памагчы паднесці ёй чамаданчык; яна ўсё вінавацілася, што от і сама магла б паднесці, проста не ведала, куды дзець рукі. У гасцініцы іх спаткалі яшчэ больш ветліва, запісалі ў момант, далі пакоі; далікатны, рухавы хлопец папрасіў адно не затрымлівацца, спусціцца сюды ж, каб ісці ў рэстаран абедаць.

Апейка злавіў Анісін позірк і сказаў, што зойдзе па яе, што прыйдуць сюды разам. Ветлівасць, чысціня, цішыня Апейку заспакойвалі, яшчэ ўзмацнялі настрой святочнасці, радаснай лёгкасці. Пакой быў добры, такі ж чысты, прывабны, як і ўсё тут: паўз сцены тры ложкі, нікеляваныя, з шарыкамі, пасярэдзіне — квадратны, засланы белым накрухмаленым абрусам стол. Усе ложкі былі вольныя, Апейка ўзяў сабе бліжні. На стале акуратна ляжала некалькі газет — паклапаціліся і пра гэта: ён узяў адну, «Правду», вочы адразу выхапілі: Пленум ЦК ВКП(б). «Аб выніках і далейшых задачах калгаснага будаўніцтва». Рэзалюцыя. Апейка нецярпліва прабег вачыма, пашкадаваў, што трэба ісці. Рашыў, што прачытае адразу, як вернецца... Пасля дарогі, недаспанай ночы асалодаю было плюхацца над белым умывальнікам, надзяваць чыстую сарочку, завязваць не вельмі звыклы гальштук. Калі глядзеў у люстра, раптам зноў, без прычыны, без думак, упаўзла трывога, неяк асабліва чутная, недарэчная сярод святочнай бесклапотнасці. Ён не паддаўся трывозе, адагнаў назольныя, гатовыя апанаваць думкі; але святочнай бесклапотнасці ўжо не было; чуў сябе зноў на неспакойнай зямлі. З неспакойнасцю глядзеў і за акно — за прыпарушанай трохі шыбкай былі званіцы пляца Волі, будынак ЦВК, голы сквярык, ішоў ціхі сняжок; на ўспамін, асабліва блізкі цяпер, прыйшоў Алесеў воблік, клопат пра яго...

Калі пастукаў у пакой да Анісі, тая яшчэ збіралася. Яна выглянула цікаўна ў дзверы; заплятаючы касу, радасна сказала, што зараз збярэцца — «заходзьце», але Апейка не пайшоў: пачакае тут, у калідоры. Чакаць давялося нядоўга: праз хвіліну, заплеценая

ўжо, з русявай касой, яна выскачыла зноў і ўвяла Апейку ў пакой. Была ў той жа шэранькай шаўётавай жакетачцы, у картовай спадніцы, у ботах, вялікіх і важкіх; але кругленькі твар быў такі вясёлы, цікаўныя вочкі блішчалі так молада, што Апейка сам павесялеў. Яго зразу ўцягнулі ў спрэчку: Аніся і суседка спрачаліся, надзяваць ці не надзяваць хустку; суседка гаварыла, што ў горадзе, у сталоўцы ці ў тэатрах, сядзяць без хустак, а Аніся пярэчыла — без хусткі нядобра: «Якась стыдно... Як усе адно неадзеты перад чужымі...» Вочкі яе, як ні хавала, бліскалі шчасцем, калі, завязаўшы хустку, раз, потым другі няёмка, знарок строга паглядвала ў люстра. То была нібы не проста кашаміравая зялёная хустка, а асаблівая краса, у якой твар цвіў як адна з тых агністых кветак, што так хораша гарэлі на лісцяным зелянiве хусткі. То была самая вялікая Анісіна краса. Ці дзіва, што Іван Анісімавіч цвёрда, без знаку якога-небудзь сумнення падтрымаў Анісю.

— Ну от, звілі кубелца з Арынаю Цітаўнай! — гаварыла ў калідоры Аніся, ласкава, як бы прасіла прабачэння ў суседкі за тое, што не паслухалася.— Як дзве птушкі ў гняздзечцы! Зляцеліся з розных старон свету! А от — у адным кубелцы!..— Давольная, зіркнула на Апейку.— Так што вы не думайце болей нічога за мяне! Цяпер — не прападу!..

Абыходлівы, белатвары хлопец з ЦВК толькі намерыўся правесці іх у рэстаран, калі з-за шкляных дзвярэй паказаўся нізкі, таўставаты дзядзька ў паліто з каракулевым каўняром і ў стаўбуновай каракулевай шапцы. Зачыніўшы дзверы, ён неяк смешна, няўклюдна пашаргаў чаравікамі ў галёшах, аціраючы рэшткі снегу, азірнуўся; убачыўшы Апейку і жанчын, падаўся проста да іх. Апейка пазнаў: Чарвякоў, старшыня ЦВК Беларусі.

Ён проста, неяк па-вясковаму, падаў усім руку, схададалую на ветры, мяккую і сціплую.

— Ну, як уладзіліся? — запытаўся найбольш у жанчын.— У якім пакоі? А, непаганы. Ціхі і цёплы...— Чарвякоў пацікавіўся Апейкавым нумарам, даведаўся, ці паабедалі.— Што ж ты, братка, морыш людзей голадам? — папракнуў хлопца так лагодна, весела, што ўсе засмяяліся.



Іван Мележ з артыстамі тэатра імя Я. Купалы.



Пятрусь Броўка, Іван Мележ,
Нічыпар Пашкевіч і Максім Танк
на сустрэчы ў клубе СП БССР
са слухачамі Рэспубліканскіх курсаў
ідэалагічных работнікаў.
*19 лістапада 1963 г.*

— Аляксандр Рыгоравіч, прыехалі яшчэ...— хацеў быў далажыць хлопец, але Чарвякоў перапыніў:

— Пагаворым, братка, потым пра гэта. Людзі, братка, з дарогі. Галодныя...

Дзіўна добра было пасля яго говоркі: нічога нібы не сказаў асаблівага, а ў душы асталося светлае, лагоднае. Мабыць, ішло ад незвычайнай прастаты ў абыходжанні, натуральнасці і добрай зычлівасці ва ўсім, што ён казаў. У тым, як ён трымаўся, як гаварыў, не было і знаку той знарокавай, разлічанай «дэмакратычнасці», калі кіраўнік нібы падладжваецца, падрабляецца пад працяка; і робіць і гаворыць усё толькі таму, што так трэба. У тым, як трымаўся Чарвякоў, чулася, што ён трымаецца так таму, што інакш і не можа, што ён звык да гэтага, што яму няма ніякага клопату пра тое, як яму выглядаць між людзей. Усе неяк зразу пачулі: просты, вельмі добры чалавек; Апейка ж падумаў, што ў тым, як Чарвякоў трымаецца, як вольна і шчыра, ёсць троху і ад звыклага ўжо адчування, што яго ведаюць і любяць і будуць любіць...

Ужо калі вячэралі ў рэстаране, Чарвякоў, без паліто і без каракулевага стаўбуна, паявіўся зноў. Таўставаты, прыгорблены, з пацёртым партфелем на жываце, агледзеўся, важка, няўклюдна патупаў каля стала, дзе сядзеў Апейка з жанчынамі. Крэслы былі ўсе заняты, ён, прыціснуўшы локцем партфель, узяў адно ад суседняга стала, сеў з імі. Яшчэ да таго, як ён уладзіў на каленях партфель, падышла спяшаючыся афіцыянтка, борзда пачала ставіць талерку, фужэр, лажыць відэлец, лыжку. Ён лагодна спыніў яе:

— Нічога не трэба... Хаця — піва пляшачку прынясіце. А больш не трэба. Я паабедаў нядаўна, зусім насыціўся...— Спытаючы смачна піва тоўстымі, усмешлівымі губамі: відаць, і выпіць, і пад'есці любіў усмак,— ён неяк смачна, з асалодай казаў: — Сягоння з дарогі паспіце добра. А заўтра, браткі, пагуляйце дзень. Паглядзіце горад. Багата новага зрабілі. Красівы горад наш становіцца! Кра-а-сівы! Сталіца сапраўдная!.. Трамвай — бачылі? — пайшоў... Універсітэцкі гарадок, браткі, паглядзіце! Цэлы гарадок, горад — праўда! Будуем! Добры гарадок будзе студэнтам!.. Клініку будуем — паглядзіце!.. Будуемся!.. Паглядзіце, браткі!.. Адпачніце заўтра дзянёк. Добра пагуляйце.

А паслязаўтра — рабіць будзем. Рабіць, ага. Сесія будзе важная! Ва-а-жная!..

Папіўшы піва, надаваўшы парад, ён падазваў афіцыянтку, разлічыўся. Развітваючыся, прызнаўся раптам па-таварыску:

— Сам я таксама толькі што ў Мінску паявіўся. Учора толькі з Масквы, з пленума. Вялікія справы рашылі там!.. Вялікія!..

Яшчэ з паўгадзіны сядзеў за столікам наводдаль.

Апейка ў гэты вечар не пайшоў нікуды: карцела — у пакоі чакала газета. Калі ён вярнуўся, у пакоі, як і раней, нікога не было. Ён уладзіўся за сталом, разгарнуў шырокі ліст, адразу прынік да роўных, важных радкоў. Рэзалюцыя перш нагадвала пра рашэнне XV з'езда партыі аб калектывізацыі дробных гаспадарак, падводзіла вынікі таму, што ўжо зроблена. Апейка адзначыў мімаволі — «услед за бедняком у калгасы рушыла і с е р а д н я ц к а я  м а с а», «пераход да суцэльнай калектывізацыі раёнаў і акруг». Уступ быў сціслы і стрыманы, адразу за гэтым, як бы адказваючы на тое, што непакоіла яго, рэзалюцыя загаварыла аб тым, што бурны рост калгасаў выклікае разам багата складанага і цяжкага. Тут Апейкава ўвага брала ўсё асабліва востра: у строгіх словах адразу адчуў тую жывую бяду, якая назаляла, пякла ўвесь час. Як знаёмае, асабістае вярэдзіла душу тое, што чытаў далей: нізкі ўзровень тэхнічнай базы, дрэнная арганізацыя і нізкая прадукцыйнасць працы, востры недахоп калгасных кадраў, «амаль поўная адсутнасць неабходных спецыялістаў». Апейку была даспадобы праўдзівасць, з якой рэзалюцыя гаварыла пра цяжкасці: за гэтай адкрытасцю ён бачыў, што там, на пленуме, добра разумелі складанасць становішча і былі настроены дзелавіта, сур'ёзна. Нібы пацвярджаючы яго спадзяванне, рэзалюцыя тут жа, дакладна, фактамі, пункт за пунктам, стала паведамляць, што будзе рабіць партыя для таго, каб адолець цяжкасці, хутка пайсці далей. Гэтая частка, можа, найбольш захвалявала Апейку: чым далей, больш — і вельмі канкрэтна — бачылася, як багата будзе зроблена, якое вялікае, небывалае наступленне развінаецца. Апейку радавала і па-баявому настройвала добрая прадуманасць далейшага. З ухвалай адзначыў: пачынаецца будаўніцтва двух вялікіх трактарных

заводаў, заводаў камбайнаў і іншых машын. Запомніў, як важную вестку, што ў вёскі, на дапамогу, павінна прыйсці моцнае папаўненне: 25 тысяч перадавых рабочых. Пільна ўбіраў у сябе, нібы слухаў аднадумцаў, калі чытаў пра набалелае: што трэба зрабіць, каб падняць дысцыпліну ў калгасах; вылучыў — асабістую адказнасць кожнага за зробленае і матэрыяльную зацікаўленасць. Не вытрымаў, падкрэсліў: «Пленум ЦК перасцерагае супраць недаацэнкі цяжкасцей калгаснага будаўніцтва і асабліва супраць фармальна-бюракратычнага падыходу да яго і яго вынікаў...»

Калі дачытаў, сядзеў нейкі час задуменны: не адпускала прачытанае. Акрамя адчування агромністасці таго, што так жыва ўбачылася, турбавала важнасць моманту. Падумаў: не памыліўся, чакаючы, што будзе — важнае рашэнне. Як распарадак на наступленне... Чуццё не ашукала яго: рашэнням гэтага — Лістападаўскага пленума суджана была асаблівая, надзвычайная роля ў тых нялёгкіх, крутых і шырокіх падзеях, што пачыналіся.

Праз думанне пра пленум прашылася будзённае: ці прачытаў ужо гэтае Башлыкоў, і калі прачытаў, то што выведзе з усяго? Тады адчуў стому, успомніў недаспаную ноч, устаў, згарнуў газету, паклаў у чамадан: трэба захаваць. Яшчэ поўны думак, стаяў каля акна, пазіраў на аснежаны пляц Волі, як бы пераконваючыся ў тым, што ён, праўда, у Мінску. Распрануўся, лёг — пачуў, што ўсяго яшчэ калыша з нядаўняй дарогі. Па звычцы стаў думаць пра заўтрашні дзень: што заўтра трэба зрабіць. Сярод клопатнай разнастайнасці думак вылучылася зноў, стала першай у чаргу тая, што ішла ад неспакою пра Алеся. «Зранку ж трэба зайсці ва універсітэт. Пабачыцца, высветліць усё... Зайсці абавязкова ў ячэйку, пагаварыць...» Потым у думкі ўвайшоў успамін пра сустрэчу з Чарвяковым: з ухвалай і павагай думаў пра шчырую ўважлівасць, чалавечнасць яго, якія выяўляліся і ў вялікіх справах, што былі вядомы раней, і ў такім нібы дробным, як сёння, у дробнай гутарцы. Для Апейкі заўсёды ўзорам была сціпласць, чалавечнасць Калініна, і ён падумаў цяпер: у Чарвякова ёсць гэтае ж, калінінскае. Недарэмна, як і Калініна, яго так любяць у народзе. Успомнілася, як адзін стары бальшавік казаў: у Лондане,

у дні з'езда партыі, Ленін, зайшоўшы ў атэль, у нумар, дзе жыў дэлегат, праверыў, ці не вільготныя прасціны. Раптам згадаў, параўнаў: «Ленін прыходзіў. А Башлыкоў?.. Зайшоў бы, пацікавіўся?..» Адказаў самому сабе, добра ведаючы: «Не зайшоў бы. Палічыў бы, што — сакратару райкома... драбнавата!..» Падумаў: у некаторых маладых кіраўнікоў, асабліва ў тых, у каго не лішне культуры,— як нейкая хвароба — боязь прынізіць сябе. Боязь прастаты, сардэчнасці, таварыскасці; іншы раз — проста такі недавер'е да звычайнай ветлівасці. Стрыманасць, халаднаватасць — як нейкі абавязковы закон паводзін. Адносін да ўсіх. Ад чаго гэта? Ад апаскі, што прастата, ветлівасць шкодзіць сур'ёзнасці, пільнасці?..

У думкі раз-пораз урываліся згадкі пра бачанае, чутае ўдзень: твары, гаворкі, вагонны лёт, бег снежных палёў за акном. Чуючы снежную свежасць пасцелі, неадступнае пакалыхванне, ён нейкі час ляжаў бяздумны, бесклапотны; было добра, лёгка. З лёгкім сэрцам ён і заснуў.

Прачнуўся ён яшчэ поцемку з той жа лёгкасцю на душы. Ад святла знадворку ў пакоі было шаравата; пабачыў — на абодвух ложках таксама ляжалі, на крэслах вісела вопратка. Апейка ціха адзеўся, абуўся, стараючыся не плёскаць вадою, памыўся пад кранам; асцярожна ступаючы, выйшаў у калідор. Рэстаран быў зачынены; ён знайшоў буфет, вузенькую баковачку, у якой нечакана было поўна заклапочаных людзей. Папіў чаю, зноў вярнуўся ў пакой, у якім, як і раней, заўзята храплі двое невядомых, апрануў паліто. Праз шкляныя дзверы выйшаў у сіняваты мінскі досвітак. Марозу амаль не было, у подыху ветру чулася трохі вільготнасць; у сіняватым, рэдкім поцемку ліхтары гарэлі цьмяна, няпэўна. Дзе-нідзе яны ўжо тухлі. У паветры чулася яшчэ начная ціхасць, што прыглушвала галасы і гукі; толькі галкі на голых дрэвах сквера дзёрлі горла, нібы стараючыся перакрычаць адна адну.

Адразу за вуглом атэля пачыналася Ленінская, адна з самых жывых вуліц Мінска; Апейка пругка і весела закрочыў на яе. На вуліцы было ўжо багата людзей і руху, Апейка ўвайшоў у гэты рух, як у паўзабы-

ты, даўно не бачаны свет. Цікаўны, востры позірк яго кожны момант лавіў новыя праявы гэтага паўзабытага жыцця: аблічча, тое, што людзі неслі, абрыўкі гаворкі; дзверы, вітрыны, магазіны, што ішлі побач. Некаторыя магазіны былі ўжо адчынены; туды заходзілі і адтуль выходзілі, адтуль патыхала цяплом і хлебам ці зямлёю — надзейным знакам бульбы. Праз вокны Апейка бачыў людскі тлум, чэргі ля прылаўкаў. Паўз адзін магазін чарга доўга цягнулася і па тратуары: стаялі па хлеб. На многіх дзвярах былі яшчэ замкі, завалы, многія вітрыны яшчэ драмалі ў цемры. Цёмна было ў кніжных магазінах, на раскладзеныя ў вітрынах кніжкі разам свяцілі цьмяныя ўжо ліхтары і ранішняя сінь; Апейка перад адной вітрынай стаў, пашукаў з надзеяй кніжачку са знаёмым партрэтам. Не знайшоў.

За доўгім дашчатым плотам будавалі дом; людзі рабілі ўжо: з ночы яшчэ там і тут над сценамі блішчалі лямпачкі, пачэпленыя на жэрдкі і на драты між жэрдак. Магло быць, што людзі рабілі тут і ўсю ноч,— будавалі і ўдзень, і ўночы. Дом быў падняты ўжо за трэці паверх, было відаць, што будыніна расце вялізная, са смелым размахам, вартая сталіцы і часу. Нават праймы вокнаў уражвалі нязвыклай шырынёй, як яшчэ адзін знак нязнанай раней смеласці.

Неўзабаве Апейка пачуў далекаваты, але дужы гул; зацята, аж выбіваючыся на віск, лезла ўгару недзе ад Свіслачы машына. Ён мімаволі стаў, углядваючыся ў той бок, чакаючы, востра ловячы кожны гук, кожную праяву: ён ведаў, ішло дзіва, якое славілі газеты і паэты і якое ён толькі мелькам убачыў учора з аўтамабіля — мінскі трамвай.

Апейка зводдалек пабачыў, як трамвай вылез з-за гары, паволі, важка выпаўз, стаў каля цэнтральнага сквера. Выпусціўшы купку людзей і забраўшы тых, што чакалі, ён пабег насустрач Апейку лягчэй, хутчэй, з грукатам і звонам, якія імкліва, няўхільна раслі і дужэлі. Ён прамчаў паўз Апейку з такім громам, такім ззяннем вокан, за якімі людзі выглядалі дзіўна святочна, што Апейкава сэрца напоўнілася гонарам за сваю сталіцу, за краіну; у грымотным лёце трамвая, ад якога аж здрыгалася зямля, Апейку пачуўся магутны індустрыяльны поступ краіны.

На Савецкай людзей пабольшала, і ішлі яны цяпер вельмі хутка; іншыя ледзь што не беглі. Не адзін, не два паглядвалі на гадзіннікі над тратуарам: набліжаўся самы пачатак рабочага дня ва ўстановах. Апейку нярэдка штурхалі, але ён не злаваў; яму гэта было нават нібы прыемна,— як і сама працоўная клопатнасць, хапатлівасць, што ўсё больш апаноўвалі вуліцу.

Калі ён падышоў да Універсітэцкага гарадка, ужо зусім развіднелася. Гарадок будаваўся; там, куды падышоў Апейка, ён быў абгароджаны дашчатым плотам; за агароджай чырванелі недаканчаныя камяніцы адразу некалькіх будынкаў. Пры кожным з іх былі людзі, мноства людзей; на драўляных усходах, на рыштаваннях, каля самаробных блокаў: насілі, падымалі на блоках складкі цэглы, цабры з цэментам, клалі сцены. Будынкі, як і той, які Апейка бачыў раней, будаваліся з размахам: кожны даўжынёй ледзь не на цэлы квартал; увесь жа Універсітэцкі гарадок быў сапраўдным горадам у горадзе: агароджа будаўнічай пляцоўкі абкружала не мала не многа — некалькі кварталаў. Занятая будаваннем вялікай індустрыі, краіна не шкадавала ні рабочых, ні матэрыялаў, каб зрабіць моладзі ўсё, што трэба для вучобы, для асветы...

Апейка не адразу знайшоў той адзіны цагляны будынак на два паверхі, дзе — каля самай чыгункі — існуўся пакуль універсітэт. Сцены будынка знадворку былі калісьці пабелены, цяпер дождж размыў пабелку, вецер наляпіў вугальнага гару ды пылу, будынак выглядаў так нікчэмна, што Апейка і не падумаў бы, што тут можа быць універсітэт. Да таго ж, і дабрацца да яго было няпроста: усё навокал абгарадзілі,— можна было падысці толькі па вузкім калідоры між платоў, з боку чыгункі. На шчасце, дапытваючыся універсітэта, Апейка натрапіў на студэнтку, ветлівую, бялявую дзяўчыну ў кажушку і ў хустцы, вельмі падобную на сваіх юравіцкіх равесніц. Дзяўчына ў кажушку і давяла Апейку да універсітэта; ветлівая, сарамяжая, з пачырванелым на холадзе вострым носікам, сказала, дзе можа быць сакратар камсамольскай ячэйкі,— хапатліва пабегла падшытымі валёнкамі на другі паверх. Апейка агледзеўся: тут, дзе хадзілі маладыя хлопцы і дзяўчаты з кнігамі, дзе з усіх сцен глядзелі то расклады заняткаў, то сценгазета «За бальшавіцкія веды»,

то аб'явы пра сходы, пра вечары, Апейку неяк асабліва ўзяло шкадаванне, што не давялося самому пабыць студэнтам. «Не патаўчэшся ніколі ў студэнцкай гурме... Ні клопатаў, ні радасцей гэтых не зазнаеш ужо... Акопы ды шпіталі, ды газета пад сельсавецкай газоўкай — усё тваё студэнцтва... Паспяшаўся нарадзіцца: будзеш век невукам. Усё жыццё...— Апейка стрымаў сябе: — Нічога, стары. Другія павучацца. Умей радавацца за другіх. Змена якая ідзе, бачыш — прыгожая, культурная!..»

У пакоі, які яму паказала дзяўчына, было два студэнты. Адзін — чорненькі, плячысты, у зацяганай, але адмысловай вельветавай куртачцы, другі —русявы, з неяк па-дзіцячы мілым віхарком, у сацінавай сіняй сарочцы і пінжачку. Русявы, з віхарком, адказаўшы на прывітанне, ветліва папрасіў Апейку пачакаць хвілінку: от толькі дакончыць гаворку з таварышам. Меркавалі пра спектаклі: для чагосьці выбіралі спектакль; адразу, як дамовіліся, чорненькі развітаўся, весела, хвацка стукнуў дзвярыма, і русявы цікаўна зірнуў на Апейку. Гэта і быў сакратар ячэйкі. Калі Апейка назваў сябе, сваю пасаду, ён зычліва падаў руку, ад душы пацікнуў Апейкаву. Поціск быў дужы, чулася, што рука гэта ведала працу. Было і ў позірку яго светлых, нібы празрыстых вачэй штосьці вельмі добрае, зычлівае; і па гаворцы, і па манеры трымацца было відаць, што хлопец просты, шчыры. Гэтае ўражанне як бы дапаўняла тое, што каўнер касавароткі быў расшпілены; нібы паказваў: уся душа наросхрыст.

— У мяне да вас важная справа,— сказаў, як бы папярэджваючы, Апейка.

— Без важнай справы вы, пэўна, не зайшлі б сюды,— усміхнуўся зычліва хлопец. Ён як бы паказаў, што гатовы памагчы ўсім, чым можа.

— Я хачу даведацца, што на самой справе было з...— Апейка на момант запыніўся: як лепш назваць,— з Алесем Маёвым. Вы, канешне, ведаеце яго і яго ўчынак?

— Ведаю...— Апейка заўважыў, як у празрыстых вачах паявілася штосьці стрыманае, насцярожанае. Хлопец як бы адасобіўся. Запытаў: — Вы — хто яму?

— Я вучыў яго...

Хлопец не зразумеў:

— Як — вучылі?

— Вучыў у школе. Настаўнікам быў у яго...

— А-а...— Уважлівыя вочы глядзелі, чакалі яшчэ нечага.

— Першыя вершы чытаў. І потым — сачыў, як можна было. Больш — па газетах...— Апейка тлумачыў спакойна, мякка, як старэйшы таварыш.

Хлопец дзіўна маўчаў. Быў ужо хмурны, вельмі сур'ёзны, як бы не хацеў пачынаць ці не ведаў, з чаго пачаць.

— Дык што ж было на самой справе?

— Што ж, раскажу,— сказаў хлопец раптам дзелавіта, цвёрда.— Толькі — коратка. Тут адна справа якраз чакае. Раскажу галоўнае... Гэта — непрыемная гісторыя. Непрыемная для ўсёй ячэйкі, для ўсяго універсітэта... Тут і наша віна, камсамольскай ячэйкі, не адмаўляюся. Прамаргалі, выпусцілі з-пад увагі. Камсамольца, таварыша аддалі, можна сказаць, самі ў рукі другіх. Самі не вялі выхаваўчай работы, вось тыя і выхавалі. Выхавалі па свайму ўзору і падабенству... Для нас гэта вялікі ўрок — і на сённяшні дзень і на заўтрашні...— Апейка, і ідучы сюды, і пачынаючы гаворку, яшчэ спадзяваўся на добрае, на тое, што ўсё акажацца калі і не зусім шчаслівым, то ва ўсякім разе не такім паганым, як ён трывожыўся; і вось, кожнае слова студэнта пераконвала, што здарылася самае горшае.— Хлопец быў наш,— як бы білі Апейку словы шкадавання.— Быў наш.— «Чаму: быў наш?» —азвалася ў Апейку нязгодаю, але ён стрымаў сябе.— Мы верылі яму. Спадзяваліся на яго як на камсамольца, таварыша! А от прамаргалі, і былы таварыш адкалоўся. Адкалоўся, а потым — пакаціўся ўніз. Дакаціўся да таго, што стаў прыслужнікам нацдэмаў. Паслугачом нацдэмаўскага ахвосця! Паслугачом ворага!

— Вы — перакананы ў гэтым? — стрымліваючыся, сказаў Апейка. Сакратар камсамольскай ячэйкі зірнуў на яго, нібы не разумеючы.

— Я не веру гэтаму,— як мог спакойна, але прама, цвёрда растлумачыў Апейка.— Не веру, што ён стаў прыслужнікам ворагаў.

Хлопец трохі збянтэжыўся ад Апейкавай рашучасці. На чыстым ілбе разлілася ружовасць.

— Мы таксама спачатку не верылі... Не хацелі да-

ваць веры. Але ён сам не скрываў. Больш таго — нават выстаўляў, паказваў усім. Спрабавалі адгаварыць, пераканаць — ён знарок упарціўся.— У голасе хлопца пачулася злосць.— Героя з сябе — падумаеш, герой! — строіць пачаў! Яму ўсякія Зарэцкія і Гартныя — дарагія таварышы! Выдатныя дзеячы, сыны народа!.. Яны яго нахвальвалі, спявалі: ты — паэт, талент! І от — ён рашыў аддзячыць! Знайшоў таварышаў!

— І ўсё ж ён наш! Што б там ні было — наш, разумееш? Ён не можа быць не нашым. Усё, што ў ім ёсць добрае, усё гэта наша. Ад савецкай улады... Я ведаю яго, калі ён толькі пачынаў разбірацца ў жыцці. Усе гэтыя гады сачыў. Гэта вельмі шчыры, адданы нашай справе хлопец. Ну — можа памыліўся. Дык дакажыце, пераканайце! Нашто ж так адкідаць зразу!..

— Зразу, зразу! Мы і цяпер вымушаны прыбіраць за ім, столькі ён тут натварыў! — Хлопец не таіў непрыхільнасці.— Не ўсё так проста было, як здаецца збоку! Студэнты — народ непасрэдны: разважаць не вельмі ахвочыя. Даверлівы народ, схільны захапляцца, асабліва на яго факультэце, літфакаўцы. Ім падабалася гэта — паказное геройства! На сходзе было і крыку, і віску: заступнікаў у яго знайшлося даволі! Усё, што было бруднае, анархічнае, палезла наверх! Факультэцкі сход, цэлы сход, павярнулі па-свойму! Сход аказаўся не на вышыні! Ліберальныя настроі перамаглі прынцыповасць! Прыйшлося ўмешвацца! Нанава збіраць! Расхлёбваць кісель, які заварыў герой ваш!..

Ужо не заўважалася, што сарочка ў хлопца паюначы расхрыстаная, і дзіўна было, што вочы ў хлопца здаліся празрыстыя, наіўныя. Апейка зірнуў у гэтыя вочы і раптам зразумеў, што спрачацца з хлопцам ці пераконваць яго — марная трата. Ды сакратар і не таіў, што гаварыць пра гэта больш не хоча. Мусіць зараз ісці.

— Дзе знайсці яго? — запытаў Апейка.

— Яго выключылі, і ён жыве недзе ў горадзе. Зайдзіце на літфак, там, мусіць, хто-небудзь знае. Хаця — яны ў другую змену. Так што ідзіце ў інтэрнат... На Нямізе...

РАЗДЗЕЛ ДРУГІ

1

І вось Апейка ў інтэрнаце універсітэта, на старой, пазелянелай ад старажытнасці Нямізе. І зноў хвалюе тое, студэнцкае — непаражытае, завабнае: аб'явы пра сходы, пра заняткі, нейкі загад. Запіска, прыколатая шпількай: «Хлопцы, ёсць лішні білет на «Паўлінку». Галёрка, самы высокі рад! Самая танная цана! Спецыяльна для студэнтаў! Спяшайцеся! Пакой № 9». Яшчэ адна: «Хто ўкраў канспект па Замоціну?! Неадкладна вярніце!!!»

Прыбіральшчыца ці дзяжурная, добрая, з выгляду зусім вясковая цётка, што спаткала яго ля дзвярэй, жаласліва зірнула на Апейку, уздыхнула, паківала галавой: быў тут, жыў такі, у трэцім пакоі. Цяпер — няма, выселілі. Дзе жыве — не пыталася; але са студэнтаў павінен нехта ведаць. Паклікала аднаго, другога з тых, што паяўляліся на калідоры; ніхто з іх не ведаў. Цётка загадала ім пашукаць, хто ведае; пачалася беганіна па пакоях, і, нарэшце, прыйшоў рудаваты, з рабаціннем на носе, хлопец і сказаў:

— Я знаю, дзе ён.

Яны ідуць удваіх, студэнт трохі наперадзе, Апейка за ім: тратуарчык такі вузенькі, што ўдваіх ісці побач не ўдаецца. Ды і вуліца, старая Няміга, такая вузкая, цесная, што, ідучы тратуарам, сцеражыся ўвесь час, каб не зачапілі вазок ці каляска, што яшчэ коцяць па слабенькім снезе. Адліга, што зранку ледзь чулася, цяпер палезла настырней: і вецер, мокры, стылы, і пад нагамі слізгота.

— Вы разам вучыліся? — Пайшлі ўжо іншай вуліцай, таксама вузкай, але цішэйшай; можна было ступаць побач.

— Разам. На адным курсе.

— Як жа дайшло да ўсяго гэтага?

— Ён і раней казаў так. Спрачаўся з тым, што пісалі. Пра Пушчу і Дубоўку.

— З чым спрачаўся?

— Ну, з тым, што яны нацдэмы, ворагі. Казаў, што ім перашкаджае сялянская стыхія і арыгінальні-

чанне. Але што яны з часам выхаваюцца ў добрых пралетарскіх паэтаў. І што ім трэба памагчы, а не адштурхоўваць...

— І як ты лічыш — няправільна ён казаў?

— Ды мы і самі багата хто так думалі... Толькі — не вельмі гаварылі. Так, хіба ў кампаніі сваёй, сярод таварышаў... А яму гэтага мала. У яго што наўме, тое і на языку. На сходах яго дык асабліва цягнула на спрэчку.

— Гэта пагана, што ён на сходах — адкрыта?

— Не, хто кажа...— Хлопец на момант запыніўся, загаварыў разважліва: — Казаць можна. Але неабавязкова лезці з усім тым, што ты думаеш. Не тое што скрываць трэба, але трэба перш падумаць, які будзе толк з таго. І тое яшчэ знаць трэба: што калі прыходзяць на сход і гавораць нейкія рэчы, то, значыцца, гэта ўсё праверана і абдумана таксама. Людзьмі, у якіх ёсць фактаў пабольш, якія знаюць пабольш... І наогул не трэба лезці на сцяну, без толку!..

— Яго выключылі не на літфаку?

— У нас амаль усе галасавалі супраць выключэння. Яго выключылі потым — на бюро. А ў нас сабралі яшчэ адзін сход: аб прынцыповасці і аб шкодных правах на літфаку. Аб ім, можна сказаць. Праўда, яго ўжо не было...

— Ён што — не пераменіў сваёй думкі?

— Пераменіў? — Хлопец хмыкнуў: — Ён потым знарок паказваў стойкасць сваю! — Па-юначы шчыра як бы пахваліўся сваёй практычнасцю: — Я яму казаў: трэба прызнаць памылку. Прызнаў бы — і ўсё было б добра. Інакш было б!

— Значыць, ён быў перакананы.

— Перакананы не перакананы, а калі трэба — то трэба было прызнаць. А ён — не! Усё па-свойму, дабіваўся ўсё сваёй праўды. І — дабіўся!

Больш Апейка не пытаўся. І спрачацца не стаў: адчуваў, што спрэчка прападзе попусту. Моўчкі, асклізваючыся, ішоў па крывых вулічках з ямамі, між драўляных, касабокіх хат з зялёным і чорным гонтам, з аканіцамі; вулічках, якія былі як сёстры юравіцкім, самай нязграбнай мястэчковай глухамані. Як і на юравіцкіх, амаль нідзе не было тратуараў. Каля аднаго, падобнага на іншыя, крывабокага дома хлопец адчы-

ніў веснічкі, першы пайшоў на двор. Апейка мімаволі глянуў у акно: убачыў за цёмнай шыбай лапушысты вазон і свой цьмяны адбітак на шыбе.

На ганку патупалі, абабіваючы наліплую снегавую, з гразёю макрэчу, сумленна выцерлі боты. Увайшлі ў сенцы, ступілі ў хату.

— Дома Алесь? — звонка і весела сказаў хлопец, павітаўшыся.

Сухаватая, не вельмі ветлівая гаспадыня, што знарок перастаўляла табурэтку ля стала, з увагай акінула Апейку, як бы рашаючы: варта ці не варта казаць. Незычліва адказала: дома. Але хлопец яе не чуў; ён, не пытаючыся, расчыніў дзверы, уваходзіў у другі пакой.

— Забраўся чорт знае куды! — усё з той жа звонкасцю папракнуў ужо некага іншага.— Ледзь дацягліся! Прымай гасцей!

Убачыўшы Апейку, Алесь ад неспадзеўкі зніякавеў. Момант яшчэ сядзеў за сталом, потым схамянуўся, устаў, ніякава пацісnуў руку. Павёў вачыма па пакоі — ці ўсё да ладу. Мітусліва падаў табурэтку, такую ж, як у тым пакоі, дзе гаспадыня, узяўся папраўляць кніжкі і сшыткі на стале, прыгладзіў не вельмі паслухмяную русявую чупрыну.

— Вуліцы, брат,— што коўзанкі! Коўзаешся ўвесь час — як кот на лёдзе!.. Што парабляеш? Вершы? — Хлопец нахіліўся над сталом.— Ага. Руская літаратура дзевятнаццатага стагоддзя. Вучымся, значыць! Пр-равільна!

Ён яўна строіў з сябе бывалага, баявога хлопца. Алесь не папраўляў яго і не падладжваўся: як бы і не заўважаў таварыша, які нібы не хацеў нічога разумець.

Сеўшы зноў за стол, Алесь зірнуў насцярожана на Апейку і ўжо не ўздымаў вачэй.

Але, чуў Апейка, жыў нялёгкім хваляваннем сустрэчы.

Таварыш яго, якім ні ўдаваў сябе бесклапотным, усё ж хутка ўлавіў, што Алесю не да яго балбатні, бадзёра аб'явіў:

— Што ж, я сваю функцыю выканаў.

Ён весела пацісnуў руку Алесю, са сталай стрыманасцю развітаўся з Апейкам. Праз момант звонкі го-

лас яго прыбіўся з суседняга пакоя, хвацка стукнулі дзверы...

І калі асталіся адны, доўга яднала абодвух маўчанне. Апейка глядзеў з пяшчотаю, са спачуваннем, з увагаю: збоку здавалася — Алесь не змяніўся вельмі. Было ў твары, у постаці тое ж юнацка мілае, далікатнае, сарамяжае, з-за якога не зусім і верылася, што гэта ён, гэты далікатны юнак, так цвёрда трымаўся сумлення свайго, стаяў так перад небяспекаю. Можа хіба толькі — цвёрдасць у падбародку, у шчаках, новая, не бачаная раней ці не заўважаная; ды і позірк недаступны, затоены. Не такі, як там, на полі...

Апейка глядзеў і глядзеў; Алесь усё не ўздымаў галавы: не зразумець было — ці чуў сябе вінаватым, ці не хацеў папрокаў.

Апейка першы пачаў:

— Што вучышся — добра. Малайчына...

Ён кіўнуў: прымаю да ведама. Галавы ж не ўзняў. Памаўчалі зноў. Раптам як бы ўспомніў штосьці, устаў, выйшаў у суседні пакой. Пра нешта ціха пагаварыў з гаспадыняю. Вярнуўся. Сеў.

— Пра што ты там?

— Так... Гаспадарчыя дробязі...

— Не трэба нічога.

Ён не адказаў. Чакаў, відаць, насцярожана гаворкі пра няўхільнае, балючае і важкае. Апейка спытаў:

— Працуеш?

— Пакуль — не...

— Таксама... знялі?

— Знялі...

Апейка здагадваўся аб прычыне, але запытаў, хацеў высветліць усё:

— Чаму?

— Выключылі з камсамола — выгналі з работы...

Не ўтаіў крыўду. На міг зірнуў на яго, сустрэўся гарачым позіркам, тут жа адвёў вочы ад Апейкі. Зноў сядзеў, схіліўшы галаву.

— Як будзеш цяпер?..

— Рабіць буду...

— Дзе?

— Ды хоць дзе. Хоць грузчыкам на станцыі.

Зноў зіркнуў горача, адвёў вочы.

— А мо — к нам?

— Чаго?
— У школу. Настаўнікам.
— Не дазволяць. Выхаванне дзяцей...
— Я даб'юся.
— Вас абвінавацiць могуць...
— За мяне не турбуйся!
— П-падумаю...

Увайшла гаспадыня. Унесла спачатку пляшку гарэлкі. Потым — закуску: трохі парэзанай каўбасы, талерку квашанай капусты з гуркамі і яркімі кроплямі журавінак. Пайку парэзанага чорнымі пліткамі хлеба.

Прынесла ўсё, выйшла. Алесь наліў у Апейкаву чарку, потым — у сваю. Моўчкі дакрануліся чаркамі, выпілі. Сталі закусваць. Апейку павяло на гаворку: пачаў расказваць навіны з юравіцкага жыцця. Алесь слухаў моўчкі, задуменна. Няхутка Апейка зачапіў самае чулае, балючае. Асцярожна, як да балючага, дакрануўся:

— З-за чаго ўсё гэта?

Алесь устаў, выйшаў да гаспадыні. Зноў пагаварыў пра нешта. Вярнуўся, наліў у чаркі. У хаце стукнулі дзверы, потым — у сенцах. За акном прайшоў абрыс гаспадыні.

— Цікаўная дужа... Аж лішне...

Апейка здагадаўся: гэта — пра старую. Алесь зноў маўчаў, еў паволі, сур'ёзна. Выціснуў, нарэшце:

— З-за веры ўсё...

Ён як бы іранізаваў з сябе.

— Якой веры?

— Звычайнай. Сказаў, што веру аднаму чалавеку... Якому не трэба верыць...

— Хто гэты чалавек?

— Пісьменнік. Цішка Гартны.— Іранічная ўсмешка прапала. Зірнуў проста, сумна, задумаўся раптам зноў.— Быў сход у нас... Дакладчык быў з райкома... Гаварыў пра міжнароднае становішча... Пра тое, што класавая барацьба абвастраецца. Што вораг ідзе на ўсё. Што патрэбна пільнасць... Правільна, адным словам, гаварыў...

— З-за чаго ж спрэчка?

— Ён сказаў, што ворагі хочуць зацягнуць у свае сеці студэнтаў. Што закідвае вудачкі ўсякая нечысць — нацдэмы розныя, розныя Гартныя. З яго слоў

выходзіла, што ў літаратуры гэтай нечысці болей, як жаб у балоце. Што ледзь не ўсе ў літаратуры — людзі падазроныя... Я і выступіў. Сказаў, што нельга без падстаў абкідаць усіх гразёю...

— А ён — што?

— Ён пачырванеў. Нават — пасінеў. Але стрымаў сябе. Заявіў з абурэннем, што ён не абкідае нікога гразёю. Што абвінавачвае таго, хто заслужыў гэтага. Прадажных нацдэмаў — Гартных, Зарэцкіх і іх кампанію. І як ні шкода некаторым цяперашнім гімназісцікам іх — факты ёсць факты... Я выступіў зноў і сказаў, што калі ёсць факты, што Зарэцкі і Гартны — ворагі, то чаму ён іх не назваў. Што тое, што ён казаў,— адна лаянка. Што лаянка, якая яна ні ёсць, не замяняе фактаў... Ну, студэнты сталі крычаць, падтрымліваць мяне. А некаторыя з кіраўніцтва — дакладчыка. Сталі даказваць тым, што пра гэта і газеты пісалі. Што — ворагі. А я на тое — што і газеты — без дастатковых фактаў! Тады і — пачалося!

— А чаму ты так упэўнен, што не памыляешся? Што ты ведаеш дастаткова?

— Чаму ўпэўнен? — Хлопец проста на Апейкавых вачах перайначваўся: ужо і знаку не было нядаўняй сарамяжасці, ніякавасці. Усхваляваны, з чырвонымі плямамі на твары, ён зірнуў так горача, цвёрда, што Апейка раптам адчуў: як ён, настаўнік, не малады і не сляпы нібы чалавек, так мала ведаў яго.— Чаму ўпэўнен? Хоць бы таму, што ён пасылаў свае допісы ў «Правду» тады, калі бальшавікоў на катаргу ссылалі. Ці таму, што ён сам падпісваў дэкрэт пра абвяшчэнне савецкай улады ў Беларусі. Хіба гэтага ўжо аднаго мала,— каб верыць чалавеку?

— Так, гэта... нямала...

— Нямала... А ў яго ж ёсць і такі «дробны» доказ, як дзесятак кніг. Ён першы ў нашай літаратуры — яшчэ да рэвалюцыі — выбраў сваім героем рабочага. Не дзеля выгады ж, так я сваім «дурным» розумам мяркую,— выгаду гэта ў той час, здаецца мне, наўрад ці давала. Значыць, выбраў ад душы? Ад духоўнага братэрства? Сам рабочы, ён і выбраў сабе ў героі такога ж рабочага. І гаварыў аб ім і ад яго. Так мне «здаецца». Па адных кніжках, здаецца, можна было б зрабіць вывад, што за чалавек!.. А я ж яшчэ ведаю яго

трохі і, можна сказаць, асабіста. Ведаю, як прыхільна прымаў ён кожную кніжку такіх, як я...

— Але ж у яго былі «грахі». Памылкі — і сур'ёзныя...

— Былі,— згадзіўся Алесь. Зноў зірнуў горача, ясна.— А як іх магло не быць, Іван Анісімавіч,— памылак? Былога гарбара паставілі раптам кіраваць цэлай рэспублікай, цэлай, можна сказаць, дзяржавай! Паставілі даваць новыя ацэнкі ў такой складанай гісторыі народа! Як можна было не памыліцца ні разу, гэжывучы ў такі незвычайны, такі бурны час! Для гэтага трэба было — я не ведаю, кім быць? Геніем — дык і геніі ж рабілі памылкі — ды яшчэ якія! Вазьміце хоць бы Талстога!.. А ён жа — не геній. Ён — да ўсяго — не вельмі і граматны. Ён у нечым і астаўся на ўзроўні гарбара. Я сам чуў, як некаторыя, больш адукаваныя, пісьменнікі падсмейваліся з яго. З капыльскай мовы, з манеры гаварыць... Яго адукацыя — капыльскія вечары над кнігамі. Гутаркі з рабочымі, з салдатамі — у Рызе, у Пецярбурзе. Трохі пабыў каля вопытных партыйных кіраўнікоў у Маскве. Вось і ўвесь яго «універсітэт», перад тым, як яму трапілася стаць у першы рад народа. Дык хіба ж дзіўна, што ён і няма-ла зрабіў добрага, і нямала — наблытаў? — Хлопец быў так усхваляваны, гаварыў так шчыра, што Апейка сам хваляваўся, паддаваўся і яго шчырасці, і ўзрушэнню, і разумнасці,— проста дзіўнай для такога зялёнага юнака разумнасці, сталасці яго разваг. Быў ужо не толькі жаль аб ім, а і гонар, неспадзяваны, невыказны гонар за яго, як бы недарэчная радасць. З роздумам, даверліва, як сябру, Алесь сказаў: — Папраўдзе, Іван Анісімавіч, яго трэба было б паслаць на добрыя паліткурсы! Пабачылі, што памыляецца часта,— папрасіце, каб вызваліў крэсла. І каб не траціць добрага чалавека, які яшчэ можа спатрэбіцца, пашліце павучыцца! У свой час яму не было калі вучыцца!.. Калі ўжо на тое — памыліўся асабліва сур'ёзна, зрабіў асабліва глупства — наківайце строга! Суровую вымову ці яшчэ што дайце!.. Я так мяркую сваёй «дурной» галавою... Дык не ж: зразу — нацдэм, нацыянал-дэмакрат! Прыслужнік буржуазіі! Вораг!.. Ды яшчэ не смейце сумнявацца!

Ён быў увесь перад Апейкам: са сваёй крыўдай,

сваім роздумам, сваімі перакананнямі. Было ў ім нешта вельмі юнае, амаль дзіцячае, бездапаможнае: у тым, як ён гаварыў, з якою крыўдай,— і было разам на дзіва сталае, дарослае: у тым, як ён разважаў. Апейка дзіўна чуў, што, няхай хоць бы ў тым, што ён казаў, ён ведае не менш, а больш за яго, немаладога ўжо чалавека. Ад гэтага ў Апейкі было дваістае пачуццё да Алеся: і як бы бацькі і — таварыша. І дваістасць была яшчэ адтаго, што ён бачыў, што хлопец не вінаваты, што ўсё тое, што напісана было, паклёп, і Апейка рад быў гэтаму: не памыліўся ў ім! Але разам быў яшчэ і боль за тое, што на добрага савецкага хлопца навалілі такую няпраўду, што абышліся так чэрства і так несправядліва.

Што Апейка мог сказаць яму? Іван Анісімавіч як рэдка калі адчуваў, што яму цяжка гаварыць, цяжка падбіраць патрэбныя думкі і словы. Ён не хацеў вярэдзіць крыўду хлопца, і без таго балючую; адтаго, што было па-бацькоўску шкода яго і трывожна за яго, за тое, што ўсё гэта можа збіць хлопца з тропу, хацелася супакоіць: каб глядзеў навокал без такога болю. Каб бачыў, як усё ў жыцці іх няпроста...

— Уся бяда, што не так-то проста выявіць, хто вораг, а хто — не вінаваты,— сказаў ён па-бацькоўску.— Сам ведаеш — абстаноўка якая!

Гэта Алеся не толькі не супакоіла, а запаліла яшчэ больш.

— Дык не трэба так проста і вешаць ярлыкі! І не трэба крычаць на чалавека, кал ён хоча даказаць, што не вінаваты!..— Губы яго па-дзіцячы смыкнуліся.— Абараняць от цяжка, а абвінавачваць — лёгка!.. Цяпер жа той, хто абвінавачвае, часта выглядае — як герой! І чым з-злей крычыць, т-тым — б-большы герой!

Што Апейка мог запярэчыць на гэта? Мімаволі згадаў Галенчыка, яго пагрозы на сходзе...

— Нічога, гэтыя, як ты кажаш, «героі» хутка зламаюць сабе галаву! Гэта — героі на хвілінку! Пакуль — шумна!..

Алесь не адказаў: быў, відаць, нязгодны. Апейка ўспомніў, што чыстка Гартнага ў наркамасветы ішла чатыры дні і што там некалькі чалавек заступаліся за яго.

— Заступаліся,— ахвотна, але нявесела кіўнуў

Алесь.— Паспрабавалі абараніць. Дык што ж выйшла! Што потым напісалі, як падалі гэта! «Арганізаваная вылазка раз'юшанай нацыянал-дэмакратыі!» «На бязлітасную барацьбу з нацдэмакратызмам — дапаможнікам сусветнага сацыял-фашызму!..» То ні за што навесілі знак нацдэма, то ўжо гатовы аб'явіць ні мала ні многа — фашыстам! І заадно — людзей, якія сказалі, што гэта — няпраўда! Што ён пры ўсіх сваіх «грахах» — савецкі чалавек, бальшавік!.. І дзе сказалі — на адкрытым партыйным сходзе!

Алесь, як бы штосьці раптам успомніўшы, стаў хутка корпацца ў паперах. Дрыготкімі ад хвалявання пальцамі выцягнуў лісток, спісаны яго почыркам. Дрыготкім ад узрушэння голасам загаварыў:

— У нас некаторым варта было б напомніць, што казаў пра такія рэчы Ленін. Хоць кожны дзень напамінаць! — Ён стаў чытаць, выразна, як бы ўрачыста: — «Точные факты, бесспорные факты — вот что особенно... необходимо... если хотеть серьезно разобраться в сложном и трудном вопросе...» От што казаў Ленін! Нібы спецыяльна для такіх дзеячоў! — Ён з пашанай разгладзіў паперку, раптам зноў задумаўся: на чысым юнацкім твары зноў паявілася клопатнасць. Потым зноў сказаў трывожна: — Аж страх бярэ — як лёгка цяпер некаторыя вешаюць людзям усялякія ярлыкі. Скажа — «вораг», «нацдэм», «прыслужнік фашызму»,— і яму хоць бы што! Таму, хто хоча заступіцца за невінаватага, могуць так даць, што не рад будзе! А таго, хто ні за што абзаве ворагам нашага ж чалавека,— ледзь не хваляць!

— Калі цячэ рака, нясе яна і пену,— сказаў разважна Апейка.— І бруд таксама нясе. І ламачча гнілое. Усякага трапляецца ў ёй, сам знаеш...— Апейка стаў расказваць яму пра сваю чыстку, пра Галенчыка, пра Белага, Беразоўскага, Гайліса. Алесь слухаў яго моўчкі і нібы няўважліва, думаючы пра нешта сваё. Яшчэ да таго як Апейка скончыў, за акном праплыла гаспадыня: хустка, плечы. Стукнулі дзверы, спачатку ў сенцах, потым у хаце.

Алесь загаварыў так, быццам думаў уголас:

— Хтосьці казаў: самае важнае — паставіць у час кропку. Гэта правільна. Самае важнае заўсёды — пачуццё меры. Любую разумную справу можна давесці

да абсурду. Да злачынства нават... Асабліва ў такі час, калі ўсё ў заўтрашнім дні...

Гаспадыня прынесла, паставіла яшчэ бутэлечку гарэлкі, капусты і хлеба. Апейка сказаў, што піць больш не будзе; папракнуў Алеся за тое, што п'е. Той адказаў знарок бесклапотна:

— Гэта не часта...

— Трымацца трэба.

— Стараюся...

Яны яшчэ нямала гаварылі, найбольш ужо аб родных мясцінах, знаёмых людзях, успаміналі сустрэчы, перажытае. Між гэтых успамінаў Апейка па-бацькоўску параіў напісаць матцы і сястры — супакоіць іх. Пра што ні гаварылі, жыў у Апейку, не адступаў неспакой пра Алесеў лёс: сказаў яму напісаць заяву ў ЦК камсамола — папрасіць перагляддзець усю гісторыю.

— Я напісаў...

— Не адказалі яшчэ?..

— Не...

Алесь правёў яго да гасцініцы. З гасцініцы Апейка адразу пазваніў Беламу, але таго не было. Ён пазваніў другі раз і таксама не застаў. Толькі на трэці раз Апейка пачуў голас Белага. Белы адазваўся прыхільна, але сказаў, што цяпер заняты вельмі і сустрэцца можа толькі праз паўтары гадзіны.

Роўна праз паўтары гадзіны Апейка сядзеў у пакоі Белага. Белы і тут трымаўся спакойна і проста: без якой-небудзь важнасці ці насцярожанасці, і разам з тым без той гасціннасці, якой іншыя кіраўнікі паказвалі свой дэмакратызм і якую Апейка вельмі не любіў. Ён пацікавіўся, як Апейка ўладзіўся ў гасцініцы. Сустрэўшыся з ім позіркам, Апейка чакаў ужо, што ён зараз захоча даведацца аб прычыне візіту яго, калі Белы раптам запытаў, ці чытаў Апейка рашэнні Лістападаўскага пленума ЦК. Стаў расказваць пра тое, што Апейка ведаў пакуль толькі па чутках, пра справу Бухарына. Пленум, сказаў Белы, абмеркаваў новую заяву Бухарына, Рыкава і Томскага ад 12 лістапада, ацаніў яе як фракцыйны манеўр, падобны да трацкісцкіх.

— Бухарына вывелі з Палітбюро. Рыкава і Томскага папярэдзілі. Пры самай малой спробе зноў працягваць барацьбу супраць ЦК будуць прыняты аргмеры.

Ён не стаў тлумачыць значэння падзеі, ведаў, Апейка ўсё разумее. Апейка заклапочана памаўчаў, нібы паказваючы, што і не трэба тлумачыць. Правая апазіцыя зноў рашыла даць бой і пацярпела паражэнне. У маўчанні было і разуменне таго, што ўсе тры правыя лідэры — члены Палітбюро, кіруючыя дзеячы: Рыкаў — старшыня Саўнаркома, Бухарын — рэдактар «Правды», Томскі — старшыня ВЦСПС. Правыя зноў спрабавалі павярнуць партыю на свой лад...

Ён зірнуў на Апейку, нібы пытаючыся: які клопат прывёў сюды. Уважліва слухаў, пакуль Апейка расказваў пра Алеся, пра бяду яго.

Калі Апейка скончыў, стрымана, дзелавіта сказаў:

— Добра, я займуся гэтай справай. Што змагу, зраблю.

Ён запісаў прозвішча, імя, запытаў, каму ў ЦК камсамола напісана пісьмо. Апейка заўважыў, што аловак трымае ён у руцэ цвёрда і піша цвёрда, і падумаў, што ён, праўда, зробіць усё, што можа. Белы зірнуў засяроджана, раптам загаварыў павольна, важка:

— Тут яшчэ з адным пісьменнікам гісторыя была. З Міхасём Зарэцкім. Тым, каторы напісаў раман «Сцежкі-дарожкі». Зарэцкі, як кажа ваш паэт, таксама нямала наблытаў. Яго моцна пакрытыкавалі. І не толькі пакрытыкавалі. Той-сёй з партыйных кіраўнікоў рашыў, што яму наогул не месца ў партыі. Далі такую параду ў пярвічную ячэйку, дзе быў Зарэцкі. У ячэйку Дзяржаўнага выдавецтва. Там разабралі яго справу і, хоць за Зарэцкага некаторыя моцна заступаліся, выключылі. Дзевяць было за выключэнне, сем — супроць. Фактычна — выключылі пад націскам зверху. Зарэцкі напісаў заяву ў ЦКК. ЦКК разабралася як мае быць і рашыла, што падстаў дастатковых для таго, каб выключаць яго з партыі, няма. І аднавіла ў партыі. Тут бы, здаецца, канец справе. Дык не ж. На адным партактыве выходзіць на трыбуну газетны дзеяч — Бухімовіч, вы яго можа ведаеце. І апошнімі словамі крые ячэйку за Зарэцкага. За патуранне ворагу, за страту класавага пачуцця. За палітычную слепату. Мала таго, адважна выпнуўшы грудзі, крые ЦКК. Тымі ж самымі словамі. Громіць усіх. Ён — адзін — класава чулы, палітычна прынцыповы, непахісны! Яго асабі-

стая думка вышэй думкі ўсіх іншых, думкі партячэйкі, ЦКК!..

— Я з адным такім пазнаёміўся ўжо,— адазваўся Апейка.— На чыстцы ў Юравічах..

— Галенчык не адзін... Модна становіцца выкрываць, крычаць, лупіць — пад маркай прынцыповасці! Модна і выгадна. І рызыкі ніякай, і смелым паказаць сябе можна! Лепшым за ўсіх! Архібарацьбітом, архібальшавіком!

— Мне здаецца, што гэта падобна на спекуляцыю,— горача падхапіў думку Белага Апейка.— Спекуляцыя на цяжкасці моманту...

— Спекуляцыя,— згадзіўся Белы.— У аснове якой вельмі часта — кар'ерызм. Імкненне пагрэць рукі на сітуацыі, выскачыць на чужой бядзе. Зрабіць кар'еру...— Ён дадаў раздумліва: — Па сутнасці ж, гэтыя дзеячы часта выступаюць як правакатары. Падбіваюць на падазронасць, нецярпімасць...

Апейка адчуў у голасе яго трывогу, падумаў, што Белы, мабыць, не першы раз думае пра гэта і, можа, не першы раз гаворыць.

— Адзін чалавек — можна сказаць, звычайны, абмежаваны, з неабмежаванай хіба амбіцыяй — ставіць сябе над дзесяткамі партыйцаў, над цэнтральнай партыйнай камісіяй! Выбранай з'ездам! І ніхто там не выступіў супроць яго! Усе палічылі гэта нібы нармальным!

— Слухалі яго, можа, таму, што ён усё ж не радавы камуніст. З павагі да пасады...

— Можа быць...— Белы раптам прамовіў: — Нягоднік з пасадай — гэта нягоднік у квадраце. У кубе.

Ён устаў, як бы паказваючы, што гаворку канчае. Ужо каля дзвярэй затрымаўся, перад тым як падаць руку, сказаў:

— А Галенчык спраўдзіў пагрозу. Напісаў. Тлумачыць прыходзіцца...— Не выпускаючы руку, дадаў: — Але вы не хвалюйцеся. Я растлумачу ўсё. Як належыць.— Белы вымавіў «растлумачу» спакойна, з годнасцю...

## 2

Вячэралі ў рэстаране ўпяцёх за адным сталом. Анісся, яе новая сяброўка, вусаты, гаварлівы старшыня калгаса з-пад Полацка, рухавы, увесь у бліскучых рамянях камандзір-пагранічнік, Апейкаў сусед па пакоі. Кампанія была выпадковая,— і выпадковая, раскіданая, аж лішне вясёлая, гаворка была за сталом. Прычынай таму быў, мусіць, рэстаран: чысціня, бляск, гоман навокал, агульная святочнасць у зале; напэўна, памагала і піва, якога нямала такі выпілі за вечар. Вусаты старшыня нібы жартам падладжваўся да Анісі, якая прыкметна раставала, час ад часу адно няёмка паглядваючы на Апейку. Увесь вечар ёй дзіўна хацелася рагатаць. Сяброўцы таксама было весела; асвойтаўшыся з прасцецкім, таварыскім пагранічнікам, яна дапытвалася з захапленнем і страхам: «А шпіёнаў вы лавілі?.. А якія яны?.. А няўжо ж вы іх так проста бачылі? І не страшна было?!» Пагранічнік ухіляўся гаварыць пра сваю справу, ахвотна і дасціпна расказваў усялякія вясёлыя гісторыі, анекдоты, чым выклікаў аж раўнівую зайздрасць у палачаніна: Аніся таксама з захапленнем смяялася пагранічніку...

Апейку, хоць ён з-за таварыскасці падтрымліваў кампанію, было не вельмі весела. Была нейкая хваравітая ўзрушанасць, і гаварыў неспакойна, і слухаў нецярпліва, і ўвага была прычэплівая, зласлівая. Не падабалася легкадумнасць зямлячкі, злавала назойлівая, не заўсёды разумная балбатлівасць старшыні. Адно пытанне яго ледзь не прарвала Апейкаву стрыманасць. Вельмі сур'ёзна і разам з усмешачкай, як бы звысака, вусаты запытаў: «А праўда — вашы кажуць: «Палешукі мы, а не чалавекі»?» Ён захіхікаў, пакруціў галавою: дзівакі! Апейка толькі і сказаў з насмешкаю: «Не чуў! Прыеду — папытаюся!..»

Ён першы ўстаў з-за стала. Папрасіў прабачэння, развітаўся. У пакоі адразу ж раздзеўся, лёг у пасцель. Думаў, тут жа засне, але сон не ўзяў.

Па сцяне пайшоў водбліск нейкага святла, нейкія ўзоры; здалося, нібы сцяна зрушылася, нахілілася, папаўзла дзіўна, коса; ён здагадаўся, што водбліск — ад фар аўтамабіля. Праз некалькі хвілін святло зноў папаўзло, зрабіла ўсё зноў няпэўным, незвычайным; паў-

злі зноў дзіўныя ўзоры, знакі, што як бы дадавалі ўражання незвычайнасці. Ён падумаў: ад чаго гэтыя знакі,— ад фіранак, ад рам, ад галін са скверу? — але ўражанне незвычайнасці, няпэўнасці так і асталося ў душы. Ніяк не ішло супакаенне. Бачанае ўдзень, чутае, сказанае лезла ў галаву, нагадвала, хвалявала.

Учапілася недарэчна: «Ці праўда — вашы кажуць самі: «Палешукі мы, а не чалавекі»?» Пашкадаваў: дарэмна не адказаў як след. Адбыўся жартам. Трэба было сказаць як мае быць. Не знайшоўся. У яго заўсёды разумнае прыходзіць у галаву потым...

«Самі кажуць: «Палешукі мы, а не чалавекі». Чаму гэта пайшло так шырока? Чаму ў гэта вераць? Ці таму, што яно падобна на анекдот; як анекдот, як парадокс, урэзваецца ў памяць? А людзі бяруць на веру, дзівяцца. Вераць... І газеты нават пішуць часам: раней палешукі самі гаварылі: «Палешукі мы — не чалавекі». Праўда, разумныя людзі ў газетах тлумачаць гэта праклятым мінулым: людзі былі такія цёмныя, дзікія, што не лічылі нават самі сябе за людзей, чалавекаў. За каго ж яны сябе лічылі?

У гэтым — цяпер, у неспакойнай цемры асабліва — Апейка чуў нешта вельмі крыўднае, абразлівае. Ён чуў гэта і як крыўду сабе — усё ж ён ніколі не забываў, што сам паляшук,— і як крыўду тым, з кім жыў, каго любіў. Ці ж не абраза верыць, што чалавек так прынізіў сябе, так звык душою да гэтага, што ўжо нават і за чалавека не лічыць сябе. Да такой нікчэмнасці дайсці!..

Гэта не толькі крыўдзіла Апейку, але і злавала, як мана. Гэта была — мана. Няхай часта не ад пагарды, але — мана, мана. Колькі ні жыў у сваёй старане, начуўшыся ўсяго ўсякага,— ні разу не чуў гэтага: «не чалавекі». І не чуў, і не адчуваў... Не было такога.... Была цёмнасць, наіўнасць, дзікасць нават. Што было, тое было. Але здзеку з сябе такога — не. Не было. Хіба што так, для выгляду, з хітрыкаў якіх, для якой-небудзь сваёй карысці. З хітрыкаў — гэта маглі, для якой-небудзь выгады — маглі сказаць і што-небудзь падобнае; сказаць, каб потым парагатаць з нягеглясці таго, хто паверыў. З даверлівай дурнаты. Як маглі не заўважыць: у многіх з гэтых «нечалавекаў» век жыло перакананне, што яны вышэй за другіх. Што ў іх і «законы» і парадкі лепшыя, і яны самі — разумнейшыя.

Што ёсць, тое ёсць. У якой-небудзь гіблай, за гушчарамі, за багнамі вёсачцы — не дзіва: дзядзькі ці цёткі падсмейваюцца з суседзяў з-за балота, пацяшаюцца з гарадскіх — звычаяў і парадкаў. З убораў гарадскіх паненак, з дурнаты гарадскіх дзядзькоў,— што, трэба ж такое, не ведаюць, чым кормяць цялят і як растуць булкі. Ці не ад гэтага перакананне і ў казках: усякі пан — дурань, і нават мужычы дурань з дурняў Іван разумнейшы за самага разумнага пана?.. «Палешукі мы, а не чалавекі...» Апейка падумаў: дзе-дзе, а ў іх старане дык аж лішне гэтага непахіснага перакананне ў сваёй дасканаласці. Дзе-дзе, а тут лішне ўжо любілі іншыя пахваліцца, пакрасавацца, паказаць сваю хітрасць, свой розум. Ён успомніў палескі жарцік, не раз чуты дома: «А за Гомелем людзі е?» — «Е. Толькі — дробненькія». Успомніў — і сам сабе засмяяўся: ці не ад іх, не ад юравіцкіх, пайшло гэта ў свет?

Ён раптам пашкадаваў: усё ж непагана было б, каб гэтай веры ў сваю дасканаласць, сваю перавагу было б трохі менш! Менш яе і менш — недаверлівасці да ўсяго, што ідзе ў сёлы. Лягчэй было б рабіць з людзьмі, весці на новую калгасную дарогу.

Адсюль развагі падышлі зноў да таго, пра што ён думаў не раз раней: як мала ведаюць пра Палессе, пра вялізны балотны край, пра мільёны людзей! Большасць, нібы культурных, людзей, калі даводзілася гаварыць пра Палессе, прыгадвала някрасаўскае: «Видишь, стоит, изможден лихорадкою, высокорослый больной белорус... Ноги опухли... колтун в волосах...» Іншыя ўспаміналі што-небудзь падобнае на «палешукі мы, а не чалавекі...». Апейка пачаў перабіраць у памяці, што гавораць пра Палессе кнігі. Ён чытаў іх усе, якія мог дастаць. Некалькі талковых кніг пра прыроду — пра лясы, балоты, пра птушак, пра звяроў; некалькі зборнікаў — запісаў казак, песень ды звычаяў. З іх маляваўся воблік народа: ціхія, дзікія, у палоне забабонаў. У гэтым таксама было нямала праўды, але як далёка было да вялікай праўды! Як мала — пра бязмежна багатае людское мора, імя якому — народ!.. Ад чаго гэта? Ад імкнення спрашчаць? Імкнення да нейкай простай, зручнай высновы?..

Думаючы, згадваючы, Апейка прыкмячаў недавольна, што ў душы яго ўсё нейкае хваравіта ўзрушанае,

чулае, што нават на звычайныя думкі адгукаецца яно неспакойным, вярэдлівым хваляваннем. Было нешта ад той узрушанасці, з якой ён сядзеў у рэстаране, тольκі цяпер, на адзіноце, сярод цемры, усё гэта чулася мацней. Тут ён злавіў сябе на адчуванні, што аб чым ні думаў, за ўсім чуў большае, больш важнае, больш трывожнае. Ён знарок чапляўся думаць пра іншае, спакайнейшае, стараўся не трывожыць сябе; але і думаючы пра іншае, ён не мог не чуць водсвіту таго, больш важнага і паганага.

Яно ўсё вісла над ім, навальвалася, гняло. Усё намагалася прарвацца ў думкі. Ведаючы, што ні да чаго добрага не дадумаецца з ім, Апейка гнаў яго, спадзеючыся, што ўсё абыдзецца, што прыйдзе патрэбная бяздумнасць, спакой. Трэба было спаць: выспацца перад не абы-якім заўтрашнім днём. Але спакой не ішоў.

«Цьфу ты, як хвароба! — вылаяўся ён.— Лезе ўсякае! Усякая непатрэбшчына!.. Знайшло час!..» Ён павярнуўся на другі бок, паспрабаваў яшчэ заснуць, але адчуў, што супакоіцца не зможа, і перастаў ужо гнаць тое паганае і трывожнае. «Галенчык... Пільны і непахісны Галенчык. Усё-такі напісаў!.. Белага адклікалі!.. Дабіўся!.. Значыцца, не скончылася. Значыцца, чысціць будуць яшчэ!.. І, значыць, можа яшчэ павярнуцца і інакш!..» Гэта ж яго шчасце, што там аказаліся Белы і Беразоўскі! А каб не Белы, а яшчэ адзін Галенчык? Ці ж цяжка было трапіцца яшчэ аднаму такому?.. Мяркуючы ж па тым, што казаў Белы, і тут ёсць свае Галенчыкі. З большай сілаю... Вунь як ухапіўся павярнуць гісторыю з Зарэцкім! На цэлую партячэйку, на ЦКК адважна замахнуўся!..

Зноў убачыў, як зрушыла, нахілілася, коса папаўзла сцяна; стала потырч, упала ў цемру. Адолеў, адагнаў кволасць. «Глупства ўсё! Далікатныя нервы! П'яны хмель!.. Піць не трэба было! Не трэба!..»

Раптам ён нібы зноў пабачыў сябе ў пакойчыку з вазонамі, раскіданыя паперы на стале; Алесь як бы і цяпер сядзеў, звесіўшы галаву. «За што ж цябе гэта?» — «За веру...» У момант, з незвычайнай яркасцю, уражлівасцю, урыўкамі, што ішлі без парадку, абы-як, зноў апанавала яго бачанае, чутае там. Памчалі, закружыліся, як бы радуючыся, што прарваліся, думкі пра Алеся, пра яго лёс.

Чаму ■ ім так абышліся? Таму толькі, што сказаў тое, што думаў? У чым яго парушэнне камсамольскага статута? Парушыў дысцыпліну — не згадзіўся з думкай райкома? Але ж сіла наша — не ў бяздумнай дысцыпліне, сіла — у калектыўным розуме, і — у калектыўным сумленні. Дысцыпліна павінна быць зліта з сумленнем, ■ перакананнем. Нават ваенная дысцыпліна — лепш за ўсё, калі яна свядомая. Тым больш гэта трэба — камсамольскай, партыйнай. Трэба пераконваць, даводзіць — асабліва там, дзе ўсе маладыя, зялёныя. Чаму ж зразу — камандныя вокрыкі? Чаму зразу — пракурорскі прысуд? Зразу — выкідаць?!

Хіба тое, што ён сказаў, папярэчыць чым-небудзь генеральнай лініі партыі? Чаму ж — выкінулі?! Чаму так абышліся з сумленным, адданым нашай справе чалавекам? Чалавекам — вельмі каштоўным. Не толькі таму, што ён — паэт, талент, а і таму, што — прыгледзеліся б — *чалавек* які! Іменна ж такія — з характарам, з моцным сумленнем, ■ цвёрдай прынцыповасцю — аснова ва ўсякай вялікай справе. Іменна яны — сыны і ўнукі тых, хто калісьці ішоў і на катаргу і ў ссылкі з-за сваіх перакананняў. Іменна такія могуць выстаяць у часіны трудных выпрабаванняў, выстаяць, не пахіснуцца; такія не будуць адседжвацца ў зацішку. Іменна яны, а не тыя, хто і цяпер, у мірны час, адседжваюцца, адмоўчваюцца, туляюцца, што гатовы, наперакор свайму заечаму сумленню, «разумна» глядзець на ўсё, больш за ўсё асцерагаючыся якой-небудзь рызыкі. Чаму прыстасаванец з душой слізня іншы раз больш даспадобы, чым характар сумленны, надзейны, але неспакойны? Ён сказаў, што — сумняваецца? Што ж — дакажыце, пераканайце яго, не пашкадуйце часу і клопату. Іменна ў такіх неспакойных, адкрытых, прынцыповых — сіла народа, сіла партыі. Жывая сіла.

Ён заступіўся за чалавека; а чаму ён не мог заступіцца, калі не ўпэўнен у тым, што той вінаваты? Хіба б лепш было, каб ён, не ўпэўнены, што чалавек — вінаваты, наперакор свайму сумленню, прамаўчаў бы? Каб ён — па сутнасці — зрабіў подлы ўчынак! Чаму ж ён, зрабіўшы подлы ўчынак, мог бы хадзіць між таварышаў, вучыцца, тады як, паступіўшы сумленна, апынуўся па-за таварыскай гурмой, стаў і не камсамольцам, і нават не студэнтам?.. Чаму — праўда, думаў Апейка,

згадаўшы тое, што казаў Алесь,— абараняць цяжэй, чым абвінавачваць? Чаму — праўда — той, хто абвінавачвае, загадзя стаіць нібы вышэй? Нібы ўжо самім тым фактам, што можа абвінавачваць, нападаць — даказвае сваю адданасць!Чаму,— адкуль гэта ўзялося? — той, хто каго-небудзь абараняе, рызыкуе нібы паказаць сваю мяккацеласць, трапіць у апартуністы? Адкуль гэта ўзялося, як яно пранікла ў наша паветра: што прынцыповасць — гэта толькі, ці найперш,— выкрываць, абвінавачваць? А калі вінавацяць — невінаватага, сумленнага партыйца? Вінавацяць без пераканаўчых доказаў? Хіба ж гэта менш важна, менш прынцыпова — заступіцца за таварыша, падтрымаць яго? Хіба ж прамаўчаць, не падаць руку падмогі таварышу, на якога нападаюць без падстаў,— не беспрынцыпнасць сапраўдная? Яшчэ горшая! Падобная на здраду!..

Апейка зноў апынуўся ва універсітэцкім пакойчыку, пачуў злое: «Адкалоўся... Дакаціўся!.. Стаў прыслужнікам!.. Паслугачом нацдэмаўскага ахвосця!..» Нанава стаў перабіраць у памяці, што казаў Алесь пра Гартнага. Не падобна было, што хлопец затлумлены проста: вельмі ж цвяроза, разумна разважаў. Не, тут было не сляпое захапленне. Канешне, што да Гартнага, ён мог і не ведаць усяго; таго-сяго на сходзе маглі не сказаць па якіх-небудзь прычынах,— чаго-небудзь, можа, пакуль нельга было пускаць шырока. Можна было дапусціць і такое, што Гартны перарадзіўся. Апейка не мог бы абсалютна паручыцца за Гартнага, але ў яго, з таго, што ён ведаў, не было і ўпэўненасці, што Гартны — вораг, што Алесь памыляецца. Мімаволі прыйшло ў думкі: ці не было тут, з Гартным, падобнага на тое, як «выкрываў» Галенчык яго, Апейку? Таксама ж прамова была «пераканаўчая», з «фактамі»! І тут ці не «факты» такога ж парадку і тая ж праўда?!. Памяць нагадала,— калі так проста было абвінаваціць у «контррэвалюцыйнай прапагандзе» адну з цэнтральных газет, то хіба ж не маглі так жа прышыць бірку «нацдэма», ворага, аднаму чалавеку? Тым больш, што чалавек гэты мог быць і не зусім не вінаваты; хоць вінаваты зусім па-іншаму. Як бальшавік, што рабіў памылкі ў рабоце.

Адразу падумалася: колькі ў любога чалавека, асабліва з тых, хто на кіруючай рабоце, такога, к чаму

можна пры ахвоце прычапіцца! Прычапіцца, крыва расталкаваць, перавярнуць усё дагары нагамі. І калі *такое* могуць зрабіць з чалавекам, які адданасць сваю даказаў даўно і ясна, то як жа тым, у каго такіх доказаў няма? У каго звычайная біяграфія, а то яшчэ і пляма якая — брат кулак ці яшчэ які чорт?

Лупіць з-за пляча, канешне, лягчэй, чым развязваць, разбірацца. Лупіць з-за пляча яно і больш «надзейна»; само па сабе відно — рэч «прынцыповая». Але ж сячы з-за пляча добра было, калі конь імчаў цябе насустрач ворагу, яўнаму ворагу; тады, калі не было як разбірацца, калі трэба было дзейнічаць адразу. Сячы — гэта неабходнае ў вайну, супроць яўнага ворага. Але як сячы тут, дзе наступаюць не ланцуг на ланцуг, дзе свой і вораг разам, дзе добрае і злое пераблыталася, сплялося; дзе лёгка сеікануць шабляй не толькі па ворагу, ▪ і па сваім? Чаму ж іншыя гатовы секануць па табе толькі за тое, што ты хочаш разабрацца, перад тым як узняць сваю шаблю? Што ты хочаш, перш чым рашыць, разблытаць, разгледзець таго, хто перад табой? Пільнасць,— пільнасць якраз і павінна быць зліта з уважнасцю, з імкненнем разабрацца ва ўсім добра!..

Апейка ўспомніў, што казаў Белы пра Бухімовіча, і падумаў: не памыліўся Белы; такі Бухімовіч, і праўда, можа быць як правакатар — са сваёй яўнай архіпільнасцю і тайным кар'ерызмам. Што, калі такія Бухімовічы ды Галенчыкі — пры іх галасістасці ды нахабстве — возьмуць сілу, калі не адзін, не два такія, пры цяперашніх акалічнасцях, возьмуць сілу,— чаго яны наробяць са сваёй архіпільнасцю? Пры такім парадку, калі вольна будзе нападаць на кожнага, хто захоча разабрацца, выключаць тых, хто намерыцца заступацца? Калі даць волю такім, каму хочацца — для справы, вядома! — надзвычайных мер і правоў? Каму не церпіцца секануць з-за пляча? Калі моўчкі дазваляць награвацца «страсці».

Ён падумаў, што такія людзі і такія тэндэнцыі, калі іх не стрымаць, могуць зрабіць нетрывалым становішча ледзь не любога чалавека. Апейка тут жа запярэчыў сабе, што тэндэнцыя гэта жыве толькі таму, што пакуль мала праявілася: не заўважылі, як трэба, шкоду яе; калі ж толькі праявіцца, ёй дадуць бой. Прышчэмяць, як гадзюку, што ўпаўзла ў дом.

Яму верылася, што гэта — да пары, што прыйдзе пара, і недалёкая,— і ■ усім гэтым разбяруцца, як трэба. «Чаго ты хочаш? — спрачаўся ён сам з сабою, цвярозы, разважны.— Каб проста было ўсё? Не будзе проста. Складана будзе ўсё. Бо — складаны час. Вораг не той, што ў грамадзянскую. Не тымі метадамі дзейнічае. Асцярожна, спадцішка. Затоены, пад друга маскіруецца. Усміхаецца, як друг. Не ўсякага зразу раскусіш. А трэба — выкрыць. Абясшкодзіць. Каб не ўсадзіў нож у спіну табе!.. Таму трэба пільнасць, надзвычайная пільнасць! І нічога не зробіш, іншы раз яна будзе перарастаць у падазронасць! І лагоды, далікацтва — не будзе! Барацьба не спрыяе далікацтву! Барацьба ёсць — барацьба! Барацьба патрабуе рашучасці, робіць жорсткім. Гэта — непазбежна... Нельга зваць да лагоднасці. Гэта аслабляе ў барацьбе! І гэта — пры барацьбе — проста немагчыма. Трэба быць цвёрдым, рашучым, напагатове заўсёды! Такі закон барацьбы. Азбука барацьбы. Ты добра ведаеш гэта.— Але нехта іншы ў Апейку і згаджаўся з першым, і спрачаўся: — Ведаю. Але той жа закон барацьбы кажа: адзін у полі — не воін. Помні, што побач плячо друга. Памагай таварышу, ён — паможа табе. Толькі ■ таварышамі ты — дужы, ты — баец!..»

«Уся соль у простай ісціне: разбірацца, хто — друг, хто — вораг. Берагчы друга, нішчыць ворага. Такая простая ў думках і такая няпростая *ў жыцці* ісціна. Дзе ворага можна палічыць за друга, а друга — за ворага!.. Пільнасць, уважлівасць, суд сур'ёзны, справядлівы — адзін закон, абавязковы для кожнага. «Толькі факты, бясспрэчныя факты»,— помніць заўсёды!..»

«Так, усё можна давесці да абсурду, да шкоды,— згадзіўся ён, успомніўшы Алесевы словы.— Ва ўсім — праўда — патрэбна пачуццё меры. Пачуццё *рэальнасці...»* Успомніўшы Алеся зноў, Апейка думаў ужо толькі пра яго. Перабіраючы гаворку, Апейка чуў цяпер неадступнае нездавальненне сабой: ён не зрабіў усяго, каб правільна накіраваць хлопца. Дзіўна, ён, вопытны чалавек, у гаворцы з хлопцам часта не знаходзіў патрэбных слоў. Зялёны хлопец сваімі гарачымі думкамі часта нібы адольваў яго, старэйшага і вопытнага. Усё таму, мабыць, што ён, Апейка, аказаўся негатовым да такой гаворкі. Мала ведаў, стаў як бы вучнем. Узяло

трывожнае, бацькоўскае: «Каб не надламала гэта ўсё хлопца! Мы — што, мы — старыя ваўкі, тоўстая скура. Нас цяжэй збіць. А яму як, кволаму парастку? Ды яшчэ — з чуласцю яго!..» Апейка падумаў, што трэба зрабіць усё, каб памагчы хлопцу, выратаваць яго...

Ужо вярнуўся камандзір-пагранічнік, упоцемку раздзеўся, скрыпнуў ложкам, захроп, а яму ўсё не спалася. «Інтэлігенцкая мяккацеласць»,— сказаў бы Башлыкоў.— Сам падумаў з папрокам сабе: — Усё ж нервы распусціліся... І — не трэба было піць...» Намаганнем волі прымусіў сябе супакоіцца зусім: трэба спаць, заўтра важны дзень.

Засынаючы ўжо, убачыў — апошні раз,— як па сцяне коса паплыло святло з плошчы. Паплыло і прапала.

## РАЗДЗЕЛ ТРЭЦІ

### 1

Чым далей адыходзіў той дзень, калі ўпершыню пайшла па Куранях чутка пра перарэзку зямлі, тым больш рэдкімі і спакайнейшымі станавіліся гаворкі пра яе. Можна сказаць, што тыя, якія не асабліва трывожыліся, пачуўшы пра перарэзку, цяпер яе за клопатамі і зусім амаль не згадвалі. Іншыя, каго перарэзка палохала, цяпер думалі пра яе без ранейшага страху, усё больш прызвычайваліся да надзеі, што нічога такога не будзе, што ўсё абыдзецца адным спалохам.

Як нядобры напамінак, што бяда не мінула, даходзілі раз-пораз Міканоравы і іншых калгаснікаў размовы, што перадзел, або, як Міканор казаў,— землеўпарадкаванне, рана ці позна будзе абавязкова. Тады трывога зноў находзіла на многія куранёўскія двары, нанава ўздымала прыціхлыя ўжо гаворкі пра зямлю, пра справядлівасць, пра Міканоравы падкопы. Але праходзіў дзень, другі, і ўсё цвярдзей пераконвалі, супакойвалі адзін аднаго, што Міканор проста страшыць, каб ахвотней ішлі ў калгас, што Міканору таксама не ўсё можна. Няма, казалі, такога закону, так што няхай не пужае: усё роўна не даб'ецца свайго. І праўда, час нібы падмацоўваў гэтыя надзеі: дні ішлі ды ішлі, а каморніка не было.

І вось, калі ўжо амаль звыклі, што ніякага перадзелу не будзе, каморнік паявіўся. Міканор вёз яго сярод дня, і з выгана, з двароў, з вокан багата хто з куранёўцаў бачыў, як, спусціўшы ногі з драбінак,ківаўся ў Міканоравых калёсах па-гарадскому апрануты хлопец. Перад Міканорам стаяла, заўважылі, нейкая зеленаватая скрынка, ляжала штосьці ў чахле, было яшчэ штосьці, чаго не разабралі; але і без таго ўсім было відаць: на калёсах везлі нейкае важнае абсталяванне. Значыцца, чалавек ехаў на важную справу. Усім было хутка вядома, што Міканор прывёз чалавека на свой двор, што ўсё абсталяванне памог занесці ў сваю хату. Што чалавек і застаўся ў Міканоравай хаце; будзе, мабыць, там жыць. Яшчэ да таго як Міканор сказаў, каго прывёз, па Куранях пайшло здагадлівае: «Каморніка прывезлі!.. Рэзаць землю будуць!..»

Не прайшло паўз увагу куранёўцаў і тое, што трохі пазней, перад абедам, прыехаў да Міканора яшчэ важны госць, Гайліс — цяперашні старшыня сельсавета. Неўзабаве, паабедаўшы, каморнік, Міканор, Гайліс, Хоня і Алёша выйшлі з хаты, загуменнем, дзе было не так гразка, падаліся ў поле. Куранёўцы, якім пашчасціла ўбачыць гэта з прыгуменняў ды агародаў, пераказвалі потым іншым, што ў полі за гумнамі каморнік, Гайліс і іншыя нейкі час стаялі, пра штосьці раіліся. Як пра надзвычайную асаблівасць, расказвалі тыя, хто бачыў, што у каморніка бялела нейкая папера, да якой хіліліся і Гайліс і іншыя. Расказвалі, што было відаць, як усе раз-пораз падымалі галовы ад паперы і нібы шукалі штосьці ў полі. З гэтага здагадлівыя куранёўцы выводзілі, што папера мела нейкае вельмі важнае значэнне для ўсёй справы. У ёй нібы значыўся не знаны пакуль куранёўцам лёс...

Ад загумення каморнік, Гайліс, Міканор, Хоня і Алёша, пра нешта гамонячы між сабой, пайшлі паўз сяло да выгану, дзе тырчэлі голыя кроквы пустой, без варот, калгасаўскай канюшні. Канюшня сама, было відаць, іх не цікавіла; Міканор адно на момант затрымаў іх, сказаў штосьці, але ўсе амаль адразу ж пайшлі далей. Яны, можна было здагадацца, падаліся да выгану таму, што паўз яго ішла з сяла мокуцьская дарога. Гэтай дарогай усе чацвёра і пайшлі ў поле, пакуль не сталі зноў, разглядваючы паперу, якую выняў з сумкі

на баку каморнік. Калі каморнік схаваў паперу, збочылі з дарогі і падаліся полем, напрасткі праз палосы; дайшлі ледзь не да самага Церамоскага лесу. Ад Церамоскага лесу, што чарнеў ужо голы, але нават цяпер густы сваімі зараснікамі, ад чорнага мокрага і панурага балацянага гушчару павярнулі крута ўлева, зноў праз палосы, напрасткі. Можна было здагадацца, паказвалі каморніку, якая яна, куранёўская зямля: то рабая, у белых і чорных плямах, то зусім чорная, балотная каля Церамоскага лесу, каля мяжы бяскрайніх балот, што пачыналіся ў лесе; то ўсё больш жоўтая, больш пясчаная, па меры таго, як балота і мокры лес адыходзілі далей. Недалёкі збоку лес проста на вачах мяняўся: усё больш і больш зеляненелі сосны, якія неўзабаве ішлі ўжо аднастайным і дружным зборам. І проста на вачах мянялася і поле: ці даўно было рабое, з жоўтымі плямамі, а вось ужо адзін, бураватажоўты, прыбіты асеннімі дажджамі, россып. Неахвотна, рэдка бярэцца трава; па пожні відаць, якая няшчодрая тут зямля: пожня рэдкая, сцяблінкі — тонкія, кволыя, чэзлыя. Каляіны дарогі, што ідзе тут, у сасняк, на луг, у Мокуць, глыбокія і сыпучыя, поўныя пяску, травы абапал мала і кволая, дарога ўся — голая, сумная.

Ад мокуцьскай дарогі да міхалеўскай — дарогі на Міхалі — самыя бедныя палі: пясок і пясок. Толькі за міхалеўскай дарогай поле мяняецца: пясок прападае, пачынаецца зямля, калі і не вельмі шчодрая, то хоць такая, якая пры добрым доглядзе, добрым гнаі і пры добрым надвор'і аддзячыць, пракарміць можа. Тут каморнік і ўсе, хто былі з ім, таксама стаялі, разглядвалі паперу — план зямельных абшараў Куранёў,— звяралі з тым, што бачылі сваімі вачыма. З аднаго боку быў блізка лес, цяпер ужо найбольш бярозавы, самы прыгожы ў Куранях лес; з другога — недалёка відネліся цёмныя, гарбатыя куранёўскія гумны, платы, там-сям раскіданыя дрэвы,— вузкія, цесныя ахвяраваў цярплівым куранёўцам абшары ўсемагутны ўсявышні. За двума радамі куранёўскіх хат амаль адразу ж пачыналася балота: нядоўгія агароды па той бок краем сваім улазілі ў чорную грэзь.

Міканор, і калі ішлі полем, і калі стаялі, аглядвалі поле, расказваў каморніку і Гайлісу, дзе чые надзелы,

як родзіць зямля жыта, проса, авёс. Часам ён гаварыў пра таго ці іншага куранёўца: што за чалавек, як жыве — багата ці бедна, якім «духам» дыхае. Вялікаваты, сутулаваты, ён ступаў шырока і дужа, і на рабым, пакляваным воспаю твары, у дробных шэрых вачах пад рэдкімі, ледзь прыкметнымі брывамі быў выраз рашучасці і цвёрдасці. Ён часта аглядваў поле, і аглядваў не бесклапотна, а сабрана, увесь час разважаючы сам сабе, вымяркоўваючы. Часам ён гаварыў і каморніку, і Гайлісу, дзе каму адвесці зямлі, які надзел, загадзя як бы папярэджваў, каб не было выпадковасці, несправядлівасці да некаторых, бяднейшых. Ён між іншых прыгадаў і Глушака, і Нібыта-Ігната, і Пракопа і рашуча заявіў, што гэтых трэба падрэзаць; даволі ўжо, сказаў, параскошаваліся яны на багатай зямлі, якую нахапалі праўдаю і няпраўдаю. Сказаў ён, што і Васіля Дзятла пасадзіць на месца не шкодзіла б, і калі Гайліс запярэчыў, што Васіля нельга крыўдзіць, сказаў, што і гэты «па духу» падобны да кулацкай нечысці. Ён хмурна пашкадаваў, што мала людзей у калгасе, што і на той плошчы, якую адвядуць, не вельмі разгорнешся; от калі б угаварыць хоць бы паўсяла ды адвесці пад калгас і тое, што каля цагельні, і гэтае поле! Ён глядзеў на гэтае поле, нібы меркаваў ужо, што б можна было тут зрабіць, калі б яно было калгаснае. У тым, як ён глядзеў, што казаў, адчувалася, што ён поўны нецярплівага разумення важнасці моманту, што ён без меры задавольны, што момант гэты, нарэшце, наступіў. Што ён проста прагне дзейнічаць і што дзейнічаць гатоў смела і рашуча.

Гайліс, драбнаваты побач з Міканорам, стройны ў перацягнутым папругаю шынялі, у зеленаватай фуражцы, увесь нейкі акуратны, прамы, таксама аглядваў поле і, як было відаць па твары, са зграбнымі строгімі рысамі, з блакітнымі яснымі вачыма, таксама меркаваў пра важныя перамены, якія неўзабаве павінны быць і ў якіх багата што будзе залежаць ад яго. Было відаць, што ён таксама разумее важнасць гэтага моманту: недарма ж, звычайна сухаваты, дзелавіты, ён трымаўся тут проста такі строга; як бы выглядам сваім, паводзінамі паказваў, што ён не дапусціць ніякага, самага дробнага адыходу ад закону, па ўсіх правілах выканае абавязак, які належыць зрабіць яму на яго па-

сту. Стрыманы, ён гаварыў вельмі мала, і кожнае слова яго было дакладным і кароткім. Можа быць, ад гэтай яго строгасці і Хоня, і Алёша ішлі сур'ёзна, гаварылі толькі важнае, як бы таксама паказваючы, што і яны ведаюць, за што бяруцца, і гатовы памагчы, як толькі здолеюць.

Каморнік быў зусім малады хлопец, дробны, белявы, з мяккім, беленькім пушком на шчаках. Апрануты ў чорную, зацяганую ватоўку, з кепкай, якая таксама пабачыла ўсяго, у лапленых, ■ наліплай глінаю вялікаватых ботах, ён трымаўся на дзіва стала, упэўнена. Было відаць, што гэты хлопец звык быць сярод людзей, сярод незнаёмых і сярод начальства; толькі што паявіўшыся ў Куранях, ён ні трохі не бянтэжыўся, нібы ішоў між даўніх, звыклых знаёмых. Было відаць таксама, што ён звык да сваёй важнай ролі, да пачцівасці і ўвагі ад тых, да каго прывяла яго справа. У ім адчуваўся гонар не толькі сваёй роляй, а і той незалежнасцю, якую давала гэта яго роля і якую ён не раз паказваў. Ён з годнасцю слухаў, што казаў Гайліс, ні разу не паспяшаўся згадзіцца: ён нібы пакідаў за сабой права падумаць і рашыць адпаведна сваім інструкцыям і свайму абавязку. З Міканорам жа ён абыходзіўся яшчэ вальней: не раз хлопец паказваў, што і слухаць не хоча непатрэбнае, назольнае гаварэнне...

Між лесам і сялом цераз палосы пакіравалі да залешніцкай дарогі, якая за полем знікала ў голым зарасніку, што атульваў не так даўно пабудаваную пад Міканоравым кіраўніцтвам грэблю. Ішлі проста на дружную купу асін і соснаў, што высіліся на цагельні. Дужа, нецярпліва крочачы побач з каморнікам, Міканор яшчэ зводдалек стаў тлумачыць, што тут, па абодва бакі дарогі,— найлепшая куранёўская зямля, куранёўскі чарназём, на якім уваткні сухую палку — вырасце дрэва! Масла, а не зямля! Акідваючы яе неспакойным позіркам, ён сказаў каморніку, што гэта і ёсць тая зямля, якую вырашана выдзеліць калгасу.

— Па еты бок яе небагата, а па той — за дарогаю — яна ўся такая. Да самаго лесу...— Міканор сваім нецярплівым, шырокім крокам увесь час выбягаў наперад іншых; ён і цяпер выбег, схамянуўся, стрымаў сябе. Падыбаў поруч з іншымі.

Каля цагельні каморнік зноў стаў, праверыў карту, адзначыў штосьці алоўкам. Потым зноў пайшлі полем, усцяж лесу. Туды, дзе поле канчалася.

2

Калі, стомленыя, вярталіся — спачатку дарогай, потым вуліцай, ціснучыся да платоў,— пачынала вечарэць.

Праз якую-небудзь паўгадзіну па Куранях хадзілі пад вокнамі пасыльныя, загадвалі збірацца ў хату Андрэя Рудога на сход. Вельмі скора паўз платы, па агародах, загуменнях куранёўцы пачалі брацца да таго двара, дзе жыў Руды. Збіраліся з рэдкай для апошніх дзён упраўнасцю: разумелі — у гэты вечар нельга адседжвацца дома, як тады, калі сход збіралі пра калгас; сёння можна было, чаго добрага, прасядзець дома найбольшае багацце сваё — зямлю. Ішлі, неслі трывогу, блытанасць чутак, ваяўнічасць і страх, надзеі і нецярплівыя здагадкі — што дасць гэты сход.

Быў нейкі час пасля змяркання, калі дзверы амаль не зачыняліся ў хаце Рудога, амаль няспыннай чарадою праходзілі куранёўцы паўз асветленыя вокны, тупалі на ганку, увальваліся, жмурачыся, аглядваючыся, у хату. Хутка абселі ўсе лаўкі, скрыню, ложак, палаці, пачалі ціснуцца каля дзвярэй, каля печы. Неўзабаве перасталі ўжо зачыняць дзверы: патроху набівалася народу і ў сенцы. Гамонка гула ціхая, стрыманая, мужчыны найбольш смакталі папяросы. Дымілі так дружна і так зацята, што яшчэ да таго, як сышліся ўсе, папяровыя фіраначкі з выразанымі дасціпнымі ўзорамі, малюначкі з газет і часопісаў, наклееныя на сцены, лямпа пад столлю былі ўжо нібы за туманам. Жанкі папракалі, лаялі, прасілі, але нішто не памагала. Дым поўз і поўз з усіх куткоў.

Як заўсёды, большасць жанок трымаліся купкамі; у цэнтры адной з іх былі Сарока і Чарнушкава Куліна, якая горача махала рукамі, штосьці даказвала, нечым абуралася. Сарока і слухала, і гаварыла спакойна, разпораз нецярпліва паглядваючы, што робіцца між іншых, сярод мужчын. Каля скрыні, на віду і блізка ад стала, мірна гаварыў штосьці Міканораву бацьку стары Глушак, без шапкі, у кажусе; Дамецік, было відаць,

слухаў неахвотна, хацеў адысці, але не адыходзіў і ўсё ж слухаў. Побач са старым, як нейкі страж, гарбаціўся затоены, звераваты з выгляду Пракоп Лясун, з-пад ілба, з-пад чарнаты броваў таропіўся кудысьці нязводна. Яўхім стаяў таксама на віду, каля камінка, абапершыся плячом аб печ, нудліва вадзіў позіркам па хаце, час ад часу кідаў адно-другое слова дружбаку Ларывону, які гаварыў у адказ ці рагатаў так, што не толькі блізкія аглядваліся на іх. Яўхім найбольш маўчаў, смаліў папяросу за папяросай, не таіў: таміўся чаканнем і нецярплівасцю. Збоку ад дзвярэй стаяў Чарнушка; ён, як увайшоў, агледзеўся, зірнуў на Глушака ў роздуме: падыходзіць ці не,— не пайшоў, так і астаўся каля дзвярэй. На лаўцы між двума вокнамі, пад партрэтам Някрасава, вырваным з нейкай кнігі, сядзеў [redacted] Нібыта-Ігнатам Васіль, даўно не стрыжаны, не голены, з рэдкай, але моцнай, мужчынскай ужо, агністай шчацінаю на барадзе. Васіль таксама амаль не гаварыў, зацята смактаў цыгарку з газеціны. Вочы былі неспакойныя, панурыя, нават у светлым, празрыстым, бляск быў хваравіта-насцярожаны. Сярод маўклівасці іншых вылучаўся гарэзнай гаварлівасцю Зайчык, што чапляў не вельмі ахвочую ў гэты вечар да жартаў Сароку, падсмейваўся асцярожліва з нецярплівай Ганнінай мачыхі, круціўся кавалерам каля дзяўчат. Весела пазіраў на іншых, пасміхаўся разам з Алёшам з хлопцаў і дзяўчат — «аднаасобнікаў», «багацеяў» — Хоня,— у расхрыстанай сарочцы, у бесклапотнай кепачцы на макаўцы, [redacted] зухаватай папяроскай на губе. Вельмі вылучаўся яшчэ Андрэй Руды: ахвочы быць на людской увазе, ахвочы паказваць і ўказваць, ён з радасцю карыстаўся тым, што давала для гэтага яго становішча гаспадара хаты: заклапочана здароваўся з тымі, што ўваходзілі, распараджаўся, дзе каму сесці, камандаваў, каму пасунуцца, пацясніцца. Усе, па тым, як ён заклапочаны, маглі бачыць, што гэта не такі просты абавязак — уладзіць усіх, што ён зробіць усё, што можна, не пашкадуе ні вопыту свайго, ні свайго практычнага спрыту. І яшчэ — па тым, як распараджаўся ён весела,— было відаць, што адчувае ён сябе на асобым становішчы і як чалавек, якому ўжо няма чаго бедаваць пра перадзел, які ўжо вырашыў сваю будучыню, выйшаў наперад і вышэй за іншых...

Калі Міканор, Гайліс і каморнік пачалі адзін за адным уцісквацца ў хату, гул стаў адразу аціхаць. Усе адно глядзелі на іх. У хаце запанавала напружаная, насцярожаная ўвага. Там і тут перасталі дыміць папяросамі і люлькамі, некаторыя ўздымаліся, каб лепш разглядзець няраслага, загадкавага каморніка. Шчуплы, нявідны, ён дзівіў маладосцю: амаль хлапчук, дзівіў і насцярожваў тым, як спакойна, цвёрда ішоў. Кінулася ўсім: трапіўшы ў такую грамаду, на пільную ўвагу столькіх — чужых зусім — людзей, ні трохі не збянтэжыўся ідучы, не зірнуў ні на каго, як бы ніхто яго не толькі не трывожыў, а і не цікавіў. Ішоў, спакойна адціскаў тых, якія заміналі, не гаворачы ні слова, не здымаючы шапкі.

Міканор прапусціў першага за стол Гайліса, потым нязграбна залез сам, даў месца каморніку. Гайліс сеў на куце, прыгладзіў акуратна бялявыя валасы,— блакітныя вочы дзелавіта, дапытліва пабеглі па хаце. Каморнік і за сталом не глядзеў ні на кога і трымаўся так, быццам увага такая нічога яму не значыла. Міканор, што быў пасярод іх, не сеў, стоячы, дакранаючыся пальцамі да стала, акінуў хату, і губы разышліся ад усмешкі:

— Народу сабралася!..— Усе зразумелі і ўсмешку, і гэтае нядобрае «сабралася», у якім чуўся помслівы папрок за іншыя сходы, папрок, які не зычыў лагоднасці. Адны няёмка, вінавата засмяяліся, другія мацней задымілі. Усе чакалі далейшага. Нядобрая ўсмешка ўсё не сыходзіла з плоскага, пакляванага Міканоравага твару.— Дружно — не сакрэт — сабраліся! — прамовіў ён зноў помсліва.

— Дзісцыпліна! — зарагатаў Хоня.

— Заскачаш, як у кадрылі, калі баішся, штоб чаго не намудрылі! — асцярожна, як бы просячы літасці, адгукнулася з жаночай купкі Сарока.

Міканор прапусціў міма ўвагі, што загаварылі за Сарокай жанкі і той-сёй з мужчын, перачакаў іх, сказаў ужо дзелавіта, без усмешкі:

— Дак, мабуць, можно ўжэ пачынаць?..— Ён перачакаў гоман згоды.— Е адно пытанне ў сягонняшні сход. Аб землеўпарадкаванні ў вёсцы Курані ў сучасны момант.— Ён для прыліку запытаў: — Другіх пытанняў няма?

— Е адно. Нашто ето ўпарадкаванне! — крыкнуў Нібыта-Ігнат.

— Аге! — падтрымала яго адразу некалькі галасоў, найбольш жаночых.— Упарадковано ўжэ!.. Даўно!..

— Падзелено і перадзелено!..

— Надзяліліся ўжэ!

— Падзелено — не сакрэт — па-старому,— перачакаў гоман Міканор.— Некаторым цяпер паложано ўдзяліць лепей!..— Ён хацеў даць слова Гайлісу, але яго перабілі, горача, нецярпліва:

— Каму ето?!

Па хаце зноў загуло.

— Е такая лічнасць,— Міканор памаўчаў хвіліну, дадаў пераможна,— калгас!

Па хаце пайшло: «Е ўжэ — нібыто — у іх!», «У кажнаго зямля була!», «З зямлёй ішлі!», «Абагульнілі!..» Міканор заўважыў: Гайліс павярнуў галаву к яму, строга і патрабавальна чакае,— у гомане, што не хацеў ападаць, аб'явіў:

— Слова па данаму пытанню мае старшыня сельсавета таварыш Гайліс.

Гайліс, як па камандзе, устаў, зграбны, акуратны, у туга перапаясаным, зашпіленым шынялі, з ясным, адкрытым позіркам блакітных вачэй. Стаяў, чакаў, пакуль не сціхлі ўсе. Толькі калі запанавала непарушная цішыня, са звычайнай сваёй акуратнасцю і дакладнасцю ўзяўся тлумачыць:

— Землеўпарадкаванне, который праводзіцца цяпер, не есць прастой фокус, як думаюць некаторый людзі. Землеўпарадкаванне праводзіцца не потому, што каму-то няма чаго рабіць і он выдумал зноў пераразаць зямлю. Нет, землеўпарадкаванне есць сер'ёзный і неабходный кампанія, які мает важное палітычное значэнне. Землеўпарадкаванне праводзіцца потому, што цяперашняе палажэнне з зямлёй не одповедает новаму становішчу ў сяле. Старый палажэнне з зямлёй был установлен пры старым становішчы, который цяпер змяніўся. Новое становішча трэбует і нового землеўпарадкавання. Цяпер на змену аднаасобніцкім гаспадаркам прышол калектыўная гаспадарка — калгас. На змену мужыцкім палоскам павінна прыйсці шырокае калгаснае поле. Калгас будзе работаць на трактарах,

сеялках, жнейках,— яму необходно шырокае поле! На вузкіх палосках калгас работаць не можэт! Это землеўпарадкаванне і павінно даць калгасам шырокае поле, прастор для тэхнікі, для шчаслівай і культурнай жызні! Это мае важнае значэнне для ўсяго сяла і для ўсяго народа, потому што ў этом адзіная дарога мужыка к культурной жызні. Потому што калгас павінен паказаць усім, як трэбаісці па этой дарозе!..

Адразу за гэтым Гайліс павёў гаворку ў практычным кірунку, сказаў, што для землеўпарадкавання сельсавет і партячэйка стварылі камісію, што камісія і будзе ўсім кіраваць. Ён апярэдзіў гоман, расшпіліў шынель на грудзях, дастаў акуратна складзеную паперку, пачаў чытаць, з каго складаецца камісія. Людзі пільна слухалі: ён чытаў выразна, стараючыся вымаўляць як найлепш, прыпыняючыся пасля кожнага прозвішча; былі ў камісіі Гайліс, Міканор, Хоня, Чарнушка, Грыбок. Калі ён згарнуў лісток, па хаце пайшоў гоман нездавальнення, галасы ўхвалы. «Ето — камісія: адны калгасаўскія!..» «А калгасаўскія што — не людзі?..» «Аднаго Чарнушку — ад усяго сяла!..» «Правільная камісія!..» «Хітро складзено!..» «Такая надзеліць, чорта!..»

Гайліс спакойна перачакаў гоман, сказаў, што камісія будзе працаваць разам з землеўпарадчыкам, які спецыяльна прысланы з раёна; ён паказаў на каморніка, што сядзеў так, нібы гаворка ішла пра кагосьці іншага.

Камісія, аб'явіў Гайліс, пачне працаваць заўтра і будзе старацца зрабіць усё хутка і добра. Усе матэрыялы падрыхтаваны, неабходны інструмент прывезены, усё гатова, каб пачынаць.

— А якое поле пад калгас? — не вытрываў, крыкнуў ад печы Яўхім.

Яўхіма падтрымаў дружны, нецярплівы гоман: чулася, што гэта найбольш хвалюе многіх у хаце.

— Зараз скажу.— Гайліс мімаволі зірнуў у той бок, адкуль крыкнулі, папракнуў нецярплівага: — Не надо спешыць паперад бацько. Усяму свой чарга.— Гледзячы ўжо на іншых, сказаў з сяброўскай адкрытасцю: — Мы это пытанне думалі. Для калгас будзе адведзена поле, каторае называецца Піліпаў рог.

— Аге! — вырвалася адразу ў кагосьці з жанчын.

Едкае, нястрымнае. У момант хата загула, завіравала бязладнымі, гарачымі галасамі: усе ў сяле па чутках ведалі ўжо пра гэта; многія прыйшлі на сход з цвёрдым намерам — перашкодзіць, зберагчы сваё; увесь час чакалі гэтага моманту. Гаварылі, крычалі так, што спачатку ўсё танула ў адным імпэтным гуле. Вырываліся толькі асобныя воклічы: «Выбралі!..», «Знайшлі!..», «А другім — што?!», «Рашылі!..», «Другіх — на пясок!..», «Правільно!..», «Дулю!..», «Не дадзім!..».

Гразіўся, гатовы рынуцца ў бойку, Яўхім. Гарланіў, памагаў Яўхіму, нібы хвалячыся дужасцю голасу, Бугай. Кіпеў злосцю, аж ускокваў з лаўкі нецярпліва Нібыта-Ігнат. Важка, як у бочку, бухаў Пракоп Лясун, чыста, спрытна сыпала нядобрымі прымаўкамі Сарока. Чарнушчыха махала рукамі, круціла галавою да жанок: крычала таму, здавалася, што крычалі Сарока і іншыя. З сяброўскага абавязку. Стары Глушак, хваравіта трасучы галавою, сіпеў ціха, стрымана,— помніў сябе і тут, пабойваўся; але аж пырскаў слінаю: злосць брала такая, што, каб мог, разарваў бы латыша, рабога.

У галасы нязгоды, абурэння ўрываліся крыкі, якія ўхвалялі перадзел зямлі,— крыкі калгаснікаў: Хоні, Хведара крывога, Зайчыка, Зайчыхі. Іх распальвала шаленства тых, хто абураўся: яны, як тыя байцы, што трапілі ў бойку, біліся ўсё больш зацята, чым больш на іх навальваліся. Можа быць, крычалі гэтыя яшчэ гарачэй, галасней: іх было ўсё ж менш, а перакрычаць — перамагчы — яны павінны былі!..

Крычаў і Васіль: гарачы гул, вір крыкаў узняў, вырваў з грудзей трывогу і злосць, што даўно мучылі яго. Не адступіўся рабы — лепшы Васілёў кавалак забраць хоча! Адзіны людскі кавалачак, які так трудна дастаўся! На які ўся надзея! З якога толькі і жывеш!

— А нам чым жыць! — уплятаў Васіль у іншыя свой крык, у якім былі разам і ўпартасць і страх.— Нам — зубы на паліцу?!!

— Не дадзім! — лямантаваў побач, чырвоны ад злосці, ад крыку, Нібыта-Ігнат.

— Хваціць вам адным! Напанаваліся ўжэ! — віскліва ўцінаўся лямант Зайчыхі.

— Прывыклі — на добрай зямлі адны!

— Няма такога закону — адбіраць!..
— І другім трэба жыць! Усе хочуць жыць!..
— Пажылі ўжэ!
— Ідзіце ў калгас! Дак і ў вас будзе! Добрая зямля!..— прабіўся звонкі Хонеў голас.
Яму адказаў хтосьці ў злым запале:
— У... ідзіце! З вашым калгасам!
— Дак не разяўляйцеся! Маўчыце!
— Не будзем!.. Не пусцім!..
— Судзіцца будзем!
— Не аддадзім!..
Амаль адразу, як пачаўся гэты вэрхал, Гайліс сеў. Не першы раз быў на сходах, не першы раз сутыкаўся з бязладным, запальным гоманам. Розныя галасы чуў, і добрыя, ухвальныя, і злыя, поўныя лютасці і нянавісці. Усяго пачуў і пабачыў на сходах не толькі ў Куранях і Алешніках, у многіх, блізкіх і далёкіх, за лясамі, балотамі, вёсках сельсавета. Але не толькі таму, што «абстрэлены» быў даўно, спакойна сеў, цярпліва чакаў, калі ападзе лямант; не ў характары цвёрдага латыша было крычаць, неразумна адказваць на крык крыкам. Гайліс адказваў на крык спакоем, вытрымкай. Гайліс вытрымкай, непарушным спакоем паказваў, што ніякія крыкі яго не збіваюць з кірунку і не саб'юць. Паклаўшы цвёрдыя, абветраныя рукі на стол, зграбны, сабраны, прамы, нібы вытачаны з моцнага дубу, глядзеў ён у хату і быццам не чуў нічога. Ні адна рыска не варухнулася на абветраным, хударлявым твары.
Каморнік цяпер сядзеў не так абыякава, чыстыя, празрыстыя юначыя вочы бегалі па хаце з зацікаўленасцю. Ён лавіў аблічча тых, хто крычаў, углядваўся з нейкай прытоена-вясёлай жвавасцю; яго быццам цешыў гэты лямант. Міканор стаяў, стукаў далонню па сталу, надрываючы да хрыпаты голас, загадваў сціхнуць.
Нарэшце выкрычаліся, расчырванелыя, потныя, пачалі сціхаць.
— Товарышы,— нетаропка падняўся Гайліс,— этот шум не дает ніякой карысці. Это точно. Есць рашэнне, і райком партыі і райвыканком этот рашэнне адобрылі. Яны есць ужэ — закон... Это рашэнне — законнае. Яно не выдумано самоўпраўно. Яно прынято

на основанні рашэння ўрада, штоб выдзяляць кожнаму калгасу адзіны поле...

— Дак канешне етае поле, сказано?! — нецярпліва перабіў Васіль.

— Согласно ўказанням урада, калгасам рэкамендуецца выдзяляць лепшую землю. Этот указанне одповедает тому, што совецкая ўлада хоча оказаць дапамогу калгасам добрай зямлёй. Штоб калгасы змаглі хутчэй стаць на ногі.— Ён пачакаў, калі ўціхне недавольны гоман, цвёрда павёў далей: — Это рашыла совецкая ўлада, і ніякія крыкі нічога не пераменіт! Не дадут ніякой карысці!.. А некаторых,— которыя будут крычаць асабліво і не будут уціхнуць,— можно будзет заставіць помоўчат! Штоб подчыняліcь совецкі закон. Поважалі совецкі закон!

Цвёрдасць і рашучасць яго падзейнічалі; калі ён сеў, у хаце стаяла цішыня. Толькі ў сенцах гаманіў хтосьці, як бы пераказваў. Тады за сталом узняўся Міканор. Разважліва, памяркоўна загаварыў:

— Прыразаць землю — не сакрэт — будуць і на тых, каторыя цяпер уступяць. Дак, калі каму ўжэ так хочацца етай зямлі,— тут правільно сказаў Хоня,— давайце да тых, што ўжэ ўступілі. І вам будзе ўдзелено! Не абідзім! Як у добрай сям'і, падзелімся! Дарога нікому не перагароджана. Завем, можна сказаць, усіх,— каторыя гібелі і гібеюць сягоння! — Ён, давольны, што знайшоў добры лад у гаворцы, гаварыў лагодна, паблажліва: — Штоб адразу планіруваць па-новаму! Не перарабляць патом!.. Запішацеся ў калгас — і заўтра адрэжуць у калгаснае і вашу долю зямлі. Самай добрай... Дзядзько Андрэй,— згадаў, кіўнуў ён на Рудога,— надумаўся ўжэ. Падаў заяву. Дак можа шчэ хто хоча? Возьме прыклад?

Ён, трохі горбячыся, як заўсёды, нібы ніякавеючы за тое, што такі вялікі, грамозны, лагодна акідваў хату, з надзеяй чакаў. Ніхто не ўставаў, адводзілі вочы, каб не сустракацца з яго. Круцілі папяросы, дымілі. Хтосьці з жанок крыкнуў, што не пра гэта — не пра калгас — гаворка.

Міканор увачавідкі мяняўся: паблажлівасць знікала, пакляваны, амаль бязбровы твар шарэў, стражэў.

— Не хочаце? — прамовіў непрыхільна, помсліва.— Не хочаце, дак — маўчыце!

За ім выступіў Хоня: акружаны хлопцамі, дзядзькамі, з таго месца, дзе стаяў, заявіў, што Міканор правільна кажа: каму хочацца добрай зямлі, дак давайце! Усіх прымем! Нікога не абдзелім! Кончыўшы, Хоня задзірліва зірнуў на Нібыта-Ігната.

Доўга, вучона гаварыў Андрэй Руды — тлумачыў значэнне землеўпарадкавання, значэнне калгасаў, іх перавагі над аднаасобніцкімі гаспадаркамі, заклікаў «асазнаць» цяперашні момант, узяць з яго, Андрэя, прыклад. Надакучыў нецікаваю прамоваю, збіў зусім гаворку.

Ніхто не запісаўся новы. Быў толькі бязладны гоман. З гэтым гоманам і разыходзіліся.

3

Доўга не маглі ўціхнуць Курані ў гэту ноч. Пасля сходу курылі, гаманілі купкамі на агародах, каля хат, не маглі расстацца, не выгаварыўшыся. Купкі былі розныя, і розныя былі гаворкі: радасна клопатныя, спакойныя, амаль абыякавыя, трывожныя, з бедаваннем, са злосцю, з пагрозамі Гайлісу, Міканору і іншым, з кляцьбою.

З агародаў, з двароў гутаркі разыходзіліся па хатах. Гаманілі, лежачы на палацях сярод дзятвы, Зайчыкі: старая цешылася, як яно будзе; Зайчык хіхікаў, згадваючы сход: як круціўся Нібыта-Ігнат, як сіпеў, пырскаў слінаю Корч. Вольга і Хведар гаспадарліва меркавалі, як можна засеяць тую зямлю, што яна можа даць. Дамеціха, падаўшы Міканору, старому і каморніку познюю вячэру, не ўтрывала, параіла сыну не вельмі заядацца з людзьмі, сказала, трэба па-добраму. Нібыта-Ігнат упоцемку, дымячы папяросаю, кляў апошнімі словамі ўсё на свеце, гразіўся, не хацеў слухаць жонку, якая супакойвала, раіла не браць так блізка да сэрца. І не кідацца на Міканора, на начальства, бо гэта можа вельмі пагана кончыцца; час цяпер такі, што трэба асцярожным быць. Матку падтрымала Хадоська, але бацька загадаў і ёй сціхнуць, не ўтыкаць нос туды, куды не просяць. Глушаку таксама не спалася; разышоўшыся з Яўхімам на двары, ён доўга тупаў у хляве, пад павеццю, не мог ніяк умерыць злосць, сціхнуць душою. Люта — аж заенчыў той — бацнуў

наском сабаку, што не ў час падлез пад нагу. Раздзеўшыся, доўга варочаўся ў цемры з боку на бок, пляваўся: адчуванне вялікай бяды паліла ўсё больш, чым больш думаў пра тое, што здзеелася. Гады, слізь падкалодная,— што ўдумалі! Мала ўжэ і налогаў, мала таго, што дыхнуць не даюць, душаць цвёрдымі заданнямі! Дак ужэ і ето: землю адабраць, якую ты нажыў! Усё адабраць, лічы,— корань самы вырваць!.. Гайня ненажэрная, жывого з'есці гатовы!.. З бяссільнай лютасці гатоў быў закрычаць: — Дулю вам! Дулю, [illegible] не землю! Дулю вашаму калгасу! Штоб вы ўсе падохлі!

Васіля тачыла нездавальненне. Яно шчымела, калі разышоўся з Нібыта-Ігнатам, які лаяў і сябе, і яго, Васіля, што маўчалі на сходзе, не ўсталі і не сказалі, як трэба; Ігнат растрывожыў Васіля яшчэ і тым, што заявіў: заўтра ён так сабе не саступіць, як бы там Гайліс ці Міканорчык ні гразіліся! Як саступаць так раз за разам, нядоўга зусім без нічога астацца! Успамін пра гэта паліў Васіля, што чуў, як кашляе на печы дзед, як дражліва храпе тоўстая калода Маня, якой клопату ніякага да таго, што яму баліць. Праўду казаў Ігнат, паліў сябе Васіль: не сказаў, як трэба, на сходзе, дзёр толькі горла, калі ўсе крычалі; а калі ўсе прыціхлі, і сам маўчаў. Збаяўся, не заступіўся, як трэба, за сваё; за адзіны людскі свой кавалачак зямлі, які так трудна дастаўся, на які, лічы, уся надзея! З якога толькі і жывеш, лічы! Хвіліны злосці змяняліся хвілінамі роздуму, разважнасці, і тады бралі Васіля няўпэўненасць, страх, роспач: цвярозым розумам сваім прадчуваў, што — як ні будзе біцца за сваё — нічога, відаць, не даб'ецца. Не ўтрымае нічога. Не такія Міканорчык гэты і латыш упарты, і не так паварочваецца ўсё ў жыцці, каб можна было дабіцца чаго-небудзь. Акрамя таго, што самі яны такія, што не саступяць, і закон, і ўлада за іх, за свае калгасы! Ад роспачы яшчэ горш пякла злосць на Міканора: зараза рабая, ён больш за ўсіх стараўся і стараецца, каб сагнаць Васіля з зямлі. З адзінага кавалачка, які Васілю так трудна дастаўся, якім, лічы, ён толькі і жыве!..

Ён успамінаў, з якой зайздрасцю глядзеў калісьці на тых, у якіх была зямля ля цагельні, як біўся смяротным боем з Яўхімам Карчом, як люта зычыў ім, ненавісным багацеям, каб зямлю гэтую ім спапяліла,

як радаваўся, што з году на год сталі іх прыціскаць падаткамі, цвёрдымі заданнямі, як прадчуваў нецярпліва, што нядоўга-нядоўга ўжо засталося панаваць ім на мілай, аблюбаванай даўно зямлі ля цагельні. От калі б яшчэ карчоўскай,— не раз цешыўся, марыў:— дзесяціну ці хоць — паўдзесяціны! Зажыў бы ўжэ зусім непагана!.. І от жа — як усё павярнулася. І ад Карча, і ад яго — разам! Нібы знарок, нібы на насмешку!

Ён амаль не спаў у гэту ноч. Яшчэ ўпоцемку, стараючыся не разбудзіць нікога, раз-пораз паглядваючы на палаці, дзе спала з Валодзькам матка, ён ціха адзеўся, абуўся, выйшаў на ганак. Было блізка да дня, і нібы збіралася на дождж. З-за вуліцы, з балота, лез, лізаў твар мокры вецер. «Макрэча ўсё ды холад...— адзначылася звыкла, без хвалявання.— Снегу ды марозу і не чутно... Як і не будзе зімы...» Млява, без радасці паплёўся ў хлеў да каня. Зазірнуў поцемку ў закутак, дзе чула заварушыліся авечкі. Патупаў пад павеццю, не ведаючы, за што ўзяцца. Стаяў, важка думаў: пайсці хіба ў гумно — дамалаціць тое, што асталася. Запаліць ліхтар і ўзяць з сахі цэп... Не было ахвоты... У хаце — новай — багата чаго рабіць. Ён паглядзеў: стаяла ў цемры чорнай зданню, кроквы ледзь значыліся на панурым, хмарным небе... І туды не было ахвоты ісці... І ў старую — на палаці, спаць — не хацелася...

Пра што б ні думаў, куды б ні глядзеў, не знікала даўкае адчуванне пагрозы, блізкай бяды. Як тут будзеш драмаць спакойна на палацях ці хадзіць па двары, у гумне з заўсёдным, звычайным, сёння, здаецца,— нямілым клопатам,— калі блізка, усутыч падступалася такое важнае, поўнае нядобрай, грознай невядомасці? Калі блізкае, нядобрае гэтае грозіцца самаму галоўнаму, на чым трымаецца ўсё на свеце, уся гаспадарка, з чаго жывеш?! З гэтым адчуваннем ныла ў Васілю здзіўленне, што ўсё навокал такое, як і ўчора, і пазаўчора, звычайнае; што сяло спіць так, як бы нічога не здарылася і здарыцца не можа. Гэта здалося такім недарэчным, што ён не паверыў спакою, які панаваў на куранёўскіх дварах: не можа быць, каб спалі ўсе, гэта няпраўда, так толькі здаецца. Ён прыслухаўся вострым слыхам у сціснутай, мокрай цішыні, радуючыся,

улавіў неспакой: не спяць! Унь недзе — падобна: у Чарнушкаў — рыпнулі вароты,— значыць, таксама не дрэмлецца... Гэтым-то, праўда, можна не бедаваць асабліва: у іх каля цагельні — нічога. Хіба што за сваякоў, за Карчоў, якім не толькі пабедаваць, а і папарваць валасы ёсць чаго. Думаючы пра Карчоў, ён, аднак жа, не адчуў уцехі,— хоць збывалася тое, пра што некалі так нецярпліва, горача марыў; да горкага адчування сваёй бяды прымяшалася няёмкая, вінаватая думка пра Ганну. Адступіўся ад яе, не памог выбавіцца, кінуў адну ў бядзе — усё з-за гэтай зямлі, з-за палоскі, якую цяпер адбяруць. Усё жыццё сваё спаганіў — з-за зямлі гэтай, а яе — адрэжуць...

Яшчэ недзе рыпнулі вароты, бразнула клямка. Дзесьці далей зарыпеў журавель — у тым баку, дзе Карчы, дзе Ганна. Можа і яе паднялі,— можа яна якраз і бярэ ваду. Ганна — век будзе яна побач з ім, у душы яго, у якой усё і так заблыталася, а з ёй, з Ганнай, здаецца, яшчэ больш заблытанае. «Няма чаго,— стрымаў ён сябе, як бы папракнуў за недазволенае.— Была пара — прайшла! Не кавалер! Пра дзело думаць трэба!..» Але думка пра «дзело» шчымела адна: адбяруць, адрэжуць!..

Ужо ж не так і рана, а такая цемра. Каб і ісці кудынебудзь, дык які толк. Усё адно нічога не пабачыш. Але і так стаяць — толку небагата,— калі карціць, точыць трывога. Яна не толькі карцела, вярэдзіла трывогаю, зямля, палоска ля цагельні, якую сёння хочуць адрэзаць; яна цягнула да сябе, неадольна, сумотнабалюча,— зямля яго, бяда яго. Ён толькі хацеў стрымаць сябе, разумеў: ні да чаго тое, што ён пойдзе туды, развярэдзіць адно сябе лішне. І Васіль выдумляў сабе гэтае: і рана, і цёмна. Але яго, наперакор разважнасці, усё ж цягнула туды; цягнула, як к хвораму каню, як к дарагой, у бядзе, істоце,— каб — як ні балюча — у апошні раз зірнуць, справіць неадменны, сардэчны абавязак. Разам пабалець душою.

У сенцах бразнула клямка,— Васіль прытуліўся да хлява: хтосьці выйшаў, шарэў у цемры белым адзеннем... Закашляў, тонка, сіпла. «Дзед...» Дзед санліва, з асцярогаю саступіў з ганка, апоркамі пашаргаў да плота. Пастаяў трохі ля плота, санліва пацёгся на ганак. Зноў бразнула клямка... «Скора ўжэ матка

ўстане...» — прыйшла неспакойная думка. Устане, заўважыць, што яго няма, кінецца шукаць. Не адчэпішся... Трэба ісці.

З двара, паўз агарод за хлевам, падаўся да гумна, адчыніў варотцы, выйшаў на загуменне. Гумны маўкліва чарнелі, знаёмыя, нібы затоеныя; зачыненыя, з зачыненымі варотамі платоў. Нідзе не было чуваць цэпа... Вось яно, таксама ціхае і чорнае. Чарнушкава гумно,— Ганніна гумно,— каля якога яны калісьці не раз стаялі, удвух, абняўшыся. Тут гумно, а там — грушы,— цёмныя грушы, што зычылі калісьці радасць... Ганна, Ганна...

За Чарнушкавым гумном — ужо роўная разлегласць, поле. У полі здалося трохі святлей, дарога шарэла больш відна. Ён не ўглядаўся ў дарогу, яму не трэба было ўглядацца; каб і нічога не было відаць, каб сляпы быў, ён ішоў бы не запыняючыся. Звыклая, вядомая да кожнай ямкі, кожнага камячка дарога. Колькі разоў хадзіў ён тут, і ўранні, і ўдзень, і вось так — на досвітку, хадзіў у летнюю спёку і ў лютую сцюжу, чапляючыся босымі нагамі за траву і грузнучы лапцямі ў гурбах снегу,— але даўно-даўно не нёс ён у сабе такую бяду. Даўно-даўно не балела так душа; з таго вечара — як ён даведаўся, што былі змовіны, што Ганну прапівалі, прапілі, што яна — не яго, Карчова. Тады таксама вельмі балела, і от цяпер баліць. Як і тады, на душы цяпер так, што і жыць, здаецца, не хочацца. Глядзець на свет не хочацца.

Мокры вецер тут насядаў дужэй, лёгка працінаў зрэбную сарочку, абліваў цела такім холадам, што бралі дрыжыкі,— Васіль надзеў накінутую на плечы світу, зашпіліўся, пайшоў спарней. Было холадна галаве, ён толькі цяпер заўважыў, што забыў шапку...

Раптам яму здалося, што наперадзе нехта ідзе. Васіль пайшоў хутчэй, угледзеўся: перад ім, хоць і цьмяна, значылася чалавечая постаць. Чалавек ішоў туды ж, куды і ён. Васіль пайшоў цішэй, з асцярогай, назіраючы зводдалек, пачаў гадаць зацікаўлена: хто б гэта? Прасачыўшы трохі, рашыў — Нібыта-Ігнат; постаць у цемры, праўда, добра разабраць не можна было, але здалося — падобная на Ігнатаву. Ён, яшчэ не зусім упэўнены, узрадаваўся: так хацелася, каб быў іменна Ігнат, што падахвоціў сябе: канешне —

Ігнат; каму яшчэ можа балець так, як не яму, не Ігнату. Васіль падбавіў хады.

Чалавек пачуў яго, стаў. Васіль намерыўся ўжо весела загаварыць, калі той засіпеў насустрач:

— Каму ето шчэ не спіцца?

Васіль аж здрыгануўся: нібы неспадзеўкі засычэла гадзюка. Корч! Стары Корч!.. У момант стаў. Хвіліну стаялі абодва. Глушак таксама не падыходзіў, углядаўся. Не пазнаваў... Васіль крануўся першы; моўчкі і хутка пайшоў насустрач старому. Праходзячы паўз яго, прыкмеціў, як той прыглядаецца. Слова не гаворачы яму, абмінуў.

Корч, відаць, нарэшце пазнаў,— пастаяў яшчэ трохі, моўчкі паплёўся ўслед. Васіль ішоў хутка, прыкмячаў, што аддаляецца і аддаляецца ад старога. Як і тады, калі быў блізка, і тады, калі Корч адставаў усё далей, Васіль увесь час чуў яго за сабой, слыхам сцярог кожны шоргат адтуль. У той асаблівай чуласці, што ўзнікла, калі праходзіў паўз Карча, неяк незвычайна ясна, блізка прыпомнілася колішняя бойка. Нібы нанава пачуў Васіль, як ён, старая, быццам, нездаляшчая, зараза, дужа ламаў яму тады шыю,— памагаў гэтаму свайму гаду Яўхіму. Ажыла даўняя крыўда, запякла злосць: убярог тады, стары ліс, зямлю, на адну далонь не страціў добрай зямлі. Усё, што было ля цагельні, так і асталося. А яму, Васілю, удзялілі кавалачак — абы прырэзаць, далі, можна лічыць, дулю!.. Паявілася злараднае: убярог тады, а цяпер от — не ўберажэ. Разануць яго, і не на якую там паўдзесяціну, а — усяго. Усю раскошу яго ля цагельні!.. Тут жа да злараднасці прымяшалася цвярозая асцярога: уберажэ ці не ўберажэ,— шчэ не паручыцца ніхто. Можа шчэ — і ўберажэ,— ад гэтага гада ўсяго чакаць можна. Гэты гад вылузнецца там, дзе другому і думаць няма чаго. І заступку знайдзе, насуперак усякім законам... А от ён, Васіль, век без заступкі, хоць і закон за такіх, як ён, за бяднейшых. Ні на кога, калі падумаць, надзеі няма. На аднаго сябе. А што ён, адзін, цёмны куранёўскі лапаць, зробіць. Калі ён, як прыедзе ў Юравічы, павярнуцца не знае як. Не тое што падступіцца, а і слова якое сказаць — не знае... Васіль пачуў сябе страшэнна адзінокім,— адзіноцтва чамусьці асабліва чулася заўсёды, калі рабілася скрутна.

Там, наводдаль, павінна быць купа дрэваў, асіны і хвоі. Цагельня. А от і паласа яго. Поцемку, не бачачы, Васіль пазнаў бы яе сярод тысячы іншых. Поцемку рунь ледзь была відна, але ён бачыў яе. Ён акінуў яе позіркам; тую, што не відна была вачам, ён бачыў памяццю. Ён бачыў усю. Ён чуў, як яго напаўняе звыклая, любасная цеплыня. У гэтай цеплыні была памяць пра тое, як ішоў за плугам, як сеяў, як радавала яна ўжо не адзін год. Але так было толькі хвіліну, у радаснай цеплыні яшчэ вастрэй зашчымела адчуванне бяды. Ён зварухнуўся, наўгад пайшоў разораю, успамінаючы, як зусім нядаўна вёў яе. У памяць улезла — нібы нанава ўбачыў,— як паявіўся Міканор, як, кінуўшы калёсы, стаяў наперадзе, чакаў, калі ён падыдзе з плугам. Як грaзіўся. «Не сей!.. Насенне попусту загубіш!..» — успомнілася Васілю... Гразіўся, і от — спраўдзіў гразьбу. Запякла крыўда, а з крыўдай злосць. Не сей! На сваёй зямлі не сей! Сваёй зямлёй не распараджайся!.. За гэтым прыйшло: сваю зямлю так проста — аддай! Хочаш не хочаш — аддай! І пытацца ніхто не пытаецца! Так проста — аддай, і ўсё!.. А заўпарцішся — сілаю забяруць! Забяруць, і ўсё — цырымоніцца не будуць! Сіла ў іх, сіла і — закон. І закон знайдуць, калі трэба ім!.. Робяць усё, што хочуць! І выходзіць — па-законнаму!..

Усё мацней уцiналася мокрая стыласць. «Мокро і холадно. А снегу няма...— Узяло звыклае, трывожнае: — Не дай бог ціскане мароз зразу. Без снегу!..» Ён тут жа схамянуўся, цвяроза, з жалем падумаў: ні да чаго яму цяпер гэты страх. Мабыць, адтаго, што яму так цяжка, амаль немагчыма было прымірыцца з тым, што бяда здарылася, што паправіць нічога не можна, ад прыроднай, звыклай да цяжкай хады ў жыцці ўпартасці, ён усё ж дзіўна не траціў зусім надзеі. Зацятая немагчымая надзея яшчэ не рвалася ў ім, як танюсенькая, жывучая нітачка. Яна, гэтая надзея, падказала яму: «Трэба было гаварыць — што пасеяно ўжэ! Што жыто ўжэ расце!.. Не павінно ж быць такого,— штоб пасеянае браць! Трэба было б дабіцца, штоб абышлі цяпер; а там — можа — так бы ўжэ і асталося!.. Дабіцца б, штоб цяпер абышлі! Патом — канешне — не сталі б вяртацца!.. Трэба было гаварыць: пасеяно!..— Ён раптам зазлаваў сам на сябе: — «Пасеяно

не пасеяно!» Будуць яны глядзець на ето! Не адзінакі ім чорт — што пасеяно, што непасеяно! Шкода ім твайго насення, твайго труда!»

Прыйшло на памяць, як стаяў тут, глядзеў на гэту рунь, калі думаў, як быць з Ганнаю. Тады — пакуль рашыў, думаў, бедаваў. Гэта рунь, зямля гэтая памагла тады рашыцца. І от — на табе — паспадзяваўся! Збярог грунт пад сабою! Жыццё як бы смяецца з яго!.. «А мо — і праўда — кінуць усё: прападзі яно пропадам! — вярнулася раптам зноў да Васіля.— Кінуць, ды — з Ганнай!.. Куды вочы глядзяць!..» Нейкі час ён чуў сябе рашуча і лёгка, нібы раптам парвалася тое, што аблытвала, нібы скінулася тое, што гняло, што пякло яго. Раптам зноў пачуў сябе вольна, шчасце, вызваленне ад нягод былі ўжо не тое, што недасяжнай марай, а быццам рэальнасцю: бяры, цешся жаданай сваёй доляй. Але лёгкасць была яшчэ карацейшая, як раней: амаль адразу ж, звыклае ўжо, неадступнае, заныла, апанавала: куды ён пойдзе, як ён кіне ўсё, што трымае яго! Для чаго ён абавязаны жыць!.. За гэтым яшчэ мацней запякло трывожнае: «Што ж яно будзе з етай зямлёю? Няўжэ ж і праўда ўсё, кончано?..»

У трохі парадзелым змроку Васіль заўважыў, што да яго ідзе постаць. Калі чалавек падышоў бліжэй, пазнаў — Ігнат. У світце, у чорнай барановай шапцы.

— Не ўседзеў, нібыто,— загаварыў хапаючыся, давольна.— Забег ето да цябе, пытаюся матку: дзе? Кажа: «Пайшоў кудысь». «Шчэ як спалі ўсе»,— кажа. Я і падумаў: куды ето пойдзе добры хазяін у такі дзень? І — сюды рашыў...

Васіль хмурна прамаўчаў.

— Не аддаваць трэба,— так жа хутка, але з запалам загаварыў Ігнат, адгадаўшы Васілёў неспакой.— Не аддаваць! На паласу не дапускаць! Я так — нібыто — і скажу: не аддам! І не пушчу!

— Пытаць яны будуць! — цвяроза, насмешліва прамовіў Васіль.

— Не дам! Не дам — і ўсё! — запаліўся яшчэ больш Ігнат. Нецярпліва патупаў, падаўся плячом наперад. Нацяўся ўвесь, рашучы, адважны, гатовы на ўсё: — Біцца буду! Кажнаму дам, хто палезе!..

— Так і ў цюрму нядоўго,— стрымана, як старэйшы, сказаў Васіль.

— Плявацьі — Ігнат гаварыў яшчэ напорлівей, з нейкай злой піскляваспю.— У пысу буду біць кажнаго, хто палезе! А наўперад етаго, Дамецікаваго байструка! Еты болей за ўсіх вінаваты. Кеб не ён, дак усе іначай було б!..

Васіль не сказаў нічога: не было ахвоты гаварыць,— і Ігнат, грозячыся, злуючыся, таксама змоўк. Неастылы, нецярплівы, рушыў быў ад Васіля, але праз колькі крокаў рэзка стаў, яшчэ параіў:

— Не давай! На паласу не пушчай!..

Пасля яго Васілю было і неспакойней і нібы лягчэй: не такое ўжо безнадзейнае бачылася ўсё. З прылівам нядаўна не знанай смеласці думаў: «Не даваць,— праўду сказаў! Як падыдуць адразаць, стаць напярэдзе і заявіць: «Не дам!» І — не пушчаць,— штоб і на паласу не заходзілі! Учапіцца нагамі ў зямлю — і не пушчаць!.. У міліцыю возьмуць — няхай бяруць! Усе адно — як забяруць землю ету — не жыць!.. І калі ў суд — няхай судзяць!..— Тут думка трохі змянілася:— Е ж, пэўне, і на іх суд. Буць не можа, штоб не було. Як жа ето: прыйсці і ўзяць — без усяго ўсякаго! — Зноў прыйшло, як апошняе, канчатковае:— Не дам! Хай хоць што!..»

Паволі святлела. Усё шырэй расступалася поле, усё далей і танчэй акрэсліваўся лес. Была ўжо добра відаць груганячая постаць старога Глушака,— прыкра нагадвала бой з Яўхімам, Ганніну бяду, абуджала назалелае адчуванне безнадзейнай заблытанасці жыцця. Наводдаль сышлося некалькі дзядзькоў — штосьці меркавалі купкаю, курылі. Сярод іх быў, здалося, і Ігнат.

Васіль хацеў быў ужо рушыць да іх, калі заўважыў: хтосьці збочыў з дарогі, нацянькі прастуе да яго. Жаночая постаць. Матка! Канешне,— каб яна ды ўседзела недзе, не прыбегла, калі і без яе такая маркота.

— А я ето думаю — дзе ён? — загаманіла бесклапотна, як бы ні пра што і не здагадвалася. Як бы так сабе прыбілася.— Сышоў кудысь, і не відно!..

Васіль недавольна адвёў позірк.

— Хадзем ужэ, паснедаем...— наважылася асця-

рожна, лагодна.— Картопля астыне... Век халодную ясі...

Толькі пра тое і клопату цяпер яму: картопля астыне! Па гаворцы, па жаллівых вачах яе разумеў: ведае ўсё, але хавае трывогу. Хітруе. Прытвараецца. І гэта яшчэ злавала.

— Не бядуй,— як бы адгадала яго думкі.— Жылі без етаго, пражывём як-небудзь і цяпер...

— Ат,— нядобра варухнуўся ён.

— Пражывём...— Яна тут жа змянілася, стала нібы заклапочанай, дзелавітай.— І тое падумаць: чаго тут тырчаць. Начальство ў сяле шчэ. Міканор шчэ спіць.

Ён неахвотна паплёўся: абы адчапіцца, не чуць яе хітрыкаў. Усё адно не дасць стаяць.

4

Паснедаўшы, Васіль корпаўся пад павеццю, сачыў за ўсім, што робіцца на Міканоравым двары, на вуліцы. Ён бачыў, як весела, у расхрыстанай свіце, з кепачкай на макаўцы ступіў на двор, нібы свае, адчыніў дзверы ў Міканораву хату Хоня, як у драным, абсмыленым кажуху подскакам узбег на ганак Зайчык, як паважна, у чорнай крамной паддзёўцы, з blішчастым казырком, зайшоў Андрэй Руды, як сціпла адчыніў дзверы Грыбок, як пазней за ўсіх — ціхі, задуменны, схаваўся ў сенцах Чарнушка. Выходзіў на двор і вярнуўся ў хату Міканор, каморнік не паяўляўся, але Васіль ведаў, што ён таксама ў хаце. Потым ужо — усе даўно паснедалі — прыкаціў на калёсах з Алешнікаў строгі, акуратны Гайліс, прывёз яшчэ нейкага чалавека, немаладога, у гарадской вопратцы. Гайліс прывязаў каня да Міканоравага штыкетніка, і абодва, з Міканорам, што выбег насустрач, таксама пайшлі ў хату.

Чым больш збіралася ў Міканоравай хаце камісіі, тым больш расла ў Васіля трывога. Яна асабліва вялікай, важкай стала тады, як прыехаў і зайшоў да Міканора Гайліс. Нядобра ныла ўсярэдзіне, калі гадаў, што там у хаце гавораць, што рыхтуюць. Бачыў, што і ў суседніх дварах сочаць, чакаюць. Было відаць, усё сяло жыве тым, што мае пачацца, і гэта яшчэ ўзва-

рушвала трывогу. І — нібы знарок — не было начной рашучасці, і млявасць была ў нагах, у руках. Аж брыдка браў страх...

Усярэдзіне заныла больш, калі ўбачыў, як выйшлі ўсе з хаты, сталі выносіць нейкія прылады, доўгую паласатую дошку, нізку жалезных шпянькоў, круг з лентай. Між тых, хто збіраўся ў поле, былі Дамецік і Дамеціха. Дамецік — вольны ў рухах, упэўнены, Дамеціха — нясмелая, як бы вінаватая. Акрамя Дамеціхі, выгляд ва ўсіх быў заклапочаны, дзелавы. І гаворка — мяркуючы па тым, што даходзіла,— была дзелавая.

Пачуўшы гэту гамонку, на бліжнія двары, на вуліцу павыходзілі людзі, сталі збірацца, сачыць за важнымі зборамі. Не стала сядзець у хаце матка, выцягнуўся дзед, перавальваючыся, сaступіла з ганка Маня. Стаялі ля плота, глядзелі на вуліцу. Дзед курыў люльку, сіпла кашляў.

Матка раз-пораз аглядвалася, нібы абыякава, бесклапотна. Бесклапотна ж падышла к Васілю, пачала зноў, як малому:

— Нічого. Жылі да етаго, пражывем і без етаго... Да і тое ж падумаць — удзеляць жа нечаго!..— Заўважыла, як ён недавольна варухнуўся, хітра перамянілася: — І папрасіць можно, Дамеціху ці Міканора самого... Штоб не абдзяліў там, дзе даваць будуць...

Толькі і ўмее: вярэдзіць; Васіль адвярнуўся, паказаў, што не хоча слухаць. Нелагодна, з-пад ілба прасачыў, як адны на калёсах, а другія пешкі, паўз платы, рушылі к полю.

Патупаў трохі каля хлява, падаўся на прыгуменне. Пакорпаўся тут, не бачачы, што робіць: не мог ніяк адолець вялікага неспакою, брыдкай млоснасці, што поўніла ўсяго, як і раней. Паглядваючы спадылба, бачыў: на прыгуменнях там і тут збіраліся купкамі, заклапочана гаманілі. Некалькі чалавек прайшло ў бок цагельні, вясёлыя, цікаўныя, панурыя,— а ён усё корпаўся, усё не мог дабіцца цвёрдасці, яснасці, адолець нясмеласці. Як бы нанава чуў грозную латышову гаворку на сходзе, якая асабліва трывожыла: не адзін ён ведаў, што латыш слоў на вецер не кідае; з Гайлісавымі словамі нібы бліжэй чулася юравіцкая баковачка, пагроза юравіцкага Зубрыча: «Можам і вярнуць!»

Не ціхлі, не адчэпліваліся матчыны жагнанні. І ўсё ж яна карцела, зямля, яна нібы звала яго заступіцца; ні на міг не глухла ў ім адчуванне, што калёсы едуць да цагельні, што хутка ўсё пачнецца. Што блізка-блізка момант, які ўсё вырашыць. Што не можна сядзець, марудзіць.

Ён кінуў граблі, якія чамусьці трымаў, важка рушыў з прыгумення. Як нешта далёкае, заўважыў, што пачаў цярусіць дождж, заўважыў і тут жа забыў; адразу за гумнамі вочы ўлавілі, дзе ўжо калёсы. Калёсы набліжаліся да цагельні. Даехалі да купы асін і хвой, збочылі ў поле, на час схаваліся за дрэвамі.

У полі стаяла некалькі групак — мужчыны і жанкі; Васіль прыбіўся да адной, у якой быў Ігнат і яшчэ некалькі дзядзькоў. Ён хутка заўважыў, што большасць дзядзькоў настроена мірна: толькі ў двух, акрамя Ігната, было тут трохі поля,— але і двое гэтых, здавалася, не бедавалі ці не паказвалі бяды. Быццам рашылі: што будзе — тое будзе. Васіль толькі ў Ігнату пачуў свайго аднадумца. Усё ж ён, як і Ігнат, не адыходзіў ад іншых: дзіўна, нават ля гэтай групкі было неяк спакайней, цвярдзей. Ціха ўвайшло кволае: а можа і праўда — саступіць? Што будзе, тое будзе? Але ён адагнаў гэту думку.

Бачылі, як — у самым кутку поля за цагельняй, каля лесу, калёсы сталі, як каморнік стаў корпацца на калёсах. Расставіў трыногу, прыладзіў нейкую прыладу; адзін з дзядзькоў сказаў, што там ёсць такі бінокль, які паказвае, як мераць. Незнаёмы, якога прывёз Гайліс, пайшоў краем поля, паўз лес, з доўгай дошкаю; дзядзька сказаў, што яе завуць *рэйкай*. Незнаёмы, адышоўшы, стаў, паставіў рэйку перад сабой, а каморнік стуліўся каля сваёй прылады, пачаў углядвацца ў «бінокль». Яшчэ двое — было відаць: Хоня і Грыбок — пацягнулі ленту. За імі з нізкай шпянькоў пасунуўся Чарнушка. Спыняўся ля Хоні, раз-пораз утыкаў шпянькі ў зямлю. Латыш і Міканор то падыходзілі да іх, то, найбольш, былі каля каморніка...

Як пачалі набліжацца да Ігнатавага надзелу, Ігнат, увесь падаўшыся наперад, шаргаючы лапцямі, рушыў насустрач ім. Ён перайшоў поле, стаў з таго краю, дзе мералі. Мершчыкі былі блізка, але не падступілі зусім,— ён стаяў трохі, чакаў. Незнаёмы з паласатай рэй-

кай на плячы хацеў прайсці паўз яго, але Ігнат штосьці крыкнуў, і ён стаў. Азірнуўся ў бок каморніка. Там ужо складвалі трыногу, палажылі на калёсы і паўз поле пакіравалі да таго, што стаяў з рэйкаю. Не даехалі, спыніліся, сталі зноў расстаўляць трыногу. Хоня і Грыбок першыя заўважылі, што ў незнаёмага з рэйкай штосьці няладнае,— кінулі мерaць, падаліся да яго. Упала гэта на ўвагу і Міканору і Гайлісу,— таксама рушылі да Ігната і тых, хто сабраўся каля яго. Было відна: там пачалася спрэчка. Ігнату загадвалі сысці, а ён упіраўся, штурхаў рэйку, штосьці крычаў. Раптам вырваў рэйку, адскочыў, шырока размахнуўся. Усе асцярожліва адхінуліся, адступілі. Зноў загадвалі нешта, але ён не слухаўся. Трымаў рэйку напагатове. Тады Хоня стаў абыходзіць яго. Выбраўшы зручны момант, кінуўся ззаду, стаў валіць. Рынуліся да Ігната іншыя. Павалілі...

Да іх сталі збірацца дзядзькі, жанкі. Васіль таксама, няўпэўнена, насцярожана, пацягнуўся. Да таго як ён падышоў, Ігнат стаяў ужо са звязанымі за паясніцай рукамі. Чырвоны, з рэдкімі, прыліплымі да мокрага лба сіваватымі валасамі, невідуча паводзіў ашалелымі вачыма. Напінаў рукі, тузаў плячыма, ірваўся.

Гайліс выняў блакноцік, хацеў было штосьці напісаць. Раптам рэзкім рухам схаваў блакноцік, загадаў падагнаць калёсы. Калі Зайчык рухава, увішна падскочыў з калёсамі, Гайліс з Міканорам падсадзілі Ігната на драбінку. На драбінку з другога боку лёгка ўскочыў Гайліс, загадаў ехаць. Зайчык, які ў момант апынуўся на перадку, тузануў лейцамі. Усе, хто засталіся, хвіліну глядзелі ўслед ім, маўчалі. Міканор першы схамянуўся, распарадзіўся ісці рабіць. Выбраныя ў камісію адразу пачалі разыходзіцца: Хоня з Грыбком і Чарнушкам, што падышоў быў пазней, падаліся зноў да пакінутай ленты,— а каморнікаў памочнік панёс далей рэйку.

Людзі, якія збегліся з поля, цяпер ужо не адыходзілі, сачылі зблізку то за тымі, што мералі лентай, то за чалавекам з рэйкай, то — найбольш — за Міканорам і каморнікам, які чарадзейнічаў са сваёй недасяжнай звычайнаму розуму прыладай; штосьці варажыў над паперай, у якую раз за разам заклапочана глядзеў.

Сярод дарослых круцілася некалькі малых, якія невядома калі паявіліся. Васіль ішоў з усімі і чуў, як расце ў ім адчуванне блізкай, безнадзейнай і разам — непазбежнай небяспекі. Хваравітая, блытаная, нібы ў гарачым тумане, расла ў ім нецярплівасць. Галава была важкая, ні адной думкі; недарэчная, упартая, у гарачую няцямнасць, што поўніла галаву, лезла адно цікаўнасць: Грыбок, Хоня і Міканор падступаліся ўжо да Глушакоў; а там, каля краю надзелу, як межавыя слупы, стаялі стары і Яўхім. Прыкмеціў: Чарнушка адстаў, аддаў шпянькі Грыбку, не ішоў к Глушакам — але болей Васіль не бачыў Чарнушку. Глядзеў толькі на Яўхіма. Яўхім стаяў, расставіўшы ногі, прыгнуўшы галаву, якая нібы ўрасла ў плечы. Нецярпліва курыў, гатовы, здавалася, любы момант рынуцца ў бой. Стары гнуўся квола, па-старэчы; толькі, прыгледзеўшыся зблізку, можна было прыкмеціць, што ссохлы, у маршчынах, твар жорстка напяты, і позірк вострых вочак цвёрды, пільны.

Разам з усімі Васіль падышоў да іх. Яўхім, пахапліва, нервова смактануўшы, кінуў цыгарку, рашуча ступіў да тых, што мералі. Адразу ж яму насустрач ступіў Міканор.

Сталі адзін перад адным. Амаль упрытык. Яўхім — галава нібы яшчэ ўрасла ў плечы — глядзеў цвёрда, грозна; позірк гэты як бы папярэджваў, раіў не звязвацца з ім. Рабы, пласкаваты Міканораў твар, здавалася, гатоў быў засмяяцца. Міканор быццам хваліўся, што не баіцца. Гэта задзірлівая ўсмешка, было прыкметна, ятрыла Яўхіма. Яшчэ момант, здавалася, і ён не стрымаецца. Люта рыне на Міканора. Але тут — акурат у пару — трывожна, імкліва ступіў да Яўхіма стары, моцна ўзяў яго руку. Прамовіў уладна, з гневам:

— Яўхім.

Той не варухнуўся ў адказ. Але руку не вырваў. Прыплюшчыўшы вочы, уцінаўся ў Міканора. Злосна мыляў сухімі губамі. Не знаходзіў слоў. Усе моўчкі, з трывогай сачылі за абодвума.

— Багато бярэш на сябе,— выціснуў, нарэшце, Яўхім з пагрозаю.

Міканор, нібы смеючыся з яго бяссільнасці, сказаў:

— Столькі, сколькі магу.

Яўхім стрываў. Выціснуў яшчэ, з нейкім прытоеным, грозным сэнсам:

— Смелы вельмі!

— А чаго ж! — Міканор памаўчаў. І дадаў таксама з пагрозаю: — І ты — не сакрэт — смелы!..— Дадаў так, быццам папярэджваў: паберажыся наўперад сам.

Глушак зазлаваў. Тузануў мацней сына.

— Яўхім!!!

Той няцямна азірнуўся на яго. Гатоў быў ужо паслухацца. Але стаў, з лютасцю зіркнуў на Міканора:

— Пабачым шчэ. Хто смелы. Адзін на адзін.

— Яўхім!!! — закрычаў стары люта. Сіпла, са злосцю, як на малога, накінуўся: — Здурнеў! З глузду з'ехаў!!! Мазгі павысыхалі!

Яўхім пастаяў момант; стары ашалела і дужа тузануў яго за руку, і ён неахвотна паслухаўся, паплёўся за старым. За ўсёй гэтай сутычкай сачылі з увагай, з неспакоем, з трывогай: усе ведалі — пагроза Яўхіма штосьці значыла. Ведалі: Яўхім не забывае тое, што гаворыць; сказаў: трэба асцерагацца, значыць — трэба. Багата хто не ўхваляў таго, што Міканор глядзеў на гэта легкадумна, нават гулліва; няма чаго пасмейвацца, калі Яўхім грозіцца! Пільнавацца трэба, калі Яўхім прыгразіўся!..

Як толькі скончылася сутычка Яўхіма з Міканорам, Васіль адступіўся ад натоўпу, паваloкся на сваё поле. То стаяў, то тупаў, няздольны стрымаць брыдкую млоснасць, непатрэбную кволасць. Стараўся не глядзець і амаль не глядзеў у той бок, дзе тоўпіліся, рабілі людзі,— але ўвесь час бачыў, чуў — дзядзька з рэйкай, мершчыкі, каморнік, Міканор усё падыходзілі. Чым бліжэй яны падступалі, тым больш расло ў Васілю супярэчнае хваляванне — страх, адчай, смеласць. Усё больш чуў: час яго набліжаецца, горкі і неадменны час. Ведаў ужо — што наўрад ці даб'ецца чаго-небудзь. Баяўся, калі брала загадка: чым гэта скончыцца яму, яго бойка.

І ўсё ж не мог саступіць, аддаць усё так проста. На гэта быў як бы нейкі неадменны загад усяго жыцця. І ён рыхтаваўся, чакаў.

Нібы не сваімі нагамі ступіў ён да Хоні, што пад-

цягнуў ленту да яго паласы. Дрыготкім і хрыпатым голасам выціснуў:

— Тут... пасеяно...

— Усё, брат,— і пасеянае, і непасеянае,— адно,— сказаў, выпрастаўшыся, весела гледзячы на яго, Хоня. У голасе яго было нешта дзіўна прыязнае, таварыскае.

Васіль заўважыў, як каля іх хутка большае натоўп. Цёткі, дзядзькі, дзеці, зларадныя, спачувальныя, проста цікаўныя.

— Усё, брат Васіль, пад адзін грэбень! — весела паспачуваў Хоня.

— Няма такого закону! — Васілёвы губы пакрыўджана дрыжалі: — Штоб адбіраць! Да шчэ тое, што пасеянае!..

— Не трэба було сеяць! — са здзеклівай рэзкасцю заявіў Міканор. Пляскаты, пакляваны воспаю твар быў нецярплівы і недавольны: лезуць тут са ўсякімі выдумкамі, затрымліваюць. Пераможна нагадаў: — Сказано було: не сей!..

Міканор намерыўся ўжо ісці да каморніка. Як бы паказваў: няма чаго тут гаварыць. Васіля рэзкасць, нячуласць яго ўзлавалі. У момант ажыла зацятасць, горыч даўняй спрэчкі,— калі араў. Адразу знікла кволасць, крыўду змяніла злосць, упартасць.

— Не дам! — крыкнуў ён.— Не вашае.

— Адыдзі! — ціха і неяк пагардліва сказаў Міканор. Нібы перад ім быў не Васіль, не гаспадар, а казяўка. Гэта яшчэ дадало ўпартасці.

— Не пайду! Не аддам!

Адкуль паявілася матка: — Васілько!..— Вечна не ў час прыпрэцца. Ён нецярпліва варухнуў плячом:

— Ат!

— Саступі, Васілько!

— Не дам!! — закрычаў ён Міканору.— Мая зямля!!

На пакляваным Міканоравым твары была тая ж пагардлівая ўпэўненасць. Нібы выхваляўся сваёю сілай. Нібы здзекаваўся з яго бяды.

— Зямля — народная,— прамовіў Міканор. У голасе яго пачулася зноў помслівая злараднасць.

— Мая!!!

Васіль аж задрыжаў. Ад крыку, ад упартасці. Ён чуў, што сіла такі на Міканоравым баку, што надзеі

ў яго, Васіля, амаль ніякай, што, мабыць, не даб'ецца нічога. Але гэта цяпер не толькі не кволіла, а дзіўна ўздымала адвагу. Зямля, якую ён любіў і раней, цяпер была яму даражэй, як калі-небудзь. Даражэй за ўсё, за сябе самога. Даражэй асабліва таму, што ён чуў — от-от яна сыдзе з-пад яго ног. Ужо сыходзіць. Ён цяпер гатоў быў для яе на ўсё. Не здольны ўжо разважаць, ён, як стаяў, упяўся лапцямі ў разору, закрычаў:

— Не пушчу!!!

Яны стаялі твар у твар. Людзі — цікаўныя, трывожныя, чуйныя — сачылі за імі. Стаялі амаль кругам, амаль упрытык, толькі Чарнушка трохі наводдаль. Чарнушка таксама сачыў, са спачуваннем, са шкадаваннем, з пакутай. Адзін з тых двух быў спакойны, зняважліва-ўпэўнены, другі — роспачны, ашалелы ад бяды, ад бяссільнасці.

— Ідзі па-добраму! — ужо нецярпліва — не просячы, а загадваючы — сказаў Міканор.

— Не пайду! — заявіў Васіль цішэй, але ў тым жа вялікім хваляванні. З непадатнай цвёрдасцю.

— Васілько! — учапілася ў Васіля матка, але ён як бы і не заўважаў яе. Глядзеў толькі на Міканора. Не зводзіў воч.

Міканор ступіў крок, упэўнена ўзяў яго за плячо. Хацеў саштурхнуць яго. Васіль нібы толькі і чакаў гэтага.

— А-а, т-ты так!

Ён адарваў матчыну руку, нейкі дзіка-радасны — не помнячы ўжо, што робіць,— хутка рынуў на Міканора. Ухапіў загрудкі.

— А-а, ты... так!..

Ён дужа сціснуў Міканораву паддзёўку, так што Міканору цяжка было варухнуць плячамі. Моцна рвануў на сябе, Міканор амаль упрытык убачыў сляпыя і радасныя, поўныя лютасці вочы; скрыўлены нянавісцю, прагай помсты твар. Міканор упёрся ў Васілёвы грудзі рукамі, стараючыся адцісsucceed яго, але Васіль не даўся. Раптам ён штурхнуў назад так, што Міканор ледзь устаяў.

Усё гэта было які момант, бо к Васілю і Міканору адразу ж падскочылі Хоня, Алёша, яшчэ некалькі чалавек. Васіля ўхапілі за рукі, за шыю, за каўнер світы. Але і гуртам ледзь адарвалі.

Ён усё кідаўся ў дужых руках, запалена хрыпеў, намагаўся вырвацца. Зіркаў на Міканора люта, помсліва.

— Васілько!.. Ашалеў саўсім! — бедавала, бегала навокал сына і тых, якія яго трымалі, матка. Абхапіла рукамі галаву, загаласіла з адчаем, на ўвесь голас. Міканор, узлаваны, трохі зніякавелы, аддыхваўся, выціраў далонню пот. Стараючыся трымацца з годнасцю, плюнуў знарок спакойна, як бы прыгразіўся:

— К-кулацкая душа!.. Контра!..

Дзятліха, як ні галасіла няшчасна, прыкмеціла Міканораў позірк, кінулася, просячы, молячы:

— Не сердзіся на яго, Міканорко!.. Ты ж старэйшы, спакайнейшы!.. Ашалеў ён саўсім! Не помніў ён, што рабіў!..

— Напомнім — штоб не забуваўся! — з пагрозным намёкам прамовіў Міканор і падаўся ад натоўпу.

Дзятліха дробна, хапатліва пабегла каля яго. Збоку было відаць, прасіла Міканора не злавацца...

— Дарэмно ты ето, брат! — весела гаварыў Васілю Хоня, здавалася, адно ўзрадаваны гэтай спрэчцы.— Рашылі, брат! Рашылі, значыць — кончано!..

— Што ж цябе аднаго абходзіць?! — як бы тлумачыў Алёша.

Васіль невідуча вадзіў вачыма, дыхаў горача, але ўжо не рваўся. Стаяў нейкі аслабелы, абвялы, быццам абыякавы да ўсяго. Раптам зноў неспакойна павёў вачыма, крутнуўся недавольна. Яму не сталі працівіцца, выпусцілі з рук. Ён момант пастаяў, як бы ў роздуме. Потым важка пайшоў цераз паласу ад людзей.

Ішоў, горбячы плечы, угнуўшы галаву. Лапці ўязджалі ў пульхную раллю, таптала, нявечылі сцяблiны руні. Так жа важка і абыякава пацягнуліся чужым полем. Матка неўзабаве дагнала яго, дробна заспяшалася побач. Штосьці загаварыла лагоднае, супакойлівае.

Ён быццам не чуў яе.

У той дзень матка некалькі разоў бегала да Дамецісі. Бегала нібы з гаспадарчымі клопатамі — параіцца, пазычыць запалак, мукі на зацірку; але большасць цікаўных жанок меркавалі, што гэта ўсё — для прыліку, для чужых вачэй; што напраўду — для таго, каб ула-

годзіць Дамеціху, упрасіць заступіцца перад Міканорам за Васіля,— каб не злаваў, не перадаваў у суд. Пад вечар, калі Міканор паявіўся на двары сам, падсцерагла, калі ён астанецца адзін без каморнікаў, таксама ледзь не кінулася ў ногі...

Неўзабаве пасля гэтага Міканор і Васіль сутыкнуліся яшчэ раз. Нахіліўшыся над калодзежам, Васіль зачэрпваў ваду, калі да калодзежа, у расшпіленай сарочцы, без шапкі, з вядром у руцэ падышоў з хаты Міканор. Васіль, заўважыўшы яго, не падымаў вачэй, на нейкую хвіліну перастаў нават цягнуць вочап. Як бы чакаў чагосьці. Ці можа думаў, што Міканор кінецца біцца.

Міканор стаяў нямірны. З пагрозай і шкадаваннем прамовіў:

— Шкода толькі матку тваю... Да і дзеда паважаю...

Васіль нядобра зіркнуў, пацягнуў вочап. Ужо калі зняў вядро, заявіў упарта:

— Я ето так не кіну! — Голас яго быў нацяты, рукі дробна дрыжалі.— К Апейку пайду! Папытаюся, ці можно так — па савецкаму закону!

— Ідзі, ідзі,— Міканор упэўнена надзеў вядро на кручок вочапа. Затрымаўся, глянуў на яго.— Толькі б лепей у калгас пайшоў! Зразу ўсё і рашылася б!

## РАЗДЗЕЛ ЧАЦВЁРТЫ

### 1

У гэты вечар ледзь не ў кожнай хаце гаварылі пра падзеі ў полі. Кожнаму ў Куранях было ўжо вядома, і што казаў Яўхім, і як махаў рэйкаю Нібыта-Ігнат, і што рабілі Гайліс і Міканор, і як кінуўся на Міканора Васіль. Усё гэта выклікала самыя розныя меркаванні: адны хвалілі Васіля і Нібыта-Ігната за смеласць, другія судзілі, як неразумных: таксама героі знайшліся! Гаварылі, што Міканору цяпер трэба будзе сцерагчыся Яўхіма, пільна паглядваць увечары. Найбольш было гаворкі пра Нібыта-Ігната: можна было чуць такое, што Ігнату — пры цяперашніх строгіх парадках — не паздаровіцца. Шэптам і з належнай шматзначнасцю

пераказвалі, што за такія штукі — чутно — дзе-нідзе і к сценцы ставяць.

Вялікім і розным клопатам былі поўны хаты тых, хто трапіў у героі гэтых падзей. Васілёва матка і, як магла, лагодна суцяшала Васіля, каб не бедаваў пра страчанае, і, хоць асцярожна, дакарала — што не беражэцца. З бясконцай матчынай цярплівасцю вучыла свайго неслухмянага сына Дамецiха, папракала, што заядаецца са ўсімі, трывожна прарочыла, што гэта не давядзе да дабра. У Ігнатавай хаце было цёмна і маркотна. Уся вялікая сям'я, нібы асірацелая без бацькі, сядзела за сталом нязвыкла маўкліва; ціха разышліся ўсе пасля вячэры па палацях, на прыпечак, на печ. Нават меншыя не дурэлі, не чапаліся адзін з адным.

Набедаваўшыся за дзень, Ігнаціха таксама сабралася ўжо лажыцца, калі на ганку пачуліся немагчыма знаёмыя крокі, патрабавальна ляснула клямка. Хадоська, што ляжала ўжо з малымі, несамавіта крыкнула: «Татко!», ускочыла,— як была ў адной сарочцы, кінулася ў сенцы. Яшчэ да таго як увяла яна нявідна-га бацьку, хата напоўнілася радасным галасам. Скакалі, крычалі большыя, лямантавалі малыя. Жонка і Хадоська з нядаўняй бяды, з неспадзяванай радасці таксама загаласілі, жагнаючыся, божкаючы.

— Да сціхніце вы,— недавольна і звыкла злосна зыкнуў раптам Ігнат.— Як па нябожчыку!.. Есці лепей дайце!

Ён скінуў світу і сеў да стала. Спыніў Хадоську, што хацела запаліць лучыну: «Як-небудзь траплю ў рот і без святла!» — нявідны, моўчкі, прагна жаваў, сёрбаў, не адказваў на нецярплівыя жончыны пытанні. Ужо калі леглі, неахвотна і панура, нібы паказваючы, што радавацца асабліва няма чаго, сказаў, што сядзеў увесь час у Алешніках, што латыш гаварыў строга і грaзіўся аддаць пад суд, але ўвечары адпусціў. Памагло, мабыць, што заехаў Апейка. Адпускаючы, латыш наказваў, каб быў разумнейшы, каб гэта было «апошні раз»!.. Ледзь выведаўшы ўсё, Ігнаціха не ўтрывала, упікнула: «Я што казала...», але Ігнат так зыкнуў, што яна адразу ўціхла. Услухоўваючыся ў яго неспакойнае дыханне, старалася адгадаць адно, чаму ён па-ранейшаму такі невясёлы, пра што так цяжка думае...

«Злы,— прыйшло ў думкі.— Век — злы. Быў і —

будзе...» — Успомніла — з недарэчным гонарам і скрухай: а быў жа вясёлы! Калі жаніўся, больш галасістага за яго і не было. На ўсе Курані самы галасісты быў хлопец!.. Як скакаў! Лепей за ўсіх у цэлых Куранях!.. І кучаравы быў, чупрына — як лаза густая! І паверыць не паверыла б, каб не помніла. Аблез саўсім, чэрап свеціцца голы... Зацяты быў змоладу... З зацятасці гэтай і ссох, аблез. Зацятасць гэта і зрабіла злым. Зацятасць ды — няшчасці... Як знарок, век не шанцавала... То ж з-за адной Хадоські колькі наперажываўся. Як радаваўся ўпачатку, што Карчоў улягаць пачаў быў. Як цешыўся, што прыпяваючы жыць будзе. І от дачакаўся!.. З-за аднаго гэтага ссохнуць нядоўга... Цяпер от — Хоня,— не адыходзілі думкі ад Хадоські.— Хоня — хлопец непаганы, ён, Ігнат, сам ведае. Але ж — бядняк, горкі бядняк. Ды шчэ з маткай-калекаю... Хіба ж цяжка дагадацца, чаму ён, Ігнат, так коса глядзіць на Хоню. Чуе ж, што не соладка будзе дочцэ... Як знарок не шанцавала! — тоіць Ігнаціха ўздыханне.— То пакралі сена, то жыта градам пабіла. То згарэлі — згалелі саўсім. Як — кара якая божая. Дзеці — век хворыя, век чэзлыя, кожную вясну з галадухі скуголяць. То ж не было года, каб наеліся ўдосыць... Адна надзея на гэту палоску была,— узяў Ігнаціху пякучы жаль.— Усё дабро, лічы, з яе адной. А цяпер,— як цяпер будзе? — падступіў страх.— Калі — не дай бог — удзеляць пясок!.. З торбай вясной пайсці давядзецца!.. І што наогул будзе?.. От і — будзь добры, вясёлы! Не злы будзь!..

Ёй захацелася прытуліцца да яго, палашчыць, суцешыць. Але яна не варухнулася: толькі паслухала, як ён дыхае. Баялася сказаць слова: яшчэ, можа, разззлуецца!..

Нявесела хліпаў прыкручаны кнот у лямпе, што вісела пад Глушаковай столлю. Нядаўна сышоў госць — Лясун, які прамаўчаў увесь вечар. У хаце былі трое — старая, стары Глушак і Яўхім. Старая гарбацілася на ложку пры печы: успершыся локцем на сценку ложка, седзячы драмала, як кура. Раз-пораз локаць яе саскоўзваў са сценкі, галава падала на грудзі, яна прачыналася на хвіліну. Ставіла локаць на сценку і драмала зноў, але лажыцца раней старога не наважвалася. Яўхім ся-

дзеў на звыклым сваім месцы каля стала і акна, усперШыся, як звычайна, плячом на вушак, курыў скручаную з газеты папяросу. Стары, што ўвесь дзень і ўвесь вечар не знаходзіў сабе месца, браўся за ўсё і кідаў са злосцю і роспаччу, што кіпеў і пляваўся ўвесь час, пакуль нема тырчаў Лясун,— раптам паскардзіўся квола:

— Ето — разанулі. Па самаму горлу. У самы жывот — нож!

— Разанулі,— стрымана згадзіўся Яўхім.

— Рабая зараза ета Дамецікава ўсё! Самая поскудзь, самы гад!

— Гад.— Яўхім зацягнуўся папяросаю, пусціў ротам дым.— Гад. Да от не возьмеш. Не чаванеш яму горло так, штоб храснуло, як у кураняці...

— Не возьмеш! — пашкадаваў і стары. Як ні кіпеў, разумна, з клопатам пра сына папракнуў: — А не возьмеш, дак няма чаго паказуваць, што хочаш узяць. Насцярожуваць гада загадзя.

— Рукі свярбелі ж дужа.— Яўхім зацягнуўся, доўга, марудна пускаў дым: — Свярбелі. А не можно.

— Нічого не зробіш! — Стары шкадаваў так, што нястрымна, дробна дрыжалі губы.— Галавой сцену не праб'еш! — Як самае дарагое, як найлепшую мару, сказаў, выдыхнуў: — Кеб — вайна хіба! — Помніў, што побач, за сцяной, Чарнушкава прыблуда, ад якой усяго можна чакаць і якой век асцерагаўся,— але не мог стрымацца, сцішыць голас: — Царскія генералы кеб з войскам! Балаховіч які новы няхай бы! Чутно ж: е недзе! Стаяць напагатове недзе,— а не йдуць нечаго!

— Генералы там такія...— Яўхім мацюкнуўся.

— Генералы вучаныя. І злыя — землю ж і ў іх пазабіралі. Землю і маёнткі, і дабро ўсё пазабіралі. За граніцай ацірацца заставілі. Таксамо ж кіпіць няйначай у кажнаго, кажны рвецца вярнуць, што адабралі! — Заўважыў, што Яўхім слухае яго нядобра, як бы з насмешкай, стрымаўся. Загаварыў не так цвёрда: — Ці яны баяцца бальшавікоў? Ці маменту ждуць зручнаго? Штоб ударыць у зручны мамент?

— Не цешце сябе, тато...

— Як жа і жыць, як не цешыць! Не надзеяцца,— зноў гарачэй загаварыў стары.— Адной надзеяй толькі

і дзяржацца шчэ можно! Толькі і надзеешся, што бог наглядзіцца, кончыцца яго цярпенне!

— Не надзейцеся, тато, на свайго бога...

— Не кажы! — Яшчэ загарэліся вочы старога.— Не гневай яго! От з-за етаго можа ўсе і выходзіць! Што не шануюць, што кожны абражае яго! З-за етаго ён можа і падумаў: хоць перадушыцеся, паешце адзін аднаго,— калі вы ўсе такія да мяне!.. Не смейся! — закрычаў ён, улавіўшы на сынавым твары ўсмешку. Слухае, як разумнейшы — дзівака! — Не смейся! — загадаў Яўхіму.

Яўхім сагнаў усмешку.

— Бог! Дзе ён, еты ваш бог?! — сказаў Яўхім раптам нецярпліва, усхвалявана.— Калі тут такое робіцца, а ён — хоць бы што! Глядзіць — ды маўчыць! За бальшавікоў шчэ, падобно, стараецца! Бязбожнікам памагае!

Стары перахрысціўся.

— Не пляці! Не паддавайся д'яблу, які шэпча табе! Бачыць ён усё, бог, жджэ сваёй мінуты! І калі пабачыць, што — мамент,— скажа сваё! Скажа! Пабачыш!.. Прыйдзе ета мінута! Будзе ета пара! Перамераецца ўсё нанава! Пабачыш! Бог скажа сваё!

— Дак падаждджэм,— прамовіў Яўхім нібы спакойна, зноў з той жа схаванай, недаверлівай усмешкай.

— Сіла цяпер у іх! — не заўважыў усмешкі разгарачаны стары.— Цярпець ды надзеяцца — адно астаецца! Ждаць, калі бог рэшыць!

— Дацярпеліся, даждаліся ўжэ!..

— Дажджэмся, буць не можа! Бог скажа сваё!.. Кеб палякі хоць! — раптам перамяніў гаворку стары. Шкадуючы, прагнучы, нібы памаліў: — Хоць бы тыя ўжэ! Гатовяцца ж даўно, пішуць і ў етых, у бальшавіцкіх, газетах!..

Яўхім дыміў адно, думаў штосьці сваё. Нечакана для старога падумаў уголас, цвёрда, неадменна:

— Усе-такі я запарву недзе етаго рабого, воко да вока! І пагавару — воко да вока! — Ён прамовіў «пагавару» так, што нават стары зірнуў трывожна і пільна. Яўхімавы вочы былі прыжмураны люта, бязлітасна. Як бы пакляўся — жыў не буду, пакуль не пагавару!

— Дазнаюцца зразу,— сказаў мякка стары, шкадуючы.

Яўхім прамаўчаў. Дыміў цыгаркаю, зноў абапершыся аб вушак. Стары сядзеў неспакойна, круціўся, ездзіў па лаве. То паглядваў на акно, ці не туліцца хто-небудзь, то кідаў позірк на старую, што ўсё драмала седзячы, то прыслухоўваўся, што чуваць адтуль, дзе Чарнушкава, неспакойна разважаў, што рабіць.

— К начальству б якому папробуваць? — глянуў на сына, быццам раіўся.— Крываротаго і то ўжэ як бы шкода, што прагналі... Падступіцца не знаеш да каго...— Стары вытрымаў хвіліну, наважыўся, з асцярогай, уважліва: — Можа б... к юравіцкаму — пра каторага намякаў... папробуваць?..

— Можно папробуваць...— не здзівіўся, не стаў доўга разважаць Яўхім. Мабыць, і сам ужо думаў пра гэта. Уздыхнуў: — Надзеі на другое няма...

Стары ўзрадаваўся:

— Схадзі.

Яўхімварухнуўся. Кінуў, растаптаў лапцем акурак. Голасна, з яго бязлітаснасцю, сказаў:

— Адзін выхад — калгас. Нідзе не дзенешся! — Дадаў бязлітасна ж: — Усе адно жыць самім не дадуць! Да й чаго так жыць, як цяпер!

Стары памаўчаў. Нечакана прамовіў:

— Не прымуць.

Яўхім не пярэчыў. Моўчкі рушыў дадому. Стары ступіў услед:

— Дак схадзі ж.

## 2

Стары параіў ісці не па шляху: нінашто лішне лезці ў людскія вочы. З хаты Яўхім падаўся да гумна, зазірнуў у гумно, пакорпаўся на прыгуменні. Потым ужо, у картовых штанах, у лапцях, у свіце, накінутай на плечы, выправіўся ў поле, спакойна, быццам з нейкім гаспадарчым клопатам, пакіраваў да лесу. Сцежкамі, не сустрэўшы нікога, абышоў блізкія Міхалі, вылез з лесу толькі каля балота. Па кладцы — двух круглых, слізкіх бярвеннях — пераступіў цераз мелкую пасля лета рэчку. За рэчкай зноў збочыў з дарогі, абмінуў Загародкі. Полем, сцежкамі, не выходзячы на шлях, кіруючы на знаёмую белую царкву, і дабраўся да мястэчка.

У мястэчку пайшоў таксама не па людному галоўнаму спуску, а ціхай сцежкай, што звіліста спадала з гары, паўз яр, паўз агароды. Зубрыч строга забараніў заходзіць у будынак, дзе ён рабіў. Ён забараніў і турбаваць сябе з інакшай, як пры крайняй патрэбе, прычыны; не якім-небудзь намёкам, а простымі, цвёрдымі словамі Зубрыч паказаў, што Яўхімава справа ў цэлым — чакаць, калі да яго прыйдуць. Толькі тады, калі сустрэча крайне патрэбна, неабходна, Зубрыч дазволіў: можна папрасіць яго сустрэцца, але не заходзячы для гэтага ні ў яго кабінет, ні на кватэру, а праз нейкага свайго Пелюха, якога Зубрыч уладзіў рабіць на насенным складзе. Да хаты гэтага Пелюха Яўхім і кіраваў цяпер.

Хата была акурат пад гарою, у ціхім, пароcлым травою завулку, так што, ідучы сюды, Яўхіму не трэба было вельмі асцерагацца напаткаць каго-небудзь з кураньоўцаў ці алешнікаўцаў. Трэба было асцерагацца хіба цікаўных позіркаў з хат ды двароў, але мала хто і па якой патрэбе мог ісці завулкам, збочыць у хату! Яўхім зусім і не чуў якой-небудзь насцярожанасці; як і тады, калі падыходзіў да мястэчка, і калі спускаўся з гары, і калі ішоў завулкам, ён чуў сябе вельмі спакойна. Схільны хадзіць па свету ганарліва, не туляючыся, ахвочы нават да рызыкі, ён лічыў, што ўся гэта зубрычаўская асцярожнасць ні да чаго, і калі трымаўся яе правіл, то толькі таму, што на гэта быў цвёрды Зубрычаў загад, і таму, што злаваць Зубрыча не было ніякай рацыі. Праўда, яго ні трохі не турбаваў клопат пра тое, каб не ўгнявіць Зубрыча: чым бліжэй падыходзіў Яўхім да сустрэчы з Зубрычам, тым менш тлела ў Яўхіма спадзявання і на самога Зубрыча і на гэты паход, у які ён выправіўся найбольш таму, што прасіў бацька. Ва ўсім гэтым паходзе Яўхіму бачыўся цяпер толькі той сэнс, што будзе ці не будзе якая-небудзь карысць, а паспрабаваць — можна. Каб не гадаць потым. Іншага выхаду ўсё роўна няма.

У Пелюхавай хаце былі толькі жонка з дзіцем на руках ды малая гадоў дзевяці. Малая, чарнявая, падобная на бацьку, адразу, як толькі ўвайшоў Яўхім, падалася да маткі, таропіла з-за матчынай спадніцы дзікаваты, пільны позірк. Уважліва, не вельмі гасцінна глядзела і Пелюхава жонка, невысокая, таўставатая, рас-

патланая, у расшпіленай бруднай сарочцы. Можа быць, яе раззлавала дзіця, якое яна трымала, яна і цяпер нервова хітала яго,— але і Яўхіму, здавалася, нічога добрага не хацеў зычыць гэты позірк. Калі Яўхім сказаў, што яму трэба пагаварыць з чалавекам, яна, як бы злуючыся, загадала малой пазваць бацьку. Без ветлівага слова павярнулася, падалася, важка ступаючы босымі нагамі, хітаючы дзіця на тоўстых руках, у суседнюю бакоўку. Не запрасіла нават сесці. Яўхіма гэта ні трохі не збянтэжыла: ён спакойна агледзеўся, выбраў месца на лаўцы ля акна. Сеў, як у бацькавай палавіне.

Пелюх прыйшоў скора. Чорны, няголены, жвава ўскочыў, угледзеўся, не пазнаючы; відаць, чакаў камусьці іншага, бо калі пазнаў, Яўхім заўважыў — юрлівыя, з бляскам вочы расчаравана пахаладнелі. З расчараваннем на твар легла насцярожанасць: пільна, косa павёў позіркам на жонку. Гэта было адзін міг, Пелюх амаль адразу ж адолеў разгубленасць: як перад найлепшым прыяцелем заюрліў перад Яўхімам, выказваючы радасць, якая можа быць толькі ад госця, якога даўно і нецярпліва выглядвалі. Яўхім, здзіўлены такім уменнем хлусіць, хоць, як заўсёды, чуў непрыхільнасць да такой хлусні, як мог падтрымліваў яе: здагадаўся, што жонка нічога не ведае, дзеля чаго ён прыбіўся, і не павінна ведаць. Запінаючыся, выціскаў з сябе выдумку: вінаваты, што не заходзіў доўга: але быў вельмі заняты, работа насела — не перарабіць. От толькі цяпер вырваўся і то на хвіліну. Толькі калі жонка выйшла прынесці гуркоў на закуску да той пляшкі, якую паставіў гаспадар на стол, Пелюх, не крыўляючыся ўжо, не тоячы неспакою, запытаў Яўхіма, чаго яму трэба.

Пасля гэтага з паўгадзіны яшчэ сядзелі за сталом. Пілі спачатку з гаспадыняй, якая ахвотна перакуліла чарку самагонкі, ужо больш зычлівая прысела збоку стала. Яна, відаць, сядзела б увесь час і выпіла б яшчэ не адну чарку, калі б у баковачцы не захліпала, настойліва, патрабавальна, дзіця. Жанчына, зноў узлаваная, важка патупала ў бакоўку. Мужчыны пілі і закусвалі адны, пілі, пакуль бутэлька не апусцела. Тады толькі Пелюх, ужо непрытворна вясёлы, жвавы, падаўся з хаты, загадаўшы Яўхіму сядзець чакаць.

Прыйшоў ён не вельмі скора. У пакоі была зноў

жонка з дзіцем на руках, і ён зноў з прытворнай вясёлосцю загаварыў пра тое, што на складзе спакойна, была адна падвода, дык ён адпусціў яе і вярнуўся. Жонка, мабыць, адчула, што ён нешта тоіць, бо прыглядвалася і ўслухоўвалася вельмі ж уважліва і недаверліва; толькі выйшаўшы правесці, ужо ў завулку ля плота, Пелюх перадаў, што Зубрыч вялеў чакаць яго пры дарозе, якая вядзе ў Крыты. У лесе, праз кіламетры два ад мястэчка. Праз гадзіну...

Дарога была ціхая, без людзей. Насустрач ішлі толькі спачатку бярэзнік, а пазней — сасоннік, там і тут перамешаны з бярозамі. Ужо калі Яўхім падыходзіў туды, дзе, па яго адліку, трэба было чакаць, учуў ён наперадзе рыпенне калёс, што ехалі збоку Крытаў; сышоў з дарогі, схаваўся ў зарасніку. На калёсах ехалі двое дзядзькоў: адзін правіў, а другі седзячы драмаў. Той, што правіў, быў у світцы, у старой шапцы, з рудой барадою,— вясковы дзядзька, а другі — малады, у паліто, з настаўленым каўняром. Збоку відно было — гарадскі госць,— які-небудзь упаўнаважаны...

Зубрыча давялося чакаць доўга. Пачуўшы лёгкі бег калёс, Яўхім не выйшаў на дарогу, глядзеў з-за дрэва, праз гушчэчу зарасніку: думаў выйсці тады, калі ўпэўніцца, што гэта іменна Зубрыч. Ехаў-такі — адразу пазнаў — Зубрыч,— на лёгкім, з рысорамі, вазку, у палатняным плашчы з капюшонам, у выгаралай, з памятым казырком шапцы. Сядзеў так, што можна было падумаць — нудзіцца дарогаю, дрэмле, але Яўхім зводдалек улавіў заклапочаны позірк яго ўперад.

Яўхім, спакойна адхінаючы галлё, выйшаў на дарогу. Зубрыч спакойна ж, павольна пад'ехаў. Спадылба прастрэліў дарогу наперадзе.

— Падвязеце можа? — сказаў Яўхім прытоена насмешліва.

— Сядай.— Зубрыч прытрымаў каня. Не ўзяў Яўхімавага гулліва-насмешлівага тону, сказаў стрымана, сур'ёзна.

Зубрыч дзелавіта варухнуў лейцамі, вазок крануўся.

— Што такое? — Зубрыч зірнуў на Яўхіма строга, патрабавальна.

Яўхім, ужо без гуллівасці, коратка, грубавата, расказаў.

— Я ведаю гэта,— прамовіў Зубрыч, адварочваючыся ад яго. Яўхім заўважыў і ў тоне гаворкі яго, і ў тым, як адвярнуўся, глядзеў кудысьці ўперад, незадавольнасць: нібы яго патурбавалі з-за нейкай дробязі!

Яўхім зазлаваў. Узяла непрыхільнасць да Зубрыча, упартасць.

— Дак чаму ж не зрабілі нічога? Пальцам не варухнулі! — сказаў груба, непрыязна, знарок паказваючы гэта.

— Не магу,— Зубрыч нібы не заўважыў Яўхімавага тону. Ці не палічыў вартым прыніжацца да гэтага тону. Мякка і як бы звысака, павучаючы, растлумачыў: — Рашэнне зверху. Рашэнне Цэнтральнага Камітэта! І савецкага ўрада!..

— Дак нічога і зрабіць не можно було? — не змяняў Яўхім тону.

— Можна было,— лагодна згадзіўся Зубрыч.— Але — таварышы ў вас вельмі граматныя. Таварыш Гайліс і ваш новы старшыня калгаса... Вялікую, можна сказаць — пахвальную актыўнасць праявіў ваш навеяўлены старшыня! Дайшоў да сакратара райкома таварыша Башлыкова! Дамовіўся са старшынёй райвыканкома таварышам Апейкам!.. Дамовіўся не наогул, а — канкрэтна! Канкрэтна дамовіўся, які ўчастак выдзеліць! Мне паведамілі толькі рашэнне! Канкрэтнае! Я быў бяссільны!..

Зубрыч развёў рукою. Яўхіма злавала не толькі тое, што ён казаў, але і яго манера гаварыць: крыўляецца, як на спектаклі, як перад малым; калі такое робіцца!

— Што ж вы — можаце? — сказаў Яўхім з пагардай. Падумаў зласліва пра сябе: знайшоў на каго спадзявацца!

— Не трэба істэрыі! — ужо без артыстычнасці, уважліва і холадна прамовіў Зубрыч.— Цярплівасць і вытрымка — вось што трэба! — Ён загаварыў стрымана, дзелавіта: — Мы не можам не лічыцца з абставінамі. Абставіны пакуль што, на жаль, мацней за нас. Нам, незалежна ад нашых жаданняў, астаецца пакуль адно — чакаць. Чакаць, калі абстаноўка зменіцца. Стане больш спрыяльнай нам.

— Як жа ждаць? Жыць ужэ няма як! — абурыўся Яўхім. Абурыўся так, нібы Зубрыч у гэтым быў вінаваты.

— Нявесела жыць,— згадзіўся Зубрыч.— Не хочацца спяваць хвалу жыццю, калі бяруць за горла...— Ён неяк уважліва зірнуў Яўхіму ў твар, памаўчаў, нібы разважаючы, і раптам сказаў: — Але самае невясёлае тое, што гэта, можна сказаць,— пачатак. Што наперадзе — горшае...— Чуючы, як насцярожыўся, як ловіць кожнае яго слова Яўхім, ён загаварыў жорстка, бязлітасна: — Бальшавіцкая партыя толькі пачала генеральнае наступленне,— «партыя» і «генеральнае наступленне» ён сказаў з асаблівым, злавесным сэнсам. Амаль паўтарыў, нібы падкрэсліў: — Толькі пачала наступаць на капіталістычныя элементы ў сяле. Гэта значыць — на мужыка. У першую чаргу, вядома, на мужыка заможнага, гаспадарлівага, які імянуецца кулаком... Партыя — не спыніцца,— усё больш, быццам знарок, трывожыў ён Яўхіма.— Не спыніцца, пакуль не давядзе лінію да канца. Пакуль, інакш кажучы,— не сатрэ мужыка ў парашок...

— Дак што ж рабіць? — не запытаўся, а зноў як бы абвінаваціў Зубрыча Яўхім. Дзіўна, тое, што ён сам адчуваў, пачутае ад Зубрыча, станавілася быццам больш грозным.

— Гэта пытанне важнае. І — складанае...— Зубрыч на момант як бы задумаўся.— Калі думаць рэальна, то ў бліжэйшы час трэба думаць, як зберагчы маёмасць, капітал свой. Задача амаль немагчымая ў цяперашніх абставінах. Ёсць, на жаль, толькі адзін спосаб зберагчы нажыты капітал: не марудзячы, наколькі можна, энергічна распускаць гаспадарку. Пераводзіць нерухомую, грамозную маёмасць у грошы. Якія можна зберагчы, захаваўшы надзейна, закапаўшы ў зямлю. Што да роду грошай, то тут можна было б аддаць перавагу золату, але яго, на жаль, амаль немагчыма будзе знайсці. Так што прыйдзецца — на звычайныя грошы.

Яўхім ужо не заўважыў яго несамавітых зваротаў: не да таго было.

— Не вельмі купіць хто! — сказаў ён з абурэннем, якое не знікала.— Усе самі глядзяць, як бы збыць!

— Н-да,— згадзіўся Зубрыч,— людзі адчуваюць, чым пахне. Кан'юнктура гандлёвая, так сказаць, не спрыяе продажу. Але — трэба лічыцца з абстаноўкай, і трэба дзейнічаць у гэтым кірунку. Толькі ў гэтым.

Каб не рызыкаваць астацца і без грошай і без маёмасці.

— І ето, і маёмасць — забяруць?!

— Ёсць падставы лічыць, што ўсё будзе рэквізавана — адабрана — для калгасаў. Без якой-небудзь расплаты. Для выканання далейшай генеральнай лініі — вырваць капіталізм з коранем. Да астатку.

Яўхім злосна мацюкнуўся. Люта павёў позіркам спадылба, не знаходзячы выхаду безнадзейнасці, што захмарыла ўсё жыццё, што запякла такім здзекам, ашалела плюнуў. Свет гатоў быў спапяліць у гэты момант, растаптаць, разламаць усё — такая лютасць узяла. Зубрыч нібы пашкадаваў:

— Буралом гэты не абміне нікога. Усіх захопіць, кожнае дрэва выверне, з коранем. Не абміне нікога.— Ён дадаў, як асабліва важнае: — не міне ні дужае, ні слабое дрэва. Ні кулака, ні — бедняка...

— Як жа жыць? — не адразу выціснуў пануры, затоены Яўхім.

— Так і жыць. Помнячы, што нічога не вечна, што ўсё мяняецца, як казаў Карл Маркс. Сёння — яны, заўтра,— Зубрыч сказаў значна,— заўтра — мы.— Загарэўся, загаварыў з верай, з захапленнем: — Трэба глядзець наперад! Умець распазнаваць, куды цячэ жыццё! Жыццё паварочвае ў нашым кірунку! Чым больш бальшавікі будуць ціснуць, тым больш будуць слабець яны. І тым мацней будзем мы! Такая — дыялектыка! Народ ніколі не прымірыцца з калгасамі! З гэтым здзекам з мужыка, з усёй яго прыроды!..

— Хто не прымірыцца, а хто — дак як на рай які надзеецца,— перабіў яго Яўхім.

— Іх мала! Не трэба ашуквацца! Маса сялян — супраць калгасаў! Супраць! Не адзінкі, не сотні — маса! Маса!

— Ето такая маса,— скрывіўся Яўхім, як ад дзіцячай выдумкі,— што толькі сядзіць ды жджэ, як яно будзе. Ціскануць заўтра бальшавікі — дак і палезе ўся. І служыць будзе.

— Ты памыляешся! Ты не ўмееш ацэньваць абстаноўку! Рух гісторыі! Усё гэта не так проста, як ты думаеш! — напаў на яго Зубрыч, але Яўхім злосна перабіў:

— Да што тут — проста, няпроста! Тут ужэ само-

га думка бярэ — штоб у калгас! Усе адно — жыць няма як!

— Не трэба падаць духам! — Зубрыч пакруціў галавою: трэба ж — такое малаверства! З бадзёрай, мудрай усмешачкай павялеў: — Вытрымка і вера! Не трэба да часу вешаць галаву, друг! Прыйдзе наша пара, вернецца ўсё! Яшчэ нямала ў прыдачу возьмеш! Калі толькі заслужыш, вядома!..— дадаў Зубрыч зусім весела.

Яўхім не адказаў на яго весялосць. Хмурна глядзеў уніз на дарогу, гарбатаківаўся, быццам не чуў Зубрыча. Зубрыча гэта не збянтэжыла.

— Мы сваё зробім,— сказаў ён, зрабіўшы націск на «мы» і надаўшы гэтаму «мы» загадкавую значнасць.— Але поспех нашай работы будзе залежаць ад цябе, ад многіх іншых нашых паплечнікаў сярод народу... Трэба працаваць з намі. Трэба паказваць, якую бяду нясуць бальшавікі. Аднаму, другому скажы і — пойдзе па сялу. Пускаць чуткі, даваць парады — што рабіць з гаспадаркаю, напрыклад... Уздымаць паніку, нездавальненне... Падбіраць недавольных, злучаць іх у групкі. Каб у належны момант было абаперціся на каго. Узняць іх і павесці з сабой — у належны момант...— Зубрыч яшчэ гаварыў, дзелавіта, важна тлумачыў, але Яўхім амаль не слухаў яго. Яўхім разумеў большае, чым Зубрыч гаварыў: ён разумеў, што нічога добрага не будзе, што спадзявацца няма на каго. Калі выехалі на разгалку дарог, ён перабіў Зубрычава настаўленне:

— Я тут пайду.— Яўхім саскочыў з вазка. Зубрыч прыпыніў каня. Глянуў бадзёра, наказаў:

— Цярплівасць, вытрымка! І — вера! Вера, Яўхім!

Яўхім хмурна адвёў вочы. Не глядзеў, як схаваўся лёгкі вазок; адразу, як вазок крануўся, Яўхім стоена, павольна пасунуўся сваёй дарогай. Ужо адышоўшы далёка, стаў, сярдзіта плюнуў: «Абяцаў яшчэ абшары зямлі! Чарвяк!..»

3

Зубрыч быў недавольны — і Яўхімам і сабою. Недавольнасць сабою была зноў жа звязана з Яўхімам: не здолеў пераканаць бязграматнага, недалёкага мужыка.

Зубрыч тут жа цвяроза сам сабе запярэчыў: чаму — недалёкага? Бязграматнага — гэта правільна, але «недалёкім» называць яго нельга. Гэты няўклюдны, прасталінейны звер калі не даходзіць да чагосьці галавою, то добра чуе здагадкаю. Інтуіцыяй, мужыцкім, звярыным нюхам. Нюх, як вядома з заалогіі, у ніжэйшых развіты не горш, чым у высокаарганізаваных. Нават лепей...

Пад шорхат колаў у пясчаных каляінах, ціха пакалыхваючыся разам з вазком, Зубрыч думаў. Пасля нядаўняй узбуджанасці, пасля нядобрага развітання на душы было неспакойна, думкі лезлі, чапляліся адна за адну, вярэдзілі. Ды ён і не гнаў іх: ад нядаўняй сустрэчы асталося і жаданне паразважаць, абдумаць бачанае, чутае; адказаць неяк на пачуцці, што ўзніклі пры спатканні. Ён пацягнуў за лейцы, прытрымаў каня, каб лепш было думаць.

Быць недавольным яму, думаў ён пра Яўхіма,— ёсць усе падставы. Калі бяруць за горла, мала хто ўмее быць радасны. І ці не натуральна, што асаблівая злосць на таго, хто мог бы памагчы, нават — павінен памагчы,— а не памагае. І не абяцае памагчы. Адкрыта, можна сказаць — цынічна, прызнаецца ў сваёй бяссільнасці. Так што рэакцыю, калі глядзець цвяроза, нельга не прызнаць зусім здаровай. І зусім натуральна, што гэтае нікчэмнае тлумачэнне: такая сітуацыя — не мог,— не задаволіла. Слабасці няма апраўдання. Слабасць заўсёды вінаватая. Таму, што яна не можа нічога... І ўсё ж, разважліва падтрымаў сябе Зубрыч,— ён не схібіў, што цалкам адкрыў карты. Падабаецца ці не падабаецца, а пілюлю трэба было даць, хоць яна і горкая. У гэтым была неабходнасць. Прызнацца адкрыта трэба было хоць бы для таго, каб не ўзнікла падазрэння, што не памаглі проста таму, што не хацелі; ці — не вельмі хацелі.

Тут крытычныя развагі яго ад прыватнага выпадку перайшлі да разваг шырокіх аб становішчы яго ў цэлым; разваг, якія націскалі ўжо неаднойчы і вось рушылі зноў, звыклай ужо дарогай. Так, што тут скажаш іншае: становішча яго, мякка кажучы, мала зайздроснае. І бяда, вядома, не толькі ў тым, што даводзіцца сядзець тут, у гэтай яме, у правінцыі, сярод нікчэмных істот, якіх і людзьмі можна назваць толькі ўмоўна.

Бяда не толькі ў тым, што ён, калі мераць меркай элементарных патрабаванняў цывілізаванага чалавека, фактычна марнее, гібее, як у выгнанні. Бяда ў тым, што гэтая ахвяра яго, павольнае гніенне ў гэтай яме, калі глянуць адкрыта,— бяссэнсавае... Што ён зрабіў, гніючы тут? Што ён — *можа* зрабіць? Ён, які гатоў быў да любой ахвяры для справы; не бяздарны, далёка не звычайны па сваіх чалавечых якасцях, нават — калі не прыніжацца, калі аб'ектыўна ацаніць — выдатны дзеяч! Дзеяч з выдатнымі здольнасцямі! Што нават ён мог зрабіць, калі навокал такая нікчэмнасць, якая і ведаць не можа, што такое высокія ідэалы! Калі адны слепа служаць дзіцячай, мёртвай ідэі калгасаў, са скуры лезучы, імкнуцца толькі выслужыцца, пажывіцца, а другія — рыюцца ў гразі, як свінні, і, як свінні, не бачаць далей свайго лыча... Апора, гаспадарлівыя мужыкі! — гмыкнуў ён яхідна.— Бальшавікі на ўвесь свет аб'явілі, куды вядуць каляснiцу. Каляснiца ўжо вось-вось накоціцца, раздушыць і іх мужыцкія гнёзды, і іх саміх, як слізняў, а яны — рыюцца ў зямлі! Бачыць не хочуць далей лыча! «А можа — не раздушыць, можа яна не важкая, не жалезная? Можа — міне? Калі не ўсіх, мяне аднаго!.. Кагосьці ж мінуць павінна!..» Слепата! Ідыёцкая, жывёльная слепата, якая раней губіла ўсё! І цяпер губіць, і будзе губіць! З якой немагчыма змагацца!

Да чаго ж моцны гэты жывёльны інстынкт самазберажэння! Вось і гэты — што пайшоў недавольны — патрабуе, судзіць непахісна, нават — з пагардай; а сам — сядзіць у балотным зацішку, за балотамі, за лясамі, і аб адным толькі думае: каб перабыць, каб навала прайшла паўз яго! У калгас ужо гатоў, каб як уцалець! І гэта той, які здаваўся такім баявітым! На якога, здавалася, можна было надзейна спадзявацца!.. Не, не,— цвяроза стрымаў ён сябе,— гэты — баявіты. Трэба быць справядлівым! Каб такіх была сотня, можна было б упэўнена адчуваць сябе пры належнай сітуацыі. Можна было б адчуваць камандзірам становішча. Але такіх — адзінкі! Колькі ён сабраў за цэлыя гады такіх, на якіх ён можа ў належнай сітуацыі надзейна спадзявацца? Нават з той невялічкай кучкі, нейкіх паўтара дзесятка, якія больш прывязаны, ён не можа быць цалкам упэўнены,— што той ці другі не зашыец-

ца ў кусты, не здрадзіць, пры першых жа стрэлах у адказ, пры першай небяспецы. Але калі дапусціць, што ўсе з гэтай жменькі — не падвядуць, што яны зробяць, пры ўсёй іх адвазе, сярод нікчэмнай, труслівай чарады паўчалавекаў, паўмалп? Што яны зробяць,— што зробіць у такой сітуацыі ён, з усімі яго здольнасцямі і энергіяй,— калі насупраць коціць цэлы ледніковы вал? Калі насупраць і бальшавіцкія абяцанні даверлівым, і пагрозы, і жалезныя краты — непаслухмяным? Няпростая сітуацыя,— і выходзіць, што нейкая нікчэмнасць, як Башлыкоў, Апейка, Харчаў, быццам — дужэй за яго. І ён павінен хіліцца перад імі, поўзаць, як шчаня, перад імі, лісліва круціць хвастом, сведчыць сваю любоў, адданасць ім, бальшавіцкай справе. Поўзаць і штохвіліны аглядвацца, як бы не заўважылі, што ён час ад часу выпускае зубы, точыць іх. Трывожыцца, як бы раптам не вылезла наверх старанна зацертае калісьці, засыпанае пылам гадоў...

Ён — гэта прызнаў бы ўсякі аб'ектыўны назіральнік — мае такія-сякія поспехі ў майстэрстве маскіроўкі. Потым — у лепшую пару, у якім-небудзь міністэрскім кабінеце — можна будзе, пасміхваючыся, расказваць, як ён убіўся ў давер'е нават высока пільнаму і прынцыповаму сакратару райкома таварышу Башлыкову. Можна каларытна расказаць, як страсна абараняў таварыша сакратара на партыйнай чыстцы; як — гэта асабліва пікантна будзе — пільны і прынцыповы таварыш Башлыкоў сам аказаў высокае давер'е — прапанаваў, як адданаму савецкай уладзе грамадзяніну, паступіць у бальшавіцкую партыю!.. Прапанаваў,— не першы раз на чало загадчыка райза легла клопатнасць, якая нарадзілася з гэтай прапановы. Ён тады падзякаваў таварышу сакратару, сказаў, што быць партыйцам лічыць для сябе вялікім гонарам, абяцаў рыхтавацца. З таго дня, колькі ні думаў, не мог адолець назольную, супярэчлівую клопатнасць; і цяпер яна звыкла, нібы здзекліва, апанавала: і хацелася не страціць такую ўдачу, такую важную ўдачу, якая проста сама ішла ў рукі,— і разам хапала, цвяроза цягнула назад апаска: нагадвала, што ўлезці ў партыю — гэта не толькі ўшыцца ў кіруючую эліту, прыдбаць сабе новыя магчымасці,— але і пайсці самому на новыя чысткі, праверкі. Гэтае, апошняе,— проста сказаць, непатрэбная

раскоша для чалавека з яго радаслоўнай, з прыхаванымі эсэраўскімі грахамі, якіх было даволі, каб у горшым варыянце зменлівай жыццёвай лініі стаць да сценкі перад бальшавіцкімі вінтоўкамі...

Той даўні недавучаны студэнцік, легкадумны, упэўнены ў сабе прапаршчык, даверлівы, саманадзейны керанец, потым верай і праўдай падпольны эсэраўскі дзеяч, што неразумна ўскочыў у безнадзейную авантуру, у паўстанне, якое не магло не праваліцца,— нібы знарок, як мог, папсаваў на будучыню сваю біяграфію. Добра, што хапіла яшчэ розуму ўлезці ў паўстанне з чужымі дакументамі, з чужым прозвішчам. Гэта шчасце, што пра бурную маладосць у цёплым стэповым гарадку, адкуль выпраўляўся ў дарогу і куды пасылалі запытанні, правяраючы як савслужачага, нічога не ведалі пра найбольш цікавыя старонкі яго біяграфіі. Адтуль абмяжоўваліся весткамі пра род, пра бацькоў. Род, вядома, не з тых, якімі ганарацца цяпер, але і не з тых, якія закрываюць дарогі ў свет. Матка — настаўніца, бацька — скрыпач у аркестры мясцовага тэатра; няўдачнік, які марыў пра лаўры Глінкі, а ледзь ліпеў у бяздарным аркестры. Самае небяспечнае, вядома, тое, што няўдаламу эсэрыку захацелася потым расшукаць сваіх: порсткаму, поўнаму жыццёвых сіл і прагі дзейнасці, не сядзелася ў ратоўнай, але нуднай цішы. Сябры памаглі: перацягнулі з адной ямы ў другую, толькі што з пасадай, толькі што ў людным беларускім краі. Сяброў гэтых, якія ведаюць усё, небагата, адзінкі, але ж яны ўсё-ткі ёсць; двое нават ужо ў пакойчыках, вокны якіх аздабляюць жалезныя краты. І без таго ходзіш па жыццю, як той цыркач па дроце, так і глядзі, што сарвешся, паляціш цемем уніз. Разважная цвярозасць раіць: сядзі лепей і не рыпайся, а спакуса вярэдзіць: не прапускай, не траць такой удачы. Мала іншага клопату, дык яшчэ думай, ісці ці не ісці ў партыю! Думай, як быць з давер'ем пільнага, прынцыповага таварыша Башлыкова!..

Дасціпная іронія прабегла, як павеў ветрыка. Пакалыхваючыся ў вазку, не заўважаючы, што лес ужо адступае і пачынаецца шэрае, ветранае поле, клопатна, зласліва думаў: нявесела жыць так, ходзячы, як цыркач па дроце. Ды яшчэ пад пільнымі позіркамі, кожны з якіх можа заўважыць тое, што загубіць. Хадзіць по-

бач з гэтай лысай гіенай Апейкам, які, здаецца, любы момант гатовы ўткнуць смяротныя кіпцюры. Такі акуратны, старанны перад гэтай гіенай, а ён — хоць бы зірнуў калі-небудзь прыхільна. Увесь час такое адчуванне, як бы падазрае ў нечым ці — нават ведае... Глупства, бясспрэчна: не ведае нічога; каб ведаў — не маўчаў бы! А ўсё-ткі бярэ неспакойнае: а што, калі ведае ды сцеражэ, каб заспець на месцы, прыперці да сценкі?.. Зубрыч разважна супакоіў сябе, але спакою поўнага не было. І як мог прыйсці спакой, калі пры тым, што гіена гэтая пакуль не ведае нічога, разумееш і ніяк не адкінеш: гіена гэтая — самая небяспечная! Любы момант можа ўсадзіць кіпцюры!

Ад гэтай нянавісці так цешыць Зубрычава сэрца помслівая радасць: дасталося аднойчы і гадзюцы гэтай. Моцна ўпіліся ў таварыша старшыню райвыканкома, у самыя чулыя месцы, стрэлы, намочаныя едкім ядам,— якія ён, Зубрыч, у час кінуў. Прыцэл быў дакладны, усе факты — падобныя на праўду, ні аднаго не адкінеш, як выдумку. Запісачкі сталі *матэрыяламі*, аўтарытэтнымі, партыйнымі дакументамі. Атрымалі ўжо належную ацэнку і, можа быць,— яшчэ паслужаць. А мы можам — і дадаць да іх... Вось гэта надзейна,— разважліва выводзіць загадчык райза, ціха пакалыхваючыся ў вазку, што паволі паўзе дарогай праз поле.— Тут і рызыкі ніякай і амаль поўная гарантыя, што будзе карысць. І псіхалагічна, і палітычна — бездакорны сродак у цяперашняй сітуацыі. Ён давядзе, пачатае да канца, ён убачыць таварыша Апейку не такім ганарлівым,— абшчыпаным, кінутым з пагардай усімі, растаптаным. Ён не пашкадуе для гэтага ні часу, ні таленту. Ён зробіць гэта з радасцю: акрамя ўсяго іншага, ён помніць, што ад гэтага багата ў чым залежыць бяспека яго самога...

Падумаць толькі, у якім гадзючым гняздзе круціцца ён цэлыя гады. І ў які час. Штодня сустракаецца, здароваецца з Харчавым — гэтай грубай жывёлай, якую рэвалюцыя ўзняла на раённую вышыню. Гэтай гадзюкай, якая больш небяспечна не толькі за Башлыкова, а і за Апейку. Бязграматная, тупая жывёліна гэтая адным позіркам прымушае халаднець. Варта яму толькі аднаго факта, і можна развітвацца з жыццём. Ад гэтага літасці не будзе!..

І ў такім гадзючніку ён ходзіць, есць, спіць, жартуе нават! І яго яшчэ лаюць нейкія лясныя дзікуны; замест таго каб здзіўляцца, як ён можа дзейнічаць, у гэтай яме, у гэтым нікчэмным сяле, дзе ўсё так відна адусюль, дзе ўсюды вочы ДПУ. Дзе засыпацца, як плюнуць. Дзейнічае тады, калі амаль усе ніці з верхам парваны, тады, калі там бязвер'е і трусасць. Дзікун і ведаць не хоча, што ён *вымушан* быць асцярожны, вымушан — і нярэдка — устрымлівацца; што яму, калі на тое, можа быць і страшнавата. Што́ дзікуну да таго, што і табе цяжка жыць так бясконца; што і ў цябе нервы ёсць! І, нарэшце,— узяло Зубрыча кволае,— гады ўжо не тыя. Як ні старайся не паддавацца гадам і скрусе, няма ўжо той прапаршчыцкай лёгкасці! «Воленс-ноленс: старэю!..» — мінорна, філасофскі адзначыў ён.

За хвілінай расчуленасці думкамі завалодала энергічнае, дзелавое: «Трэба перабірацца ў большае месца. У Гомель ці хоць бы ў Мозыр». Не сядзець жа тут, пакуль не ўскочыш у харчаўскую пастку. У горадзе — у натоўпе, дзе снуюць тысячы самых розных, і гарадскіх, і прыезджых,— ты будзеш, як іголка ў стозе сена. Не будзе таго нагляду, той рызыкі і скаванасці, разгарнуцца можна будзе. Ды і ўздыхнуць лягчэй, вальней пара б... Колькі гадоў ужо толькі ў ямах...

Зноў узяло мінорнае: ідуць год за годам, а ён усё ў ямах, усё гібее. І ўсё без прыкметнай прасветліны: тое, лепшае, якога даўно чакае, усё не ідзе. А час ідзе, годы ідуць. Ідуць і бураць усе надзеі, нішчаць жыццё. Толькі і ўцехі, што вып'еш, задурманіш галаву, забудзеш усё. Адна «радасць». Жыць без гарэлкі не можна ўжо; без гарэлкі дзень — як пакута. Добра, што атруты гэтай, самагонкі,— у кожным сяле, і даюць ахвотна. Але так і закончаным алкаголікам стаць нядоўга, спіцца на нішто. А ці не можна сказаць, што ён ужо і співаецца?..

Не бачыў, як зняў шапку, схіліў галаву, здароваючыся, дзядзька, што ішоў сцежкаю паўз дарогу. У думкі, звыклае ўжо, але крыўднае, як бязлітасны суддзя, як кат, увайшло: не на тую стаўку паставіў порсткі, непрадбачлівы прапаршчык. Не на таго каня пасеў. Хоць мог бы сесці і на таго: быў выбар у сваю пару. І меціў жа высока, а не скеміў, не хапіла ў галаве.

Не на таго сеў. I вось туляецца па ямах, рыецца ў гразі, ды яшчэ азіраецца, рызыкуе. Хоць мог бы хадзіць у сталіцах, красавацца ў вялікіх кабінетах, на віднейшых трыбунах, і кожнае яго слова лавілі б. I кожнае выступленне адзначалі б у газетах, выдрукоўвалі. Дзіру такую раённую наведваў бы раз у год, як бы рабіў геравічнае падарожжа. Сталічная кватэра з усімі выгодамі, імклівая машына, паслужлівая сакратарка... Як многа значыць, сесці на *таго* каня!

«Нічога,— запярэчыла ўпартае самалюбства.— Яшчэ не ўсё кончылася!» Невядома яшчэ, той гэта ці не той конь. Яго конь можа яшчэ чакае, калі падыдзе пара. Падыдзе пара, конь выскачыць, толькі, глядзі, спрытна сядзь на яго! Мацней толькі трымайся за грыву, узнясе на такую гару, якая толькі сніцца можа. Няпэўны вобраз мары адразу ж засяшаліся падмацаваць доказы: мужыкі гудуць. Штодзень — гудуць больш. Крыўда і злосць збіраюцца, кіпяць усё больш нецярпліва. Збяруцца — выбухнуць з такою сілай, што на ўвесь свет загрыміць. Толькі каменне астанецца ад усяго, што будуюць цяпер. Няхай толькі давядуць да краю лютасці звера!.. I там, за дзяржаўнай граніцай, збіраецца,— няхай толькі здарыцца сітуацыя! Сітуацыя, якая, можа быць, ужо вельмі блізкая!..

«Цярплівасць, вытрымка і — вера!» — нагадаў сам сабе Зубрыч, адагнаў націск думак. Ён ужо ўязджаў у вуліцу сяла: трэба было станавіцца загадчыкам райза, упаўнаважаным па калгаснай справе.

## 4

Каля самай цагельні Міканор не ўтрываў, сышоў з дарогі, пайшоў полем. Пожня была брудна-шэрая і мокрая, у разорах і ямках на картаплянішчы там і тут цьмяна льснілася вада. Дзе-нідзе боты паслізгвалі на цвердаватай ужо і абмоклай зямлі. Імжыла халоднай, асенняй імжою, вецер нібы мазаў па твары і руках мокрай анучай. Стылы, у нізкай навісі цьмяных хмар, дзень нібы створаны быў для суму, для санлівасці, для марудных і невясёлых думак.

Але Міканору не было ні сумна, ні санліва, усяго яго поўніла нецярплівая, прагная да дзейнасці радасць. Толькі сёння, нарэшце, дакончыла вялікую працу сваю

камісія, толькі от правёў ён каморніка, што ехаў назад з усім сваім інструментам, да грэблі, толькі от цяпер мог ён, Міканор, развітаўшыся з каморнікам, астаўшыся адзін, сам-насам пайсці на поле, сам-насам пабыць з полем, з вялікай радасцю, у якую і верылася і нібы, ад непрывыкласці, не верылася. От і цяпер, калі ўжо ўсё скончылася, калі ішоў сваім, калгасным полем, не мог звыкнуцца з думкаю, што гэта ўсё ўжо — не ў марах, а папраўдзе — не чыё-небудзь, а калгаснае поле.

У зношаных, разбітых ботах, у мокрай паддзёўцы, нязграбны, з пласкаватым, пакляваным тварам, на якім у белых брывах, на шчэцці барады трымаліся кропелькі вады, глядзеў ён на поле, абводзіў яго позіркам і цешыўся: недарэмна хадзіў, дабіваўся і ў сельсавеце, і ў раёне! Дабіўся! Думка пра гэта ўлівала ў яго радасць, гонар за перамогу сваю, за сябе. На вочы трапілася былая Васілёва палоска, згадаў, як ці вельмі даўно сутыкнуўся тут з Дзятлам Васілём, як той, калі папярэдзіў яго, што зямля адыдзе пад калгас, нахабна гаварыў з ім, са старшынёй калгаса, як здзекліва проста адштурхнуў, пайшоў араць далей. Варухнулася злое: яшчэ і тады, калі ўжо камісія ўзялася ўпарадкоўваць, хацеў павярнуць па-свойму! Гразіўся, што скардзіцца пойдзе,— няхай ідзе, няхай ходзіць, пакуль не надакучыць! «Няхай бачаць, чыя сіла! — падумаў, прыгадваючы, колькі яшчэ працівілася яму.— Няхай знаюць!.. А то, сколькі ні гавары, як не чуюць нічога!.. Няхай знаюць!..»

Ён глядзеў ужо на поле не як на звычайнае поле, а як на нейкую пазіцыю, адваяваную ў тых, хто несумленна захапіў яе, хто думаў утрымацца на дарозе. «Пазіцыя,— думаў ён, цешачыся сваёй перамогай па-новаму.— Пазіцыя і — вельмі важная пазіцыя, якая багата перамяніла ў становішчы абодвух бакоў! Якая многіх заставіць задумацца сур'ёзно, што жыццё паварочвае на сто восемдзесят градусаў!..»

Міканор падышоў да самай Васілёвай паласы, цвёрда ўціскаючы ботамі рунь, пераступіў яе ўпоперак, ступаючы, вылучыў з мокрай шэрані наперадзе яшчэ дзве зялёныя паласы, рашыў раптам: «Перааараць зразу ж, штоб не карцело пасеянае! Штоб зразу знаку не було ніякаго! Ніякаго знаку і ніякай надзеі тым, ад

каго адрэзалі!» З гэтай хвіліны Міканор пазіраў на поле ўжо з практычнай клопатнасцю: разважаў, дзе і што лепш пасеяць. «Там — клін жытні... А тут, паўз дарогу,— ячмень... А туды, к балоту,— картоплю. Картопля там заўсягды радзіла...» Думаючы гэта, ён быццам бачыў ужо, як зелянее шырокім прасцягам калгаснае жыта, як каласіцца, варушыць вусамі, даспяваючы, ячмень, як радамі бяжыць да балота, да лесу бульба...

Ішоў, мяў разношанымі, стоптанымі ботамі мокрую, чэзлую пожню. Ішоў шырокім крокам, цвёрда, гаспадаром. Пераможна глядзеў на саламяныя стрэхі, што выходзілі насустрач...

У той дзень Васіль дапаў да Юравіч. Да апошняга дня, хоць і няпэўна, Васіль спадзяваўся, што можа пераменіцца яшчэ што-небудзь: вельмі ж цяжка, амаль немагчыма было згадзіцца, прымірыцца думкамі, што зямлі, адзінай добрай зямлі няма ўжо і не будзе. З нецярплівасцю чакаў разам: якую ж, калі на тое, удзеляць замену; без зямлі, казалі ж, пакінуць не павінны. Дачакаўся: з добрай ласкі суседа, Міканора, удзялілі такую, што і глядзець не хацелася: ледзь не адзін пясочак...

Бядуючы, грозячыся, што так не папусціцца, што таксама ведае законы, Васіль кідаўся думкамі: што рабіць, куды падацца, каб заступіліся, памаглі. Добра вядома было, што ў сельсавет няма чаго і сунуцца: там Гайліс ды Міканор — уся ўлада. Думкі разважна і абнадзейліва вялі ў раён, да самога Апейкі, які, чым больш разважаў Васіль, бачыўся яму адзінай, жаданай надзеяй.

Калі хмурным, дажджыстым ранкам у світцы, у лапцях, унураны, невідучы, імкліва рушыў слізкаю грэбляю, пустым ветраным шляхам, Васіль, перабіраючы ў думках крыўды, якія прыбівала да яго двара няскладнае жыццё, якія рабіў яму Міканор, не чуў роспачы. Думкі гэтыя палілі менш, як апошнімі начамі і днямі, ён думаў пра крыўды з адчуваннем дужасці, з настроем дзейным, гатоўнасцю адолець, змагчы ўсё. У ім было такое адчуванне, быццам крыўды гэтыя не такія непадатныя, не вечныя. Ён рушыў цвёрда і ўпэўнена. Смелаю была не толькі хада яго, смелымі былі яго думкі;

ён яшчэ дарогаю рэзаў разважна і гнеўна Апейку: «Так ето буць павінно? Па савецкаму ето закону?!» Захопленьы сілаю гэтых слоў, ён загадзя, нецярпліва радуючыся, бачыў, як Апейка ціха, згодна казаў: «Не па закону! Не павінна так быць!» Зрэдку, праўда, брала і ў гэтай дарозе Васіля апаска, што Апейка можа стаць на бок Міканора і Гайліса, але Васіль сам гнаў гэтыя маладушныя думкі. Не хацелася, каб яны і чапляліся.

Хутка, цвёрда кіраваў ён шляхам. Але калі падышоў да аблезлай цэркаўкі, калі стаў спускацца з гары, калі падступіў да колішняй воласці — выканкома, у якім блізка, блізка ўжо чакала сустрэча з Апейкам, ад якой залежала цяпер жыццё, Васіля апанавала паганая кволасць. У грудзях пачуў брыдкі, трывожны халадок, сама сабой, хоць ішоў з гары, пачала цяжэць, прыцішвацца хада. Перад будынкам воласці і зусім захацелася стаць, сесці.

Не было ўжо ні дужасці нядаўняй, ні ясных і такіх пераканаўчых думак. Галава нібы не хацела думаць. Ён заўсёднай упартасцю перамог сваю нясмеласць, пачужэлымі нагамі ўвайшоў у будынак, пачаў падымацца па гулкай лесвіцы на другі паверх, дзе, ведаў, быў Апейкаў кабінет. Каб трапіць у Апейкаў кабінет, трэба было ўвайсці ў маленькі пакойчык: дзверы ў пакойчык былі адчынены, і Васіль, стараючыся паказваць сябе смелым, адразу ступіў у яго. Ступіў так, быццам рабіў самы адказны крок. У пакоі, за столікам у кутку, сядзела немаладая жанчына, разглядвала нейкія паперы. Яна падняла вочы на Васіля, як бы пытаючыся. Васіль даў «добры дзень», адразу, смела сказаў, што яму трэба пагаварыць з Апейкам.

— Івана Анісімавіча няма,— ветліва сказала яна. Потым дадала: — Ён у Мінску, на сесіі. Будзе дзён праз шэсць.

Васілю гэта было такім нечакана неспадзяваным, што ён разгубіўся. Жанчына нібы пашкадавала яго, запыталася:

— А што ў вас? Можа другія могуць рашыць, без Івана Анісімавіча?..

Васіль, не гледзячы на яе, заявіў:

— Мне трэба було з ім.

Жанчына яшчэ раз ветліва і спачувальна паўтарыла, што Апейка будзе праз шэсць дзён. Васіль адразу выйшаў з пакоя, але на пляцоўцы перад лесвіцай стаў;

не мог, проста не мог вяртацца назад, нічога не высветліўшы. Шкадуючы, што Апейка так не ў час паехаў, думаў, гадаў: што ж рабіць? Можа дарэмна адказаў так жанчыне, можа, праўда, і без Апейкі здолеў бы хто-небудзь памагчы? Можа трэба было самой расказаць, каб параіла хоць, куды падацца?..

Калі ён стаяў у роздуме, на яго, выскачыўшы з блізкага пакоя, амаль наткнуўся жвавы, дзейны чалавек з папкаю. Ён хацеў быў ужо абмінуць Васіля, але спыніўся раптам, зірнуў уважна, запытаўся, каго ён чакае. Даведаўшыся, што Апейку, весела, зычліва сказаў: «А можа я памагу?» Ён адчыніў дзверы і паказаў Васілю, каб заходзіў.

Толькі тут, у светлым пакоі, Васіль пазнаў добра, што чалавек з папкай — быў той, які калісьці праводзіў перадзел у Куранях, які разбараняў яго з Яўхімам. Васіль у момант згадаў, як чалавек гаварыў з ім, як грозіўся турмою і яшчэ немаведама чым. Васіль, насцеражыўшыся, хацеў адразу ж павярнуцца да дзвярэй, але чалавек апярэдзіў яго, ласкава запрасіў сесці. Васіль спыніўся, недаверліва зірнуў на яго, няўпэўнена сеў. «Што ж вас прывяло?» — весела, быццам і не помніў колішняй гразьбы, сказаў чалавек, сядаючы за стол насупраць. Светлыя, уважлівыя вочы быццам упіліся ў Васіля. Лагодна, абнадзейліва чакаў чалавек, пакуль Васіль, упяўшы вочы кудысьці ў падлогу, нядобра маўчаў. Доўга не мог загаварыць Васіль, і загаварыў важка, неахвотна, быццам пад прымусам, на допыце. Не верыў яго спачувальным: «Ага, так-так... Разумею... Натуральна...»

«Усё гэта па-чалавечы зразумела,— дзіўна мякка, нібы добразычліва загаварыў чалавек пасля допыту.— Зразумела і, можна сказаць, зусім натуральна... Зямля — самая дарагая істота селяніну. Самая жывая істота, душа яго... Яна — аснова, найпершая аснова сялянскага жыцця... І селянін мае права, вядома, лічыць яе законна сваёй... Правільна, натуральна...— Васіль глядзеў спадылба, ні зычлівы тон, ні самі развагі не супакойвалі, чакаў усё горшага. Слухаў так, быццам гэта была толькі падступка. І не памыліўся, тым жа спачувальным, добранькім голасам Зубрыч павёў зусім іншае: — Усё гэта натуральна. Але ёсць — кірунак, генеральная лінія на калгасы! Генеральная лінія, каб

увесь аднаасобны сектар ліквідаваць, знішчыць. Сцерці з зямлі мужыка як аднаасобніка... Усё будзе рабіцца толькі для калектыўнай, сацыялістычнай гаспадаркі. І зямля ўся ім!.. Такая лінія... Так. От так...»

Васіль не ведаў, што сказаць. Не мог неяк спрачацца. Моўчкі ўстаў, не развітваючыся, выйшаў. Спустошаны нейкі, сступіў па лесвіцы, выйшаў на двор, пацягнуўся па дарозе на гару. Павольна, цяжка ўздымаўся, мокрая гліна ліпла на лапці, слізгала пад нагамі. Як усцёгся на гару, стаў, аддыхваючыся. «Гаворыць шчэ як,— прайшло ў галаве.— Як спачувае. А напраўду — бы здзекуецца!..»

Маркотна павёў вачыма. Сеяла імжою, якой, здавалася, не будзе канца. За імжою не было відаць знаёмай далечы.

Імжа была нібы і ў душы. Імжа і абыякавасць. Не затульваючыся, нявесела пацёгся па дарозе.

Калі ён падыходзіў да цагельні, браліся поцемкі. Нядобра цямячы, Васіль звыкла збочыў з дарогі — зірнуць на сваю рунь. Яшчэ не дайшоўшы, разглядзеў, сумеўся: рунь чарнела нейкімі пачварнымі камякамі. Ён, устрывожаны, падбег і знянацку ўпаў на калені: рунь была паарана! Падрапана, парэзана, засыпана камлыгамі,— як бы знарок.

Ён азіраўся, не мог паверыць: разарана было ўсё. Усё было загублена. Усё было кончана...

5

Слотным, з халоднымі подыхамі днём у Хоневу хату ўвайшла смерць. Маці памерла блізка да змяркання, ціха, без слова; калі старэйшая сястрычка Верка, разгубленая, пазвала Хоню з гумна, ляжала матка на палацях, бы жывая, нібы толькі заснула; на твары свяцілася невядомая радасць.

З той жа незразумелай, спакойнай радасцю ляжала яна на лаўцы пад абразамі, у прыціхлай, без заўсёднага галасу хаце, у якую адзін за адным сунуліся куранёўцы, цікаўныя, уважлівыя, спалоханыя. Найчасцей яны неўзабаве сыходзілі, адны — проста спатоліўшы цікаўнасць, другія — як бы выканаўшы неадменны, нялёгкі абавязак. Нямала было і такіх, што тоўпіліся, гаманілі ціха, народу ў хаце таўклося даволі: часу вольнага цяпер хапала. Сярод усіх толькі

некалькі старых жанок, сяброўак, якія помнілі матку такой жа рухавай і вясёлай, як Хоня, гаравалі шчыра, шапталіся жалліва, выціралі ражкамі хустак чырвоныя ад непрытворных слёз вочы.

Усім абрадам кіравала незвычайна ціхая, важная Сарока. Хоню не трэба было зваць яе, яна сама прыйшла яшчэ да таго, як Хоня падумаў пра новыя, неспадзяваныя клопаты; прыйшла, пачала хадзіць паволі, упэўнена, гаварыць з Хонем, як бы богам самім прысланая. Прыгнечаны, прыціхлы, Хоня ні на момант не працівіўся гэтай няпрошанай апецы: паслухмяна рабіў усё, што яна раіла, што загадвала, сам ішоў раіцца з ёй. Амаль увесь час у хаце была Хадоська, якая першы раз прыбегла яшчэ пад вечар, глядзела на матку нема,— з жахам і вінаватасцю. Цяпер яна плакала час ад часу, памагала Сароцы, песціла, супакойвала дзяцей, што ціснуліся ці на палацях, ці на печы; у хісткім водсвіце лучыны памагла Сароцы прыгатаваць вячэру, накарміла малых.

На другі дзень Хоневу матку вынеслі з хаты, пад мокры снег, што сыпаў на мокрую, хлюпкую зямлю. Снег лажыўся матцы на белы, касцяны твар, на тонкія рукі і не раставаў, а яна ляжала ў сасновай труне і як бы радавалася — ці то снегу і беламу небу, ці то таму, што от вызваліла сына ад клопату. Жанкі галасілі: то — голасна, то сіпла вылі; Хоня ішоў, хлюпаючы лапцямі ў гразі, перамешанай са снегам, і ўвесь час паблізу бачыў, чуў вінаватую Хадоську, якая амаль няўціхна галасіла.

Калі дайшлі да могілак, снегу было ўжо багата і на матчыным твары, на адзежы. Сарока асцярожна сцерла яго з твару, вялела Хоню і меншым развітвацца. Хоня апошні раз прытуліўся да роднага твару, зноў пачуў, які ён халодны; на холадзе гэта не ўразіла так, як там у хаце; было ў гэтым нават нешта нібы жывое: нібы нахаладала на мокрай стыласці. Сарока за руку падвяла да маткі самых малых, Косціка і Вольку, якія паслухмяна прылажыліся да матчынага твару. Хоня адзначыў той момант, калі паклалі на труну века, прыкрылі разам з маткай і некалькі падляцелых сняжынак,— адзначыў з дзіўнай пустатой у сабе і спакоем. Калі труну сталі спускаць у яму, жанкі загаласілі, заляманталі галасней, з адчаем, ён

раптам пачуў роспачны, горкі лямант Хадоські: «Цётачко, цётачко! Век ужэ не пагавару з вамі! Не прыйшла, як казалі! А цяпер ужэ не пагавару! Не пачую ніколі, не пабачу!.. Не абіжайцеся, цётачко!..»

Калі над матчынай магілай абраўнялі горку зямлі з новым дубовым крыжам, калі пачалі разыходзіцца, Сарока з мінай пакорлівасці, паслухмянасці лёсу, з якой яна рабіла ўсё ў гэты дзень, узяла Хоню за локаць, сумна, нібы стомлена сказала, што трэба ісці дадому; ён ступіў быў некалькі крокаў, стаў, азірнуўся,— адчуў, што чагосьці не хапае.

— Дзе — Хадося? — успомніў ён.

Сарока павяла вачыма, потым моўчкі і сумна кіўнула на сярэдзіну могілак. Ён заўважыў за голым, прыцярушаным веццем знаёмую постаць у цёмным каптане, пайшоў да яе.

Хадоська была з Ганнай, перад магілкай з малым, толькі пасівелым крыжам, Хоня здагадаўся: тут пахавана Ганніна малая. Хадоська, якая стаяла спіной да Хоні, прытуліўшыся да Ганны, штосьці гаварыла.

— Злая була я. Паганая. Божачко, якая паганая!..— Плечы Хадоські задрыжалі, галава яе ўпала на Ганніна плячо.— Даруй мне, Ганначко!

— Няма ў мяне зла на цябе. І не було,— стрымана сказала Ганна, не зводзячы вачэй з магілкі малой.

— Даруй, Ганулько! Бога я ўжэ прасіла! Цяпер цябе прашу: не таі зла! Даруй!..

— От найшла пра што!

— Даруй, Ганначко!

— Ну, дарую! Штоб ты не думала...

Хадоська не дала дагаварыць, парывіста абхапіла Ганну за шыю, пацалавала.

— Ганначко ты мая! Любіла я цябе і любіць буду зноў! Век буду! — паклялася аддана.

Хоня азваўся, нарэшце:

— Людзі пайшлі памянуць нябожчыцу. Мо і вы зайшлі б.

Хадоська выцерла слёзы, з ласкай і просьбай зірнула на Ганну:

— Хадзем памянём.

Ганна адарвала позірк ад магілкі. Кіўнула стрымана, пайшла першая.

Да самых хат ішлі моўчкі. Задуменныя, паглыбле-

ныя ў сябе. Ужо калі ступілі ў вулічную гразь, калі пайшлі паўз аблепленыя снегам платы, хаты, Ганна стала, клапотна зірнула на абаіх.

— Пажаніліся б вы,— сказала раптам.— Добрая пара будзе.

— Да я хіба проціў,— проста адказаў Хоня.— Я даўно гаварыў ёй. Дак — цягне невядома чаго. Бацько баіцца. Бацько не хоча.

— От найшлі час! — папракнула Хадоська. Абветраны роцік быў строга сціснуты, вочы глядзелі кудысьці далёка, цвёрда.

— А чаму не час.— Як глыбокае, выпакутаванае, Ганна сказала ціха, спакойна:— Жывым пра жывое думаць.

— Матка-нябожчыца сама хацела, кеб пажаніліся,— адгукнуўся Хоня.

На памінках булькала самагонка з пляшак у карцы і чаркі; усе, хто прыйшоў, пілі і елі ў ахвоту; чым больш пілі і елі, тым болей голасна гаманілі, шумелі. Старыя дзядзькі і жанкі ўспаміналі, якая яна была порсткая ды вясёлая, Хонева матка, ззамаладу; якая спрытная ды жылаватая ў працы. Бывала, як выйдуць у поле з сярпамі, ніхто не перагоніць: з ранішняга цямна да вячэрняга магла не выпускаць сярпа, не разгінацца. І ў кампаніі не зломак была: і паспяваць, і паскакаць, і пасмяяцца — на ўсё спраўная была. І як Хонеў бацька памёр, не апала духам з такою араваю на руках, шчыравала весела, пакуль не ўвалілася ў тую сцюдзёную ваду на балоце, не застудзілася так, што хутка і ўстаць не магла. І Хоню хвалілі: таксама малайчына, у матку ўдаўся, не сагнуўся ў бядзе; глядзеў старую — кожны сын няхай бы так глядзеў. Хто-ніхто раіў Хоню абзаводзіцца гаспадыняй, ківаў на Хадоську, але Хоня ўсё зводзіў гаворку на іншае.

Маўкліва сядзелі можа толькі адны Хадоська і Ганна. Хоня падліваў ім, папракаў, што п'юць мала. Ганна трохі піла, а Хадоська толькі прыгублівала чарку; абедзве сядзелі задуменныя, строгія. У Хадоські час ад часу жалліва моргалі вочы, гатова была, здавалася, заплакаць, але яна стрымлівалася. Больш за ўсіх шумела цяпер, мусіць, Сарока: сп'янелая, хадзіла яна вакол стала, падавала яду, падлівала гарэлку ўжо без якой-небудзь паважнасці, гаварыла амаль без упынку,

голасна і складна: «Штоб ёй, нябожчыцы, легко було на том свеце, штоб жылі і радуваліся дзеці! Кеб у нашаго Хоні жызня була ў багацці і ў звоні!..» У бязладны п'яны гоман уплятаў сіплы галасок стары Глушак, таксама асалавелы, гаманлівы. Сарока ўсё падлівала і падлівала яму і растарэквала найбольш з ім, відаць, яна і запрасіла старога; хоць магло быць і так, што Глушак прыйшоў і сам. Хоня стараўся не глядзець на яго: ніхто не мог прагнаць таго, хто прыйшоў на памінкі,— не было ні ў каго такога права. Тым больш, што Глушак таксама хваліў матку, і Хоню хваліў.

Ганна пайшла сярод першых, а Хадоська засталася, перачакала ўсіх. У пацішэлай, спусцелай хаце разам з Сарокай прыбрала посуд са сталоў, падмяла хату, ласкавым словам суцешыла малых. Калі надзела каптан, каб ісці дамоў, Хоня таксама накінуў світу на плечы. Выйшаў услед у мокрую цемру двара. Каля варот узяў за непаслухмяныя рукі, затрымаў.

— Дзеці як — да цябе. Як да сваёй.— Хацеў прытуліць, але яна лагодна і цвёрда ўперлася рукою. Ён не стаў дабівацца. Памаўчаў, ціха запытаўся:— Можа ўсё-такі надумаешся?

— От найшоў калі.

— Матка ж сама хацела.— Яна не пярэчыла. Хоня зноў узяў яе за рукі.— Ганна ето праўду казала. Жывым...

— Не кажы!

Яна адабрала рукі і хутка, рашуча пайшла ў цемру.

Праз дзень, у самы сняданак, у Хоневу хату ўварваўся Нібыта-Ігнат. Дзеці завіхаліся за сталом вакол паліванай місы з крупнікам. Хоня зычліва пазваў Хадосьчынага бацьку, пільна і насцярожана прыглядваючыся. Той, не пазіраючы на Хоню, штосьці нелагодна буркнуў, кінуў па хаце неспакойным, злым позіркам, сеў на лаўку. Нядоўга ўседзеў, ускочыў, ступіў да Хоні. Момант не мог гаварыць.

— Т-ты чаго ж ето — круціш галаву дзіцяці?

Хоня палажыў лыжку, таксама ўстаў.

— У яе — свая галава.

— Бач, нібыто — разумны які! Падабраўся к дзеўцы да й дурыць ёй голаву!

— Я не дуру, дзядзько. Я ужэ казаў, што я — сур'ёзно.

— Не дам! — закрычаў Ігнат.— Штоб і не думаў! Штоб з галавы выкінуў! Не будзе етаго!

— Ето, дзядзько, не ад аднаго вас залежыць.

— Няхай толькі папробуе! Як не паслухаецца, пойдзе сама — голую, нібыто,— пушчу! Голую! Анучы ў прыданае не дам! Дулю!

— Я, дзядзько, не вельмі гараваць буду па ім! Мне, дзядзько, не дабро ваша трэба!

— Не дабро! — не верыў Ігнат.

— Абыдуся! Мне — Хадоську аддайце!

— Дулю! От!

Нібыта-Ігнат вузлаватымі пальцамі зларадна скруціў дулю, тыцнуў Хоню.

— От што табе! От!

Хоня раптам засмяяўся. Ігнат, ашалелы ад такога нахабства, разгубіўся. Нейкі час злосна тупаў, пляваўся, лаяўся; чым больш ён злаваў, тым больш чамусьці весялеў Хонеў твар.

— Дулю! — крыкнуў Ігнат, раз'ятраны да рэшты яго весялосцю. Ён грымнуў дзвярыма так, што на стале падскочыла міска.

Ледзь сціхлі за ганкам гнеўныя крокі, Хоню ўзяло шкадаванне, што гаварыў так задзірыста: ні на што было яму цяпер гэта — злаваць Хадосьчынага бацьку! Канешне, ён, Хоня, незнарок гэта, але ж можна было і пацярпець трохі, паддобрыцца, для сваёй і Хадосьчынай карысці. Дык не ж, сам палез на ражон! Хоня затрывожыўся: цяпер бацька яшчэ больш уз'есца на Хадоську, і што будзе, калі Хадоська паддасца! Чым далей, тым трывожней станавілася Хоню; увесь дзень ён з хаты, з хлява, з павеці выглядваў, хацеў убачыць постаць у каптанчыку; Хадоські ўсё не было. Хоня знарок рабіў у хаце, на двары, каб раптам не прапусціць яе; да ўсяго — можа ж быць і такое, што яна не захоча заходзіць у хату.

Некалькі разоў ён выходзіў за вароты, на вуліцу, глядзеў, ці не ідзе. Яе не было. Сярод дня Хоня не вытрымаў: падаўся да Хадосьчынай хаты. Ледзь падышоў, з хаты, быццам знарок, вылез бацька. Хоня знянацку вінавата і прымірэнча прывітаўся, але той толькі гнеўна зіркнуў: палічыў як бы за насмешку,— адразу ж адвярнуўся, з вядром у руцэ пакіраваў сваёй дарогай, да хлява. Пад вечар Хоня зноў падступіў да

Хадосьчынай хаты. Убачыў за акном Хадоську, узрадаваўся: такая ўдача! — знакамі папрасіў, каб выйшла. Яна не ўзрадавалася, нават недавольна падціснула губы. Адвяла невясёлыя вочы, цвёрда пакруціла галавой: каб не чакаў. Адвярнулася.

Яна прыйшла на наступны дзень сама. Хоня, узрадаваны, кінуўся насустрач, адчыніў дзверы, не ведаў, дзе пасадзіць. Папрасіў, каб распранулася; яна пакруціла галавой,— не стала распранацца, не села. Лагодна пагладзіла па галаве Вольку, што злезла з печы, як кацяня, прытулілася да яе.

З Хонем была строгая, сур'ёзная. Ён не хацеў зважаць на гэта; упэўнены, што ўраз адгоніць яе сум, ласкава ўзяў за рукі. Яна нахмурылася, адабрала рукі.

— Не трэба...

— Чаго ты такая?

Адвяла вочы. Таіла нешта.

— Чаго?!

Падумала. Не гледзячы на яго, сказала:

— Бацько не хоча. «Не» і «не» — усё адно.

— Дак што, як не хоча. Не з ім жыць.

— Прыданае, кажа, не дасць.

— Няхай не дае. Сваё нажывём.

— Благаславення не дае.

— Дасць. Не цяпер, дак патом.

Зірнула строга, цвёрда; было відаць: зараз важнае скажа.

— Толькі,— вочы патрабавалі, як неадменнага,— штоб па-людску. У царкве.

Ён узрадаваўся: перш за ўсё ўхапіў галоўнае: згодна! Хацеў абняць, але яна ўперлася рукою, не падпусціла.

— Па-людску ўсё будзе, па-людску.— Хітравата перайначыў: — Ці ў царкве, ці — у сельсавеце...

— У царкве,— перапыніла яна.— І штоб — са свяшчэннікам.

— Можна було б і ў царкве. І — са свяшчэннікам...— Хоня, паказваючы, што ён гатовы на ўсё дзеля яе, як бы прасіў, каб яна таксама лічылася з ім.— Толькі ж — не можно мне. Не дазволено. Я ж — камсамолец.

Да яе нібы не дайшло.

— Усё адно,— прамовіла ціха.— Штоб — у царкве!

— Не можно мне! Разумееш?

Яна не глянула на яго. Хоня ўбачыў: ніякай літасці ў гэтым не даб'ецца ў яе.

— Тады не будзе нічога.

Яна момант пачакала, потым паправіла хустку, сабралася ісці. Гэта падагнала яго; з адчаем, амаль весела ён кінуўся ў вір:

— Ну, няхай! Са свяшчэнінкам дак — са свяшчэннікам!

Яна стрымана кіўнула галавой. Момант памаўчала, не пазіраючы на яго, павялела:

— І з калгаса штоб — выпісаўся!

— От шчэ што!..— Хоня нібы не паверыў, угледзеўся ў яе: яшчэ што ўдумае яна! Як бы знарок прыдумвае, каб пасварыцца, каб разысціся! Мала ёй царквы ды папа, дак яшчэ і гэта — калгас ёй не дае жыць!

Хоня нецярпліва ссунуў шапку на лоб, з прыкрасцю ўздыхнуў.

— Што табе — калгас? Свет зазасціў?

— Кеб выпісаўся! — загадала яна.

Хоня, стрымліваючы прыкрасць, стаў угаварваць: калгас — то ўся надзея іх, шчасце ўсё: маладым, здаровым, ім радасць адна — рабіць, жыць у дружнай грамадзе. Ды і то павінна б ведаць, ён у калгасе — адзін з першых, з Міканорам разам ладзіў,— не можа ж ён кінуць усё, здрадзіць, лічы. Горача, ад душы даводзіў; але Хадоська разумець нічога не хацела.

— Штоб выпісаўся,— ціха, строга паўтарыла.— І — кеб забраў усе назад.

— Дак не аддадуць цяпер,— паспрабаваў ён зайсці з другога боку.

— Скажы, штоб аддалі.

— Аге, скажы! Паслухаюць!

— Дак сам вазьмі.

— У цюрму пасадзяць.

— Не пасадзяць. За сваё.

Так і выйшла з хаты, не пасупіўшыся ні ў чым. Колькі ні ўгаварваў, ні адной сваёй умовы не змяніла. Хоня з ганка задуменна і клапотна сачыў, як яна акуратна зачыняе веснічкі, як у чаравічках ідзе вуліцаю, пільна гледзячы на гразкую, слізкую сцежку.

Неўзабаве неспадзявана прыйшла яе маці: охала, божкала, спачувала — пахавалі без пары нябожчыцу, палажылі ў сырую зямлю. Хоня перахапіў яе позірк: аглядвала не проста цікаўна, не як чужое, а ўважліва, па-гаспадарску. Агледзела і шырокую, урослую ў зямлю печ, і палаці, на якіх сядзеў, не зводзіў з яе воч мурзаты Косцік; і стол, і вядро, і начоўкі ў кутку. Дастала гасцінец з кішэні, белую булачку, дала Косціку і Вольцы, што не хацела ніяк злазіць з печкі. Паспачувала: сіроткі бедныя.

Хоня пашкадаваў, што не засталося гарэлкі, хацеў збегаць да суседзяў, дастаць, але яна спыніла: не трэба. Момант глядзела на яго нейкім асаблівым, цёплым позіркам: «як на свайго»,— нібы хацела пабачыць, як з ім будзе яе Хадосьцы. Хоня глядзеў адкрыта, прыхільна: чуў у Ігнацісе саюзніцу сваю. Падабалася яму і тое, што яны такія падобныя з выгляду: і шчокі, і вочы, і раток — усё перадала дачцэ сваё. І постаццю аднолькава малыя, дужыя, і гавораць падобна. Толькі характар у маткі мякчэй нібы; ну ды і Хадоська з часам, быць не можа, каб не змянілася!..

Матка, зусім як Хадоська, павяла брывом, пазіраючы кудысьці ўбок спакойна — быццам так сабе, сярод усяго — пацікавілася: пра што гаварылі з Хадоськай,— надта ж сур'ёзная прыйшла дадому.

— Асцярожна будзь з ею,— параіла, паслухаўшы.— Не кажы грубага нічога. Па-добраму абыходзься. Яна — чуткая вельмі. Ты шчэ не сказаў нічога, толькі падумаў, а яна ўжэ пачула. Таму яна такая і строгая век, што ўсё чуе. Што чуткая. Мякко будзь з ею. Патом можаш усе павярнуць па-свойму, але зразу — не пярэч! Паддавайся нібыто. У старога, мабуць, характарам пайшла. Той таксамо век трэбуваў: штоб усё, як ён хоча. Я, бувало, не пярэчу, а патом усе пасвойму зраблю... А што — пра цэркву яна, і штоб свяшчэннік буў, то ето, канешне, трэба. І з калгасу выпішыся: хто там знае, што шчэ з етым калгасам будзе. Пажывём, пабачым. Добра будзе, дак і вярнуцца ніколі не позно. Можа шчэ вернецеся. Можа шчэ ўсе там, і праўда, будзем... І старога не злі,— загадала матка.— Не чапай попусту! І — не бойся вельмі, што грозіцца! Прывыкне, прымірыцца. Астыне!..— Шчыра, сумна пахітала галавою:— Круты, ой, круты! Нацярпелася я

скольki!..— Тут жа супакоiла Хоню: — Але ты — не бойся! Астыне! Толькi ты — па-добраму, па-добраму!..

Зноў паспачувала: няма нябожчыцы, ляжыць ў сырой зямлi,— стала збiрацца дадому.

Увечары Хоня выбраўся да Мiканора. Iдучы вулiцай, абапал якой ужо чырванелi агнi ў вокнах, прыглядваючыся да цемнаватай ужо сцежкi паўз плот, гадаў, як Мiканор прыме навiну. Адтаго, што ведаў Мiканора ўсяго, да драбнiц, не чакаў нiчога добрага; ведаў, што гаворка будзе i непрыемнаю, i нялёгкаю, але цешыў сябе: растлумачу ўсё, як мае быць. «Няхай знае ўсё. Можа i зразумее. Павiнен зразумець...»

Мiканора ў хаце не было. Знайшоў яго на гумнiшчы Хведара; кончыўшы малацiць, мужчыны, накiнуўшы свiты на плечы, гаманiлi. Мiканор сказаў, што трэба паставiць на праўленнi, дзе будаваць калгасны двор; пара кончыць непарадак: калгаснае дабро раскiдана па ўсiм сяле. Андрэй Руды згаджаўся: пара, калгас таму i завецца калгасам, што ўсё у адным масiве; Хведар пярэчыў: трэба найперш з тым, што не можа чакаць, управiцца...

Хоня маўчаў. Яму здавалася: пасля таго, што ён надумаўся, ён i права нiякага не мае ўмешвацца ў калгаснае. Моўчкi iшоў ён i з Мiканорам. Ужо як iшлi Мiканоравым агародам к двару, рашыў гаварыць тут: без сведак. У хаце — Мiканорава матка, бацька; не пагаворыш адзiн на адзiн...

— Пастой,— папрасiў.— Пагаварыць хочу.— Мiканор стаў, але Хоня момант не мог гаварыць. Адчайна, знарок бесклапотна аб'явiў.— От, жанюся!

— З Хадоськаю? — нiбы насцеражыўся Мiканор.

— З Хадоськаю. Месяц перабуду, а тады... Не будзе ў Куранях шчэ аднаго халасцяка!..

— Што ж, ад етага зла мала хто ўберажэцца! — Мiканор нiбы таксама жартаваў, але стрымана, клапатна.— Дзело жывое. Да й камандзiра трэба ў хату! Не сакрэт...

— Трэба!

— А як яна? — зноў пачуў Хоня пiльную ўвагу.

— Ды што яна! Згодна! — Раптам кiнуўся ў вiр.— Да от толькi — трэбуе, штоб — у царкве. I з папом.

— Я падумаў, што патрэбуе чаго-небудзь,— нібы пахваліўся сваёй здагадлівасцю Міканор. Падумаў, параіў: — Калі ўжэ ето так канешне: што Хадося, дак ты патрэбуй — штоб усё — па-твойму.

— Я пробуваў...

— Толькі так. А не — дак скажы: вот табе — хамут і дуга. Толькі так. Калі ўжэ так прысох да яе.

— Пробуваў. Дак нічого не выйшло ў мяне...— Хоня як бы паскардзіўся, шчыра, вінавата.— Здаецца, брат, такая мяккая. Чуць якое гора ў каго — у слёзы. А як што сама скажа, дак усё кеб точно — як яна хоча. Штоб усё па яе. І слухаць нічого іншаго не хоча! Усё, штоб як яна трэбуе. А не — дак зразу паварочвае аглоблі!.. От, брат, шчасце на маю голаву!..

— Дак ты што ж — рашыў, як яна хоча! — не мог паверыць Міканор.

— А што ж зробіш!

— Да ты што! Ты даеш адчот — што ето будзе! Камсамолец — у цэркве, з папом! Ето ж — дзёгаць на ўвесь сельсавет, на ўсіх камсамольцаў! Ты можаш падумаць, які вывад зробіць народ з усяго!

— Думаць я думаў, да што — зробіш!..— З адчаем, з рашучасцю: няхай усё адразу, прызнаўся: — Тут шчэ от задача! З калгаса трэба будзе выйсці!

Міканор — у цемры было чутна — засоп важка, гнеўна. Гнеў не даваў яму гаварыць.

— Шчэ што яна захоча! — сказаў едка. Цвёрда, нібы загадваючы, заявіў: — Ето, брат, не сакрэт, зразу ж трэба абсекці! Зразу ўсе цэпі. А то абкруціць, заціснe па руках и нагах, што варухнуцца не зможаш! Загубіць у кулацкім сваім кублe! Зразу ж — абсякай, па-камсамольскі, па-бальшавіцкі! Раз — і ўсё гатова! Ето — адзін выхад!

— Дак не магу...

— Як ето не можаш! Павінно — штоб мог! Ето здаецца — што не можаш! Набярыся духу і — адным махам, секані! І ўсе кончано будзе зразу!.. Вазьмі сабе ў голаву: кулачка яна форменная!..

Хоня запярэчыў:

— Ты ето — не ўзводзь на чалавека за ніщто! Яна такая ж кулачка, як я!

— Кулачка па ўсёй форме. У бацьку пайшла. Ігнат — той кулак на ўсе сто працэнтаў. Не важно, што

па гаспадарцы ў серадняках лічыцца. Што не багаты. Па нутру — кулак. Разгаворы аб калгасах такія разводзіць, што і багацей не ўсякі гаворыць. І яна — кулачка па нутру. Уся ў бацьку!

— За нішто ты ето на яе, Міканор! От ён — бацько яе — аж кіпіць, штоб не йшла за мяне! А яна: пайду — кажа! Праціў яго ідзе! От што! А ты — узводзіш на яе!..

— Ето так толькі паказуюць!.. Абсякай, раю табе,— покуль не позно! Абсякай цэпі! Не давай, штоб абкруцілі! — Міканор раптам змяніў тон, загаварыў мякка, нават нібы з усмешкай: — Етаго цвету хопіць,— не бойся! Знайдзем другую, не горшую! І з нашым духам! У сельсавеце распішам, з музыкай! Па ўсёй камсамольскай форме!

— Не магу, брат! Думаў я ўжэ пра ўсё. І парваць усё сабіраўся,— дак не магу! Люблю, брат, так яе, што жыць, здаецца, не рад адзін!.. Нішто мне ўсё — як без яе... Яна, хітрая, мабуць, чуе сілу, і ўсё трэбуе пасвойму!..

— Я цябе, Хартон,— загаварыў Міканор ужо інакш, без знаку якой-небудзь таварыскай паблажлівасці,— папярэджую, як таварыш і як парціец.

У яго голасе Хоню пачулася прытоеная, неабыякая пагроза. Але Хоню ўжо нічога не магло стрымаць.

— Не магу я! — сказаў шчыра і рашуча.— Люблю, кажу! — Падумаў, што Міканор разумець нічога не хоча, але страх не сціх. Няхай хоць што, ён выкажацца да канца; усё выкладзе! — Люблю!.. А што яна — кулачка, то ты — не ўзводзь дарэмно! Я ето не горш знаю — хто яна! Дзеўка яна — харошая! І з твару, і нутром, я ето знаю! Нутром можа шчэ лепей!.. Толькі адно пагано — што цёмная! Ето — праўда, цёмная! Але ето бяда не канешная. Прасвятліць можно! Я, пабачыш, прасвятлю яе! Не ўсе зразу!.. Думаеш, чаму я шчэ паддаюся цяпер? Я наўперад гляджу!.. Я, дай час, і бязбожніцай шчэ зраблю! І ў калгас прывяду! Дай час!

— Я цябе папярэдзіў, Хартон! — адно сказаў Міканор.

Ён першы пайшоў, паказваючы, што гаварыць больш няма чаго. Хоня пайшоў услед, няпэўна ступа-

ючы ўпоцемку па незнаёмай разоры. З маркотаю падумаў, што Міканор нейкі чэрствы стаў. «Саўсім не тое, што некалі...»

Калі пералезлі цераз плот на двор, Міканор стаў зноў.

— Як не перадумаеш, паставім пытанне на ячэйцы,— прамовіў з пагрозай.— Не сакрэт — вытурым з камсамола!

— Ето ваша дзело,— Хоня сказаў раптам спакойна, нават нібы — абыякава.

— Унь, як ты!..— абурыўся Міканор.

— Так, як і ты!

Разыходзячыся каля хаты, упершыню не падалі адзін аднаму рукі.

## РАЗДЗЕЛ ПЯТЫ

### 1

Сесія пачыналася ўвечары. Днём было вольнага часу: зранку Апейка пайшоў з Анісяй у краязнаўчы музей; рад быў удвайне: і таму, што бачыў, якімі вачыма глядзела Анісся і на даўняе, знаёмае, і на макеты новых, нябачаных вёсак, і таму, што і самому, хоць бачыў не першы раз, было ўсё цікавым. Да абеду пахадзіў Апейка яшчэ па магазінах; здагадваючыся, што часу вольнага можа не быць потым, купіў, што знайшлося патрэбнага, жонцы, дзецям.

У клуб прыйшлі за гадзіну да пачатку сесіі. Ужо ў раздзявалцы трапілі ў клопатны тлум, ціснуліся, гаманілі ў чарзе світ, паліто, кажухоў. Полацкі старшыня, які прыліп да жанок яшчэ ў рэстаране, пры абедзе, цяпер удаваў бывалага чалавека, памагаў жанкам здымаць паліто, перадаваў гардэробшчыцы, даваў жанкам бляшаныя нумары. Потым жанкі прысталі да гуртка іншых жанчын, што прычэсваліся, прыбіраліся перад вялікім, на паўсцяны, люстрам; праўда, і Анісся, і яе спадарожніца ўзіраліся не зусім упэўнена, нават з сарамлівасцю. Было падобна, глядзелі найбольш таму, што не хацелі, каб пра іх падумалі, нібы яны не ведаюць, як трэба паводзіць сябе сярод культурных людзей...

Зноў жа ў чародках стаялі каля столікаў, дзе рэгістравалі дэлегатаў і гасцей; акругі былі розныя, і розныя былі столікі. Справіўшы гэты важны абавязак, нарэшце, уліліся ў чародкі, якія паволі, з гулам-гоманам рушылі дзвюма шырокімі, стрэчнымі плынямі, чапляючыся за групкі пры сценах, абцякаючы тых, хто стаяў пасярэдзіне.

У Апейкі было такое адчуванне, нібы ён усё глыбей заходзіў у ваду: нейкая сабранасць і разам — радасная лёгкасць, уздымнасць; адзін мах рукі, другі, і вось — плыве, прастора, шырыня рачная. Ішоў, плыў сярод гоману, сярод бясконцай разнастайнасці галасоў, разнастайнасці абліччаў, часам знаёмых, найбольш незнаёмых. Ішлі чыста паголеныя, ішлі зарослыя барадамі, у мятых картовых пінжачках, у строгіх суконных фрэнчах, у вайсковых гімнасцёрках, жанчыны з гарадскімі прычоскамі і ў вясковых хустках; ішлі сяляне, калгаснікі, старшыні калгасаў і выканкомаў, партыйныя работнікі — дзеці са ўсёй вольнай беларускай зямлі,— гаманілі, смяяліся тут, у святочным вестыбюлі клуба імя Карла Маркса, у якім збіраліся самыя важныя сходы таго часу. У адной даволі вялікай групе Апейка пабачыў цесна, цікаўна акружанага Чарвякова,— людзі, найбольш, было відаць, вясковыя, штосьці пыталіся ў старшыні ЦВК, услухоўваліся, пераказвалі адзін аднаму...

Апейка з радасцю вітаўся са знаёмымі, знаёміў са сваёй прыціхлай, востра ўважлівай зямлячкай. Быў у яго нейкі нават гонар за сябе: от колькі знаёмых зблізку і здалёку — па ўсёй, можна сказаць, беларускай зямлі; радасна было чуць, што — не адзін, не адкідак які-небудзь, а працаўнік у сваёй сям'і, у якой столькі таварышаў, сяброў, якія і ведаюць, і паважаюць, і цэняць. У гэты ранак, сярод бадзёрага, жывога гоману і тлуму, не было і знаку ўчарашняга настрою, трывожных думак; было нават, чуў ён, трохі няёмка за начную кволасць; думалася, што трывогі — ад адзіноты, ад нервовай узбуджанасці — перабольшаны, верылася, што ўсё ў рэшце рэшт будзе добра, толькі добра. Чым больш ішлі паўз яго жвавыя, радасныя твары, чым больш апаноўваў бадзёры, святочны гоман, тым ахвотней адступалі неспакойныя думкі, шырэлі, мацнелі радасны настрой, чуццё цудоўнай, здольнай пера-

адолець усё на сваім шляху сілы. Было якраз як на ранішняй Прыпяці, сярод магутнай плыні, у якой так радасна было чуць сілу сваіх рук, у якой шырокая радасць у душы была суладнаю чысціні і шырыні рачнога прастору. Як бы хмарка набегла на Апейку тады, калі ўбачыў падцягнутага і таксама весела жвавага Башлыкова, што рушыў насустрач, гамонячы, паглядваючы цвёрда на сустрэчных, з хударлявым, абветраным незнаёмым, таксама ў гімнасцёрцы. Паздароваліся, сказалі адзін аднаму некалькі звычайных, стрыманых слоў; Апейка даведаўся, што Башлыкоў прыехаў яшчэ ўчора ўранку і жыве таксама ў той жа «Еўропе». Хмарка набегла, сышла, і зноў Апейка плыў сярод чыстага, шырокага прастору, радасны і дужы.

У канцы вестыбюля ён трохі паціснуўся каля кніжнага кіёска, мімаволі, з надзеяю, шукаў вачыма белую, сціплую кніжачку са знаёмым партрэтам. Не знайшоў: не верачы, папрасіў яе і пачуў у адказ, што няма. І ў душы, і ўголас пашкадаваў пра гэта. Гэты выпадак зноў нагнаў трывожнасць у Апейку, у момант нагадаў усё нядобрае і няяснае, што ўвайшло, яшчэ больш сплялося пасля ўчарашняй сустрэчы з Алесем.

Зазвінеў званок, і ўсе сталі кіравацца да дзвярэй, каля якіх сабраліся чародкі людзей, што весела і заклапочана даставалі з кішэнь пасведчанні. Жанчына з чырвонай павязкай на рукаве, якая стаяла каля дзвярэй, сказала, дзе месцы Мазырскай акругі, Апейка і Анісся пайшлі па зале, што шастала абуткам, рыпела крэсламі, поўнілася гулам, праз які там і тут прабіваліся поклічы. Зноў Апейку выпала сысціся з Башлыковым, нават сесці побач.

Па меры таго як спадалі шастанне крокаў, рыпенне, сам сабой цішэў і гул. Цішыню, што ўсталёўвалася, усё больш працінала чаканне, не будняе, нуднае, а ўрачыстае, якое бывае, калі мае пачацца важная, выдатная падзея. Адчуванне важнасці моманту, асабліва моцнае таму, што многія з тых, якія сядзелі ў зале, былі гасцямі не частымі ў сталіцы, трапілі сюды з вёсак, з дымных хат, мімаволі перадавалася і Апейку, адганяла ўсе развагі і клопаты. Цішыня чакання раптам прапала, калі на сцэну з-за куліс выступілі члены прэзідыума. Першым за стол зайшоў Чарвякоў, павольна, няўклюдна працiснуўся між крэсламі і сталом,

стаў, азірнуўся, як заходзяць, садзяцца іншыя. За гэтым чорныя, прыжмураныя ад святла настольнай лямпы вочы ўважліва, гаспадарліва прабеглі па зале: хапаючыся, заходзілі прыпазнелыя дэлегаты, госці.

Чарвякоў перачакаў, пакуль не селі ўсе, не стала зноў ціха. Нахіліўшы галаву, адно цьмяна-жоўта паблісквала лысіна, зазірнуў у паперу перад сабой, разпораз уздымаючы давольныя, падсветленыя знізу лямпай вочы, загаварыў хрыплавата, але выразна і ўрачыста.

— Ужо дванаццаць год ідзе бязлітасная барацьба двух начал: сацыялістычнага і капіталістычнага...[1] У гэтай барацьбе Савецкая Беларусь, як частка Савецкага Саюза, займае пачэснае месца. Год за годам у барацьбе за перамогу сацыялізма Савецкая Беларусь дасягае ўсё новых і новых поспехаў...— Ён, мабыць, адчуў, што гаворыць ціха, пакашляў, зганяючы хрыпласць, пасіліў голас.— Апошні год,— казаў ён,— асаблівы: гэта першы год пяцігодкі,— у голасе Чарвякова чуўся гонар, калі ён паведамляў, што вялікія заданні гэтага года ўдалося значна перайсці.— У выніку гэтых поспехаў у Беларусі,— разыходзіўся па зале павольны, урачысты басок,— вельмі вырасла колькасць пралетарыята, і рэспубліка ператварылася з краіны аграрнай у краіну аграрна-прамысловую і ідзе далей па шляху яе ператварэння ў прамыслова-аграрную. Гэты год выдатны і тым,— ганарыўся старшыня ЦВК,— што даў надзвычайны росквіт калектывізацыі, вялікі рост культуры народа.

Усе гэтыя дасягненні мы маем,— пастражэў басок,— не гледзячы на тое, што нам прыходзіцца праводзіць усе нашы мерапрыемствы ва ўмовах безупыннай

---

[1] Усе выступленні пададзены тут паводле стэнаграмы: «Другая сесія IX склікання. 20—26 лістапада 1929 г. Стэнаграфічная справаздача. Выданне ЦВК БССР. Менск, 1930 г.» 422 стар.

Чытачу, які любіць лёгкае чытанне, гэты раздзел будзе нудны, і яму гэтыя старонкі лепш прапусціць. Чытач жа сур'ёзны, думаю, не толькі з цікавасцю, але і з карысцю паслухае жывыя галасы, якія аддаліў час. Яны, напэўна, дадуць адчуць думкі і настроі той пары, зразумець асаблівасці, складанасць становішча. Зразумець, разам з вытокамі нашых перамог, вытокі памылак, якія потым былі названы «галавакружэнне ад поспехаў» і падпалі пад крытыку ў вядомай пастанове ЦК ВКП(б).

Усё гэта таксама, я лічу, мае блізкія дачыненні да Куранёў.

барацьбы супроць сацыялістычнага будаўніцтва з боку капіталістычных элементаў горада і вёскі. Чым больш рашуча разгортваецца сацыялістычнае будаўніцтва, тым з большай бязлітаснасцю вядуць барацьбу за сваё захаванне, за сваё ўзмацненне — капіталістычныя элементы горада і вёскі. Гэтая барацьба адбываецца шляхам непасрэднага выступлення кулацкіх і нэпманскіх контррэвалюцыйных элементаў супроць мерапрыемстваў савецкай улады і Кампартыі. Гэтая барацьба выліваецца ў форму прасякнення ў нашыя апараты, разлажэння іх і падпарадкавання сваім уплывам... У Савецкай Беларусі барацьба капіталістычных элементаў супроць сацыялістычнага будаўніцтва атрымоўвае асаблівую форму ў якасці нацыяналізму і асабліва ў якасці праяўлення беларускага нацыянал-дэмакратызму... Вельмі часта здараецца так, што камуністы падпадаюць пад уплывы нацыянал-дэмакратычных элементаў і ператвараюцца ў рупар, праз які нацыянал-дэмакратычныя элементы... праводзяць свае ўплывы...

Апейку пры апошніх словах мімаволі прыгадалася, што на адным са сходаў Чарвякова самога хтосьці вінаваціў у патуранні нацдэмам, такім, як Гартны, у нібы нацдэмаўскім тлумачэнні некаторых з'яў мінулага; Іван Анісімавіч у цвёрдым тоне чарвякоўскіх слоў пачуў заяву, што ніякіх ваганняў у адносінах да гэтай поскудзі ён не дапусціць. Цяпер Чарвякоў быў нібы не падобны на таго далікатнага, паблажлівага дзядзьку, якім Апейка бачыў яго ўчора, у вестыбюлі гасцініцы, за сталом у рэстаране. У прысадзістай, амаль нерухомай постаці, у строгім выразе твару, у тоне голасу чуліся цвёрдасць, непахіснасць.

— Тое, што ўчора яшчэ здавалася нам недасяжным планам,— прарывалася да Апейкі праз трывожныя думкі пра Алеся,— сёння становіцца рэчаіснасцю. Тое, што ўчора яшчэ здавалася нам максімумам, сёння становіцца мінімумам. Вось гэты тэмп няспыннага руху ўперад патрабуе таго, каб кожны з нас умеў пераключыцца, каб паспяваць за гэтымі тэмпамі.— Словы Чарвякова быццам проста ішлі на Апейку, быццам скіраваны былі на яго. Іван Анісімавіч адарваўся ад думак пра Алеся, стаў з новай турботнасцю вострa лавіць тое, што казаў Чарвякоў: — Няўменне пераключыцца на новыя тэмпы сацыялістычнага будаўніцтва ёсць

прычына таго, што жыццё адкідае тых, якія не могуць ісці нага ў нагу... Якія не маюць у сабе сіл і здольнасцей для таго... каб стаяць на чале гэтых моцных тэмпаў...

Але на змену тым, хто траціць сілы ў працэсе будаўніцтва... хто баіцца гэтых новых тэмпаў... працоўныя масы горада і вёскі вылучаюць усё новыя пласты будаўнікоў... усё новыя і новыя пласты кіраўнікоў...— Апейку здалося, што Башлыкоў, давольны, як бы павучаючы, паглядзеў на яго. Але Апейка не варухнуўся [illegible] яму, нібы не заўважыў нічога...

Скончыўшы ўступную прамову, Чарвякоў выцер хустачкай твар, лысіну, яшчэ ўзрушаны гаворкай, пашукаў вачыма паперку на стале, пацішэлым, амаль будзённым голасам аб'явіў, што трэба вызначыць парадак сесіі. Парадак быў вялікі: адзінаццаць пытанняў — дзесяць дакладаў і адзін садаклад. Апейка адразу вылучыў сярод іх два: даклад старшыні Савета народных камісараў Галадзеда і даклад наркома земляробства Рачыцкага, — аб калектывізацыі...

Чарвякоў даў першае слова старшыні Саўнаркома. Хударлявы, з рэзкімі валявымі рысамі, Галадзед сядзеў з боку стала, блізка да трыбуны; ён энергічна ўстаў, пад воплескі з залы ступіў к трыбуне лёгкаю і пругкаю хадою вайсковага. У яго і пастава была прамая, вайсковая, і ў тым, як ён стаяў за трыбунаю, адчуваліся годнасць, упэўненасць у сабе, у тым, што яму належыць грабіць.

Ён пачаў з таго ж, з чаго пачынаў і Чарвякоў,— з адзначэння мінулага года.

— Гэты, 1928—29, год з'явіўся,— адрывіста, энергічна загаварыў ён,— пераломным у развіцці народнай гаспадаркі як СССР, так і Беларусі. Ён, гэты год, выдатны тым, што ўпершыню ўдалося так глыбока захапіць і ўзняць шырокія масы рабочага класа і бядняцка-серадняцкага сялянства на выкананне пяцігодкі. Першы год пяцігодкі выкананы з вялікім поспехам.— Паведамляючы гэта, Галадзед асабліва вылучыў тую акалічнасць, што такая важная перамога дасягнута ва ўмовах абвастрэння жорсткай класавай барацьбы, асабліва на вёсцы.

Упэўненым, дзелавітым голасам Галадзед расказваў зале, што глядзела на яго, уважліва слухала з прыціхлых радоў партэра і балкона, якіх поспехаў дабіліся за першы год пяцігодкі прамысловасць і сельская гаспадарка Беларусі, называў лічбы, працэнты. Гэтыя лічбы ўзмацнялі ў Апейку адчуванне ўздымнасці і гонару. Ён браў іх з радасцю, яны былі суладныя таму, чаго яму заўсёды хацелася: добрай хады ў справе, у вялікай дарозе. Тут, сярод агульнай святочнасці, асабліва цешыла: ішлі добра. Пра гэта казалі багата лічбаў, і якіх лічбаў!

Як асаблівае дасягненне Галадзед вылучыў — узмацненне *зернавой базы*; гэтае дасягненне асабліва важнае тым, растлумачыў ён, што вырашэнне зернавой праблемы ідзе па лініі разгортвання аграмаджанага сектара сельскай гаспадаркі. Гэта дало магчымасць запраектаваць больш павышаны хлебанарыхтоўчы план і выканаць дагэтуль больш чым на 90 працэнтаў. Акрамя таго, гэта дало магчымасць прыступіць да арганізацыі хлебнага рэзервавага фонду.

Тут у радасны настрой Апейкі няпрошана ўнізалася насцярожлівае: легкаватай, здалося, паказана была задача — павышаны хлебанарыхтоўчы план і яго выкананне. І арганізацыя рэзервавага фонду.

— Характэрным і важнейшым фактарам,— гаварыў Галадзед,— з'яўляецца тое, што мы мелі рост калгасаў-гігантаў і што мы гэты рост мелі не на былых маёнтках і дзяржаўных землях, а мы мелі рост на сялянскіх землях, гэта значыць, мелі зруйнаванне межаў, і на гэтых межах выраслі і вырастаюць калгасы-гіганты ў дзесяткі тысяч гектараў.— Ледзь Галадзед нагадаў «калгасы-гіганты», Апейка ўспомніў, што думаў пра гэта, калі чытаў «Год вялікага пералому» Сталіна. Зноў вярнулася тое двоістае, супярэчлівае: і захапленне смелым размахам, і недаверлівая абачлівасць — ці не журавель у небе гэта?

— Найбольш сур'ёзным фактарам у развіцці сельскай гаспадаркі,— тлумачыў Галадзед,— з'яўляецца тое, што ў наступным годзе мы будзем мець магчымасць атрымаць не менш пяцідзесяці працэнтаў таварнага хлеба ад аграмаджанага сектара сельскай гаспадаркі. Калі нам прыходзілася часта праз меру траціць энергію на загатоўку хлеба ў індывідуальных гаспа-

дарках, то ў гэтым годзе мы будзем мець пяцьдзесят працэнтаў таварнага хлеба з нашага абагуленага сектара...

У святочную бесклапотнасць Апейкі зноў уплялося: ці не занадта смела заяўляць, колькі будзе таварнага хлеба ад гаспадарак, якія яшчэ трэба аграмадзіць і наладзіць. Праўда, тут жа стрымаў сябе: у Галадзеда няйнакш ёсць падставы для такога, ён больш ведае...

— Пры дакладзе на Мінскім гарсавеце аб дванаццатай гадавіне Кастрычніка,— згадаў Галадзед,— я асмеліўся высунуць наступны лозунг: у трынаццатым годзе пралетарскай дыктатуры мы ў Беларусі павінны ўдзесяцярыць колькасць калгасаў.— Калі Галадзед стаў тлумачыць, як гэта задача будзе выглядаць у лічбах калгасаў і пасеўнай плошчы, хтосьці з залы крыкнуў: «Яшчэ мала!»

Па зале пайшоў шумок, рады заварушыліся. Апейка азірнуўся туды, на голас. Як і ён, многія паварочваліся, вялі позірк туды, адкуль пачуўся голас. Другія глядзелі зацікаўлена ўперад, чакалі, што скажа старшыня Саўнаркома. Апейка заўважыў: у зале не адзін падтрымліваў нецярплівы вокліч: «Мала!» Яго не здзівіла гэта: знаёмы ўжо быў з такім настроем. Ды і, хоць сам быў іншай думкі, разумеў іх.

— Мне могуць сказаць, што гэта — фантастыка,— Галадзед нібы не чуў воклічу і хвалявання ў зале, развінаў сваю думку: — Фантастыкай гэтага, канечна, назваць нельга, але, таварышы, гэта вельмі агромная і вельмі смелая задача.— Апейка ахвотна ўхваліў цвярозую разважнасць дакладчыка: справядліва.— Аб ёй трэба думаць, і думаць можна рэальна толькі пры адной умове,— упэўнена вёў Галадзед,— калі мы зможам як мага лепш падцягнуць арганізацыйную нашу працу... бо мы ў шэрагу выпадкаў,— таксама ж пераканана судзіў ён,— адстаём ад калгаснага руху, ён у шэрагу раёнаў перарастае нашы адпаведныя органы...

Апейка слухаў гэта ўжо з насцярогай, з нязгодай: як так — «перарастае»? З чаго гэта ўзята — перарастае? Але дакладчык не стаў тлумачыць, упэўнена пайшоў далей:

— Мы заўсёды павінны быць на чале гэтага руху... Не чакаць, што толькі тады будзем калектывізавацца, калі нам дадуць трактар і дзяржаўны крэдыт...

«А хто чакае? Але ж і трактар і крэдыт трэба...»

— Гэта зусім не азначае таго,— як бы прадчуваючы, што яму могуць запярэчыць, разважліва загаварыў Галадзед,— што мы не павінны клапаціцца аб трактарах і дзяржаўных крэдытах для калектывізацыі... бо трактар, як гэта ўжо ўсім вядома, з'яўляецца асноўным рычагом калектывізацыі. Але справа абстаіць так, што ў першыя гады пяцігодкі ў нас трактараў не хопіць для поўнага задавальнення нашых патрэб, а калектывізацыю мы не павінны ні ў якім разе паслабляць. Наадварот, трэба ўсямерна яе разгортваць!..

Думка спадабалася Апейку развažлівасцю, і ён як бы паспакайнеў. Слухаў зноў з даверлівай увагай.

— Я павінен сказаць наступнае,— гаварыў Галадзед.— Паўночны Каўказ і Украіна ставяць перад сабой такую задачу: Украіна, напрыклад, мяркуе калектывізаваць стэпавую паласу ў два гады на сто працэнтаў, Паўночны Каўказ таксама думае калектывізавацца поўнасцю на працягу двух гадоў. Ці можам мы такую прыблізна — ну, не ў два, дык у тры гады — задачу ставіць перад сабою? Па-мойму, не толькі можам, але і павінны...— Апейка ў думках падтрымаў гэта. У тры гады — відаць, рэальна.— Вопыт мінулага года нам паказаў,— ішло да Апейкі,— што мы перавыканалі ўсе нашы планы па калектывізацыі, і перавыканалі іх на трыста працэнтаў. І мне думаецца, што, калі мы зможам арганізацыйна ахапіць гэты рух і калі мы зможам і далей яго развіваць, мы можам «дзерзнуць» на такі крок, каб у найхутчэйшы тэрмін калектывізаваць сельскую гаспадарку БССР усю — на сто працэнтаў. Падставы для гэтага ёсць: маса беднаты сёння ўжо жыве імкненнем ісці ў калектыў... Вось, напрыклад, такі выпадак,— Галадзед адарваўся ад напісанага, і Апейка,— і — адчуў ён — усе ў зале яшчэ прыціхлі, зацікавіліся.— Калі мы пачалі гаварыць,— стаў апавядаць дакладчык,— аб арганізацыі буйнага агракамбіната-гіганта ў сотні тысяч гектараў... які павінен будзе ўключыць у сябе не толькі справу паляводства... але і арганізацыю індустрыяльных мерапрыемстваў... дык мне старшыня Рагачоўскага РВК прыслаў тэлеграму, што ў іх раёне запісалася ўжо ў калгас 60 працэнтаў сялянства!.. Пачуўшы, што ў нас на Беларусі будзе арганізоўвацца такі гігант-агракамбінат... з пра-

мысловымі прадпрыемствамі — электрастанцыяй і гэтак далей... сялянства ўжо само, часам і праз галаву многіх нашых арганізацый... пачало нечуванай хваляю ўлівацца ў калектывізацыю навокал такіх буйных сацыялістычных адзінак!..

Апейка адвёў вочы ад трыбуны, пабег позіркам няёмка абы-куды. «Самі... Нечуванай хваляю... Цераз галовы... Ледзь пачулі пра аграгігант...» — Адчуў раптам, быццам стала муляць шыю, як бы трапіла за каўнер сянінка. Паварухнуў шыяю, але яе ўсё муляла.

— Асноўнае, што з палітычнага боку павінна кіраваць намі ва ўсёй рабоце па ажыццяўленню гаспадарчых планаў,— казаў старшыня СНК з націскам, як бы падагульняючы,— гэта далейшае рашучае, няспыннае наступленне на капіталістычныя элементы... Другім кіруючым лозунгам павінна быць самая бязлітасная барацьба з правабухарынскай апартуністычнай апазіцыяй. Біць па панікёрах, дробнабуржуазных ідэолагах — гэта адна з важнейшых задач, абумоўліваючых рух наперад...

Апейка ўсё гэта адзначаў сабе з пільнай увагай, усё тут было вельмі важна яму.

Зацікаўлена і клопатна слухаў Апейка, калі Галадзед тлумачыў дэлегатам задачы на бліжэйшы час работнікаў сельскай гаспадаркі, навукова-даследчых устаноў, задачы тых, хто працуе ў розных галінах прамысловасці. Яму падабалася: гаворка тут была вельмі канкрэтная, дзелавая, было тут што не толькі паслухаць, але і добра запомніць. Адчувалася, з павагай і нейкай нават зайздрасцю, як ён багата ведае і як шырока бачыць, старшыня СНК рэспублікі. Галадзед нібы аддаліўся ад Апейкі і разам вырас у гэты час.

— Тое, што мы перарастаем нашы планы, ставіць ва ўвесь свой рост перад намі задачу падрыхтоўкі кадраў, пашырэння гэтых кадраў,— загаварыў Галадзед пасля паўзы.— Асабліва гэта будзе зразумела тады, калі мы напомнім і аб тым, што ў нас за мінулы час сярод часткі старых спецыялістаў мела месца яўнае шкодніцтва ў іх працы, як ва ўсім Саюзе, так і ў БССР.— Цікаўнасць Апейкі ўзяла іншы лад, павастрэла: зараз будзе асаблівае, пагрознае, што трывожыць усіх.— Акрамя таго, што ў нас маецца тонкая праслойка кад-

раў спецыялістаў,— нецярпліва слухаў Апейка ў нацятай цішыні,— мы маем яшчэ такія выпадкі, калі некаторыя з іх працуюць не на карысць савецкай улады, а на карысць капіталізму... Калі па Саюзе ССР выкрыты цэлы шэраг яўна шкодніцкіх арганізацый, то ў Беларусі мы без гэтага, на жаль, не абышліся. У нас ёсць падставы думаць аб тым, што па некаторых галінах нашай працы, асабліва па прамысловасці, і ў нас кой-чым некаторыя «спецы» займаліся, гэта значыць, займаліся шкодніцтвам, падрывам сацыялістычнай рэканструкцыі, а не яе ажыццяўленнем.— З усяго гэтага Апейкава ўвага выхапіла асабліва: «ёсць падставы думаць аб тым...» Што значыць гэтае туманнае: «падставы думаць»? Факты ёсць? — прайшло ў ім без адказу. Але няпэўнае «кой-чым», «некаторыя спецы» — засела ў памяці трывожна, як кожны намёк, за якім самы шырокі прастор для здагадак.— Гэтае шкодніцтва на культурным фронце,— прабівалася да Апейкі праз развагі яго,— праводзілася ў выглядзе выхавання дзяцей і моладзі ў нацыянальна-дэмакратычным напрамку. Шэраг «культурных» людзей давалі нам такую прадукцыю, і зусім свядома яе давалі, на якой не можа выхавацца савецкі грамадзянін. Я маю на ўвазе некаторыя падручнікі і «навуковыя» працы паасобных ярых праціўнікаў савецкай улады, якія прыкрываюцца вуаляй «лаяльнасці»...

Апошнія словы адгукнуліся ў Апейку трывогай: тут было ўсё дакладнае і было блізкае — школа. І яшчэ, асабліва: да ўсяго гэтага нібы мела дачыненне Алесева бяда. Недарэчна, між няцямнай трывожнасці засела незразумелае — «лаяльнасць». Што яна за такая, ды яшчэ з гэтай «вуаляй»?

Дакладчык прыкметна запаволіў гаворку, узняў голас. Стаў рабіць агульныя вывады, як бы даваў наказ перад развітаннем. Падобна было, плывец набліжаўся да берага.

— Кіруючыся імкненнямі аб хутчэйшых тэмпах нашага будаўніцтва, з аднаго боку, і фактычным становішчам выканання нашага плана ў першым годзе пяцігодкі, з другога боку,— Галадзед загаварыў урачыста і значна, нібы вылучаючы гэта, як самае важнае ў дакладзе: — Савет народных камісараў БССР у жніўні месяцы, зацвярджаючы кантрольныя лічбы, вынес паста-

нову — перагледзець пяцігодку ў бок яе павелічэння па важнейшых галінах народнай гаспадаркі і культуры. Я буду прасіць, каб сесія ЦВК зацвердзіла гэтую пастанову і дала дырэктыву, каб нашы гаспадарчыя органы сапраўды гэта зрабілі... Матэрыялы гавораць аб ажыццяўленні такога лозунга — выканаць пяцігодку ў БССР у тры-чатыры гады. Гэты лозунг з'яўляецца баявым лозунгам сённяшняга дня!.. На гэтым дазвольце скончыць мой даклад.

Ён згарнуў папку [redacted] паперамі і той жа цвёрдай, упэўненай хадою пайшоў ад трыбуны к сталу. Зала гучна, дружна запляскала. Моцна, горача пляскаў Башлыкоў, гледзячы на Галадзеда з юначым захапленнем. Пляскаў і Апейка, цвёрда, нехапатліва. Глядзеў то на Галадзеда, то на іншых у прэзідыуме і біў у далоні. Апладзіраваў баявой задачы, таму, што яна, калі здзейсніцца, павінна была прынесці зямлі і людзям. Апладзіраваў дакладчыку, які нямала адкрыў яго вачам. Поўны тым, што пачуў, быў задуменны. Час ад часу мімаволі прытрымліваў далоні ў далонях. Разпораз збіраў клопатны змрошчык між броў. Як бы хацеў штосьці яшчэ даўмець...

Калі воплескі сціхлі, Чарвякоў падняўся і аб'явіў, што на гэтым вячэрняе пасяджэнне заканчваецца і што спрэчкі пачнуцца заўтра, з дзесяці гадзін раніцы...

У той вечар Апейка вячэраў з Башлыковым; за вячэрай Башлыкоў доўга і шчыра хваліў даклад Галадзеда. Апейка толькі сказаў згодна: даклад — багаты,— не было ахвоты гаварыць асабліва. Але пасля вячэры, у пакоі, на адзіноце зноў стаў згадваць пачутае ў зале. Як і раней, многае захапляла; асабліва тое, які шырокі малюнак паўставаў з даклада, уся краіна была нібы перад вачыма. Захаплялі маштабы планаў, смеласць праектаў, сціняла дыханне, калі думаў пра агракамбінаты-гіганты на месцы саламяных вёсак. Нельга было думаць спакойна пра тое, якія могуць быць знаёмыя Мокуці, Курані праз нейкі дзесятак гадоў. Малявалася проста штосьці казачнае. Але разам у думкі лезла і іншае. «Калгасны рух перарастае нашы адпаведныя органы...» «Сяляне, часта цераз галаву нашых арганізацый, нечуванай хваляю ўліваюцца ў калга-

сы...» Варта было даведацца пра агракамбінат, як — сяляне — самі пачалі валіць у калгасы!..

Чым больш разбіраў чутае, тым больш брала нездавальненне: не багата было дзелавітасці ў дакладзе. І глыбіні, сур'ёзнасці пры разборы становішча не шкодзіла б большай. І складанасць становішча, складанасць задачы можна было б грунтоўней паказаць. Асабліва там, дзе гаворка была пра калектывізацыю... І можа не варта было такім лёгкім падаваць павышаны хлебанарыхтоўчы план. Калгасам, якія яшчэ толькі становяцца на ногі і сілу якіх так лёгка падарваць... Чаму маляваць было ўсё ў такім бадзёра павярхоўным, фактычна — няпраўдзівым святле?..

«Нічога. Таксама — не трапячыся лішне. Усё яшчэ — наперадзе...» — супакоіў ён сябе, стараючыся заснуць. Не дадумаў, што яно, гэтае «ўсё»: ці жыццё наогул, ці сесія, якая толькі пачыналася...

Устаў рана. Хутка сабраўся, пазваў Анісю. Разам паснедалі ў людным, але па-ранішняму ціхім рэстаране. Выйшлі ў марозны ранак, пахадзілі крыху па ранішнім Мінску, потым у вестыбюлі.

Седзячы ў зале, якая поўнілася людзьмі і гоманам, разгарнуў газету: на кожным месцы бялелі аркушы газет. Пабег вачыма: чым жыве краіна, свет?.. «Ліквідуем непісьменнасць...» «Заняткі не распачаліся своечасова... Няма падручнікаў...» «План самаабкладання выканан толькі напалавіну...» «Знішчаюць жывёлу... У Магілёўскай вобласці...» «Выканаем дадатковыя планы па хлебазагатоўках да 1 снежня... Націснем на кулака-заможніка...» Увага ўчапілася ў паведамленне: «Выкрыта органамі ДПУ і ліквідавана контррэвалюцыйная арганізацыя... «Саюз вызвалення Украіны...» Падтрымлівала сувязь з пятлюраўскім цэнтрам у Польшчы!..» На чале — нібы мірны вучоны, прафесар, савецкая ўлада даверыла яму пачэсную пасаду, а ён — «аддзячыў»! Гэта быў не грозны і голы артыкул; стрыманае, дакладнае паведамленне біла, здавалася, кожным словам: вораг не спіць, віжуе, падбіраецца! Набегла трывожнае: а што, калі і Алеся ўцягнулі ў такое кодла; ён не ведае, а сам — аблытаны!.. Не, каб было што, ведаў бы — пачуў бы, ён — такі!..

Пасяджэнне ў гэты дзень пачалося ціха, без учарашняй святочнасці. Гасцей было мала, у зале цяпер сядзелі амаль адны ўдзельнікі сесіі. Чарвякоў аб'явіў: «Слова мае таварыш Нікіціна». Па праходу пайшла, ніякавеючы пад агульнай увагай залы, не варушачы рукамі, дробная жанчына ў ботах, жакеце, доўгай спадніцы. На трыбуне яна момант разгублена маўчала, адно бегалі спалоханыя вочы, як бы першы раз пабачыўшы такое мноства твараў. Цішыня станавілася крытычнаю, калі яна адолела кволасць, адважна, голасна загаварыла — пра тое, як багата ўжо зроблена «ў справе залучэння нашых жанчын у савецкае будаўніцтва».

— Па дакладу таварыша Галадзеда,— перадыхнула яна момант, кінулася наперад,— я скажу некалькі слоў... Таварыш Галадзед, кажучы аб нарыхтоўках, казаў, што нарыхтоўку па льносемю вы выканалі добра. Але мы не ўсё наша льносемя ўзялі...— Зноў была хвіліна маўчання.— Цяпер — аб калектывізацыі. Таварыш дакладчык казаў, што мы ўжо меркаванні па пяцігадоваму плану, намечаныя на першы год, пераша гнулі, але не адзначыў, што гэта не ва ўсіх акругах. Калі я закрану Віцебскую акругу, то там па калектывізацыі непачаты край работы, там мала актыву, мала кінута культурных сіл, як аграномаў і гэтак далей. Тры раённыя аграномы ёсць, але і тыя слабыя... Вось у гэтым самае галоўнае, што ў нас мала работнікаў. Трэба кінуць усе сілы ў адсталыя раёны!..

Заружавелая, яна з палёгкай і радасцю, як чалавек, што выканаў свой няпросты абавязак, хутка сышла ў залу. З гэтага часу Апейка толькі назіраў, слухаў, зрэдку для памяці тое-сёе запісваючы ў блакнот.

— Таварыш Галадзед указаў у сваім дакладзе, што ён як быццам сумняваўся. Што план па калектывізацыі, які намечан, будзе, можа, не выканан.— Барытон дужага з абветраным тварам, з кароткай шыяй чалавека, старшыні калгаса з Бабруйшчыны, гучаў цвёрда, упарта.— Я, таварышы, запэўняю, што пры такім тэмпе і пры такіх настроях сялянства, якія мы маем у цяперашні момант, мы не толькі можам выканаць, але і перавыканаць. І сумнявацца тут няма чаго!.. Але ў гэтай працы мы часта сутыкаемся з нашымі класавымі ворагамі. І нам тут трэба абмеркаваць, якія мерапрыемствы трэба ўжыць да гэтых кулацкіх элементаў. Бо

тыя законы і тыя кодэксы, якія існавалі да гэтай пары, з'яўляюцца недастатковыя. Нам трэба на іх так нажаць, штоб у іх кроў з вачэй палілася!.. Трэба даваць кулакам зямлі не максімальную норму, а мінімальную! Даваць ім вучасткі з сыпучымі пяскамі. Няхай там папрацуюць!..— Сціпла, быццам пра асабістае, не цікавае для іншых, сказаў крыху Пугачоў — такое было ў старшыні прозвішча — пра справы калгаса. Паведаміў, што ёсць вялікі клуб, папрасіў, каб прыслалі дакладчыка, «які б там зрабіў даклад аб культурным выхаванні». Асцярожна зачапіў жывёлагадоўлю, намёкам адзначыў, што «ёсць вялікі крызіс»; падтрымаў Галадзеда, што трэба, каб заводы рабілі машыны для калгасаў...

— Сёлета мне прыйшлося гаварыць з дзядзькамі з Урала,— пявуча, лагодна апавядала прыгожая з твару, паўнаватая жанчына ў чырвонай касынцы, Анішчанка. Апавядала, абапёршыся аб трыбуну локцямі, падаўшыся ўперад, пасміхваючыся, так спакойна і вольна, нібы гаварыла з сяброўкамі. Было відаць, што за трыбунай не першы раз і рада гаварыць.— Гаманілі мы, і я пыталася ў іх: як — пыталася — на Урале будуюць камуны і калгасы. Яны гаварылі мне: «Цётка, калі б вы пабачылі нашы камуны, якія былі арганізаваны дзесяць гадоў назад, дак вы не сказалі б, што гэта была сялянская вёска. Зараз там жанчыны амаль што не работаюць на полі. Мы ўсё абрабатваем — казалі — машынамі, а жанчыны даглядаюць толькі быдла. У нас — хваліліся — добрае стада свіней, кароў і дробнай скаціны. Дак чаму б і нам, таварышы, на Беларусі не арганізаваць так сельскую гаспадарку?!. Некаторыя дзядзькі нам і сёння яшчэ кажуць, што ў нас не можна будаваць калгасы, бо там балоты, там горы. Там — тое, там — другое. Я думаю, што можна ў нас на Беларусі ўсю зямлю выкарыстаць, на сто працэнтаў... Таварыш Галадзед расказваў тут пра Асінбуд. Дзе ж вы бачылі, штоб у старыя часы ўздумалі на балоце будавацца?.. Мы самі нядаўна туды ездзілі, на экскурсію. Дак бачылі, што на гэтым балоце, якое займае пяць тысяч гектараў, можна ўжо не толькі торф здабываць, але ўжо і трактар пусціць. Там так добра зямлю асушылі, што мы хадзілі амаль не цэлы дзень і не маглі налюбавацца!..

Разумна, збалела непакоілася яна пра сялянскую бяду: бясконцыя пажары, няшчасныя пагарэльцы.

— Дзядзькі будуюць добрыя хаты,— шчыра бедавала і сама,— але будуюць так густа, што між імі і аршыну дзецца няма куды. Лепяць хаты адна каля другой, і што ж выходзіць? Дах саломай накрыем,— ад адной іскры гарыць уся вёска. Часам баба жару прынясе сабе ад другой цёткі, а то ў свіранi самагонку пачнуць гнаць — і так бывае. Селянін гаруе, будуецца, а за дзве гадзіны ўсё дабро яго гіне!.. Я думаю, калі пяройдзем на калгасы, тады зробім з нашых гор чарапіцы і будзем хаты крыць не саломаю, а чарапіцаю. Тады не будзем гарэць штогод. І дабро не будзе гінуць, і лес траціць не будзем попусту...

Стрыманы, здавалася, педантычны Некрашэвіч, што гаварыў паважна, роўна, як на лекцыі, нібы тлумачыў тую частку даклада, дзе Галадзед казаў пра дзейнасць некаторых «спецаў». Буйны рост сацыялістычнага будаўніцтва завастрае класавыя супярэчнасці, і гэта ў выніку, тлумачыў Некрашэвіч, прыводзіць да ўзмацнення нацыяналістычных і праваапартуністычных тэндэнцый. Нацыяналістычныя тэндэнцыі, казаў прамоўца, маюць у Беларусі розныя формы: беларускі нацдэмакратызм, яўрэйскі, польскі, расійскі шавінізм. У наш час, калі ворагі розных колераў кансалідуюцца на агульнай платформе шкодніцтва,— а гэта ў нас, як сказаў таварыш Галадзед, мае месца,— павінна быць узнята самая жорсткая барацьба з усякай варожай пралетарыяту ідэалогіяй. З асаблівай увагай тлумачыў Некрашэвіч шкоду так званых «лаяльных», бо «пад маскай лаяльнасці гэтыя асобы могуць каваць самыя варожыя для пралетарыяту ідэалогіі». «Лаяльных» трэба пільна выкрываць, бо з адкрытым ворагам лягчэй ваяваць, чым са скрытым. Некрашэвіч заявіў, што такіх «лаяльных» у Беларусі, безумоўна, многа; але калі пачаў тлумачыць характар «лаяльных», то выйшла, што «лаяльным» можна абвясціць любога, хто буркнуў, што мала мяса, мануфактуры, ці — няма табакі. Усё ж, хоць Некрашэвіч не падаў ні аднаго факта, Апейка слухаў яго востра: тое, што ён даведаўся з паведамлення пра выкрыццё «Саюза вызвалення Украіны», быццам падмацоўвала Некрашэвічавы тлумачэнні, прыдавала ім грознага сэнсу, тым больш, што пад

канец Некрашэвіч багата гаварыў пра такую «лаяльнасць», як нацдэмакратызм, пры згадках пра які Апейку заўсёды прыходзілі трывожныя думкі пра Алесеў лёс.

2

Адзін за адным да трыбуны ішлі людзі [redacted] розных раёнаў і акруг,— яны нібы далучалі яго да тых палёў, краёў, якіх ён не бачыў, але якія бачыць яму вельмі хацелася. Апейка пільна сустракаў кожнага новага прамоўцу; яго ўвага была асабліва вострая адтаго, што ён не проста назіраў, што робіцца ў нязнаных краях,— ён шукаў, ён хацеў уведаць, што робіцца ў другіх, каб лепш зразумець сваё, тое, над чым столькі думалася і што яшчэ не ва ўсім было добра высветленае.

Амаль з кожным прамоўцам шырылася шматгалоссе вялікага жыцця. У гэтым шматгалоссі былі разам і святочныя паведамленні пра зробленае, пра тое, што «бядняк і серадняк ужо асазналі карысць калектывізацыі», і голая — з гаркатою, з болем — трывога, што ў новых арцелях у мястэчку «сядзяць без хлеба і бульбы»; што батракі не атрымліваюць норму хлеба; за клопатам, што слаба ідзе змаганне з цемраю, асабліва сярод жанчын, увайшоў у залу клопат пра тое, што цяжка распаўсюджваць трэцюю пазыку індустрыялізацыі. Селянін гаворыць: «Мы ўсё даём, даём, а ў нас нічога няма»,— не бачыць — бяда — таго, што робіцца за вёскай. Работніца з Мазыра, чарнявая, [redacted] тонкай, доўгай шыяю, у гімнасцёрцы,— спачатку няёмка, збіваючыся, потым смялей, шчыра — падзялілася скрухаю: трэба многа, старанна працаваць, а работніцы не могуць, бо няма сілы. «Калі б нам далі магчымасць даставаць прадукты па таннай цане!» Малады, з рашучым, хударлявым тварам: усё точанае, рэзкае, з рашучым, нелагодным голасам, старшыня райвыканкома паставіў рубам пытанне: чаму дасюль не спыняецца знішчэнне жывёлы! Пра якое многія гаварылі яшчэ два-тры гады назад! Сам дзелавіта, дакладна выкрывае прычыны: першая — дасюль не вырашана пытанне пра кармы — жмыхі, караняплоды і гэтак далей. «Было багата размоў,— гаварылі, пісалі,— аднак канкрэтна

ў нашых саўгасах і калгасах яно ўсё яшчэ не выраша-на!..» «Другая прычына — гэта тое, што зараз, пры аб'яднанні ў калектывы, некаторыя сераднякі стара-юцца збыць жывёлу, хочуць ліквідаваць сваю маё-масць, атрымаць грошы і гэтымі грашыма ўнесці пай...» Нелагодным, заклапочаным голасам не параіў, папатрабаваў: трэба паставіць справу — эканамічна, па-літычна, тэхнічна так, каб жывёла ў нашай краіне не памяншалася ні ў якім разе!..

У прамове гарачага, баявога Хандогі з Аршанскай акругі Апейкаву ўвагу зачапіла вестка, што жыхары аднаго раёна «прынялі пастанову пра арганізацыю *адзінай раённай камуны»*. Думаючы, якая гэта будзе камуна, Апейка чуў, як Хандогі на поўны голас заяў-ляў, што яны ў акрузе не могуць «абслужыць гэты шпаркі рух калектывізацыі агранамічнымі сіламі і не маюць адкуль іх узяць».

— Перад намі стаіць другое пытанне, па якім мы пакуль не маем ясных указанняў ▪ боку НКЗ,— рынуў Хандогі далей без перадыху.— Куды дзяваць наша ку-лацтва?!. Мы ведаем адно, што кулацтва нельга пус-каць у калгасы, і мы яго не пускаем! Але з другога бо-ку, як я ўжо сказаў, амаль што цэлы раён калектыві-зуецца!..

Галадзед, павярнуўшы галаву да трыбуны, упэўне-на перабіў яго, параіў: — На балота высяляць.

— У нас і балот свабодных няма! — адразу, з за-палам адказаў Хандогі, пазіраючы ўсё ў залу.

Галадзед прамаўчаў. Нахіліўся над сталом, стаў нешта пісаць.

— Значыць, нам трэба высяляць кулакоў. Зараз жа,— для таго, каб мы маглі своечасова землеўпарад-каваць гэту тэрыторыю, дзе ствараюцца калгасы. Але запасных зямельных фондаў у нас няма, і ў той жа час пакідаць кулака сярод той тэрыторыі, дзе арганізуец-ца калгас, немэтазгодна. Высяляць кулакоў на паасоб-ныя пасёлкі — гэта значыць аб'ектыўна з неарганіза-ваных кулакоў насаджваць арганізаваныя контррэва-люцыйныя арганізацыі. Мы не можам на гэта пайсці!.. Так што ў такім важным пытанні мы павінны мець яс-ныя ўказанні.

Калі Чарвякоў аб'явіў, што слова мае таварыш Ка-рась, Анісся першы момант не паверыла, што гэта — ёй.

Недаверліва зірнула на Апейку, і толькі калі ён вачыма паказаў у бок прэзідыума: трэба ісці,— захапалася папраўляць жакецік, важкавата ўзнялася. Працісквалася к праходу нясмела, збянтэжана, але між радоў пайшла ўжо, здавалася, цвёрда, упэўнена. Калі яна стала за трыбуну, то яе мала было і відаць, Апейка нібы ўпершыню ўбачыў, якая яна дробная, нявідная.

Яна, здалося, доўга маўчала. Не ведала, з чаго пачаць, не магла супакоіцца. Падрыхтаваную паперку не даставала: згубіла ці — забылася пра яе. Апейка не зводзіў воч з яе,— хваляваўся сам, хацеў падбадзёрыць, памагчы. Яна, шукаючы, пабегла вачыма па зале, знайшла яго. Ён падбадзёрліва кіўнуў ёй: смялей трэба! — яна адарвала позірк і пачала, без паперкі:

— Цяпер от таварышы рабочыя кажуць...— што ў іх няма жыроў, няма добрых кватэр. І польтаў не хапае. То таго няма, то етаго не хапае... І ето ўсе адтаго, што наша сельская гаспадарка слабая... От першая наша задача — штоб падняць сельскую гаспадарку. Зрабіць калектывізацыю...— Яна гаварыла мякка, раздумліва, нібы разважала ўголас.— Трэба, штоб рабочыя звярнулі ўвагу на сяло, на калектывізацыю,— падумала яна ўголас. Разважліва стала развіваць думку: — Бо калі мы пастроім сталоўкі, як тут казалі, а там не будзе мяса і хлеба, то сталоўка будзе стаяць, і ў ёй не будзе чаго абедаць. Калі мы пастроім добрыя дамы ў горадзе, там таксамо трэба будзе, штоб було што есці. І от я думаю, што мы павінны асабліва падумаць, штоб падняць сельскую гаспадарку...— Памаўчала і дадала разумна: — А без падняцця прамысловасці мы яе, канешне, не паднімем.— Апейка з радасцю кіўнуў ёй, думкаю пахваліў: малайчына.

Анісся зноў трохі маўчала; не шукала вачыма Апейку, глядзела кудысьці над радамі, разважала сама з сабою.

— От тут я чула, як таварыш Галадзед дакладваў, што вялікі здзвіг е ў калектывізацыі.— У голасе яе паявілася, заўважыў Апейка, нешта новае, не мяккае.— Праўда, багато арганізавалася калекціваў. Я бачыла, што таварыш Галадзед етаму рады,— а так жа і ўсё кіраўніцтва. Але справа не толькі ў колькасці,— усё цвярдзеў яе голас,— але і ў якасці калекціваў.— Яна

не тое што параіла,— наказала: — Не трэба спяшыць, штоб нарабіць іх вялікую колькасць.

Апейка чуў, што зала ўся прыціхла. Галадзед у цішыні спакойна, цвёрда заявіў:

— Не, гэта не так.

Яна, гледзячы ўсё ў залу, упэўнена, упарта павяла сваё:

— Трэба, штоб яны былі добрыя, штоб людзі не разбягаліся з калекціву.— Па зале прайшло хваляванне.— Вельмі мало ў каторых сёлах аб'ясняецца, штоб сяляне знаді, што такое калекціў,— дакарала, судзіла яна,— штоб яны ішлі туды з ахвотаю. Штоб селянін цёмны сам бачыў, што толькі калекціў вывядзе яго з бяды. Трэба дабівацца, штоб нашыя калекцівы булі добрыя. Штоб калекціў не разлазіўся, штоб ён другім паказваў добры прыклад. І тады калекцівы будуць арганізоўвацца амаль што самі.

Галадзед штосьці дзелавіта запісваў. Анісся неспакойна перавязала вузялок хусткі, папраўіла жакецік.

— Я хачу сказаць шчэ пра віцінараў,— амаль тым жа тонам загаварыла яна.— Папярэдні чалавек казаў пра ето, і вельмі правільно. Калі ў нас няма віцінараў, то скаціна можа і захварэць і падохнуць, а па-другое, мы самі можам захварэць ад скаціны. Папярэдні чалавек казаў, што багато кароў хварэе сухотамі. Я сама магу сказаць, што ў нашым саўгасе каровы захварэлі сухотамі, дак іх узялі на лячэнне. А хто знае, што ў сялян каровы не сухотныя? А цераз малако хвароба можа перадацца ўсім... Трэба шчэ паглядзець на сялянак, бо ўсе прадукты ідуць цераз рукі жанок. Наша сялянка цёмная, яна шчэ мало знае, як культурно карову падаіць і як свінню выкарміць. Куды яе можно і куды не можно пушчаць. Таму свіння ў сяле есць тое, што не трэба, і ў ёй заводзіцца трыхіна. І ето ўсе ідзе рабочым, і рабочы не знае, што есць сало з трыхінаю!.. Трэба, кеб сялянка була граматнай і культурнаю!.. І от я шчэ хочу сказаць сваю думку пра тое, што ў нас няма навучання па сельскай гаспадарцы. У нас е пачатковая школа, патом сямігодкі і розныя тэхнікумы, а такой асаблівай навукі па сельскай гаспадарцы для тых, хто робіць, няма. І от трэба було б адчыніць такія школы, штоб і сяляне і калхознікі вучыліся. Бо раней яны вучыцца не маглі. А вучыцца трэба і нам!..

Яна сышла расчырванелая, уся яшчэ поўная хвалявання. Ужо за яе спіной устаў Чарвякоў, аб'явіў, што ранішняе пасяджэнне канчаецца. Апейка стаў чакаць Анісю ў праходзе, яна памкнулася да яго ўзрадаваная.

— Ой, мабуць, нагаварыла я? — зіркнула Анісяна яго, ледзь пайшлі.

Апейка супакоіў.

— У цэлым — добра «нагаварыла». Талкова.

— Як пабачыла, сколькі глядзіць народу, дак сэрца бы зайшлося! Забула ўсе!..— У вачах былі і перажыты страх і радасць.— Не помню, як і пачала!.. А патом якась смялей стало.

— Да таго, што нават са старшынёй СНК у спрэчку ўступіла!

— Аге! Я хіба хацела?..

У вестыбюлі іх чакаў Башлыкоў. Анісяі яму павінавацілася: ой, мабыць, нагаварыла. Башлыкоў адвёў вочы.

— Асобныя думкі былі правільныя. Але тое, што вы, па сутнасці, выказаліся супраць нашых тэмпаў, вядома, падтрымаць нельга.

— Ну от, я казала!

— Слухаючы вас, можна было падумаць,— Башлыкоў зірнуў на Апейку, нібы чакаў згоды,— што ў нас няма растлумачальнай работы. Што мы — не турбуемся пра якасць калгасаў...

— Я казала, не трэба було мне паручаць!

— Адна рэч,— нібы не чуў Башлыкоў,— выступленне дома, сярод сваіх. Дзе ўсім вядома сапраўднае становішча, а другая — на сесіі. Дзе ты ўжо выступаеш ад імя раёна, перад рэспублікай. «Маленькая» розніца!.. У прынцыпе — трэба было гаварыць тое, што падрыхтавана было, абмеркавана!..

— Па-мойму, яна і так сказала талкова,— заступіўся за Анісю Апейка.

Анісяшчыра прызналася Башлыкову:

— Я, як выйшла, усё забыла! Усё пайшло іначай!

Башлыкоў прамаўчаў ёй, уважліва ўгледзеўся ў Апейку.

— Тут, відаць, Іван Анісімавіч даў накірунак,— пранікліва прамовіў ён.— Вельмі знаёмыя некаторыя ўстаноўкі.

— Ну, гэта ты дарэмна,— нахмурыўся Апейка.—

І на выступленне дарэмна нападаеш. Выступленне — разумнае. І з фактычнага боку, і — з палітычнага,— з націскам сказаў ён апошняе слова.

За абедзенным сталом Анісся то знарок смяялася, то шчыра трывожылася: нагаварыла! Добра, што Башлыкова пазвалі знаёмыя, і ён абедаў за другім сталом: Апейка вясёлымі жартамі падвясельваў чулага прамоўцу. Ды і сяброўка яе памагала: ну, калі б і не так нешта сказала, ёсць бедаваць чаго! Толькі таго і гора!..

Анісі давялося яшчэ пачырванець пад самы канец вячэрняга пасяджэння, калі дакладчык выйшаў да трыбуны з заключным словам.

— Некаторыя таварышы, выступаўшыя ў спрэчках,— казаў Галадзед,— пры цэлым шэрагу правільных з іх боку заўваг у сваіх прамовах дапусцілі і шэраг прынцыповых памылак... Кой-хто з выступаўшых прамоўцаў спрабаваў так паставіць пытанне, што трэба наперад адбудаваць сельскую гаспадарку, а тады будзе лепш развіваць і прамысловасць. Адна сялянка тут сказала, што калі мы пабудуем спачатку сельскую гаспадарку, то ў нас будзе і мяса, і масла, і г. д., што мы зможам гэтыя прадукты вывозіць за межы, атрымоўваць грошы, за якія можна будаваць добрыя кватэры і г. д. Такая пастаноўка пытання прынцыпова няправільная. Камуністычная партыя зусім выразна і правільна паставіла пытанне, што толькі на базе высокай тэхнікі і культуры, на базе машынізацыі сельскай гаспадаркі можна мець сапраўдны яе ўздым...

— От, я знала! — ціха прамовіла Анісся. Апейка пацісну́ў ёй руку, супакоіў. У думках запярэчыў Галадзеду: «Дык хіба ж яна супраць гэтага выступала! Яна казала ж, што для таго, каб хутка расла прамысловасць, трэба, каб і сельская гаспадарка не была ў заняпадзе. Добра вялася. Правільна казала!»

— Таварышы, трэба мець на ўвазе,— вучыў Галадзед,— што нават і пры «жырнай» сельскай гаспадарцы і пры шырока разгорнутай лёгкай прамысловасці, калі ў нас не будзе буйной машыннай індустрыі, мы рызыкуем ператварыцца ў добрую калонію індустрыяльных дзяржаў. У гэтым асноўнае пытанне...

З большасці спрэчак, якія тут праходзілі па майму дакладу,— заканчваў Галадзед,— відаць, што калектывізацыя сельскай гаспадаркі БССР знаходзіцца ўжо на

такой ступені, калі пры ўсіх спробах кулака дэзарганізаваць беднату і серадняка, якія імкнуцца ў калектыў... мы бачым... што ўжо самі беднякі і серадцякі пачынаюць агітаваць друг друга за калектывізацыю. Мы чулі з гэтай трыбуны, што іменна самі сяляне і сялянкі кажуць, што калектывізацыя — гэта адзіны шлях уздыму сельскай гаспадаркі БССР... І вось, іменна ўлічваючы гэта, я і паставіў у сваім дакладзе пытанне рабром аб тым, каб да канца 1930 года ўдзесяцярыць колькасць калгасаў і плошчу пад імі. Гэта задача цяжкая, але мы павінны яе не толькі паставіць, але і вырашыць. Чаго б гэта нам ні каштавала!..

3

Усе дні былі запоўнены пасяджэннямі. Пасяджэнні былі раніцай, былі ўвечары. На ранішнія спяшаліся ледзь развідняла, з вячэрніх прыходзілі позням вечарам. Пасля дзённых клопатаў вячэралі голасна, доўга; доўга не маглі ўгаманіцца.

Апейку да позняй ночы не спалася. Упоцемку, радкаватым ад святла з вуліцы, яшчэ нібы сядзеў на сесіі; успамінаў пачутае, абдумваў-ацэньваў выступленні, меркаванні прамоўцаў. Асабліва ўважліва разбіраў ён у думках даклад аб калектывізацыі, з якім выступаў нарком земляробства Рачыцкі.

Чым больш у ціхім поцемку ночы Апейка ўдумваўся ва ўсё, што чуў днём у дакладзе, тым больш мацнела двоістае ўражанне ад яго. Нарком даволі стрымана гаварыў пра поспехі і праўдзіва казаў пра цяжкасці, якія перашкаджаюць разгортваць калгасы. «Нядрэнна было б мець пару тысяч трактароў да вясны — для падмацавання таго калгаснага руху, які мы маем, аднак спадзявацца на атрыманне ў бліжэйшыя гады той колькасці трактароў і машын, якая нам патрэбна, не прыходзіцца...» Рачыцкі не таіў, што вельмі мала ёсць спецыялістаў для калгасаў, разумна дадаў, што спецыялісты, якія патрэбны, павінны мець асаблівую падрыхтоўку для працы ў агромністых гаспадарках. Патрэба ў спецыялістах, сказаў ён, перавышае ранейшыя планавыя разлікі *самае меншае ў дзесяць разоў*! «Гэтае пытанне нам вырашыць не пад сілу,— адкрыта дакладваў ён,— і на бліжэйшыя гады мы ў гэтых адно-

сінах будзем мець вялікія цяжкасці...» Услед за гэтым, сціскаючы рукамі край трыбуны, лабата набычыўшыся, амаль не варушачыся, Рачыцкі абураўся: «Ёсць спробы запужаць, што арганізацыйна і тэхнічна мы не будзем здольны абслужыць таго калгаснага руху, які маецца зараз і які нарастае ўсё з большай сілай, не сумеем гэты рух прыстасаваць да нашай арганізацыйнай здольнасці, тэхнічнай узброенасці і фінансавай магчымасці. Такія настроі, па-мойму, надта шкодныя і іх трэба з усёй рашучасцю, з усёй сілай выбіваць!..»

Рачыцкі нібыта шчыра гаварыў: «Мы маем шэраг выпадкаў, калі калгасны рух пераліваецца за межы ўплыву асобных звенняў савецкага апарату і праходзіць часта без належнага арганізацыйнага кіраўніцтва савецкіх установ». Хто-хто, а Рачыцкі добра ведаў, што рух гэты не быў такі стыхійны і «не пераліваўся» сам сабою; што на арганізацыю яго даводзілася нямала траціць сілы!

Рачыцкі загадзя аб'яўляў, што калгасы не атрымаюць належнай тэхнікі і што грашовая дапамога будзе недастатковая. «Наша галоўнейшая задача на бліжэйшы час,— гаварыў ён,— гэта... мабілізаваць усе рэсурсы, якія маюцца ў самога сялянства, і цалкам накіраваць іх на сацыялістычную рэканструкцыю ў сельскай гаспадарцы». І тады, у зале, і асабліва потым, уночы, калі нанава перабіраў усё, тачыла Апейку трывожнае: і спецыялістаў для калгасаў амаль няма, і тэхнікі мала, а быццам грэх — лічыцца з гэтым; адно імкненне над усім: абы хутчэй, пабольш сабраць! Нявесела было на душы, калі згадваў, як Рачыцкі, зазначыўшы, што частка калгасаў «засмечана кулацка нэпманскім элементам», заявіў, што нібыта праз гэта «калгасы ўхіляюцца ад здачы лішкаў прадуктаў і сыравіны, не выконваюць дагавораў па кантрактацыі».

Рачыцкі заявіў, што трэба весці рашучую барацьбу з такімі «ілжэкалгасамі»; тымі калгасамі, якім, думалася Апейку, можа найбольш патрэбна цярплівая ўвага, разумная дапамога! Ці яму, наркому земляробства, не было вядома, што гэтыя «ілжэкалгасы» часта не выконвалі дагавораў таму, што ледзь станавіліся на ногі!

Адным сказам нарком зазначыў, што асаблівую ўвагу грамадскасці трэба звярнуць на падрыхтоўку калгасаў да веснавой сельскагаспадарчай кампаніі.

«Кампаніі», якая багата для каго была першай, незвычайнай вясной!

Багата думаў Апейка пра тое, што казаў у садакладзе Тарасенка, старшыня Клімавіцкага райвыканкома. Клімавіцкія былі героямі сесіі: іх хвалілі, па іх заклікалі раўняцца; Апейка слухаў гэта з недавер'ем — кожны раз ажывала, нагадвалася тое, што бачыў і чуў у Жлобіне. Тарасенка стаў за трыбунай незвычайна для героя сціпла — у старэнькім пінжаку з цёмнай сарочкай, з клопатным круглым ілбом, дзелавіта сабраны. І загаварыў сціпла, дзелавіта — фактамі, лічбамі. Не таячыся, адкрыта загаварыў пра цяжкасці, пра сумненні, пра непаладкі. Разумна сказаў, што арганізоўваць калгасы з раздробленых гаспадарак — гэта зусім не тое, што ствараць іх на абшарніцкіх землях, як было раней. Зазначыў, што былі таварышы, якія наогул сумняваліся, што можна стварыць добрыя калектывы «ў нашых умовах са старымі традыцыямі зямельнай палітыкі». Не таіў, што нават не ўсе члены партыі адразу і лёгка паверылі ў калгасы. Што «цвёрдай сцяной» сталі на калгаснай дарозе жанчыны.

Вабіла яго манера гаварыць: гэта быў нібы не садаклад, а гутарка відавочца, які глухаватым голасам проста, адкрыта расказваў усё, што бачыў, што рабілася перад яго вачыма. Але ён быў не толькі добры апавядальнік, а і ўдумлівы, разумны чалавек,— Апейка пераконваўся ў гэтым чым далей, тым больш. Узяць хоць бы тое, што ён асабліва вылучыў думку, што арганізаваць калгас багата лягчэй, чым замацаваць, наладзіць яго. «Асабліва мы цяжка адчувалі сябе пры складанні ўнутранага распарадку калгаса,— казаў ён спакойна, разважліва.— Гэта ж не калгас, які аб'ядноўвае якіх-небудзь пяць — сем двароў. Гэта калгас, які мае шэсцьсот рабочых рук, гэта, што называецца, добрая фабрыка. Ім неабходна даць кожнаму работу, і трэба, каб гэтая работа была прадукцыйная. Трэба, каб яны не шаталіся па полі або па кутках, а каб яны працавалі... Прыкладаў у нас не было нідзе. Нідзе не было такіх планаў унутранага распарадку... Бюро раённага камітэта партыі прыйшлося ператварыцца ў Калгассаюз. Мы сядзелі і самі пісалі, прыдумвалі, якім чынам пабудаваць унутраны распарадак. Так і склалі распарадак, якім карыстаюцца і цяпер...»

Ён не маляваў ідылічнай карціны: на той зямлі, пра якую расказваў ён, не было амаль тэхнікі: удалося дабіцца двух трактараў, тады як трэба іх, нямаланебагата — пяцьдзесят. І не таіў, што людзі — было такое — падавалі заявы, каб выйсці з калгаса. І што была пагроза, што калгас распадзецца. Можа быць, толькі цвёрдая воля раённага кіраўніцтва ўтрымала калгас: зразу ж правялі сход і выключылі з калгаса некалькі найбольш заможных. Выключылі, «падняўшы хадайніцтва перасяліць іх у іншае месца на землі запаснога фонду». У другім сельсавеце «амаль цэлая арганізацыя» заявіла, што нізашто не пойдзе ў калгасы. Тарасенка адкрыта сказаў: «І што вы думаеце — прыйшлося біцца з гэтаю часткаю доўгі час. І толькі калі адвялі добры вучастак для калектыву, уся вёска пайшла ў калгас». Ён не хаваў, што ў раёне ёсць «досыць нездаровыя моманты» — сяляне распрадаюць маёмасць. Вельмі мала аграномаў, мала хат-чытален... Калі ён сказаў гэта, нарком перабіў яго: чытальні самім будаваць трэба! — Тарасенка загарэўся: «Як гэта можна!..» — Ён загаварыў голасна, з абурэннем: — Вы дайце ім хоць першы ўраджай зняць! У іх сродкаў няма!..» Пазней ён яшчэ раз з папрокам заявіў: «Трэба замацаваць калектывы! А іх можна замацаваць не толькі гутаркамі і рэзалюцыямі! А — канкрэтнай дапамогай!..»

Ён сказаў і больш, і лепш, як іншыя. І ўсё ж, успамінаючы, перабіраючы яго садаклад, Апейка адчуваў, што казаў ён не ўсё разумна. І ён амаль усе перашкоды бачыў у стараннях кулакоў, ён як бы не верыў у значэнне таго, пра што сам жа гаварыў: што самае цяжкае і важнае — гэта арганізаваць людзей па-новаму, наладзіць добра гаспадарку; пераканаць селяніна, ад якога ў калгаснай справе будзе ўсё залежаць. З выступлення Тарасенкі выходзіла, што ледзь не ўсе тыя, хто не хацеў ісці ў калгас, гэта кулакі ці, ва ўсякім разе, падгавораныя імі. Не толькі з таго, што чуў у Жлобіне, але і з выступлення бачыў Апейка, што сяляне на Клімаўшчыне — не ўсе, вядома, але, відаць, многія — былі ў калгасах не з добрай ахвоты, а ад страху высялення на «запасныя землі». Ад страху залічэння ў кулакі ці падкулачнікі. Можна было думаць, што перасялена там на запасныя землі ўжо нямала.

«Не, там, мабыць, не асабліва давалі часу сялянам думаць...»

Згадвалася: у перапынку, у гаманлівым вестыбюлі, Апейка загаварыў з Тарасенкам пра жлобінскую сустрэчу. Тарасенка ведаў не толькі Ярашчука, але і барадатага. «Ярашчук, канешне, напрасткі лезе. Не ўмее выбіраць сцежкі. Без падыходу чалавек...— казаў Тарасенка, дымячы люлечкай.— Я казаў яму гэта. Але што зробіш: чаго няма, таго няма. А людзей на сяло трэба, усіх, каго можна, падабралі. Работы багата! От і Ярашчук патрэбен. Без Ярашчука не абыдзешся... Ды ён і не зломак, разаб'ецца, а зробіць... А от гэты — Кузьма, барада гэтая,— згадаў Тарасенка,— гэта — тып! Усё сяло каламуціў! Не кулак, а горш кулака! Так што дзіва, што Ярашчуку дапякло! Мне самому дапякло!.. Разумна зрабіў, што з'ехаў!.. У час выкруціўся!..» — Апейка і тады ў вестыбюлі, і потым, успамінаючы, адчуваў, што гаворка гэта была непрыемная Тарасенку: недарма ж, ледзь падышлі знаёмыя, загаварыў пра іншае; падаўся з імі...

Не адступала, вярэдзіла Апейку ў цішы ночы тое, што гаварылі прамоўцы пасля Тарасенкі. Яго адкрытасць на трыбуне падахвоціла людзей на шчырасць: амаль увесь час білася ў выступленнях жывое, турботнае жыццё. Адзін казаў, што ў радзе калгасаў зроблена толькі фармальнае абагульненне маёмасці і сродкаў, што сяляне не спадзяюцца ў цвёрдасць калгаснага грунту. Другі заяўляў, што нельга дабіцца інтэнсіфікацыі сельскай гаспадаркі без мінеральных угнаенняў; трывожыў, што мінеральных угнаенняў калгасам будзе вельмі мала і што дырэктывы аб будаўніцтве завода мінеральных угнаенняў не выконваюцца. Старшыня калгаса з Пухавіцкага раёна паскардзіўся, што з-за таго, што няма машын, «як працавалі трохполкай, так і працуем. Калі ж мы ў калектывах будзем працаваць трохполкай, які толк будзе?!.» На тое, што няма машын, скардзіліся багата хто: машын не было ў большасці нават такіх калгасаў, якія жывуць ужо па дватры гады. Прамоўца з Полаччыны шчыра дакладваў, што ў калгасах няма цвікоў, няма пастромак, хамутоў: «На сотню коней ёсць дваццаць хамутоў,— бо іх нельга купіць, бо сыравіны няма. Добра, што ў нас лаза ёсць, дык мы з лазы зрабілі. А ў некаторых калекты-

вах можа і лазы няма».— Ён казаў [redacted] болем, [redacted] гневам: — «Усе таварышы астанаўліваліся толькі на трактарах. Толькі думалі, што адзін недахоп, калі трактара мы не маем... Як мы машынамі забяспечапы?!. Калі, напрыклад, у калектыве ёсць малацілка, а ў ёй зламалася шасцяронка, то купіце, калі ласка, новую малацілку! Бо няма чым замяніць зломленую частку. Калі мы прасілі лемяшы, то нам не прыслалі ні аднаго лемяша, а прыслалі — плугі!..— Голас яго ўсё званчэў, усё гарачэў, ён, шчыра бядуючы, ужо нібы вінаваціў кагосьці: — Калі паглядзець, які калектывы атрымліваюць даход,— дык — ніякага!.. Усе сродкі ідуць на пабудову!.. У калектыве ў нас часта ёсць босыя і голыя! Крэдытаваннем яны не забяспечваюцца! Мы атрымалі на ўвесь калектыў чатыры пары падошвы! А дзе нацельная бялізна, а дзе ніткі! Якімі мы павінны абшывацца! Калектыву няма на сённяшні дзень на што пашыць адзежы!!.»

Пасля такіх галасоў Апейку няёмка было згадваць спрэчкі пра тое, дзе будаваць агракамбінаты, аграгіганты; дамаганні, каб да трох раёнаў агракамбіната далучыць яшчэ чацвёрты. Між неспакою гэтых галасоў памяць трымала іншае: як Аксючыц з Міншчыны [redacted] філасофскай глыбакадумнасцю разважаў і тлумачыў, чым шкодныя гаворкі пра тое, што тэмпы калектывізацыі вялікія і што іх трэба зменшыць. «Ці можам мы так ставіць пытанне? — пытаўся ён пафасна, акідваючы залу позіркам. Пачакаўшы момант, адказаў сам жа: — Калі б мы сабе паставілі пытанне аб тым, каб гэтыя тэмпы зменшыць, то гэта значыла б паставіць пытанне аб тым, што трэба... нашу класавую барацьбу на вёсцы зменшыць!.. Так ставіць пытанне мы не можам. Гэта пастаноўка пытання не наша!» Апейка мімаволі падумаў з іроніяй: «Мудрэц!»

Адзін прамоўца, расказаўшы, колькі давялося патраціць і часу, і сілы, каб дабіцца звычайнай сіласарэзкі,— ехаць аж у Мінск, са старшынёй акруговай РСІ,— заявіў трывожна: «Калі ў далейшым мы будзем адчуваць такую слабую дапамогу, мы не зможам належным тэмпам развіваць справу сельскай гаспадаркі». Вельмі разумна сказаў ён: «Справа калектывізацыі на сённяшні дзень з'яўляецца яшчэ новай справай... Мне здаецца, мы павінны гэтыя самыя калгасы

выхоўваць, як малых дзяцей, каб яны лепш узмацняліся...» Яшчэ большую, шырэйшую трывогу пачуў Апейка ў выступленні старшыні акружнога выканкома з Магілёўшчыны Малашонка: «Нам заўсёды здавалася,— павольна, басавіта гуў Малашонак,— што мы зрабіць суцэльную калектывізацыю ў Клімавіцкім раёне зможам за кошт сродкаў, якія маюцца ў нашым распараджэнні. Але... мы павінны былі пераканацца ў тым, што справа калектывізацыі нават аднаго раёна... явілася непасільнай для нашых акруговых устаноў».

Як і даклад, з супярэчлівымі пачуццямі ўспамінаў Апейка заключнае слова Рачыцкага. Адказваючы прамоўцам, што турбаваліся пра кадры, пра тэхніку для калгасаў, прызнаўшы, што «пытанне аб кадрах з'яўляецца самым адказным», Рачыцкі цвёрда заявіў: «Існуючая сетка навучальных устаноў, нават калі яна і будзе некалькі пашырана, не зможа вырашыць тых задач, якія мы сабе ставім, і не зможа на працягу двух год папоўніць склад кадраў з ніжэйшай і сярэдняй адукацыяй. І нават (на працягу) — трох гадоў».

«Другое пытанне, якое заняло досыць вялікае месца ў спрэчках,— казаў Рачыцкі,— гэта тэхнічная ўзброенасць. Гэтае пытанне таксама на працягу двухтрох год і нават у канцы пяцігодкі цалкам не будзе вырашана ў такім аб'ёме, у якім патрэбна».

Ён гаварыў мерна, выразна, як чалавек, які ведае і тое, пра што гаворыць, і тое, як трэба ўсё ацэньваць. Гэтае веданне, адкрытасць выклікалі павагу да яго. Неспадзяваным зноў было, што тым жа тонам ён заявіў пад канец: «Сёння на сесіі як быццам не было чутно аб такой пастаноўцы пытання, што, калі мы не маем тэхнікі, не маем патрэбных кадраў, добрага арганізацыйнага апарату, трэба нам устрымацца з калектывізацыяй. Не чутно было аб гэтым. Відаць, такі настрой пераламіўся ўжо жыццём, сапраўднасцю, якую мы маем. Тыя таварышы, якія аб гэтым гаварылі, ужо ўсвядомілі, што гэтае пытанне не з'яўляецца рашаючым».

Апейка быў згодны: калектывізацыю трэба разгортваць, як толькі можна. Але развагі яго ўпарта тачыла сумненне: усё ж нашто было казаць так, нібы ні тэхніка, ні кадры, ні арганізацыйны апарат нічога не

значаць, нічога не рашаюць. Нібы і не абавязкова лічыцца з рэальнымі магчымасцямі. Нашто такое легкадумства? Апейка не разумеў гэтага. Не мог зразумець.

## 4

Адчуванне шырыні і супярэчлівасці жыцця не давала Апейку спакою ўвесь час: і калі абмяркоўвалі бюджэт, і калі абгаворвалі даклад пра чыстку савецкага апарату. Асабліва багата было гарачых выступленняў, калі ішлі спрэчкі пра бюджэт. Людзі з усіх краёў — найбольш жанчыны — неслі к трыбуне бяду сваіх вёсак, родных людзей, якія паслалі іх сюды ў сталічную залу, наказалі ім. Прасілі сродкаў на бальніцы, школы, крамы, дзіцячыя яслі, хаты-чытальні, лазні; прасілі настаўнікаў, дактароў, дакладчыкаў; прасілі лякарствы, апал, святло. Скардзіліся, што мучыць бездараж, што мала кніжак для дзяцей, што не хапае газы, ботаў, адзення, махоркі. Зямляк з Мазыра вельмі разумна гаварыў пра тое, што зарастаюць вакол Прыпяці рэкі і сплаўныя каналы; прасіў грошай на рэгуляванне рэк, даказваў, што неабходна пашырыць меліярацыю, якая дасць багата ўрадлівых зямель...

Розныя, нязлагадныя думкі засталіся ў Апейкі ад даклада намесніка наркома РСІ Рыскіна.

Рыскін, вельмі зграбны ў акуратнай гімнасцёрцы, зграбны ў рухах, спакойна, разумна растлумачыў, чаму неабходна чыстка дзяржаўнага апарату і чаму ёй дадзена такая ўвага. Ён адразу ж заявіў, што дзяржаўны апарат у асноўным складаецца з адданых справе сацыялістычнага будаўніцтва работнікаў. Услед за гэтым тым жа лёгкім тонам, але сур'ёзна, дзелавіта сказаў ён, што побач з адданымі людзьмі працуюць і значныя кадры такіх, якія шкодзяць сацыялістычнаму будаўніцтву.

«Нарэшце, мы маем,— энергічна вёў ён далей,— катэгорыю, нешматлікую, паасобныя адзінкі, у якіх, бясспрэчна, маецца прытупленне камуністычнай пільнасці, людзей, якія згубілі рэвалюцыйнае «чуццё»; такіх людзей, якія не бачаць, што робіцца вакол іх, не могуць ахапіць усіх гэтых складаных задач, людзей, якія паддаюцца ўплыву класава варожых нам сіл». Рыскін заявіў, што «месцамі назіраецца агіднейшае

скрыўленне класавай лініі, месцамі — поўнае разлажэнне...». Ён стаў абурана крытыкаваць Наркамзем, уся дзейнасць якога ішла на развіццё кулацкіх гаспадарак, насаджэнне хутароў, супроць калектывізацыі.

Строга судзіў Рыскін фінансавыя органы за няправільную лінію пры абкладанні служыцеляў рэлігійных культаў, недастатковую цвёрдасць пры спагнанні падаткаў з буйных прыватных гандляроў, з прыватнага сектару сялян. Аказалася, што ў рэспубліцы — у Мінску, Гомелі, Віцебску, Магілёве,— як і раней, дзейнічаюць яшчэ нямала буйных гандляроў, якія ўсяляк выкручваюцца ад падаткаў, ад фінансавага кантролю. Рыскін, вінавацячы, сказаў, што фінансавыя органы на дзяржаўны і каапэрацыйны сектар націскалі больш, як на прыватны, ён даводзіў гэта тым, што прыватны сектар мае большую суму нядоімкі. Рыскін вінаваціў, што выяўлена толькі каля двух працэнтаў кулацкіх гаспадарак, што багата выпадкаў, калі кулак залічваецца ў серадқякі.

З усяго гэтага Рыскін вывеў, што класавая лінія часта не вытрымліваецца,— з'ява недаравальная ва ўмовах нашага сацыялістычнага наступлення на варожыя элементы.

Рыскін паказаў некалькі прыкладаў таго, хто быў вычышчаны, зняты з пасад. Тут былі і бюракраты, і растратчыкі, і п'яніцы, і хабарнікі, і жулікі; усё гэта былі людзі, якіх належала гнаць. Апейку не спадабалася адно, што плён нялёгкай гэтай працы мераўся на працэнты: Рыскін крытыкаваў Пухавіцкі раён за тое, што там па першай катэгорыі — бюракраты — вычысцілі толькі 1,5 працэнта. «Здаецца,— сказаў Рыскін,— тут праца была зроблена няправільна, у бок недавыканання». Крытыкаваў дакладчык установу, у якой знялі толькі 0,4 прац. супрацоўнікаў — аднаго чалавека, тады як у Наркамземе вычышчана 9 працэнтаў! «Нібы па чыстцы трэба ставіць сабе нейкі план і выконваць яго»! — падумаў нязгодна Апейка. Разумна зазначыў Рыскін, што пры чыстцы больш стараліся выяўляць «былых» людзей, хоць і гэта трэба,— і мала давалі ўвагі людзям, якія шкодзілі сваёй дзейнасцю цяпер,— злосным бюракратам, што не зважаюць на сваё пралетарскае паходжанне і партыйную прыналежнасць...

У дакладзе было багата талковага, і тым больш чут-

на вылазіла ў ім неразумнае. З прыкладаў розных памылак Рыскін асабліва вылучыў рашэнне, што прынялі ў Гомелі ў акрфа; Рыскін чытаў яго гнеўна — як «недапусцімы факт»: «Прымаючы пад увагу спецыфічныя ўмовы работы ў акрфа,— Рыскін трымаў лісток у руцэ, кідаў у залу позіркі, нібы запрашаў далучыцца, падзяліць яго абурэнне.— Прымаючы пад увагу спецыфічныя ўмовы... і ўлічваючы магчымасць паступлення негрунтоўных матэрыялаў... а таксама паклёпаў на глебе асабістых разлікаў... сход заклікае камісію па чыстцы апарату — аднесціся да чысткі з асаблівай асцярогаю!..»

— Хіба ж гэта ёсць лозунг для развіцця самакрытыкі? — ■ гневам казаў Рыскін, апусціўшы лісток.— Гэта — лозунг, каб садзейнічаць камісіям па чыстцы ўскрываць гэтыя недахопы?.. Гэта ёсць апартуністычны лозунг, які замазвае класавую сутнасць. Лозунг, які, бясспрэчна, з'яўляецца тормазам, які можа звесці «на нет» усю працу па чыстцы савецкага апарату! Замест актыўнай дапамогі камісіям па чыстцы, яны хочуць заблытаць, не даць магчымасці ўскрыць усе недахопы свайго апарату!

Тут Апейка зноў згадаў Галенчыка. Зноў вастрэй пачуў неспакой, які за час дакладу то адступаў, знікаў, то вяртаўся, шчымеў назольна. «Як цяжка часам, аказваецца,— падумаў стомлена,— зразумець звычайныя рэчы!..»

З дня на дзень у зале было ўсё больш пустых крэслаў. Нямала дэлегатаў у час пасяджэнняў хадзілі ў весцыбюлі, гаманілі, курылі. Усё больш чулася стома. Найлепш адужвалі яе жанкі,— да апошняга дня, з раніцы да позняга вечара, сядзелі ціхія, уважлівыя, зрэдку адно перашэптваючыся пра нешта.

Увечары 26 лістапада былі прыняты рэзалюцыі па ўсіх пытаннях, і старшыня ЦВК Чарвякоў устаў за сталом, каб закончыць сесію. Ён сказаў, што заклік — калектывізаваць Беларусь за два-тры гады — не фантазія, а канкрэтнае заданне, якое вынікае з самога жыцця. Ён тут жа зазначыў, што вялікаю памылкаю будзе лічыць, што калектывізацыя — лёгкая справа.

— Справа калектывізацыі,— з увагай, згодна слухаў Апейка,— гэта справа перабудовы дзесяткаў і соцень тысяч сялянскіх гаспадарак. Гэта справа перавы-

хавання дзесяткаў і соцень тысяч — і мільёнаў — нашага сялянства. І таму гэта цяжкая справа...— Чарвякоў папрасіў адносіцца да гэтай справы, як да цяжкай і важнай,— вельмі сур'ёзна. Разумна перасцерагаў ён, што бюракратычна-фармальнымі адносінамі можна толькі сарваць калектывізацыю. Трэба, каб кожнае пытанне, раіў ён, было прапрацавана, каб яно было зразумелае для працоўных сялян, для мужчын і жанчын. Трэба, разумна турбаваўся ён, каб калектывізацыя з першых жа дзён станавілася на моцны, здаровы грунт.

— Перад намі можа паўстаць пытанне,— загаварыў ён, памаўчаўшы момант,— ці дапусціма насільственная калектывізацыя? — Апейка зацікавіўся.— Зразумелая рэч, што ў аснове калектывізацыя павінна праводзіцца на падставах добраахвотнага, свядомага жадання самога працоўнага сялянства... Аднак могуць быць выпадкі, калі не толькі магчыма, але і трэба падштурхнуць паасобных гаспадароў уваходзіць у калгасныя аб'яднанні. Мы не можам дапусціць,— усё цвярдзеў яго голас,— каб паасобныя гаспадаркі, ці з прычыны несвядомасці гаспадароў, ці з прычыны шкодных уплываў з боку варожых савецкай уладзе элементаў і г. д. і г. д.— разбурвалі нашы імкненні перабудаваць сельскую гаспадарку на сацыялістычных падставах. Большасць можа прымусіць меншасць пакарыцца, увайсці ў калектыў і падпарадкавацца калектыўнаму парадку працы і жыцця... Калі б мы ставілі пытанне інакш, то гэтым мы ставілі б усю справу пабудовы сацыялізма і на даным этапе ўсю справу сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі ў залежнасць ад адсталых, несвядомых элементаў нашай вёскі.

Ён яшчэ раз паўтарыў пад канец, што трэба не толькі не стрымліваць тэмпы, якія былі дасюль, а яшчэ ўзмацняць іх. Беларусь па калектывізацыі павінна ісці ў першых радах, заявіў ён перад тым як аб'явіць, што сесія закончыла работу...

У гэты вечар, вярнуўшыся з развітальнай вячэры, Апейка стаяў трохі каля акна. Перад ім была цьмяна асветленая плошча з голымі дрэвамі, у акно біўся моцны вецер, з даху капала. Апейка чуў дзіўную стому: здалося, даўно-даўно ў Мінску, з радасцю думалася пра дарогу дадому. На плошчы жаўцела кругамі некалькі

ліхтароў, некалькі агнёў свяцілася наводдаль, у пройме між дамоў. Гледзячы на іх, Апейка падумаў раптам узрушана: колькі іх, агнёў,— не такіх, а з лучыны, з газы, з-пад саламяных стрэх — на поўнач, на поўдзень, на ўсход,— і ў кожнай хаце — роздум, недавер'е і вера, надзея і адчай. Вялікі, неабсяжны прастор — да Масквы, за Маскву, за Урал, за Сібір — у роздуме, у надзеі, у трывозе. У вялікім клопаце, небывалым паходзе. Убачыў нібы нанава Юравічы, свой раён — адна, дробная кропелька ў акіяне! Кропелька, але якой дарагой здалася яна. І ў кроплі свой свет і свая надзея!

Няхай трывога, няхай — пакута, боль, але наперадзе — добрае. Добрае жыццё. Пакуты для добрага — не паганыя пакуты. Усё ўрэшце прыйдзе к добраму. Гэта — галоўнае!..

## 5

Раніцай, перад ад'ездам, ён зноў зайшоў да Алеся. Сядзеў нядоўга: не было калі. Алесь адзеўся; разам ішлі па крывых і мокрых, пачарнелых завулках, коўзаліся на слізкіх сцежках. Сонца значылася не яркае, а жаўтлява-цьмянае, затуленае мутнай смугою. Усё неба было нейкім вільготным, туманным. Алесь маўчаў, ступаў панура: усё ў яго жыцці было, як і раней, няясным...

— Жыццё ёсць жыццё,— сказаў Апейка.— Усялякае можа быць... Гэтае-то высветліцца скора, я ўпэўнены!.. Але потым — спакою не будзе! Усякага пабачыш, і бяду не адну, пэўне!.. І радасці будзе, і бяды! Такая штука — жыццё!.. Дак от,— прыпыніўся, як таварышу глянуў у вочы:— што ні будзе потым табе — ніколі не падай духам!.. Усякую справу робяць жывыя людзі. Ёсць і ў нас і разумныя, і дурні. І нягоднікі ёсць. Заўсёды былі, і ў нас ёсць, як ні шкода... Але — ёсць народ, і ёсць партыя. У іх — наша сіла. З імі толькі мы чагосьці варты. Яны разбяруцца ва ўсім, папраўдзе. Не сягоння, дак заўтра, а разбяруцца! Трэба верыць!.. І яшчэ,— Апейку ўзяла іншая думка, задумаўся, як сказаць лепш.— Трэба жыць так, з такім настроем... што мы жывём у вялікі час... Цяжкі і няроўны, але — вялікі час...

На вакзале, перад трэцім званком, Апейка напомніў яму:

— Я табе, брат, не проста так сказаў. Помні: крута будзе — прыязджай. Уладзім. Ці настаўнікам, ці яшчэ кім.

— Пабачу,— думаў Алесь пра нешта сваё.

Апейка, нібы перадаючы сілу, моцна сціснуў яго руку. Не адразу адпусціў. Ужо з акна вагона, калі поезд крануўся і Алесь пачаў адплываць, штосьці пацягнула да яго. Заныла ўсярэдзіне — нядобрае, неспакойнае, трывожнае...

Грукалі, грукалі ўнізе колы, прыціхаючы адно на станцыях ды паўстанках. Тады грукат змянялі тупат і мітусня за вокнамі і ў праходзе, у вагон пачынала цягнуць холадам. Тупат і мітусня ўціхалі неўзабаве, і зноў перамаўляліся адно колы, і пад іх гонкую гаворку ішлі і ішлі ў памяці знаёмыя і незнаёмыя твары, нанава чуліся галасы, гоман. Быў нібы зноў у клубе імя Карла Маркса, у нядаўнім жывым хваляванні.

Як і там, у клубе і ў гасцінічным нумары, разам былі, мяняліся радасць, клопат, неспакой. Цешыла, уздымала неяк асабліва чутнае: пачынаецца, па-сапраўднаму! — шырыня прастору, які ўбачыўся вачавідкі, ва ўсёй сваёй агромністасці і нязвыклай мнагалюднасці. Цвярозы, практычны розум яго, што меў звычку перабіраць усё, высвятляць сам, адзначыў за мінулыя дні не адзін факт таго, што рабілася прадумана, сур'ёзна. Розум гэты нямала запомніў і такога, што варта было пераняць, скарыстаць. Помнячы, што дарога няпростая і будзе нялёгка, Апейка цяпер чуў сябе як бы мацней перад тым, што трэба было зрабіць. Разам з тым ён нібы больш рэальна, бліжэй чуў той свет, тую новую вёску, для якой жыў увесь час. Ад гэтага больш брала яго нецярплівае: хутчэй бы наблізіць, зрабіць...

Але між усяго гэтага, чым больш перабіраў у думках чутае на сесіі, даклады, выступленні, размовы, тым больш у тое, што цешыла, унізвалася клопатнае. Не адступала адчуванне: сур'ёзная размова заменена багата ў чым святочнай. Гэта, канешне, па-свойму прыгожа, прыемна; гэта таксама падымае людзей; але

падымае па-святочнаму, не для цярплівай і цяжкай работы. Мала мабілізуе людзей на сур'ёзную, упартую працу, якая так патрэбна для найвялікшага наступлення. Апейка бачыў, што к тым турботным фактам, якія пяклі, трывожылі многіх прамоўцаў з акруговых цэнтраў і вёсак, мала хто па-сапраўднаму прыслухоўваўся. Над усім было адно — тэмпы, хуткасць: любым спосабам хутчэй, раней за іншых. Клопат пра гэта быў такі вялікі, што не хацелі чуць трывожных разваг, лічыцца з навакольным. І што горш яшчэ, усялякую спробу агледзецца, разважыць гатовы былі ўзяць як знак няўстойлівасці, як гнілы настрой!..

Зноў на памяць прыходзіла тое, што было ў рэзалюцыі аб калектывізацыі Лістападаўскага пленума ЦК, і ён думаў, як небагата ў параўнанні з пленумам было дзелавітасці на сесіі; асабліва ў тых, хто кіраваў ёю. Проста цяжка было зразумець, як можна было абысці так многія важныя пункты, якія былі ў рэзалюцыі. Як можна было знізіць так асноўнае: сур'ёзны аналіз становішча, задач. Забыць фактычна папярэджанне пра недаацэнку цяжкасцей калгаснага руху, пра небяспеку фармальна-бюракратычнага падыходу...

Успомніў: «удзесяцярыць тэмпы!» — колы ўнізе, здавалася, выгруквалі таксама: «удзесяцярыць!.. удзесяцярыць!..» — і адчуў трывожна, што не ведае, як гэта ўдасца зрабіць. І не бачыў, што будзе, калі ўдасца зрабіць,— без аграномаў, тэхнікі, патрэбных кадраў. Трывога была шырокая: ведаў цяпер, што і іншыя не лепш гатовы! Падумаў, як гэты заклік падзейнічае на Башлыкова, на многіх раённых кіраўнікоў, якія і цяпер — чаго грэх таіць! — нярэдка дабіваюцца працэнтаў гразьбою ды прымусам! Нанава ўспомніў, што казаў Чарвякоў: ці можна дапусціць насільственную калектывізацыю? — і неспакой падужэў: як гэта можа падахвоціць некаторых!

Тэмпы!.. Хіба ён не разумее, што таптацца нельга! Хіба ён не разумее, што становішча патрабуе: трэба тэмпы! Але хіба ж тое трэба забываць: якая гэта няпростая, складаная справа — калгасы, і як важна рабіць яе сур'ёзна, добра. Вялікую, складаную справу і скалечыць лёгка, і загубіць! І людзей зняверыць! Як жа не лічыцца, таварыш Рачыцкі, з тым, ці ёсць змога, каб зрабіць з такім размахам, з такім тэмпам —

добра, надзейна! Не похапкам, а толкам! Гэта ж, да ўсяго, не гадавая якая-небудзь кампанія!.. Чаго ж вы так лёгка «гатовы» перакрыць тэмпы, якія зацвердзіў ЦК партыі!..

«Няўжо я, праўда, не разумею чагосьці,— як мне даказвае Башлыкоў. Няўжо ва мне ўсё гэта, праўда,— сялянская хісткасць, мужыцкая жаласлівасць? Правы ўхіл,— у прыхаванай развагамі «форме»?.. Ухіл не ўхіл,— а прышыць — могуць! Прышыць і «зрабіць вывады»!.. Чаго там — могуць зрабіць, рабілі ж ужо. Робяць — Галенчыкі!..» Пагрозным успомнілася тое, што жорстка абвясціў у першы вечар, здавалася, добры, разважны Чарвякоў: жыццё бязлітасна адкіне ўсіх, хто не зможа ісці нага ў нагу! Нібы папярэджанне сабе чуў Апейка...

Намаганнем волі разарваў навалач думак, стаў думаць пра жонку, дзяцей — як там яны? Засумаваліся па ім,— як і ён па хаце сваёй? Месяц, здаецца, не бачыўся. «Дадому, дадому!» — чулася, грукалі пад вагонам колы.

## РАЗДЗЕЛ ШОСТЫ

### 1

Той, хто хоча выбавіцца з бяды, хапаецца за саломіну. Шукаючы збавення, Ганна думкаю ўхапілася за, можна сказаць, незнаёмую дзяўчыну.

Усё ж была нейкая надзея на яе — можа параіць, куды пайсці, да каго падацца. У яе ж у Юравічах і ў Мазыры знаёмых, пэўне, багата.

Ганна ведала, што яна робіць настаўніцаю ў Глінішчах. Раз выпадкам сутыкнуліся тварам у твар — у алешніцкай краме; Параска аж бровы падняла здзіўлена і ўзрадавана: пазнала Ганну з аднаго позірку. Але Ганна вочы тады адвяла ўбок, не падала і знаку, што помніць, знарок схавалася ў натоўпе.

Чаму так абышлася з ёю тады, не сказала б і потым. Мо таму, што ўсё вельмі ж неспадзявана выйшла, мо таму, што казаць не было чаго добрага,— але, як бы там ні было, Ганна цяпер ад душы пашкадавала

аб сваёй няветлівасці. Думкі цяпер не раз і не два ішлі да Параскі.

Яшчэ тады дазналася Ганна ад Міканора, што Параска настаўнічае ў Глінішчах. Цяпер даведалася ад яго ж, што часта яна бывае і ў Алешніках, на сходах, у школе.

Тут Ганна і падпільнавала яе, калі тая выйшла на вуліцу. Ганне, праўда, не вельмі пашанцавала — з Параскай ішоў стары чалавек у світцы, з кніжкамі і сшыткамі, але яна падалася проста да дзяўчыны, паздаровалася.

— Не пазнаеш, можа? — сказала знарок весела, па-прыяцельску.

— Пазнала...— проста, прыязна адказала Параска.

— Даўно було...

— Даўно...

Прайшлі, памаўчалі. Ганна напомніла:

— Сабіраліся ў Курані к нам настаўнічаць!

— Сабіралася! Ды не давялося. Назначылі ў Бярозаўку. А цяпер от — у Глінішчы...

Толькі прайшлі вуліцу — на сцежку ў поле, як здагнаў Міканор. Ганна чакала, што ён збочыць, вернецца, але ён ішоў і ішоў, быццам нейкая варта. Ганна глядзела на яго з непрыхільнасцю — трэба ж, прыперся так не ў час.

І звычайна няўклюдны, ён цяпер — каля Параскі — здаваўся Ганне яшчэ больш няўклюдным, вялізным.

«Бы мядзведзь. А за кавалера буць хоча...» — падумала Ганна. Здагадвалася, сэрцам чула, што не так сабе Міканор сунецца побач тут.

То гаварылі абы пра што, то маўчалі. Дзень быў хмурнаваты, за жаўтлявым кужалем хмар значыўся немачны кружачок сонца, якое ніяк не магло прарвацца заліць дарогу, поле святлом. Таксама хмурна, няпэўна было і ў Ганны на душы...

— А я тады, у краме, падумала,— сказала Параска Ганне з вясёлай шчырасцю,— што — прызнаваць не хочаш мяне!

Ганна пачула сябе як вінаватая.

— Неспадзеўкі выйшло ўсё!.. Ды і — можна сказаць — забула ўжэ!..

— Нядоўга былі разам. І столькі часу мінула!

— Багато!.. Як на том свеце було!..

— Я ўспамінала цябе. Гадала, як табе замужам.

Ганна пачула ў Парасчыных словах пытанне, нахмурылася.

— Чаго там гадаць...— толькі і сказала.

З усіх гэтых праводзін засталіся ў памяці непрыхільнасць да Міканора і чуццё няпэўнасці, недагаворанасці, якое ўвесь час жыло ўсярэдзіне. Чуццё гэта памацнела, калі развіталіся, калі з Міканорам падалася назад. Быццам і не было поруч Міканора, ішлі, жылі кожны сваім настроем, сваімі думкамі. Заўважыла толькі мелькам, што ён вельмі ўсхваляваны, засмяяцца гатоў, закрычаць з нейкай радасці. Дыбае, як бы сп'янелы. Ён не засмяяўся, не закрычаў, пільна зірнуўшы на яе, неспадзеўкі запытаў:

— Праўда ето, што Яўхім б'е цябе?

Яна недавольна варухнула брывамі, памаўчала. Быццам зазлавала на яго за пытанне.

— Праўда — няпраўда,— якое каму дзело?!

— Нам да ўсяго дзело! — важна аб'явіў ён. Дзелавіта дадаў:— Савецкая ўлада — не сакрэт — судзіць за ето!.. Хочаш, скажу яму?

— Не хочу! — адрэзала яна. Цвёрда, непахісна.

Міканор здзівіўся:

— Чаму ето?

— Таму.

— А ўсё-такі — чаму?

— Таму... Няпраўда ўсё!.. Напляліі!..

Ён, чула Ганна, не паверыў. Глядзеў на яе, як бы не разумеў. Ганна нядобра кінула яму:

— Ты ето ці не ўхаджваць за Параскай надумаў?

Міканор збянтэжыўся. Ад неспадзеўкі не адразу знайшоў, што сказаць.

— Выдумала!..

— І я кажу — выдумалі!

Ля сяла яны разышліся: Міканор падаўся вуліцаю, а Ганна па загуменню. Але прайшла яна па загуменню небагата: так не хацелася бачыць цяпер Карчоў, што, мінуўшы ўжо, вярнулася на колішняе сваё селішча, падалася к роднай хаце.

Мачыхі дома не было: не трэба таіцца, выдумляць нешта! Прытуліла пяшчотна Хведзьку, які вырэзваў

нейкія цацкі на дручку, з пяшчотай пагладзіла рудаватую галоўку. Той пачакаў быў цярпліва, з надзеяй, зірнуў на Ганну, як бы пытаючыся; яна зразумела яго позірк, вінавата пашкадавала — няма!

Няма гасцінца! Не крыўдуй, не зразу сюды прыйшла. І не да таго мне цяпер, брацік! Села на лаўку, стала распытваць, дзе матка, дзе бацька, гаманіць абы аб чым; а сама думала: тут і астацца б, зусім не ісці б да Карчоў!..

Пайшла з хаты толькі тады, як вярнулася мачыха.

## 2

Яшчэ з двара прыкмеціла: свякруха за шыбаю, як коршак, віжуе, чакае. Знарок цвёрда, дужа ступіла на ганак, упэўнена ўзялася за клямку. Ледзь увайшла, Глушачыха ў момант абмацала ўсю вачыма, пранізала позіркам.

— Явілася!.. Думалі, прапала ўжэ!..

— Не, не прапала! Баяліся за нішто...

— Усе адно як не ў Алешнікі, а ў Юравічы хадзіла!

— Можа і ў Юравічы!

— Гайсала зноў немаведама дзе!

— Гайсала...

Добра, Яўхіма не было,— свякруха пабурчала, пабурчала злосна ды і вярнулася к сабе.

Што б ні рабіла, Ганна ўспамінала сустрэчу, праводзіны. Думкі не толькі не ціхлі з часам, а чапляліся, кружылі ўсё мацней. Тое, што жыло недзе глыбока, як крынічка пад багнаю, ад думак ахвоча дужэла, выбівалася напаверх.

Як мне замужам, гадала... Сама не заўважыла, калі стала гаварыць з дзяўчынаю... Як замужам... Няпраўду я казала табе тады, у Юравічах. Без любові і ў нас не можна. Як для каго, а для мяне жыццё без яе — не жыццё! Не жыццё гэта, калі не любіш, калі ў душы нянавісць адна! Гора гэта, пагібель, а не жыццё! Праўда твая была, твая! Дурная была я тады, не паслухалася, не аберэглася! А была ж любоў, была! Адна была, адна і асталася!.. Няма чаго таіцца, усе Курані цяпер знаюць! Чалавек, Яўхім, кожны вечар кулакамі напамінае!..

Была любоў... Як на здзек разышліся, разарваліся іх дарогі! Як вецер насенне з дрэваў, раскідала няскладнае жыццё іх на розныя палосы; на розных палосах пусцілі карэнне, раздзяліліся, можа, навек — нявіднай, але страхотна чутнай мяжою. У яго цяпер — свая моцная прывязка: жонка, хата, гаспадарка... Не адарвецца... Што будзе, як далей пойдзе яе доля — мабыць, і бог не скажа... Што рабіць, ніяк да толку не дабярэшся!..

Схамянулася: чаму не сказала Парасцы гэтага, калі ішлі, калі яна пыталася? Яна ж не так сабе кінула: «гадала, як табе замужам!» Я ж пачула гэта адразу. Але паказала, што не зразумела, прамовіла нешта, абы перамаўчаць. Канешне, такога не можна было пры сведках расказаць, але — каб хацела — ці ж не магла б ад Міканора адасобіцца як-небудзь? Не гэта перашкодзіла... Не захацела паказваць боль свой, стаілася. А чаму ж і не стаіцца — хто мне Параска, калі бачыць праўду? Таварышка, прыяцелька?

А не прыяцелька, чаму ж я гавару ёй усё ў думках?.. Пустое гэта ўсё — гаварыць незнаёмай, лічы!.. Сама сабе пярэчыла: чаму ж — незнаёмай, калі бачыліся яшчэ тры гады таму? Калі яна не забыла, думала — як мне замужам? Калі яна такая разумная і такая — відаць жа — чулая, добрая?..

Зноў нібы гаварыла з Параскаю: каб ведала тады, што столькі бяды глынуць давядзецца! Каб загадзя ўбачыла ўсё — у пельку хутчэй кінулася б, чым дала б аброць такую на сябе надзець! Закаялася — ды позна: павянчаная, мужава жонка, нявольніца; хочаш не хочаш, а — цярпі, змогі няма, а цягні пакуту ды маўчы! І не скардзься, бо ад скарг тваіх — толку ніякага, ніхто не паможа! Толькі бацькава ласка ўцешыць калі; але ад яе і боль потым чуецца мацней, больш на волю душа рвецца!..

Ноччу, слухаючы п'янае Яўхімава хрыпенне, чуючы, як ныюць з мужавай ласкі рукі і плечы, Ганна думала з адчаем. І жыць далей так — няма сілы, і выбавіцца, вырвацца — невядома як! Не будзе ж у Куранях жыцця вольнага, не дасць Яўхім жыць адной! Звядзе са свету — і не перахрысціцца! Не знае ж хіба яго! Было б падацца куды, каб не бачыцца, не сустра-

кацца з ім! Толькі ж куды падасіся, калі далей кураневускіх агародаў свету, лічы, не бачыла!

«І ўсё адно — бачыла не бачыла, а — пайду! Хоць куды, а пайду! Пайду куды вочы глядзяць, чым прападаць так, гібець век! Знайду не знайду долю, а — пашукаю!..» Як тут было не ўспомніць зноў Параску: на каго ж яшчэ магла быць надзея! Тут жа так патрэбна была падтрымка, хоць бы парада! «Ты — парай, памажы хоць словам! Ты ж бачыла свет, ты ж — гарадская, вучаная! От і будзе твая навука мне! Твая грамата!..»

Так закарцела зноў пабачыцца: «Скажу ўсё чыста! Не буду таіць нічога! Скажу ўсё! Няхай знае! Няхай параіць!..»

Але не сказала ні ў другую сустрэчу, ні ў трэцюю. І не таму, што Міканор замінаў. Кожны раз, калі ішлі разам, чула Ганна, што не можа паказаць Парасцы бяду сваю. Не тое што, каб не верыла ёй, але кожны раз чула ўсё ж між сабой і Параскай нейкую мяжу, якую не можна было пераступіць з бядою, не рызыкуючы гонарам. Гонар жа гэты быў трывожны, насцярожаны: усё гатоў быў перацярпець, толькі не сваё прыніжэнне...

Нават у той раз, калі яны былі з Параскаю блізкія, як ніколі, калі Ганна нібы вельмі рашуча адарвала Параску ад мужчын-спадарожнікаў, шчырая гаворка між Ганнай і Параскаю пайшла не адразу. Доўга ішлі моўчкі. Параска не пыталася нічога, нават не глядзела на Ганну, цярпліва чакала гаворкі,— а Ганна слова прамовіць не магла.

Ужо недалёка былі глінішчанскія могілкі — пад нізкім, хмурным небам дрэвы тырчалі таксама хмурныя, голыя. Невясёла сівеў выган, схаладнела, нярадасна туліўся чэзлы алешнік і бярэзнік на ўзболатку. Такая нярадасць, пастыласць былі ўсюды. Так цяжка было пачаць, расшчапіць сціснутыя бядою губы, узяць з душы, з болю, якім гарэла ўсё ўсярэдзіне, словы. Выціснула глуха, хрыпата, з адчаем, з рашучасцю:

— Не магу болей!..

Параска толькі зірнула пільным, шчырым позіркам. Нібы мерала глыбіню.

— Кончыць сябе хачу!

Хоць не глядзела на Параску, заўважыла, як трывога, спачуванне хмаркай прайшлі па яе твары. У грудзях запякло яшчэ мацней.

— Бы звяры! Поедам ядзяць!..

Адтаго, што ўсярэдзіне так пякло, гаварыць было цяжка. Словы то нібы прарываліся, то застравалі ў горле.

— Думала ўсё — перацярплю!.. Не магу!.. Няма маёй сілы!..

Трохі ішлі моўчкі. Парасчына рука лагодна, чула легла на Ганніна плячо. Ішлі ўжо, як сяброўкі.

— А нашто — цярпець? — сказала Параска.— Ён — любіць?..

— Любіць! — Ганніны губы злосна скрывіліся.— Любіць!.. Як грушу! Вытрасе скора душу!

Зноў ішлі моўчкі. Ганна глядзела нязводна кудысьці наперад, але не бачыла нічога. Вочы былі сухія, гарачыя.

— Дык чаго ж ты? — зноў нібы запыталася, нібы папракнула Параска. Не зусім упэўнена дадала: — Хто цябе... трымае?

— Хто?! — Ганна стрымалася, сказала спакайней, як бы з павучэннем.— Не знаеш ты ўсяго! Па-свойму, па-гарадскому, думаеш!..

— Не па-гарадскому, па-нашаму, па-жаночаму,— зразумець хачу!..— запярэчыла Параска.— Жыць з чалавекам, не любячы яго, гэта, я так лічу, усё роўна што не жыць! А жыць — ненавідзячы — гэта ж... не ведаю, як і назваць!.. Гэта ж — катарга!

— А не катарга, думаеш!

— Катарга — дык нашто ж усё жыццё пакутаваць на ёй! За кару якую! Ці ты — прывязана навек?

— А хіба — не? Не прывязана?!. Ды калі б не прывязана була, стала б я цярпець усё?!. У мяне цяпер — можа — толькі і думкі, як вырвацца!.. Начэй не сплю, думаю! Днямі толькі і жыву етым! Толькі і думаю, куды падацца!.. За чым абараніцца!.. За саломінку ўхапіцца гатова! Цябе от пабачыла, месца знайсці не магла! «А можа — параіць што?!» Хоць знала сама, якая твая парада будзе!..

Вострыя, з-пад чорных шырокіх броваў Парасчыны вочы зірнулі дапытліва:

— Што ж цябе трымае?

— Што!.. Ён, мой суджаны, знаеш які! Сякерай галаву расколе і не перахрысціцца!..

— Грaзіўся?

— Усяляк было! Суджаны ў мяне — такі! Не сумнявайся!.. Не здрыганецца рука!.. Тут — да ўсяго — дак шчэ — любоў! Любіць, каб яго зямля не насіла!.. Жонцы сваёй мілай — разлучніцы — дак расколе галаву з радасцю! Не тое што так, з нявыкруткі!..

— Я скажу яму! Судом пагражу!.. Расстрэлам!

Ганна ў адказ на Парасчыны словы толькі пакруціла галавой: як з дзіцячай выдумкі.

— Шабету папрашу, каб папярэдзіў! А трэба будзе — дык і Харчаву скажу!

— Будзе таму Харчаву ахвота важдацца! Тут і Шабета пакуль прыедзе, дак астынеш у крыві! Ды і баіцца ён Шабету! Яму што Шабета, што наш Хведзька — адзін страх! — Ганна дадала раздумліва: — Ды і кеб паслухаў ён покуль Шабету ці каго, дак усе адно ж жыцця не будзе! Кожны дзень думай, штоб не наткнуцца дзе на яго, век аглядайся, асцерагайся! У Куранях ухаваешся хіба дзе!.. Ён жа, калі і не прыдушыць адразу, дак дыхнуць вольно не дасць! Услед будзе лазіць усюды, цікаваць! Уся іх хэўра!.. Ганьба ж такая ім! Хіба ж яны прымірацца калі!..— Ганна разважыла: — Мо хіба — штоб далёка куды ўцекці! І на вока штоб не трапляцца!..

Параска раптам стала.

— Ведаеш, што я рашыла? — Ганна, якая таксама спынілася, убачыла ў чорных, як смародзіна, вачах радасць, рашучасць. Параска аб'явіла: — Пераходзь да мяне!

— Куды?

— У школу!

Ганна глядзела Парасцы ў вочы, нібы чакала ўбачыць яшчэ нешта.

Дзіўна стрыманым, нібы недаверлівым быў гэты яе позірк першы момант. Потым на Ганнін твар лёг роздум, цяжкі, строгі.

— Не дастане, думаеш, там? — сказала няцвёрда, нечакана квола.

— Не зробіць нічога! А паспрабуе — па руках дадзім!

— Смелая ты — на словах!..

— І ў жыцці — смеласці пазычаць не буду! Пабачыш — калі трэба будзе!

— Думаеш, уберагціся можна?

— Не сумнявайся!..

Ганна памаўчала, усё больш хвалюючыся. Яна, збоку было відаць — аж гарэла неспакоем.

— А што я там рабіць буду? — Пакпіла нібы: — Дзяцей вучыць?

— А як жа. Удваіх са мной.— Параска аж сумелася, як пільна лавіла Ганна яе словы; схамянулася, стала гаварыць сур'ёзна, дзелавіта: — Дзяцей і я павучу. А ты — памагаць будзеш, чым можаш. Прыбіраць школу пасля заняткаў, гатаваць... Ведаеш, мне столькі клопату з заняткамі, што проста няма калі варыць, пражыць. Ды і, калі сказаць шчыра, не вельмі і выходзіць гэта. А ты ж, можа, умееш? — Параска зноў не ўтрывала, усміхнулася.

Ганна, як і раней, не адводзячы з яе ўсхваляваных, неспакойных вачэй, кіўнула галавой:

— На ето я вучоная...

У Ганне цяпер мітусілася, віравала цэлая бура нецярплівых, ліхаманкавых пачуццяў, разваг, думак. Радасці, разлікі, надзеі, трывогі — усё круцілася, віхурылася без упынку, без яснасці. Чуючы гэту буру, Ганна разам з тым лавіла кожнае Парасчына слова...

— Работы хопіць! Абы ахвота! — турбавала яе Параска.— Дзяцей у нас — ведаеш колькі? Сто семера! Як ні глядзі, а гразі за дзень нацягнуць — за галаву возьмешся! Праўда, мы завялі такі парадак: дзеці самі і прыбіраць павінны, і падлогу скрэбці! Але хіба адны зрабілі яны калі ўсё — як трэба! Два класы, калідор! Ды парты, ды дзверы, ды вокны!.. Работы, абы ахвота была! — Параска схапіла Ганну за локаць, сказала з захапленнем: — Увесну — агарод выштукуем! На зайздрасць усяму раёну!.. А?..

— Глядзі, кеб патом... не пашкадавала! — толькі сказала Ганна.

Параска зразумела, паклялася:

— І ты не пашкадуеш!..

3

Адразу на гэтым яны разышліся. Ганна падалася назад у Курані амаль не бегам. Ногі яе, здавалася, ледзь дакраналіся вымачанай дажджамі, схаладнелай зямлі; у руках, ва ўсім целе чула яна нецярплівую, радасную дужасць, нястрымнае імкненне.

Але не прайшла Ганна і паўвярсты, як раптам з бегу-лёту стала, азірнулася. Неспакойны позірк ляцеў ужо туды, з тугою, з нецярплівасцю лавіў далеч дарогі. Параскі не было відаць. Тырчалі адно сосны ды вербы на могілках.

Вецер біў у твар, у грудзі, і Ганна хілілася насустрач яму і хіліла галаву ўперад; вельмі было падобна, што яна намерылася кінуцца за Параскаю. Ад ветру вочы жмурыліся, і гэта яшчэ дадавала твару рашучасці.

«Куды я іду? Чаго іду?! — мітусіліся ў ёй думкі.— Бацьку сказаць? Нашто? Паможа хіба чым! Ці ўсцешыць ето яго? Прыйдзе час, дазнаецца пра ўсё!.. Скажаш зараз — шчэ да мачыхі дойдзе! Шуму-ляманту нагоніць!.. Дабро пайсці забраць? Шкода мне таго дабра цяпер! Што леташняга снегу! Хай яно згарыць, прападзе пропадам! Разам з Карчамі!.. Не, забраць трэба! Якое яно ні е, там — матчыны ж чаравікі! Штоб яны ў Карчоў прападалі!.. Ды і то — кохту хоць ды спадніцу чыстую б мець! Пераадзецца ў нешто ж трэба будзе!.. Забраць трэба!.. Мог бы, канешне, і бацько ўзяць! Але толькі і не хапае яму такого клопату! Вельмі рады будзе паказацца ён там, пасля ўсяго! Ды і вырвеш у іх патом!..»

Калі ішла к сялу, што нібы цікавала панурымі акенцамі, дварамі, стрэхамі хат і хлявоў, чула, як у грудзі паўзе і паўзе трывога. Трывога заныла і калі зірнула на родную хату, на купку чорных ігруш, на двор, па якім з хлява ішла мачыха. Трывога яшчэ памацнела, калі пайшла загуменнай дарогай, бліжэй і бліжэй да Карчоў.

«Трэба выбрацца так, кеб і не заўважыў ніхто. Штоб і падазрэння не було ніякаго... Канешне, штоб на дарозе ні старого не було б, ні Яўхіма. От, можа, зараз і зрабіць, Яўхім, пэўне, яшчэ не вярнуўся!.. Забраць матчыны чаравікі, андарак, кохту,— і ўсё. І нічога бо-

лей!.. І сысці хутчэй, нікому нічога не сказаўшы!.. Лесам сысці, штоб не бачыў ніхто! Штоб не ўчапіліся зразу!.. Патом, канешне, знайдуць! Але няхай патом грозяцца, калі не адна буду! Калі пад аховай, ■ Параскай!..»

«А прыбяжыць! Прыбяжыць жа! — падумала пра Яўхіма.— Не саступіць так! — У грудзі папоўз страх.— Прыляціць туды, як звер ашалелы! Што яму тая школа, што Параска!..— Супакоіла сябе: — Прыляціць — няхай прылятае! Няхай! Не вельмі ўкусіць!.. А і ўкусіць — усё адно! Усё адно ўжо цяпер!.. Горай не будзе!..»

Яна была ўжо на Глушаковай сядзібе. Вочы дзіўна чула лавілі ўсё, што праходзіла каля яе, адзначалі. Гумно зачынена, стары, мабыць, у свірне. Не, і ў свірне нікога; і хлявы зачынены. Яшчэ ад свірна выглядвала, хто на двары; каб Яўхім, не дай бог, не тырчаў ужо. Не прыпёрся не ў час.

Сцяпан пад павеццю калоў дровы, выпраставўся, глядзеў на яе. Яна нібы не заўважыла, нібы з заўсёдным спакоем прайшла міма. Каля хаты стары закопваў падпірку к слупу; слуп у зямлі згніў, і плот валіўся. Корч на момант адвярнуўся, трымаючы жалязняк, востра зіркнуў. Прамаўчаў.

Ганна цвёрда ступіла на свой ганак. Хацела адразу падацца на сваю палавіну, але тут выткнулася з вядром свякруха, пераняла:

— Дзе ето гайсала?

Ганна ледзь стрымалася, каб не адрэзаць у адказ з нянавісцю; але сцярпела: нашто заядацца, насцярожваць лішне!

— З Хведзькам дома пасядзела...

Не чакаючы, што скажа старая, узялася за клямку дзвярэй. Калі зачыніла іх, падумала: тырчаць, як сычы абое, бы назло! То тупала па пакоі, нібы штосьці робячы, то садзілася на ложак, то зноў усхоплівалася, тупала,— што б ні рабіла, неспакой, нецярплівасць не аціхалі ні на момант... З неспакоем, нецярплівасцю гэтымі, якія часам апаноўвалі так, што, здаецца, не было як ужо стрымлівацца, паглядвала на двор, на вуліцу, слухала, лавіла гукі з суседняга пакоя. Стары ўсё корпаўся ля слупка, свякруха не вярталася. Яшчэ трохі от так,— і — чаго добрага — суджаны ля варот

паявіцца, вернецца ў хату, а гэтыя тырчаць і тырчаць на дарозе!

Нецярплівасць раптам перайшла ў злосць, у рашучасць! Тырчаць, і — няхай тырчаць! Ці канешне асцерагацца іх, туляцца перад імі! Калі на тое, і Яўхіма яна не баіцца! І Яўхім не астановіць яе! Няма ў яе страху! Проста шуму, гаворкі лішняй не хацелася! Калі ж так — няхай тырчаць там сычы старыя! Пройдзе яна і так!.. Ганна разаслала на ложку хустку, паклала матчыны чаравікі, андарак, кофту. Пройдзе і так!

Пачула — хтосьці ўвайшоў у Карчовы сенцы, пазнала — старая. Выглянула ў акно — стары ўсё корпаўся пры плоце...

Старая нешта рабіла ў сенцах, перастаўляла, грымела начоўкамі, вядром.

Ужо калі завязвала моцным вузлом хустку-клунак, пабачыла — старога няма ўжо ля плота. Пачула — стукнула клямка, патупаў па сваёй палавіне. Апранаючы каптан, мімаволі слухала, лавіла — клямка раптам бразнула зноў. Стары падаўся некуды! Падбегла да акна: на двары не было, пазнала — ляпнула клямка ў веснічках. Паплёўся на вуліцу! Старая адна ў сенцах. Сенцы перагароджаны, але як толькі Ганна выйдзе ў іх, старая пачуе, вытаркнецца на ганак. Быць іншага не можа! Уздыме лямант на ўсё сяло!.. Няхай уздыме!.. І ўсё ж момант чакала, як бы набіралася духу. Перавязала нанава клунак...

Вось жа шчасце: старая ўвайшла ў хату, пашаргала па падлозе. Сціхла. Палезла — здагадалася Ганна — на печ! Падрамаць захацела, карыстаючыся тым, што стары сышоў!.. Учула праз забітыя дзверы важкае сапенне...

На дарозе к гумну, к лесу, толькі Сцяпан! Але Сцяпан — не страшыць. Дарога к гумну амаль вольная!.. Пачула, як часта, быццам падганяючы, закалацілася сэрца.

Можа, удала зусім абыдзецца ўсё. Ганна асцярожна, стараючыся не стукаць, не рыпець падлогай, пайшла праз пакой. Краем увагі адзначыла: на палавіне старых было ціха. Старая адно сапла. Чуючы, як сэрца калоціцца ўсё часцей, усё весялей, як уся становіцца незвычайна імклівая, лёгкая, ступіла на ганак.

У той жа момант замерла: на двор праз веснічкі ўваходзіў Яўхім. За варотамі быў конь, і Яўхім, мабыць, ішоў адчыніць вароты. Яна пачула, як адразу пацяжэла ўсё ў ёй, аж нагам стала нядобра; але адолела гэты свой цяжар. Важка сышла з ганка, падалася дваром к хлявам, к гумну. Не думала, не разважала нічога. Не было чаго думаць. Толькі чакала.

Ён, мабыць, трохі сачыў услед, не мог зразумець, што да чаго. Але варот не адчыняў, сачыў, значыцца. Потым за некалькі шырокіх скачкоў падляцеў да яе, пераняў. Стаў наперадзе: твар у твар.

— Куды?

Так, абы не маўчаць, яна адказала:

— От... схаджу... Праведаю сваіх...

— А ето?

Ён пацягнуў клунак, хацеў паглядзець, што там.

— Ето — не тваё...

— Дай!

— Не тваё, кажу!

Ён тузануў за клунак, з клунка высунуўся чырвоны насок чаравіка.

— Ідзі ў хату,— загадаў Яўхім.

Яна не кранулася.

— Ідзі! Не ўводзь у гнеў.

Ганна хоць бы варухнулася.

— Чуеш?! — закрычаў Яўхім. Каля вачэй яго скура нядобра пачырванела.

— Не крычы! — Ціха, цвёрда яна прамовіла: — Не пайду!

— Не пойдзеш?..

Раптам голас яго заціх. Вочы пакруглелі, пранізліва востра закалолі яе. Калолі нязводна, няўхільна.

— А!..— дзіўна пракаўтнуў ён.

Толькі цяпер дайшло да яго ўсё. Губы яго скрывіліся, задрыжалі, ён на момант разгубіўся.

— От яно што!..

Ён памаўчаў. Штосьці быццам растала ў ім. Цішэй, мякчэй, нібы з вінаватасцю, сказаў ён:

— Ідзі ў хату!

— Не пайду.

Ён пачакаў, перапытаў, спадзеючыся яшчэ:

— Не пойдзеш?

— Не.

Зноў змоўк. Але тады, як маўчаў, проста ўвачавідкі — бачыла Ганна — мяняўся: цвярдзелі губы, халаднеў, налíваўся злосцю позірк.

От, было чаго хавацца, чакаць зручнага моманту! Лёс усё-такі звёў, паставіў твар у твар! Не ўхілішся! І — няма чаго ўхіляцца! І так доўга гнулася, баялася! Хопіць ужо!

— Ну от, усё! — сказала дзіўна спакойна. Ступіла, хацела пайсці.

— Усё?!

Ён хапіў яе за плячо. Рука была як жалезная, і позірк шалеў ад нянавісці. «Зараз — ударыць. Зараз...» — яна не дадумала, што можа быць зараз. Можа быць, зараз заб'е. Але дзіўна — страху не было... Усё адно! Чым так жыць...

— Пусці!

Мелькам заўважыла: ад павеці, набычыўшы галаву, важка ідзе Сцяпан.

— Усё?!! — Яўхім раптам ухапіў яе за шыю, дужа, з нянавісцю тузануў уніз, люта, са ўсёй сілы ўдарыў наском па назе. Ганна ледзь устаяла. У другі раз Яўхім ударыць не ўправіўся: на яго, як рысь, увесь падаўшыся ўперад, рынуўся Сцяпан, нецярплівымі рукамі рвануў ззаду за каўнер. Ірвануў так, што Яўхіму ў момант перахапіла, здушыла горла.

Яўхім крутнуўся, вырваўся, але Сцяпан рынуўся, насеў зноў.

— Пусці яе! — крыкнуў Яўхіму неяк віскліва, запалены. Яўхім прасіпеў з лютасцю, з пагрозай:

— Не суйся, смаркач!

— Пусці!!!

Яўхім кінуў Ганну, вырваўся, згарача даў кулаком Сцяпану ў скíвіцу — так, што той, ускінуўшы галаву, адляцеў к плоту. Момант які ляжаў, упіраючыся локцямі, нібы цямячы, потым ускочыў, плюючыся крывёю, з гразьбою кінуўся на Яўхіма зноў. І зноў паляцеў к плоту, ды так, што грукнуў аб штыкеціны патыліцаю.

— А-а! — закрычаў ён з болю, злосці, бяссілля.

Ускочыў зноў, намерыўся быў рынуцца к Яўхіму, няцямна выцер далонню рот, зірнуў на яе, убачыў кроў. У вачах яго, рахманых звычайна, паявілася лю-

тасць, штосьці звярына-глушакоўскае; поўны помслівага шалу, Сцяпан шыбануў к павеці.

Ганна, што была ўжо наводдаль, убачыла, як ён ухапіў ля дроў сякеру, трымаючы яе перад сабою, набычаны, нястрымны ў сляпой адвазе, важка, валка рушыў на Яўхіма.

Яўхім, гатовы ўжо кінуцца да Ганны, таксама ўбачыў Сцяпана. Трывожна, нават разгублена стаў. Ступіў некалькі крокаў назад.

— Ах ты, байструк!..— пагразіўся дзіўна няўпэўнена.

Чуючы, як халадзее ўсярэдзіне, бачачы ўвесь час Сцяпана, павёў вачыма поблізу: каб які-небудзь друк! Кінуўся раптам — пахапліва, як да адзінага ратунку, к плоту, штосілы рвануў штыкеціну.

— Сцяпанко!!! — уварваўся неспадзявана крык жаху. Глушачыха, узняўшы спуджана рукі, зляцела з ганка.

Выцягнуўшы рукі да іх, задыхаючыся ад страху і бегу, з раскудлачанымі на вятрываласамі, без хусткі, з лямантам кінулася да сыноў.

— Сцяпанко!!! Яўхімко! Божачко!.. Сцяпанко!!

Убегла, стала між абодвух, раскінула дрыготкія рукі, нібы аберагаючы аднаго ад другога.

— Сцяпанко! Яўхімко! — пераводзіла зжаханы позірк ад аднаго да другога.

Хутка спакайнела, вяртала моц сваю. З папрокам, загадваючы, выгаварыла абодвум:

— Пакруціліся!..— Яна падышла к Сцяпану, які стаў ужо нерашуча, узяла сякеру. Тады агледзелася на старэйшага, што трымаў штыкеціну.— Кінь! — крыкнула Яўхіму...

Ганна, што анямела, сачыла, чым скончыцца бойка Сцяпана з Яўхімам, як бы схамянулася. Скінула здранцвенне, подбегам пайшла з двара к свірну, к загуменню. Управілася яшчэ ўлавіць увагай, што на двор павалілі людзі...

Неўзабаве то подбегам, то бегам, раз-пораз ускідваючы клунак, які непаслухмяна з'язджаў з пляча, дабралася яна да лесу, пабегла мокраю сцежкаю. Там і тут яна асклізвалася на траве, раз упала, ступіўшы на слізкае карнявішча, выцялася моцна бокам, падрапала скроню аб нешта, але не стала і выціраццa.

Пайшла цішэй толькі тады, калі дабегла да балота. Далей сцежка павяла яе між чэзлага балотнага алешніку і бярэзніку. Вада тут не заўсёды перасыхала і летам, цяпер жа асеннія дажджы яшчэ падбавілі яе. Пад лапцямі спачатку ўгіналася ды хлюпала, потым ногі сталі ўжо раз-пораз правальвацца, усё часцей, усё глыбей; чорная ліпкая гразь, як халодным жалезам, абцяла голыя калені. Ісці хутка, без перадыху станавілася ўсё цяжэй: пачала зусім выбівацца з сілы. Сэрца аж заходзілася, ногі падгіналіся, рукі дрыжалі — вось-вось выпусцяць клунак.

Але не спынялася. Не магла спыніцца. Хоць знарок падалася па гэтай мала ходжанай сцежцы, напрасткі на Глінішчы, усё ўслухоўвалася, ці не чуваць ззаду хлюпання, трэску ламачча, ці не гоняцца ўслед.

Толькі як перабралася на другі бок балота, перадыхнула момант. Нібы гнаў хто, скора перайшла астравок, падалася зноў у гразь, у дрыгву. Вымаклая, знясіленая зусім, дабралася яшчэ да аднаго астраўка, ужо недалёка ад глінішчанскай грэблі. Удзень з гэтага астраўка былі добра відны вербы на глінішчанскіх могілках і нават крайнія стрэхі, але цяпер хутка цямнела. Недалёкая грэбля і тая ўжо толькі ўгадвалася.

У яе ледзь хапіла сілы, каб перабрацца цераз гэту рэшту балота. Часам думала, што ўжо і не выйдзе на сухое: так і ўпадзе ў твань, застыне.

Глінішчанская грэбелька здалася як цуд. Адкуль толькі сілы дадалося, калі пайшла па ёй, цераз масток, паўз пусты выган, паўз чорныя вербы могілак.

Падалася па загуменню. Пайшла тут не таму, што баялася трапляцца на людскія вочы,— не хацела зноў лезці ў гразь на вуліцы.

Школа была на другім канцы сяла, сярод вялікага абгароджанага пляцу. Ганна некалькі разоў бачыла яе зводдалеку, калі ехала паўз Глінішчы. Цяпер у школе было цёмна, толькі збоку, заўважыла Ганна, падыходзячы, яснела паска зямлі. Там, за рогам будынка, і праўда, свяцілася акно, завешанае белай фіранкай. Яна знайшла ўпоцемку ганак, ступіла на парог, пацягнула за клямку дзвярэй. Дзверы адчыніліся. У калідоры яна ўбачыла нітачку святла ўнізе, намацала яшчэ клямку.

Ганна адчыніла гэтыя дзверы і ўбачыла Параску, якая сядзела каля стала са сшыткамі.

— От і я...

Клунак выпаў з яе рук.

Толькі ўранку стала як бы прыходзіць у прытомнасць. Хоць і нібы праз туман, стала бачыць, чуць навакольнае.

Усё тут было нязвычна. І вокны вялікія, светлыя, і пляц шырокі за вокнамі, і выгляд балота іншы, як у Куранях. І дом сам быў такі вялікі, са столькімі дзвярыма і пакоямі, што дзіву можна было дацца. Пасярод дома ад ганка ішоў калідор, з якога ў адзін бок жаўцела двое дзвярэй, а ў другі трое. Двое дзвярэй, што налева, вялі ў два прасторныя пакоі, сярод якіх стаялі радамі чорныя, з карычневымі бакамі столікі для вучняў, стаялі на падстаўках чорныя з белаватымі языкамі ад крэйды дошкі. У адным з гэтых пакояў была шафа, поўная кніг і сшыткаў; у другім, на сцяне, вісела карціна з нейкімі зялёнымі і жоўтымі плямамі, з блакітнымі вілюжынамі. Карціна гэта чамусьці называлася картаю і нібы паказвала зямлю нашу, Беларусь...

З другога боку былі яшчэ тры пакоі, у большых з якіх жылі Параска і яшчэ адна настаўніца, Галіна Іванаўна, худая, кучаравая, мабыць, злая; пасярод гэтых двух пакояў ціснулася вузенькая кухня з печчу...

Ганна ледзь управілася з цёткай Агапай, што прыбягала раней кожны ранак сюды, выпаліць печы, як і двор, і калідор, і пакоі сталі поўніцца дзіцячымі галасамі. Дзеці так шумелі, што Галіна Іванаўна некалькі разоў выходзіла са свайго пакоя і крычала, каб сціхлі. Але сціхлі галасы надоўга толькі тады, калі адзвінеў званок і настаўніцы са сшыткамі і кніжкамі зніклі ў класах. Так было ўвесь дзень: дом то аціхаў, то поўніўся такім вірам гоману і крыкаў, што здавалася, як шыбкі трымаюцца. Як каму, а Ганне падабаўся гэты галас, гэтае кіпенне, ён весяліў, бадзёрыў яе. Калі пачыналіся заняткі і з-за дзвярэй класаў чутны былі адно ціхія галасы каго-небудзь з малых ці настаўніц, ёй хацелася крыкаў дзіцячых, іх весялосці.

Сярод гэтага нязвычнага жыцця Ганне больш верылася, што от і для яе пачынаецца інакшае, нязнанае, добрае жыццё. Гэта вера свяцілася ў душы, калі з ахвотай і ўдзячнасцю да Парасні мыла пакой, калі ўпраўлялася на кухні, калі з дзецьмі выцірала столікі, прыбірала пасля заняткаў...

Усё ж радасць і веру ледзь не ўвесь час хмарыла трывожнасць. Ці мыла падлогу, ці поралася на кухні, ці чула, як ціхнуць галасы ў калідоры і на двары, трывожна паглядвала на пляц, прыслухоўвалася да крокаў. Усё чакала: прыбяжыць Яўхім...

Ён прыбег на трэці дзень. Пад вечар, важкі, рашучы, уваліўся ў Парасчын пакой.

— Вам чаго? — пачула Ганна з кухні.

— Ганна — у вас?

Ганна пазнала: ён. Выведаў, знайшоў... Не здзівілася: каб ён ды не знайшоў, ды адступіўся так адразу!

— А вы — хто? — запыталася Параска.

— Чалавек я. Мужык яе, калі не знаеце!

— А! Цяпер знаю.— Параска гаварыла спакойна, аж дзіва.— Вы, мусіць, хочаце, каб яна вярнулася к вам? — Не дала яму сказаць, заявіла непахісна: — Дык я магу перадаць: яна да вас не вернецца!

— Вернецца ці не, ето маё дзело! — абрэзаў яе ён.

Ганна магла б не выходзіць. Але ёй было няёмка туліцца ў схоўцы, даваць такі клопат адной Парасцы, хавацца за чужой спіною.

Дзіўна, ніякай трывогі, ніякага страху не было, калі ўвайшла ў Парасчын пакой, яму на вочы.

— Чаго явіўся? — сказала яму жалезным голасам.

— Кваце́ру паглядзець захацелася! — Ён стаяў сярод пакоя, чырвоны ад ветру і злосці, у ботах, у падзёўцы, з пугаю ў руцэ. «На калёсах прыехаў...» — прайшло ў яе галаве.

— Кваце́ру жончыну паглядзець захацелася! — паўтарыў ён, выдзяляючы асабліва: «жончыну».

— Паглядзі...— У яе голасе, ва ўсёй паставе былі кплівасць, ганарыстасць.

— Бачу. Багато жывеш!..

— Непагано!

Ён павёў вачыма па пакоі, непрыхільна зіркнуў на Параску, важка пераступіў з нагі на нагу.

— Дак можа пара ўжэ кончыць ету камедзію! — сказаў раптам мякчэй, згаворліва.

— Дак я ўжэ кончыла.

Ён пранізаў яе позіркам.

— Ето ты цвёрдо, насаўсім?

— Хопіць ужэ. Паспытала шчасця!

— Ну, глядзі! — У яго голасе зноў пачулася пагроза.— Штоб не пакаялася!

— Ето ўжэ мой страх! Толькі не бойся — не пакаюся!

— Я покуль — па-добраму! — Ён, як раней, гразіўся, а толькі — чула Ганна — сам не ведаў, што рабіць далей; але не паказваў выгляду.

— А потым — што? Прымусіце? — заступілася за Ганну Параска.

— Ето ўжэ наша дзело — што! — Яўхім люта зіркнуў на Параску.— Вам бы, барышня, лепей не сунуць носа сюды!

— Вы ўламіліся ў мой пакой ды яшчэ смееце абражаць мяне!

— Не пужайце! А толькі — не раю лезці ў нашае дзело! — Ён зноў, ужо цвёрда, зірнуў на Ганну.— Сабірайся!

— Зараз жа пабягу! Падаждж'ы! — Ганна хоць бы варухнулася.

— Покуль не позно!

— Кончано ўсё. Значыць — позно не будзе!

— Ну, глядзі ж! — грозна сказаў ён. Хацеў ужо ісці, але затрымаўся. Чамусьці паведаміў: — Сцяпана бацько выгнаў. Не паяўляўся шчэ?

— Не...

— Паявіцца, канешне. У Юравічах бачылі ўжэ!..

Пастаяў, памаўчаў, раптам апаліў злосцю, нянавісцю:

— Ну, глядзі ж! Усё адно — без мяне табе не жыць! Знай!

Ён стукнуў дзвярыма, важка затупаў у калідоры.

Людзі хавалі мёртвых, біліся ў горы над імі; бедавалі пра любых сваіх, жаніліся з імі; людзі жалі і малацілі, снедалі і вячэралі. Да людзей ішлі нязвыклыя, нязведаныя перамены, якія павінны былі зрабіць усё такім, якім яно не было ніколі. Людзі жылі, як

і дзесяць, і сто гадоў, і жылі, як не жыў яшчэ ніхто, ніколі...

Даўняе і новае, дробнае і вялікае — усё было ў гэтым жыцці разам, злівалася, перамешвалася, лілося адной вірлівай, шырокай, няспыннай ракою...

У Куранях багата, па-рознаму гаварылі пра Ганнін учынак, пра Яўхіма, па-рознаму — з трывогай і зларадпасцю — гадалі, чым усё скончыцца. Гэтыя гаданні яшчэ пабольшалі, калі ў Куранях пайшлі чуткі, што Яўхім хадзіў у Глінішчы, гразіўся, што ёй без яго ўсё адно не жыць і што Ганна не толькі не збаялася, а насмяялася з яго. Сярод гаворак пра Ганну былі такія, што старыя, казалі, не помнілі, каб у Куранях калі-небудзь якая-небудзь жонка кідала чалавека, ды яшчэ такога, як Яўхім...

У адзін з гэтых дзён Васіль, які і радаваўся і трывожыўся за Ганну, выправіўся ў Юравічы. Нельга было так проста адступіцца ад нядаўняй несправядлівасці: Васіль не ўмеў адступацца, пакуль была хоць нейкая надзея,— карцела Васілю паспрабаваць знайсці заступку ў Апейкі. Ішоў ён у гэты сухі і халодны дзень ужо спакайней і не такой гарачай надзеяй: сплятаючыся з неспакойнымі, заваблівымі думкамі пра Ганну, таміла Васіля прадчуванне, што і Апейка наўрад ці заступіцца, паможа чым-небудзь. Але Васіль ішоў. І дайшоў, і дачакаўся, пакуль Апейка аднекуль не вярнуўся ў кабінет, і выгаварыў сваё набалелае, як мог. Хоць гаварыў ён ірвана, гарачымі, блытанымі словамі, Апейка ківаў яму, бачыў Васіль, разумеючы, шчыра спачуваючы. Потым ужо Васіль расчаравана адчуў, што Апейка зразумеў, чаго ён, Васіль, хоча, але не зразумеў, што Васілю баліць недарэмна, што такой трэнесправядлівасцю не можна мірыцца; што зямлю трэба вярнуць. Паслухаўшы зычліва і шчыра, Апейка стаў угаворваць Васіля ўступіць у калгас. Нібы згаварыўшыся з Міканорам, «пацешыў»: «Уступіш — будзе тваёй не толькі нікчэмная палоска, уся зямля. Самая лепшая зямля, якой адзін ты ніколі не меў бы!..»

Васіль выйшаў з будынка, узняўся глінянаю дарогай на гару з той жа цвёрдасцю, што з ім абышліся несправядліва і, што яшчэ горш,— справядлівасці няма ўжо адкуль чакаць. Раней была хоць якая надзея на Апейку, цяпер жа і такой, і няпэўнай, не было ні на

кога. «Будзе твая ўся — самая лепшая». Сказаў, парадуваў!.. Усіхняя — ето не твая... І як не чужая саўсім, а і не твая! Нічыя ето!..» — падумаў ён, прыпыніўшыся на гары, гледзячы на дарогу перад сабой, над якой віліся першыя белыя мухі. Ён так пашкадаваў, што не сказаў гэтай простай і яснай развагі Апейку, што яму раптам захацелася вярнуцца назад, дагаварыць...

Васіль пайшоў дадому. Пайшоў невясёлы, але і не з такой балючай роспаччу, як мінулы раз: нібы прывыкаў ужо да бяды. Быццам адчуваў ужо, што страчанага,— як ні кідайся, не вернеш: з воза ўпала — прапала,— трэба прымяркоўвацца да новага стану. Можа ж і на новай зямлі, калі папапяцца добра, дабіцца чаго-небудзь можна. Няхай не ўдосталь, але і з тою, перабіваючыся, пражыць неяк можна. А калі крута будзе, то і ў прыработкі якія-небудзь падацца...

І зырчала зноў у клопатнай маркоце неспакойная і заваблівая памяць пра Ганну: зноў нібы звала Ганна яго ў недаступны свет, і зноў здавалася — вось-вось Васіль разарве ўсё, што аблытала яго; прападзі яно пропадам,— і пойдзе, вольны, шчаслівы. Здавалася часам, нібы ён ужо вольны ідзе, не ў думках, а папраўдзе. Тады па цвёрдай, камякаватай дарозе ногі неслі весялей, лягчэй. І не чуў ужо халоднага ветру, што пранізваў зрэбныя штаны, што шыўся пад світу. І вочы нават цешылі гэтыя першыя, нясмелыя сняжынкі, што мітусліва прыхарошвалі зямлю блізка і ўдалечы, у якой ён угадваў купы дрэваў ля Глінішч, ля таго сяла, дзе была Ганна.

«Зіма пачынаецца. Зіма, як трэба...» Калі ішоў полем паўз Глінішчы, выбраў з няроўнага рада стрэх і дахаў гонтавы верх школы, ледзь стрымаў сябе, каб не збочыць. Не ведаў, як пасля ўсяго сустрэне Ганна, чуючы вялікую вінаватасць перад ёю, толькі ўсхвалявана, растрывожана глядзеў зводдалек. Павольна, няцвёрда ішоў ад сяла, нялёгка адольваў непаслухмянае жаданне, што спыняла, цягнула назад. Ужо за грэбляй, каля Куранёў, апанавала іншае: проста не мог глядзець на цагельню, на сваю паласу, здзеклівую чарнату якой падбельваў снег. Нават стаў, доўга, пацямнелы, стаяў, не гледзячы туды і не маючы сілы скрануцца. Пайшоў тады, калі ззаду, з Алешнікаў, стаў пад'язджаць хтосьці...

У той час, калі Васіль вяртаўся з мястэчка, Апейка ў тым кабінеце, дзе гаварыў з Васілём, чытаў і перачытваў надрукаваную на машынцы паперу. Папера была знешне падобна на ўсе іншыя паперы, якія прыходзілі старшыні райвыканкома; але даўно ні адну паперу не чытаў, не вывучаў Апейка з такім роздумам: на паперы было надрукавана рашэнне, якое дзяліла рэспубліку па тэмпах і тэрмінах калектывізацыі на некалькі зон. З гэтага рашэння раён быў уключаны ў зону, дзе калектывізацыю завяршыць поўнасцю трэба было ўжо не ў два-тры гады, а за вясну, можна лічыць, за тры месяцы. Апейка чытаў, неспакойна хадзіў па пакоі, не мог адолець трывогі, супярэчлівасці: тое, што яму здавалася празмерным у некаторых выступленнях, было ўжо рашэннем; а рашэнні ён павінен быў выконваць. Звыклы браць цяжар працы на свае плечы, адказваць за раён, за людзей, ён з прыкрасцю адчуваў, што задача гэта — проста непасільная, што гэта, як ён ні будзе старацца, не зробіць, бо зрабіць гэта немагчыма за такі час, пры тых умовах, якія былі вядомы яму з бясконцых паездак. Але рашэнне ёсць рашэнне, трэба было рабіць, што магчыма і — больш таго. І Апейка хадзіў з краю ў край пакоя, думаў, думаў...

З гэтага дня на змену імжы і макрэчы прываліли маразы. Скамянела гразь на дарогах, зацвярдзелі пацямнелыя балоты, скавала вясёлым лёдам канавы, копані. Васіль не памыліўся: лесам, балотамі, палямі ішла зіма. У Куранях сталі белымі, звонкімі раніцы, шэрымі, пякучымі ночы. У адзін з такіх звонкіх ранкаў Хоня пад'ехаў з вясёлай гаманою да Хадосьчынай хаты. Шумліва, з галасам каціла з вуліцы, праз грэблю, да царквы вясельная чарада, у якой на двух вазах сядзелі прыбраныя, заружавелыя маладыя — Хоня і Хадоська. Хадоська глядзела стрымана, сур'ёзна, як, лічыла яна, трэба было ў такі дзень; Хоня ж рагатаў, галёкаў: здалёк было відаць, як давольны сваёй удачы, сваёй долі.

1958, 1961—1965 гг.

ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ

*1. «П.», 64, №№ 1, 2 — часопіс «Полымя», 1964, №№ 1, 2.*

*2. «П.», 65, №№ 9—11 — часопіс «Полымя», 1965, №№ 9—11.*

*3. «П. н.», 66 — раман «Подых навальніцы». Мн., «Беларусь», 1966.*

*4. Зб. тв., т. VI, 71 — Збор твораў у шасці тамах, т. VI. Мн., «Беларусь», 1971.*

I

*У дадзены том уваходзіць другі раман з цыкла «Палеская хроніка» — «Подых навальніцы», які ствараўся на працягу 1958, 1961—1965 гг.*

*Упершыню пад назвай «Навальніца над полем» (частка першая, раздзелы 1—5) змешчаны ў часопісе «Полымя», 1964, №№ 1, 2; працяг (частка другая, раздзелы 1—5; частка трэцяя, раздзелы 1—6) пад назвай «Подых навальніцы» — у часопісе «Полымя», 1965, №№ 9—11.*

*Урыўкі з рамана друкаваліся на беларускай мове ў газетах і часопісах:*

*«Кончана ўсё тое...» у газ. «Літаратура і мастацтва», 1962, 28 жніўня; «Ёсць у яе радасць» у час. «Работніца і сялянка», 1963, № 2; «Няхай яно гарыць!» у час. «Беларусь», 1963, № 10; «Дарогі і людзі» ў газ. «Літаратура і мастацтва», 1964, 10 ліпеня; «Кіно ў Куранях» у газ. «Гомельская праўда», 1965, 4 красавіка.*

*Першае асобнае выданне рамана выйшла ў 1966 годзе. Подых навальніцы. Раман. З палескай хронікі. Мн., «Беларусь».*

*Апрача таго, на беларускай мове выйшлі наступныя выданні:*

*Подых навальніцы. Раман. З палескай хронікі. (Скарочана.) Мн., «Народная асвета», 1970.*

*Збор твораў у шасці тамах. Том VI. Подых навальніцы. Раман. З палескай хронікі. Мн., «Беларусь», 1971.*

*Подых навальніцы. Раман. З палескай хронікі. Мн., «Мастацкая літаратура», 1973.*

*Подых навальніцы. Раман. З палескай хронікі. Мн., «Народная асвета», 1979. (Школьная бібліятэка).*

*Друкуецца па тэксту апошняга прыжыццёвага выдання рамана «Подых навальніцы», 1973, з наступнымі праўкамі:*

*Стар. 24, радок 21: «У вачах, празрыстым, светлым і карым,» замест «У вачах, празрыстых, светлых і карых,» («П.», 64, № 1; «П. н.», 66)*

*Стар. 45, радок 30: «У адзін міг жаданае, блізкае стала далёкім,» замест «У адзін міг жаданне блізкае стала далёкім,» («П.», 64, № 1; «П. н.», 66; Зб. тв., т. VI, 71)*

*Стар. 54, радок 6: «павёз» замест «прывёз» («П.», 64, № 1; «П. н.», 66; Зб. тв., т. VI, 71)*

*Стар. 56, радок 27: «і спіш і не спіш,» замест «спіш і не спіш,» («П.», 64, № 1; «П. н.», 66; Зб. тв., т. VI, 71)*

*Стар. 72, радок 40: «прыбуў?» замест «прыбыў?» («П.», 64, № 1)*

*Стар. 101, радкі 17—18: «І ўсё ж, хоць чуў яе над сабою, чуў, што насоўваецца больш і больш,» замест «І ўсё ж, хоць чуў яе над сабою, што насоўваецца больш і больш,» («П.», 64, № 2; «П. н.», 66; Зб. тв., т. VI, 71)*

*Стар. 111, радок 20: «Цацкацца, можа, будуць з табой, прасіць-маліцы!..» замест «Цацкацца, можа, будуць з табой, маліцы!..» («П.», 64, № 2; «П. н.», 66; Зб. тв., т. VI, 71)*

*Стар. 118, радок 17: «согласно законаў савецкай улады,» замест «согласно закона ў савецкай улады,» («П.», 64, № 2; «П. н.», 66; Зб. тв., т. VI, 71)*

*Стар. 145, радок 13: «кіўнуў Хоню на палаці:» замест «кінуў Хоню на палаці:» («П.», 65, № 9; «П. н.», 66; Зб. тв., т. VI, 71)*

*Стар. 181, радок 19: «міма хат наводдаль і ветракоў» замест «міма хат, наводдаль ветракоў» («П.», 65, № 9)*

*Стар. 188, радкі 17—18: «яна жыве, як і раней, не толькі домам — » замест «яна жыве, як і раней, не толькі дома —» («П.», 65, № 9; «П. н.», 66; Зб. тв., т. VI, 71)*

*Стар. 197, радок 8: «Апейка пры нагодзе казаў ужо ўсё пра брата» замест «Апейка пры народзе казаў ужо ўсё пра брата» (рукапіс, машынапіс)*

*Стар. 209, радкі 1—2: «згадаўшы» замест «загадаўшы» («П.», 65, № 9; «П. н.», 66; Зб. тв., т. VI, 71)*

*Стар. 229, радок 11: «усю» замест «усё» («П.», 64, № 2; «П. н.», 66; Зб. тв., т. VI, 71)*

*Стар. 284, радок 29: «Непахісны, бязлітасны.» замест «Непахісна, бязлітасна.» («П.», 65, № 10; «П. н.», 66)*

*Стар. 293, радок 9: «безадказным» замест «бяздоказным» («П.», 65, № 10; «П. н.», 66; Зб. тв., т. VI, 71)*

*Стар. 315, радкі 33—34: «шкода было і Ганну,» замест «шкода было Ганну,» («П.», 65, № 10; «П. н.», 66; Зб. тв., т. VI, 71)*

*Стар. 321, радок 11: «То» замест «Што» («П.», 65, № 10; «П. н.», 66; Зб. тв., т. VI, 71)*

*Стар. 342, радок 32: «строга» замест «старога» («П.», 65, № 10; «П. н.», 66; Зб. тв., т. VI, 71)*

*Стар. 369, радок 17: «падбіраць» замест «паадбіраць» («П.», 65, № 10; «П. н.», 66)*

*Стар. 383, радок 1: «звыклі» замест «звыклыя» («П.», 65, № 11; «П. н.», 66; Зб. тв., т. VI, 71)*

*Стар. 394, радок 31: «кіўнуў» замест «кінуў» («П.», 65, № 11; «П. н.», 66)*

*Стар. 400, радок 32: «не паручыцца» замест «не парушыцца» («П.», 65, № 11; «П. н.», 66; Зб. тв., т. VI, 71)*

*Стар. 417, радкі 14—15: «Калі тут такое робіцца, а ён — хоць бы што!» замест «Калі тут такое робіцца, ён —хоць бы што!» («П.», 65, № 11; «П. н.», 66; Зб. тв., т. VI, 71)*

*Стар. 439, радок 15: «прыцярушаным» замест «пацярушаным» («П.», 65, № 11)*

*Стар. 445, радок 18: «усё перадала дачцэ сваё.» замест «усё перадала дачцэ сваёй.» («П.», 65, № 11)*

*Стар. 453, радок 4: «бязлітаснасцю» замест «бязлітасцю» («П.», 65, № 11; «П. н.», 66; Зб. тв., т. VI, 71)*

*Стар. 460, радок 6: «пяцігодку» замест «пяцігодкі» («П.», 65, № 11; «П. н.», 66; Зб. тв., т. VI, 71)*

*Стар. 467, радок 1: «на Апейку» замест «да Апейкі» («П.», 65, № 11)*

*Стар. 478, радкі 28—29: «Услед за гэтым, тым жа лёгкім тонам, але сур'ёзна,» замест «Услед за гэтым жа лёгкім тонам, але сур'ёзна,» («П.», 65, № 11; Зб. тв., т. VI, 71)*

*Стар. 485, радок 6: «даказвае» замест «паказвае» («П.», 65, № 11)*

*Стар. 496, радок 32: «забітыя» замест «абітыя» («П.», 65, № 11; «П. н.», 66; Зб. тв., т. VI, 71)*

## II

Крыніцамі для вызначэння дакладнага аўтарскага тэксту рамана, акрамя вышэйназваных выданняў, з'яўляюцца архіўныя матэрыялы, якія захоўваюцца ў сям'і пісьменніка:

I. Няпоўны рукапіс рамана «Подых навальніцы»: пачатак, урыўкі з сярэдзіны і старонка з датай заканчэння працы:

*27.VIII.65 г. 12 ч. 45. дня.*
*На дачы І. М.*

Старонкі рукапісу стандартныя і нестандартныя, напісаныя розным па колеру чарнілам, алоўкам. Праўкі таксама зроблены розным чарнілам. Кожны ўрывак мае сваю нумарацыю, але яна непаслядоўная. Нумарацыя раздзелаў і падраздзелаў у большасці выпадкаў не супадае з першадрукам.

У рукапісу многа правак. Ёсць прыклады шматслойнай праўкі, якія даюць уяўленне аб першапачатковай працы І. Мележа над раманам і гавораць аб тым, што мы маем справу з чарнавым рукапісам.

Напрыклад:

Ларывон: Каму ето ставіце хату? А, для Ганны!

— Якой Ганны?

— Якой! Што з Яўхімам жыве. Згаварыліся ж, што к Васілю пяройдзе.

— Ты што брэшаш? Не знаеш, што ў яго Маня...

— Маню ён выгане, кажуць...

— Хто... кажа?

— Усё сяло...

Пасля праўкі.

Ларывон: Доўго нешто ставіце хату.

Васіль: — А табе што?

— Мне — нічого. Ганна недавольна!

— Якая Ганна?

— Якая! Што жыць будзе ў етай хаце! Ну з якой Васіль любіцца!.. Згаварыліся ж, што к Васілю пяройдзе.

У часопісе:

...Прыдуркаваты Бугай Ларывон, дыбаючы сярод вуліцы — пудны і нечага злы, стаў супроць зруба, крыкнуў задзірыста:

— Доўга корпаецеся нешто!

— А табе — якое свінячае дзело? — адрэзаў з верху зруба Васіль.

— Мне-то — нічога,— Бугай раптам голасна і з радасцю — знайшоў пацеху! — на ўсю вуліцу аб'явіў: — Ганна — недавольна!

Васіль не чакаў гэтага. Ледзь не кінуўся ашалела са зруба, каб учапіцца ў Бугая,— але стрымаўся. Насцярожана сачыў, што будзе далей.

— Якая Ганна? — няцямна запытаў Пятро.

Бугай зарагатаў.

— Якая! Што жыць будзе ў етай хаце! Ну, з якой — любіцца! На гумне з якой па начах мілуецца! Калі жонка спіць!..

Прыкладам пошуку Мележам дакладнага слова, якое б лепш перадала сэнс зместу, могуць быць такія сказы:

...У гэтай паперы было надрукавана рашэнне пра тое, што іх раён павінен быць калектывізаваны ўжо не ў 2—3 гады, а/прыкладна — І. Мележам закрэслена/амаль // без малога // можна лічыць у // за тры месяцы.

Толькі сцяг увесь час няспынна і весела/варушыўся, развяваўся — І. Мележам закрэслена/ хадзіў пад лагодным палявым ветрам.

Ёсць у рукапісу запісы такога характару:

Поп не выклікаў давер'я. «Хітры, ліс... Пачуў, што паленым пахне... разважыў, што лепш пераадзецца...»

Насупраць гэтых слоў на левым полі рукой Мележа напісана: добра!

І на гэтай жа старонцы: /Рэвалюцыйныя фразы. Газеты чытае. Палітыку ведае. Хітры./

Малады яшчэ, можа?

Здаровы.

Чырванашчокі.

Жыццялюб.

Амаль усе знойдзеныя ўрыўкі рукапісу маюць адпаведныя старонкі ў тэксце апошняга прыжыццёвага выдання рамана, хоць часта яны значна адрозніваюцца. Гэта сведчыць аб тым, што пісьменнік працаваў над сваёй кнігай да апошняга выдання.

У рукапісу Белы быў Белых, Анісся — Параска, Кудравец — Кавалёў, Іван Мікалаевіч Гарошка — Іван Мікалаевіч Птах, Глушак Халімон — Глушак Ігнат, прозвішча Алеся Маёвага — Гусак.

II. Машынапіс з праўкамі аўтара памерам 544 старонкі. Машынапіс пранумараваны, але не заўсёды паслядоўна. Раздзелы і падраздзелы ў большасці выпадкаў супадаюць з першадрукам. Правак, зробленых рукой аўтара, многа, але не ўсе яны ўвайшлі потым у часопіс.

Сустракаюцца ў машынапісу прыклады, калі сказ ці абзац аўтарам правіліся, але ў першадрук увайшоў зусім іншы тэкст:

Было:
Каб неяк сцішыць згадку пра нядобрую спрэчку, прымірыць з Ганнінай неласкавасцю, знарок ветліва, зычліва дала «добры вечар»...

Пасля праўкі:
Мачыха, як магла, пастаралася сцішыць згадку пра нядобрую спрэчку, прымірыць з Ганнінай неласкавасцю, знарок ветліва, зычліва дала «добры вечар»...

У часопісе:

Яшчэ як уваходзіла, прыкмеціла на двары старую Карчыху і Сцяпана, іх пільныя позіркі; уладзіўшы Ганну, пастаралася сцішыць згадку пра нядобрую спрэчку, прымірыць.

Ёсць выпадкі, калі тэкст машынапісу не правіўся, а ў часопіс увайшоў праўлены:

Машынапіс:
Лёгкія дрожкі, што выкаціліся на луг з лясной дарогі, зразу зацікавілі...

Часопіс:
Таратайка, што выкацілася на балота з лясной дарогі, зразу зацікавіла...

Сустракаюцца выпадкі, калі ў тэкст машынапісу рукой аўтара зроблена ўстаўка, але яна, мінуючы першадрук, увайшла ў далейшыя друкаваныя выданні:

Прыкмеціў: Чарнушка адстаў, аддаў шпянькі Грыбку, не ішоў к Глушакам, але болей Васіль не бачыў Чарнушку. Глядзеў толькі на Яўхіма.

Машынапіс дапамагае прасачыць, як аўтар шукаў для сваіх герояў выразную «паляшуцкую» мову: замяніў — гэта на **ето**, ужо на **ўжэ**, вось на **от**, мусіць на **мабуць**, быў на **буў**, дык на **дак**, ведае на **знае**, трываць на **цярпець**, больш на **болей** і г. д.

У машынапісу прозвішча Алеся Маёвага — Кукса — папраўлена на Бусел, але ў друкаваныя тэксты ўвайшло зноў Кукса (часопіс) і Заяц (1966, 1971, 1973); імя брата Апейкі — Саўлюк, у першадруку і ў астатніх друкаваных выданнях — Саўчык.

Аналітычная зверка рукапісу і машынапісу з друкаванымі выданнямі рамана дала магчымасць выявіць памылку ў апошніх:

рукапіс, машынапіс
Башлыкову, хутка пасля таго, як той прыехаў сюды, Апейка пры нагодзе казаў ужо ўсё пра брата...

Першадрук, 1966, 1971, 1973
Башлыкову, хутка пасля таго як той прыехаў сюды, Апейка пры народзе казаў ужо ўсё пра брата...

На апошняй старонцы машынапісу стаіць дата: *1958, 1961—65 гг.*

III. Першая карэктура кнігі «Подых навальніцы», 1965 г., з праўкамі аўтара.

Праўкі зроблены ў асноўным з мэтай выпраўлення стылю. У большасці сваёй яны ўвайшлі ў выданне рамана 1966 года.

У канцы карэктуры рукой Мележа напісана:

*Прачытаў — Іван Мележ*
*3.XII.65 г.*

IV. Тры кнігі выдання 1966 года, у кожнай з якіх ёсць праўкі тэксту і накіды пісьменніка. Кнігі адрозніваюцца колерам вокладкі.

а) кніга бэжавага колеру. На многіх старонках гэтага выдання зроблены праўкі, ёсць выкрасленыя сказы, абзацы, устаўлены новы тэкст.

| *Тэкст 1966 г.* | *Папраўлена на:* |
|---|---|
| Зелена было на гародах, у полі, на балотах. (с. 5) | Зелянелі гароды, палі, балоты. |
| Ён, збоку было відаць, падужэў за гэтыя гады, разросся ў плячах, моцная, мужчынская шыя трымала яго ўжо не юначую, з загрубелай, абветранай скурай галаву, на якой так жа неслухмяна калмаціліся шорсткія валасы. Яны прыкметна пацямнелі, але, як і раней, пшанічна жаўцелі на скронях, на кончыках яшчэ выгаралыя на летнім сонцы. Быў гэта ўжо не юнак, а мужчына з хмурнаватым, цвёрдым позіркам, са спакойнай дужасцю ў рухах. (с. 22) | У святле ад агню добра акрэслівалася моцная, мужчынская шыя, загрубелы, абветраны твар, хіб неслухмяных, шорсткіх валасоў над заклапочаным ілбом. За гэтыя гады валасы яго прыкметна пацямнелі, але, як і раней, пшанічна жаўцелі на кончыках — над самым ілбом і на скронях, яшчэ выгаралыя на летнім сонцы. Васіль з хмурнаватым, цвёрдым позіркам, са сталай, паважнай дужасцю ў рухах, пастаяў трохі, акінуў вачыма ўсіх... |

Прыклады выкрасленага тэксту:
Усё гэта было не так проста, калі ўлічыць, што канкрэтнасць, факты і іх значэнне ў кожным асяроддзі і ў кожным выпадку былі свае, адгукаліся па-свойму... (с. 85)

Мабыць, праз багата гадоў з такім вострым хваляваннем іншыя шчасліўцы назіралі, як у гуле і ў полымі ідзе ў нязведаныя высі касмічная ракета. Што ж, у Апейкі былі тыя ж самыя прычыны хвалявацца: розны быў толькі час і розныя меркі незвычайнага. Будзе, пэўна, час, калі ўзлёт ракеты будзе хваляваць не багата больш, чым нас — адыход трамвая. Усяму свая пара (с. 401—402).

б) кніга шэрага колеру. На перадтытульнай старонцы рукой Мележа напісана: «Скараціць што можна».

Скараціць паўторы
Скараціць прамовы (у дыялогах)
лішнія эпітэты
лішнія сказы
Не даваць вельмі доўгіх абзацаў
Падціснуць сесію

На тытульным лісце пісьменнікам напісана: «Для «Школьнай бібліятэкі»:

Скарачэнні.
і для Збору твораў скарыстаць.
Падціснуць.

Правак у гэтай кнізе амаль няма. Скарачаў Мележ раман для «Школьнай бібліятэкі» шляхам выкрэслівання абзацаў.

в) кніга чырвонага колеру. На тытульным лісце напісана:

Сесію — да Збору твораў — перагледзець усю, скараціць, дапоўніць, паправіць.

Скарачэнні для часопіса «Дружба народов».

Перагледзець. Падціснуць дзе толькі можна. Кожнае слова лішняе выпалаць. Усе паўторы зняць. Сціскаць думкі. Гаворкі падціскаць (дзе доўгія).

Не перагнуць са скарачэннямі!

Не рабіць лішніх пераробак!

У кнізе многа правак. Асабліва папраўлены і зменены падраздзелы 3, 4, 5 другога раздзела II часткі, падраздзел 2 першага раздзела III часткі.

На стар. 509 зверху напісана:

Неўзабаве перад гэтым быў лістападаўскі Пленум ЦК ВКП(б) (10—17.XI.29) — увязаць з ім. Даваць спасылкі Апейкі.

У сувязі з гэтым накідам грунтоўна папраўлены I падраздзел пятага раздзела III часткі.

На стар. 538 пісьменнікам напісана: Уключыць Рыскіна!

Тут цікава адзначыць, што даклад намесніка наркома РСІ Рыскіна быў уключаны ў першадрук, а пры падрыхтоўцы да першага асобнага выдання рамана 1966 года Мележ выкрасліў яго з тэксту. Адпаведна адзначанаму запісу пісьменніка, даклад Рыскіна зноў увайшоў у тэкст рамана, пачынаючы з выдання 1971 года.

V. Расшыты VI том Збору твораў (раман «Подых навальніцы», 1971).

На перадтытульнай старонцы рукой аўтара напісана:

Гайліс: вымаўляе замест «д» — «т»
замест «з» — «с»
замест «б» — «п»

Паміж старонкамі гэтага тома ёсць закладкі з палосак белай паперы. На закладках надпісы такога характару:

П. нав. ч. 1, раздз. 5; П. нав. ч. II. р. 1 (ст. 137).

Для якой працы рыхтаваўся том, меркаваць цяжка. Правак у гэтым выданні няма.

VI. Сшытак з запісамі, накідамі, планамі да «Палескай хронікі», якія датычацца вобразаў Апейкі, Башлыкова, Ганны, Васіля і іншых дзеючых асоб рамана. Зразумела, што аўтарскія накіды адносіліся і да першай кнігі — рамана «Людзі на балоце» і да наступных раманаў «Палескай хронікі».

Апейка і Башлыкоў. Башлыкоў — з горада, вылучэнец, ганарыцца — рабочы клас; чысты ва ўсім, біяграфія чыстая, ясна ўсё, просты, непахісны.

Апейка і Башлыкоў — два погляды на падзеі, на лёс людзей. Башлыкоў — прамы, жорсткі; Апейка — мяккаваты, чалавечны, бачыць, як усё сплялося, складана. Сумненняў многа, шкадуе. Разважае. Заглядвае ў творы Леніна.

Башлыкоў абвінавачвае яго: сялянская душа, не рабочая. З пачуццём перавагі рабочага чалавека — «вышэйшай расы».

Гне — хутчэй перарабіць вёску. Выйсці ў першыя ў рэспубліцы. Не хоча лічыцца ні з чым.

Апейка: усё рашае пачуццё меры. Не адзін, не два разы ён заўважаў, што мера гэта трацілася.

У Башлыкова — кар'ерызм пад маскай ідэйнасці, адданасці.

Сумленна памыляецца і Башлыкоў. Ён вельмі проста разумее жыццё. Ёсць лінія. Ёсць класавы вораг і ёсць друг. Бязлітасным, цвёрдым быць.

Іх было тады многа наіўных ва многім, і ўпэўненых разам у сабе. На гэтых часта не вельмі глыбокіх людзей і лёг цяжар задачы часу.

Пасля артыкула Сталіна «Головокружение от успехов» прыходзіць к Апейку, разгублены, збіты зусім. Прызнаецца шчыра:

— Збіў мяне таварыш Сталін. Збіў зусім. Я ж усёй душой стараўся. Не шкадаваў сябе. Думаў... А ён!..

Ледзь не плача: п'янаваты. Ціхі раптам. Як падмянілі.

Апейка быў здзіўлены і ўзрадаваны. Няхай падумае. Павучыцца нялішне. І ёсць у ім чалавек. Ад такіх урокаў можа больш будзе.

Трэба помніць, што ў гэтай складанай абстаноўцы дзейнічалі не багі, звычайныя людзі, часта з вялікімі чалавечымі слабасцямі. Гэтыя слабасці іх адбіваліся на справе, і разам — на лёсе многіх людзей.

І былі часта не надта высокай культуры.

І трэба, каб у рамане жыў пафас новага, пафас перароблі, змен. Гэты пафас рабіў многіх нецярплівымі, настойлівымі, жорсткімі. Без гэтага пафасу нельга даць правільны воблік часу.

Апейка думае: «Учынкі кожнага важныя не толькі самі па сабе. А і як — прыклад для другіх. Для тых, хто ідзе ўслед. Хто маладзей... Усё добрае і дрэннае мусіць перадацца маладым. Як ад бацькоў дзецям. Ад Башлыкова — будуць Башлыковы-малодшыя... Ад Харчава — Харчавы...

Апейкі будуць...»

Башлыкоў лічыць: усё ясна. Павінна быць цвёрдасць. Усякія развагі, сумненні — гнілы настрой. Гнаць сумненні.

Галоўнае — адданасць. Няхай ведаюць — ён гатоў на ўсё.

Не для сябе. Самому яму нічога не трэба, для — справы. Для партыі.

У Башлыкова — адчуванне вышэйшасці над сялянамі.

Пралетарый, рабочая косць, бальшавік.

Яны — уласнікі, цёмная сіла, ненадзейны спадарожнік. Якім кіраваць і за якім — глядзець трэба.

Апейка.

Не трэба паказваць, што яму ўсё ясна. Ён таксама сумняваецца, пакутліва раздумвае. Сумняваецца: ці не «спаўзае» — такі ўправа; ці не дзейнічае гэта сялянская стыхія; ці, праўда, не мяккацелы. Ці прынцыповы. Дарэчы, стараецца быць прынцыповым. І сумленным. Ён і жыве як сумленны, прынцыповы. Але навокал багата — і несумленнасці, і беспрынцыпнасці, і кар'ерызму. (Можа быць, дзе-небудзь даць думкі пра прынцыповасць і сумленнасць — як аснову партыйнасці.)

Ён нарадзіўся ў 1888 годзе. У 1925—26 г. было 37—38 гадоў; цяпер, у 1929—41 год. Башлыкоў маладзей за яго — «равеснік стагоддзя» —29 гадоў.

Быў на вайне 1914 года, ранены прыязджаў дадому.

Быў настаўнікам геаграфіі, гісторыі і літаратуры... Вучыўся ў Гомелі на курсах.

Любоў да праўды — ад маці: змалку вучыла: «Будзь добры да людзей. Не рабі зла ім, і яны не зробяць».

Жыве ў двух пакоях блізка ад «воласці», драўляны дом: займае паўдома.

У Апейкі двое дзяцей: хлопчык — Валодзя — у школу ходзіць другі год. Меншая дачка — гадоў трох. (Леніна).

«Нашто табе на ражон лезці — бачыш, час які. Асцярожней трэба». «Не заядайся з Башлыковым. Харчаў нешта хадзіць перастаў».

Клапатлівая вельмі ў сям'і. Чысцыня ў хаце. Радуецца, калі ён прыязджае. Распытвае, дзе быў, што і як. Цікавіцца, але разумее па-свойму.

Башлыкоў.

Башлыкоў прыехаў з горада. Умацоўваць кіруючае ядро. А ў душы — чэсталюбец і кар'ерыст. Любіць сябе, сваю асобу.

Любіць пакрасавацца.

Вучыўся, але — усё па вярхах знае.

Часта фарсіць фразай. Фарсіць сваёй цвёрдасцю, класавай прынцыповасцю.

З Харчавым дружна жывуць.

Як сталі расці прыстасаванцы. Лягчэй за ўсё — калі трудна — быць бесхрыбетнікам, прыстасаванцам.

У Башлыкова — ёсць кар'ерызм і ёсць — прыстасаванства, якое хаваецца пад маскай прынцыповасці, адданасці справе.

Апейка ў адным доме з Харчавым. Харчаў прынцыповы. Нячыстае ў біяграфіі Апейкі — стрымана да яго. Пазней адносіны ўсё псуюцца. Жонка Харчава не разумее, пражыванне — па-суседску. Яна — вясковая жанчына. Добрая, але з часам псуецца: уплыў Харчава. Становіцца надменнай. Было б смешна, калі б не было страшна.

Апейка памог Сцяпану паступіць у камуну. (На чыстцы прыпамінаюць?)

Харчаў?

Жыццё Апейку было няпростым — таму, што няпростым яно было само па сабе, і няпростыя яго абавязкі — камуніста, члена бюро райкома, старшыні райвыканкома. Жыццё было на пераломе, ад гэтага складанасць яго яшчэ пабольшала; усё мянялася, усё выходзіла са сваіх звычайных форм, усё толькі станавілася, вызначалася; складаным яно было таму, што ўсё набірала хаду, разгон; складным таму, што ва ўсім ён павінен быў даваць свае рашэнні, з усёй складанасці выбіраць адно, самае правільнае рашэнне; складаным таму, што ён не меў права на памылкі, бо кожная памылка — адбівалася на справе, на людзях, дзесятках, сотнях людзей...

«Подых навальніцы»

Апейка дома.

Ложак адзіны драўляны. Яму. Пачэсны госць.

Маці ўстала рана. Асцярожна ходзіць, ступае. Асцярожна гаворыць бацька.

Гукі сяла за акном. Рык кароў. Патрэскваюць дровы ў печы.

Хочацца паспаць, пакволіцца. Зноў як бы ў даўняе вярнуўся. Нібы малы. Здаецца, хутка пабудзіць матка ці бацька. Нешта даўняе, дзіцячае, чулае ў душы.

Устала сястра, прымак. Сястра папракае неасцярожнага прымака. Няёмка ляжаць. Усе ўсталі. Хтосьці ўвайшоў. Антось, сусед, прыяцель даўні. З якім па агародах.

— Спіць яшчэ?

— Спіць...

Устаў.

— Падрамаў бы шчэ. Не ждуць жа каровы ці свінні...

— Не ждуць...

— Разбудзілі,— сястра.

— Не мы разбудзілі, дык хто другі,— прымак.

— Начальство спаць любіць. У горадзе позно ўстаюць.

— Багато ты буў у горадзе.

— Буў. Знаю.

У сенцах рыбалоўчыя прылады. Сецць вісіць.

Выйшаў на вуліцу ў сарочцы. Сонечна, свежа. Добра. Зноў,— як у даўнім. Штосьці добрае, светлае. І сумнае, тужлівае крыху. Як шкадаванне — што даўняе.

Заўважыў маладзіцу на двары, што пільнавала позіркам, паздароўкаўся.

Прайшоў, з цікавасцю аглядвае двор. Плот папраўлены — прымак, пэўна. Хлявы — учарнелыя, патрэсканыя дрэвы ў сонечным цяпле. У хляве знаёмы пах гною, саломы, трухі. У закутку рохкае свіння, два падсвінкі, варушацца авечкі. За перагародкаю — салома, сена. У шчыліны святло. Там не раз ляжаў, у зацішку чытаў. І малым, і потым па звычцы. І спаў не раз. Куды ні зірні — успаміны.

З хлява на агарод. Агароды галеюць. Жоўкне ўсё. Восень. Жоўтыя гуркі, жоўтае лісце. Гэта паддае журлівасці. Груша-

дзічка ля мяжы. Успамінае — вясною — у белай квецені... За агародамі поплаў і лес. Знаёмы краявід.

«На раку б схадзіць... Прыпяць паглядзець». З далёкіх дзён, змалку — Прыпяць радасць.

Каля плота сястра палівала з конаўкі на рукі, а ён, сагнуўшыся, расставіўшы ногі, з асалодай пырхаў. Вада бліскала, падаючы каля плота.

У хаце ўжо некалькі чалавек. Сябры даўнія, суседзі, проста цікаўныя. Чакаюць навін. Начальства.

Становішча кіраўніка абавязвае Апейку трымацца як належыць. Больш звычайнага жвавы, бадзёры. Галасок жвавы, энергічны. Ён ведае, што гэтага яны хочуць, і ён робіць так.

— Дак як жывём?

Кожнага па імені. Хай ведаюць, што не забыў, што свой.

Яму радасна, што ён помніць кожнага, свой сярод сваіх.

Матка на стол снеданне.

— Пад'еш.

Ён запрашае ўсіх. Адмаўляюцца — так трэба.

— Як жа ето, без гарэлкі, дзядзько.— Бацьку.

— Як жа ето вы такого госця.

— Не бярэ ў рот.

Бацька з гонарам: і гэта, як адзнака асобага стану і асобай якасці Апейкі.

Матка:

— Змалку не вельмі ўпадаў.

— Дак і пайшоў далеко,— падхваліў хтосьці.

Так і не селі за стол. Гаманілі — Апейка і свае снедаючы, іншыя з лавак.

Ганна.

Ганна ўдалася ў бацьку. Чарнабровая, рослая, здаровая, моцная, вясёлая; яна была прыгожая тым харастевом, якое асабліва паважаюць у народзе.

Хараство, уроду перадаў ёй бацька, прышлы чалавек, аднекуль з-за Чарнігава.

Прыйшоў ён сюды ў галодны год, знясілены, ледзь цягнучы ногі. Збіраўся паміраць на могілках, там яго і знайшла нябожчыца Аляксеіха, прыняла да сябе, накарміла з жалю. З жалю пакінула яго з сабою. Так Ганнін бацька асеў тут. Гады паўтара хадзіў ён халастым, потым прыняўся да маладзенькай Аляксеіхінай дачкі, Алены, якой не было яшчэ і семнаццаці гадоў. Алена была нельга сказаць каб прыгажуня, але змоладу ўсё прыгожае, а ў яе да таго ж быў вельмі ласкавы і вясёлы характар. Так што Чарнушка быў шчаслівы. Праз год Алена нарадзіла хлопчыка, але малое прастудзілася і памерла. Другое задушыла шкарлятына. Ганна была трэцяй. Расла як усе дзеці, без асаблівага прыгляду. З малых год памагала маці — маці была слабая здароўем, часта хварэла. Нарадзіўшы Хведзьку, яна і зусім заняпала, схуднела, зжоўкла, душылася кашлем. Халодным веснавым днём яе завезлі на могілкі.

Ганну змалку вучылі быць працавітай, умець гатаваць страву, прасці, ткаць. Вучылі глядзець, як у людзей, старацца рабіць

так, каб перад людзьмі не сорамна было. Вучылі слухацца бацькоў, ні ў чым не пярэчыць іх волі, падпарадкоўвацца іх жаданням, паважаць, баяцца бога. Адным словам, Ганну вучылі слухацца ўсіх, не вучылі толькі слухацца сябе, сваіх жаданняў, паважаць сябе.

Выходзячы замуж за Яўхіма, яна рабіла якраз так, як вучылі — слухалася, падпарадкоўвалася, адганяла, глушыла сваю скруху, нязгоду. Думала, і праўда — сцерпіцца, злюбіцца.

Прыгнечаная — прыціхла спачатку. Не пазнаць: дзе той характар ранейшы, бадзёрасць, бойкасць. «Абламаў жанчыну». Жыццё ўсё ў дзецях. Крыўды ўсе — з дзецьмі. Цярпела пабоі, плакала, звыкалася.

Замужам — першы раз паспрабавала запярэчыць Яўхіму (к Васілю пацягнулася), пабіў яе. Супраціўлялася. Нянавісць да яго. Адчула яго сілу. Другі раз пабіў. Стала пабойвацца.

Прыехала настаўніца. Параска. Маладая дзяўчына, інтэлігентка. Гарачая, наіўная, адважная.

Яе позірк на сяло, на быт людзей. Цемра, гразь. Жаданне — дапамагчы, навучыць.

Прыходзяць аднойчы бандыты. «Не адчыню. Страляць буду!»

Выручыў дзед вартавы ля школы. На бандытаў напаў. «Народ склічу».

Лаючыся, адышлі.

Яна раптам адчула страх. Не спала, сядзела каля стала, дрыжэла.

Па сяле пасля гэтага — легенда. Адчайная. Такая малая, а — адчайная.

Калі настаўніца прыехала, Ганна абыякава сустракае яе. Настаўніца здзіўляецца: як пахудзела, пастарэла. Згасла за год. Не пазнаць.

«Як хутка высушвае жанчын жыццё тут. Рабскае існаванне».

Калі Ганна першы раз зацяжарыла — праз паўтара месяцы выкідыш: цяжкае паднімала. Працавала, ірвалася. Старыя Карчы касіліся, Яўхім упікаў, злаваў, біў. Тады ўсё часцей думала пра Васіля. Адзіноцтва.

(Сустрэча з Васілём у полі і г. д.) Пасля гэтага адчула сябе зноў цяжарнай. Баялася прызнацца. А калі дазнаўся Яўхім — зноў біў. (Нарадзілася дзіця). Чыё? Яўхім зноў біў. Настаўніца.

У Ганны загінула першае дзіця. Страшна! (Воўк схапіў — у лузе. Свіння разарвала). Гора — свету не бачыць. Як непрытомная. Карчы вінаватыя старыя: прагнасць. Яўхім супакойвае: новае будзе. Доўга не цяжарыла. Пустата. Тады і пацягнула к Васілю. Потым — цяжарная. Яўхім раўнуе, злуе.

Настаўніца. Аднойчы натрапіла на Ганну, збітую, у слязах.
(Ганна раней хадзіла ў школу — лікбез?)
Папрасіла Ганну прыйсці.

Ганна прыходзіць. Настаўніца гаворыць з ёй. «Як ты церпіш?» «Няма права ў яго». Ганна: «У каго сіла, у таго права». Настаўніца: «Сіла цяпер у нас, у тых, каторыя ў мазалях. Савецкая ўлада забараняе біць жанчын». Ганна: «Было так, і будзе».

Ганна спачатку песімістычна, безнадзейна ставіцца. «Нічога не зробіш. Дзе ўжо, бабе, справіцца». Потым — ціха, паступова спее пратэст. Нязгода. Гордасць.

Нарэшце — рашаючая стычка з Яўхімам. Ён аж разгубіўся. Потым — кінула. Дамоў.

Душыла, гняла Ганну старая «навука», не, не магла, не ўмела яна жыць па гэтай навуцы — усіх слухацца, усім падпарадкоўвацца. Хацелася жыць так, каб не толькі людзям, самой добра, люба было. Душа яе кідалася між «навукай», абавязкам і сваёй воляй. Лаяла сябе, малілася, карала сябе, «грэшніцу». І вось, аказваецца, нічога страшнага няма ў тым, каб жыць на радасць сабе, на сваё шчасце. Настаўніца нібы скінула путы з яе. Ганна адчула сябе так, нібы нанава нарадзілася. Не, яна не будзе больш цярпець здзеку, болю, не дазволіць. Яна так і скажа яму, мужу. А калі, калі ён не паслухаецца, не пераменіцца? Тады яна падумае, яна знойдзе іншы выхад,— каб адразу адкінуць бяду, адразу і назаўсёды!..

Васіль павінен па-ранейшаму ісці праз увесь раман.

Васіль прывязаны да зямлі больш, чым Яўхім.

Ганна заўважыла, здзіўляецца: у Васіля розныя вочы: адно жалудовае, сарамяжае, лагоднае, другое — шэрае, халоднае, хмарнае, упартае.

(Дзве душы таксама).

Губы — упартыя, самалюбівыя, як бы крыўду нейкую таяць і недавер'е.

Як і раней, ён рана адчувае, што сышла маладосць, воля, што ёсць абавязак — перад дзіцем, перад законам бацькоўскім, перад гаспадаркай. Трэба перамагаць сваё хаценне. Гэта, па-мойму, вельмі ў характары маладых, рана пасталелых ад жыццёвых турбот сялянскіх хлопцаў, і асабліва ў характары Васіля.

Цімох (Ігнат) — недаверлівасць да ўсяго. Звераватасць. Шукае заўсёды нейкі тайны сэнс. Насцярожаны позірк. Дзед яму таксама гэтую філасофію ўбіваў. Не вер вельмі. Ашукваюць усе. Мы — людзі лясныя. Як у лесе, будзь гатовы на ўсё.

Яўхім яе ненавідзеў і любіў. Два гэтыя пачуцці моцна, непарыўна ядналіся, ніякая сіла не магла аддзяліць іх. Чым больш ненавідзеў, тым больш любіў. (Любоў гэта была як хвароба.)

Настаўніца хворая на туберкулёз.

(Старшыня с/с з падкулачнікаў — спачатку).

Новы старшыня — з латышоў. Кейран. Закінуты лёсам. Жаніўся тут.

Ганна хоча хадзіць у школу вечарам (лікбез). Яўхім не пускае. Спрэчкі.

На занятках. Навучылася распісацца. Лекцыя аб Палессі. «Гэтая зямля, дзе мы жывем, называецца Палессе. Было тут калісьці мора...» Ёсць зусім іншая зямля. Поле, поле і поле! І лесу няма! Аж не верыцца.

*Храналогія* («Сцежкі»)

| | |
|---|---|
| 1а. Нарадзіліся Васіль — у 1905, Ганна —1907. | Маладзей 1,5 г. |
| 1. Луг, першае каханне. Прыход бандытаў. | 1923 год |
| 2. Яўхім заўважыў. Подкуп. Гвалт. Сватанне. Вяселле. | 1925 |
| 3. Жаніўся Васіль. У Ганны дзіця нарадзілася. | 1926 |
| 4. Сустрэча Васіля і Ганны. У гумне. Яўхім б'е Ганну. Васіля прызываюць у армію. | 1927 |
| 5. Васіль вяртаецца з арміі. Пачатак калектывізацыі. У Ганны другое дзіця — ад Васіля? Кідае Яўхіма. | 1929 |
| 6. Старога Карча раскулачваюць. Яўхім ідзе ў банду. Замах на Васіля. Пераходзіць Яўхім мяжу. | 1930 |
| 7. Валодзька нарадзіўся ў 1919 годдзе. | |

2 кн. Міканор закаханы ў глінішчанскую настаўніцу. Але разумее — невуч, нязграбны, пакляваны. Куды мне. Яна — адукаваная, прыгожая, вясёлая. Яна то падсмейваецца над ім, то вельмі сур'ёзная. Аб справах. «Наша нібы, свая. А такая далёкая. Як бы яна паненка, а я — лапаць...»

2 кн. У Хвойніках. Ствараюць МТС. Каля дарогі. Першыя трактары. Косцік. Апейка — начальнік палітаддзела МТС. Перацягнуў і Косціка.

/У райкоме — нарада аб калектывізацыі, аб сяўбе. Апейка на ёй, Міканор, Гайліс.

Едуць з Хвойнік. Першы подых вясны — вільготны вецер./

2 кн. Глушаковы хлявы — зганяюць кароў, коней сюды.
Глушакова гумно — калгасу. Спатрэбілася.
У Глушаковай хаце — клуб зрабілі.

ДРУГІ РАМАН

Едуць у Хвойнікі. Гудуць правады. Асенні дзень. Хадоська, Хоня, Алёша, Міканор.

Хадоська думае, успамінае ўсё, што было. Яна цяпер замужам за Хонем. Любіць вельмі. Стражэйшая стала. Сям'я на руках яе. Маці Хонева памерла. Дзеці — нібы яе дзеці. Як там управяцца адны без яе... Думае пра тое, што будзе ў Хвойніках. Страшнавата. У камсамол. Доўга вагалася. Бога няма, мабыць. Каб быў, хіба б цярпеў ён такую няпраўду на свеце? Але — страшнавата. Страшнавата і радасна: камсамолка будзе. Удваіх з Хонем. Супраць багацеяў усякіх, супраць Глушакоў... Хай ім горам адальюцца слёзы яе...

Думаў, нішто яна. За чалавека не лічыў. Галаву дурыў, а сам — смяяўся. І яна — дурная, сляпая! Сляпая была якая! Затое — цяпер бачыць усё. І разумее!..

Не знаюць яшчэ, што Хадоська можа!

— Чаго нахохлілася? — смяецца Хоня. Абдымае, туліць.

— Так...— адмахваецца.

Пра Ганну думае. Тады — злавала на яе, нават ненавідзела. Потым як бы астыла да яе, толькі бы чужой стала Ганна. Глушачыха. Не зайздросціла нікольні. Спачувала нават, калі чула, якая ў яе жытка. Спачувала нібы сабе — магло ж і ёй быць такое гора! Невядома, шчэ ці бяда, што так абышлося, што да вяселля не дайшло. Хіба б лягчэй было б, грызціся, як яна. Цяпер жа, дык зусім шкода яе, Ганну...

Камсамолка... А можа яшчэ і не прымуць. Хоня-то і Міканор вучылі, а раптам — запытаюцца, а яна — ні слова, ні ў зуб. Яна, калі пачынае хвалявацца, забывае ўсё. Ці будзе Хоня пры гэтым? Добра, каб быў. Смялей удвух.

Харошы ён, Хоня. Свет абыдзі, не знойдзеш другога. А яна — некалі гнала, дурная!..

— Трусіш? — смяецца Хоня. Абдымае.

— Ат...— вызваляецца.

— Мабуць, як у камсамол прымуць, дак і саўсім не падступіся!

Рагочыць.

Алёша думае: век былі самымі закіданымі. Век жарты ўсялякія пра іх, насмешкі. А цяпер... Эх, шкода, гармонь не ўзяў. Выйшаў бы з таго дому, ды ўрэзаў бы. З радасці, штоб чулі ўсе. І дадому з маршам уехалі б...

Хоня думае... Мала думае... Нуда бярэ — едзеш і едзеш. А да чаго ж дарога далёкая. І свет вялікі. І хаты, хаты ўсюды, сёлы, сёлы. І ўсюды людзі са сваімі радасцямі, са сваёй бядою. І ты век пражывеш, і не даведаешся пра іх. І яны не будуць знаць пра цябе — які ты харошы ці не. Чым жывеш, чым дыхаеш.

Канешне, бяды мала, што ты не будзеш знаць іх, яны цябе. А ўсё-ткі шкода! Красануцца б аб іх душою! Аб цэлы свет!.. Значыць, табе Хадоські мала?.. Нямала, не ў тым соль!.. Хадоська — цуд, Хадоська — дай бог кожнаму такую!.. Свет які вялікі!.. От што!

Цьфу, лезе ў галаву ўсякае ў дарозе. Саскочыў раптам:

— Дай каню аддыхнуць.

Бяжыць, падскоквае знарок побач з возам. Са смехам хапае Хадоську, проста на рукі. Яна вырываецца:

— Не брыкайся!

Ставіць на зямлю. Ідуць усе... паўз бярозы стагоднія, екацярынінскія.

Думае Міканор: зайздрасць бярэ, калі бачыць, як Хоня дурэе з Хадоськай. От і найшлі шчасце. А ён? А ў яго ўсё не клеіцца. Параска. На якую бяду заляцела сюды?

Куды ні пойдзеш, усё думаеш. Усё туды думкай цягнешся. Самому брыдка. Пайшоў учора, як вучань які. Было асабліва нёмка, калі сустрэў Ганну. Але нічога — не падала і выгляду яна... Свая бяда баліць... Пахваліў яе за смеласць, падтрымаў, узрадавалася...

Пасядзеў, пагаварыў і так пайшоў назад ні з чым. Мабыць, і не здагадалася, чаго і да каго зайшоў!.. Што будзе? Не раўня ж ёй. І нязграбны, пакляваны воспаю. Яна — што за гаспадыня? А не — от прысушыла нечым, не аддзярэш!

Знарок перабівае плынь думак іншымі: от будзе ўжо ячэйка ў Куранях. Сіла. Будзе з кім ваяваць супраць кулакоў! За калгасы...

Час ужо і ім — за калгас брацца. Усюды — чутно — пачынаецца. Усе газеты жывуць гэтым. І Гайліс казаў. Усе сёлы поўны гаворкі...

Паказаліся Хвойнікі. З гары, наводдаль відны — хаты, хаты.

Хоня:

— Сядай! З горкі дарога!..

Міканор паказвае:

— Унь там, у тым гайку — у парку, дзе белы дом трохі выглядвае!

Калі калёсы пад'язджаюць к белым агромністым вербам:

— Галоўнае — смялей! Няхай знаюць, што мы куранёўскія — самі не лыкам шыты!

І. Мележ рабіў гэтыя накіды, выразна ўяўляючы характары сваіх герояў, лінію развіцця іх паводзін у залежнасці ад умоў, у якіх яны жылі, наогул, ад сацыяльна-бытавога асяроддзя, з якога яны паходзяць.

Супастаўленне падрыхтоўчых матэрыялаў да «Подыху навальніцы» з тэкстам рамана паказвае, што логіка развіцця характараў унесла пэўныя змены ў першапачатковыя намеры пісьменніка.

Падрыхтоўчыя матэрыялы і прыведзеныя далей варыянты друкаванага тэксту даюць выразнае ўяўленне аб тым, як паступова паглыблялася і ўдакладнялася творчая канцэпцыя раманіста, як пад уплывам новых патрабаванняў часу, у залежнасці ад набытага жыццёвага і мастацкага вопыту мянялася аўтарскае бачанне герояў, як расло пісьменніцкае майстэрства, культура творчасці І. Мележа.

## III

Калі раман «Людзі на балоце» быў завершаны і выйшаў у свет, крытыка справядліва адзначыла, што ён з'явіўся буйнай

падзеяй не толькі ў беларускай, але і ва ўсёй савецкай літаратуры. Падкрэсліваліся высокая мастацкая дасканаласць твора, яго глыбокая праўдзівасць і ідэйная накіраванасць. Гэта акалічнасць садзейнічала таму, што пісьменнік з натхненнем пачаў пісаць другую кнігу «Палескай хронікі», якая працягвала лёс герояў «Людзей на балоце». Новы раман, развіваючы дзеянне ранейшага, разам з тым значна паглыбляў першапачатковую задуму аўтара. Калі ў першым рамане героі «толькі ўступалі ў самастойнае жыццё, толькі пачыналі адчуваць складанасць, заблытанасць яго» («Жыццёвыя клопаты». Мн., «Мастацкая літаратура», 1975, с. 298), то ў новым творы пісьменнік «адчуў патрэбу выйсці з Куранёў, глянуць на іх збоку, убачыць іх сярод вялікага свету («Жыццёвыя клопаты», с. 408), а герояў паказаць у «віраванні гэтага вялікага свету».

Сярод рукапісных матэрыялаў да «Подыху навальніцы» ёсць старонкі з варыянтамі назваў для двух першых раманаў цыкла:

1. Дарогі ў полі
2. Дарогі і надзеі
3. Людзі і надзеі
4. Людзі на полі (Людзі на балоце)
5. Людзі і дарогі
6. Людзі на раздарожжы
7. Крыжавыя дарогі — Раздарожжа
8. Паварот дарогі
9. За асакой будзе бераг
10. Бераг за асакой
11. За асакой бераг
12. Навальніца ў полі
13. Навальніца над стрэхамі
14. Гарачая мяцеліца
15. Подых навальніцы
16. Мяцеліца ў полі
17. Дні спадзяванняў
18. Маланкі ў мяцеліцы
19. Навальніца са снегам

Гэтыя варыянты яскрава паказваюць, як настойліва шукаў пісьменнік назву твора, якая б адпавядала яго зместу, перадавала б сэнс змен, што адбыліся ў жыцці герояў, у жыцці краіны.

Накіды да рамана даюць уяўленне аб тым, у якім напрамку ішла распрацоўка сюжэтнай лініі другой кнігі.

Дзеянне «Подыху навальніцы» выходзіць за межы вёскі: яно адбываецца і ў горадзе. У параўнанні з першым раманам гэты твор адлюстраваў больш складаны, больш драматычны перыяд у грамадскім жыцці краіны — пачатак калектывізацыі. Паводле прызнання Мележа, ён «не думаў спачатку пісаць так. Многае адкрылася раптам, калі паглыбіўся». І сапраўды, працуючы над творам, пісьменнік адчуў, што герояў свайго рамана ён павінен паказаць у адносінах да тых змен, якія адбываліся ў краіне, у рэспубліцы. Пашырэнне «свету» рамана патрабавала вылучэння на першы план, побач з Ганнай, Васілём, Яўхімам і інш., новага героя — выразніка тых зрухаў, якія несла з сабой новае жыццё. «Так змяніўся свет рамана, пашырыўся гарызонт вакол герояў. Так нарадзіўся Апейка, не прадугледжаны першапачатковай задумай і вельмі дарагі для мяне вобраз». («Жыццёвыя клопаты», с. 516.)

Характарызуючы блізкі яму вобраз камуніста-ленінца, Мележ гаварыў, што ў гэтым вобразе ён хацеў сканцэнтраваць лепшыя якасці партыйных кіраўнікоў ленінскага тыпу: прынцыповасць, сумленнасць, пачуццё гістарычнай адказнасці, здольнасць адстойваць сваю праўду ў розных абставінах. Паводле выказвання пісьменніка, канфлікт паміж Апейкам і Башлыковым вельмі для яго важны, таму што ў гэтым канфлікце адлюстраваліся супярэчнасці часу, калі «было нямала такога, што выклікала непатрэбную вастрыню адносін, нараджала несправядлівасці, крыўды, прыводзіла да неапраўданых ахвяр» («Жыццёвыя клопаты», с. 218).

Паказальна, што ў тэкст апублікаванага ў часопісе «Полымя» рамана Мележ унёс значныя, прынцыпова важныя змены кампазіцыйнага характару. Калі дзеянне ў часопісным варыянце пачынаецца з апавядання пра Ганну, Хадоську, пра смерць Верачкі і г. д., то ў асобным выданні ўвага чытача адразу засяроджваецца на стварэнні калгаса ў Куранях, на працы і праблемах першых калгаснікаў. (Гл. часопіс — частка першая, раздзел трэці; першае асобнае выданне рамана — частка першая, раздзелы першы і чацвёрты.)

Сэнс зробленых аўтарам кампазіцыйных перастановак зразумелы: Мележ робіць акцэнт на сацыяльна-грамадскіх падзеях, якія становяцца асноўнымі ў сюжэце рамана. Не выпадкова ў нататках пісьменніка ёсць такая думка: «1929— важны год для лёсаў народа. Многае адсюль. Вытокі». У рамане якраз і паказана, што восень 1929 і пачатак трыццатых гадоў для герояў рамана з'яўляюцца важным і напружаным перыядам, у час якога мяняліся характары, звычкі, уяўленні. «Ніколі ломка спрадвечных законаў і парадкаў у вёсцы не адчувалася так моцна, як на шырокай строме вялікага пералому» («Жыццёвыя клопаты», с. 408).

Прыступаючы да працы над «Подыхам навальніцы», Мележ запісаў, што «Людзі на балоце» і другая кніга з цыкла «Палеская хроніка» — «раманы розныя». Паміж падзеямі, якія адбываюцца ў першым і другім раманах, праходзіць каля 10 год. У другой кнізе пісьменнік пайшоў далей у адлюстраванні жыцця, у паказе падзей. «Подых навальніцы» стаў «раманам-роздумам» аб гадах вялікага пералому і аб лёсах людзей у час гэтага пералому.

Ахапіць «новую шырыню» Мележу дапамог, апрача ўсяго іншага, таксама і дакументальны матэрыял, які з'явіўся важным кампанентам архітэктонікі рамана. Пісьменнік выкарыстаў для раздзела, які ўмоўна можна назваць «Сесія», стэнаграфічную справаздачу другой сесіі IX склікання ЦВК, на якой былі прыняты важныя рашэнні аб правядзенні ў рэспубліцы калектывізацыі, аб яе тэрмінах і метадах. Гэта справаздача даносіць суровую праўду пра адзін з важнейшых перыядаў у жыцці рэспублікі, «пра цяжкую, пераломную пару ад дваццатых да трыццатых гадоў» («Жыццёвыя клопаты», с. 545).

Скончыўшы працу над «Подыхам навальніцы», Іван Мележ адзначыў, што ў яго «ўмацавалася перакананне: гэта трэба было зрабіць... Хоць некаторыя і прытым — галоўныя героі ў «Подыху навальніцы» фармальна як быццам мала змяніліся..., яны, мне думаецца, значна выраслі якасна. Яны сталі людзьмі шырокага свету. Яны сталі часткай гісторыі». («Жыццёвыя клопаты», с. 409.)

Але якасна выраслі не толькі героі другой кнігі «Палескай хронікі». Раман «Подых навальніцы» — вышэйшая ступень майстэрства пісьменніка, які дасягнуў вяршыні ў сваёй творчасці.

Стар. 125. Цяпер на стале былі газеты; ён разлажыў іх па парадку — «Савецкую Беларусь»...— грамадска-палітычная газета, орган ЦВК і СНК БССР. Выдавалася ў 1920—1933 гг. на беларускай мове.

Стар. 169. ...уланы.— від лёгкай кавалерыі.

Стар. 180. ...акруга.— адміністрацыйная адзінка адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу. Існавалі на Беларусі ў 1924—1930, 1935—1938 гг.

Стар. 183. Спакой нам толькі сніцца...— радок з верша А. Блока «Река раскинулась. Течет, грустит лениво...», які ўваходзіць у цыкл «На поле Куликовом». (Гл.: Александр Блок. Собрание сочинений в 6 томах, т. 3. М., 1971, с. 158).

Стар. 192. ...кіно «Два друга — модель и подруга».— кінафільм, выйшаў у 1928 годзе. Пастаўлены рэжысёрам Карасціным М. С. сумесна з Паповым А. Д.

Стар. 218. — Паўлюк Трус! — (Павел Адамовіч) — беларускі савецкі паэт (1904—1929). У 1928—1929 гг.— студэнт літаратурна-лінгвістычнага аддзялення педагагічнага факультэта БДУ.

Стар. 218. Падаюць сняжынкі... ~ Пераведаць родных... блізкіх... дарагіх...— урывак з паэмы П. Труса «Дзесяты падмурак». (Гл.: П. Трус. АН БССР. Творы. Мінск, 1935, с. 167).

Стар. 219. «Паміж пустак-балот беларускай зямлі...» — першы радок паэмы. Я. Купалы «Курган». (Гл.: Янка Купала. Збор твораў у сямі тамах, т. 5. Мн., «Навука і тэхніка», 1974, с. 71).

Стар. 220. ...«Полымя»...— літаратурнае аб'яднанне пісьменнікаў БССР, якое існавала ў Мінску ў 1927—1932 гг.

Стар. 220. ...«Узвышша»...— творчае аб'яднанне беларускіх пісьменнікаў. Існавала з 26 мая 1926 года па снежань 1931 года.

Стар. 220. ...«Маладняк»...— літаратурная арганізацыя пісьменнікаў БССР. Існавала з лістапада 1923 года па лістапад 1929 года.

Стар. 220. ...«Росквіт»...— літаратурна-мастацкі часопіс, які выдаваўся са снежня 1927 года да красавіка 1928 года ў Мінску на беларускай мове. Орган літаратурнага аб'яднання «Беларуская літаратурна-мастацкая камуна».

Стар. 220. ...«Усплёскі»...— маецца на ўвазе: «Дняпроўскія ўсплёскі» — літаратурны альманах. Выходзіў у Магілёве ў 1927 годзе.

Стар. 221. ...БелАПП.— літаратурная арганізацыя пісьменнікаў, якая ўзнікла ў выніку рэарганізацыі «Маладняка». Пастанову пра стварэнне БелАПП прыняў Усебеларускі з'езд «Маладняка» (25—28 лістапада 1928 года).

Стар. 222. ...Нікіцін.— рускі паэт (1824—1861). Сваімі творчымі прынцыпамі з Н. зблізкаюцца народныя паэты БССР Янка Купала і Якуб Колас. Творы Н.— адны з самых папулярных у народзе. На словы Н. створана звыш 60 рамансаў і песень.

Стар. 227. ...Міхась Чарот...— Кудзелька Міхась Сямёнавіч (1896—1938) — беларускі савецкі пісьменнік, грамадскі і культурны дзеяч. У 1925—1929 гг.— рэдактар газеты «Савецкая Бе-

ларусь». Ініцыятар стварэння і кіраўнік літаратурнай арганізацыі «Маладняк» (1923).

Стар. 227. ...Змітро Жылуновіч — Цішка Гартны...— (1887—1937) беларускі савецкі пісьменнік і грамадскі дзеяч. Акадэмік АН БССР (1928 г.) З 1 студзеня да 3 лютага 1919 г. узначальваў Часовы ўрад Савецкай Беларусі. Пасля быў рэдактарам газеты «Савецкая Беларусь», часопіса «Полымя». У грамадска-палітычнай дзейнасці меў шэраг памылак, за што быў выключаны з ВКП(б).

Стар. 227. ...часопіс «Полымя»...— штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс, які выдаецца ў Мінску са снежня 1922 г.

Стар. 289. Або вазьмі Тухачэўскаго...— Тухачэўскі Міхаіл Мікалаевіч (1893—1937), савецкі ваенны дзеяч, герой грамадзянскай вайны. Маршал Савецкага Саюза.

Стар. 346. ...артыкул Сталіна «Год вялікага пераломy»...— артыкул да XII гадавіны Кастрычніка ад 3 лістапада 1929 г. Упершыню надрукаваны ў «Правде» ад 7 лістапада 1929 г.

Стар. 351. ...Пленум ЦК ВКП(б).— Лістападаўскі пленум (1929 г.) ЦК ВКП(б) падвёў вынікі выканання заданняў першага года пяцігодкі, зрабіў глыбокі аналіз і даў палітычную ацэнку сацыяльна-эканамічнаму развіццю краіны, вызначыў чарговыя задачы сацыялістычнага будаўніцтва.

Стар. 352. ...Чарвякоў...— Чарвякоў Аляксандр Рыгоравіч (1892—1937) — савецкі дзяржаўны дзеяч. У 1920—1924 гг.— старшыня ЦВК БССР і СНК БССР, у 1924—1937 гг.— старшыня ЦВК БССР.

Стар. 355. ...25 тысяч перадавых рабочых.— Адпаведна пастанове Лістападаўскага пленума (1929) у вёскі было накіравана 25 тысяч рабочых з мэтай аказання дапамогі ў сацыялістычнай перабудове сельскай гаспадаркі.

Стар. 355—356. ...у Лондане, у дні з'езда партыі...—V (Лонданскі) з'езд РСДРП (30 красавіка —19 мая 1907 г.), на якім прысутнічаў У. І. Ленін.

Стар. 361. ...Зарэцкія...— Зарэцкі Міхась (Касянкоў Міхаіл Яўхімавіч, 1901—1941) — беларускі савецкі пісьменнік. Уваходзіў у літаратурныя аб'яднанні «Маладняк», «Полымя».

Стар. 362. ...канспект па Замоціну?! — Замоцін Іван Іванавіч (1873—1942) — беларускі і рускі савецкі літаратуразнавец. Доктар філалагічных навук. Аўтар прац па гісторыі рускай і беларускай літаратур. Акадэмік АН БССР (1928). Член-карэспандэнт АН СССР (1929).

Стар. 362. Пра Пушчу і Дубоўку.— Пушча Язэп (Плашчынскі Іосіф Паўлавіч, 1902—1964) — беларускі савецкі паэт. Настаўнічаў на Беларусі (1921—1926). Працаваў у Інстытуце беларускай культуры (1926), у Беларускім дзяржаўным выдавецтве (1929—1930). Дубоўка Уладзімір Мікалаевіч (1900—1976) — беларускі савецкі паэт. У 1926—1930 гг.— рэдактар беларускага тэксту «Збору законаў і загадаў рабоча-сялянскага ўраду Саюза ССР».

Стар. 374. ... «Палешукі мы, а не чалавекі»? — Радкі другой часткі паэмы Я. Купалы «Над ракою Арэсай». Раздзел «Аб мінулым»:

Праз леты і зімы
Паданне йшло ў векі:
— Палешукі мы,
А не чалавекі!

(Гл.: Янка Купала. Збор твораў у сямі тамах, т. 5. Мн., «Навука і тэхніка», 1974, с. 162).

Стар. 376. ...«Видишь, стоит, изможден лихорадкою, высокорослый больной белорус... Ноги опухли... колтун в волосах...» — Радкі з верша М. А. Някрасава «Железная дорога». (Гл.: Николай Алексеевич Некрасов. Стихотворения и поэмы. Изд-во «Художественная литература». М., 1971, с. 171).

Стар. 454. ...старшыні Савета народных камісараў Галадзеда...— Галадзед Мікалай Мацвеевіч (1894—1937) — партыйны і дзяржаўны дзеяч БССР. З лютага 1924 г.— член Часовага Беларускага Бюро ЦК РКП(б). З 1925 г.— другі сакратар ЦК КП(б)Б. З 1927 па 1937 гг.— старшыня СНК БССР.

Стар. 464. ...пра выкрыццё «Саюза вызвалення Украіны»...— Буржуазна-нацыяналістычная арганізацыя, якая ўзнікла ў 1926 годзе. У яе радах аб'ядналіся сілы ўкраінскай контррэвалюцыі.

## IV

Прыжыццёвыя выданні рамана, у прыватнасці, часопісны варыянт і выданні кнігі 1966 і 1973 гг., маюць істотныя разыходжанні, звязаныя з паглыбленнем ідэі твора, са зменай кампазіцыі, з палепшаннем яго стылю. Тут прыводзяцца асноўныя варыянты першадруку і выдання рамана 1966 г.

Акрамя гэтых, прыводзіцца ўрывак-варыянт I падраздзела шостага раздзела III часткі рамана, які значна адрозніваецца ад такога ж раздзела ва ўсіх прыжыццёвых выданнях рамана.

### *Варыянты час. «Полымя»* [1]

Стар. 7, радкі 1—32, стар. 8, радкі 1—8— адсутнічаюць.

Стар. 8, радкі 8—9, пасля: навальніцы. // Лета было непагоднае, ненадзейнае. Як пачалося яшчэ перад маем, так і ішло без перамены. Дня не выпадала сонечнага і сухога.

Радкі 9—11, замест: Зранку ~ хмары. // Зранку часам было неба і чыстае і яснае, але як толькі сонца ўсплывала, у блакіце проста ўвачавідкі пачыналі пухнуць белыя, потым сіняватыя хмары.

Радок 13, замест: вечар // поўдзень

Радкі 13—14, замест: У вячэрняй ~ выбліскі. // Дождж прыходзіў звычайна ці падвечар, ці ў вячэрняй цемры.

Радок 15, замест: як сяло ~ лівень, //, як падступала вадзяная хваля.

Радок 16, тэкст: над прыціхлымі хатамі і агародамі — адсутнічае.

---

[1] У «Полымі» № 1 і 2 за 1964 г. раман друкаваўся пад назвай «Навальніца над полем».

Радок 17, пасля: грому. // Мала выпадала такіх начэй, калі б можна было паспаць па-людску.

Радок 18, пасля: прагавіты, // а

Радкі 19—21, замест: так магутна ~ ад страху. //, хвалячыся магутнасцю і грозячыся так, што ўсё на мокрым лапіку зямлі са стрэхамі і ў балотным абшары вакол — і, здаецца, на цэлым свеце — замірала боязна, пакорліва, як бы ад разумення сваёй нікчэмнасці.

Радкі 24—42, замест: Першыя навальніцы ~ пара святая прайшла... // Навальніцы былі не літасцівыя. Рэдка калі праходзілі яны, каб не ўчыніць якой бяды. То дуб расшчапіла за Пракопавым агародам, то забіла ў хляве карову Міці-лесніка. Сярод ночы страшны агонь ухапіўся раптам за гумно Андрэя Рудога; і агледзецца не ўправіліся, як ахвочае полымя перакінулася ўжо на суседняе гумно. Хоць ліў бесперастанку дождж, хоць людзі, як хто мог, стараліся кожны аберагчы сваё дабро, да світання пажар дабраўся аж да Зайчыка. Навала спынілася толькі перад Глушакамі. У Глушаковым гумне ўжо таксама тлела страха, але ім усё ж удалося абараніцца.

Не ўправіліся Курані перажыць гэтае ўтрапенне, як новая навальніца кінула маланку на святы крыж за сялом. Крыж, што стаяў у пяску на разгалінаванні дарог, абгарэў, счарнеў, бы галуза, і куранёўскія жанкі жагналіся, калі глядзелі на гэта страхоцце. Мужчыны найбольш маўчалі, але было відаць, што нямала каму і з іх здарэнне з крыжам давала неспакою. Глушак стары — той проста сказаў, што гэта не на добрае.

Багата хто ў Куранях ведаў, што ўсе бядоты ад маланак былі знакам божай няміласці...

У той вечар Глушачыха разважала, што рабіць з крыжам: ставіць ці не ставіць новы — як лепш зрабіць, каб не гнявіць бога. Стары Глушак, звычайна чулы да гаворак пра бога, адно маўчаў заклапочана; неўзабаве ж збіў жонку нецярплівым пытаннем, ці наліла вады ў біклагу. Не даючы ніякай увагі таму, што ў голасе старой пачуліся ноткі крыўды, у наступны момант строгім, скрыпучым голасам загадаў, каб усе лажыліся зараз спаць. Заўтра трэба было ехаць касіць.

У поцемках, у душнай цішыні нейкі час стаяў адзін — пад абразамі шаптаў малітву.

Стар. 8, радок 43— адсутнічае.

Стар. 9, радкі 1—41, стар. 10, радкі 1—14— адсутнічаюць.

Стар. 10, радкі 15—16, замест: Глушакі ~ лесу. // Выязджалі з двара, калі сонца толькі пачало выплішчвацца з-за цёмнага лесу. Дажджу ўжо не было, і неба сінела высокае і чыстае, як бы вымытае. На двары было яшчэ мокра, гразка, пад стрэхамі канаўкамі паблісквалі лужы. Лужы былі сярод вуліцы, у траве каля платоў, у каляінах за сялом...

Радкі 16—39, стар. 11, радкі 1—25— адсутнічаюць.

Стар. 11, радкі 28—29, замест: усё хораша, салодка спала ў сваёй пасцельцы. // бесклапотна спала на руцэ.

Радкі 29—43, стар. 12, радкі 1—20, замест: Ганна такая радая была ~, нібы выдуманае. //

Доўга потым ехалі маўклівыя. Ганна то аберагала малую ад штуршкоў, то папраўляла калыску, якая ляжала побач і ўсё спаўзала на край воза. Да ўсяго — апаноўвала камарэча, што ад

самага сяла не адставала, лезла з усіх бакоў. Пашкадавала Ганна затульваць малой родны, кволы тварык — вельмі ж хораша, чыста было дыхаць у гэты ранак — увесь час перад тварыкам клапатліва махала рукой...

...Калі ехалі лесам, Ганна раптам успомніла, як — здалося, даўно-даўно — развязалася тут у Васілёвага каня супоня. Як паківа з Васіля, як зіркнуў ён на яе спадылба. За гэтым згадалася, як раскладвалі вогнішча, анямелыя ад першай згоды, ад блізкасці, як лёгка, радасна было ляжаць, глядзець, што ён марудзіць, не наважваецца легчы поблізу. Аж дзіва было, як добра помнілася ўсё, да самых дробных драбніц,— і як спакойна прайшло яно ў памяці. Нават на момант не засмуціла душу скрухаю. Успомнілася, прайшло, нібы не сваё, нібы выдуманае.

Стар. 13—17 (трэці падраздзел) — адсутнічаюць.

Стар. 17, радок 28, пасля: дубка. // Сталі выцягваць косы, граблі, абувацца, хто ехаў босы.

Стар. 19, пачатак падраздзела складаецца з 7 абзацаў першага падраздзела III раздзела часопіса («П»., 64, № 1, с. 47—48):

Гора, якое было Ганне такім вялікім, якое адгукнулася ў Хадосьцы такой супярэчлівасцю пачуццяў, іншых куранёўцаў мала засмуціла.

Багата хто падзею гэту зусім не палічыў за вартую нейкай увагі: ёсць бедаваць пра што — памерла малое, бы якое дзіва, бы рэдка ідуць яны на той свет! Якраз жа ў гэту пару найбольш і косіць ва ўсіх старая ведзьма людскі прыбытак! Калі хто і адгукнуўся на Ганніна гора, то амаль адны жанкі; але і яны жалкавалі не вельмі, ледзь не кожная зазначала са сталым жыццёвым спакоем: не суджана, значыцца, на раду ўжо так напісана. Доля ўжо такая...

Вялікі павяліцель — клопат пра гаспадарку, які вымеў у адзін дзень Курані, выгнаў усіх на сенажаць,— сам па сабе не даваў бедаваць пра нечае гора, гнаў з душы, як непатрэбшчыну, усё пабочнае — усе развагі, усе згадкі. Ад самага світання, ледзь пачынала шарэць балота, хапаліся хутчэй нанава накруціць анучы, падсілкавацца абы-чым трохі — ды за косы, па вадзе, па мяккай пакошы, да мокрай, з шызым, важкім бляскам травы. Жанкам пакуль было вальней; але скора і ім, і падлеткам — перадыху не было з граблямі, з насілкамі: хутчэй знесці на сухое, хутчэй паварушыць, каб дасыхала, хутчэй скласці ў копы, у стагі. Да самага вечара, пакуль не напаўзалі густа поцемкі, балота было ў клопаце, у руху, у вялікай, няспыннай гонцы: мужчыны і жанкі, старыя і малыя рупіліся з радамі, з копамі, са стагамі...

Можна было думаць: людзі жылі толькі адным клопатам — аб зіме і вясне, аб скаціне, якой да наступнай пашы трэба пабольш сена; звыклы і неадменны гэты клопат — можна было думаць — правіў людзьмі, як і пяць, і пяцьдзесят гадоў назад. Здавалася, і сівыя лазнякі млелі, як звычайна, пад спёкаю, і сіняваты лес наводдаль нібы цёк, плыў, як і ўсе гады; усё, здавалася, было нязменнае, векавечнае, непахіснае, як глыбознае неба, як гарачае сонца.

Але так толькі здавалася. Толькі збоку так бачылася. Пад звыклым клопатам багата ў каго жыў неадступны неспакой, нязнанае даўно чуццё няцвёрдасці, няпэўнасці ўсяго, да чаго прызвычаіліся. Усё, што ні рабілі, усё, што ні бачылі, здавалася нена-

дзейным, нетрывалым: і луг, і лес, і неба — нават яны былі кібы інакшыя. Як ні гналі прэч працаю, няспыннай гонкаю, лезла і лезла ў душу гэтае чуццё няпэўнасці свету, неспакой — ці поўны страху, ці з немалымі надзеямі, неспакой перад нязнанымі, вялікімі пераменамі.

Даўно-даўно не было ў Куранях такога шырокага хвалявання, такога важкага думання, супярэчлівых, трывожных размоў, здагадак аб будучыні. Страх і смеласць, туга і радасць раслі і чэзлі, зноў і зноў раслі на куранёўскім балоце. Было тут калі жалкаваць пра страту малой няшчаснай, калі на ўсё жыццё чалавечае рушыла, невядома што несучы, бура...

Думнае, трывожнае, пякло куранёўскія сенажаці лета; ад самых ваенных гадоў не было на іх такога ўтрапення, такога хвалявання. Як ні гналі сябе, як ні стамляліся, абы змога, сыходзіліся разам, меркавалі, гадалі: раптам пацягнула людзей адзін да аднаго, паслухаць, выгаварыцца, проста пасядзець у купе.

Стар. 19, радкі 23—26, замест: Вечарам ~ дубком. // Купкі збіраліся па ўсім балоце, дробныя, большыя, мужчынскія, жаночыя, мяшаныя, ля калёс, каля стагоў, каля вячэрніх вогнішчаў, пад якім-небудзь дубком.

На другі вечар пасля таго, калі Ганна вярнулася назад, поўная гора,

Радок 34, пасля: яны // амаль

Радок 35, пасля: не зважалі на //двух мужчын, што сядзелі тут жа: старога Дзяніса і

Радок 37, пасля: каня. // Пагаманілі пра Ганніну бяду: Сарока сказала, што мінуту як бачыла яе — бы не пазнае, глядзіць як на незнаёмую. Мачыха гаротна выцерла хусцінкай вочы: як звар'яцела Ганна, ледзь адарвалі ад магілы. Паўздыхалі, пабедавалі, памаўчалі: сёй-той, пэўна, успомніў даўнюю крыўду Дзятлікаў на Ганну — ці вельмі ж далікатна гаварыць аб ёй пры Дзятлісе! Канечне, Васіля блізка няма, а матка ж чуе, ды і Дзяніс таксама.

Стар. 22, радок 36, замест: Тады //, калі

Стар. 25, радок 31, замест: тумановскія! // ў Глінішчах!

Стар. 26, радкі 24—38, стар. 27, радкі 1—16— адсутнічаюць.

Стар. 27—48 асноўнага тэксту (другі — сёмы падраздзелы II раздзела) адпавядаюць стар. 20—33 трэцяга — восьмага падраздзелаў I раздзела часопіса («П.», 64, № 1).

Стар. 29, радок 31, замест: За ёй // Аднойчы

Радок 42, замест: раптам кінулася // апоўдні пайшла

Стар. 30, радок 43, замест: вяленню // настрою

Стар. 34, радок 5, замест: папяцца // ўвайсці

Стар. 36, радок 31, пасля: калі // бацька і стары Глушак

Радок 33, слова:, паслухмяна — адсутнічае; пасля: развітацца // апошні раз

Стар. 39, радок 24, пасля: «добры вечар» //, пакланілася

Стар. 40, радок 3, замест: Куліна // Ігнаціха

Стар. 41, радок 24, пасля: Зняў // з яе

Стар. 42, радок 4, замест: калі яна — асцярожная, старанная — толькі пачала // калі яна толькі — асцярожная, старанная — пачала хадзіць

Радок 24, замест: запрыпяцкай грады. // каляпрыпяцкай даліны.

Стар. 44, радкі 30—31, замест: прыкаваны, // на прывязцы,
Стар. 45, радок 23, замест:, мабыць, //, здаецца,
Стар. 48, радок 7, замест: сенажаць. // сенакос.
Радок 32, замест: мірна, // пакуль,
Стар. 49, радкі 1—15 асноўнага тэксту адпавядаюць стар. 47, радкам 1—12 першага падраздзела III раздзела часопіса («П.», 64, № 1).
Радкі 1—2, замест: багата каго з куранёўцаў не вельмі засмуціла. // якое адгукнулася ў Хадосьцы такой супярэчлівасцю пачуццяў, іншых куранёўцаў мала засмуціла.
Радок 3, замест: Нямала // Багата
Радкі 22—39, стар. 50, радкі 1—43, стар. 51, радкі 1—43, стар. 52, радкі 1—43, стар. 53, радкі 1—43 асноўнага тэксту адпавядаюць чацвёртаму падраздзелу II раздзела часопіса («П.», 64, № 1).
Стар. 49, радкі 15—19, замест: З чужых ~ пачуццяў. // На Ганніну бяду адгукнулася Хадоська не звычайна, не гараваннем — складанай супярэчлівасцю пачуццяў.
Радок 19, замест: ўсё ў абодвух // ўсё ў Хадоські
Радкі 20—21, сказ: У шчырае Васілёва шкадаванне пра Ганніна няшчасце ўвесь час улазілі ўспаміны пра карчоўскія крыўды...— адсутнічае.
Радок 22, замест: Хадосьцы // Нядобрую
Радок 22, пасля: прынёс // Хадосьчын
Стар. 54—70 асноўнага тэксту адпавядаюць стар. 33—41, 44—47 першага — трэцяга, пятага падраздзелаў II раздзела часопіса («П.», 64, № 1).
Стар. 55, радок 36, замест:, але нібы не разумела нічога; // яе, як бы не чуючы нічога;
Стар. 57, радок 20, замест: гэтае прайшло, як далёкая хмара; //, далёкае гэтае прайшло, як хмара;
Радок 25, пасля: малявала // зноў,
Стар. 60, радок 31, замест: схаваць жаль аб дачцэ. // не заплакаць.
Стар. 61, радкі 31—32, замест: Губаты, // Губа,
Стар. 65, радок 16, замест: чула // пачула
Стар. 66, радок 16, замест: заўсёды, // век,
Радок 28, замест: Хадоська ўночы багата // З той ночы багата
Стар. 67, радок 8, замест: згаслыя! // бляклыя!
Радок 20, замест: блытала // муціла
Радок 20, пасля: ўсё // ў душы
Радок 23, замест: блізка, // побач,
Стар. 69, радкі 34—35, замест: Хадоську ўзяў нават гонар за яго.— // бацька не адразу знайшоўся, перамаўчаў.
Стар. 71—95 асноўнага тэксту адпавядаюць стар. 52—56; 6—19 трэцяга — пятага падраздзелаў III раздзела часопіса («П.», 64, № 1, с. 52—56; «П.», 64, № 2, с. 6—19).
Стар. 71, радок 38, пасля: а хто // не ведаў ці
Стар. 73, радок 1, замест: жанчыны, // старой,
Стар. 74, радок 20, замест:, зморана, з нейкай млявай // нібы з прытоенай
Стар. 75, радкі 10—11, замест:, зморany, абыякавы нібы. //, упэўнены, непахісны проста.

Стар. 77, радкі 17—35, замест: У Апейкі ~ ад агню // «Сотні, тысячы людзей — лепшыя сыны народа — на катаргу ішлі адтаго, што балела бяда мужыцкая, што долі добрай мужыку хацелі. Пажарамі палацы панскія пусцілі, рэвалюцыйны вялікі пажар запалілі, які знішчыў вдзек старога свету,— таму што балела бяда рабочых людзей у сяле і ў горадзе. Бяда мужыцкая не давала ніколі спакою Леніну, не было, мабыць, дня, каб не думаў, не дбаў ён пра долю селяніна-працаўніка. Аб долі мужычай рупіцца Ленінская бальшавіцкая партыя». Апейка, у якім ад маладых настаўніцкіх гадоў жыла, гарэла ў душы рамантычная схільнасць да палкіх, шчырых гаворак-прамоў, мог бы гадзіны расказваць пра тое, што рабілі пісьменнікі, філосафы і палітыкі, намагаючыся развязаць тугія вузлы так званага сялянскага пытання. Мог бы прыгадаць Радзішчава і Талстога, народнікаў і Энгельса; мог бы, вельмі дакладна, падрабязна растлумачыць рашэнні партыйных з'ездаў, якія былі відны яму ў жывых сувязях з жыццём. Але, акрамя рамантычнай чуласці, жыў у душы яго вялікі, нерамантычны вопыт сялянскага хлопца, чырвонаармейскага агітатара, валаснога і раённага кіраўніка, які багата пабачыў людзей і багата што спазнаў у іх. Гэта практыка даўно навучыла яго цаніць канкрэтнасць, дзелавую дакладнасць у кожнай гаворцы. Усё гэта было не так проста, калі ўлічыць, што канкрэтнасць, факты і іх значэнне ў кожным асяроддзі і ў кожным выпадку былі свае, адгукаліся па-свойму...

Людзі не гаманілі, не заўсёды і адмахваліся ад камароў, калі

Стар. 79, радок 22, замест: на зямлі нашай — // на пясочку —

Стар. 80, радкі 20—21, замест: той нелагодна адвёў вочы. // чужое, непадступнае было ў ім.

Стар. 81, радок 25, замест: адужваючы // перасільваючы

Стар. 82, радок 38, замест: Не аднаму // Найбольш

Стар. 92, радок 9, замест: таксама // так жа

Стар. 94, радок 27, замест: неспакой // страх

Стар. 95, радок 16, пасля: працавіта... // Якая ні думная была гэта ноч для некаторых, не ўсе вельмі думалі, не ўсе не спалі. Большасць куранёўцаў у гэту ноч мала думала і хутка заснула; багата хто — дык ледзь дакрануўшыся да зямлі. Большасць цешыла сябе, што нічога асаблівага з усіх гэтых гаворак не выйдзе і, значыць, баяцца няма чаго, або лічыла: што б там ні было, думаць зараз не час, падумаць можна і пазней, тым больш, што раніца мудрэй за вечар, не кажучы ўжо аб ночы. Былі на куранёўскім балоце і такія, што лічылі наогул непатрэбшчынай думаць: што будзе, тое будзе! Нашто ламаць галаву папусту...

Ва ўсякім разе, большасць у гэту ноч спала. Большасцю правіў звыклы абавязак: заўтра рана ўставаць, рабіць. Для большасці гэта было самае важнае. Яны спалі і не бачылі, як хмары адну за адной закрывалі векавечныя зоры, як маланкі палыскалі бліжэй і бліжэй. Не чулі, што грымела ўсё мацней.

Стар. 95—98 (пяты падраздзел) — адсутнічаюць.

Стар. 101, радок 32, замест: безнадзейнай // мімалётнай

Стар. 103, радкі 14—15, замест: пранікліваe. // пранізліваe.

Стар. 104, радкі 37—38, замест: круцяцца і тут галадранцы;

самі ўлезлі ў арцель ды другіх цягнуць ледзь не сілаю. // кру-цяцца і тут колькі галадранцаў, больш маладых, арцель сабраць мерацца. Радок 39, пасля: іншыя // ўсе

Стар. 105, радкі 29—30, замест: Халімон, // Глушак,

Стар. 112, радок 18, замест: цісnуў плячом вушак. // ляжаў плячом на вушаку.

Стар. 114, радкі 26—27, замест: пляскаты // плоскі

Стар. 119, радок 1, замест: сваё, нязменнае: // цвёрдае, каменнае:

Стар. 121, радок 27, замест: крывыя // чоркыя

Стар. 122, радок 13, пасля: Ішоў к // лаўцы, к

Радок 13, пасля: Глушаку //, ўсё

Радкі 14—17, замест: позіркам. Прыгорблены ~ рукі... // позіркам валочачы ногі; здалося раптам — кінецца зараз, растапыранымі пальцамі ўчэпіцца, апчаперыць шыю насмерць. Глушаку аж стала трохі нядобра.

Радок 32, пасля: п'яна //, люта

Стар. 126—166 асноўнага тэксту адпавядаюць стар. 3—23 першага — сёмага падраздзелаў I раздзела часопіса («П.», 65, № 9).

Стар. 126, новы падраздзел у часопісе пачынаецца сказам: Тое, што пачалося ў лузе, перайшло ў сяло.

Стар. 132, радок 7, замест: круціла галавой, з чырвоным, злым тварам, // круціла худою, з чырвоным, злым тварам галавой.

Стар. 147, радок 19, пасля: Міканор. //, калі быў вольны.

Стар. 153, радок 40, замест: Дзяцел // Васіль

Стар. 158, радок 1, замест: абглядвае // абзірае

Стар. 163, радок 33, замест: страхі. // саломы.

Стар. 168, радок 20, замест: паўз Прыпяць. // па Прыпяці.

Радок 31, замест: квола, нібы павуціна, //, нібы павуціна, квола

Стар. 171, радок 17, замест: радзей // больш рэдка

Радкі 30—31, замест: на такія сустрэчы // навінамі

Стар. 172, радок 16, пасля: Іншы раз // таратайка за хатамі ўлазіла ў дрымотны хвойнічак. За хвойнічкам каляіны хутка цямнелі, рабіліся чорныя, вільготныя. І

Радок 16, пасля: абступаў // ужо не санлівы, хвойны, а

Радок 20, замест: пяшчэра. // пячора.

Стар. 173, радок 15, замест: асобна. // разарвана.

Радок 40, замест: нішто // нічога

Стар. 174, радкі 29—30, замест:, якія век не бачылі //, які век не бачыў

Стар. 177, радкі 27—28, замест:, з рознымі, часам супярэчлівымі якасцямі, імкненнямі, пачуццямі //, поўных розных, часам супярэчлівых, якасцей, імкненняў, пачуццяў

Стар. 182, радкі 31—32, замест: у Кіеў — ва ўпраўленне // у Кіеўскае ўпраўленне

Стар. 187, радкі 6—9, замест: Апейка яшчэ не зусім прывык да гэтай перамены — калі думае пра Валодзю, разам з радасцю паяўляецца часта і шкадаванне: нялёгка маломуl.. // Апейка яшчэ не зусім прывык да гэтай перамены — разам з радасцю, калі думае пра малога, паяўляецца часта і шкадаванне: нялёгка маломуl..

Стар. 189, радок 25, пасля: прызначэння, // начальнікам ДПУ,

Стар. 197, радок 27, замест:, вядома, //, канешне,

Стар. 201, радок 5, замест: на яго ўроках. // ля яго.

Радок 6, пасля: дзеці, // патрохі

Стар. 203, радкі 14—15, замест: зацяганай, // патрапанай; радкі 15—16, замест: у ружовай і залатанай пад каўняром // у памятай і прадранай на каўняры; радок 35, замест: Халімона. // Ігната.

Стар. 212, радок 12, замест: зачапіў! // пакрыўдзіў!

Стар. 215, радкі 3—4, замест: дамоўку. // хату.

Стар. 218, радок 35, замест: — Наш, з універсітэта... студэнт наш... // Цішэй, са скрухаю дадаў: — Наш студэнт быў... Памёр ад тыфу...

Стар. 223, радок 10, слова: яе — адсутнічае.

Стар. 228, радок 6, замест: пагрозны // пракурорскі; радок 7, словы: і пагрозы — адсутнічаюць.

Стар. 229—267 асноўнага тэксту адпавядаюць стар. 36—61 першага — дзевятага падраздзелаў V раздзела часопіса («П.», 64, № 1).

Стар. 229, радкі 8—9, пасля: зацягвацца // жывая

Стар. 230, радок 39, замест: Ганна // яна; радок 41, замест: яна // Ганна

Стар. 232, радкі 6—8, замест: Яна прайшла зараснік, багата лесу, што абступаў бярозамі, дубамі, асінамі, падлескам.

Ужо сярод лесу яна // Яна прайшла алешнік, дуброву на выспе, апынулася ў лясочку, між бяроз і строгіх елак; радкі 17—18, замест: ішла лесам. // ішла праз алешнік і дуброву.

Стар. 233, радок 8, словы: Яўхіма ці — адсутнічаюць.

Радкі 34—36, тэкст: Батрачкай, рабою іх век быць?! Рабою скнарых ненажэр, рабою — праўду ж кажуць — п'явак людскіх, кулакоў.— адсутнічае.

Стар. 234, радок 3, замест: як ні стрымлівала іх, // што доўга кіпелі, чакалі сваёй хвіліны, нястрымна; радок 26, замест: даўкай // важкай.

Стар. 236, радок 8, замест: Карціць таксамо... // Дадому закарцело...

Стар. 239, радкі 5—10, замест: — Рабіць багато застаўляюць, ~ Але толькі момант. Больш, // — А я думаў...

— Што ты думаў?

— Я думаў, што ты... што табе... анігадкі... не горко...

— Ты думаў! Эх, Вася!

У яе голасе быў не дакор яму за тое, што мог так думаць, а яе боль за сваю долю. Ужо,

Стар. 241, радок 29, тэкст:, што аказалася якраз у іх палавіне,— адсутнічае; радок 39, замест: — Не навучылі! Цябе не пыталіся! // — Цябе не пыталіся! Абышліся без цябе!

Стар. 243, радок 8, пасля: сабе // невясёлы; радок 8, замест: смутак. // настрой.

Радкі 13—14, замест: паспакайнела, і думкі пайшлі цвярозыя, рашучыя. // неяк памякчэла, і грудзі яе стала паліць крыўда.

Радок 15, пасля: цярпець!.. // — думала яна.—

Радок 33, замест: моцнымі // тугімі

Радок 39, замест: вуглом // рогам

Стар. 244, радок 38, пасля: Васіль // няўпэўнена,

Радкі 40—43, стар. 245, радкі 1—8, тэкст: Стаў лашчыць яе, ~ Доўга не гаварылі.— адсутнічае.

Стар. 245, радок 8, замест: Раптам, з роспаччу, Ганна прызналася: // Прытуліўшыся да яго, Ганна раптам з роспаччу, не разважаючы, не стрымліваючыся, прызналася:

Радок 9, пасля: Вася... // Адразу ж падумала: нашто сказала, нібы паскардзілася. Нікому раней такога не гаварыла. Што ж — не чужы ж, каб таіцца ад яго. Баліць, таму і сказала. Хіба ж усё жыццё толькі самой — адной — боль насіць?

Радок 10, замест: адчула, // адчувала,

Радок 10, замест: нібы // бы

Радкі 12—15, замест: Ён насцярожыўся:

— Ну, ты... тое!..

— Табе аднаму кажу... Не пытайся болей! Не хачу пра яго! // Ён насцярожыўся:

— Ну, ты... тое!..

— Табе аднаму кажу...

— Не любіш... яго?

— Ненавіджу! І ён знае ето...

— Б'е цябе ён, а?..

— Не пытайся болей! Не хочу пра яго!

Радок 24, пасля: што ты е... // Вася, ты не думай пра мяне чаго паганага. Я толькі шчасця хачу табе! Свайго мне ўжэ, мабуць, не дачакацца. Дак мне і таго даволі — што ў цябе будзе шчасце.

Радок 25, пасля: не думай // чаго

Стар. 247, радок 9, замест: паспела, // ўправілася,

Стар. 248, радок 34, замест: злосна, // люта,

Стар. 250, радок 31, замест: разважная, // чулая; радок 31, пасля: разумная, // бачыла,

Стар. 251, радок 1, замест: бачыць // бачыла

Стар. 252, радок 11, замест: цеснай // гнілой

Стар. 255, радок 5, замест: ляснула // гухнула; радок 40, замест: валка // важка

Стар. 258, радок 13, пасля: — та-скаць — // —етым часам —

Радок 14, слова: асобеннае — адсутнічае.

Стар. 260, радок 31, замест: Шчаслівыя, // Радасныя,

Стар. 261, радок 19, замест:, дак аднаго дзяржыся! //, дак дзяржыся аднаго!

Радок 23, замест: вярэдзіла // пякла

Радкі 36—38, замест: Дня не было ~ аб сваім дабры. // Дня не было такога, каб ранкам, днём, вечарам — у працы, у думках — не жыў, не поўніўся сваім вялікім жаданнем, няўціхным, прагным клопатам.

Радок 38, пасля: дабры. // Маці, бачачы, як ссох у сваёй упартасці, шкадавала, спрабавала прыцішыць: «Не канешне ўжэ так ірвацца! Не дзенецца нікуды яно! І пра сябе б падумаць не грэх! Пабярог бы сябе!.. Счарнеў унь як — адны шчэлепы тырчаць!..» У Васіля на гэтыя бедаванні было заўсёды адно нецярплівае, рашучае: «Ат!» Яго «ат!» значыла: не тое, што гаварыць, адказваць, а і слухаць няма чаго!..

Дзед Дзяніс, сам трудзяга, цярплівец незвычайны, і той,

гледзячы на Васіля, іншы раз круціў лысай галавою трывожна: «Глядзі, кажу, штоб, тым часам, не перарваўся! Не бярыся, кажу, за тое, што падняць не можаш...» Ад дзеда Васіль так не адмахваўся, як ад маці, спакайней чуў словы дзеда, але таксама — не браў яго парад. Рабіў усё па-свойму. Нібы знарок паказваў: свой розум ёсць, сваім пражыву!..

Радок 39, словы: Лез, дзёрся. І — адсутнічаюць.

Стар. 262, радок 22, замест: нудна!.. // спакойна трудна!..

Радок 41, замест: Яшчэ адно // Было яшчэ адно, што трывожыла,

Радок 42, пасля: калгасы. // Рай усё малююць — машыны, сталоўкі агульныя, ты адно сядзі на тых машынах ды паплёўвай сабе,— а толькі, калі думаў, калі чуў людскія гамонкі на вуліцы, па хатах, не цешыў той рай. Трывога вялікая брала: чуў, што рай гэты абяцаны — каб угаварыць, каб згадзіліся; каб выпусцілі з рук сваіх конікаў ды каровак, свой дарагі набытак.

Стар. 263, радкі 1—2, пасля: адной,— // хай хоць рэжуць!—

Радок 3, замест: зладжваў // складваў

Радок 29, замест: трэба будзе!.. //, выходзіць!..

Стар. 264, радкі 37—38, замест: Ганна аж стаяць не магла на месцы ад думкі, // Ганне аж плакаць хацелася ад аднаго страху,

Стар. 265, радок 22, замест: непадатнае, // клопатнае; радок 38, замест: сказала, // дадала,

Стар. 266, радок 1, замест: — Яна гаварыла ўсё гарачэй, сур'ёзна:— // — Яна сказала цвёрда і вельмі сур'ёзна:—

Стар. 267, радок 36, замест: парываўся да яе, // балеў душою,

Стар. 268, радок 6, словы: з іх — адсутнічаюць.

Радкі 31—33, замест: — Галенчык углядаўся, вывучаў, з нейкім сваім вывадам ішоў далей. //, вывучаў, з нейкім сваім вывадам, непадступны, ішоў далей.

Радок 33, замест: ён // Галенчык

Стар. 273, радок 8, пасля: К сталу // навольна, зграбна

Радок 8, замест: Ускочыў // Стаў

Радок 32, пасля: слізкае // стварэнне.

Стар. 276, радок 18, пасля: у залу. // Тады

Стар. 288, радкі 3—5, замест: Ён звязаны з імі адным ланцугом. Таму ён і абараняе іх, сплошь і радам служыць ім! Служыць і тайна і адкрыта!.. // Такія сувязі ніколі не абыходзіліся без адпаведных вынікаў! Яны заўсёды пакідаюць свой след!

Стар. 291, радок 9, замест: размахнецца // размахваецца

Стар. 297, радок 28, слова: аднойчы — адсутнічае.

Стар. 310, радок 33, слова: слухаць — адсутнічае.

Стар. 312, радок 35, словы: У сіняках век...— адсутнічаюць; радкі 35—36, замест: пачуўся // вырваўся

Стар. 314, радок 24, пасля: прасіпеў. // Яўхім

Стар. 320, радок 2, пасля: відаць, // што

Стар. 321, радок 6, замест: перабірае. // вырабляе.

Радок 22, пасля: на другога. // Або глядзіць на цябе, а бачыць другога.

Стар. 323, радкі 3—4, замест: затрымлівала // затрымала

Радок 40, замест: замарала!.. // абмарала!..

Стар. 325, радок 27, пасля: трэба!.. // Дый не адзін год! Дый не кожнаму ўдасца! Берагці дабро трэба!..

Стар. 330, радок 38, слова: быў — адсутнічае.

Стар. 335, радок 13, замест: падступае, // падступіла,

Стар. 337, радок 17, слова: вольны — адсутнічае.

Стар. 339, радок 15, замест: няма. // не было.

Стар. 344, радок 22, замест: каб задумаліся // задумацца

Стар. 347, радок 27, замест: поезд, // цягнік,

Стар. 349, радкі 32—33, пасля: дзесяткамі. // Вазьмі любога вясковага чалавека, паварушы ўсе яго «ніці», амаль нязменна знойдзеш — і часта не аднаго — кампраметуючага.

Стар. 368, радок 41, пасля: буржуазіі! // Прадажная зграя!

Стар. 388, радок 5, словы: каля камінка,— адсутнічаюць.

Радок 32, словы: для гэтага яго — адсутнічаюць.

Стар. 390, радок 24, замест: перапаясаным, // падпяразаным,

Стар. 399, радок 40, замест: не можна // нельга

Стар. 400, радок 42, замест: адзіноцтва // адзінота

Стар. 402, радок 25, замест: да яго ідзе постаць. // да яго хтосьці ідзе.

Стар. 407, радок 2, замест: ў бок // на

Стар. 408, радкі 10—13, тэкст: Прыкмеціў: Чарнушка адстаў, аддаў шпянькі Грыбку, не ішоў к Глушакам — але болей Васіль не бачыў Чарнушку. Глядзеў толькі на Яўхіма.— адсутнічае.

Радкі 15—16, замест: Стары // Глушак

Стар. 410, радок 18, пасля: затрымліваюць. // Помсліва, пераможна нагадаў:

Стар. 419, радкі 2—3, замест:, а ціхай сцежкай, што звіліста спадала з гары, паўз яр, паўз агароды. //, а ціхай сцежкай, што паўз яр, паўз агароды звіліста спадала з гары.

Стар. 420, радок 1, замест: сарочцы. // кофце.

Радок 3, замест: хітала // гушкала

Стар. 424, радок 3, тэкст: — І ето, і маёмасць — забяруць?! — адсутнічае.

Стар. 426, радок 11, замест: узбуджанасці, // узрушанасці,

Радок 33, замест: не ўзнікла // не было

Стар. 428, радок 7, замест: насупраць // супроць; радок 34, замест: вялікім гонарам, // за вялікі гонар,

Стар. 430, радок 5, замест: падазрае // падазравае

Радок 8, пасля: ведае ды // толькі

Радок 12, пасля: небяспечная! // У

Радкі 17—18, замест: едкім ядам,— // едкай атрутай,

Радок 26, замест: праз // цераз

Стар. 435, радкі 6—7, замест: на бок //за

Стар. 436, радок 32, замест: допыту. // роспыту.

Стар. 437, радок 25, замест: азіраўся, // азірнуўся,

Стар. 438, радок 14, пасля: пад вечар, // у хісткім водсвіце; Радок 15, слова: нема,— адсутнічае.

Радок 16, замест: песціла, супакойвала // глядзела; радок 18, замест: у хісткім водсвіце лучыны // Прыйшла яна і ўвечары,

Стар. 439, радок 17, замест: Хадоська была з Ганнай, перад магілкай з малым, // Хадоська стаяла з Ганнай перад магілай з малым,

Стар. 444, радок 17, замест: пасварыцца, // пасварыць яго,

Стар. 446, радок 14, пасля: Хведара // кульгавага;

Стар. 452, радкі 1—2, словы: За гэтым — адсутнічаюць.

Стар. 454, радкі 33—41, замест: Ён, гэты год, ~ асабліва на вёсцы. // Гэты год знамянальны тым, што мы ўпершыню змаглі так глыбока зачапіць і ўзняць шырачэзныя слаі рабочага класа і бядняцка-серадняцкага сялянства і паставіць гэтыя масы разгорнутым фронтам на ажыццяўленне пяцігадовага плана развіцця народнай гаспадаркі і культуры. Мы з вялікім поспехам выканалі першы год пяцігодкі, прычым уся наша паспяховая работа ў 1928—29 годзе праходзіла ва ўмовах абвастрэння жорсткай класавай барацьбы, асабліва на вёсцы. Мы можам так характарызаваць палітычнае становішча сярод асноўнай масы сялянства,— хутка, уздымна заяўляў ён,— што бядняцка-серадняцкая маса сялянства перарасла на вышэйшую палітычную ступень, увайшла ў новы перыяд, у перыяд поўнага давер'я да ўсіх тых вытворчых мерапрыемстваў, што праводзяцца савецкаю ўладаю па перабудове вытворчых працэсаў у сельскай гаспадарцы. Адсюль і вынікае масавая калектывізацыя, якая ахапіла цэлыя вёскі, цэлыя раёны, а ў шэрагу выпадкаў ахапіла і цэлыя акругі ўсёй краіны.

Стар. 455, радкі 25—26, словы:,— гаварыў Галадзед,— адсутнічаюць.

Стар. 456, радкі 9—10, замест: аб дванаццатай гадавіне Кастрычніка,— згадаў Галадзед,— // аб выніках нашай працы да дванаццатай гадавіны Кастрычніка

Стар. 457, радкі 2—4, тэкст: — як бы прадчуваючы, што яму могуць запярэчыць, разважліва загаварыў Галадзед,— адсутнічае.

Стар. 462, радок 9, пасля: станавілася // ўжо

Стар. 465, радок 6, замест: яго // Апейку

Стар. 467, радок 2, замест: у бок прэзідыума: // на прэзідыум:

Стар. 472, радкі 36—37, словы: тымі калгасамі,... думалася Апейку,— адсутнічаюць.

Стар. 473, радок 10, замест: ілбом, // лобам,

Радок 41, замест: прыдумвалі, // выдумвалі,

Стар. 475, радок 27, замест: спадзяюцца // верацъ

Стар. 477, радкі 38—41, стар. 478, радкі 1—3, замест: Апейка быў згодны: ~ Не мог зразумець. // «Не з'яўляецца рашаючым»?! Гэта гаварыў чалавек, якому выпала стаць сярод тых, хто павінен быў кіраваць калектывізацыяй; хто толькі што перад гэтым патрабаваў: не ашукваць сялян, не фокуснічаць. Патрабаваў — а сам заяўляў, што зусім не абавязкова лічыцца з рэальным становішчам, з магчымасцямі! Заяўляў, што становішча з кадрамі, з тэхнікай не з'яўляецца рашаючым! Над усім было адно — тэмпы, хуткасць: любым спосабам хутчэй, раней за іншых. Клопат пра гэта быў такі вялікі, што не хацелі чуць трывожных разваг, лічыцца з навакольным. І што горш яшчэ — усялякую спробу агледзецца, разважыць гатовы былі ўзяць як знак няўстойлівасці, як гнілы настрой!..

Стар. 478, радок 6, замест: абгаворвалі // абмяркоўвалі

Радкі 21—22, сказ: Розныя, нязлагадныя думкі засталіся ў Апейкі ад даклада намесніка наркома РСІ Рыскіна.— адсутнічае

Радок 22, пасля: Рыскіна. // Уважліва слухаў Апейка даклад намесніка наркома РСІ Рыскіна.

Радкі 23—26, замест: Рыскін, вельмі зграбны ў акуратнай гімнасцёрцы, зграбны ў рухах, спакойна, разумна растлумачыў, чаму неабходна чыстка дзяржаўнага апарату і чаму ёй дадзена такая ўвага. // Рыскін, вельмі зграбны ў сваім амаль вайсковым адзенні, акуратнай гімнасцёрцы, зграбны ў рухах, лёгка, мякка гаворачы, спакойна, разумна растлумачыў, чаму неабходна чыстка дзяржаўнага апарату і чаму ёй дадзена такая ўвага.

Стар. 488, радок 33, замест: Як для каго, а для мяне // Як каму, а мне

Стар. 499, радок 12, замест: Чуючы, як халадзее ўсярэдзіне, // Голас застраў у горле.

Радок 30, замест: агледзелася // азірнулася

Стар. 504, радкі 19—20, замест: пакуль была хоць нейкая надзея,— // лёгка, не паспрабаваўшы ўсіх спосабаў;

Стар. 506, радок 30, пасля: Хоня //, што забраў з калгаса сваю кабылу, свой воз,

## *Варыянты кн. «П. н.», 66*

Стар. 7, радок 1, замест: Самы пачатак. Ранкі, дні, вечары. //, самая зялёная пара яго. Зелена было на гародах, у полі, на балотах. Зелена было на ўзмежках, абапал дарог, каля куранёскіх платоў. Зямля буяла пад шчодрым сонцам, пад лагодным небам.

Радок 2, замест:, яшчэ шэрым часам, у халадку, // было свежа і росна. Яшчэ ў халаднаватай свежасці — як вялося адвеку —

Радкі 3—5, замест: Млява ~ падласых. //; заспана рыпелі вароты, заспана выпіхвалі гаспадыні і гаспадары рагуль і падласых.

Радок 6, пасля: над стрэхамі, //; чым далей, больш

Радок 6, пасля: гукі; //: пасля рахманых кароў

Радкі 6—7, пасля: званчэй //, нецярплівей

Радок 8, замест: малыя // першыя

Радок 9, пасля: наглядчыкі: //; санлівыя,

Радок 9, замест: бы // як

Радок 10, замест: да // к

Радок 11, замест: Дні былі //Днём Курані

Радок 11, замест: заўсёдным // нехапаткім

Радкі 11—12, словы: Дааараўшы, дасеяўшы,— адсутнічаюць.

Радок 12, замест: палолі поле і грады, // глядзелі калёсы,

Радок 13, замест: рыхтавалі косы, граблі. // рыхтавалі граблі, косы,

Радок 13, пасля: граблі, //, біклагі

Радкі 13—14, замест: Пад поўдзень, калі бліскотна пякло з неба, падсохлую вуліцу, // Абагрэтая сонцам вуліца,

Радкі 14—15, словы: прыгуменні і — адсутнічаюць.

Радок 15, замест: апаноўвала дрымотная млоснасць. // нібы драмалі: гон веснавы сышоў ужо, а летні яшчэ не пачаўся.

Радок 15, замест: Тады // Найчасцей млосны

Радок 16, замест: радамі хат і гумнаў // Куранямі

Радок 16, замест: найбольш // цяпер
Радок 18, пасля: грабянём. //, ашалелых ад сонца ды цішыні. Часам мерна, паважна адбівалі ў гняздзе на зялёнай Зайчыкавай страсе сваё «клё-клё-клё» бусел ці бусліха.
Радок 19, пасля: цішыню // Куранёў
Радок 19, замест: ўбіваўся // урываўся
Радок 19, замест: ад //з-за
Радок 20, пасля: свіней, // пра ўсё на свеце,
Радок 21, словы: дурэлі ці — адсутнічаюць.
Радок 23, слова: Лагоднымі — адсутнічае.
Радок 24, пасля: свінні. //, буслы.
Радок 33, замест: на ўсёй вуліцы // ва ўсіх Куранях
Радок 30, замест: хаты // Курані
Радок 31, пасля: спалі. // Спалі хаты з чорнымі вокнамі, пустыя двары, маўклівая вуліца.
Стар. 8, радок 5, замест: людзей // куранёўцаў
Радок 7, тэкст: Усёвышні ці не пачуў, ці не паслухаўся маленняў: — адсутнічае.
Радок 8, слова: да — адсутнічае.
Радкі 8—9, замест: пачалі нядобра лезці навальніцы. // нахапілася раптам некалькі навальніц.
Радок 14, замест: выбліскі. // зарніцы.
Радок 23, пасля: далей. // Абедзве
Радкі 24—25, замест: наступная // трэцяя
Радкі 25—29, замест: зіхала ~ гумны. // у які момант раптам зіхнула на Пракопавым дубе, расшчапіла ўміг, кінула грымучы агонь свой на гумно Андрэя Рудога. І схамянуцца не ўправіліся, як полымя ўхапілася ўжо за суседняе гумно.
Радок 30, пасля: хоць // людзі,
Радок 33, пасля: сялом, // Крыж, што стаяў у пяску,
Радок 34, пасля: дарог. //, абгарэў, счарнеў, быццам галуза, і; пасля: жанкі // жагналіся; замест: ўбачылі // глядзелі на
Радкі 35—37, тэкст: затрывожыліся: большасць іх меркавала цвёрда, што гэта не на добрае, што чорны крыж — знак божай няміласці.— адсутнічае.
Радок 38, пасля: відаць //, што
Радок 39, слова: таксама — адсутнічае; пасля: не даспадобы. // Глушак стары — той проста сказаў, што гэта не на добрае; што чорны крыж — знак божай няміласці; пасля: Былі // ў Куранях
Радок 40, пасля: трывожыліся // здарэнню з крыжам,
Радок 42, замест: прайшла... // сышла; пасля: прайшла... // Было нямала і такіх, якія хоць і не смяяліся, але і не бедавалі: нібы нічога і не здарылася,— якія як бы казалі: ёсць божкаць чаго, калі і без таго неспакою аж лішне!
Стар. 9, радкі 1—3, замест: І тым, якія баяліся бога, і тым, што пагарэлі, не было калі доўга трывожыцца і бедаваць. //: нават тым, якія пагарэлі, не было калі доўга бедаваць.
Радкі 4—19, замест: Да таго ж ~ выпрабаванаму... // А да ўсяго, больш за ўсё, чулася людзям загадка, якая не адзін дзень, не адзін тыдзень вісела над імі, над усім сялом, невядома што зычыла...
Радок 21, пасля: прыгадвалі // гэтыя дні; пасля: нікому // асабліва

Радкі 23—24, замест: У людзей тут не было ні часу, ні звычкі на пустое думанне, ды і // Усё пакуль было агорнута невядомасцю:

Радок 28, слова: што — адсутнічае.

Радок 30, пасля: праўда //, што

Стар. 77, радкі 17—34, замест: У Апейкі была загана, ~ Добрых машын... // Апейка, у якім ад маладых настаўніцкіх гадоў жыла, гарэла ў душы рамантычная схільнасць да палкіх, шчырых гаворак-прамоў, мог бы гадзіны расказваць пра тое, што рабілі пісьменнікі, філосафы і палітыкі, намагаючыся развязаць тугія вузлы так званага сялянскага пытання. Мог бы прыгадаць Радзішчава і Талстога, народнікаў і Энгельса; мог бы вельмі дакладна, падрабязна растлумачыць рашэнні партыйных з'ездаў, якія былі відны яму ў жывых сувязях з жыццём. Але акрамя рамантычнай чуласці жыў у душы яго вялікі, нерамантычны вопыт сялянскага хлопца, чырвонаармейскага агітатара, валаснога і раённага кіраўніка, які багата пабачыў людзей і багата што спазнаў у іх. Гэта практыка даўно навучыла яго цаніць канкрэтнасць, дзелавую дакладнасць у кожнай гаворцы. Усё гэта было не так проста, калі ўлічыць, што канкрэтнасць, факты і іх значэнне ў кожным асяроддзі і ў кожным выпадку былі свае, адгукаліся па-свойму...

Радок 35, замест: У хісткім чырвоным святле ад агню // Людзі не гаманілі, не заўсёды і адмахваліся ад камароў, калі

Стар. 97, радок 16, пасля: мы // наўперш

Стар. 189, радок 25, пасля: прызначэння // у ДПУ,

Стар. 454, радкі 33—41, замест: Ён, гэты год, ~ на вёсцы. // Гэты год знамянальны тым, што мы ўпершыню змаглі так глыбока зачапіць і ўзняць шырачэзныя слаі рабочага класа і бядняцка-серадняцкага сялянства і паставіць гэтыя масы разгорнутым фронтам на ажыццяўленне пяцігадовага плана развіцця народнай гаспадаркі і культуры. Мы з вялікім поспехам выканалі першы год пяцігодкі, прычым уся гэта наша паспяховая работа ў 1928—1929 годзе праходзіла ва ўмовах абвастрэння жорсткай класавай барацьбы, асабліва на вёсцы. Мы можам так характарызаваць палітычнае становішча сярод асноўнай масы сялянства,— хутка, уздымна заяўляў ён,— што бядняцка-серадняцкая маса сялянства перарасла ўжо на вышэйшую палітычную ступень, увайшла ў новы перыяд, у перыяд поўнага давер'я да ўсіх тых вытворчых мерапрыемстваў, што праводзяцца савецкаю ўладаю па перабудове вытворчых працэсаў у сельскай гаспадарцы. Адсюль і вынікае масавая калектывізацыя, якая ахапіла цэлыя вёскі, цэлыя раёны, а ў шэрагу выпадкаў ахапіла і цэлыя акругі...

Стар. 455, радкі 25—26, замест: гаварыў // тлумачыў

Стар. 477, радкі 38—41, стар. 478, радкі 1—3, замест: Апейка быў згодны: ~ не мог зразумець. // «Не з'яўляецца рашаючым»?! Гэта гаварыў чалавек, якому выпала стаць сярод тых, хто павінен быў кіраваць калектывізацыяй: хто толькі што перад гэтым патрабаваў: не ашукваць сялян, не фокуснічаць. Патрабаваў,— а сам, фактычна, падбіваў на лёгкадумства: заяўляў, што зусім не абавязкова лічыцца з рэальным становішчам, з магчымасцямі! Заяўляў, што становішча з кадрамі, з тэхнікай не з'яўляецца рашаючым! Апейка бачыў, што к тым турботным

фактам, якія пяклі, трывожылі многіх прамоўцаў з акруговых цэнтраў і вёсак, мала хто па-сапраўднаму прыслухоўваўся. Над усім было адно — тэмпы, хуткасць: любым спосабам хутчэй, раней за іншых. Клопат пра гэта быў такі вялікі, што не хацелі чуць трывожных разваг, лічыцца з навакольным. І што горш яшчэ, усялякую спробу агледзецца, разважыць гатовы былі ўзяць як знак няўстойлівасці, як гнілы настрой!..

Стар. 478, радкі 21—40, стар. 479, радкі 1—43,

Стар. 480, радкі 1—27, тэкст: Розныя, нязлагадныя думкі ~ зразумець звычайныя рэчы!..» — адсутнічае.

## *Варыянты час. «Полымя» і кн. «П. н.», 66*

Стар. 8, радкі 12—13, замест: Парыла так, што ў Куранях і ўсё навокал млела ў духаце. // Парыла так, што ў Куранях і навокал усё млела ў духаце.

Радок 17, пасля: расколвалі // разложыстыя

Радок 21, замест: У цёмных хатах // У кожнай хаце ў Куранях

Стар. 19—26 асноўнага тэксту адпавядаюць стар. 48—52 першага і другога падраздзелаў III раздзела часопіса («П.», 64, № 1).

Стар. 20, радок 38, пасля: прамовіў // аж дзіва

Стар. 21, радок 43, пасля: ускочылі // зразу,

Стар. 22, радок 13, замест: У іх // У алешніцкіх

Радок 40, слова: сумны — адсутнічае.

Радок 40, пасля: Чарнушка. //, сумны, поўны, мабыць, горам сваёй дачкі.

Стар. 23, радкі 3—7, замест: У святле ~ За гэтыя гады валасы яго // Ён, збоку было відаць, падужэў за гэтыя гады, раздоссяя ў плячах, моцная, мужчынская шыя трымала яго ўжо не юначую, з загрубелай, абветранай скурай галаву, на якой так жа неслухмяна калмаціліся шорсткія валасы. Яны

Радок 8, пасля: жаўцелі // на скронях,

Радкі 8—9, словы: — над самым ілбом і на скронях,— адсутнічаюць.

Радок 10, замест: Васіль // Быў гэта ўжо не юнак, а мужчына

Радкі 10—11, замест: са сталай, паважнай // са спакойнай

Радок 17, пасля: знае!.. // — Трэба чорту лысаму вашае сено! — весела глянуў на Зайчыка Алёша.

Радок 18, пасля: ўздыхнуў. //, пашкадаваў нібы.

Радок 28, пасля: не паганае. // Не страціш, кветачка, нічого!

Радок 35, пасля: Тады ж // Андрэйчыка Рудого,

Стар. 25, радок 9, пасля: заданне! // Сам папросішся, кветачка!

Радок 30, замест: Жывуць // Не гаруюць

Радкі 35—36, пасля: прыгналі! // Трактар ды касілку шчэ павінны!

Стар. 27—45 асноўнага тэксту адпавядаюць стар. 20—33 трэцяга — восьмага падраздзелаў I раздзела часопіса («П.», 64, № 1).

Стар. 29, радкі 12—14, замест: Ужо блізка да раніцы прарваўся, загуў вакол дождж — спорны, але нядоўгі. Калі ж ён сціх, бліскала і грымела далёка. // Было ўжо блізка да раніцы, калі прарваўся, загуў вакол дождж — спорны, але нядоўгі. Калі ж ён сціх, бліскала і грымела ўжо далёка.

Стар. 36, радкі 14—15, замест: ехалі да могілак, ківаліся ў няроўных каляінах. // ўехалі на могілкі, заківаліся між старых і новых крыжоў, прышчаватых верб і разгалістых сосен.

Радок 16, замест: Верачцы ляжаць стала нядобра — // Верачцы стала ляжаць нядобра —

Радок 16, замест: ківае яе, водзіць яе // ківае яе, усю яе хіліць

Радкі 21—28, замест: Каля могілак ~ грудкі гліны. // У зарасніку маладых акацый калёсы сталі. Побач, між нізкага, густога галля, зеўрала ў цяністым поцемку свежая яма з асыпанымі берагамі, чырванелі на ўзгорках пяску сыраватыя грудкі гліны. Мачыха ўзяла Ганну за плячо, гаворачы ласкавыя, суцешлівыя словы, мякка адарвала ад труны, ад малой, памагла ступіць на зямлю.

Стар. 45, радок 34, пасля: як нежывая. // Як у нежывой,

Стар. 54—63 асноўнага тэксту адпавядаюць стар. 33—39 першага і другога падраздзелаў II раздзела часопіса («П.», 64, № 1).

Стар. 54, радок 2, пасля: не знікала // ўсё;

Радок 8, пасля: весялей, // як тады, калі ступала к чорнай процьме страшнага глінішчанскага «вока», калі стукала ў дзверы Захарыхі-знахаркі, калі потым брыла дадому;

Радок 9, пасля: горш. //, як у той халодны, бязлітасны дзень, у тую жахлівую ноч.

Радок 17, пасля: ў белым, // гладкі, з чырвоным тварам,

Стар. 63, радок 12, пасля: зачарнела // няроўная

Стар. 71 асноўнага тэксту адпавядае стар. 52 трэцяга падраздзела III раздзела часопіса («П.», 64, № 1).

Стар. 71, радок 1, сказ: Аднойчы ранкам на лузе паявілася таратайка.— адсутнічае.

Радок 2, замест: Ледзь яна // Таратайка, што

Радок 3, словы: далікатная, прыгожая,— адсутнічаюць.

Стар. 77—87 асноўнага тэксту адпавядаюць стар. 6—19 чацвёртага і пятага падраздзелаў III раздзела часопіса («П.», 64, № 2).

Стар. 77, радок 36, пасля: бачыў // ён

Радкі 37—40, стар. 78, радок 1, замест: Вось паказвалі ў рабоце конную касілку: ~ падразаючы траву. // Яна была, быццам нейкая незвычайная красуня, тая конная касілка, калі гаварыў пра яе ў чырвоным, хісткім водсвеце Міканоравага вогнішча Апейка. Васіль Дзяцел нібы ўвачавідкі бачыў, як добра сядзець на зручным сядзенні касцу, бачыў, чуў, як бегаюць, чыкаюць спрытныя зубы-ножыкі, падразаючы траву.

Стар. 79, радок 38, замест: глебе: // ёй:

Стар. 81, радок 15, пасля: гараць // розныя

Радок 41, словы: Але людзей не прабіла і Міканорава прамова: — адсутнічаюць.

Радок 42, замест: яго // Міканоравых

Стар. 85, радок 41, пасля: калі ўсе // вельмі ж

Стар. 87, радок 16, пасля: сустрэчы!.. // Думалі па-рознаму, засыналі розна. Сарока, заўсёды такая бесклапотная, хвацкая на людзях, не адзін раз на адзіноце чула дзіўную кволасць. Чула раптам на адзіноце, горка, як нязвыклае — што ўдава, што адна, без апоры, без чалавека, хоць чалавек той ужо гадоў пятнаццаць як парыў косці недзе на ваенным полі. Ужо і голасу не чула, як першыя гады, і твару добра не бачыла, і ўпраўляцца навучылася ў гаспадарцы лепш за мужчын многіх, а не-не ды брала раптам уночы раз-пораз маладая, як бы свежая туга-кволасць. Бы і не было тых разлучных гадоў між іх, бы толькі ўчора везла яго, п'янага, крыклівага; п'яны ён заўсёды крычаў, гразіўся, замахваўся на яе. Ён быў дробны, куды драбнейшы за яе, можа самую дужую на сяле; п'яны чамусьці кожны раз сляпіцаю лез біцца, бы хацеў даказаць сваё мужчынскае права быць першым, галоўным. Тады Аўдоццю замахі яго часта злавалі, пазней жа, пасля таго як прынеслі яго паперку — смерць, тое, што ён быў дробны такі, што быў нібы век пакрыўджаны богам і ёю за нішто, дадавала ў гора яе яшчэ пяшчоты і чуллівай жаласці...

Быў Волесь, быў Смарчок; Волесь — для яе, для тых, хто хацеў сказаць добрае; для ўсіх жа іншых, старых і малых — Смарчок; Смарчком, праўду кажучы, найбольш і празывалі; тады і яе зазвычай Смарчыхаю звалі. Звалі за вочы, звалі і ў вочы, яна як бы не заўважала крыўднага; бачыла ж сама — Смарчок і ёсць Смарчок; значыць, і яна Смарчыха, Смарчкова жонка. У вясёлым настроі Аўдоцця нярэдка нават сама пацяшалася над смешнаю сваёй і яго мянушкаю. Толькі як забралі яго на вайну, згадваць стала адно Волесем, лютаваць на таго, хто зваў дурною мянушкаю. А як прынеслі паперку, што злажыў галаву недзе за веру, цара, упілося раптам у галаву нязвычнае, вялікае, незваротнае — Аляксандр! З той пары і ў думках, і на людзях звала-ўспамінала не інакш — Аляксандзер...

Як часта не хапала цяпер яго — Аляксандра! Якая б ні прыходзіла бяда, якія б ні лезлі сумненні, ён быў такі патрэбны, яе дарадчык, яе апора, праз багата гадоў у душы ныла шкадаванне: яго няма! Аляксандр гэты, якога ёй не хапала, разумны на ўсё і дужы, як ніякі другі, быў вельмі мала падобны на дробненькага, крыклівага Волеся, і ўспамінала яна цяпер яго найбольш ад звычкі, але шкадаванне, смутак бралі яе не абы-як. Гэта быў нявыдуманы смутак, бедавала яна шчыра, усёй душой: ёй жа так патрэбна была разумная дарада, дужая падтрымка! От і тут ляжала яна пад возам, накрыўшыся світаю, згадвала, што казалі юравіцкі старшыня і Міканор, што крычалі жанкі і мужчыны, і чула ў сабе страшную няпэўнасць. Здавалася, быццам хтосьці скінуў яе сярод бяскрайняй, бяздоннай ракі, а яна і толкам плаваць не ўмее, і чарната-ноч кругом, і бераг чорт яго ведае дзе. І ці ж дзіўна, што сярод гэтай чарнаты на рацэ, чуючы халадок ■ бяздоннай глыбіні, яна згадвае-заве ратоўнае: «Аляксандзер! Аляксандзерко мой!..»

Самае страшнае: сіла кудысьці прападае! Знае ж яна, Аўдоцця, другім крычала: згуба — арцель гэтая, сцеражыцеся, беражыцеся, а от — няма цвёрдасці, прапала кудысьці! І тады, як

слухала гэтага юравіцкага, і цяпер не адступае, кружыць галаву спакуса: разам бы, праўда; прытуліцца да купы!.. І як ты адгоніш спакусу гэту: калі ёй купа, сям'я трэба, пэўне ж, больш, як каму другому! А толькі, знае, трэба трымацца, сцерагчыся ад спакусы: паддасіся ўгаворам — і таго не будзе, што ёсць! І тое, што нажыла, на вецер пойдзе! Які ён ні ёсць конік, а свой, і палоска свая; дасі ім — і яны што-нішто дадуць табе! А там — дулю мо палучыш! Хто хітрэйшы, ды здаравейшы, ды не адзін — той мо і палучыць! А ты, адна, без чалавека — дулю! За коніка ды за зямельку сваю!.. Толькі ж спакуса не адыходзіць, кружыць галаву надзеяю: а мо і праўда, што кажуць? Для такіх жа, для гаротных, як ты,— клянуцца! Сама ж бачыш — Карчоў як прыціснулі, багацеяў усіх!.. За ўсім падступіў адчай: разбярыся тут, калі ўсё так заблыталася!.. Была б не адна, быў бы Аляксандр жывы, тады б і думак такіх не мела! Не была б адна сярод чорнай ракі! Ведала б, куды плыць!.. Кволая, у адчаі, згадала далёкае-далёкае: як ён стаяў каля капы жыта, піў ваду — набгом, з паліванай гладышкі. Вада цякла па барадзе, на грудзі —ён знарок так піў — каб трохі пападала на грудзі, халадзіла. Багата гадоў ён так піў; чамусьці гэта і ўспаміналася заўсёды. І цяпер згадка дадала горнасці, яшчэ распаліла адчай.

«Аляксандзер! Аляксандзерко мой!..» — затрымцела раптоўным, прыдушаным плачам Аўдоцця...

Калі наплыў чуласці сышоў, аціраючы слёзы, Сарока як бы папракнула сябе за кволасць: пабачыў бы хто яе такую! Яна прыслухалася, ці спіць сын, што ляжыць побач, паправіла на ім світку і пачула, як змарылася за дзень і ноч. З гэтай зморою і забылася на ўсё...

Радок 17, замест: Чарнушку доўга не спалася. // Доўга не спалася Чарнушку.

Стар. 126—166 асноўнага тэксту адпавядаюць стар. 3—27 першага — сёмага падраздзелаў І раздзела часопіса («П.», 65, № 9).

Стар. 126, радок 25, пасля: разам //, гуртам

Стар. 127, радок 22, замест: У той дзень // Калі вялі і везлі,

Радок 30, пасля: бацька. // Радасна, на

Радок 37, слова: ўслед.— адсутнічае.

Стар. 129, радок 22, замест: пара і табе ў калякцію, // паедзем у калгас,

Стар. 132, радок 23, замест: і калгасаўцы і проста цікаўныя, // і тыя, што ўступілі ў калгас, і тыя, што не ўступілі,

Стар. 136, радок 8, замест: твой, // свой

Радок 8, замест: твая! // свая!

Радок 8, замест: твае! // свае!

Стар. 141, радок 22, слова: ён,— адсутнічае.

Стар. 145, радок 41, пасля: сказаў // заклапочана

Стар. 147, 5 падраздзел пачынаецца словамі: З безлічы рэчак і ручаін зліваецца вялікая, шыракаплынная Прыпяць, з мноства ручаін зліваецца чалавечае жыццё. Нямала ручаін убірала ў сябе і, нібыта ціхае, жыццё ў Куранях. Сярод іншых — даўніх — з дня ў дзень бегла сваёй дарогай новая, адметная, пачатая Міканорам.

Бегла няпроста.
Радок 3, слова: ў хлявах — адсутнічае.
Радок 3, пасля: коні. //; асабліва жанкі.
Радкі 4—5, сказ: Асаблівай настойлівасцю, было прыкметна, вылучаліся жанкі.— адсутнічае.
Радок 5, слова: праўда,— адсутнічае.
Радок 5, замест: быццам // нібы
Радок 5, пасля: карміць, // памагалі
Радок 6, словы: але старанне гэтае больш давала адзін вынік: — адсутнічаюць.
Радкі 8—9, замест: але, непаслухмяныя, яны лезлі і лезлі // але жанкі ішлі і ішлі
Радок 12, пасля: рагуль. // Нязвыклае паволі рабілася звыклым.
Радок 20, пасля: Намалочанае // і правеянае
Радкі 20—26, тэкст: Намалочанае ~ вартаўніком.—змешчаны пасля сказа: Усе разумець павінны. («П.», 65, № 9, стар. 16; «П. н.», 66, стар. 166).
Радок 26, пасля: вартаўніком. // Зайчыха і Алёшава сястра веялі.
Радок 27, замест: Неяк ранкам, прыкладна так з месяц // Праз дзень
Стар. 148, радок 10, замест: Нязвыклае паволі рабілася звыклым. // Па ўсім было відаць: калгас жыве. Жыве па-сапраўднаму, дзень за днём.
Радок 11, замест: кожны // Кожны
Радкі 34—35, замест: З прычыны асаблівага значэння Мікановра цемнаватая і цесная // З Міканорам і
Стар. 153, радкі 14—15, замест: Кажуць, // Хведар кульгавы сказаў, што і Нібыта-Ігнат збіраецца араць; калі ж Хведар запытаў, ці не баіцца ён, што старанне яго прападзе, той сказаў,
Радок 42, замест: Дзятла // аратага
Стар. 154, радок 3, замест: Дзяцел // Васіль
Радкі 34—36, замест: Дзяцел непрыхільна павёў вачыма наперад. Міканор нібы ўбачыў у яго позірку: от прыперла чорта не ў час! // Васіль непрыхільна павёў вачыма наперад: от прыперла не ў час!
Радок 37, замест: не тоячы прыкрасці // нудзячыся
Стар. 155, радок 6, замест: Дзяцел, // Васіль,
Радкі 13—14, словы: ледзь стрымліваючыся,— адсутнічаюць.
Радок 16, словы: У ім расло раздражненне.— адсутнічаюць.
Радкі 19—20, замест: стрымаў сябе, // занудзіўся,
Стар. 156, радок 3, замест: Дзяцел // Васіль
Радок 17, замест: Дзяцел. // Ён.
Радок 39, пасля: Часта // проста
Стар. 158, радкі 21—22, замест: пазваў Алёшу Губатага ўбіць калок. // сказаў Алёшу Губатаму ўбіць калкі.
Радок 22, пасля: Міканор // пазваў яго найперш да сябе,— Міканор
Стар. 160, радкі 16—17, замест: стругаць толькі. // пакідаць з карою.
Стар. 163, радкі 28—30, замест: Праверыў, ці добра стаіць.

Разуўся, аддаў боты бацьку, ступіў нецярпліва на папярэчыну. // Праверыў, ці добра стаіць, ступіў ботам на папярэчыну.

Радкі 35—36, замест: уцінаючы пальцы ног у салому, // уцінаючы наскі ботаў у страху,

Стар. 164, радок 6, замест: падхапіў: // пазваў

Стар. 165, радок 11, слова: блізка — адсутнічае.

Стар. 167—225 асноўнага тэксту адпавядаюць стар. 28—65 першага — пятага падраздзелаў II раздзела часопіса («П.», 65, № 9).

Стар. 167, радкі 1—2, замест: Апейка багата ездзіў. Ледзь не штодня даводзілася выпраўляцца ў тую ці іншую дарогу. // Ледзь не ўсе дні Апейка жыў па-паходнаму. Ледзь не кожны дзень — па сельсаветах, па вёсках, па дарогах.

Радок 6, пасля: каню. // На гары было некалькі, найбольш новых, местачковых хат, сярод якіх высілася старая цагляная царква, пра якую некалі Апейка з гонарам і здзіўленнем вычытаў некалькі слоў у «Расіі» Сямёнава-Цяньшанскага. Царква стаяла нябеленая, абадраная, яе даўно ўжо меркавалі закрыць, але здалёк, асабліва сонечнымі днямі, здавалася дзіўна белаю і вясёлаю. Адсюль,

Стар. 172, радок 32, пасля: ішлі, // навісалі,

Радок 33, словы: чорна звісалі — адсутнічаюць.

Радок 38, пасля: Апейка. // Багата гадзінківаўся ён на скураным сядзенні выканкомаўскай таратайкі або ў выканкомаўскіх санях, побач з санлівым і маўклівым Ігнатам ці адзін. У самых закінутых, за лясамі, за балотамі, сёлах было багата ганкаў, на якія ён ступаў як на свой у мястэчку, багата дзвярэй, падыходзячы да якіх ён загадзя ведаў, дзе трэба прыгнуцца, а дзе можна і не прыгінацца. Акрамя ганкаў і дзвярэй, было нямала ў блізкіх і далёкіх сёлах канап ды ўслонаў, якія Апейка ведаў як свой ложак або з якімі пазнаёміўся хоць бы раз.

Стар. 177, радок 26, пасля: свет; // свет не застылых, просценькіх, чорна-белых істот, якіх з цвёрдых і высокіх меркаванняў малявалі ў папулярных брашурах і ў газетах,— а

Радок 32, замест: змяніць гэты свет на больш зручны, выдуманы; // жыць сярод выдуманых, камусьці зручных істот;

Стар. 178, радок 1, пасля: рысы — // вельмі

Радок 2, пасля: нейкая // вялікая

Радок 3, замест: разам // нязменная

Стар. 179, радкі 2—3, пасля: Зрабілі. // І, канешне, не дарэмна, сумленна заслужана — у Алешніках, у сельсавеце,— пад шклом — грамата за будаўніцтва дарог, падпісаная самім Міхаілам Іванавічам Калініным.

Стар. 184, радок 25, пасля: нялюдскага. // Чыстая паэзія і зямная, з брудам, з гразёю, проза разам поўняць яго жыццё. З дня ў дзень, нязменна.

Радок 29, пасля: яго // чыстая,

Стар. 192, радок 18, пасля: прачытаў // раз, потым другі.

Радок 30, замест: Аб'ява // Гэта аб'ява

Радкі 31—32, пасля: партячэйку. // Ён пагляздеў другі раз, калі пачатак — ці не памыліўся; намерыўся ісці, але вочы мімаволі выхапілі — «асабліва — кампрамеціруюшчыя матэрыялы».

Радок 33, замест: , што аб'яўлялася, // гэта

Радок 36, пасля: усё ж // як бы
Радок 36, замест: зашчымела, // пахаладнела,
Радок 38, замест: сёння // гэты раз
Радок 39, пасля: матэрыялы» — // як бы
Радкі 39—40, замест: ў памяці, не адступала, не ціхла. // не толькі ў галаве, а і ў сэрцы: засела, зашчымела, адазвалася халадком у грудзях...
Радок 43, пасля: Ніхто і нішто! // Ніхто і нішто!»
Стар. 210, радок 29, пасля: за радком... // «Адзін з такіх... нацдэмаўскіх падбрэхічаў... так званы «паэт» Алесь Маёвы... у сваім лакейскім асляпленні... дакаціўся да таго... што выступіў на сходзе літфака... дзе спрабаваў узяць пад абарону... багоў... з нацдэмаўскага балота... Камсамольская ячэйка... ударыла па руках... наваяўленаму нацдэмаўскаму падбрэхічу... З уздымам выключыла «паэта»... з шэрагаў камсамола... як адшчапенца... і перараджэнца...»
Стар. 211, радок 15, замест: як бы свяціліся знутры. // аж прасвечвалі навылёт.
Стар. 213, радок 27, пасля: стаў // успамінаць,
Радкі 36—38, замест: У памяці ажыло далёкае: якім ведаў яго ўпачатку. ~ ў вочы. // Яны былі даўно знаёмы. Апейка вучыў яго. Потым ён нават хваліўся не раз: «Мой вучань!» Апейка ведаў яго яшчэ дзікаватым і хваравітым хлапчуком. Вельмі звычайным; хлапчук той нічым асабліва не кідаўся ў вочы.
Радок 40, замест: Добра помніцца: вельмі здзівіўся, // Апейка вылучыў хлопца толькі тады,
Радок 42, пасля: быў // Апейку
Радок 43, замест: Дзіўна не забываліся // Апейку дзіўна запомніліся
Радок 5, замест: цяпер не помнілася // Апейка цяпер не помніў,
Радок 10, пасля: тады // Апейку
Радок 14, пасля: чулае ў // Апейкавым
Радок 14, пасля: сэрцы — // ён
Радок 15, замест: Гэта // Для Апейкі гэта
Радок 15, пасля: адкрыцце: // такі
Радок 17, замест: Нібы // Апейка нібы
Радок 20, пасля: напісаў?» // У Апейкавых руках быў сшытак, лісток з-пад абгорткі.
Радок 20, замест: Алесь // Хлопец
Радок 25, пасля Калі // Апейка
Радок 25, слова: яго — адсутнічае.
Радок 28, пасля: адступацца // Апейка
Радок 28, словы: ад яго — адсутнічаюць.
Радок 31, пасля: калі // Апейка
Радок 30, слова: яму — адсутнічае.
Радок 32, пасля: нікому!..» // Не вундэркінд.
Радок 39, пасля: як // Апейку
Радок 40, замест Калі б // Калі ж бы
Радок 48, пасля: дзікасці. // Спасцярожлівы, недаверлівы;
Радок 48, замест, Век, // век,
Стар. 215, радок 2, замест: Потым // Апейка потым
Радок 8, пасля: ля акна, // Апейка

Радкі 12—13, замест: ляжаў недзе ў салдацкай магіле, // парыў косці на ваенным полі,

Радок 35, замест: Ён, настаўнік, // Апейка,

Радок 39, замест: Пытаўся тады яго: // Апейка папытаўся:

Радок 42, замест: Так // Апейка так

Стар. 216, радок 2, пасля: днём // Апейка

Радок 8, пасля: вершам. // Апейка тады, таксама ўжо другі год, рабіў у райвыканкоме: у выканкоме, ды і сярод іншых знаёмых, мала было такіх, хто б не пабачыў тую газету, не даведаўся, што гэта яго былы вучань, не пачуў парады запомніць гэтае прозвішча — прыйдзе час, яго будзе ведаць кожны граматны чалавек на беларускай зямлі.

Радок 9, пасля: газету // Апейка

Радок 10, пасля: дома // ў Апейкі

Радок 11, пасля: якія // Апейка, хоць паказваў ужо не так шчодра, як тую першую, а ўсё ж

Радок 12, замест: Цяпер, калі // Другі год

Радок 12, пасля: вучыўся // ўжо

Радок 14, замест: Алесь // хлопец

Радок 23, замест: Заяц // Кукса

Радкі 38—39, замест: часам здавалася — малаканкрэтныя, // не заўсёды, на Апейкаву думку, канкрэтныя, часам

Радок 40, пасля: заўсёды — // усхваляваныя,

Радок 41, замест: Чытаў // Апейка чытаў

Радок 43, пасля: дачыненне. // : калі быў вольны час, перабіраў кожны верш са строгай уважнасцю і чуласцю. Ён чуў сябе яшчэ нібы адказным за свайго падрослага вучня.

Стар. 217, радкі 1—5, замест: Згадалася, ~ вочы... //

Гэтай зімой, едучы дадому на канікулы, хлопец па дарозе з Калінкавіч зайшоў у выканком. Апейка ад душы ўзрадаваўся дужаму, мужчынскаму поціску абветранай, нахаладалай рукі, весела глядзеў у заружавелы, прыгожы хараством маладосці твар, у чыстыя, без хмурыначкі, вочы.

Радок 16, пасля: гужоў — // Апейка

Радок 18, замест: Алесь // хлопец

Радок 21, пасля: далёка, // Апейка

Радок 40, замест: Алесь // Ён

Радок 41, замест: Было відаць, // Апейка раптам пабачыў,

Радок 41, замест: хлопец // ён

Стар. 218, радок 2, замест: Тады // Апейка тады

Радок 3, замест: той // ён

Радок 4, пасля: што — // Апейку

Радок 6, пасля: Пазней // Апейка

Радок 25, слова: дзіўна — адсутнічае.

Радок 25, пасля: хвалявалі // Апейку: дзіўнае,

Радок 30, пасля: скончыў, // Апейку

Радок 37, пасля: паэзія! // На Апейку павеяла жывым смуткам не такой даўняй бяды, пра якую ён чытаў быў у газеце. Ён прачытаў тады і хутка забыў у клопаце і мітусні жыцця, як штосьці далёкае; а вось зноў пачуў бяду, ды раптам — блізкаю, больш чутнаю, шчымліваю. Верш вярнуў, ажывіў і даўняе хваляванне юначага сэрца, і бяду недарэчнай, страшнай смерці.

Радок 38, замест: У памяці доўга жыў не зусім зразумелы, // У Апейкавай памяці жыў, не знікаў не зусім зразумелы,

Стар. 219, радок 1, слова: Яму,— адсутнічае.

Радок 11, пасля: ясна.— // Апейка прыгадаў: —

Радкі 18—21, замест: І тады, ~ сціпласць. // Ён, і калі пярэчыў Апейку, гаварыў мякка, без якой-небудзь амбіцыі, і Апейка адчуваў у тоне яго гаворкі не толькі павагу да сябе, былога настаўніка, а і добрую, нерастрачаную ў горадзе сціпласць.

Радок 23, слова: Ён,— адсутнічае.

Радок 23, замест: Алесю // яму

Радок 32, замест: ён Алесю. // Апейка

Стар. 220, радок 9, пасля: і слухаюць. // Адсюль і тое правіла, пра каторае я казаў,— быць заўсёды простым, ясным! Толькі яснае гарачае слова можа запаліць сэрца!..

Радкі 16—17, замест: Можа не ўсё ўдала выходзіць. // Можа не ўсё ўдалае, што трапляецца ў нас.

Радкі 21—43, стар. 221, радкі 1—39, замест: Зноў ехалі моўчкі; ~ Канешне, можа быць,— згадзіўся Алесь. // — Ты, браце, не крыўдуй,— Апейка нокнуў каня, засмяяўся па-дружбацку.— Я ад душы. Кажу, як нам адсюль здаецца. Я ў вашых справах — суддзя слабы. Мала ведаю сучасную літаратуру, адстаю ганебна. Няма калі чытаць, часам, бывае, тыднямі газету ледзь упраўляешся прабегчы. Ну, і ў нас ёсць літаратура свая, адпершачарговая — рашэнні канферэнцый, з'ездаў! Так што — адстаю па вашай часці. І, можа быць, чаго не разумею.— Неспадзеўкі Апейка дадаў з хітраватым намёкам: — Але і тое можа быць, што і ты у нечым памыляешся. І ты, і твае таварышы...

— Канешне, можа быць,— згадзіўся Алесь.

Зноў ехалі моўчкі; толькі мерна, спорна секлі ўмерзлы, уезджаны снег конскія капыты, рыпелі гужы, беглі насустрач аснежаныя дрэвы, круцілася поле. Алесь зноў падняў каўнер, схаваў макава-чырвоныя вушы, убіраў бліскучымі вачыма зменлівае яркае хараство дарогі. Зноў Апейка не ўтрываў, загаварыў першы. Пацікавіўся:

— Чаму так многа арганізацый у вас? І «Полымя», і «Узвышша», і «Маладняк», і «Усплёскі» нейкія?

— Ну, чаму? — не адарваў Алесь вачэй ад дарогі.— Звычайная рэч — класавае размежаванне...

— Але ж, як я думаю, класы ў кожнай з іх адны. Рабочыя і сяляне. Рамеснікі. Найбольш, мабыць, сяляне. Вясковыя хлопцы. Памешчыкаў і капіталістаў няма, дзеці працоўных. Класы неварожыя. А варожасці, як адсюль здаецца, у вашых арганізацыях хоць адбаўляй. Чаму гэта?

— Платформы розныя...

— Чаму ж розныя? Усе ж заяўляюць, што — на савецкай, бальшавіцкай платформе? Амаль усе друкуюцца аднолькава ў «Савецкай Беларусі» і ў «Звяздзе». І вершы часта — падобныя... Ты ведаеш, мне часам адсюль здаецца, што там у вас аднолькавыя людзі, пралетарыі, бальшавікі па духу — у розных арганізацыях. Як бы штучна падзелены. І вайну вядуць часта выдуманую, непатрэбную. Мне так здаецца, браце. Б'юць адзін аднаго, а не-

чысці рознай кулацкай, сапраўднай, можа быць, пад бокам не заўважаюць!..

— Усё гэта не так проста, як можна... падумаць...

— Я і кажу, што не проста. А гэтае дзяленне на «свае гурты» і «не свае», бойкі хлапечыя — заблытваюць яшчэ горш. Тут, мне здаецца, ей-богу, няцяжка зблытаць, хто, праўда, свой, а хто — чужы. Хоць ён і аднолькава з табой завецца... Ты — у якой арганізацыі?

— Я — у БелАППе.

— Чым ён адрозніваецца ад іншых?

Алесь стаў цярпліва тлумачыць, што БелАПП — гэта Беларуская Асацыяцыя Пралетарскіх Пісьменнікаў, якая цалкам стаіць на платформе савецкай улады і бальшавіцкай партыі; тады як у «Полымі» і ва «Узвышшы» сабраліся людзі, якія хоць і аб'явілі, што таксама падтрымліваюць савецкую ўладу, але стаяць на савецкай платформе не так цвёрда: прасцей кажучы,— не што іншае, як спадарожнікі. Ёсць там і наогул такія, каторыя гатовы служыць кулакам ды нэпманам...

— Алесь, я не вельмі ведаю ўсе акалічнасці жыцця ў вашых арганізацыях, але, павер мне, я ўпэўнен, класавае размежаванне ідзе не па межах вашых арганізацый. У кожнай арганізацыі ёсць нашы сябры, шчырыя сябры, і ў любой можа быць чартапалох! Якому толькі весялей жывецца ад вашых гурткоўскіх задзірак!..

— Хлопцы добрыя, гэта праўда, ёсць і ў «Полымі»,— згадзіўся Алесь.— І ў «Узвышшы»... І ў «Маладняку» ўсякага хапае...

Стар. 222, радок 19, пасля: Нікіцін. // Апейка з рускіх паэтаў вельмі любіў Нікіціна.

Стар. 223, радок, 1, замест: Дайшло, // Да Апейкі дайшло,

Стар. 224, радкі 19—20, замест: Неўзабаве сядзелі ўжо на ўзмежку, // Неўзабаве Апейка сядзеў ужо з ім на ўзмежку,

Стар. 225, радок 5, пасля: ўзялі // мяне.

Радок 5, пасля: падрабіць // мне,

Радок 34, замест: Здаецца, // Апейку, здаецца,

Радок 35, замест: згадваліся // згадваў ён

Радок 38, замест: Потым // Апейка потым

Радок 41, пасля: Успамінаў // Апейка,

Стар. 226, радок 1, пасля: ўсё, // Апейка

Радок 7, пасля: на табе!.. // ...«Што ж там з хлопцам?» — ніяк не мог даўмецць ён.

Радок 8, пасля: ў кабінеце // яшчэ

Стар. 236—243 асноўнага тэксту адпавядаюць стар. 41—46 другога-трэцяга падраздзелаў V раздзела часопіса («П.», 64, № 2).

Стар. 236, радок 22, замест: Галаву // Твару

Стар. 237, радок 1, пасля: Васіль. // Ён быў быццам побач, быццам стаялі тварам у твар. Блізкія, чулыя, усё на віду...

Стар. 238, радок 24, замест: — Чужыя? — стрымалася: // — Мне... хацелася пабачыцца!..

Радок 25, пасля: асталася. // — Пагано ёй, сястры?

— Пагано...

Стар. 242, радкі 40—43, стар. 243, радкі 1—10, замест: Вуліца ~ жывецца... //

Дзень быў такі ж ясны — рэдкі, незвычайны ў гэтую позніюю асеннюю пару; але Ганна, ідучы паўз платы куранёўскай вуліцы, не заўважала ўжо святочнай яго яснасці. Трапляліся сустрэчныя, віталіся ■ ёю, яна адказвала нібы спакойна, хавала ў сабе свой смутак. Хто-ніхто азіраўся потым услед ёй: чулі, што бяду нейкую тоіць, але не здзіўляліся амаль, ведалі, як ёй з Глушакамі жывецца...

Вуліца з краю ў край блішчала цягучай, як дзёгаць, граззю, якая ў гэтыя дні не высыхала. Гразь пасярэдзіне была перамешана конскімі нагамі, калёсамі, было яе там столькі, што часта даходзіла да галовак колаў; людзі звычайна ліплі бліжэй да платоў. Гразь была ўжо халодная, і босыя Ганніны ногі моцна стылі, але яна не заўважала гэтага.

Стар. 268, радок 1, сказ: Чыстку рабілі ў зале нардома.— адсутнічае.

Радок 1, пасля: поўна. // Не было вольнага куточка ў самай вялікай у мястэчку зале, зале нардома.

Радок 21, замест: прафсаюзны дзеяч з Мінска, // рабочы з мінскага завода

Стар. 269, радок 3, пасля: выклікалі // самога

Радок 3, пасля: райкома // таварыша

Стар. 271, радок 27, замест: згадзіўся цяпер // не пахваліў яго

Стар. 272, радок 9, пасля: шапка //, не поважает людзей.

Радкі 10—33, замест: Конечно, ~ трэба! // Зверху глядзіт товарыш Башлыкоў на людзей. Правільно. Грубый товарыш Башлыкоў, особенно з тымі, хто товарышу Башлыкову подчынен. Он гаворыт з некаторымі подчынёнымі, як, просціце за нехорошее слово, як — офіцэр. Потому что красный командзір дажэ ў арміі так не говорыл з бойцамі, як говорыт товарыш Башлыкоў. Он крычыт у трубку: «Ві там чорт знает что дзелаетэ! Ві спітэ! Ві — опортуністы! Мі будзем говорыт з вамі на бьюро!» Товарыш Башлыкоў умеет только командоваць, нет, не командоваць, а — крычат. Товарыш Башлыкоў — молад. Это — вэрно. Потому товарыш Башлыкоў особліво надо вучыца. От что надо. Надо учыца говорыць как большэвік большэвіку. Как товарыш одной парціі. Як гражданін гражданіну. Як совецкі парційны работнік. Сэкрэтар райкома не должны бояца. Сэкрэтар райкома парціі большэвікоў должны любіт. Народ должэн любіт, парційцы должны любіт. Сэкрэтар павінен быць чулый, уважлівы. Любіт повінны его. Этого нет. Учыца, товарыш Башлыкоў, надо.

Стар. 273, радок 8, пасля: К сталу // лёгка, зграбна.

Стар. 283, радкі 11—12, пасля: Настояшчый. // Чуткій, разумный і прынцыпіяльный. Он глыбоко разумеет поліціку большэвіцкай парціі.

Радкі 12—13, пасля: перамагало. // Он і ночы і дні работает для парціі.

Радок 14, пасля: лезці. // Он усюды — дзе жывуць людзі. Он понімае і любіць людзей.

Радок 22, замест: ў Мокуці, // ў Мокрым; замест: ладзіць // будаваць

Стар. 284, радок 27, замест: Паглядзім, // Падыдзем,

Радок 28, пасля: усё // адкрыта,

Стар. 285, радкі 19—20, пасля: стажам, // чалавек з вялікім вопытам,

Стар. 289, радок 25, замест: Аляксеевіч // Аўсеевіч

Стар. 292, радок 16, замест: ўказвае // не можа не ўказаць

Стар. 293, радкі 11—12, словы: з тых, у кім сумняваецца таварыш Галенчык,— адсутнічаюць.

Радок 33, пасля: папрасіў // яшчэ

Стар. 298, радок 21, пасля: за сталом, // набычыўшыся,

Стар. 309, радок 13, пасля: Руды // раптам,

Стар. 311, радкі 14—15, замест: пачуеш! // слізь пацячэ!

Стар. 312, радок 24, пасля: твары, і // добрыя

Стар. 313, радок 25, пасля: няветліва //, не слухаючы,

Стар. 316, радок 12, замест: яны могуць пашкадаваць адно аднаго. // іх ёсць каму пашкадаваць.

Радкі 12—13, замест: як сірата, // адна,

Стар. 321, радок 4, пасля: добра. // Добра ўсё было, покуль ето не ўзялося. І будзе добра, абы толькі прайшло ето. Пройдзе ўрок, і зноў будзе ўсё добра. Толькі перацярпець трэба ету спакусу, перасіліць покуль... То ж так усе добра было.

Радок 19, пасля: на яе! // Ці ж яна карціна, штоб глядзець на яе.

Стар. 329, радок 22, пасля: давала // яму

Стар. 334, радкі 16—27, замест: Ледзь даўмела, ~ горкай стратай... //; калі даўмела, дзе ляжыць, хто разваліўся, храпе побач, ледзь не застагнала. Каб адагнаць крыўду, стала думаць пра тое, што бачыла ў кіно. Але і тут спакою не было. Душа балела па адважным конніку, марыла аб нейкіх адважных учынках, аб прасторы, аб волі. Паляцела б, не паглядзела б ні на што,— каб было з кім... Цудоўныя відовішчы, якія яшчэ жылі ў ёй, звалі, вялі яе ў свет цудаў. Але ўтрымаць у гэтым свеце не маглі доўга: зноў і зноў у мары яе ўрывалася згадка пра Васіля, пра самую дарагую надзею, якая гразілася цяпер самай горкай стратай...

Стар. 339, радок 4, пасля: хат, // хлявоў,

Стар. 346, радок 8, пасля: калечаць справу!.. // Увайшло ў галаву, у сэрца, стала навальвацца, ціснуць нярадаснае, важкае, што датычылася самога: няўдала, няскладна паварочваецца, можна лічыць, і яго жыццё. Што ні думай, а калі зірнуць прама, адкрыта — не такое ўжо зайздроснае становішча лепіцца. Башлыкоў гне і будзе гнуць сваю лінію. Не разумее і, можна сказаць, не хоча разумець усяго. Усёй складанасці справы... Не лепшы і Харчаў, у якога, здавалася б, вопыту — хоць адбаўляй. Ды і Кудравец, на якога так спадзяваўся ці даўно... Няма ладу, адзінства. У адной запражцы, а цягнем па-рознаму... Таго і глядзі, як бы не разарвалася запражка такая...

Радкі 9—43, стар. 347, радкі 1—9, тэкст: Адагнаў прыкрае, ~ у яго раёне? — адсутнічае.

Стар. 347, радкі 10—11, замест: Непрыкметна ў думкі зноў унізалася свая трывога: чыстка, Галенчык — // Адсюль думкі павяло да чысткі, да Галенчыка:

Радок 29, слова: слухаў,— адсутнічае.

Радок 33, замест: бразгаюць // ляскаюць

Стар. 348, радкі 12—13, пасля: былі // зняты і

Стар. 349, радкі 13—18, замест: у гэтым імклівым лёдзе ~ вярэдзіць душу. // і ўсё ж і ў гэтым лёце, у гэтай далечы нагавялі, не адступаліся назольныя згадкі, развагі, прымушалі нядобра ныць сэрца. Ён адганяў іх, а потым зноў лавіў сябе на тым, што зноў думае.

Стар. 351, радкі 20—26, тэкст: На стале ~ як вернецца...— адсутнічае.

Радок 26, замест: Пасля // , пасля

Радок 26, словы: , недаспанай ночы — адсутнічаюць.

Стар. 353, радок 2, пасля: хлопец, // дастаючы з кішэні паперку,

Радок 21, замест: вячэралі // абедалі

Радок 28, пасля: партфель, // што быў зразу зваліўся на падлогу,

Радок 30, пасля: Ён // , пачырванелы ад згінання,

Стар. 354, радкі 4—9, замест: Развітваючыся, ~ наводдаль. // Калі ён, развітваючыся, чорнымі цікаўнымі вачыма аглядваў залу, партфель зноў саслізнуў з каленяў на падлогу. Ён нязграбна дастаў яго, пасміхваючыся са сваёй няўдаласці, устаў. Яшчэ ■ паўгадзіны сядзеў ён за столікам наводдаль, таксама ўсмак гаварыў нешта...

Радкі 10—43, стар. 355, радкі 1—25, тэкст: карцела — у пакоі чакала газета. ~ трэба захаваць.— адсутнічае.

Радкі 25—26, замест: Яшчэ поўны думак, стаяў каля акна, пазіраў на аснежаны пляц Волі, // Вярнуўшыся ў пакой, ён пастаяў трохі каля акна, пазіраючы на аснежаны пляц Волі,

Стар. 357, радок 32, пасля: трамвай. // Мабыць, праз багата гадоў з такім вострым хваляваннем іншыя шчасліўцы назіралі, як у гуле і ў полымі ідзе ў нязведаныя высі касмічная ракета. Што ж, у Апейкі былі тыя ж самыя прычыны хвалявацца: розны быў толькі час і розныя меркі незвычайнага. Будзе, пэўна, час, калі ўзлёт ракеты будзе хваляваць не багата больш, чым нас — адыход трамвая. Усяму свая пара.

Стар. 360, радкі 25—26, замест: кожнае слова студэнта пераконвала, што здарылася // ■ кожным словам хлопца бачыў, што збывалася

Стар. 362, радок 3, пасля: неперажытае, // загадкавае,

Стар. 363, радок 19, пасля: без толку!.. // Апейка прамаўчаў.

Радкі 38—39, замест: між драўляных, касабокіх хат // з драўлянымі, касабокімі хатамі

Стар. 366, радок 20, пасля: выйшаў // зноў

Радок 21, пасля: у чаркі. // Выпілі, пачалі закусваць.

Стар. 367, радкі 33—34, тэкст: — Так, гэта... нямала... — Нямала...— адсутнічае.

Радок 35, пасля: кніг. // Вершы, апавяданні, раман. Другім яны могуць, вядома, нічога не казаць; асабліва тым, хто не ўмее чытаць з увагай, не тое што з павагай. А я ж ведаю: ён

Стар. 368, радок 30, пасля: радасць. // — Аб нечым ён калісьці паспрачаўся з таварышам Сталіным. Таварыш Сталін паправіў яго...— згадаў з роздумам Алесь.

Радок 31, слова: Алесь — адсутнічае.

Радок 31, пасля: сказаў: // Апейку:

Стар. 369, радок 26, замест: Алеся // яго

Стар. 370, радок 3, пасля: нацыянал-дэмакратыі!» // «Бязлітасна ўдарыць па наглай вылазцы! Не можа быць ніякіх прымірэнчых адносін!»; «Выступленне ў падтрымку Жылуновіча — гэта складанне правай фракцыі! Уся савецкая грамадскасць павінна весці рашучае змаганне з імі!»;

Стар. 371, радкі 5—9, замест: п'е. Той адказаў знарок бесклапотна:

— Гэта не часта...

— Трымацца трэба.

— Стараюся... // так неашчадна кідаецца грашыма.

Той адказаў знарок бесклапотна:

— Хопіць грошай! А не хопіць — заробім!

Радкі 31—43, стар. 372, радкі 1—13, замест: якую Апейка вельмі не любіў. ~ Калі Апейка скончыў, // за якой Апейку чулася няшчырасць. Ён ні разу не перабіў, аднак Апейка ўвесь час бачыў, што ён слухае ўсё ўважна і разумее ўсё.

— Я ведаю пра чыстку Гартнага,— перапыніў ён Апейку. Седзячы ўсё там жа за сталом,

Стар. 372, радкі 19—20, пасля: зірнуў // спакойна,

Радок 36, пасля: справе. // Шчаслівы, справядлівы.

Радок 36, слова: газетны — адсутнічае.

Стар. 373, радок 23, пасля: абмежаваны // адзін

Стар. 374, радок 3, замест: Полацка, // Віцебска

Радок 10, замест: старшыня // віцяблянін

Стар. 376, радок 42, пасля: Думаючы // ўсё гэта,

Радок 42, слова: згадваючы,— адсутнічае.

Стар. 380, радок 28, пасля: сілу, // падбяруцца да ўлады;

Радок 31, замест: калі вольна будзе // калі будуць

Радкі 33—43, стар. 381, радок 1, замест: Калі даць волю ~ Яму верылася, // Ён падумаў, што такія людзі і такія тэндэнцыі, калі іх не стрымаць, могуць зрабіць нетрывалым становішча ледзь не любога чалавека. Апейка тут жа запярэчыў сабе, што тэндэнцыя гэта жыве толькі таму, што пакуль мала праявілася: не заўважылі, як трэба, шкоду яе; калі ж толькі праявіцца, ёй дадуць бой. Прышчэмяць, як гадзюку, што ўпаўзла ў дом. Але ў цемры ночы, у растрывожанай галаве — мроілася, упарта чаплялася неспакойнае: а што, калі не прышчэмяць? Калі падазронасць разальецца шырокаю хваляй? Калі пачне брацца за кожнага, у каторага штосьці ёсць ці можна «знайсці»? Калі будуць падтрымліваць усякага, каму не церпіцца секануць з-за пляча? Усякага, каму хочацца — для справы, вядома! — надзвычайных мер і правоў? Калі моўчкі дазваляць награвацъ «страсці»? Калі не даваць абараняцца, абараняць другім?.. Тое, што трывожыла ў Юравічах, пра што думаў у Жлобіне, зноў поўніла Апейкаву душу неспакоем, чуццём небяспекі. Толькі цяпер неспакой і небяспека былі мацнейшыя, шырэйшыя. Цяпер яны гразіліся не толькі самому і не толькі купцы знаёмых людзей; было ў небяспецы, якая яму чулася, штосьці вельмі шырокае. І нібы больш рэальнае, больш грознае. У яго раней было супакаенне, што ўсё тое прыкрае — мясцовыя з'явы, цяпер такой падманкі ў яго ўжо не было.

І ўсё ж яму верылася,
Стар. 430, радок 40, пасля: Бязграматная, // недалёкая,
Стар. 431, радок 35, пасля: на нішто // лёгка.
Стар. 433, радок 20, пасля: адштурхнуў // яго,
Радок 43, пасля: клопатнасцю: // ужо
Стар. 452, радкі 33—44, замест: [1] Усе выступленні ~ да Куранёў. //* Не без вагання ўпісваю я ў кнігу гэты раздзел. Прадчуваю: адны папракнуць аўтара, што гэта — нецікава, другія, што — сухавата, нарысна: багата фактаў, мала фарб, трэція — што наўрад ці варта варушыць старое. Трэція могуць выказаць і сумненне ў праўдзівасці ўсіх фактаў. Першым я раю — не пакрыўджуся: перагарнуць гэтыя старонкі, другім скажу, што матэрыялу было багата і важнага, а распісваць я не меў права, лічачыся з усім творам, з іншымі раздзеламі; трэцім скажу: усё, што я тут пішу,— праўда, ні слова я не прыдумваю тым, хто выступае. Яны гавораць самі. Тым, хто цікавіцца гэтым больш, раю прачытаць: «Другая сесія IX склікання. 20—26 лістапада 1929 г. Стэнаграфічная справаздача. Выданне ЦВК БССР. Менск, 1930, 422 стар.». Ад сябе дадам: усё гэта, я лічу, мае самыя блізкія дачыненні да Куранёў. Тое, што было ў Куранях, нельга зразумець без гэтага. Няхай жа раздзел гэты будзе як дакументальная хроніка ў прозе.
Стар. 454, радкі 31—33, замест: Гэты, 1928—29, год з'явіўся,— адрывіста, энергічна загаварыў ён,— пераломным у развіцці народнай гаспадаркі як СССР, так і Беларусі. // 1928—1929 год з'явіўся,— адрывіста, энергічна гаварыў ён,— пераломным годам у развіцці народнай гаспадаркі як СССР, так і Беларускай савецкай рэспублікі.
Стар. 455, радкі 5—11, тэкст: Гэтыя лічбы ~ і якіх лічбаў! — адсутнічае.
Радок 12, слова: Галадзед — адсутнічае.
Радок 12, пасля: вылучыў // ён
Радкі 21—24, тэкст: Тут у радасны настрой ~ рэзервавага фонду.— адсутнічае.
Радкі 31—36, тэкст: — Ледзь Галадзед нагадаў «калгасы-гіганты», Апейка ўспомніў, што думаў пра гэта, калі чытаў «Год вялікага пералому» Сталіна. Зноў вярнулася тое двоістае, супярэчлівае: і захапленне смелым размахам, і недаверлівая абачлівасць — ці не журавель у небе гэта? — адсутнічае.
Радок 38, замест: ,— тлумачыў Галадзед,— // ўсяго Саюза ССР
Стар. 456, радкі 4—8, тэкст: У святочную бесклапотнасць ~ ён больш ведае...— адсутнічае.
Радкі 17—24, тэкст: Па зале пайшоў шумок, ~ разумеў іх.— адсутнічае.
Радкі 25—28, замест: — Мне могуць сказаць, што гэта — фантастыка.— Галадзед нібы не чуў воклічу і хвалявання ў зале, развінаў сваю думку.— Фантастыкай гэтага, канечна, назваць нельга, // Галадзед быццам не чуў, працягваў сваю думку: — Мне могуць сказаць, што гэта — фантастыка. Фантастыкай гэтага, канечна, назваць нельга,
Радкі 29—30, тэкст: — Апейка ахвотна ўхваліў цвярозую разважнасць дакладчыка: справядліва.— — адсутнічае.

Радок 32, словы: — упэўнена вёў Галадзед,— — адсутнічаюць.

Радкі 34—35, словы: , — таксама ж пераканана судзіў ён,— — адсутнічаюць.

Радкі 37—40, тэкст: Апейка ~ далей: — адсутнічае.

Стар. 457, радок 1, тэкст: «А хто чакае? Але ж і трактар і крэдыт трэба...» — адсутнічае.

Радкі 12—13, тэкст: Думка ~ увагай.— адсутнічае.

Радкі 14—15, словы: , — гаварыў Галадзед.— — адсутнічаюць.

Радкі 22—23, тэкст: — Апейка ў думках падтрымаў гэта. У тры гады — відаць, рэальна.— — адсутнічае.

Радок 24, словы: — ішло да Апейкі,— — адсутнічаюць.

Радкі 32—36, замест: Галадзед адарваўся ад напісанага, і Апейка, і — адчуў ён — усе ў зале яшчэ прыціхлі, зацікавіліся.— Калі мы пачалі гаварыць,— стаў апавядаць дакладчык,— аб арганізацыі // Галадзед адарваўся ад напісанага, стаў расказваць.— Калі мы пачалі гаварыць аб арганізацыі

Стар. 458, радкі 6—11, тэкст: Апейка адвёў вочы ~ ўсё муляла.— адсутнічае.

Радок 14, замест: старшыня СНК // ён

Радкі 22—24, тэкст: Апейка ~ калі — адсутнічае.

Радкі 27—28, замест: задачы тых, хто працуе ў розных галінах прамысловасці. // задачы розных галін прамысловасці.

Радкі 28—33, тэкст: Яму падабалася: ~ у гэты час.— адсутнічае.

Радок 36, замест: Галадзед // ён

Радкі 41—42, тэкст: Цікаўнасць Апейкі ўзяла іншы лад, павастрэла: зараз будзе асаблівае, пагрознае, што трывожыць усіх.— адсутнічае.

Стар. 459, радкі 1—2, тэкст: — нецярпліва слухаў Апейка ў нацятай цішыні,— — адсутнічае.

Радкі 11—17, тэкст: — З усяго гэтага ~ для здагадак.— — адсутнічае.

Радкі 18—19, тэкст:, — прабівалася да Апейкі праз развагі яго,— — адсутнічае.

Радкі 27—36, тэкст: Апошнія словы ~ да берага.— адсутнічае.

Радок 41, замест: значна, // шматзначна,

Стар. 460, радкі 13—22, тэкст: Пляскаў і Апейка, ~ яшчэ даўмець...— адсутнічае.

Радок 31, замест: Як і раней, многае // Многае

Радок 39, пасля: іншае. // «Трактараў не хопіць, а калектывізацыю трэба ўсямерна разгортваць!..»

Стар. 461, радок 2, пасля: у калгасы!.. // Калі б Апейка не ведаў, што Галадзед сам з вёскі, можна было б падумаць, што ён не ведае селяніна.

Стар. 462, радок 12, пасля: будаўніцтва». // — Правільна казаў таварыш Ленін, словы яго збыліся, мы бачым зараз, які актыўны ўдзел прымаюць жанчыны ў будаўніцтве сацыялізма. Толькі шкада, што няма з намі таварыша Леніна... Што ён не бачыць, што мы ў такі кароткі тэрмін значна ўжо выраслі... Няхай жыве ленінізм!..— Вочы яе зноў трывожна пабеглі па зале: не ведала, што казаць далей. Адважна кінулася наперад:

Радкі 13—14, тэкст: ,— перадыхнула яна момант, кінулася наперад,— — адсутнічае.

Радкі 34—36, замест: Барытон дужага, з абветраным тварам, з кароткай шыяй чалавека, // Густы, моцны барытон дужага ■ чырвоным, абветраным тварам, з кароткай, дужай шыяй чалавека,

Стар. 463, радок 6, замест: Сціпла, // Коратка,

Радкі 16—20, замест: прыгожая з твару, ~ гаварыла з сяброўкамі. // шыракатварая, дзябёлая жанчына ў чырвонай кацынцы, уперішыся на трыбуну моцнымі локцямі; стаяла, падаўшыся ўперад, так вольна, апавядала, пасміхваючыся, так проста, спакойна, нібы гаварыла з сяброўкамі на вячорках.

Радкі 20—21, сказ: Было відаць, што за трыбунай не першы раз і рада гаварыць.— адсутнічае.

Радок, 31, пасля: гаспадарку?!. // Гаварыла яна так вольна, так шчыра; так даверліва, прыязна ўсміхалася, і ў тым, як трымалася, як гаварыла, было столькі натуральнасці, што Апейка мімаволі падумаў: «От талент, прамоўцам нарадзілася!» Жанчына — і прозвішча было прыгожае: Анішчанка — памаўчала, свецячыся ўсё той жа добрай усмешкай, паправіла касынку, падаткнула пад яе пасмачку валасоў, аблізала па-сялянску сасмяглыя губы.—

Радок 43, пасля: налюбавацца!.. // Нам не страшны балоты, не страшны і горы! Мне прыйшлося пабываць у Клімавіцкім раёне. Мы там былі на цагельні. Ці ж можна было думаць раней, што там, на гэтай гарыстай зямлі, можна што-небудзь зрабіць? Калі там нават лес не рос. Калі там толькі вецер гуляў і здуваў пясок ■ гары. А зараз мы бачым, што гэтая зямля прыносіць добры прыбытак!..

Стар. 464, радок 1, пасля: Разумна, // заклапочана,

Радок 1, замест: непакоілася // загаварыла

Радок 14, пасля: папусту... // Падахвочаная ўвагай, яна гаварыла клапатліва, як выгадна сеяць у калгасах каноплі і лён і што не трэба забываць разводзіць авечак, гаварыла, як гаварыў бы толькі селянін, разумны, прывыклы думаць і лічыць. Слухаючы яе, Апейка мімаволі згадваў з непавагай прамоўцу, што выступаў перад ёй: і трымаўся на трыбуне эфектна, і шумеў на ўсю залу, абрушваючы на людзей паток слоў, гучных, значных, і імя было вядомае, а гаварыў так, што Апейку глядзець не хацелася на яго. Выйшаў на такім сходзе, узяўся гаварыць пра такое важнае, пра калектывізацыю, а справы, адчуў Апейка, не ведае зусім; не ведае, а бярэцца вучыць! Хавае сваё няведанне ў прыгожых і неканкрэтных сказах, у агульных разважаннях. Як нейкую вялікую мудрасць, кажа, што трэба, каб калгасы паступова «праводзілі ўсё ў такім самым выглядзе, як фабрыкі і заводы»! Папаў пальцам у неба! Прапанаваў заслухоўваць справаздачы калгасаў на нарадах фабрык і заводаў, упэўнены, што і так можна памагаць...

Стар. 465, радок 13, пасля: высветленае. // З усяго ён найбольш выбіраў тое, што гаварылася пра калектывізацыю.

Багата выступленняў пачыналася з аднаго: ледзь не кожны, хто ўзыходзіў на трыбуну, казаў, што тыя тэмпы, да якіх заклікаў таварыш Галадзед, хоць і не малыя,— зусім рэальныя.

Гэта было як звычайны пачын. За гэтым трыбуна гаварыла ўжо рознымі фактамі, рознымі клопатамі, рознымі галасамі.

Радок 14, пасля: шырылася // і шырылася

Радок 16, замест: святочныя // па-святочнаму прыгладжаныя

Радкі 17—18, пасля: калектывізацыі», і // непрыхаваная,

Стар. 466, радок 9, пасля: ні ў якім разе!.. // І ўсё ж, якія гладкія іншыя выступленні, як прычэсана ў іх нягладкае жыццё. Іншы раз Апейку чулася, што гэта ад захаплення заўтрашнім, ад такой нецярплівай веры, якая проста не давала думаць пра тое, што бліжка, пад нагамі; але нярэдка ў шумлівых, пустых заявах з трыбуны чулася і неахвота думаць сур'ёзна, разважаць, корпацца ў зямлі; і нясмеласць ад апаскі, як бы ненарокам не палічылі цябе недаверкам якім ці — апартуністам. Апейка тады не глядзеў на трыбуну, таропіў вочы перад сабою або вадзіў позіркам па радах, па сценах. Брала проста абурэнне, калі ўсё гэта прыкрывалася звонам высокіх, важных сказаў, з-за якіх відно было найбольш імкненне паказаць адно сябе, паказаць вышэйшым і разумнейшым за іншых. Часам таму-сяму з прамоўцаў прыпісвалася такое, што той і не меў на думцы, ды яшчэ ў выглядзе як бы палітычнага абвінавачвання. Ці даўно шчыра паскардзілася тая работніца з Мазыра, а вось другая — з Віцебшчыны,— падстрыжаная па-мужчынску і па-мужчынску апранутая,— падобная на мужчыну,— размахваючы рукамі, паглядваючы то ў залу, то ў прэзідыум, нібы пахваляючыся адвагай, адданасцю, заяўляе: — Я не згодна з тым выступленнем! Не сакрэт, што на рабочы клас ускладзена вельмі цяжкая місія! Але — ці павінны мы сёння хныкаць аб тых цяжкасцях, якія мы маем?!. Што нам сказала гэта работніца?! Мне здаецца, я не памыляюся — бо я вельмі ўважліва слухала. Яна сказала аб тым, што ў нас няма масла, сала, мала хлеба! І калі ўсё так і будзе — яна сказала — мы тады не прыйдзем да сацыялізма!!. Гэта, таварышы, трактаванне нявернае!.. Мы жывём у адзін з сур'ёзнейшых момантаў нашага будаўніцтва, мы хуткімі крокамі ідзем уперад! І калі нам трэба замацаваць наш калгасны рух, хныкаць у гэты час не трэба! Такім хныканням мы павінны даць адпор! І ісці па вернаму шляху, намечанаму пяцігадовым планам!..

Радок 11, пасля: зачапіла // нечаканая

Стар. 467, радок 21, пасля: калектывізацыю... // І яшчэ першае пытанне па нашай Беларусі — ето жыватнаводства... Тады будзе добра расці хлеб, будзе багато жыру, і масла, і мяса. І калі мы развядзем авечак, з якімі ў нас зараз, правільно тут казалі,— пагано... Кеб нам развесці скаціну, трэба, штоб сеялі болей канюшыну. Бо калі мы яе пасеем, то ў нас будзе дзе пахадзіць скаціне і будзе ёй што есці. А калі скаціна пад'есць, то і малака дасць многа, і ето малако пойдзе ў горад.

Радкі 41—42, замест: а так жа і ўсё кіраўніцтва. // а таксамо і ўвесь наш урад.

Стар. 469, радок 26, пасля: калгасаў... // Я, бясспрэчна, за крытыку і самакрытыку. Але крытыка — рэч палітычная. Трэба заўсёды ўлічваць, які палітычны водгук дасць крытыка. Трэба помніць заўсёды, дзе і перад кім выступаеш...

Радкі 28—29, замест: выступленне // крытыка

Стар. 471, радок 20, замест: успамінаў // перабіраў

Радок 21, замест: Асабліва ўважліва разбіраў // Разважліва, пільна перабіраў

Радок 23, пасля: Рачыцкі. // З усіх пытанняў на сесіі Апейку найбольш цікавіла і хвалявала гэтае — калектывізацыя. З нецярплівасцю чакаў ён даклада, пільна ўслухоўваўся ў кожную думку, кожны факт, дзелавіта, бязлітасна разбіраў усё ў ціхім поцемку ночы.

Радкі 24—26, замест: Чым больш ~ уражанне ад яго. // Чым больш удумваўся, тым больш мацнела двоістае ўражанне ад даклада.

Стар. 472, радок 10, пасля: выбіваць!.. // Адкрыты, цвярозы.

Радок 25, пасля: гаспадарцы». // Чуючы гэта, Апейка міма волі падумаў: «Далёка паедзем мы на гэтых уласных рэсурсах!»

Радок 34, пасля: кантрактацыі // , крэдыты скарыстоўваюць не на вытворчыя патрэбы».

Стар. 473, радок 3, замест: Багата думаў Апейка пра тое, што казаў // З пільнай увагай чакаў Апейка, што скажа

Стар. 474, радок 33, замест: пераканаць // перарабіць

Радок 42, замест: Можна // З выступлення можна

Стар. 475, радок 3, замест: Згадвалася: у перапынку, // У перапынку між пасяджэнняў,

Радкі 21—22, сказ: Не адступала, вярэдзіла Апейку ў цішы ночы тое, што гаварылі прамоўцы пасля Тарасенкі.— адсутнічае.

Радок 37, пасля: машын // , відаць,

Стар. 476, радок 19, замест: згадваць // слухаць

Радок 22, пасля: чацвёрты. // Як водгук ад ранейшых спрэчак, зноў ажывала загадка: што рабіць з кулакамі. «Я лічу, што правільна зрабілі таварышы з Клімаўшчыны,— казаў дэлегат з Віцебскай акругі Зыбко,— калі кулака не пусцілі ў калгас, калі садзілі яго на пясок. І мне здаецца, што ў адказ на запытанне таварыша Хандогі аб тым, куды дзяваць кулака пры масавай калектывізацыі, парада таварыша Галадзеда: садзіць кулака на балота,— з'яўляецца зусім правільнай. Я лічу, што ў нас і павінна быць такая ўстаноўка, што ў тых месцах, дзе няма балот, садзіць кулака на пясок, а там, дзе ёсць балота, садзіць на балота!»

Радкі 22—23, тэкст: Між неспакою гэтых галасоў памяць трымала іншае: як — адсутнічае.

Стар. 477, радок 11, замест: ўспамінаў // слухаў

Стар. 482, радок 3, слова: узрушана: — адсутнічае.

Радок 8, словы: , небывалым паходзе.— адсутнічаюць.

Радок 37, пасля: Трэба // , што б ні здарылася,

Стар. 483, радок 11, пасля: трывожнае... // Пад гонкі гоман колаў унізе згадвалася бачанае, чутае на сесіі, думанае ўжо,— чапляліся, лезлі новыя думкі. Зноў нібы бачыў залу клуба Карла Маркса, рады знаёмых і незнаёмых людзей, чуў галасы... «Сялянства па-сапраўднаму ўразумела... Ва ўсёй сваёй масе... Нечуванаю хваляю ўліваецца... Часам цераз межы адміністрацыйных нашых органаў...» Лезла ў галаву: і тут — гэта няпраўда, якую чамусьці ўпарта падтрымліваюць і ў газетах, і ў выступленнях. Выходзіць, сяляне — усе! — толькі і чакаюць таго, каб хутчэй

уліцца ў калгасы, аб'яднацца ў дружную сям'ю! Толькі і бяды перад гэтым — што кулак перашкаджае!..

Кулак — вораг небяспечны. Ваяваць з кулаком трэба бязлітасна. Гэта — факт... Але тое, што ўся небяспека толькі ад кулака, ад яго агітацыі,— і няпраўдзіва, і шкодна. За ўсімі гэтымі гаворкамі — выходзіць так — нібы нявер'е ў цвярозую разважнасць, у розум людзей. Нібы людзі жывуць не сваім розумам, а — чужым! Нібы селянін не з тых, хто прывык — больш, як каму-небудзь — верыць свайму разліку!.. Такі кірунак — думалася Апейку — шкодны асабліва тым, што адводзіць увагу партыйных і савецкіх работнікаў ад самага важнага — ад настойлівай работы з людзьмі, якія павінны стаць асновай калгасаў, асновай новага жыцця! З якімі трэба працаваць і працаваць, каб узняць іх да разумення новага жыцця, на ўзровень новага жыцця! У якіх — што б там ні было — найпершая і адзінагалоўная прычына ўсіх нашых перамог у вёсцы, на полі і сёння і заўтра! Усяго, што можа быць сёння і заўтра на полі!

«Навучыць думаць і жыць інакш, як думалі і жылі дасюль,— стагоддзямі! — от што галоўнае!.. А навучым, перакаваем — ніякі чорт не будзе страшны!.. От што!..» Дык не ж — паслухаеш не аднаго,— паказваюць селяніна, як ужо стопрацэнтнага калектывіста! Які даўно ўжо саспеў для новага жыцця, якога толькі астаецца хутчэй прыняць!..

Радкі 12—41, стар. 484, радкі 1—22, замест: Грукалі, грукалі ўнізе колы, ~ пра небяспеку фармальна-бюракратычнага падыходу... //

Грукалі, грукалі ўнізе колы, прыціхаючы адно на станцыях ды паўстанках, калі ў вагон пачынала цягнуць холадам, калі грукат змянялі тупат, галасы ў праходзе і за вокнамі. Мітусня і галасы ўціхалі неўзабаве, і зноў перамаўляліся адно колы, і лезлі, лезлі пад іх стукат думкі. Чым больш перабіраў чутае на сесіі, даклад Галадзеда, даклад Рачыцкага, тым мацнела адчуванне: сур'ёзная размова заменена багата ў чым святочнай. Гэта, канешне, па-свойму прыгожа, прыемна; гэта таксама падымае людзей; але падымае па-святочнаму, не для цярплівай і цяжкай работы. Мала мабілізуе людзей на сур'ёзную, упартую працу, якая так патрэбна для найвялікшага наступлення. Ён бачыў, што вінаваты ў гэтым найбольш дакладчыкі — Рачыцкі і Галадзед. Большасць была пад уплывам таго, што і як яны гаварылі. Імкнулася думаць, як яны, і гаварыць, як яны; асабліва багата значыў тут прыклад Галадзеда. Іншыя стараліся быць на яго ўзроўні, ішлі за ім так, як ідуць за кіраўніком, якому вераць ва ўсім і якога любяць. Тым больш, што справа сама захапляла веліччу незвычайнай і абяцаннем такога, пра што нядаўна можна было толькі марыць! Апейка думаў, як важна было тое, што гаварыў Галадзед, як трэба была яму разважнасць, дзелавітасць.

Яна не адступілася ад сваёй думкі ўцякаць. Толькі цяпер было ёй відна, што ісці ў невядомы белы свет трэба будзе адной. І ўсё ж, як ні трывожыў яе гэты невядомы свет, яна не вагалася: што ж ёй было выбіраць іншае! А так хоць надзея на лепшае: жывуць жа людзі і ў гэтым Мазыры, аб якім яна думала цяпер днямі і начамі. Пражыве неяк і яна...

Ганна ўжо сабралася ў дарогу, калі неспадзеўкі здарылася сустрэча, якая ўсё перамяніла,— парушыла, разбурыла гатовы ўжо лад думак...

Яна не чакала гэту сустрэчу. Нават увагі асаблівай не дала, здалося, незнаёмай, не па-вясковаму апранутай чарнявай дзяўчыне, якая доўга шаргала, тупала блішчастымі гумавымі чабаткамі на ганку, абціраючы, аббіваючы гразь, перад тым, як увайсці ў хату.

Ганна моўчкі прайшла паўз яе з пустым вядром у хату; стала набіраць яшчэ варанай картоплі свінням, калі дзяўчына паявілася на парозе. У зялёнай кашаміравай хустцы, кароткім чорным паліто, яна далікатна прывіталася, чорнымі, нібы строгімі вачыма мелькам акінула пакой і людзей. Яўхім акурат адзяваўся, збіраўся ў гумно, перабіраць акалот, старая корпалася на печы — сушыла ігрушы.

— Я к вам ад школы,— сказала дзяўчына кволым, але цвёрдым голасам: і знаку не было якой няёмкасці ў чужой хаце,— ведама, гарадская, настаўніца.— Трэба сабраць весткі аб пісьменнасці.— Не ў першай, мабыць, хаце, яна як бы прачытала на памяць: — Трэба запісаць, хто з дарослых пісьменны, хто малапісьменны, хто зусім не ўмее чытаць і пісаць.

— А нашто ето? — панура запытаў Яўхім.

Яна, было відаць, чула ўжо не адзін раз такое пытанне, бачыла насцярожанасць,— цярпліва, стрымана і як бы строга сказала:

— Будзем знішчаць непісьменнасць не толькі сярод дзяцей, але і дарослых.— Дзяўчына між тым ішла ўжо, як у сваім доме, к сталу, звыкла разгортвала скручаны сшытак. Яна села, паклала сшытак на стол.— У вашым сяле будзе гурток лікбезу. Ліквідацыі непісьменнасці.

— Тады ето — не для мяне. Я ўжэ граматны,— сказаў Яўхім і падаўся з хаты.

Дзяўчыне адказваў за ўсіх Сцяпан, які толькі што прыйшоў з двара. Ганна стаяла, апусціўшы закасаныя да локцяў рукі з наліплай картопляй, старая з падазронасцю сачыла з печы. Глушачыха не таіла, што прыход гэты ёй не даспадобы, зіркала на дзяўчыну з падазрэннем, круцілася неспакойна: дзе ж гэта Халімон, каб бяды якой не натварылася.

Ганна была, як заўсёды апошнім часам, абыякавая, здавалася, чакала адно, калі ўсё гэта скончыцца. Нібы не змянілася нішто ў яе твары, у вобліку і тады, калі дзяўчына, згарнуўшы сшытак у трубку, падышла да яе, зычліва, па-сяброўску аб'явіла:

— А я вас пазнала!

Ганна кіўнула галавой так, што дзяўчыне падумалася: не помніць.

— У Юравічах, на рынку. Картоплю прадавалі вы. Забылі?

— Даўно було...

— Даўно. Вы тады замуж сабіраліся. А от ужо замужам. І не першы год...— Яна ўлавіла цень нездавальнення на Ганніным твары, весела загаварыла аб сабе: — А я от скончыла, настаўнічаю! Летась была ў Бярозаўцы, а цяпер от — у Глінішчах. Суседка, можна сказаць! Скора ж дык вельмі часта буду хадзіць да вас. Заняткі весці.— Яна па-сяброўску папрасіла: — Прыходзьце!..

— Відно будзе...

— Абавязкова!

Як знаёмай, па-гарадскому, паціснула Параска Ганне руку, заспяшалася на вуліцу.

Ледзь яна выйшла, старая ссунулася з печы, лісліва і з падазронасцю запытала, хто яна, гэтая дзеўка: хацела, пэўна, выведаць, адкуль і як знаёмая,— але Ганна знарок адвярнулася, узяла вёдры і панесла на двор.

Вось жа дзіва: калі настаўніца была ў хаце, так прыхільна гаманіла, Ганна бачыла яе нібы чужую, нібы холад, нядобрасць чула да яе, да прыязнасці вясёлай, да гаварлівасці,— аж спыніць хацелася гэтыя вясёласць, гаманлівасць; цяпер жа, калі гаворка тая сціхла, калі Параска сышла, нейкая неспакойнасць узяла Ганніну душу. Думкі так і ідуць да дзяўчыны. Ужо ж, можна лічыць, зусім забыла даўно яе, каб не сустрэча гэта, пэўна, век і не ўспомніла б больш, а вось увайшла дзяўчына неспадзёўкі, пагаманіла аб тым, аб сім, тое-сёе згадала — і адразу — адкуль толькі ўзялося! — як бы ажыў той даўні, сатлелы дзень, тая дарога ў Юравічы, і неадступная трывога, і пагляды-пошукі Прыпяці, і кірмаш — клопатнае мора людзей. І Яўхімаў дарунак — хустка: знайшла, дурная, чым цешыцца! — і яе, Парасчына, здзіўленне-папрок: хіба ж можна — не любячы?..

Глядзі, колькі той сустрэчы было, а пазнала яна! Як знаёмай, руку падала,— аж старая з печы ссунулася. Пра грушы ўраз забыла!.. У Куранях, кажа, часта будзе, прасіла, каб на заняткі прыходзіла... А чаму і не прыйсці? Прыйду,— як у хаце злосцю душыцца, на волі хоць пабуду!.. Здалёк хоць Васіля мо пабачу!

Хіба ж можна — не любячы — замуж ісці? — казала... Можна, не можна — ідуць... Ішлі і ідуць... І жывуць, не любячы... Не адна я, не двое-трое... Другіх мо хіба не так ядзяць... А толькі ў каго тая любоў? Жывуць хіба што дзецьмі цешачыся! Цягнуць кожны свой воз — нібы той любові і звання на свеце няма!.. Гарадская ты, па-гарадскому і свет бачыш. Думаеш, і тут усё, як у вас, дзе жанкі, як каровы гладкія, на выгодзе выгульваюцца! Пра якую любоў тут думаць, калі век, як у гнаі, у клопаце, у бядзе? Калі дня белага не бачыш...

Накарміўшы свіней, Ганна панесла думкі свае ў хату. Калі паставіла пустыя драўляныя вёдры каля парога, убачыла зноў

дзіць канец... Як старую, паганую хваробу, людзі ўсюды гоняць цемнату, бо з цемнатою лепшага, добрага жыцця не дабіцца!.. Не трэба думаць, што вучыцца павінны толькі дзеці, вучыцца павінны ўсе. Дзеці і старыя, мужчыны і жанкі... У Парасчыных губах раптам мільганула добрая ўсмешка: — І не думайце, што вучыцца — цяжка і нецікава! Не вельмі і багата клопату будзе вам! Затое колькі радасці дадуць вам кнігі, калі вы навучыцеся!..— Параска, твар якой цяпер свяціўся нейкай дзіцячай шчырасцю, хацела сказаць яшчэ штосьці, але перадумала, дастала з-пад роўнага стуса сшыткаў кніжку, разгарнула: — Я вам прачытаю некалькі вершаў.

Яна аб'явіла: — «Доля батрачкі!» Верш нашага беларускага паэта Якуба Коласа...— пастражэла зноў, засмуцілася. Ціхім, чулым голасам стала чытаць:

Маці ў службу выпраўляе
Родную дзяціну...
Выпраўляючы, хавае
Горкую слязіну...

— Будзь паслушная, дачушка,—
Навучае матка...
Дагаджай чужым ты, служка.
Ды — цярпі, дзіцятка...

У голасе Парасқі было столькі смутку, нібы гэта самую яе выпраўляла мілая, шчырая маці. Не чужая, а, здавалася, яе добрая маці бедавала з яе:

— Не адзін раз твае вочкі
Заплывуць слязою!
Твая доля цямней ночкі —
Цяжка быць слугою!
Бо не ўважыць чужаніца
Ручак тваіх белых!

Параска ледзь утрымлівала горкі подых:

Поту вык.ецца крыніца
З шчочак загарэлых!
Устанеш летам — раней зоркі,
Пойдзеш перша ў поле!..
Ой, дачушка, хлеб твой горкі!
Горка твая доля!..

Ціха-ціха стала ў Сарочынай хаце, хоць бы хто варухнуўся,— зажураныя, вачэй не зводзяць з настаўніцы. Вяртуха-гаспадыня і тая прыціхла, дзіўна маргае вачыма.

Вось дзяўчына ўжо гатова,
Пакідае хатку.
— Ну, матулька, будзь здарова! —
І цалуе матку...

— Чакаем, яшчэ як чакаем! — засмяялася Параска. Яна вясёлымі вачыма павяла па жанках, нібы звала іх у сведкі.

Ганне, чаго таіцца, даспадобы было, што Параска сустрэла яе, як сяброўку. Было даспадобы, што гэта ўсе бачылі, столькі куранёўскіх жанок: не першы і не другі раз з настаўніцай сышлася, знаёмая, прыяцелька аднекуль!

— Сядай от тут! — сказала ёй Параска, паказваючы на лаўку побач, каля скрыні, што была адсунута ад сцяны і таксама, відаць, павінна была служыць сталом.

Ганна села, азірнулася: тут, акрамя Сарокі, ужо былі Хадоська, якая знарок не глядзела на яе, бялявая Маруся, Грыбчыха, яшчэ некалькі жанок. Гаворка, перарваная Ганніным прыходам, стала зноў завязвацца: першая пачала Сарока, якая круцілася каля самага Парасчынага пляча. Загаманіла і Ганна з Марусяй...

Адна за адной падышло яшчэ жанок, недаверлівых, нясмелых, цікаўных, усхваляваных. Ганна пачула, як у твар кінулася гарачынь, калі ў хату ступіла павольная, важная Васілёва Маня; Ганна мімаволі непрыхільна падумала: «Як гуска тоўстая!..» Яна заўважыла, як нядобра сашчаміліся Маніны губы, як пацвярдзеў твар, калі тая ўбачыла яе,— знарок села, трымаючы важнасць, падалей ад Ганны.

Неўзабаве на двары паявіўся Міканор, які перад тым, як увайсці, доўга тупаў на ганку, абабіваў з ботаў гразь. Уваліўшыся ў хату, ён зняў шапку, далажыў Парасцы, як старэйшай:

— От, перdesigned усім! Усе — не сакрэт — знаюць!..

— У нас покуль што пачнецца, дзень цэлы мінецца! — адгукнулася Сарока.

Жанкі загаманілі, што трэба пачынаць — пакуль суд ды справа,— больш усё роўна не будзе. Параска і сама, відаць было, узрадавалася, што, нарэшце, можна пачаць: доўгія гэтыя зборы таксама былі не ў ахвоту. Весела папраўўшы густую чорную касу, якая прыгожым вянком ляжала на галаве, узяла яна сшытак, стала чытаць прозвішчы жанок, пытацца — ёсць ці няма, алоўкам штосьці адзначаць. Іншыя з жанок як бы не пазнавалі сваіх прозвішчаў, не звычайных, не тых, якімі звалі адна адну заўсёды: адгукваліся не адразу, няўпэўнена, а то і зусім маўчалі.

— Ето ж цябе пытаюць! — штурхнула маруду-Маню праворная Сарока.— Ты ж ето — Дзяцел Марыя!.. Е, тут! — сказала яна Парасцы і паясніла: — У нас яе завуць усе — Васілёва, бо чалавек яе — Васіль! І Алешнічка завуць, бо з Алешнікаў сама!..

У важнай і няпростай гэтай справе памагаў Парасцы і Міканор, які ўсё стаяў каля дзвярэй з шапкай у руцэ,— вадзіў вачыма па жанках, гаварыў, тут ці няма...

Калі Параска згарнула сшытак, поўныя, кароткія губы яе строга сабраліся, на твар легла задуменне. Ганна як бы ў першы раз угледзела, які белы ў яе лоб і твар увесь,— белая кофтачка яшчэ нібы павольшвае іх бледнасць. І як жа чарнее важкая каса, і як жа глыбока цямнеюць вялікія вочы!

Параска роўным, мяккім голасам сказала, што яна будзе вучыць чытаць і пісаць. Што царству дзікасці і цемнаты прыхо-

Годзе кіснуць, марнець,
Песні смутныя пець!
Ладзіць новую час гаспадарку!

Казкі новыя ў свет!
Дум палаючых цвет
Кінь, сялянка, з сястрой пралетаркай!

Услед за гэтым настаўніца палажыла кніжку і ўзяла другую. Разгарнула, паказала пальцам на знак:

— Гэта літара — А.— Яна павяла кніжкай так, каб усе пабачылі, паўтарыла: — А... А...

Яна напісала гэты знак яшчэ сама, на сшытку, яшчэ паказала ўсім і, спыніўшы позірк пастражэлых вачэй на Хадосьцы, запытала ўжо яе, якая літара. Хадоська ціха, паслухмяна адказала, і Параска кіўнула галавой, пацвердзіла: правільна! Выклікала яшчэ яна Грыбчыху, і Васілёву Маню, і іх запыталася, і іх падтрымала: правільна! Не тоячы, як яна давольна кемлівасцю жанок, настаўніца паказала яшчэ літару — М. Сарока, якой аж не сядзелася ад таго, што настаўніца нібы і не заўважае яе, выскачыла сама, сама паказала кемлівасць сваю!..

— Правільна! — пахваліла Параска і яе.

Яна спакайней сядзела цяпер, пакуль настаўніца пытала адну, другую пра тое, якая ўжо гэта літара. Толькі ківала галавою жанкам, як бы ўхваляла — добра, добра. Але калі настаўніца склала дзве гэтыя літары і атрымалася — АМ, вяртуха-Сарока зноў не ўтрывала:

— Глядзі ты! Ето ж у нас так малым кажуць: «ам, ам!» «Еж!» — значыцца!..

Ганна бачыла, што навука гэта не ўсіх так цікавіць, як цётку Сароку; Васілёва тоўстая гуска лыпае блеклымі вачыма, што, глядзі, вось-вось засне. Раз-пораз ускідвае галаву, як кура на седале. І Маруся побач нібы млее, і нешта ж дзіўна жмурыцца. Ну, вось жа, заплюшчылася зусім, звесіла кірпаты нос... Ганна штурхнула яе ў бок, і Маруся трывожна выраўнялася, глядзіць, момант яшчэ не разумеючы, што з ёю і дзе яна!..

Ганна ведае, Маруся ноччу спіць мала: малое не дае, будзіць кожную хвіліну; на золку ўставаць трэба, упраўляцца каля печы, свіней карміць. У сям'і ўсе жаночыя клопаты на ёй адной. Ганна сама выспалася не вельмі, але ёй цікава сачыць за Параскаю і яе не бярэ санлівасць: іншы раз толькі ўпаўзе якая нядобрая згадка — пра дачушку, пра Карчоў. «Ам-ам» — і яна ж казала беднëнькай сваёй!..

Потым Параска склала літары інакш — М-А-М-А — і выйшла мілае слова — мама! Слова, з якім заўсёды ў Ганны жыў успамін пра дарагую, без пары страчаную матулю, пра дачушку, ад якой не дачакалася гэтага слоўка!.. Ганна здзіўлялася, як сярод жанок былі абыякавыя, былі такія, што маглі драмаць!

Настаўніца, мабыць, і сама заўважыла, што цікавасць пачалаападаць, што жанок бярэ дрымота, і дазволіла трохі пагаманіць. Пакуль жанкі з палёгкай растарэквалі, яна брала са стуса на стале сшытак за сшыткам, надпісвала алоўкам; перапыніўшы гамонку, стала раздаваць кожнай па сшытку і па алоўку. Зага-

— Ну, бывай!..
І не ўтрывала
Бедная матуля!
Жаль слязамі ёй прарвала!
Твар да дочкі туліць!..

Ганне бачылася нябожчыца-маці, чулася — нібы гэта яна туліцца тварам, стаіць ля парога, глядзіць услед. Таму, можа, не здзівіла зусім, што тую батрачку таксама звалі — Ганулям...

Доўга матка так глядзела,
Дочку праважала.
Покі хустка яе бела
З вочак не прапала!..

Калі кончыла Параска чытаць, жаллівая журботнасць панавала ў хаце,— знаёмая, блізкая была тая дзявочая, матчына бяда! Амаль усе, як і дасюль, глядзелі на настаўніцу, чакалі яшчэ нечага — супакаення ці вестак пра тое, як там далей было бядачцы? Настаўніца ж памаўчала, нявесела стала гартаць яшчэ старонкі.

— Верш Якуба Коласа — «У школку»...

Зноў такім родным, блізкім павеяла, калі пачала чытаць: нібы ў Куранях было ўсё! Смольны корч на камінку, бацька лапці пляце, матка латае світку сыночку: заўтра малы Ігнацік пойдзе ў школку. Пільна слухалі, як бацька вучыў Ігнаціка:

— Будзь старанным, сынку,—
Станеш чалавекам.
Будзеш ты чытаць нам,
Цёмнікам, няўмекам —

Што ў кнігах пішуць,
Што мы ў свеце значым!..
Бо мы самі цёмны,
Свету мы не бачым!..

Грыбчыха, чуючы гэта, ківала галавой ды ўздыхала. Калі ж паслухала, як сынок абяцае бацьку не дурэць, старацца вучыцца, пахваліла:

— От, маладзец!.. Каб мае так!..

— І еты хто знае — што выкіне шчэ патом! — адгукнулася Сарока.

Жанкі загаманілі, заспрачаліся: адны хвалілі Ігнаціка, другія не вельмі верылі яму, большасць жа гаварылі пра сваіх школьнікаў. Сціхлі толькі тады, калі Параска пачала чытаць новы верш.

Гэта была казка-праўда пра дзвюх сясцёр, адна з якіх губіла сілы ў працы з вясны да восені, а другая марнела на фабрыцы, дзе дым выядаў дзявочыя вочы. Бяда сышла цяпер, для гаротніц-сясцёр наступіў новы час,— і Параска з радасцю, з запалам скончыла:

— Я цябе правяду! — аб'явіла знарок весела, па-прыяцельску.

Параска радасна бліснула чарнатой вачэй.

— От і добра!..— Яна азірнулася, сказала з усмешкай, што зараз павінен падысці адзін мужчына.

І праўда, толькі хвіліну памаўчалі яны, як гэты мужчына, стары чалавек у світцы, з кніжкай і сшыткамі, паявіўся за Сарокай на двары. Ганна здагадалася, што настаўнік ішоў ад другой, мужчынскай, групы.

Яны толькі рушылі з двара, як здагнаў Міканор. Упяцярых і падаліся сцежкай цераз агарод к гумнам, па загуменню. На загуменні Сарока, якая гаварыла амаль безупынку, схамянулася і подбегам кінулася назад. Ганна чакала, што і Міканор скора вернецца, але ён ішоў і ішоў ля Параскі з другога боку, быццам нейкая куранёўская варта. І звычайна няўклюдны, ён тут, каля Параскі, здаваўся яшчэ больш няўклюдным, вялізным.

*Т. Р. СТРОЕВА*

дала адгарнуць вокладку, паказала, як трэба трымаць аловак...

Усе з самымі стараннымі мінамі рабілі тое, што яна паказвала. Параска паглядзела на жанок, падышла да адной, да другой, папраўіла.

— Гэты палец от так трэба! — ласкава нахілілася яна над Ганнай.

— Тоненькі вельмі! Дзяржаць непрывычно!..

— Гэта — з першага разу толькі!

Васілёвай Мані папраўляў аловак Міканор, які даўно ўжо сядзеў на лаўцы. Яшчэ тады, як вучылі літары, глядзеў ён на жанок, пасміхваўся, быццам дарослы з дзяцей. Цяпер жа не ўтрываў, каб не пакпіць:

— Эх, грамацеі! Ето вам — не з граблямі!..

Ганна даўно чула дзіўную непрыхільнасць, што ён сядзіць, тырчыць тут невядома чаго,— не ўтрывала, адрэзала:

— Пайшоў бы ты, Міканор, за якую мужчынскую работу ўзяўся! Мо ж адны ўправімся!..

— Дак а калі не ўправіцеся? — паспрабаваў пажартаваць ён.

Але жанкі населі на яго неспадзеўкі так дружна, што пакляваны воспаю твар члена сельсавета ніякавата паружавеў. Хаваючы няёмкасць усмешкаю, далікатна ступаючы, Міканор праз які момант знік за дзвярыма...

Настаўніца дала важнае заданне — пісаць на паперы малыя палачкі наўскос зверху ўніз. Хадзіла вакол стала, вакол скрыні, схілялася каля жанок, папраўляла: ледзь не ў кожнай палачкі выходзілі крывыя; цётка Сарока сказала — «як п'яныя». Як п'яныя, хісталіся спачатку палачкі і ў Ганны, але за апошнія — Ганна аж заганарылася — Параска пахваліла. Так і сказала пры ўсіх:

— Добра, Ганна! Малайчына!..

Маруся, другія суседкі сталі глядзець у Ганнін сшытак, дзівіцца.

Усё ж, праўду кажучы, няпроста было з алоўкам. Не вельмі слухаўся ён, маленькі, слізкі; і — далікатны: толькі трошкі націснеш — крышыцца! Самаробны, скляпаны кавалём, Сарочын нож увесь час быў на руках, чарга была за ім — сядзі, пакуль дачакаешся!

— У другі раз штоб са сваімі нажамі прыходзілі! — жартам загадала Сарока.

Грыбчыха адказала ёй:

— Са сваімі то са сваімі! Толькі ж, мабуць, карандашоў на нас не набяруцца!

— Ето — праўда! — зарагатала Сарока.

Параска прайшла паўз стол і скрыню, паглядзела ў сшыткі, папраўіла ззаду над шыяй касу, папрасіла:

— А цяпер — сшыткі загарніце, аддайце мне! І алоўкі таксама! — Сабраўшы іх, яна сказала, як старэйшая, і з падзякай: — От, на першы раз і ўсё!

Калі жанкі, пажвавелыя, давольныя, сталі разыходзіцца, Ганна затрымалася, пачакала Параску. Выйшла на ганак услед за ёй.

# ЗМЕСТ

Иван Павлович Мележ
Собрание сочинений
в десяти томах

ТОМ 6

«Дыхание грозы»
*роман из «Полесской хроники»*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар П. З. Шаўцоў. Мастак Н. У. Сустава. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар Г. П. Тарасевіч. Карэктар К. А. Крукоўская.

ІБ № 1391

Здадзена ў набор 29.07.81. Падп. да друку 25.03.82. АТ 06526. Фармат 84×108$^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 30,24+0,42 укл. Ум. фарб.-адб. 30,66. Ул. выд.-арк. 32,44. Тыраж 52 000 экз. Зак. 1828. Цана 2 р. 20 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскае вытворчае паліграфічнае аб'яднанне імя Я. Коласа, 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

Мележ І.

М 47 Збор твораў. У 10-ці т. Т. 6. Подых навальніцы. Раман з «Палескай хронікі».— Мн.: Маст. літ., 1982.— 573 с., 4 л. іл.

У пер.: 2 р. 20 к.

У шосты том Збору твораў народнага пісьменніка Беларусі Івана Мележа ўваходзіць раман «Подых навальніцы» з цыкла «Палеская хроніка».

М $\frac{4702120200-066}{М\ 302(05)-82}$ падпіснае

ББК 84Бел7
Бел2